# Частка чацьвёртая

## Зыбка нашай культуры




Мал. 117.
Сучасныя шляхі стасункаў у Ягіпце і ў Аравіі.

# Глава I.

# Геаграфічныя, геалагічныя і метэаралагічныя асаблівасьці Ягіпта, як ключ да разумення яго значэння для першапачатковай культуры міжземнаморскага этнічнага басейна.



Мал. 118.
Бронзавая статуэтка Апіса.

На гарачай вымяршай раўніне даўно нерухомы ляжыць
У пясках ягіпецкай пустыні Гізехскі сфінкс каля пірамід.
Даўно жрацы яго і чараўнікі не збіраліся перад ім,
І прагне ён хаця б кроплі вільгаці, праменямі пякучымі палімы.
Чаму вучыў ён – усё забыта! Стагоддзі праходзяць чарадой,
І ў нетрах цьвёрдага кальцыту месьціцца горкіх думак рой.
Былая праўда – стала хлуснёй! І не прыйдзе ўжо ніколі
Да яго нямога падножжа за новымі ведамі чалавек.
Яго акультныя навукі зніклі ў змроку часоў,
І поўны гаркаты і мукі ўжо не верыць у праўду ён.
Але перад старажытнай статуяй удалечыні, мігаючы і гаручы,
Пад бляклым паўночным зззяннем блісnуў новы світанак.
На імгненне яго замоўкла пакута, ён удалечыню глядзіць, пад нябёсы,
І бачыць: новая навука здзяйсняе ў сьвеце цуды.
І вечнай праўды зноў ён просіць, спазнання смагаю тамімы,
Але толькі пясок адзін заносіць былую праўду разам з ім.

* * *

Перадусім пазначым, што найменне Ягіпет ніколі не было вядома жыхарам гэтай краіны. Яно ўпершыню з'яўляецца ў грэкаў у Адысеі і ў Страбона[1]. Некаторыя лічаць, што яно паходзіць ад наймення Мемфіса сядзібы бога Пта (Хака-Пта), другія, – што ад горада Коптас, ці Гуптас, адкуль паходзіць і сучаснае

[1] Адысея IV, 477; XIV, 257. Страбон XV, 1. § 16.

найменне прыродных ягіпцян – копты, і турэцкая назва даліны Нілу – Гіпт. А што азначае **копт**, пакідаецца згодна са звычаем гісторыкаў старажытнасьці невырашаным.

На біблейска-арабскай мове Ягіпет мае назву Міц-Рым (г.азн. Высокі Рым), із чаго навейшыя арабы вырабілі Мазр, асірыяне Муцур, а персы Мудрайх, але і гэтых найменняў карэнныя ягіпцяне не ведалі. Толькі фінікійская акруга ў дэльце Нілу называецца, ды і то толькі некалькі разоў, Та-Мацор, г.азн. Зямля ўмацаваная. Надпісы камянёў і пазнейшыя копцкія кнігі называюць яго Кем (ці Хемі), што азначае чарназём, із якога і складаецца там ворная зямля, у адрозненне ад суседніх краін, дзе гліна і пясок надаюць зямлі чырванаваты колер і якія мелі назву Тэшэр (чырвоная зямля). Ніякага іншага наймення, акрамя людзей чарназёму («Кемі»), ягіпцяне ў іерогліфах сабе не давалі, хаця часам і называлі паэтычна сваю краіну: зямля тынараў, зямля масліны, зямля сьвятога вока і г.д.

Згодна са сваімі геаграфічнымі ўмовамі даліне Ніжняга Ягіпта, без сумневаў, было накавана зрабіцца радзімай першапачатковай земляробчай культуры, а з ёю і навукі. Штогадовыя разводдзі глеістай вады Нілу у злучэнні з заходнімі вятрамі, нясучымі сюды пяшчаны пыл Лівійскай пустыні, стварылі тут глебу, не меўшую патрэбы ў аранні для пасеваў. А выдатныя сховішчы для старажытных невялікіх караблёў, вырабляемыя ўтокамі Нілу ў яго дэльце, павінны былі зрабіць Ніжні Ягіпет адным із галоўных месцаў марскога гандлю, як толькі вынаходніцтва кілявых караблёў стварыла магчымасць для працяглага берагавога плавання ў Яфу, Антыёхію, Грэцыю, ці ў Італію ўздоўж паўночнага берага Афрыкі.

Уся гэтая краіна падобна на вузкую стужку культурнай зямлі, пасярэдзіне якой цячэ Ніл.

Падглебавыя напластаванні Ягіпта належаць да трацічнага перыяду. Аравійскі хрыбет, аблямоўваючы яго на Ўсходзе, ці, хутчэй, Аравійскае пласкагор'е, стромка апускаецца да даліны Нілу, шырынёй ад 11 да 40 кіламетраў, а таксама і Лівійскі, больш палогі хрыбет, абмяжоўваючы даліну Нілу на захадзе, належаць да эацэнавых напластаванняў. Абодва яны ад Каіра да Севута складаюцца із нумулітавага вапняку; ад Севута да Эснэ – із шэрага і белага вапнякоў грубага ўладкавання, а ад Эсне ўгару, уздоўж берагоў Нілу, праз усю Нубію, ідзе дробназярністы крамяністы пяшчанік, часам змяшчаючы вокіслы жалеза. Праз яго папярочна прарэзваюцца паблізу Асуана вялізныя гранітныя масы» ідучыя перпендыкулярна плыні ракі да 50 кіламетраў шырынёй, часткова із пярэстага буйнакрупчатага, часткова із шэрага ці чорнага дробнакрупчатага граніту, служыўшага матэрыялам для шмат якіх статуй і саркафагаў. Каля горада Сіены існуе і ружовы, цялеснага колеру гатунак граніту, маючы назву сіеніт.

Такім чынам у гісторыі геалагічнага ўзнікнення Ягіпта існавала тры перыяды, выяўляемыя адрозненнямі петраграфічнага характару яго геалагічных напластаванняў.

Першая тэраса Аравійскіх гор пачынаецца паблізу Каіра і мае назву горы Макатама. Тут існавалі вялікія каменяломні старажытных ягіпцянаў у гарызантальных пластах сьветла-жоўтага глiністага вапняку са шматлікімі закамянеласьцямі малюскаў, ракавінавых жывёл і зорыстых. Гэта былі берагі міяцэнавага мора, размяшчаўшагася на паўночным усходзе і пакінуўшага на сваіх берагавых тэрасах гарызантальныя выбаіны былых хваль. На дно гэтага мора адклаўся чырвона-карычневы моцны крамяністы пяшчанік, даўшы найменне

Чырвоным горам (Джэбсль-Ахмар) і залягаючы ў накірунку да паўночнага ўсходу ад Макатама.

Такое ж міяцэнавае мора, пазначанае берагавымі тэрасамі на Лівійскіх горах на захад ад Нілу, утварыла сваім дном і сучасную Лівійскую пустыню з яе пяскамі, ўяўляючымі сабой вынік больш пазніх адкладанняў тагачаснага марскога дна.



Мал. 119.
Надмагільныя храмы мамелюкскіх султанаў і Ягіпце.



Мал. 120.

Сучасная ягіпцянка-фелашка са жбаном вады. Згодна з Гнедзічам: «Гісторыя мастацтваў».

Вялізны гізехскі сфінкс на захад ад Каіра, высечаны із суцэльнага вапняковага масіву, уяўляе тыя ж гарызантальныя напластаванні, як і горы Макатама, а яны цягнуцца, не перарываючыся, уздоўж Нілу ў Нубію да другіх вадаспадаў, пры гэтым каля Фіваў у верхніх пластах мяккага пяшчаністага грубага вапняку уключаны больш цьвёрдыя пласты дробназярністага кальцыту, із якога выраблена значная частка старажытна-ягіпецкіх статуй.

Тут часта скалы і асобныя камяні як бы абцягнуты бліскучай цёмнай карой вокіслаў жалеза, якія робяць іх падобнымі на кавалкі лавы, але, разбіўшы іх молатам, вы заўсёды пабачыце, што іхнае нутро вельмі рыхлае і распадаецца ў парашок.

Такой з’яўляецца даліна Ніла, на ўсход ад якой, удалечыні, каля самага берага Чырвонага мора, цягнецца яшчэ адзін высокі гранітны і гнейсавы горны хрыбет, да паўтары тысячы метраў вышынёй, прарэзаны шматлікімі папярочнымі далінамі», у паўночных частках якога знаходзілі золата і смарагд, і дзе існавалі, акрамя таго, і алебастравыя каменяломні.

Жалезных ці іншых важных у прамысловым дачыненні руд мы не знаходзім каля даліны Нілу. Толькі на Сінаі, – паведамляюць нам, – распрацоўваліся не вельмі каштоўныя медзяныя рудні.

* * *

Мы толькі што далі глебавую характарыстыку даліны Нілу. Якім жа было яе насельніцтва?

Яно і зараз захавала тыя ж рысы твару і нават звычаі, якія, згодна са сведчаннем помнікаў і паданнямі класічных пісьменнікаў, харэктарызавалі яго пад час эпохі будавання пірамід. Уладкаванне чэрапа і прапорцыі частак цела шматлікіх дасьледаваных у гэтым дачыненні мумій сведчаць пра сваяцтва муміфікаваных з **еўрапейскімі плямёнамі**. Верагодна муміі не былі ні

чыстакроўнымі арабамі, ні чыстакроўнымі грэкамі, але **падобнымі на еўрапейцаў**, а карані і складовыя часткі ягіпецкай мовы помнікаў паказваюць на такую цесную сувязь з арабскімі і індаеўрапейскімі мовамі, што немагчыма адмаўляць не толькі сваяцтва культуры, але і блізкія стасункі, працягваўшыяся паміж гэтымі народамі безперапынна на працягу ўсяго іерагліфічнага перыяду ягіпецкай гісторыі. Такой з’яўляецца думка ўсіх антраполагаў, якія вывучалі гэты прадмет.

Ягіпецкія мошчы (муміі). Злева труна адчынена і ў ёй – высушаны абвіты труп. Направа гэтая ж труна зачыненая драўлянай накрыўкай, маючай падабенства з муміяй.

На захад ад ягіпцянаў жылі тады, як і зараз, лівійцы (Ліву ці Рібу іерогліфаў) па паўночным беразе Афрыкі. Яшчэ ў часы пабудовы пірамід асобныя згуртаванні із гэтага народа – мужчыны, жанчыны і дзеці – прыходзілі ў Ягіпет бавіць насельніцтва скокамі, кулачнымі змаганнямі і гімнастычнымі практыкаваннямі, як хадзілі яшчэ ў XIX стагоддзі маграбіны. Лівійды маляваліся на сьценах магільняў, таго часу са сьветла-карычневай скурай, а потым у часы Рамэсідаў пад гэтым імем маляваліся людзі з белай скурай, блакітнымі вачамі і бялявымі ці рудымі валасамі, якія былі відавочна прыхаднямі із Яўропы.

Суседзі на поўдні ў іерогліфах мелі назву **яхазу** і маляваліся з цёмна-карычневай скурай і лёгка пазнаваемымі тварамі неграў, амаль без адзення, як і зараз. А другі із паўднёвых народаў меў назву Кал (ці Кар – таму што ягіпцяне блыталі гукі “**р**” і “**л**”) і ўяўляў сучасных галасаў унутранай Афрыкі.

За Суэцкім перасмыкам, на ўсход і на поўнач жылі народы **аму**, што на біблейска-арабскай мове азначае проста народ, і яны лічыліся паганцамі. Да іх належалі халы (ці хары, г.азн. халдэі), лутэны (ці рутэны, г.азн. лаціны ў сэнсе элінаў) і хеты, найменне якіх нагадвае готаў, заходзіўшымі згодна з гістарычнымі паведамленнямі із Яўропы ў Сірыю.

Усё насельніцтва «Ягіпецкай» імперыі, якую было б памылкова абмяжоўваць адным Ягіптам, падзялялася на самастойныя дзяржавы меўшыя назву Хе-Сэп ці Таш, а па-грэцку номы г.азн. краіны. Сталіца кожнай краіны мела свайго бога-апекуна.

Іхныя князі час-ад-часу ваявалі адзін з адным, і пераможца набываў тытул суцін-шэф (султан-шах), г.азн. імператар усіх.

Насельніцтва Ягіпецкай, ці як яе завуць у Бібліі Міц-Рымскай імперыі, мяркуючы па малюнках, вызначася весялосьцю.

Спевы і скокі, поўныя кубкі і вясёлыя вандроўкі на зялёныя сенажаці і ў трысняговыя зараснікі, паляванне з лукам і стрэламі ці з драўлянай прашчой, рыбальства з вудай ці васьцямі служылі адпачынкам для заможных і шляхетных. «Натоўп» жа – як называецца просты народ у надпісах – займаўся земляробствам жывёлагадоўляй, рыбальствам, садаводствам і рознымі рамёствамі.

Пяройдзем зараз да галоўнай асаблівасьці Ягіпта: разводдзям Нілу (па-ягіпецку рэчкі Яро).

Зірніце толькі па мапу (стар. 630).



Мал. 122.
Самум у Сахары.

Амаль каля самога экватара размешчаны вялізныя азёры Вікторыя-Ніанца і іншыя, із якіх пачынаецца Ніл, а на поўнач ад іх размешчаны вялізныя трапічныя вобласьці Бары, Дор, Сенаар, Кардафан – усе прарэзаныя шматлікімі рэкамі, перапаўняючыміся вадой ад красавіцкіх, травеньскіх, чэрвеньскіх і ліпеньскіх трапічных праліўных дажджоў. І ўсё гэтае мора раўнамерна апусьціўшайся із хмар вады павольна сходзіцца на працягу ўсяго лета да месца зліцця Блакітнага і Белага Нілу і амаль раптоўна выліваецца ў Міжземнае мора з хуткасьцю да двух метраў за секунду праз адзінае рэчышча каля тысячы кіламетраў даўжынёй.

Дзякуючы даўжыні ракі ўзровень вады ў Мемфісе паніжаецца нават яшчэ і ў сярэдзіне чэрвеня, і толькі пад канец ліпеня напор прыліву, падняўшыся амаль на 4 метры над самым нізкім чэрвеньскім узроўнем, выступае із берагоў і да 10 жніўня, дасягнуўшы 6 метраў вышыні, запаўняе краіну. Гэтая паводка працякае з вялікай хуткасьцю, пры гэтым Ніл нясе з сабой із паўднёвых краін вялізную масу чырвонай мергелевай каламуці, якая ўліваецца там у яго незлічонымі ручаямі падчас іхных разводдзяў.



Мал. 123.
Вялікія піраміды.

Першапачатковыя берагі Нілу ўвесь час паднімаліся гэтымі наносамі, узровень першапачатковай глыбокай даліны нівеляваўся, і таму разводдзі з кожным стагоддзем рабіліся ўсё шырэйшымі і шырэйшымі, да таго, што да пачатку нашай эры і пад час сярэдневечча вада пачала разлівацца аж да эацэнавых вапняковых гор, абмяжоўваючых з абодвух бакоў даліну Ніла, падымаючыся ў верасні на 6 метраў вышэй самага нізкага чэрвеньскага ўзроўня.



Мал. 124.
Выгляд Нілу пад тропікамі.

Такім чынам, разводдзі Ніла ў Ягіпце пачынаюцца грунтуючыся на рыгарыянскім календары, зараз як і раней, пад канец ліпеня і працягваюцца ўвесь жнівень. Пад час рыгарыянскага верасня, калі Сонца пад час першых стагоддзяў

нашай эры праходзіла сузор'е Панны, вада ўсё яшчэ стаяла на высокім уроўні. Ад гэтага сьвятога месяца ягіпцяне і пачыналі свой год, і мы зараз можам зразумець, адкуль прыйшоў на візантыйскі Ўсход звычай лічыць год пачынаючы з верасня, ад восеньскага раўнадзенства, тады як раней і ў Азіі, і ў Яўропе год пачынаўся з вясны. Толькі ў кастрычніку – пры былым праходжанні Сонцам праз сузор'е Шаляў, калі Панна выходзіла із прамянёў ранішняга світання, вада Нілу пачынала павольна памяншацца. Пад час рыгарыянскага лістапада яна была як пад час старажытнасьці, так і зараз, ужо роўнай з берагамі, за якімі заставаліся шматлікія лагуны, таму што штогадовыя наносы глею бліжэй да рэчышча натуральна паднімалі самы блізкі ўзровень нават некалькі вышэй, чым аддаленыя мясцовасьці разломаў, і выклікалі гэтым разгалінаванне рэчышча ў Дэльце. Пры нізкім узроўні вада Нілу заўсёды была вельмі чыстай і празрыстай, а пры паводках рабілася спачатку бруднаватай, а потым чырвонай.



Мал. 125.
Берагі Нілу пры заходзе сонца.

Амаль тры месяца – жнівень, верасень і кастрычнік – уся краіна знаходзіцца пад вадой, і ўсе значныя прыбярэжныя гарады, пабудаваныя на ўзвышэннях, маюць выгляд шэрагу выспаў, злучаных вузкімі плацінамі, тады як цэлае мора цагляна-чырвонага колеру распасьціраецца з абодвух бакоў, аж да жоўтых гор на ўсход і захад, і на яго абшары сядзібы невялікіх паселішчаў стаяць у вадзе па другія паверхі, і тысячы лодак плаваюць паміж імі.

Амаль ніводная бруя разліўшайся вады не вяртаецца назад у рэчышча Нілу, яна ўся выпараецца ў сухую атмасферу, ці паглынаецца глебай, таму што звычайныя берагі Нілу, як мы казалі, зрабіліся ад яго разводдзяў нават больш высокімі за аддаленыя часткі даліны.

Калі паверхня Ягіпта высыхае ў лістападзе, яна ўяўляе сабой вельмі арыгінальны выгляд. Мільёны жаб, лягушак, яшчарак і маленькіх змеяў баўтаюцца ў ёй тут і там, а ў лагунах застаецца столькі markoзнай рыбы, што жыхары не ў стане яе з'есьці. Буслы і ібісы блукаюць паўсюдна па глею, але і яны не ў стане ўсё з’есьці. Масы водных жывёл, прынесеных плынню, гніюць і напаўняюць паветра міязмамі. Незлічоныя мошкі, камары і мухі падымаюцца із прасыхаючых балот і, нападаючы па людзей і на быдла, разносяць мікробныя хваробы.



Мал. 126.
Парогі на Ніле вышэй Асуана.

Дзякуючы размнажэнню мікробаў часам, хаця і не часта, развіваюцца падзёж быдла і эпідэмічныя хваробы, асабліва хвароба, вядомая пад найменнем слановай праказы, ці элефантыязіса, суправаджаемая нарывамі і большай часткай сьмерцю.

У Верхнім Ягіпце дажджы бываюць вельмі рэдка: адзін раз гадоў на 10 ці 20, але ў Ніжнім яны не такія рэдкія, і ў лютым часам здараюцца, хаця і не кожны год, моцныя градабоі, ад якіх пакутуюць зацвітаючыя у гэты час ячмень і лён.



Мал. 127.
Ангельская факторыя Ладо на экватарным Ніле.

Грунтуючыся на шэрагу назіранняў прыйшлі да высновы, што застаючыся ад паводак глей паднімае глебу блізкіх да яе мясьцін Ягіпта на 1 цалю за 20 гадоў, і гэта дае цікавы спосаб праверыць старажытнасьць яго пабудоваў.

Так у паселішчы Карнак, якое лічыцца разам з трыма іншымі, пабудаванымі на месцы зніксшых без следу стабрамных ягіпецкіх Фіваў, бачны пабітыя коласы, пастаменты якіх у 1862 годзе былі, згодна са сведчаннем Опеля, пагружанымі ў сухі глей на 72 цалі. Памножыўшы 72 на 20, атрымліваем 1440 гадоў, і, адняўшы гэта ад 1862 года, атрымліваем 422 год нашай эры[2], г.зн. V стагоддзе, як я і вылічыў астранамічна некаторыя помнікі Ягіпта. Тут сходзяцца адна з адной астраномія і геафізіка, не сходзяцца толькі нашы гістарычныя аперцэпцыі...



[2] Опель: Дзівы старажытнай краіны пірамід. Пераклад з нямецкай Н. Страхава. 1868 г.

Мал. 128.
Гізехскі сфінкс пасьля раскопаў.

У гэтай мясцовасьці можна адкапаць і парэшткі плаціны пад такім жа пластом глею, і такім чынам таго ж часу. Але Опеля прывяло ў здзіўленне тое, што пад плацінай яшчэ выявілася насыпаная тэраса із каменных адломкаў з парэшткамі барэльефаў, з аскепкамі шкла і фарфору, паглыбленая ў глыбейшы глей на 3 сажані. Лічачы, што яна была не ўкапана ў глей, як падмурак для плаціны, ён вылічыў, што гэты насып быў пабудаваны за 6480 гадоў да яго часу, г.азн. каля мінус 4620 года, і што да таго часу патрэбна дапасаваць і пабудову зніклых зараз, ці дакладней праваліўшыхся пад зямлю ў апраметную, стабрамавых Фіваў.

Аднак гэта вельмі і вельмі наіўна... Хто ж пачаў бы будаваць берагавую плаціну проста на глеі? Яна ж імгненна была б падмыта першым жа разводдзем і павалілася б у ваду. Ніводны сур'ёзны дойлід, не толькі сучасны, але і ў V стагоддзі нашай эры, не стаў бы рабіць нічога падобнага. Нават жа і ў Евангеллях паведамляецца пра легкадумства будавання сядзібы непасрэдна на пяску. Відавочна, што і тут раней пабудовы плаціны быў пркапаны ва ўжо меўшымся глеі роў роўны 3 сажані глыбінёй і засыпаны адломкамі да ўзроўня глебы. На гэтым цьвёрдым падмурку, а не на глеі, і была потым пабудавана берагавая плаціна, здольная супрацьстаяць шмат гадоў магутнаму напору нільскай вады падчас яе разводдзя. Дадзены выпадак даводзіць толькі адваротнае таму, што выводзіць із яго Опель.



Мал. 129.
Пяшчаныя дзюны ў Сахары.

У лютым, як я ўжо паведамляў, каласуе ячмень і дае галоўкі лён, а пшаніца і полба паспяваюць пазьней, пад час рыгарыянскага сакавіка-красавіка, калі апоўначы пад час сярэдневечча кульмінавала сузор'е Панны з зоркай Коласам у руцэ.

Мы бачым адсюль, што сама прырода прыстасавала даліну Нілу да таго, каб яна стала зыбкай земляробства ў краінах міжземнаморскага этнічнага басейна яшчэ ў такі час, калі не былі вынайдзены земляробчыя прылады.

Але земляробства з'яўляецца падставай першабытнай культуры чалавецтва, тым момантам, калі яго жыццё пачынае радыкальна адрозніваецца ад жыцця вышэйшых малпаў і ўсіх астатніх жывёл. І цалкам натуральна, што тут, а не ў стэпах у асяроддзі вандруючых і таму прынцыпова не могучых мець школы пастухоў упершыню з'явілася і навука, і – як яе падмурак – пісьмовасць.

Набліжэнне разводдзяў Нілу, маючых такое важнае значэнне для ягіпецкага землярobства, пачало прадказвацца грунтуючыся на з'яўленні зоркі Сотыса із прамянёў ранішняга світання, і астраномы нашага часу выказваюць здагадку, што такую назву меў Сірыус. Аднак магчыма, што пад Сатысам патрэбна разумець «Цара зорак» – Регула, і тады яго з'яўленне із-за Сонца было каля 23 жніўня юліянскага злічэння ў XIX стагоддзі, каля 11 жніўня ў 500 годзе і каля 7 жніўня напачатку нашай эры, а імя аўгуст паходзіць цалкам не ад імператара Актавіяна-Аўгуста, а проста азначае «сьвяты месяц».

Гэта азначае, што і «сьвяты месяц Тот» ягіпцянаў быў таго ж перыяду часу, калі святкаваўся ў іх Новы год, і быў не месяцовы – рухомы ў значных межах месяц нават і пры сучасным жыдоўскім календары, – а зорна-сонечны, г.азн. юліянскі, уяўляўшы сабой першае набліжэнне да зорнага года, ды і то здольнае трымацца толькі два-тры стагоддзі, а не цэлыя тысячагоддзі.

Пра тое, што існаваў год роўны 360 дням адпаведна колькасьці градусаў акружнасьці не можа быць і гаворкі, калі толькі мы будзем вызначаць яго пачатак з'яўленнямі Сірыуса із-за Сонца. Ужо праз два-тры гады гэтую зорку пабачылі б у патрэбны час яшчэ на захадзе ад Сонца вечарам, а не раніцай на ўсходзе.

Із гэтага нават зразумела, што ягіпецкі каляндар, пачынаючыся месяцам Тотам, быў каляндаром кліматычным, падобным на юліянскі роўны $365^1/_4$ дзён, таму што, калі б у яго не было дробавага дадатку роўнага $^1/_4$ дня, то ужо праз пяцьдзясят гадоў усе сьвяты ссунуліся б на два тыдні і давялося б рабіць гэтую самую папраўку. А ягіпецкія камяні сведчаць нам цалкам вызначана, што Сотыс выходзіў раніцай із праменяў Сонца пад час І дня Тота. Вось, напрыклад, урывак календара, выразаны на сьцяне храма Амона ў Медынэт Абу, на сьвятой гары нябожчыкаў, згодна з Бругшам:

| | | |
|---|---|---|
| 1-е | Тота. | Выходжанне Сотыса (Сірыуса ці Рэгула). |
| | Тота. | Ахвяра Амону. |
| 17-е | Тота. | Сьвята Уага |
| 18-е | Тота. | Сьвята Уага (разліванне Ніла). |
| 19-е | Тота. | Сьвята Тута (Гермеса). |
| 22-е | Тота. | Сьвята вялікага з'яўлення Азірыса. |
| 17-е | Паофі. | Перад сьвята Амона ў Апі. |
| 19-23-е | Паофі. | Першыя пяць дзён сьвята Амона ў Апі. |
| 12-е | Атыра. | (Апошні) дзень сьвятаў у Апі. |
| 17-е | Атыра. | Асобнае сьвята пасьля вялікага сьвята ў Апі. |
| 1-е | Хайака. | Сьвята багіні Атор (Гатор). |
| 20-е | Хайака. | Ахвяраванне. |
| 21-е | Хайака. | Адкрыццё грабнічнай палаты Азірыса, (адпавядае вынасу плашчаніцы ў хрысьціянаў). |
| 22-е | Хайака. | Сьвята пачатку разбіцця зямлі (землярobства). |
| 23-е | Хайака. | Гатаванне ахвярніка перад магільняй (Азірыса, г.азн. Iesus-Rex'а). |
| 24-е | Хайака. | Пастаўленне (муміі) Сакара (г.азн. Азірыса-сьвятога) пасярэдзіне ахвяраванняў. |
| 25-е | Хайака. | Сьвята засмучанай багіні. |
| 26-е | Хайака. | Сьвята Сакара (Азірыса). |
| 27-е | Хайака. | Сьвята Бацькі пальмаў. |

| | | |
|---|---|---|
| 28-е | Хайака. | Сьвята пастаноўкі абеліска. |
| 30-е | Хайака. | Сьвята пастаноўкі выявы Дзіда. |
| 1-е | Тыбі. | Сьвята ўшанавання Гора (і самога Рамзэса-цара-месіі). |
| | | Зімовае сонцастаянне, час праходжання Сонца над Паўднёвым Вянком у снежні. |
| 6-е | Тыбі. | Новае сьвята Амона, заснаваны Рамзэсам III. |
| 22-е | Тыбі. | Сьвята Херы. |
| 29-е | Тыбі. | Дзень аднаўлення пашы. |
| Заканчэнне згублена | | |

Зразумела, што і сам гэты надпіс не мог быць выразаны на храме Амона ў Медынэт-Абу раней усталявання юліянскага календара, замацаваўшага на некалькі соцень гадоў кліматычны год.

Але пра ягіпецкі каляндар я буду выказвацца асобна ў сёмым томе, а зараз толькі пазначу, што ягіпецкі першапачатковы іерагліфічны каляндар быў не месяцовым, як лічылася, а сонечным, таму што выкліканы патрэбамі земляробства.



Мал. 130.
Рэстаўрацыя ягіпецкага храма-акадэміі. Уяўляемы выгляд з вышыні птушынага палёту (згодна з Гнедзічам).

Калі будзем выказваць здагадкі пра мінулае Ягіпта грунтуючыся на яго сучасным стане, то мы павінны браць да ўвагі, што прыдатнай да апрацоўкі зямлі ў ім толькі каля 30 000 квадратных кіламетраў, што адпавядае квадратнаму пляцу роўнаму толькі 170 кіламетрам даўжыні і столькі ж шырыні, але земляробства дае там тры жнівы на год, пры гэтым сеюцца пшаніца, маіс, дурра, ячмень і асабліва рыс. Баваўняная папера, ружовае масла, трысняговы цукар, індыга, масьліны і іншыя паўднёвыя плады складаюць таксама значную частку сучаснага нам вывазу із яго. Із мінералаў там здабываюцца толькі нафта, сера і нашатыр, ды і то ў невялікай колькасьці. Яго асноўнае насельніцтва складаецца із фелахаў, г.азн. земляробаў арабскага тыпу і мовы, якія лічацца за сумесь старажытных насельнікаў краіны, з новымі перасяленцамі. Іхны тып заўважальна адрозніваецца ад тых, якіх

зараз знаходзяць у муміфікаваным стане і якія складалі там пануючую частку насельніцтва еўрапейскага тыпу.



Мал. 131.
Розныя фазы збору вінаграду ў іерагліфічным Ягіпце і прыгатаванне із яго віна (сценапіс).

Да вынаходства вырабу жалеза ў Яўропе Ягіпет павінен быў быць першым сховішчам культуры, як земляробчай, так і гандлёвай (дзякуючы цукроваму трыснягу і іншым вывозімым расьлінным прадуктам) і сховішчам разумовай культуры, дзякуючы назапашванню ў гэтай краіне дададковых каштоўнасьцей і

адпавядаючай ім шматлікасьці матэрыяльна забяспечаных людзей і, акрамя таго, дзякуючы наяўнасьці ў краіне папірусу, як найбольш зручнага ў старажытнасьці пісьмовага матэрыялу.

Але з часу вынаходніцтва спосабу крычнага выплаўлення жалеза і молатабойнага вырабніцтва жалезных прылад, зрабіўшых магчымым апрацоўку звычайных зямель, стала непазбежным узнікненне ў Яўропе і Азіі яшчэ больш высокай земляробчай культуры, а з ёю і заможных, вольных ад ручной працы, людзей. І вось, дзякуючы ўжыванню жалеза для вайсковых мэт, Ягіпет, не меўшы ў сябе жалезных руд, непазбежна павінен быў падпасьці пад уладу народаў Паўднёвай Яўропы, краіны якіх мелі запасы гэтага рэчыва. Ды і яго папірусная літаратура не магла забяспечыць сабе матэрыяльнае першынство, пасьля таго як была вынайдзена ў сярэдзіне сярэдневечча анучкавая папера, папярэдніца нашай сучаснай, драўлянай.

Адсюль мы бачым, што ні геаграфічныя, ні метэаралагічныя, ні глебавыя ўмовы Ягіпта не толькі не супярэчаць ідэі пра тое, што ён быў праўдзівай зыбкай культуры ўсіх народаў Міжземнаморскага этнічнага басейна, але прама паказваюць на непазбежнасць гэтага.

Паглядзім жа зараз без якой бы то ні было прадузятасьці і на першакрыніцы нашых сучасных ведаў пра самы старажытны перыяд яго гісторыі, і перадусім на некаторыя із тых першарадных, якія даюць нам магчымасць хуткага і праўдзівага вызначэння іхнага часу. Немагчымасць павялічыць аб'ём гэтага тома да бясконцасьці, не дазваляе мне прывесьці тут усе маючыяся ў мяне матэрыялы, але я спадзяюся апублікаваць яшчэ некаторыя ў наступным томе ў сувязі з клінапіснымі дакументамі.

# Глава II.

## Дэндэрскія храмы як помнікі ягіпецкага мастацтва VI стагоддзя нашай эры.

Астранамічнае датаванне: доўгі Задыяк дэндэрскага храма – 6 траўня 540 года; круглы Задыяк – 15 сакавіка 568 года, г.азн. абодва зроблены пад час валадарання Юстыніяна візантыйскага і ягіпецкага тэакратычнага імператара (527-565 гг.).
Із вылічальнага сшытка.

Дендеры – гэта невялікае мястэчка ў Ягіпце, на поўнач ад Фіваў, каля берага Нілу, у якім налічваецца каля 9-10 тысяч жыхароў.

Паблізу ад яго знаходзяцца парэштці старажытнага, разбуранага горада Тэнтырыса, з парэшткамі пышнага згодна з тым часам храма, на столі якога на прыканцы XVIII стагоддзя яшчэ існавалі два добра захаўшыяся скульптурныя ўпрыгожванні. Першае, столевае, носіць назву Круглага задыяка (мал. 133, стар. 664) і перанесены ў Парыж падчас ягіпецкай экспедыцыі Напалеона I, а другое, у передхрам'і, таксама вывезенае ў Яўропу, носіць назву Чатырохкутнага задыяка (мал. 135, стар. 672). З гэтай нагоды было напісана не мала дасьледаванняў, прытым горад Тынтырысператварыўся ў Дэндэры.

Першыя ягіптолагі дапасавалі дэндэрскі храм да перыяду за пятнаццаць (!!) тысяч гадоў да пачатку нашай эры; іхныя дзеці – за тры тысячы, а іхныя ўнукі прызналі, што Чатырохкутны задыяк дапасуецца да часу валадарання Тыверыя (14-

36 гг. нашай эры), а Круглы задыяк больш пазьні – да часу валадарання Нярона (да 69 г.). Калі ж паспрабавалі выкарыстаць астранамічныя вылічэнні для падцверджання ўсіх гэтых дат, то яны далі адмоўныя вынікі.

Паслядоўныя працы Дзюпюі, Лапласа, Фур'е, Летрона, Хольма, Біо і іншых больш пазьніх навукоўцаў паказалі, што намаляванай на іх планетнай канстэляцыі не існавала аж да III стагоддзя нашай эры. Паўстала неабходнасць выбраць адно із двух: ці валадаранне рымскіх імператараў дапасаваць да іншых стагоддзяў і да іншага месца, ці прызнаць, што намаляваныя тут гараскопы – чыстая фантазія. Ягіптолагі, не жадаючы адступіцца ад традыцыі, выбралі апошняе, нягледзячы на тое, што праўдзівасць абодвух гараскопаў б'е ў вочы, як толькі мы выключым з іх уступныя рэлігійныя працэсіі, да якіх належаць, напрыклад, наступныя:

## А. Тры дадатковыя выявы на Круглым задыяку:

1) У цэнтры каля нябеснага полюса, пасярэдзіне задыякальнага кола, намалявана ахвяраванне бычынай нагі Авену (седзячаму на ёй). 2) У вольным прамежку, паміж полюсам неба і далёка размешчанымі ад яго сузор'ямі (ад Скарпіёна да Рыб), ідзе нейкая ахвяравальная працэсія ў гонар нейкаму бажышчу-малпачцы, седзячаму на чалавеку, плывучаму ў лодцы. 3) У другім вольным прамежку, паміж гарызонтам і высока размешчанымі сузор'ямі, намалявана другая вялікая працэсія па-за задыякальным падарожнікам з кіем (г.азн. каметы), ідучая ад Скарпіёна да Цяляці, у якой бяруць удзел: Скіпетр, Ізіда, Стралок, жанчына з урнамі, жанчына з дзіцём, Сатурн з касой, Леў і пазначальнік шляху з надпісам (азначаючым пераход праз экватар) і шакал (мал. 133, стар. 664).



Замалёўка Круглага задыяка



Б. Дададковыя фігуры на Доўгім задыяку.



1) На верхнім левым канцы, паміж 190 і 220 днямі года, намалявана працэсія, у якой пададзены Юпітар з бычынай галавой і рагамі быка, і за ім плывучы на гусаку Марс. Іхны служка нясе ў ахвяру антылопу, за якой вынікае нейкі абезгалоўлены чалавек. Гэта таксама не мае дачынення да астралогіі, таму што над іхнымі галовамі няма зоркі. Гэта мае асобны! сэнс – нейкае пакаранне сьмерцю (мал. 135, стар. 673).

Усе астатнія фігуры з кіямі ўяўляюць сабой планеты і сузор'і, і частку іх адразу можна вызначыць так:

У сузор'і Рыб, бліжэй да Вадаліва, намаляваны, напрыклад, на чатырохкутным Задыяку самотны чалавек з кіем (прыкмета планеты) і з галавой

сокала, і перад яго галавой напісана (згодна з Бругшам) Hor-Tos – чырвоная планета (інакш Гор-Тэзэр, ці Гор-Тэшэр), г.азн. Марс.

У тым жа сузор'і Рыб, але правей, бліжэй да Авена, намаляваны чалавек з сакалінай галавой і з кіем, але ў шыкоўнай тыяры, і перад яго галовай надпіс Hor-Apis-Seta г.азн. планета Юпітар (тое ж мал. 135, стар. 673).

У Авене намаляваны падарожнік у першасьвятарскім галаўным уборы і з кіем – прыкметай планеты. Грунтуючыся на падвойнай галаве – з арліным і чалавечым тварам, яго можна б палічыць за Меркурый, выглядаючы із-за Сонца то з таго, то з другога боку, але згодна з Бругшам тут існуе надпіс Pnouter-Ti (бог ці багіня раніцы), і таму ён прызнае гэту фігуру за Венеру. Аднак у яго здагадцы можна і ўсумніцца. Каля гэтай фігуры, направа, зроблена выява ранішняга і вечаровага зарыва, у выглядзе двух зросшыхся спінамі звяркоў. Над імі, г.азн. над барвяніцамі, дзьве дзяўчыны з кіямі, адна з тварам чалавека, другая з тварам сабакі: гэта і павінна быць падвойная выява Венеры, як ранішняй і як вечаровай зоркі. Але абое тлумачэнні не перамяняюць вынікаў нашага вылічэння, таму што гэтыя выявы знаходзяцца ў адным і тым жа сузор'і.

Паміж Шалямі і Скарпіёнам намаляваны поўны Месяц у выглядзе кружка, у якім стаіць дзяўчына з кіем. Гэта азначае – была травеньская поўня.

Не менш зразумела пазначаны і ўсе іншыя планеты і сузор'і не толькі на Чатырохкутным, але і на Круглым задыяку дэндэрскага храма-палаца.

Калі ўсё гэта – фантазія мастака, то цяжка патлумачыць, чаму ў яго выявілася, што Меркурый і Венера ў абодвух Задыяках апынуліся, як і належыць ім быць, каля самога Сонца, а не недзе на іншым, немагчымым для іх, але зручным для фантазёра, месцы? Ды і дзеля чаго было маляваць падобную фантазію?

Не! Гэта не фантазія, а гараскоп пачатку пабудовы паказаных частак будынка ці часу іхнага адкрыцця для публікі.

Астраномія можа і павінна вылічыць іхны час і я яшчэ ў 1919 годзе пачаў іхнае дасьледаванне.

Я пачаў вылічэнні ў той час, калі яшчэ падзяляў цверджанне пра глыбокую старажытнасць ягіпецкай культуры, і атрыманы вынік вельмі ўразіў мяне самога.

Адбылося нешта вельмі нечаканае. За ўвесь гістарычны перыяд, ад самай глыбокай старажытнасьці і да нашага часу, Чатырохкутны задыяк даў мне 6 траўня 540 года, а Круглы –15 сакавіка 568 года нашай эры, г.азн. час валадарання Юстыніяна, руплівага будаўніка храмаў у сваім царстве, у якое ўваходзіў як складовая частка і Ягіпет.

Выключыўшы із круглага Задыяка абедзьве ахвярныя працэсіі над ім і пад ім, мы знаходзім у ім, у сузор'і Панны (мал. 132, стар. 658), той жа Сатурн з кіем і рагамі, але з галавой больш падобнай на сабачую, чым на бычыную, даводзячы, што яго знакам быў Анубіс, і якраз пад ім ён жа намаляваны ў другі раз, з касой у руцэ ідучым ў каметнай працэсіі. Гэта азначае, што як ў адным так і ў другім выглядзе Сатурн паказаны ў Панне. Марс – паказаны на спіне Казярога, такім жа самым, як і ў Чатырохкутным задыяку, дзе ён пазначаны надпісам: Чырвоная планета. Юпітар намаляваны пад Ракам у выглядзе такога ж чалавека у тыяры, як і ў доўгім Задыяку. А вышэй Рака ён намаляваны другасна са змяёй (маланкай) над галавой. Абедзьве выявы даюць яго месцаванне ў Раку. Венера і тут пазначана парай жанчын ідучых побач, г.азн. у выглядзе вечаровай і ранішняй зоркі: адна з чалавечым, другая з сабачым тварам. Барвяніца і тут намалявана ў выглядзе двух

звяркоў зросшыхся спінамі над Авенам, і тут жа паказаны дыск Сонца, выяўляючы сваім меставаннем у Рыбах месяц сакавік (мал. 132).

Для Меркурыя тут застаецца толькі двухаблічны Янус, паміж Рыбамі і Вадалівам, чаму і на Чатырохкутным задыяку я лічу гэтую фігуру яго другой выявай, схаваўшайся за Сонцам.

Калі я летам 1919 года пачаў вывучаць Дэндэрскія задыякі грунтуючыся на іхным старадаўнім малюнку змешчаным ва Ўранаграфіі Бадэ, маючайся ў кнігасховішчы Пулкаўскай абсерваторыі, а потым грунтуючыся на фатаграфічных здымках у «Сферы» Франца Боля[3], я зараз жа пераканаўся, што яны даюць такія каштоўныя дадзеныя для астранамічнага вырашэння пытання, якога не дае, магчыма, ніводны із іншых гістарычных помнікаў, сапраўды захаваўшыхся са старажытных часоў, без якіх бы то ні было больш пазьніх пераробак.

Справа ў тым, што пры правільным рашэнні абодва задыякі, як круглы так і доўгі, як знойдзеныя толькі ў розных частках таго ж самага будынка, павінны даць адну і тую ж эпоху, адно і тое ж чалавечае пакаленне ці, іншымі словамі, не могуць адрозніваццa больш чым на гадоў пяцьдзясят. А тым часам кожны з іх можа быць вылічаны з дакладнасьцю да сутак, цалкам незалежнае ад другога, грунтуючыся на пазначаных тут месцаваннях Сатурна, Юпітара, Марса і Сонца, даючых толькі адно правільнае рашэнне для прамежку часу роўнаму некалькім тысячагоддзям, і пры гэтым існуе магчымасць кожнае такое рашэнне праверыць яшчэ больш чым чатырма спосабамі: пазначаным на задыяках месцаваннем Меркурыя, месцаваннем Венеры, месцаваннем нейкай каметы ідучай ад Скарпіёна да Цяляці, і адлегласьцю кропкі весновага раўнадзенства ад «Вока» сузор'я Авена (Альфы Авена), не кажучы ўжо пра менш важныя дэталі.

Пры такіх умовах выснова робіцца неаспрэчваемай, цалкам незалежнай ад магчымых памылак у тлумачэнні той ці іншай фігуры на малюнку. Але тут і фігуры цалкам вызначаны, ды і кожная памылка ў іхным атаясамленні неадкладна выявілася б праз знаходжанне дадзенай планеты не ў тым месцы, якое для яе прызначаецца сукупнасьцю іншых планет. «Выпадковае» ж патрапленне сямі «памылкова атаясомленых фігур» двойчы на тыя ж самыя месцы неба, на якіх сапраўды знаходзіліся адпаведныя ім планеты за час гістарычнага перыяду жыцця чалавецтва, цалкам немагчыма.

Гэта цалкам не тое, што вызначэнне часу падзеі грунтуючыся на сонечных і месяцовых зацьменнях дня выпадкаў калі месяц і дзень невядомы. У апошнім выпадку сонечныя зацьменні, акрамя прайшоўшых па дадзенай мясцовасьці ў поўнай фазе, і месяцовыя, для якіх не вызначаны дзень года, дадуць задавальняючыя рашэнні кожны раз, калі магчымая памылка ў храналогіі дадзенай падзеі дасягае дзясяткаў гадоў, як гэта звычайна і бывае ў старажытнай гісторыі.

А тут цалкам не тое: існуе наяўнасць планетных канстэляцый, ніводнага разу не паўтараючаяся ў такім выглядзе з таго часу, як у народаў існуюць пісьмовасць.

# Глава III.

## Круглы Дэндэрскі задыяк.

[3] Franz Boll: Sphaera, 1909.

Перадусім, я вывучыў **Круглы дэндэрскі Задыяк**, які выявіў, як я ўжо згадваў, чатыры самастойных згуртаванні фігур, даючыя рашэнне задання.

**1-ы спосаб рашэння Круглага задыяка**. Возьмем фігуры па абадку. Яны пачынаюцца Сонцам, стаячым перад сузор'ем Авена, а ў Сонцы намалявана восем укленчаных чалавечых фігурак (мал. 133 натр. 664). Гэта азначае, што Сонца восем разоў падыходзіла за час пабудовы да Авена і кожны раз здзяйснялася вялікоднае ахвяраванне. Колькасць фігур на абадку 36: гэта трыццаць шэсць дзесяціднёвак (рымскіх дэканусаў). Кожная дзесяціднёўка намалявана ці ў выглядзе простага падарожніка, ці пазначана замест яго ахвярнікам, жывёлай і гэтак далей, як сам чытач бачыць на малюнку. Вывучаўшыя гэты задыяк да мяне лічылі, што Сонцу было прысьвечана першая дзесяціднёўка, яго праходжанне праз Авена, другая дзесяціднёўка – самаму Авену і г.д. Але ранейшыя дасьледчыкі не звярнулі дастатковай увагі на тую, з выгляду нікчэмную, але ў рэчаіснасьці надзвычай важную акалічнасць, што акрамя гэтых знакаў 36 дзесяціднёвак года, там існуе яшчэ маленькая дадатковая фігурка: малюсенькае ягня з Сонцам і зоркай на галаве, і што гэтае ягнятка пазначае нехапаючыя пяць дзён трапічнага года, што азначае які ўжо тады лічыўся роўным 365 дзён, г.азн. роўным 36 дзесяціднёўкам з паловай.

А самым выдатным тут з'яўляецца тое, што гэтыя пяць нехапаючых дзён стаяць не каля Сонца, як першым дэканусам Авена, а аддзелены ад яго асобнай дзесяціднёўкай у грэцкім галаўным уборы, і што гэта, відавочна дададзеная знарок фігура, можа пазначыць толькі адно: паміж заканчэннем трапічнага года, г.азн. праходжаннем Сонца праз кропку вясновага раўнадзенства, да якога далучаны нехапаючыя дні, і праходам Сонца праз галоўную зорку Авена, яго «Вока», існавала поўная дзесяціднёўка прысвячаная царкоўна-служэнню. Але гэтая колькасць дзён, праходзімых Сонцам ад кропкі раўнадзенства да Альфы Авена, паказвае ўжо на шостае стагоддзе нашай, эры і больш ні на адно на працягу цэлых 26 000 гадоў да нашага часу...

Такім з’яўляецца першае нечаканае рашэнне. Храм, які лічыўся створаным да пачатку нашай эры, выяўляецца адпаведна гэтаму рашэнню пабудаваным пры Юстыніяне Вялікім, які быў як візантыйскім, так і ягіпецкім імператарам.

**2-і спосаб рашэння Круглага задыяка**. Пакінем пакуль убаку працэсію із дзесяці фігур, ідучую направа ад Скарпіёна да Цяляці, пачынаючуюся шакалам молячымся Ільву, працягваючуюся ягіпецкім богам Анубісам, праваднікам памёршых, з касой у руцэ і шакалападобнай галавой, і заканчваючуюся кіруючым ёю юнаком пад Цялём з жазлом у адной і бічом – у другой руцэ. Гэта цалкам самастойная сімвалічная працэсія, сэнс якой я патлумачу пазьней, а зараз звярну ўвагу на размешчаныя над ёю задыякальныя сузор'і, ідучыя ў адваротным да яе парадку. Яны выдатна намаляваны і ўтвараюць экліптыкальны пояс, як ён і да гэтага часу размяшчаецца над гарызонтам: ён не канцэнтрычны з колам дзесяціднёўкі, нябесным экватарам, а прыўзняты над ім высока ў той частцы, дзе пазначаны летнія сузор'і Рака і Двайнят і апушчаны на процілеглым баку, дзе пазначаны зімовыя сузор'і: Стралок і Казярог. Яго выявы мала адрозніваюцца ад тых, якія мы маем і на астранамічных мапах Байера, і нават у астрономіях дзевятнаццатага стагоддзя. (Я асобна паказаў гэтую частку скульптуры на мал. 132.)



Мал. 132.
Сярэдняя частка Круглага дэндэрскага задыяка, вылучаная асобна для зразумеласьці яго гараскопа (мал. Л. Андрэенка).

Сузор'е Ільва пастаўлена на размешчанае пад ім і да гэтага часу сузор'е Гідры, на хвасьце якой замест Крумкача рэстаўратар малюнка намаляваў праз невыразнасць скульптуру Голуба. За хвост Ільва ў яго трымаецца жанчына і над спінай Ільва сядзіць, тварам да полюса неба, маленькі сьвятар з жазлом у руцэ, пазначаючы, напэўна, кліматычную сярэдзіну лета.

Над выявай Шаляў размешчаны кружок з багіняй Правасуддзя пасярэдзіне і з нечым падобным на лань. Над Скарпіёнам размешчаны Змеятрымальнік, але з жазлом замест змея, плывучым ў лодачцы, з маленькім чалавечкам над галавой, які,

як і чалавечак над Ільвом, павёрнуты тварам да полюса сьвету і працягвае да яго руку.

Паміж дзвума Рыбамі размешчана таблічка, пазначаючая, што вясновае раўнадзенства знаходзілася ўжо тут, як мы бачылі і сярод дзесяціднёвак на абадку.

Але пакінем і гэтае падмацаванне сярэднявечча пакуль у спакоі і звернем увагу на тое, што дадзена паміж фігурамі Задыяка.

Фігура злавеснага ў старажытнай астралогіі і астральнай міфалогіі Сатурна намалявана тут у выглядзе ягіпецкага бога, ідучага з кіем за Паннай. Тут усе прыкметы Анубіса-Сатурна, праважатага памёршых з шакалінай галавой. Нідзе сярод сузор'яў Задыяка іншай такой фігуры няма, і нават паўтарэнне Анубіса ніжэй у пахавальнай працэсіі не перамяняе справу: ён і там размешчаны пад Паннай. Гэта азначае, што знаходжанне Сатурна ў сузор'і Панны з'яўляецца фактам. Можна нават сказаць: Сатурн паказаны ў Панне двума спосабамі.

Пад Ракам мы бачым іншага падарожніка з кіем у руках – знакам рухаючагася сьвяціла, з арлінай галавой, з першасьвятарскім упрыгожваннем на ёй і з сокалам над ёю. Гэта можа быць толькі Юпітар і тут жа над Ракам паўтораны знак Юпітара ў выглядзе такога ж падарожніка з кіем, але ўжо з чалавечым тварам, зоркай над галавой і змяістым знакам маланкі над ёю. Якую б із гэтых двух выяваў мы ні ўзялі – абедзьве прыводзяць да аднаго: гэта Юпітар Грамабой. Ён паказаны ў сузор'і Рака, і іншага яго знака нідзе больш няма сярод задыякальных сузор'яў. Гэта азначае – і Юпітар двума спосабамі намаляваны ў Раку.

Паміж спінай Авена і Рыбай мы бачым кружок з пеўневым вокам пасярэдзіне. Гэта Сонца, паказанае пры пераходзе із сузор'я Рыб да Авена каля веснавога раўнадзенства. Іншай выявы Сонца няма. Гэта азначае, што пара года была – юліянскі сакавік.

Каля Сонца заўсёды знаходзяцца планеты Меркурый і Венера. І сапраўды над Авенам намалявана Венера і таксама ў выглядзе двух фігур, як Сатурн і Юпітар: ранішняй зоркай у выглядзе дзяўчыны ў газавым празрыстым адзенні, і вечаровай зоркай у выглядзе дзяўчыны з малпіным тварам у такім жа празрыстым адзенні. Гэта азначае Венера была ў Авене налева ад Сонца і блізка да яго.

Паміж сузор'ем Рыб і Вадаліва намаляваны падарожнік з кіем, у выглядзе двухаблічнага бога Януса з зоркай над галавой. Гэта планета Меркурый, ніколі не аддаляючыся ад Сонца, і толькі на некалькі дзён паказваючы із-за яго то адзін свой твар – злева над вячэрняй зарывам на захадзе, – то другі твар – справа ад Сонца над ранішнім зарывам – на ўсходзе. І тут зорная сімвалістыка старажытнасьці не дае магчымасьці мець два тлумачэнні. Толькі замест двух поўных фігур намаляваны два твары на галаве.

Пад Рыбамі намаляваны кружок з дзяўчынай у ім, прапануючыю ахвяру. Гэта Месяц са сваімі плямамі, у якіх спрадвеку бачылі чалавечыя фігуры, згодна з густам. Яна ў тым жа сузор'і, што і Сонца, але злёгку справа, і пазначае наступленне веснавога маладзіка, калі Месяц прыносіцца ў ахвяру ўсеспалення ў полымі ранішняга світання, для таго, каб зноў адрадзіцца на трэцці дзень у Авене.

У гэтым жа згуртаванні фігур мы бачым над Сонцам малпачку, зросшуюся спінай з зайцам і з сокалам у сьвятарскай шапцы над галовамі ўсёй пары. Я лічу гэта за знак вечаровай і ранішняй барвяніцы, заўсёды спадарожнічаючых Сонцу.

Зараз нам застаецца толькі адшукаць сярод знакаў Задыяка Марс. І ён з'яўляецца ў выглядзе адзінай застаўшайся для нас фігуры – фігуры падарожніка з арлінай галавой і з кіем. Ён стаіць на спіне Казярога з зоркай над галавой, з ібісам і

сокалам вышэй яе. І тая ж самая гэта фігура падарожніка з кіем, але ужо з чалавечым тварам, паўторана тут жа, над галавой Казярога, вышэй, з ібісам пад нагамі.

Мы бачым, што гэты гараскоп не пакідае ніякіх сумневаў: усе планеты, акрамя двухаблічнага адпаведна прыродзе Меркурыя, паказаны двума малюнкамі ў тых сузор'ях, дзе яны былі. Чаму двума? Відаць для таго, каб Задыяк заставаўся зразумелым у выпадку пашкоджання адной із фігур, ці ж таму, што задняя фігуркі дапасуюцца да месцавання планет пры пачатку гэтай скульптуры, а пярэднія да іхнага месцавання пры яе заканчэнні. Аднак палічыць, што мастак меў намер паказаць іхнае перамяшчэнне за час лепкі – цяжка, яно было б занадта вялікім для Юпітара і Сатурна і занадта малым для Венеры і Марса за тую ж самую колькасць дзён. Але яно можа быць дапасавана і да прыяду пачатку і заканчэння пабудовы ўсяго будынка, наўрад ці меншага чым некалькі гадоў.

Пакінуўшы пакуль у спакоі ўсе іншыя фігуры, зробленыя тут каля цэнтра, паспрабуем астранамічна вызначыць час стварэння гэтага гараскопа грунтуючыся на толькі што павядомленых указанням. Вось у табліцы XX у першым слупку пазначаны ўсе выпадкі геліяцэнтрычнага праходжання Сатурна праз сярэдзіну сузор'я Панны. Геацэнтрычна пры Сонцы ў Авене гэта будзе ўсяго на 3° направа сярэдзіны. Самыя блізкія да гэтага геліяцэнтрычныя праходжанні Юпітара праз цэнтр сузор'я Рака дадзены ў другой калонцы. Геацэнтрычна гэта будзе на 10° направа.

### ТАБЛІЦА XX.

Гісторыка-астранамічная выведка круглага дэндэрскага задыяка для гадоў раней пачатку нашай эры да -1800 года. (Летазлічэнне да пачатку еўрапейскай эры.)

Табліца дае ў першым слупку ўсе геліяцэнтрычныя (і разам з тым геацэнтрычныя) праходжанні Сатурна праз сузор'е Панны згодна з астранамічным злічэннем ад пачатку нашай эры да -1112 года (=1113 г. згодна з гістарычным злічэннем). У другім слупку – усе самыя блізкія да іх праходжанні Юпітара па сузор'ю Рака, а ў правай частцы дадзены геацэнтрычныя месцаванні Марса пад час гадоў, задавальняючых адразу і Юпітару, і Сатурну.

<table>
<tr><th colspan="2">Сатурн у сярэдзіне сузор’я Панны (геліяцэнтрычна і геацэнтрычна)</th><th>Юпітар усярэдзіне сузор’я Рака (геліяцэнтрычна і геацэнтрычна на 10˚ менш сярэдзіны)</th><th colspan="2">Адпаведныя (сакавіцкія і красавіцкія) праходжанні Марса па Казярогу. Дробнае значэнне 0,00 пазначае, што ён праходзіў праз сярэдзіну Казярога; 0,5 – што ён быў на супрацьлеглым баку неба; 0,1 – што быў на ўваходзе; 0,9 – на выхадзе; прыдатны толькі дробы больш 0,2 і менш 0,1.</th></tr>
<tr><td rowspan="13">Дадаванні пасьля кропкі з коскай пазначаюць дзесяціч</td><td>-22; 7</td><td>-26; 7</td><td colspan="2"></td></tr>
<tr><td>-51; 2</td><td>-50; 9</td><td colspan="2"></td></tr>
<tr><td>- 81; 8</td><td>-85; 3</td><td></td><td rowspan="3">У 109 г. – 0,01, Марс быў у Казярогу. Пад іншыя планеты не падыходзіць (гл. ніжэй)<br>У 110 г. – 0,5. Марс быў на супрацьлеглым баку неба. Не дапасуе.</td></tr>
<tr><td>- 110; 3</td><td>*-109; 6</td><td></td></tr>
<tr><td>- 140; 9</td><td>-145; 0</td><td></td></tr>
<tr><td>- 169; 4</td><td>*-168; 3</td><td></td><td rowspan="3">У 168 г. – 0,4. Марс быў на другой гемісферы.<br>У 169 г. – 0,92, Марс быў у Казярогу, але Юпітар быў яшчэ ў Двайнятах каля Цяляці (81˚)<br>У 167 г. – Юпітар быў ужо ў Ільве.</td></tr>
<tr><td>- 199; 0</td><td>-204; 7</td><td></td></tr>
<tr><td>- 228; 5</td><td>*-228; 0</td><td></td></tr>
<tr><td>- 258; 0</td><td>-251; 3</td><td colspan="2"></td></tr>
<tr><td>- 287; 6</td><td>*-287; 7</td><td colspan="2">У 287 г. – 0,6, Марс быў на другой гемісферы. Не дапасуе.</td></tr>
<tr><td>- 316; 1</td><td>-322; 1</td><td colspan="2">У 286 г. – 0,1, Марс быў на суседнім сузор’і. Не дапасуе.</td></tr>
<tr><td>- 346; 7</td><td>*-346; 4</td><td colspan="2" rowspan="2">У 346 г. – 0,02, Марс быў у Казярогу, але Венера была яшчэ ў Вадаліве (342˚). Пры маладзіку 20 сакавіка 346 г. Венера была (23˚) у Авене, а Меркурый у Авене замест Вадалея</td></tr>
<tr><td>- 375; 2</td><td>-370; 7</td></tr>
</table>

| | | | |
|---|---|---|---|
| ныя дробы кожнага года, але ідучыя ўжо не адваротна, а згодна з цягам часу адпаведна пасьлядоўнасьці месяцаў. | - 405; 8 | *-405; 1 | У 405 г. – 0,5, Марс знаходзіўся ў квадратуры да Казярога. Не дапасуе. |
| | - 434; 3 | -441; 1 | |
| | - 464; 8 | *-465; 8 | У 464 г. – 0,7, Марс знаходзіўся ў квадратуры да Казярога. Не дапасуе. |
| | -493; 4 | -489; 0 | Выснова із гэтай табліцы.<br>За пачаткам нашай эры да -1118 г. (да яе) задавальняючыя месцаванні ўсіх трох планет пры месцаванні Сонца Авен-Рыбы мелі месца толькі ў 109-м і 346-м гадах. Але і яны былі незадавальняючымі па Меркурыю і Венеры.<br>У 109-м годзе пад час пазначанага ў гэтым задыяку маладзіка, прыпадаўшага на 2 сакавіка ў Рыбах (5˚), Венера была не ў Авене, а ў Казярогу (317˚ згодна з каардын. 1900 г. ) ды і Меркурый знаходзіўся ў глыбіні Вадалея (356˚), а не перад ім. Пры другім жа маладзіку 1 красавіка (месцаваўшагася пад 32˚ у Авене), Венера была ў Рыбах (4˚), а Меркурый у Авене (46˚), г. азн. месцаванне было адваротным пазначанаму ў круглым дэндэрскім задыяку.<br>А ў 346-м годзе, Венера была ў Вадаліве (каля 342˚ згодна з каардынат.1900 г.) замест Авена, а Меркурый быў, наадварот, у Авене (каля 28˚) пад час адзіна задавальняючага малюнку маладзіка 26 сакавіка (каля 83˚ згодна з каард. 1900 г.)<br>Высновы:<br>Ідучы ў глыбіню стагоддзяў ад пачатку нашай эры, мы нідзе не знаходзім пазначанага ў дэндэрскім задыяку гараскапічнага месцавання планет. Дэндэрскі храм, упрыгожаны гэтай скульптурай быў пабудаваны ўжо пасьля пачатку нашай эры. На гэтае ж паказвае і пазначанае на ім чатырохкутнай пласьцінкай (з хвалепадобнымі лініямі, малюючымі радкі надпісу) месцаванне раўнадзенства ўжо ў Рыбах і дзесяцідзённе размешчанае паміж недастаючымі 5 днямі года і вокам Авена. Усё гэта паказвае на VI стагоддзе пасьля пачатку еўрапейскай эры. |
| | -523; 9 | -524; 4 | |
| | -552; 5 | -548; 7 | |
| | -582; 0 | -583; 1 | |
| | -611; 6 | -607; 4 | |
| | -640; 1 | -643; 8 | |
| | -670; 6 | -678; 2 | |
| | -699; 0 | -702; 5 | |
| | -729; 7 | -726; 8 | |
| | -758; 3 | -761; | |
| | -787; 8 | -785; 5 | |
| | -817; 9 | -821; 9 | |
| | -848; 9 | -844; 2 | |
| | -876; 4 | -880; 6 | |
| | -906; 0 | -904; 9 | |
| | -935; 5 | -939; 3 | |
| | -964; 1 | -963; 5 | |
| | -994; 6 | *-999; 0 | |
| | -1023; 2 | -1022; 2 | |
| | -1053; 7 | *-1058; 6 | |
| | -1082; 2 | *-1082; 9 | У 1082 г. – 0,3, Марс знаходзіўся ў квадратуры да Казярога. Не дапасуе. |
| | -1112; 7 | -1118; 3 | |
| | -1141; 3 | *-1141; 6 | Далей не даследавалася праз адсутнасць метазгоднасьці |
| | -1171; 8 | -1178; 0 | |
| | -1200; 4 | *-1200; 5 | |
| | -1230; 9 | -1238; 7 | |
| | -1259; 5 | *-1260; 9 | |
| | -1290; 0 | -1293; 5 | |
| | -1318; 5 | *-1319; 7 | |
| | -1377; 1 | -1343; 9 | |
| | -1377; 6 | *-1378;3 | Далей ідзе паміжсерыяльны прамежак да мінус 1800 года. |

## ТАБЛІЦА XXI.

Астранамічная выведка Круглага дэндэрскага задыяка для гадоў пасьля пачатку нашай эры.

| Сатурн у сузор'і Панны (геліяцэнтрычна і геацэнтрычна) | Юпітэр у сярэдзіне Рака. | Адпавядаючыя сакавіцкія і красавіцкія месцаванні Марса ў Казярогу пры сонцы паміж Авенам і Рыбамі. | |
|---|---|---|---|
| + 1657.7 | 1659.0 | | Задавальняючае месцаванне Марса ў Казярогу пад час сакавіка-красавіка тэарытычна магчыма на працягу гэтых гадоў, але вылічэнні не праводзіліся таму што рашэнне пытання было ўжо знойдзена раней для 568 года пасьля пачатку еўрапейскай эры (глядзіце тут ніжэй), і пры гэтым ужо было падмацавана ўсімі астатнімі дэталямі дасьледуемай намі дэндэрскай скульптуры. |
| 1628.2 | 1623.4 | | |
| 1598.7 | 1599.7 | У 1594 г. | |
| 1569.3 | 1564.1 | | |
| | | У 1540 г. | |
| 1539.8 | 1540.3 | | |
| 1510.4 | 1516.6 | У 1481 г. | |
| +1400.9 | *1481.0 | | |
| 1431.5 | 1457.3 | У 1422 г. | |
| +1422.0 | *1421.7 | | |
| 1392.5 | 1398.0 | У 1362 г. | |
| 1363.1 | *1362.4 | | |
| 1333.6 | 1338.7 | У 1303 г. | |

<table>
<tr><td>1304.2</td><td>*1303.1</td><td rowspan="25">Вынікі гэтай табліцы.<br>Добра задавальняючыя вынікі дае маладзік 15 сакавіка 568 года, чацьвер.<br>Сатурн – 184˚ у грудзях Панны, геацэнтр.<br>Юпітар – 137˚ геацэнтрычна ў Раку.<br>Марс – 305˚ на хвасьце Казярога.<br>Венера – 37˚ у Авене.<br>Сонца – 17˚ у Рыбах паблізу Авена.<br>Меркурый – 350˚ у Рыбах паблізу Вадаліва.<br>Гэтае рашэнне з’яўляецца адзіным на працягу прамежку ад +1303 года да -1118 года еўранейскага злічэння. Далей даследаванні не праводзіліся з нагоды адсутнасьці мэтазгоднасьці. Круглы дэндэрскі задыяк вылеплены ў якасьці азнаменавання нейкай падзеі 15 сакавіка 568 года, магчыма што пабудова храма дапасавана да 200-гадовых угодкаў пакарання Езуса.</td></tr>
<tr><td>1274.7</td><td>1279.4</td></tr>
<tr><td>1245.3</td><td>1243.8</td></tr>
<tr><td>1215.8</td><td>1220.1</td></tr>
<tr><td>1186.3</td><td>1184.5</td></tr>
<tr><td>1159.9</td><td>1160.8</td></tr>
<tr><td>1127.4</td><td>1125.2</td></tr>
<tr><td>1098.0</td><td>1089.6</td></tr>
<tr><td>1968.5</td><td>1065.9</td></tr>
<tr><td>1039.1</td><td>1030.3</td></tr>
<tr><td>1001.6</td><td>1006.6</td></tr>
<tr><td>980.2</td><td>982.8</td></tr>
<tr><td>950.7</td><td>947.2</td></tr>
<tr><td>921.2</td><td>923.5</td></tr>
<tr><td>901.8</td><td>899.8</td></tr>
<tr><td>862.3</td><td>864.2</td></tr>
<tr><td>831.9</td><td>828.6</td></tr>
<tr><td>803.4</td><td>804.9</td></tr>
<tr><td>774.0</td><td>769.3</td></tr>
<tr><td>744.5</td><td>*745.6</td></tr>
<tr><td>715.0</td><td>710.0</td></tr>
<tr><td>+685.6</td><td>*686.3</td></tr>
<tr><td>656.1</td><td>650.7</td></tr>
<tr><td>+626.7</td><td>*627.0</td></tr>
<tr><td>597.2</td><td>591.4</td></tr>
<tr><td>+567.8</td><td>*567.1</td><td rowspan="2">(У 567 г. = 0,5); у 568 г. = 0,0; цалкам задавальняе усе патрабаванні толькі 568 год.</td></tr>
<tr><td>538.3</td><td>532.1</td></tr>
<tr><td>+508.8</td><td>*508.3</td><td>У 509 г. = 0,5. У 508 г. = 0,8. Знаходзіўся далёка ад Казярога.</td></tr>
<tr><td></td><td></td><td>Адпавядаючыя месцаванні Марса ў Казярогу</td></tr>
<tr><td>479.4</td><td>484.6</td><td></td></tr>
<tr><td>+449.9</td><td>*449.0</td><td>У 449 г. = знаходзіўся амаль у квадратуры да Казярога.</td></tr>
<tr><td>400.5</td><td>425.3</td><td></td></tr>
<tr><td>391.0</td><td>*389.7</td><td rowspan="2">У 391 г. = 0,2 У 39х г. = 0,7. Знаходзіўся амаль у квадратурах да Казярога</td></tr>
<tr><td>361.5</td><td>366.0</td></tr>
<tr><td>+332.1</td><td>330.4</td><td>У 331 г. = 0,5. Марс дапасуе (для маладзіка 23 красавіка), але Меркурый і Венера не дапасуюць, гл. (NB) ніжэй.</td></tr>
<tr><td>302.6</td><td>306.7</td><td>У 333 г. = 0,002. Меркурый цалкам не дапасуе, гл. (NB)</td></tr>
<tr><td>273.2</td><td>271.1</td><td>У 272 г. = 0,3. У 273 г. = 0,8. Амаль у квадратурах.</td></tr>
<tr><td>243.7</td><td>247.4</td><td></td></tr>
<tr><td>214.8</td><td>211.8</td><td>У 213 г. =0,7. Амаль у квадратурах.</td></tr>
<tr><td>184.8</td><td>188.1</td><td rowspan="7">NB. У гэтай серыі асабліва дасканала мной дасьледаваны 331 і 332 гады, як самыя раннія із даваемых Марсам, Юпітэрам і Сатурнам. Але нічога не атрымалася. У 331 годзе Меркурый знаходзіўся побач з самім Цялём (каля 42˚ сучас. даўгаты) пад час маладзіка 23 красавіка (калі сонца было каля 30˚ паміж Авенам і Рыбамі), а на скульптуры ён паказаны на супрацьлеглым баку каля Рыб, Венера ж сапраўды месцавалася ў Авене (35˚) як і пазначана, але гэта не выпраўляе справу.</td></tr>
<tr><td>155.4</td><td>152.5</td></tr>
<tr><td>125.9</td><td>128.8</td></tr>
<tr><td>96.4</td><td>93.2</td></tr>
<tr><td>67.0</td><td>69.5</td></tr>
<tr><td>37.5</td><td>33.9</td></tr>
<tr><td>+8.1</td><td>10.1</td></tr>
<tr><td colspan="3">Адрозненне ў месцаванні Меркурыя такое вялікае, што не можа быць патлумачана памылкай старажытных разлікаў. Калі ж возьмем маладзік старажытнага 22 траўня 331 года, то Сонца ў гэты час выяўляецца ўжо ў галаве Цяляці і бліжэй да Двайнят (пад 81˚ сучасн. даўгаты). Мяркурый пад 55˚ сучасн. даўгаты, на 26˚ направа ад Сонца, як і дадзена, але ў Авене бліжэй да Рыб, а не паміж Авенам і Вадалівам. Венера ж задавальняе, як і усе астатнія планеты.<br>Калі ж возьмем маладзік 24 сакавіка 331 года, то Сонца выяўляецца ў Авене бліжэй да Рыб, (50˚ сучасн.), але Меркурый зноў выяўляецца каля 6˚ налева ад Сонца, у Авене, тады як павінен быць</td></tr>
</table>

| | |
|---|---|
| направа ад яго, каля Вадаліва.<br>Дакладна так жа і пры разліках на 338 год: | |
| А. – пры маладзіку 2 сакавіка 333 г. | Б. – пры маладзіку 1 красавіка 353 г. |
| Сонца і Месяц пад 2˚ (сучасн.), пасярэдзіне Рыб. Задавальняе. | Сонца і Месяц пад 28˚ (сучасн.), у Авене бліжэй да Рыб. Задавальняе. |
| *геліа* *геа* | *геліа* *геа* |
| Меркурый.. 42˚ ... 2+9=11˚. Не дапасуе: налева ад Сонца, а патрэбна направа. | Меркурый.. 154˚ ... 28+17=45˚. У Авене бліжэй да Цяляці. |
| *геліа* *геа* | *геліа* *геа* |
| Венера.. 95˚ ... 2+38=58˚. Налева ад Сонца, пасярэдзіне Авена. Дапасуе. | Венера.. 143˚ ... 28+46=74˚. Не дапасуе. У Цяляці каля Двайнят. |
| Мяркурый не дапасуе так выразна, што не гледзячы на добрую дапасуемасць іншых планет даводзіцца адкінуць. | Ітак, не гледзячы на ўсе намаганні знайсьці для круглага дэндэрскага задыяка больш раннюю дату чым 568 год, мы яе не знаходзім. |

Рис. 133.

КРУГЛЫЙ ДЕНДЕРСКИЙ ЗОДИАК.

С зачерненным фоном для большей ясности фигур. Дает гороскоп 6 мая 568 г. нашей эры.









Планеты изображены путниками с посохами в руках. 1) Сатурн — путник с рогами и волчьей головой между Девой и Весами и еще над Девой в процессии. 2) Юпитер — путник в короне над Крабом (Раком) и он же над Крабом со звездою на голове и змеею-молнией над нею. 3) Марс — путник с орлиной головой и признаками кольчуги, на спине Козерога. 4) Солнце между Овном и Рыбами, кружок с подобием петушиного глаза внутри, а между Рыбами дощечка с надписью весеннего равноденствия, 5) Под Рыбами Луна — кружок с девицей внутри, 6) Перед Рыбами Меркурий в виде двуликого Януса, 7) Под Овном Венера в виде двух девиц — Утренней и Вечерней звезды.

Над Солнцем две сросшиеся спинами козочки — утренняя и вечерняя заря. Внизу рисунка большой путник — комета 568 года, она со скипетром, и вместо хвоста — свита фигур начиная от Скорпиона.

Мал. 133

Круглы дэндэрскі задыяк.

Планеты паказаны ў выглядзе падарожнікаў з кіямі ў руцэ: 1) Сатурн – падарожнік з рагамі і галавой ваўка пміж Паннай і Шалямі і яшчэ над Паннай у працэсіі. 2) Юпітар – падарожнік у кароне над крабам (Ракам) і ён жа над Крабам з зоркай на галаве і змяёй-маланкай над ёю. 3) Марс – падарожнік з арлінай галавой і прызнакамі кальчугі на спіне Казярога. 4) Сонца паміж Авенам і Рыбамі, кола з нечым падобным на петушынае вока пасярэдзіне, а паміж Рыбамі дошчачка з надпісам веснавога раўнадзенства. 5) Пад рыбамі

Месяц – кола с дзяўчынай пасярэдзіне. 6) Перад Рыбамі Меркурый у выглядзе двухаблічнага Януса. 7) Пад Авенам Венера ў выглядзе двух дзяўчын – ранішняй і вечаровай зорак. Над Сонцам дзьве зросшыяся спінамі козачкі – ранішняя і вечаровая барвяніца. Знізу малюнка вялікі падарожнік – камета 568 года, яна са скіпетрам і замест хваста – сьвіта фігур пачынаючы ад Скрпіёна.

Прыдатнымі гадамі будуць толькі тыя, у якіх час праходжання Юпітара праз Рака не будзе адрозніваццa ад праходжання Сатурна праз Панну больш чым на 1 год, таму што Юпітар не застаецца ў тым жа сузор'і больш 1 года. Мы бачым, што пры перыядзе паміж -1378 годам і нашымі сучаснымі днямі прыдатныя месцаванні распаліся на чатыры серыі: 1) Ад -1378 да -963 гады, 2) ад -464 да -109 года перад пачаткам нашай эры і потым 3) ад +389 да 745 года і, нарэшце 4) ад +1303 да +1600 года, пасьля якога не было прыдатных спалучэнняў да гэтага часу.

У кожнай серыі для далейшага дасьледавання грунтуючыся на Марсе засталося толькі па 7-8 выпадкаў. Гэта агульнае правіла аналізу. Паміж кожнай серыяй застаецца пусты прамежак каля 500 гадоў, калі зададзеных нам спалучэнняў, якімі б яны ні былі, не здаралася ніразу. І мы бачым, што гэты пусты прамежак, як і пры нашым дасьледаванні Апакаліпсіса, прыпадае менавіта на той час, які, згодна з наданнямі ранейшых дасьледчыкаў, мы лічылі за час пабудовы гэтага храма.

Ужо адно гэта паказвае, што круглы Задыяк, пазначаючы, відаць, год закладкі будынка ці час лепкі гэтага самога Задыяка, мог быць складзены толькі ў прамежак: ці паміж мінус 464 і мінус 109 гадамі да пачатку нашай эры, ці паміж 389 і 745 гадамі пасьля яе, – у кожным прамежку па сямі магчымых дат. А дзьве астатнія серыі, г.азн. ад мінус 1378 да мінус 963 года і ад плюс 1303 да плюс 1600 года не мае сэнсу і вылічваць, калі знойдзем задавальняючае рашэнне у адной із першых двух.

Марс, згодна з тэорыяй, павінен выбраць нам толькі адну ці дзьве із гэтых магчымых дат, адкінуўшы ўсе астатнія. Спосаб для гэтага вельмі просты. Дзякуючы таму што гаворка ідзе пра сакавік, то знойдзем у якім заўгодна астранамічным штогодніку нашага XX ці XIX стагоддзя «выпадак яго месцавання ў сярэдзіне гэтага сузор'я ў сакавіку, ці скарыстаемся нашымі ўласнымі табліцамі.

На нашых графіках Марса, змешчаных далей на старонцы 712 (Мал. 141), мы знаходзім, напрыклад, 1832 год. Аднімаем ад яго кожны із атрыманых намі гадоў, а рэштку дзелім на час зорнага абарачэння Марса. Відавочна, што ў прыдатныя нам гады гэтая рэштка падзеліцца амаль цалкам, пакінуўшы ў дзесятковым дробе ды на першым месцы нуль (0,0...), а ў непрыдатных выпадках дасць нейкія лічбы, таму што павелічэнне дробавай рэшткі больш чым на ±0,1 будзе азначаць, што Марс аддаліўся ад дадзенага нам месцавання не менш чым на адно задыякальнае сузор'е і таму аспрэчвае дасьледуемую намі дату. Гэтыя рэшткавыя дробы і прыведзены мной у трэццім слупку табліц XX і XXI і мы бачым, што **вылічэнне дало нам толькі сакавік 568 года**, для пабудовы сьцен гэтай залы, роўна праз 200 гадоў пасьля вылічанага намі часу слупавання евангельскага «настаўніка», якраз пад час валадарання ў Ягіпце і Візантыі знакамітага будаўніка храмаў Юстыніяна.

Вызначым жа і сам дзень года. Месяц паказаны ў Рыбах, пазначаючы сакавіцкі маладзік, а вылічэнні з дапамогай прыкладзеных у IV кнізе «Хрыста»

табліц[4] паказваюць, што гэты маладзік быў 15 сакавіка 568 года. Хрысьціянская вялікодная нядзеля была ў тым годзе 1 красавіка. Праўдзівасць атрыманай тут намі даты можна падмацаваць передусім з дапамогай Венеры, якая ў дадзеным выпадку паказана ў Авене, і гэта вельмі лёгка зрабіць.

Мае ўдакладняючыя астранамічныя табліцы ў IV кнізе «Хрыста» з дапамогай некалькіх простых дадаванняў і адыманняў даюць адказ: Венера была якраз пад Авенам (каля 37° даўготы згодна з сучаснымі каардынатамі) г.азн. там, дзе яна і пазначана дзвума дзяўчынамі (мал. 134).




Мал. 134.
Круглы дэндэрскі задыяк згодна з удакладняючымі вылічэннямі Н. А. Марозава. Усе планеты павінны знаходзіцца ў тых сузор'ях, якія падкрэслены, як гэта і было 15 сакавіка 568 года нашай эры.

Падмацуем гэта яшчэ раз з дапамогай Меркурыя. Тыя ж удакладняючыя табліцы паказваюць, што Меркурый знаходзіўся пад час дадзенага дня ў Рыбах, бліжэй да Вадаліва (каля 360° сучаснай даўгаты). На гэтым самым месцы мы і знаходзім якраз выяву двухаблічнага Януса, яго ягіпецкага знака.

Праверачныя вылічэнні такога нечаканага выніку былі мной зроблены грунтуючыся на табліцам Нейгебауэра, а Н. І. Ідэльсон зрабіў іх з дапамогай табліц М. А. Вільева. Вось яго высновы, блізка падыходзячыя да маіх, і даючыя тыя ж месцаванні планет па сузор'ях (табл. XXII).

ТАБЛІЦА XXII.
Круглы дэндэрскі задыяк. (Кантрольнае вылічэнне Н. І. Ідельсона.)

| Дата 15 сакавіка 568 года, каардынаты 1900 г. | | |
|---|---|---|
| Сатурн | 198˚1 | Панна, бліжэй да Шаляў як і пазначана двума фігурамі, адна пад Паннай, а другая ззаду Панны, наперадзе ад Шаляў. |
| Юпітар | 135˚0 | Рак, бліжэй да Ільва, цалкам задавальняюча: адна фігура пад Ракам, а другая над Ракам, бліжэй да Ільва. |
| Марс | 302˚3 | Казярог, як і паказана з дапамогай 2-х фігур над галавой і на спіне |

[4] Яшчэ прасьцей вызначаць маладзікі карыстаючыся табліцамі сонечных зацьменняў у V кнізе «Хрыста». Там на кожны год прыпадае па два зацьменні, адбываючыяся якраз пад час маладзікоў. Бяром самае блізкае з іх, у дадзеным годзе ранейшае. Калі яно адбылося, напрыклад, 15 сакавіка, то наступнае будзе 14 красавіка, наступнае 13 траўня і г.д., для кожнага месяца, акрамя сакавіка – патрэбна адкідаць адзін дзень, а ў сакавіку, у простым, не высакосным, годзе патрэбна дадаць 1 дзень параўнальна з лютаўскім маладзіком.

| | | |
|---|---|---|
| | | Рака. |
| Венера | 36˚1 | Авен, каля сярэдзіны, як і паказана з дапамогай парачкі жаночых падарожніц пад Авенам. |
| Меркурый | 5˚0 | Рыбы, каля сярэдзіны Рыб, але дзякуючы таму што сярэдзіна ўжо занята Сонцам, Месяцам і знакам роўнадзенства, Мяркурый нехаця размешчаны наперадзе, бліжэй да Вадаліва, як і было |
| Сонца | 16˚44 | Рыбы, каля сярэдзіны, як і паказана колам над Рыбай, з вокам пасярэдзіне яго. |
| Месяц | | Рыбы, як і пазначана. |

Чытач сам бачыць, што на рэчаісным небе 15 сакавіка 568 года ўсё было так, як паказана на круглай скульптуры.

**3-і спосаб рашэння Круглага задыяка**. Яшчэ больш цікавае самастойнае рашэнне той жа нашай даты дае нам размешчаная пад задыякальнымі сузор'ямі каля Рака працэсія, ідучая ад **знака сьмерці Скарпіёна да знака жыцця – веснавога Авена.** Узначальвае яе стройны высокі юнак (пад Цялём) таксама з кіем у адной рука, як у планет, і з бічом – у другой руцэ. Гэта павінна быць нейкае рухомае сьвяціла і прытым вельмі вялікага памеру, і не із планет, якія не выходзяць за пояс Задыяка. Гэта азначае – у 568 годзе была бачнай яшчэ і вялікая камета.

Яна паказана ідучай ад Скарпіёна да Авена, відаць, на працягу дзевяці дзесяціднёвак з рэштай роўнай некалькім дням, таму што ў ёй дзевяць вялікіх фігур і адна маленькая – у выглядзе птушачкі (мал. 132, стар. 658 і мал. 133, стар. 664).



Вельмі цікавым з’яўляецца выгляд яе фігур. За птушачкай змешчаны скіпетр з сокалам седзячым на ім, які каранаваны першасьвятарскім галаўным уборам у якасьці пазнакі высокай годнасьці таго, хто кіруе такой працэсіяй. За ім плыве ў лодачцы багіня ўрадлівасьці Ізіда ў выглядзе каровы з зоркай над рагамі. За ёю ідзе дзяўчына з нацягнутым лукам, за дзяўчынай едзе, седзячы на пасадзе, жанчына з двума пахавальнымі ўрнамі ў руках і на накрыўцы кожнай урны вы з новым здзіўленнем бачыце **крыжы – знакі хрысьціянства**. За ёю вынікае Анубіс, грэцкі Харон – праваднік памёршых, са сваёю касой сьмерці, за ім Леў, пад пярэднія лапы

якога пастаўлена таблічка, такая ж, як і пазначаўшая Сонца пад Авенам, што ў дадзеным выпадку паказвае на жнівень. А за ўсімі з маленнем ідзе на задніх лапах шакал у сьвятарскім капялюшыку.

Усё гэта пазначае, што ў 568 годзе было нададзена выключнае значэнне нейкай камеце накшталт той, што ў Бібліі прыпісвалася арханёлу Гаўрыілу, інакш яна б не патрапіла ў дэндэрскі задыяк. Бяручы да ўвагі яе шлях ад Скарпіёна да Авена і дзьве ўрны з крыжамі, яе, відаць, атаясамілі ў той час з Езусам, выводзіўшым душы із пекла на неба. Нагадаем, што Авен у Апакаліпсісе Яна таксама пазначае ўкрыжаванага Езуса, ды і тут мы бачым на абадку выяву Авена з 12 зоркамі перад галавой: знак 12 апосталаў. Гэта азначае і гэты надпіс паказвае на час пасьля так званага «ажывання Езуса із памёршых», ужо вылічанага намі ў I томе «Хрыста» на 21 сакавіка 368 года.

І вось, карыстаючыся для праверкі «кітайскімі летапісамі», я знайшоў там яшчэ адно, дзіўнае падмацаванне вылічанай мной даты.

Якраз у 568 годзе з’явілася адна із самых выдатных камет і ішла яна менавіта ад Змеятрымальніка і Скарпіёна праз Шалі і Цяля да Авена. Вось як апісваюць яе летапісы Шэ-кэ і Ма-Туан-Лінь, прыведзеныя ў пралогу гэтай самай кнігі і добра апісваючыя нябесным з'явы ад IV стагоддзя нашай эры да XVI стагоддзя, калі яны спыніліся. Вось што паведамляецца там, калі мы пералічым іхную месяцовую храналогію на еўрапейскую.

«*У жніўні 568 года* (калі Сонца із Рыб ужо перайшло ў Ільва, што і паказана на Круглым дэндэрскім задыяку перанясеннем яго шляхавога знака – таблічкі – із сузор'я Рыб пад лапы Ільва) *бачылі камету ў вобласьці галовы і грудзей Скарпіёна, белую, як мука, як ачэскі шоўку. Яна была вялікая і ішла на ўсход. У верасні яна была ў Змеятрымальніку, павялічыўшыся ў даўжыню да 40 локцяў. Яна зрабілася падобнай на дыню і прайшла праз вобласьці Вадаліва і Пегаса. У кастрычніку яна зайшла ў вобласць Андрамеды і Рыб, потым у вобласць Авена і знікла там*».

Менавіта гэты накірунак ад Скарпіёна да Авена і паказвае працэсія, якая схематызавана ў вольным прамежку паміж дзесяціднёўкамі на абадку і высока паднятымі над ёю верхнімі сузор'ямі Задыяка. Заўважым, што гэтая ж камета апісана і ў прароцтве «Данііла» пад назвай палаючай рукі, напісаўшай на сьцяне нябеснага палаца фатальны надпіс: Мані-Факел-Фарэс (Змеятрымальнік, Шалі, Пярсей).

Зараз нам застаецца толькі разгледзець цэнтральныя фігуры Круглага дэндэрскага задыяка. Полюс сьвету пазначаны, замест сучаснай Малой Мядзьведзіцы, сярэдзінай Біча, на якім стаіць звярок, накшталт ліскі (мал. 133 натр. 664).

Полюс экліптыкі, замест сучаснага Цмока, пазначаны Мядзьведзіцай з нажом, як бы здзяйсняючай ахвяраванне. А насупраць яе, па іншы бок Палярнай зоркі (Біча), знаходзіцца і ахвяра – нага Целяці, на месцы сучаснага сузор'я Жырафы. Пад ёй малюсенькая выява Авена ў адзнаку таго, што ахвяраванне яму здзейснена ў велікодны тыдзень і тут жа стаіць нейкі жрэц з малатком у руцэ (нагадваючы Юду Макавея, таму што Макавей азначае па-жыдоўску: молат).

Ад Сонца да Змеятрымальніка над Скарпіёнам намалявана іншая ахвярная працэсія, якую вядзе падарожнік (відаць, другі знак Марса) і ў якой фігуруюць сокал, ібіс, дзьве лані, адна абезгалоўленая, а другую трымае за рогі суправаджаючы яе чалавек. Чаму яна тут намалявана? Атрымліваецца, што яна

пазначае другую, меншую камету 568 года, якую тыя ж два летапісы – Шэ-кэ і Ма-Туан-Лінь – апісваюць у такім выглядзе:

«*21 ліпеня 568 года з'явілася камета ва ўсходняй частцы Двайнят, роўная 10 локцяў даўжыні, белая зверху і чырванаватая знізу, яна заканчвалася лязом* (як нож) *і ішла на ўсход. 19 жніўня яна прайшла вышэй вобласьці Рака, маючы* $^{9}/_{10}$ *локця даўжыні і знікла*».

Гэта і ёсць нож у руцэ Мядзьведзіцы, таму што яна знаходзіцца на небе амаль над сузор'ем Рака.

Мы бачым, што час гэтых камет, хаця і быў у тым жа 568 годзе, які дае і гараскоп, пазначаючы месцаванне планет пад час вяснавога раўнадзенства гэтага года, але ён выяўляецца больш познім на некалькі месяцаў! І гэта азначае, што гараскоп пазначае час закладкі гэтай пабудовы, а не яе заканчэнне.

Іншыя дробязі Круглага дэндэрскага задыяка, мне няма тут часу разбіраць, і таму я скажу толькі адно: **яго фігуры некалькімі, незалежнымі адзін ад аднаго спосабамі прама і безумоўна прыводзяць да адной і той жа даты – 568 года нашай эры**. Яна для мяне самога была ў той ранні час маіх дасьледаванняў да такой ступені нечакана позняй, што я выдаткаваў некалькі месяцаў, спрабуючы знайсьці рашэнні пад час больш ранніх стагоддзяў, але не знайшоў у іх нічога прыдатнага і таму павінен быў прыйсьці да пераканання, што Дэндэрскі храм у тым выглядзе, якім мы яго маем, быў закончаны будавацца, ці нават проста пабудаваны не Тыверыем Рымскім, а Юстыніянам Рамейскім (г.азн. візантыйскім) у 568 годзе.

# Глава IV.
## Доўгі Дэндэрскі задыяк.

Паглядзім зараз і на доўгі дэндэрскі Задыяк.

І ён не ўяўляе сур'ёзных цяжкасьцяў для вока, знаёмага са старажытнай астралагічнай сімвалістыкай. Фігур на ёй шмат, але яны цалкам зразумелыя (мал. 135).

Доўгі дэндэрскі задыяк (5 траўня 540 года) згодна з Бадэ.

Мал.135

На столі абедзьве гэтыя палосы злучаны ў адзіную скульптуру, г.азн. верхняя палоса павінна б тут быць перавёрнутай нізам угару і правым канцом налева, апісаўшы паўакружнасць. Але яны падзелены мной, каб верхнія фігуры не стаялі дагары нагамі, што не зручна для дасьледавання. Усе лічбы і надпісы дададзены мной.

Гэты Задыяк носіць усе прыкметы ужо ідэалагічна распрацаванага і пануючага хрысьціянства. Такі храм мог быць пабудаваны толькі на сродкі магутнага хрысьціянскага ўрада, г.азн. не раней царавання ў гэтай краіне візантыйска-ягіпецкіх імператараў. Тут год заканчваецца ўзыходам на ўсходзе сузор'я Яслі Хрыста ў сузор'і Рака пасьля заходу Сонца ў Казярогу за заходні небасхіл і патухання барвяніцы зарыва і яму прысвечаны эпагамены: маленькая лодачка ў ніжнім левым куце, вязучая змейку, пад якой у нас дададзены 365 дзень года, яна вязе апошнія 5-6 дзён года, а астатнія 36 лодак вязуць астатнія 360 дзён па дэкадзе (г.азн. дзясятку) у кожнай. Паміж апошнім 365 днём старога года і першым днём новага года, у тым месцы, дзе знаходзіцца цесная купка маленькіх зорачак, і да гэтага часу маючых назву «Яслі», змешчаны канец жывата Богамаці (Нут), каля якога Сонца аблівае сваімі праменямі галаву нованароджанага Хрыста, з рожкамі Авена замест вушэй і ў кароне. З аднаго боку на яго глядзіць гноевы жук – знак ажыванння із нябыту, а з другога – у асобнай лодачцы плывуць тры вешчуны.



Прымаючы, як факт, што сузор'і Задыяка лічыліся за раўнамерныя па 30-ці-дзённым пераходам Сонца (выключаючы Рака з яго надмернымі пяццю-шасьцю днямі-эпагаменамі) і змяшчаючы пачатак тагачасных экліптыкальных даўгот пры 0˚ пры пераходзе із Вадаліва ў Рыб, атрымліваем нумарацыю градусаў экліптыкі (у каардынатах 1900 г.), як яна дадзена мной пад кожнай паласай. Тады атрымліваецца наступнае. Верхняе сонцастаянне намалявана на 105˚ нашага злічэння, замест 90˚ і пазначана плывучым са змейкай на галаве, а над ім, у Двайнятах, зорны Вянок. Ніжняе сонцастаянне над 287˚9 сучаснай экліптыкальнай даўгаты замест 270˚, намалявана плывучым таксама са змейкай і Сонцам на галаве і вышэй паказана ахвяраванне Казярога пасьля заходу Сонца ў гэты дзень, калі на ўсходзе ўзыходзяць Яслі Хрыста. Восеньскае раўнадзенства каля 189˚3 экліптыкальнай даўгаты замест 180˚, паказана змяёй у адзнаку таго, што тут перавіваюцца нябесны экватар і экліптыка, і плывучым з кветкай на галаве, а веснавае раўнадзенства паказана як звычайна ў выглядзе таблеткі з выявай радкоў пуцяводнага надпісу і пад ім плывучым таксама з кветкай на галаве, гэта ў сярэднім на 16˚ больш нармальнага і паказвае на VI-VII стагоддзе нашай эры, не раней.

Звяртае на сябе ўвагу: 1) чалавек без галавы над 347˚ у сьвіце Вадаліва, знака Мікалая Хрышчэльніка, нагадваючы гэтым яго абезгалоўленне, пры гэтым нясуць у ахвяру казляня і суправаджае Сатурна, але без зоркі над галавой у якасьці пазначэння таго, што гэта не планета. 2) Лодачка з трыма крыжамі-слупамі і знакамі казы над імі: адсечанай рукой і галавой, паміж 258˚ і 268˚ экліптыкальнай даўгаты якраз у тым месцы, дзе Змеятрымальнік (знак ажыўшага Хрыста) топча нагой сузор'е сьмерці – Скарпіёна. Гэта відавочная выява слупавання евангельскага «Ратавальніка» паміж двума разбойнікамі, і паднімаецца сакавіцкай поўначчу на ўсходзе падчас Хрысьціянскага Вялікадня, калі Авен зайшоў на захадзе пад небасхіл. 3) Шмат над (?) 85˚, дзе сапраўды самае яскрава-зорнае месца неба і сузор'е Арыёна.

Планеты паказаны (у выглядзе падарожнікаў з кіямі ў руцэ): 1) у верхнім шэрагу першай палосы Сатурн (паміж 209˚-228˚) і Месяц каля 238˚, і 2) у верхнім шэрагу ніжняй палосы: Сонца на рагах Цяляці (75˚-85˚), Меркурый каля 75˚ ці каля 85 (нябачны за Сонцам), Венера ў прамянях ранішняга світання, пазначаная зорачкамі над Авенам (каля 55˚), і Юпітар (каля 36˚)



Малюнак Доўгага Задыяка ў напалеонаўскім альбоме.
Малюнкі (важна!!) не супадаюць... абодва малюнкі, а не фотадакумент.

У **ніжнім шэрагу Доўгага задыяка** пазначаны дзесяціднёўкі ў выглядзе бажкоў з кіямі, плывучымі ў лодачках у накірунку ад ног да галавы богамаці – багіні Неба – Нут, – намаляванай пад імі, пачынаючы ад сузор'я Рака, кульмінаваўшага тады ў студзені (і што самае цікавае – у гэты ж самы час жыў і Дыянісій Малы, памёршы ў 556 годзе нашай эры і ўпершыню вылічыўшы з дапамогай астралагічнага спосаба час нараджэння Хрыста на 25 снежня 1-га года нашай эры).

Усе лодачкі плывуць у накірунку здаючагася для нашага вока сутковага абарачэння неба вакол Зямлі, г.азн. адваротна пасьлядоўнасьці сузор'яў Задыяка, прыстасаванай да руху Сонца паміж зоркамі, і таму лічыць гэтыя дзесяціднёўкі трэба, вядома, грунтуючыся на пасьлядоўнасьці задыякальных фігур, г.азн. адваротна накірунку руху лодачак, справа налева.

Першыя тры лодачкі, у верхнім правым куце, вязуць тры дзесяціднёўкі жніўня, пад час калі апоўдні кульмінуе Леў. Наступныя тры лодачкі – тры дзесяціднёўкі верасня калі апоўдні кульмінуе Панна, разам з Сонцам. Наступныя за імі тры лодачкі – тры дзесяціднёўкі кастрычніка, калі апоўдні кульмінуе знак суду – Шалі, а ў полымя вечаровага зарыва апускаецца грэцкая анаграма Хрыста – Рыба. У трынаццатай лодачцы (г.азн. калі апоўдні пачынае кульмінаваць знак сьмерці Скарпіён, а апоўначы Авен, забіты за грахі людзей, знак евангельскага Хрыста) ніякіх дзесяціднёвак не паказана, а пастаўлены **тры крыжы, адлюстраванне евангельскага падання пра пакаранне сьмерцю Езуса паміж двума разбойнікамі на Галгофе, і над крыжамі – прылады пакарання сьмерцю**. Побач і яшчэ плыве лодачка без дзесяціднёвак, з мядзьведзем, седзячым на Месяцы, г.азн. пазначэннем месяцовага зацьмення, якое, азначае, як і згодна з паданнямі VI стагоддзя суправаджала слупаванне заснавальніка хрысьціянскага набажэнства. Магчыма, што нагодай да яго выявы тут паслужыла частковае месяцовае зацьменне 9 студзеня 540 года, адбыўшаяся ў 20 гадзін 11 хвілін ад грынвіцкай поўначы, г.азн. якраз каля поўначы ў Ягіпце, з максімальнай фазай 5"5 (пры гэтым была зацемнена ніжняя палова Месяца) якраз у саміх Яслях (у сузор'і Рака). Яна пазначае ўжо 13-ю дзесяціднёўку, заканчваючуся 130-м днём года. Апошняя 18-я лодачка прыводзіць нас да летняга сонцастаяння, калі Сонца заходзіць у яслі Хрыста, маляваўшыяся на астралагічных мапах у сузор’і Рака, а апоўначы кульмінуе Стралок.

Потым на Доўгім Дэндэрском задыяку намаляваны твар ягіпецкай богамаці, багіні Неба – Нут, зараз маючай у нас празаічнае найменне Млечны Шлях, тады як старажытныя ягіпецкія астролагі бачылі ў гэтых невыразных сьветлых плямах папярок неба прасьветы вялікай багіні, распасьціраючайся праз усё неба ад краю да краю і пакрываючай сабой зямлю. Пад яе нагамі плыве на небе карабель Арганаўтаў і зіхаціць Сірыус, яе сцёгны ўпрыгожаны зоркамі Двайнят, Цяляці і Арыёна, над галавой (цёмныя валасы якой адлюстроўваюць пазбаўленую зорак прастору Млечнага Шляху, маючую зараз празаічную назву Вугальны Мяшок) лунае сузор'е Лебедзя, а дзьве працягнутыя да гарызонту рукі распасьціраюцца да яе сына Змеятрымальніка трымаючага Змея-Спакусніка.

Заканчэнне 180-га дня года пазначана васямнаццатай лодачкай дзесяціднёвак, і злічэнне астатніх васямнаццаці нармальных лодачак пераносіцца на другі бок той жа богамаці – маці ўсіх богаў – багіні Нут, намаляванай другі раз (гл. ніжнюю палосу на мал. 135).

Дзякуючы памылцы мастака, звяртаўшага асаблівую ўвагу толькі на сіметрыю, лодачкі плывуць ужо не згодна з суткавым рухам неба, а наадварот, адпаведна ходу планет сярод знакаў Задыяка[5]. Але гэта не перамяняе сутнасьці справы. Каля рук багіні, г.азн. у разгалінаванні Млечнага Шляху, кульмінуе пад час студзеньскай поўначы 19-я дзесяціднёўка, якая заканчваецца 190-м днём года, прыводзіўшым да 1 дня лютага пры трыццацідзённым злічэнні ўсіх месяцаў. А 36-я дзесяціднёўка, як і варта, зноў заканчваецца амаль каля ног багіні Нут там, дзе каля іхнага пачатку, як і зараз, блішчыць Сонца ў ліпені, калі яго прамені робяцца самымі пякучымі.

Але самай цікавай для нас тут з'яўляецца апошняя маленькая дадатковая лодачка, вязучая невялікую змейку. Яна выразна пазначае застаючыяся 5-6 дзён года пасьля яго 36 дзесяціднёвак, і гэтая лодачка выяўляецца адлучанай ад астатніх яшчэ асобнай лодкай, у якой сядзяць на пасадах два падарожнікі з сонцамі, зіхацячымі ў лотасавых кветках на іхных галавах, а трэцці падарожнік у першасьвятарскай шапцы стаіць на носу лодкі наперадзе ўсіх (гл. левы ніжні канец мал. 135).

Гэта ўяўляе поўную процілегласць ужо пазначанай лодачцы з трыма крыжамі і знакамі пакарання сьмерцю зверху, і сімвалізуе нейкую вялікую штогадовую ўрачыстасць, адзіную ў сваім родзе, і згодна з часам якраз адпавядаючую нашаму «Нараджэнню Хрыста», ад якога сучаснае злічэнне дапасуе пачатак года ўжо не за 5-6 дзён, як тут, а на цэлы тыдзень, так, каб новы год прыпадаў на той жа дзень тыдня, як і Каляды. Гэтыя плывучыя постаці вельмі падобны на трох евангельскіх вешчуноў.

Цікава таксама адзначыць, што лодачкі 27-й і 28-й дзесяціднёвак (із якіх першая кульмінацыйна заканчвае апоўначы сузор'е Рыб і апошнюю вераснёўскую дзесяціднёўку, а другая пачынае Авена) з'яўляюцца адзінымі, вязучымі голых дзяўчынак, седзячых на кветках лотасу, пры гэтым у пярэдняй дзяўчынкі на галаве Месяц. Адзнакай дзіцячага ўзросту тут служыць адсутнасьць грудзей і рука, пакладзеная ў рот (сярэдзіна малюнка 135).

Пакінуўшы ўбаку дэталёвае разбіранне астралагічных падарожнікаў у іншых дзесяцідзённых лодачках, я зраблю толькі пакуль агульную выснову із іх. Гэта каляндар нейкай рэлігіі, вельмі падобнай на старажытна-хрысьціянскую, відаць,

[5] Так намалявана на старажытным малюнку ва Ўранаграфіі Бадэ, якім я карыстаўся, маючы ў дадатак да яго маленькі здымак, прыкладзены да кнігі Франца Боля: Sphaera.

арыгеніцкага тыпу, г.азн. з моцным астралагічным адценнем. І мы можам зараз жа зрабіць наступную выснову із гэтага календара: **ён паказвае на час поўнага развіцця хрысьціянска-месіянскай культуры ў Ягіпце**. Гэта з’яўляецца новым ўскосным падмацаваннем правільнасьці маіх папярэднічаўшых астранамічных высноваў (хаця яны і не маюць патрэбы ў падмацаваннях). Паспрабуем зараз вылічаць і час грунтуючыся на верхнім шэрагу фігур гэтай скульптуры.

* * *

**1-ы спосаб рашэння Доўгага дэндэрскага задыяка.** Хаця яго кавалак паміж фігурай Ільва і Панны з Коласам сапсаваны, але гэта не перашкаджае нашаму заданню астранамічнага вызначэння часу. Відаць, што за Ільвом была звычайная фігура, трымаючая яго за хвост, як і ў круглым Задыяку, а за ёю знаходзілася нейкая істота са змеем ззаду, цалкам не маючая значэння для нас. Усе іншыя фігуры цэлыя і вельмі простыя, нягледзячы на сваю шматлікасць.

За Ільвом і Паннай мы лёгка атаясамляем фігуры іншых сузор'яў, пры гэтым каля кожнага з іх размешчаны дзьве дзяўчыны (большай часткай адна спераду, а другая ззаду) і значэнне іх дваякае: іх 24, і яны сваёй колькасьцю адлюстроўваюць 24 гадзіны сутак, сведчачы, што і тады ўжо існавала такое дзяленне часу. А разам з 12 фігурамі Задыяка яны зноў утвараюць $36^{1}/_{2}$ дзесяціднёвак, як і на абадку.

Пачнём з сузор'я двух Рыб. Паміж імі мы зноў бачым чатырохкутную таблічку з хвалістымі выявамі радкоў, пазначаючую сабой, што раўнадзенства ўжо было, як і зараз, у сузор'і Рыб, а не ў Авене, як да пачатку нашай эры (мал. 135).

Зноў падмацаванне даты, знойдзенай з дапамогай усіх папярэднічаўшых спосабаў. Гэта эпоха не раней IV стагоддзя нашай эры. Дзяўчына першых 10 градусаў сузор'я Рыб стаіць направа ад іх; самі Рыбы пазначаюць другое дзесяціградуссе, і другая дзяўчына налева – трэццяе. Потым, у коле, стаіць чалавек з хвастом, прапануючы ахвяру.

За ім размешчаны Юпітар з тыповым планетным кіем і пышным першасьвятарскім уборам на галаве, такім жа, што і на круглым Задыяку, але без зоркі над ім у якасьці пазначэння яго нябачнасьці ў праменях Сонца.

За Юпітарам ідуць першая і другая дзесяціднёўкі, ці дзесяціградуссі Авена, у выглядзе двух дзяўчын, а перад імі сам Авен уяўляючы трэццяе дзесяціградуссе. Ён увесь абсыпаны зоркамі – знакам таго, што ён узыходзіў у ззянні ранішняй барвяніцы, якую цяжка было інакш адлюстраваць на скульптуры.

За Авенам ідуць з кіямі вечаровая і ранішняя зоркі, тыя ж самыя, што на круглым Задыяку, а за імі ранішнія і вечаровая барвяніца у выглядзе двух зросшыхся спінамі звяркоў з Сокалам на галаве. Тут, без якога б то ні было «вока», акрамя некалькіх дзясяткаў мігацячых зорак-вачэй, дадзена месцаванне Сонца, месцазнаходжанне якога складальнік гараскопа не ўмеў вызначыць больш дакладна сярод зорак»

Па іншы бок Зорак ідзе Меркурыі, у выглядзе двухаблічнага Януса, такога ж, як і на Круглым задыяку.

За ім ідуць два першых дзесяціградуссі Цяляці, а трэцяе пазначае сам Меркурый з нованароджаным Месяцам на спіне.

Потым нейкі чалавек у першасьвятарскім уборы нясе змея, ідучы за другім чалавекам з кіем блукаючага сьвяціла – знакам каметы на вечаровым небе. Потым ідуць дзьве дзяўчыны – два першыя дзесяціградуссі Двайнят, а трэццяе пазначаюць яны самі і прытым са **знакам Сонца на змеі**, ляжачым на галаве аднаго із Двайнят, што з'яўляецца пастаянным знакам сонечнага зацьмення і таму дае магчымасць

вызначыць час, тым больш, што паказана і сузор'е, у якім яно адбылся. І вось, зірнуўшы на чэрвеньскія зацьменні ў V томе «Хрыста», вы зараз жа і знойдзеце, што гэтае зацьменне адбылося 20 чэрвеня 540 года на 109° сучаснай нам экліптыкальнай даўгаты каля самай сярэдзіны Двайнят. Гэта было знакамітае ў сярэднявечных летапісах зацьменне, пра якое я ужо шмат разоў паведамляў: пачаўшыся ў Атлантычным акіяне, яно прайшло праз Гібралтарскі пралів у італійскі Рым перад поўднем, а потым прайшло праз Балканскую паўвыспу, дзе жыў тады Юстыніян, і было вечаровым каля выспы Барнэа. А ў Ягіпце яно было бачна ў моцнай фазе перад поўднем. Аднаго такога факта было б дастаткова, каб прызнаць Доўгі Дэндэрскі задыяк належачым да 540 года нашай эры. Але мы і яшчэ знойдзем выдатныя доказы таго ж.

Пасьля Двайнят ідзе дзяўчына – першае дзесяціградуссе Рака. Потым плыве ў лодачцы ўжо знаёмы нам юнак з кіем – нейкая камета. За ім плыве, у выглядзе каровы, Ізіда, а далей Вадаліў з Юпітарам, але ўся гэтая працэсія паказана не ў выглядзе неад’емнай часткі асноўнага гараскопа, а менавіта ў якасьці староннага, надзвычайнага дадавання да яго.

Мал. 136.
Розныя выявы каля Доўгага Дэндэрскага задыяка, дзе фігуруюць: Святы дух у выглядзе голуба (два разы), гноевы жук з Сонцам – знак жыцця, адраджаючагася із тлення, панна з немаўлём і сузор'е Крылатага каня – знак вясны.

Мал. 137.
Выява жахлівага суда на столі Доўгага Дэндэрскага задыяка. Сведкі сведчаць перад Хрыстом на пасадзе, добрыя і злыя справы ўзважваюцца на шалях. Анёл з ключом-крыжам у руцэ вартуе дзьверы рая. (Крыж дакладна такой жа формы як у сярэднявечных коптаў-хрысьціянаў, гл. далей.)

Далей павінен бы знаходзіцца Рак, але замест яго намаляваны твар немаўляці ў дыядэме з растучымі авечымі рожкамі. Увесь твар заліты прамянямі Сонца, а пад ім – выява пасада ці ахвярніка. Усё гэта зноў нагадвае пра легенду, што Езус нарадзіўся пад «яслямі» гэтага сузор'я, замест якога, як знак другога дзесяціградусся, пададзены толькі сьвяты ягіпецкі гноевы жук, знак жыцця, адраджаючагася із тлення. Потым, ужо на другой палове скульптуры, ідзе і трэцяе дзесяціградуссе Рака, у выглядзе дзяўчыны пад нагамі багіні Нут.

Першае дзесяціградуссе сузор'я Ільва пазначае ён сам, стоячы на Гідры, і за ім была пастаўлена нейкая фігура, за якой размешчаны выгінаючыся Змей і толькі трэцяе дзесяціградуссе Ільва дадзена ў выглядзе звычайнай дзяўчыны.

У якасьці апошняга дзесяціградусся сузор'я Панны пазначана яна сама са сваім коласам у руках і перад ёю знаходзяцца два астатнія дзесяціградуссі Панны.

За ёю, як і на Круглым задыяку, намалявана планета Сатурн, у выглядзе бога Анубіса з шакаліным тварам, з зоркай на галаве ў якасьці пазначэння бачнасьці і з птушкай за спінай.

Потым размешчаны Шалі, у якасьці пазнакі апошняга дзесяціградусся таго ж сузор'я, за імі бачна пасярэдзіне поўнага Месяца дзяўчына з вымяраючым кіем і з птушкай на ім, у якасьці пазначэння супрацьстаяння Месяца (якое магчыма ў Шалях толькі пры Сонцы ў Авене).

Перад апошнім дзесяціградуссем Скарпіёна, пададзеным у выглядзе яго самога, размешчана вельмі дзіўная фігура: нейкі хвастаты звер у першасьвятарскім галаўным уборы і з двума чаркамі, набадобе прычашчальнай, у руках. А за Скарпіёнам размешчаны шакал, змей і сокал, зноў побач з другім і трэццім дзесяціградуссем гэтага сузор'я, у выглядзе звычайных дзяўчын.

Потым размешчаны Стралок, як сімвал свайго першага дзесяціградусся, а размешчанае пад яго нагамі лодкападобнае напісанне пазначае ніжняе сонцастаянне.

Вось зноў новае астранамічнае ўказанне: ніжняе сонцастаянне было паміж Скарпіёнам і Стралком. Гэта не больш як градусаў на 20 бліжэй да Скарпіёна і адпавядае прамежку часу ніяк не перавышаючаму 1500 гадоў да нашых дзён, г.азн. **ніяк не раней 400-га гада нашай эры**.

За Стралком размешчаны, у выглядзе двух дзяўчын, другое і трэццяе яго дзесяціградуссе, а паміж імі забіваюць міфалагічнага звера, якога трымае на ланцугу сабака.

За імі размешчана фігура Казярога, як прадстаўніка яго другога дзесяціградусся, над ім птушка, а за ім сто трэццяе дзесяціградуссе ў звычайным выглядзе дзяўчыны. І тут рад абрываецца... Наступная фігура ў Казярогу пададзена ужо ў выглядзе голай дзяўчыны, перанесенай на другую гемісферу (праз рукі багіні Нут).

За ім і першым дзесяціградуссем Вадаліва размешчана цэлая працэсія: Сатурн, у выглядзе звычайнага Анубіса, маленькі Марс, плывучы на спіне Лебедзя без зоркі на галаве. Яны нясуць у ахвяру казляня, ідзе чалавек без галавы, магчыма сімвал пазбаўленага галавы Яна Хрышчэльніка, сімвалізуемага Вадалівам. Потым пазначана, як ужо было павядомлена вышэй, першае дзесяціградуссе Вадаліва, яго другое дзесяціградуссе і, нарэшце, ён сам, як выява свайго трэццяга дзесяціградусся.

А паміж ім і першым дзесяціградуссем Рыб – планета Марс з зоркай над галавой у якасьці пазнакі бачнасьці.

Тут мы закончылі ўсё кола фігур Доўгага Дэндэрскага задыяка. Мы бачым, што складанасць яго кампазіцыі толькі ўяўляемая, а на самай справе ён надзвычай просты і строга вызначаны: паміж трыццаццю шасьцю знакамі дзесяціградуссяў у ім з’яўляюцца сімвалічнымі: толькі звер з чаркай паміж Шалямі і Скарпіёнам, забойства міфалагічнага звера паміж Стралком і Казярогам, пазбаўленне галавы Вадалівам і Казярогам, шэсьце са змеем, адлюстроўваючае, відаць, камету, прайшоўшую ад Сонца і Цяляці да Двайнят.

**2-і Спосаб рашэння Доўгага Дэндэрскага задыяка**. Планеты тут вызначаны больш чым выразна:

У сьвіце сузор'я Панны, нясучай колас у знак таго, што ў гэты час (г.азн. у сярэдзіне верасня ў V і VI стагоддзях) недзе існавала нейкае жніво, ідзе, як мы бачылі, планета Сатурн, у выглядзе таго ж праважатага памёршых Анубіса з зоркай на галаве, з кіем у руцэ і з сокалам за плячом, а пад кіем на малюнку ў Бадэ выглядае, акрамя таго, яшчэ нешта падобнае на змяю (мал. 135). Выяву Анубіса мы знаходзім яшчэ раз, але ужо без зоркі над галавой і птушкі за спінай, у сузор'і Казярога на другой палове Задыяка, разам з Марсам на Лебядзі, што паказвае на нейкае пакаранне сьмерцю. Для гараскопа ж і вылічэння часу нам, відавочна, патрэбна браць толькі Анубіса з зоркай над галавой і з птушкай, г.азн. у сузор'і Панны.

Такім чынам, Сатурн быў у Панне, як і на Круглым задыяку.

Юпітар мы ўжо знайшлі тут, у выглядзе падарожніка ў сьвятарскім галаўным убранні, падобным на кветку лотаса ў сьвіце сузор'я Рыб і перад ім, у выглядзе кола з дзяўчынай, прапануючай ахвяраванне, паказаны першы вясновы маладзік. Гэта азначае Юпітар знаходзіўся ў задняй частцы Рыб, ужо перайшоўшы на кропку веснавога раўнадзенства. Зоркі над ім тут няма, і гэта азначае, што ён быў нябачным у праменях світання.

Венера ў выглядзе двух багінь, адна із якіх з сабачым тварам, і тут пазначае вечаровую і ранішнюю зоркі ў сьвіце Авена каля Рыб. Каля яе – як і патрэбна было чакаць, мы знаходзім і Меркурый, у выглядзе двухаблічнага Януса ў сьвіце таго ж Авена, але ужо каля самага Цяляці.

Месяц пададзены ў двух выглядах. Першы – у Цяляці пад час перыяду серпападобнай вечаровай бачнасьці (хаця кружок Сонца і сарнаў Месяца, часам малюецца на рагах Цяляці ў якасьці пазначэння таго, што ён падкідае іх ўгару па экліптыцы) і, другі, у поўным выглядзе ў сузор'і Шаляў, побач з іхнай выявай. Яна пададзена там у выглядзе поўнага кола, пасярэдзіне якога стаіць дзяўчына з кіем – знак планеты. Гэта не тая дзяўчына, якая звычайна малюецца ў кубку над Шалямі: яна тут намалявана асобна і за Шалямі. Гэта жаданне асабліва звярнуць нашу ўвагу на поўню, як у хрысьціянскай пасхаліі. Гэта азначае для вылічэння часу нам патрэбна шукаць поўню ў Шалях.

А дзе ж быў Марс? – На Круглым задыяку ён пазначаны падарожнікам з сакаліным тварам, з зоркай над галавой, без якіх бы то ні было ўпрыгожванняў, акрамя кальчужнага шлема, і з крукападобным кіем у руках, знакам кожнага рухомага сьвяціла. І тут, як мы бачылі, існуе гэтая фігура. Яна ў сьвіце Рыб. Гэта азначае Марс ішоў па Вадаліву да Рыб.

Такім чынам нам паказана, без якіх бы то ні было двухсэнсоўнасьцей, месцаванне ўсіх планет. Але, як і на Круглым задыяку, тут пазначаны яшчэ і каметы. Да Рака, залітага сонечнымі праменямі, што паказвае на сярэдзіну ліпеня, ідзе ад Цяляці працэсія, суправаджаемая юнаком, нясучым змяю, і другім юнаком з кіем, як у планет. А на іншым баку Двайнят ідзе стройны юнак, перад якім размешчаны скіпетр з сокалам на ім і багіня ўрадлівасьці Ізіда, у выглядзе каровы з зоркай паміж рагоў, а перад ёй выява чалавека, із урны якога цячэ вада, верагодна знак навальніцы і ліўневага дажджу.

Што ж нам дае астранамічнае вылічэнне?

Паглядзім на табліцу XXIII, дзе я разлічыў гэты чатырохкутны Дэндэрскі задыяк ад 1927 года нашай эры да яе пачатку і на табліцу XXIV, дзе я давёў вылічэнне да мінус 316 года.

ТАБЛІЦА XXIII.

Астранамічнае дасьледванне Доўгага Дэндэрскага задыяка.

| Сатурн у сярэдзіне Панны (гелія-цэнтрыч.) | Юпітар у сярэдзіне Рыб (гелія-цэнтрыч.) | Дробы тут пазначаюць адмоўныя рэшткі (г.азн. недахопы поўных зорных абарачэнняў Марса да яго прыходу ў паказаную для яго вобласць паміж Вадалівам і Рыбамі ў юліянскім красавіку (гл. графікі Марса ў IV кнізе «Хрыста») |
|---|---|---|
| 1922.8 | 1927.9 | |
| *1893.4 | 1892.3 | Нястача Марса ў 1892 г. = 0.669 |
| 1863.9 | 1868.6 | |
| *1834.4 | 1833.0 | Нястача Марса ў 1833 г. = 0.570 і ў 1834 г. 0.038. |
| 1805.0 | 1809.3 | (*Паміжсерыяльны прамежак, у якім няма знаходжанняў Юпітара ў Рыбах падчас знаходжання Сатурна ў Панне*). |
| 1775.5 | 1773.7 | |
| 1746.1 | 1750.0 | |
| 1716.6 | 1714.4 | |
| 1687.2 | 1690.7 | |
| 1657.7 | 1655.1 | |
| 1628.2 | 1631.4 | |
| 1598.8 | 1595.8 | |
| 1569.3 | 1572.1 | |
| 1569.3 | 1572.1 | |
| 1539.9 | 1536.5 | |
| 1510.4 | 1512.8 | |
| 1481.0 | 1489.0 | |
| *1451.5 | 1453.5 | Нястача Марса ў 1452 г. = 0.145 |
| 1422.0 | 1429.7 | |
| *1392.6 | 1394.1 | Нястача Марса ў 1393 г. = 0.515 і ў 1394 г.= 0.973. |
| 1363.1 | 1370.4 | |
| *1333.7 | 1334.8 | Нястача Марса ў 1334 г. = 0.884. |
| 1304.2 | 1311.1 | |
| *1274.8 | 1275.5 | Нястача Марса ў 1275 г. = 0.253, а ў 1274 г. = 0.784. |
| 1245.3 | 1251.8 | |
| *1215.8 | 1216.2 | Нястача Марса ў 1215 г. = 0.154 |
| 1186.4 | 1192.5 | |
| *1156.9 | 1156.9 | Нястача Марса ў 1156 г. =0.523, а ў 1157 г. = 0,0993. |
| 1127.5 | 1121.3 | |
| *1098.0 | 1097.6 | Нястача Марса ў 1097 г. = 0.892. |
| 1068.6 | 1062,0 | |
| *1039.1 | 1038.3 | Нястача Марса ў 1038 г, =0.261. |
| 1009.6 | 1014.5 | |
| 980.2 | 978.9 | Нястача Марса ў 979 г. =0.631. |
| 950.7 | 955.2 | |
| *921.3 | 919.7 | Нястача Марса ў 920 г. = 0.000 |
| 891.8 | 895.9 | Тут заслугоўваюць дасьледавання па Венеры і Меркурыю толькі 1394, 1154 і 920 гады |
| 862.4 | 860.3 | |
| 832.9 | 836.6 | (Паміж серыяльны прамежак) |
| 803.4 | 801.0 | |
| 774.0 | 777.3 | |
| 744.5 | 741.7 | |
| 715.0 | 718.0 | |
| 685,6 | 682.4 | |
| 656.1 | 658.7 | |
| 621.7 | 623.1 | |
| 597.2 | 599.3 | Нястача Марса ў 599 г. = 0.649 і ў 598 г. = 0.180 |
| 567.8 | 563.7 | |

| | | |
|---|---|---|
| *538.3 | **540.0** | Нястача Марса ў 540 г.= 0.018, а ў 538 г.= 0.081 |
| 508.8 | 504.7 | |
| *479.4 | 480.7 | Нястача Марса ў 479 г. = 0.440, у 480 г. = 0.919 і ў 481 г. = 0.387 |
| 449.9 | 445.1 | |
| *420.5 | 421.4 | Нястача Марса ў 420 г. = 0.819 і ў 422 г.= 0.756 |
| 391.0 | 397.7 | |
| *361.5 | 362.1 | Нястача Марса ў 361 г. = 0.188 і ў 363 г.= 0.125 |
| 332.1 | 333.4 | |
| *302.6 | 302.8 | Нястача Марса ў 302 г. = 0.557 і ў 303 г. = 0.026 |
| 273.2 | 279.1 | |
| *243.7 | 243.5 | Нястача Марса ў 243 г. = 0.927 і ў 245 г. = 0.863 |
| 214.3 | 219.8 | |
| *184.8 | 184.2 | Нястача Марса ў 184 г. = 0.295 і ў 186 г.= 0.232 |
| 155.4 | 160.5 | |
| *125.9 | 124.9 | Нястача Марса ў 124 г. = 0.196 і ў 125 г.= 0.664 і ў 126 г. = 0.131 |
| +96.4 | +101.1 | |
| *+67.0 | +65.6 | Нястача Марса ў 66 г. = 0.034 і ў 68 г. = 0.971 |
| +37.5 | +41.8 | |
| +8.1 | +6.2 | Тут заслугоўваюць дасьледавання па Венеры і Меркурыю толькі 540/538, 480, 303 і 66/68 гады. |

## ТАБЛІЦА XXIV.

Астранамічная выведка Доўгага Дэндэрскага задыяка да пачатку нашай эры (да -314 года).

| Сатурн пасярэдзіне Панны (геліяцэнтрыч.) | Юпітар пасярэдзіне Рыб (геліяцэнтрыч.) | Дробы тут даюць адмоўныя рэшткі (г.азн. недахопы поўных зорных абарачэнняў Марса да яго прыходу ў паказаную для яго вобласць паміж Вадалівам і Рыбамі ў юліянскім красавіку (гл. графікі Марса ў IV кнізе «Хрыста») |
|---|---|---|
| Да пачатку еўрапейскай эры | | (Паміж серыяльны прамежак) |
| -22;6 | -18;6 | |
| -51;2 | -55;0 | |
| -81;7 | -89;4 | |
| – 110;3 | -113;6 | |
| – 140;8 | – 148;1 | |
| – 169;4 | – 172;4 | |
| – 199;9 | -208;7 | |
| -228 ;4 | -231;0 | |
| -259;0 | -255;3 | |
| -287;5 | -279;6 | |
| -316;1 | -314;0 | |

Мы бачым, што і тут геацэнтрычныя спалучэнні Сатурна ў Панне і Юпітара ў Шалях выявіліся прыпадаючымі амаль на тыя ж стагоддзі нашай эры, як і для круглага Задыяка, спачатку паміж 66 і 599 гадамі, потым паміж 920 і 1453 гадамі, г.азн. доўгі Задыяк, як і патрэбна было чакаць, быў зроблены незадоўга да круглага. Юпітар і Сатурн відавочна сведчаць нам: гэтая скульптура пад час сярэдневечча магла быць вылеплена за ўсю юліянскую эру толькі ў 599, 540, 479, 480, 420, 361, 362, 243, 184, 124 і 66 гадах, а пазней толькі ў 920, 979, 1097, 1156, 1215, 1245, 1334, 1393 і 1452 гадах з магчымасьцю дадавання да кожнага 1 года.

А Марс на табліцы XXIII дадае: «із усіх гадоў, ужо дадзеных тут Сатурнам і Юпітарам для Доўгага Дэндэрскага задыяка, я быў у красавіку на адведзеным для мяне там месцы толькі ў +1394, 1157, 920, 540, 538, 480, 303, 68 і 66 гадах».

Месяц вызначае нам і дзень: яго знаходжанне ў Шалях пры Сонцы прыйшоўшым у Цяля, бывае на 14-15 дзень пасьля красавіцкага маладзіка.

Грунтуючыся на гэтай даце мы можам вылічыць месцаванне Меркурыя і Венеры для паказаных вышэй гадоў.

Увесь працэс нашай гісторыка-астранамічнай выведкі тут ідзе такім шляхам.

Для знойдзеных з дапамогай табліцы XXIII месцаваннем Сатурна, Юпітара і Марса дзевяці магчымых дат Венера і Месяц даюць такія ўказанні:

1) У 1394 годзе красавіцкі маладзік пачаўся каля 28 красавіка, і чатырнаццаты дзень пасьля яго прыпадаў на 12 траўня 1394 года. Венера ў той час была хаця і направа ад Сонца, але толькі каля 10° экліптыкальнай даўгаты, у Рыбах замест Авена. Гэта азначае, што гэтая дата адпадае.

2) У 1157 годзе красавіцкі маладзік пачаўся каля 18 красавіка, і чатырнаццаты дзень пасьля яго прыпадаў на 2 траўня 1157 года. Венера ў той час была, таксама хаця і направа ад Сонца, як паказана, але толькі каля 10° экліптыкальнай даўгаты, г.азн. у Рыбах замест Авена. І гэтая дата адкідаецца Венерай.

3) У 920 годзе, красавіцкі маладзік пачаўся 21 красавіка і чатырнаццаты дзень пасьля яго прыпадаў на 5 траўня 920 года. Венера ў той час была каля 108° экліптыкалыюй даўгаты, г.азн. у Двайнятах замест Авена і далёка ад Сонца, замест таго каб быць направа. Гэтая дата безумоўна аспрэчваецца Венерай.

4) У 540 годзе ўпершыню мы знаходзім усе планеты ў тым месцы, якое пазначана. Красавіцкі маладзік быў 23 красавіка. Месяц прыйшла ў Шалі каля 6 траўня 540 года і тады Венера была ў Авене, а Меркурый у Двайнятах (табліца XXV), цалкам адпаведна са скульптурай Доўгага Дэндэрскага задыяка. Толькі Марс, паказаны там у Рыбах бліжэй да Вадаліва, на нашых мапах неба мясцуецца хаця і ў Рыбах жа, але бліжэй да Авена. Аднак мы не павінны забывацца, што намаляваўшы межы нашых сучасных задыякальных сузор'яў у 1515 годзе Альбрэхт Дзюрэр падоўжыў сузор'е Рыб, грунтуючыся на меркаваннях мастацкасьці, за кошт Вадаліва на цэлых 10°, і таму пазначаная акалічнасць не толькі не служыць пярэчаннем, а, наадварот, папраўкай. Яна даводзіць, што ў VI стагоддзі нашай эры задыякальныя сузор'і лічыліся больш раўнамернымі па сваёй даўжыні, чым гэта даў Дзюрэр.

ТАБЛІЦА XXV.

Чатырохкутны Дэндэрскі задыяк. Месцаванне планет пад час поўні 6 траўня 540 г. Даўготы 1900 г.

| | |
|---|---|
| Сатурн | 212° (Шалі) |
| Юпітар | 22° (Рыбы) |
| Марс | 16° (Рыбы) |
| Венера | 26° (Авен) |
| Меркурый | 82° (Двайняты) |
| Сонца | 65° (Цяля) |
| Месяц | у Шалях |

Аднак паглядзім, ці няма і іншага рашэння.

5) У 480 годзе красавіцкі маладзік быў 26 красавіка і чатырнаццаты дзень пасьля яго прыпадаў на 10 траўня 480 года. Але Венера на працягу ўсёй вясны была налева ад Сонца, у Цяляці, а не направа, у Авене.

6) У 303 годзе маладзікі прыпадаюць на 3 красавіка і 4 траўня. 3 красавіка рана, а чатырнаццаты дзень пасьля 4 траўня прыпадаў на 18 траўня 303 года. Становішча планет было блізкім да паказанага (табліца XXVI), але Венера знаходзячаяся ў Цяляці з боку Двайнят псуе ўсю справу, таму што павінна быць у Авене.

ТАБЛІЦА XXVI.

Чатырохкутны Дэндэрскі задыяк. Становішча планет пад час поўні 18 траўня 303 года.

Даўготы згодна з каардынатамі1900 года.

| | |
|---|---|
| Сатурн | 193° (сярэдзіна Панны) |
| Юпітар | 25° (мяжа Рыб і Авена) |
| Марс | 21° (Рыбы паблізу Авена) |
| Венера | 76° (Цяля за Сонцам) |
| Меркурый | 101° (Двайняты) |
| Сонца | 78° (Цяля) |

7) У 66 годзе маладзік быў 13 красавіка, поўня ў Шалях 28 красавіка 66 года, але Венера была замест Авена ў Двайнятах (каля 92°) пры Сонцы пад 60° у Цяляці, г.азн. па іншы бок ад яго.

8) У 68 годзе красавіцкі маладзік быў 20 красавіка і поўня ў Шалях 5 траўня, але Венера і ў гэты год была замест Авена ў Двайнятах (каля 104°), так што і гэты год адпадае.

Што ж мы тут бачым? Знаходзіцца толькі адно задавальняючае рашэнне ад мінус IV да плюс VII стагоддзя нашай эры: Чатырохкутны Дэндэрскі задыяк дае нам 6 траўня 540 года, за 28 гадоў да Круглага Дэндэрскага задыяка.

Сонца ў Цяляці сведчыць нам, што справа адбывалася ў красавіку ці ў траўні, а Марс згодна з табліцай XXIII дадае: «із усіх гадоў, паказаных Сатурнам і Юпітарам для доўгага Дэндэрскага Задыяка, я быў у красавіку на прызначаным для мяне месцы толькі ў 540 годзе». Месяц вызначае нам і дзень: «мой маладзік,– сведчыць ён, – пры праходжанні Сонцам сузор'я Цяляці, быў толькі 6 траўня».

Гэта азначае Чатырохкутны Дэндэрскі задыяк паведамляе нам пра 6 траўня 540 года. Ён складзены за 28 гадоў да першага. Атрымаўся той жа самы год, які мы ўжо знайшлі і грунтуючыся на сонечным зацьменні ў Двайнятах 20 чэрвеня 540 года!




Мал. 138.

Доўгі дэндэрскі задыяк згодна з ўдакладнячымі вылічэннямі М. А. Марозава. Усе планеты павінны знаходзіцца ў тых сузор'ях, якія падкрэслены, як гэта і мела месца 6 траўня 540 года нашай эры.

Меркурый, вылічаны на гэтыя дні, дае падмацаванне праўдзівасьці рашэння. Ён, як і варта, выяўляецца налева ад Сонца, паміж Цялём і Двайнятамі (мал. 138).

Венера дае другое падмацаванне: яна направа ад Сонца і Авена.

Усё гэта і пазначана ў таблічцы XXVI, уяўляючай вынік кантрольных вылічэнняў Н. І. Ідэльсона на мае вылічэнні, даючыя тыя ж вынікі.

ТАБЛІЦА XXVII.

Доўгі дэндэрскі задыяк. Месцаванне планет пад час поўні 6 траўня 540 года, пры ягіпецка-візантыйскім імператары Юстыніяне(527-565). (Кантрольнае вылічэнне Н. І. Ідэльсона).

Сучасныя даўготы.

| | |
|---|---|
| Сатурн | 212°0 (Панна блізка каля Шаляў) |
| Юпітар | 23°1 (Рыбы блізка каля Авена) |
| Марс | 18°8 (Рыбы) |
| Венера | 33°7 (Авен) |
| Меркурый | 90°6 (Паміж Цялём і Двайнятамі) |
| Сонца | 76°3 (Цяля блізка ад Двайнят) |
| Месяц | у Шалях. |

Усё адпавядае скульптуры.

**Астатнія падмацаванні той жа даты.** Месцаванне раўнадзенства ў сузор'і Рыб, пазначанае ў іх таблічкай, дае трэццяе падцверджанне ці, больш дакладна, самастойнае рашэнне прыпадаючае на гэты ж тэрмін.

Месцаванне ніжняга сонцастаяння, пазначанае пад Стралком лодачкай ці дугой, выпукласць якой накіравана ўніз, дае чацьвёртае самастойнае рашэнне прыпадаючае на гэты ж тэрмін.

Змяя ў Панне, як указанне на месцаванне восеньскага раўнадзенства за дзьве дзесяціднёўкі да ўступлення Сонца ў сузор'е Шаляў, дае пятае самастойнае рашэнне прыпадаючае на той жа тэрмін.

25 снежня пазначана сьвята ў выглядзе лодачкі, у якой першасьвятар вязе двух пасажыраў паміж 360 і 361 днямі года, з сонцамі над галавой, і нараджэнне нябеснай богамаці немаўляці ў яслях дае шостае рашэнне, таму што гэтае сьвята было ўсталявана нават згодна з самімі ж царкоўнымі паданнямі толькі каля 400 года нашай эры, гэта азначае справа адбывалася пасьля таго.

Указанне на камету, ішоўшую ад Вадаліва да Рака, падмацоўваецца і кітайскімі летапісамі. І ў Шэ-кэ і ў Ма-Туан-Лінь на прыканцы 539 года пазначана камета: 17 лістапада яна дадзена ў Стралку, а 1 снежня ў Авене, каля 10 «локцяў» даўжыні. Пад канец лістапада (пры Сонцы ў Скарпіёне) яна павінна была праходзіць і праз Вадаліва, і цалкам магчыма даходзіла да Рака напачатку 540 года.

Ахвяравальная працэсія, калі гэта таксама была камета, падмацоўваецца тымі ж кітайскімі летапісамі.

Тры крыжы, плывучыя ў лодачцы, са знакамі пакарання сьмерцю над імі, і ў суправаджэнні мядзведзя на Месяцы, як знака месяцовага зацьмення, паказвае на трагічную падзею слупавання заснавальніка хрысьціянскай літургіі 21 сакавіка 368 года за 172 гады да гэтай скульптуры.

* * *

Цяжка знайсьці больш прыдатныя рашэнні.

Доўгі Дэндэрскі задыяк да таго старанна задуманы, што пасьля першай яго разгадкі мне нават прыйшло ў галаву, што і само размеркаванне фігур планет паміж дзесяціднёўкамі (ці, магчыма, дзесяціградуссямі) знакаў Задыяка адпавядае іх рэчаіснаму становішчу, існаваўшаму пад час нейкай вызначаючай ночы таго часу. З гэтай мэтай я паспрабаваў знайсьці поўную адпаведнасць месцавання фігур дзесяціднёвак паміж 12-ю звярынымі фігурамі Задыяка. Але выявілася, што поўнай адпаведнасьці тут няма: у адных выпадках, як у сузор'і Рыб, адна дзяўчына стаіць

справа, другая – злева, ад свайго знака Задыяка, а самі Рыбы з'яўляюцца другой сваёй дзесяціднёўкай. У большасьці іншых выпадкаў, як напрыклад у Авене, Цяляці, – фігура звера з'яўляецца сваёй першай дзесяціднёўкай і як бы вядзе за сабой астатнія. Дакладна гэтак жа і фігуры планет размешчаны толькі па прамежках паміж галоўнымі фігурамі і, напэўна, дадаваліся па меры выканання скульптуры туды, дзе было больш зручна ці дзе яны выяўляліся на небе ў дадзены момант, расцягнуўшыся, напэўна, не на адзін тыдзень. Вылічэнне дае тут непазбежна не ўвесь перыяд, а моманты замалёўкі свяцілаў найбольш хутка перамяняючых свае месцаванне, якімі з’яўляюцца Марс, Месяц, Сонца, Меркурый, Венера. Марс жа і Юпітар маглі быць выкананы за некалькі дзён да іх.

Мы не павінны уяўляць старажытнага першабытнага астранома-назіральніка згодна са сваім уласным узорам і падабным на нас. У нас, перад выкананнем такой складанай згодна з колькасьцю фігур скульптуры, майстар зрабіў бы з дапамогай алоўка і гумкі некалькі пробных эскізаў адпавядуючых загадзя складзенаму ў галаве поўнаму плану, а выканальнік, перш чым выканаць, пазначыў бы ўсё гэта на прызначанай пляцоўцы столі адпаведна з папярэдне вылічаным маштабам. У старажытнага майстра не было ні алоўка, ні гумкі, а толькі туш і кіёчак, пэндзаль і фарбы. Папірус быў занадта рэдкім і каштоўным матэрыялам, каб можна было дазволіць сабе яго шчодра марнавіць. Дзякуючы гэтаму было немагчыма захаваць дакладную сумернасць і на малюнку, што асабліва заўважаецца на прыкладзе Круглага Задыяка, дзе для Рака, які маляваўся апошнім, ужо не засталося дастаткова месца, і яго давялося намаляваць надрадкова над галавой Ільва, а не паміж Ільвом і Двайнятамі.

Дакладна так жа і на Доўгім задыяку, напэўна, спачатку былі намаляваны толькі фігуры яго звяроў, а потым дадаваліся дзесяцідзённыя дзяўчыны і планеты не столькі арыентуючыся па нейкую вызначаную сістэму, а, звяртаючы галоўным чынам увагу на захаванне раўнамернасьці ў месцаванні ўсіх фігур, г.азн. аддавалася перавага вонкаваму харастве скульптуры перад яе навуковай дакладнасьцю, як пазьней зрабіў і Альбрэхт Дзюрэр для сучасных нам мап неба.

Нічога іншага немагчыма было і чакаць. Уявіце, што ўсё гэта задумалі і выканалі не сучасныя спрактыкаваныя тэхнікі, а вучні сярэдніх школ, яшчэ напалову знаёмыя як з навукамі так і з мастацтвам і пры гэтым ва ўмовах эканоміі паперы і пры адсутнасьці нават гумкі, каб зьнішчаць няўдалыя спробы. Колькі б дробных недакладнасьцей выявілася б у іхнай працы! А старажытныя малявальнікі і тэхнікі менавіта і былі да старасьці гадоў на школьным узроўні, і таму, разглядаючы Дэндэрскі Задыяк, мы можам толькі дзівіцца іхнай працы.

# Глава V.

## Некалькі думак з нагоды абодвух Дэндэрскіх задыякаў.

Я даў тут вылічэнні і вызначэнні часу Доўгага Дэндэрскага задыяка разнастайнымі спосабамі, кожнае паасобку прыводзячае да адной і той жа даты – 6 траўня 540 года, ці проста да VI стагоддзя. І калі мы дададзім да іх таксама і ўсе рашэнні Круглага задыяка, таксама самастойна і рознымі спосабамі выяўляючыя з дапамогай месцавання роўнадзенства пасярэдзіне Рыб гэтае ж самае VI стагоддзе, а згодна з гараскопам даючыя 15 сакавіка 568 года, роўна праз 200 гадоў пасьля вылічанага такімі ж спосабамі часу слупавання «Вялікага Цара», то толькі чалавек,

абсалютна незнаёмы ні з астраноміяй, ні з матэматычнай тэорыяй верагоднасьці, можа сцвярджаць, што тут магчыма выпадкова простае супадзенне няправільнага тлумачэння фігур з шэрагам рэчаісна існаваўшых астранамічных канстэляцый, ці што тут можа існаваць разліковая памылка ў вызначэнні часу хаця б на некалькі дзён назад ці наперад.

У гэтай акалічнасьці менавіта і складаецца падстава таго, што я тут так падрабязна спыніўся на дэндэрскіх задыяках. Я не магу не бачыць, што ў кожным із гэтых задыякаў пазначана поўная катастрофа ўсёй сучаснай храналогіі старажытнага існавання чалавецтва. Уся ягіпецкая храналогія «элінскага», ці, як яе завуць, «рымскага» (рамейскага), перыяду павінна быць перасунута на цэлых пяцьсот гадоў наперад, а гэты зрух непазбежна выклікае не толькі радыкальны перагляд усёй «жыдоўскай» і «вавілонскай» гісторыі, але нават і старажытна-грэцкай і старажытна-рымскай, што я і зрабіў у папярэднічаўшых тамах, канчаткова складзеных толькі пасьля вышэйпрыведзенага вылічэння.

Пасьля такога нечаканага для мяне самога (нават і ў 1919 годзе!) выніку астранамічнага дасьледавання Дэндэрскіх задыякаў, ўжо немагчыма сцвярджаць, быццам ягіпецкія цары Хуфу (Хеопс), Хаўра (Хефрэн) і Менкаўра (Мікерын), пабудаваўшыя тры вялікія піраміды каля Гізэха (не сумняюся, таму што нехта ж іх усёж будаваў!), жылі за 3000 гадоў да пачатку еўрапейскай эры. Гэта напэўна было пазьней, не менш як на тыя ж самыя 3000 гадоў, ды і Аменэм III, выкапаўшы Мерыдава возера і прыдумаўшы знакаміты падземны лабірынт на яго беразе, парэшткі якога захаваліся да гэтага часу каля Файюма), жыў, напэўна, ужо пасьля пачатку нашай эры. Валадарства ж гукашасаў, ці гіксосаў, г.азн. у перакладзе на рускую мову, – «цароў-пастухоў», існаваўшае быццам бы ў 1500 годзе да пачатку нашай эры, з’яўляецца, напэўна, легендарызаваным і апакрыфаваным на 2000 гадоў назад валадарствам каліфаў у Ягіпце пачынаючы з 640 года нашай жа ўласнай эры.

Лічачы свае астранамічныя вылічэнні адносна Апакаліпсіса, прарокаў і вышэйпададзеных задыякаў неаспрэчваемымі ў сэнсе ўсталявання дакладнай гістарычнай храналогіі, я не раз разважаў над тым, як пагадніць усё гэта з нашымі пануючымі храналагічнымі ўяўленнямі. Яны былі нададзены і мне яшчэ пад час дзяцінства маімі настаўнікамі і таму трывала затрымаліся ў памяці, а настаўнікі, у сваю чаргу, пад час дзяцінства зведалі такія ж наданні, першакрыніцы якіх у Яўропе ідуць да пачатку друкарскага перыяду і там губляюцца без следу. І вось, нарэшце, пасьля шматлікіх пакутлівых ламанняў галавы над запанаваўшым у ёй ад гэтых вылічэнняў хаосам мне пачало здавацца найбольш верагодным, што адна і тая ж сапраўды існаваўшая адразу ў Ягіпце, Грэцыі і Рыме каля IV стагоддзя нашай эры дынастыя падзялілася на шматлікія варыяцыі ў некалькіх розных сярэднявечных дакументах. Апісаныя на некалькіх розных мовах, яна другасна распалася на шэрагі цяжка пазнаваемых варыянтаў, якія пазнейшымі кампілятарамі былі палічаны за розныя дынастыі, валадарыўшыя пад час розных эпох той жа самай ягіпецкай, грэцкай і нават рымскай гісторыі, і былі зацэментаваны, як такія, у доўгае апавяданне, у якім аднастайныя падзеі змяняюць адна другую, як хвалі ў стаячай вадзе, калі ў іх кінуць камень. А на справе гэта была адна і тая ж хваля чалавечых успамінаў, дакаціўшаяся да нас, нарадзіўшая за сабой, як і звычайныя хвалі, яшчэ шэраг іншых больш слабых і менш выразных.

А факт застаецца такім. Помнікі старажытнай культуры з’яўляюцца вялікімі і шматлікімі ў Ягіпце. Гэта азначае што існавалі там, ці недзе ў іншым месцы, і разумова моцныя (адпаведна свайму часу) людзі, задумаўшыя іх; гэта азначае

існавалі там, ці недзе ў іншым месцы, і маючыя ўладу людзі, прымусіўшыя ажыццявіць задумы вынаходнікаў, таму што неадукаваны старажытны натоўп сам па сабе не мог нічога задумаць, і аддаў бы перавагу безтурботнаму валянню і пляткарству паміж сабой на працягу гэтага часу на сонцы на беразе Ніла. І ніякія б угаворы не мелі б ніякага наступства, акрамя хіба што пераносу некалькіх камянёў з аднаго месца на іншае, пасьля чаго праца была б пакінута.

Вылучаючаяся сваімі разумовымі здольнасьцямі частка народа – яго інтэлігенцыя – ва ўсе часы можа нешта ажыццявіць толькі ў супрацоўніцстве з вылучаючайся сваёй воляй ініцыятыўнай часткай таго ж народа, набыўшай тым ці іншым спосабам уладу над яго астатняй, менш розумова актыўнай і валявой масай, заўсёды знаходзіўшайся ў вялізнай лікавай перавазе над абодвума, так што была здольнай адразу пазбавіць улады і знішчыць абедзьве лікава меншыя часткі як толькі страчвала веру ў тое, што яны прымушаюць яе працаваць дзеля яе ж карысьці.

Непісьменная, жорсткая і забабонная старажытная большасць насельніцтва спачувала войнам, пакуль бачыла ў іх сродак рабавання чужых адносна мовы і нораваў краін. Яна ўзвялічвала сваіх валадароў, веўшых паспяховыя войны, але адразу ж таптала іх, як толькі іх спасьцігала няшчасьце.

Яна ўзвялічвала і сваю інтэлігенцыю, калі лічыла, што тач бароніць яе ад таямнічых злых магутнасьцей сусьвету, падала на калені перад яе багамі – абаронцамі ці пакаральнікамі, – і прыносіла служкам багаў за гэта псеўда-добраахвотныя ахвяры, але адразу ж скідала ў бруд як іх, так і іхных багаў, як толькі пераконвалася, што яны няздольныя яе абараніць.

Для таго каб падобнае першабытнае насельніцтва змагло стварыць у Ягіпце такія гіганцкія згодна з тым часам пабудовы, парэшткі якіх мы там бачым, была небходна асаблівая фанатычная вера натоўпу ў бязгрэшнасць і тых, і другіх сваіх правадыроў, а не адно толькі гвалтаванне суседніх народаў, у выглядзе паспяховых войнаў, забяспечваўшых шматлікімі рабамі, карміць якіх даводзілася ўсё ж самому мясцоваму насельніцтву і якія былі б яму ў цяжар, калі б іх ужывалі выключна на непрадукцыйнай працы. Акрамя таго, і парыў усенароднага запалу ў адным і тым жа ілжывым па сваёй сутнасьці рэлігійным накірунку, у якім будаваліся дэндэрскія, карнакскія і ўсе іншыя ягіпецкія храмы, не мог працягвацца цэлыя тры тысячагоддзі, не замяніўшыся некалькі разоў іншымі ілжывымі ж напрамкамі чалавечай думкі і не натыкнуўшыся, нарэшце, на адкрыццё тых самых абсалютных праўд, якія дае чалавецтву сучаснае прыродазнаўства і яго метады, ствараючыя сапраўдныя, а не прывідныя цуды.

Із гэтага зразумела, што ўся гэтая старажытная ягіпецкая культура была толькі адзіным магутным, але працягваўшымся не больш за некалькі стагоддзяў, ілжывым парывам чалавечай творчай думкі, скончыўшымся, як і было непазбежна, крушэннем пад напорам развіўшагася пад яго абалонкай новага больш высокага, сьветапогляду. І мы прыходзім зараз да высновы, што ўвесь гэты гіганцкі парыў узнік адначасова з пачаткам апакаліптычнага хрысьціянства, і сам спрыяў стварэнню такога хрысьціянства Янам Хрызастомам на пры канцы IV стагоддзя.

* * *

Гістарычная традыцыя перадала нам, што Ягіпет быў заваяваны гадоў за трыста да пачатку нашай эры таксама і «Аляксандрам Македонскім». У перакладзе на рускую мову яго імя азначае адважны і з'яўляецца толькі мянушкай нейкага

валадара, меўшага у сваім звычайным жыцці цалкам іншае імя, захаваўшаяся ў іншых дакументах. Паглядзім, хто б мог ім быць.

Згодна са звычайнай храналогіяй гэты «Адважны», прыскакаўшы із аддаленай Македоніі, невядома як захапіў Ягіпет у 322 годзе да «Нараджэнння Хрыста». Дапасуючы «нараджэнне Хрыста», як мы робім зараз, прыблізна да 340 года нашай эры, мы прыходзім да яе 18 года, як магчымага часу жыцця валадара, пачаўшага будаваць у Ягіпце Александрыйскі порт, даўшаму пазьней пачатак шырокаму развіццю ягіпецкага мараплаўства і культуры. Гэта азначае гаворка ідзе пра пачатак нашай эры. Але каля гэтага часу, паведамляе нам другая гістарычныя традыцыя, жылі іншыя «адважныя» – Актавіян Аўгуст і Юлій Цэзар, таксама заваяваўшы Ягіпет. Ці не спісаны ён із аднаго з іх? Ды ці і самі яны не спісаны з нейкага больш позняга «адважнага»?

Бітва пры Акцыуме, ператварыўшая Ягіпет у рымскую правінцыю, дапасуецца звычайнай храналогіяй да 30-га года да «Нараджэнння Хрыста», да часу валадарання Аўгуста. А згодна з нашай храналогіяй яна павінна быць дапасавана, разам з самім Аўгустам-Актавіянам, прыблізна да 310 года, г.азн. да часу Аўгуста Кастуся Вялікага, на якога такім чынам і налягае храналагічна Аўгуст-Актавіян. Мне зноў прыходзіла ў галаву думка: ці не адна і тая ж гэта асоба, легендарна падзяліўшаяся на тры ў апавяданнях розных народаў і змешчаная ў розныя стагоддзі пазнейшымі кампілятарамі паданняў, падобна таму як у тэолагаў раздваіўся Ян Хрызастом, даўшы пачатак Яну Багаслову, быццам бы жыўшаму за 360 гадоў да яго. Але Ян Багаслоў, згодна з традыцыяй, упершыню зведаў перасьледы пры Нярону, наступніку Аўгуста-Актавіяна, праз 30-40 гадоў пасьля сьмерці апошняга, а Ян Залатавусны зведаў перасьледы пры наступніку Кастуся Вялікага – Валенце таксама праз 30-40 гадоў пасьля сьмерці Кастуся, так што і Валент храналагічна налёг бы на Нярона. Апошнія пераследы на Яна Багаслова, згодна з традыцыяй, былі пры Даміцыяне, праз 68-80 гадоў пасьля сьмерці Аўгуста Актавіяна, а апошнія пераследы Яна Залатавуста былі пры Аркадзю, праз 58-71 год, так што Даміцыян у межах магчымага зруху налягае на Хвядоса ці Аркадзя.

Як разабрацца ў гэтых супадзеннях і ў гэтых супярэчнасьцях паміж рознымі старажытнымі паданнямі, я яшчэ не ведаў, калі рабіў свае ранейшыя астранамічныя вызначэнні, ужо апісаныя ў папярэдніх тамах, – але разабрацца мне было патрэбна. І дзякуючы таму што ніхто не меў жадання мне дапамагаць, лічачы справу безнадзейнай, то ўсё – ад груваседкіх і стамляючых вылічэнняў да галаваломных супастаўленняў – давялося мне рабіць у адзіноце, і нават нікому не паведамляць пра свае вынікі, абуджаючыя ў атачаючых адны неўхвалы і шкадаванне. Насуперак сучасным гісторыкам, аддаючым перавагу свецкім гістарычным традыцыям над царкоўнымі, я, наадварот, прыступіў да вывучэння менавіта царкоўных паданняў, таму што гісторыя царквы была, вядома, больш блізкай тэмай для старажытных летапісцаў, жыўшых ў кляштарах ці пры храмах, чым нешта іншае, ды і рэлігійныя кнігі былі непараўнальна больш пашыранымі пад час старажытнасьці, чым свецкія, якіх амаль і не існавала тады.

І я прыйшоў да пераканання, што гісторыю чалавечай думкі і культуры ні пад час старажытнасьці, ні пад час сярэднявечча немагчыма вывучаць па-за сувяззю з гісторыяй чалавечых рэлігій.

Вынікам ўсяго гэтага і з'яўляецца гэтае дасьледаванне і гэтым тлумачыцца між іншым і тое, чаму я даў яму назву «Хрыстос». У кожным томе мне даводзіцца

вяртацца да гэтай легендарнай асобы. Давядзецца вярнуцца да яе і пры вывучэнні псеўда-старажытнага перыяду ягіпецкай гісторыі. А яго крыжы мы бачым ужо і тут на дэндэрскіх задыяках.

# Глава VI.

## Яшчэ крыху із нябеснай механікі. Так званы Фіўскі гараскоп Бругша з дэматычнымі надпісамі сярод іерогліфаў.

Аднойчы ў 1913 годзе Н. В. Румянцаў, які быў тады яшчэ студэнтам Філалагічнага інстытута і ведаў, што я займаюся вызначэннямі часу гараскапічных запісаў старажытнасьці, прынёс мне із бібліятэкі свайго інстытута кнігу Генрыха Бругша[6], у якой між іншым была апісана выдатна захаваўшаяся з выгляду (як быццам нават не вельмі ўжо і даўно зробленая) труна із сікаморавага дрэва, прыгожа аздобленая сталярным спосабам і знаходзячаяся зараз у калекцыі Манье. Знайшоў яе Бругш, згодна з яго ўласнымі сведчаннямі, у 1857 годзе, але апісанне надрукаваў толькі ў 1862.

У ёй змяшчалася мумія цалкам таго ж тыпу, як і звычайныя ягіпецкія. На яе пярэдняй частцы быў прыгожы малюнак, адлюстроўваўшы «боскую маці» (багіню Нут), падтрымліваемую двума мужчынскімі фігурамі і працягваючую дзьве, відаць прычашчальныя, чаркі молячымся ёй фігурам. Над яе галавой крылатае Сонца, як быццам бы знак хрысьціянскага «сьвятога духу ў выглядзе голуба», знізу дзьве выявы мумій нейкіх нябожчыц, потым жук-гнаявік, – знак ажывання із тлення, – і кола з двума змяінымі галовамі, – знак вечнасьці, – як гэта пісалася і на алхімічных малюнках эпохі гуманізму.

Але самае цікавае для гісторыка ці археолага, маючага жаданне вызначыць дакладную дату стварэння гэтай труны, было намалявана на ўнутранай паверхні яе накрыўкі, сімвалізуючую неба. Уздоўж сярэдзіны была працягнута як бы засланяючая мумію жаночая фігура – тая ж самая ягіпецкая «боская маці» – Нут,– а збоку ад яе намаляваны 12 сузор'яў Задыяка цалкам такімі ж малюнкамі, якімі яны маляваліся і ў астрономіях эпохі гуманізму (мал. 139). А на контуры накрыўкі існуе нешта яшчэ больш выдатнае: 24 аднолькавыя чалавечыя фігуркі перад пасадамі. Яны відавочна пазначаюць 12 гадзін дня з аднаго боку, а з іншага – 12 гадзін ночы, прытым тыя і другія Бругш пазначыў на сваім малюнку арабскімі лічбамі, так што гэтыя і іншыя (літарныя) пазначэнні на нашым малюнку не павінны бянтэжыць чытача.

Па чатырох кутах накрыўкі труны намаляваны чатыры міфалагічныя жывёлы, відавочна, з тым жа значэннем, якое маем у Апакаліпсісе: Целя, Леў, Цэнтаўр і Арол. З правага боку намаляваны плывучыя ў лодках, відавочна праз раку Ахерон, чалавечыя фігуры і, акрамя іх, птушка ібіс і нешта накшталт трыбуны, а з правага боку намалявана ахвяраванне. Іерогліфы, напісаныя тут і там, не ўяўляюць нейкіх гістарычных указанняў і называюць памёршага Азірыенам.

[6] Henri Brugsch: «Recueil de Monuments Egyptiens, dessines sur lieux». 1862.



Мал. 139.
Гараскопічны запіс на ўнутраным боку драўлянай труны, знойдзенай Генрыхам Бругшам у Ягіпце ў 1857 годзе і які зараз захоўваецца і калекцыі Манье ў Каіры.

Фігура Скарпіёна сярод 12 сузор'яў задыяка зафарбавана ў пазнаку таго, што яна знікла ў праменях Сонца, што бывае ў лістападзе, а процілеглая ёй фігура Целяці зачэрнена ў знак таго, што яна пануе ўсю ноч, г.азн. кульмінуе апоўначы. На галаве Панны намаляваны серп Месяца, якім Месяц і выглядае пры Сонцы ў Скарпіёне, а кружок над Шалямі, які я спачатку палічыў за Сонца ў Шалях (ігнаруючы зафарбаванага Скарпіёна і зачэрненае Цяля), выяўляецца простым знакам таго, што восеньскае раўнадзенства, ад якога пачынаўся грамадзянскі год, лічылася з таго моманту, калі Сонца із Панны пераходзіць у Шалі, г.азн. згодна з візантыйскім хрысьціянскім злічэннем, трымаўшымся аж да новага часу пры юліянскім календары. Гэта самае пазначэнне Шаляў з кружком Сонца на каромысле з'яўляецца вельмі частым на старажытных астранамічных Задыяках, а таму не можа служыць гараскапічным указаннем, а толькі пазнакай пачатку

каляндарнага года, з таго моманту, калі сузор'е Шаляў у верасні апускаецца ў полымя вечаровага зарыва.

Дакументальнымі і важнымі тут з'яўляюцца толькі пазначэнні, намаляваныя дэматычным пісьмом і больш крывымі радкамі на левым боку ад «богамаці». Труну, відавочна, вырабіў нейкі прафесіянал адпаведна пашыранаму тады ўзору, а надпісы дэматычным пісьмом зрабіў на ім той, хто клаў туды памёршага і па прафесіі быў несумнеўна астролагам-гараскапістам, так што яго прыпіскам даводзіцца надаць самае сур'ёзнае значэнне.

Із іх асабліва выдаюцца два радкі паміж Ракам да Ільвом, знарок ннакіраваныя на галаву Ільва. На адным з іх напісана: Гор-пе-Сэта, а на другім: Гор-пе-ка, г.азн. планета Сатурн і планета Юпітар, і само блізкае размяшчэнне радкоў адзін да аднаго, пры дастатковасьці тут вольнага месца, паказвае што Юпітар і Сатурн былі ў цесным злучэнні, г.азн. Юпітар абагнаў тут Сатурн пры Сонцы ў Скарпіёне. Гэта азначае, што справа тут адбывалася пад канец юліянскага кастрычніка ці ў лістападзе за ўвесь наш гістарычны перыяд часу. Каля Панны, бліжэй да Ільва, стаіць дэматычны надпіс: Гор-Тэзэр, г.азн. планета Марс. Паміж Скарпіёнам і Стралком, завярнуўшыся нават да галавы Стралка, дэматычна пазначана: Пе-Нетэр-Тау (г.азн. Сьвяціла Раніцы) – Венера, – хаця у гэтым становішчы Венера і бачна толькі вечарамі. Пазначу, што назва «Сьвяціла Раніцы» захавана за Венерай і ў Апакаліпсісе, нягледзячы на тое, што і там Венера знаходзілася ў вечаровай бачнасьці, і гэта даводзіць толькі тое, што адзінства вечаровай і ранішняй Венеры было тады добра вядома астролагам. І, нарэшце, паміж Скарпіёнам і Шалямі напісана «Се-бек», г.азн. Меркурый, хаця дакладнасьці яго тапаграфіі мы не можам давяраць: для надпісу пра Меркурый ужо не было месца направа ад Скарпіёна, ды да таго ж, ён і нябачны на такой блізкай адлегласьці ад Сонца, так што пісаўшы размяшчаў яго грунтуючыся не на непасрэдным назіранні на небе, а на сваіх меркаваннях.

Дэматычнае пісанне ўпершыню было прачытана Акербледам у 1802 годзе, за 20 гадоў да таго, як Шампаліён прачытаў іерагліфічнае пісанне. Яно лічыцца больш пазьнім, чым іерогліфы, хаця ў гэтым і можна моцна сумнявацца: выявы ж літар вяззю і вытанчаным напісаннем, асабліва ў царкоўным рытуале і на сьценах храмаў і магільняў, маглі з'явіцца і пасьля таго псеўда-хуткапісання, да якога разам з грэцкім і копцкім альфабэтам належыць дэматычнае ягіпецкае пісанне. Але ўсё ж, грунтуючыся на гэтай падставе, Бругш дапасаваў сваю знаходку да часоў «рымскага валадарання ў Ягіпце», г.азн. ні ў якім выпадку не раней першага стагоддзя нашай эры.

Само сабой зразумела, з якім напружаннем я прыступіў да вызначэння часу такога выдатнага дакумента. А гэта было яшчэ да стварэння мной разам з маім супрацоўнікам М. А. Вільевым кіруючых таблічак Юпітара і Сатурна, змешчаных у IV кнізе «Хрыста», і вельмі палягчаючых такія вылічэнні і таму выявілася справай вельмі складанай і карпатлівай.

Я адразу зразумеў, што пры дакладнасьці маючыхся тут астранамічных указанняў – асабліва злучэння Сатурна і Юпітара ў самой пашчы Ільва – для фіўскага гараскопа не можа існаваць двух рашэнняў на працягу некалькіх тысячагоддзяў. Але я атрымаў такое ашаламляючае рашэнне – адзіную дату 17 лістапада 1682 года нашай эры, – што не паверыў сваім вачам, і, жадаючы прымірыць астраномію з ужо ўсталяваўшыміся поглядамі на старажытнасьць ягіпецкай культуры, зрабіў так, як рабілі і іншыя астраномы ў падобных выпадках,

хаця сам жа і папракаў іх за гэта. Пераканаўшыся, што пры Сонцы ў Скарпіёне нічога, акрамя 1682 года, не атрымліваецца, я палічыў кружок над Шалямі за ўказанне на становішча Сонцы ў Шалях і задаволіўся тым, што атрымаў з грахом напалову рашэнні на 6 кастрычніка 93 года і 23 кастрычніка 710 года нашай эры, хаця у кастрычніку 93 года збліжэнне Юпітара і Сатурна адбылося не ў пашчы, а над спінай Ільва, а ў кастрычніку 710 года Юпітар ужо набліжаўся да хваста Ільва, калі Сатурн быў каля яго пысы (гл. сінаптычныя графікі на табл. XXIX, стар. 705, і мал. 142, на стр. 718).

У такім не законченым выглядзе я і размясьціў частку маёй працы маючай дачыненне да дадзенага прадмета ў дадатку да сваёй кнігі «Прарокі». Потым мае вылічэнні праверыў М. А. Вільеў і знайшоў тое ж самае. Але зараз пасьля маіх шматлікіх гісторыка-астранамічных дасьледаванняў я стаў больш адважны і буду тут даводзіць, што якім бы ні ашаламляючым было маё першае рашэнне, даўшае 17 лістапада 1682 юліянскага года, але яно адзінае. А каб пераканаць у тым жа і чытача, я зноў крыху займуся нябеснай механікай і паспрабую ўявіць увесь ход маіх разлікаў так падрабязна і навочна, каб у праўдзівасьці маёй высновы ні ў кога не засталося сумневаў.

Перадусім, пазначым усе прыдатныя для дадзенага выпадку цесныя спалучэнні Юпітара і Сатурна паміж Ракам і Ільвом грунтуючыся на нашым метадзе гісторыка-астранамічнай выведкі, выкладзенай у пралогу да IV тома «Хрыста». Там пазначаны часы праходжання Сатурна і Юпітара праз сярэдзіны ўсіх 12 сузор'яў Задыяка, у тым ліку і Ільва і Рака, а нам тут патрэбна ведаць іх праходжанні паміж гэтымі сузор'ямі.

Але пераход да такога задання вельмі просты пры карыстанні маімі табліцамі.

Выпішам спачатку із табліц II і III у чацьвёртай кнізе «Хрыста» ўсе праходжанні Сатурна праз Рака і выпішам адтуль жа із табліц IV і V усе самыя блізкія да іх гады праходжання Юпітара (табл. XXVIII). Кожны раз, калі прамежак паміж прыходам Сатурна ў нейкае із сузор'яў Задыяка і прыходам туды ж Юпітара – меншы за $2^1/_2$ года, магчыма іхнае адначасовае знаходжанне ў дадзеным сузор'і, а злучэнне іх у ім (г.азн. апярэджванне Юпітарам Сатурна) магчыма толькі тады, калі прамежак паміж іхнымі прыходамі ў дадзенае сузор'е не перавышае года шляху па ім Юпітара.

Пазначым такія выпадкі зорачкамі (табл. XXVIII). Гэта будуць адзіна магчымыя гады сустрэч Юпітара і Сатурна ў Ільве.

Выпішам потым із тых жа нашых табліц II, III, IV і V у чацьвёртай кнізе «Хрыста» ўсе праходжанні Сатурна праз сярэдзіну Рака і самыя блізкія да іх праходжанні Юпітара праз гэтае ж сузор'е і таксама пазначым зорачкамі тыя выпадкі, калі год прыходу Юпітара не знаходзіцца больш чым на год ад прыходу Сатурна. Гэта будуць усе даты, калі магчымы сустрэчы Сатурна і Юпітара ў Раку.

Але нам для дасьледавання патрэбны толькі гады іхных сустрэч каля прамежку абодвух дадзеных сузор'яў, г.азн. у другой палове Рака і ў першай палове Ільва каля яго галавы. А для гэтага, натуральна, бяром толькі тыя гады, пры якіх нашы зорачкі стаяць і ў Раку, і ў Ільве.

Са старажытнай серыі спалучэнняў гэта будуць: трыяда -143, -144, -145 гады, потым трыяда -84, -85, -86 гады, потым трыяда -25, -26, -27 гады, і, нарэшце, трыяда +32, +33, +34 (ці 35, таму што ў табліцы значыцца амаль 35 год). А больш

тут не будзе ніводнай трыяды, таму што зорачкі ў Раку спыняюцца. Але з некаторымі нацяжкамі дададзім да іх і 93 год.

Із сярэднявечнай серыі вылучаюцца: трыяда +650, 651, 652 гады; потым трыяда +710 (ці 709), 711, 712 гады; потым трыяда +768 (ці 769), 770, 771 гады; потым трыяда +827, 828, 829, (ці 830) гады, і, нарэшце, трыяда +886 (ці 887), 888, 889 гады. А больш ніводнай, таму што зорачак ў Раку больш няма.

Із навейшай серыі гэта будуць: трыяда +1504 (ці 1505), 1506, 1507 гады; потым трыяда +1564 (ці 1563), 1565, 1566 гады; потым трыяда +1622, 1623, 1624 гады; потым трыяда +1682 (ці 1681), 1683, 1684 гады і, нарэшце, трыяда +1741, 1742, 1743 гады нашай эры.

Такім чынам, першая прыступка нашай гісторыка-астранамічнай выведкі дала нам за ўвесь прамежак ад -820 да 1861 года толькі 14 трыяд, г.азн. чатырнаццаць выпадкаў для далейшага дасьледавання з выкарыстаннем Марса і іншых планет.

Усе астатнія гады адпадаюць, а гэтыя вылучаныя, патрэбна распрацоўваць карыстаючыся ўжо звычайнымі астранамічнымі табліцамі Левер'е, Ньюкама, Вільева (у працах нашага Астранамічнага таварыства) і Нейгебауэра (якімі я звычайна і карыстаўся для ўдакладнення рашэнняў, знойдзеных з дапамогай маіх метадаў гісторыка-астранамічнай выведкі), ці маімі ўласнымі удакладняючымі табліцамі, дададзеных у чацьвёртай кнізе «Хрыста».

ТАБЛІЦА XXVIII.

Серыі злучэнняў Юпітара і Сатурна ў Ільве і серыі іх злучэнняў у Раку, пры гэтым для іхных злучэнняў паміж другой паловай Рака і першай Ільва прыдатнымі з'яўляюцца толькі тыя выпадкі, якія пазначаны зорачкамі як у адным так і ў другім сузор'ях.

| У сярэдзіне Ільва каля 158° экліпт. каардын. 1900 г. | | У сярэдзіне Рака каля 129° экл. даўгат. каардын. 1900 г. | | У сярэдзіне Ільва каля 158° экліпт. каардын. 1900 г. | | У сярэдзіне Рака каля 129° экл. даўгат. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сатурн | Юпітар | Сатурн | Юпітар | Сатурн | Юпітар | Сатурн | Юпітар |
| *-820 | -820 | -822 | -821 | 535.52 | 533.13 | *533.31 | 532.11 |
| -791 | -796 | -793 | -797 | 564.98 | 568.72 | 562.77 | 567.70 |
| *-761 | -760 | -763 | -761 | 594.44 | 592.44 | *592.22 | 591.43 |
| -732 | -737 | -734 | -738 | 623.89 | 628.03 | 621.68 | 627.01 |
| *-702 | -701 | -704 | -702 | 653.35 | 851.75 | *651.14 | 650.73 |
| -673 | -677 | -675 | -678 | 682.80 | 687.34 | 680.59 | 686.32 |
| -643 | -642 | -615 | -613 | *712.26 | 711.06 | *710.05 | 710.04 |
| -614 | -618 | -616 | -619 | 741.72 | 746.65 | 739.51 | 733.77 |
| -584 | -582 | -587 | -383 | *791.18 | 770.37 | *768.97 | 769.35 |
| -555 | -559 | -557 | -360 | 800.63 | 805.96 | 798.42 | 793.08 |
| -525 | -523 | -528 | -524 | *830.09 | 829.68 | *827.84 | 828.66 |
| -496 | -499 | -498 | -500 | 859.54 | 853.41 | 857.83 | 852.39 |
| -467 | -461 | -469 | -465 | *889.00 | 888.99 | *886.79 | 887.97 |
| -437 | -440 | -439 | -441 | 918.40 | 912.72 | 916.25 | 911.70 |
| -408 | -404 | -410 | -417 | *947.91 | 948.30 | 945.70 | 947.28 |
| -378 | -381 | -380 | -382 | 977.38 | 972.03 | 975.17 | 971.01 |
| -359 | -345 | -351 | -338 | *1006.83 | 1007.62 | 1004.62 | 1006.60 |
| -319 | -321 | *-321 | -322 | 1036.29 | 1031.34 | 1034.08 | 1030.31 |
| -290 | -298 | -292 | -209 | 1065.75 | 1066.93 | 1063.54 | 1065.91 |
| -260 | -262 | *-563 | -263 | 1095.20 | 1090.65 | 1092.99 | 1089.63 |
| – 231 | -238 | -233 | -239 | 1124.66 | 1126.24 | 1122.45 | 1125.22 |
| -201 | -203 | *-204 | -204 | 1154.12 | 1149.96 | 1151.91 | 1148.94 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| -172 | -179 | -174 | -168 | 1183.57 | 1185.55 | 1181.36 | 1185.53 |
| *-143 | -144 | *-145 | -145 | 1213.03 | 1209.27 | 1210.82 | 1208.25 |
| -113 | -108 | -115 | -121 | 1242.49 | 1244.86 | 1240.28 | 1243.84 |
| *-84 | -84 | *-86 | -85 | 1271.95 | 1268.58 | 1269.74 | 1267.56 |
| -54 | -60 | -56 | -50 | 1301.40 | 1304.17 | 1299.19 | 1291.29 |
| *-25 | -25 | *-27 | -26 | 1330.86 | 1339.76 | *1328.65 | 1326.87 |
| +5.29 | +11.21 | -3.08 | -10.19 | 1360.31 | 1363.48 | 1358.10 | 1350.60 |
| *+34.75 | +34.93 | *+32.54 | +33.91 | 1389.77 | 1387.20 | *1387.56 | 1386.18 |
| +64.21 | +58.66 | +62.00 | +69.50 | 1419.23 | 1410.93 | 1417.02 | 1421.77 |
| *+93.66 | +94.24 | +91.45 | +93.22 | 1448.68 | 1446.51 | *1446.47 | 1445.49 |
| 123.12 | 129.83 | 120.91 | 116.95 | 1478.15 | 1470.24 | 1475.94 | 1469.22 |
| *152.58 | 153.55 | 150.37 | 152.53 | *1507.00 | 1505.82 | *1505.39 | 1504.80 |
| 18103 | 189.14 | 179.82 | 176.26 | 1531.06 | 1541.41 | 1534.85 | 1528.52 |
| 201.49 | 212.86 | 209.28 | 211.84 | *1566.52 | 1565.13 | *1564.31 | 1564.11 |
| 240.95 | 248.45 | 238.74 | 235.57 | 1595.97 | 1600.72 | 1593.76 | 1599.70 |
| 270.41 | 272.17 | 268.20 | 259.29 | *1625.43 | 1624.44 | *1623.22 | 1623.41 |
| 299.26 | 295.90 | 297.65 | 294.88 | 1654.89 | 1618.16 | 1652.68 | 1659.01 |
| 329.32 | 331.48 | 327.11 | 330.46 | *1684.33 | 1683.75 | *1682.13 | 1682.73 |
| 358.79 | 355.21 | 356.56 | 354.19 | 1713.80 | 1707.47 | 1711.55 | 1706.45 |
| 388,23 | 390.79 | 386.02 | 389.77 | *1743.26 | 1743.06 | 1741.05 | 1742.04 |
| 417.69 | 417.52 | 415.48 | 413.50 | 1772.71 | 1778.65 | 1770.51 | 1777.62 |
| 447.15 | 450.10 | 444.94 | 449.08 | *1802.17 | 1802.37 | 1799.96 | 1801.35 |
| 478.61 | 473.83 | 474.40 | 472.81 | 1831.63 | 1837.96 | 1829.42 | 1825.07 |
| 506.06 | 500.41 | 503.85 | 508.39 | *1861.09 | 1861.68 | 1858.88 | 1860.65 |

Я ўжо паведамляў раней, што ўсе гэтыя табліцы не прыдатны для першых асноўных крокаў гісторыка-астранамічнай выведкі. Яны адказваюць толькі на пытанне: якім было ў загадзя дадзены год і дзень месцаванне планет на бачным намі небе, лічачы, што зямныя суткі засталіся нязменымі на працягу дзясятка тысяч гадоў, ды і час абарачэння Зямлі і планет вакол Сонца не зведаў істотнай паступовай змены на працягу гістарычнага часу (хаця гэта і магчыма для абарачэння Месяца вакол Зямлі). А ўсё, што мы да гэтага часу рабілі пры дасьледаванні Бругшавага фіўскага гараскопа, ды і у іншых падобных выпадках, было якраз наадварот. Нам патрэбна было ведаць, пад час якіх гадоў было дадзенае нам загадзя месцаванне планет на небе, і ці было яно толькі раз ці некалькі разоў на прамежку часу роўнаму некалькім тысячам гадоў? Заданне нашмат больш цяжкае, дзякуючы таму, што тут даводзіцца вылічваць не толькі тое што было, але і тое чаго не было. І гэта мы зараз зрабілі, вылучыўшы із некалькіх тысячагоддзяў толькі чатырнаццаць дат.

Нашы далейшыя дзеянні робяцца ўжо больш прастымі і вылічэнне астатніх планет, ды і ўдакладненне месцавання Юпітара і Сатурна пад час пазначаных намі 14-ці дат даводзіцца рабіць, як я толькі што паведаміў, грунтуючыся на табліцах Левер'е, Ньюкама, Нейгебауэра і Вільева, ці, набліжана, на маіх удакладняючых табліцах у IV кнізе «Хрыста». Але перш чым рабіць гэта, нам патрэбна скласьці сабе зразумелае ўяўленне пра тое, наколькі надзейныя вынікі могуць нам даць самыя лепшыя із такіх табліц і як яны складзены?

Перадусім пазначу, што больш-менш правільныя вызначэнні месцаванняў планет на небе пачаліся толькі з Ціха-Браге, памёршага ў 1601 годзе (хаця і тады астранамічныя прылады не былі на належнай вышыні), і таму мы з упэўненасьцю можам сказаць, што перыяд надзейнай вымяральнай астраноміі не перавышае і 300 гадоў, так што Сатурн паспеў зрабіць толькі 10 абарачэнняў па небу.

Параўноўваючы выведзеныя (з дапамогай сферычнай трыганаметрыі) із зямных назіранняў геліяцэнтрычныя месцаванні дадзенай планеты ў наш час з тымі, якія яна мела пры Ціха-Браге ці пры больш позніх астраномах, карыстаўшыхся лепшымі, чым ён, прыладамі, вызначаем сярэдні час яе геліяцэнтрычнага абарачэння за адзін зямны, юліянскі ці трапічны год (г.азн. за час ад моманту нашага веснавога роўнадзенства – пры гэтым яшчэ не цалкам раўнамерна рухаючагася назад па зямной арбіце, да наступнага такога ж моманту).

Атрымаўшы час сярэдняга абарачэння планеты па зорнаму небу, па магчымасьці больш дакладна, вызначаем грунтуючыся на ім спачатку яе месцаванне пад час нулявога года кожнага стагоддзя (1800, 1700, 1600 і г.д.) назад, прыкладна да мінус 3000 года. Гэтыя месцаванні планет маюць назву стогадовыя аргументы. Потым робіцца тое ж для дваццацігоддзяў кожнага стагоддзя (для таго, каб усе гады былі высакоснымі) і для асобных гадоў, ад 1 да 19 бяручы ў разлік і іхную высакоснасць, – гэта гадавыя аргументы. Такім жа спосабам знаходзяць аргументы для кожнага дня года.

Усё гэта дае магчымасць вылічыць так званае сярэдняе геліяцэнтрычнае становішча планеты, ці яе «кругавую даўгату», шляхам простага складання стагадовых, гадавых і суткавых аргументаў, як я і пазначыў у сваіх «удакладняючых табліцах» у IV томе «Хрыста», дапасаваўшы пры гэтым жа ўсе даўготы да каардынат 1900 года для лёгкага нанясення планет на сучасную мапу неба. А ў звычайных табліцах для гэтага патрэбна яшчэ дадаваць ці аднімаць велічыню прэцэсіі за атрыманы час, гледзячы на тое, вядзём мы вылічэнне наперад ці назад.

Але сярэдняя геліяцэнтрычная даўгата павінна быць раней нанясення на мапу неба яшчэ перакладзена з дапамогай формул сферычнай трыганаметрыі (вынайдзенай толькі каля 200 гадоў да нашага часу) у геацэнтрычную, і перад гэтым абавязкова папраўлена на функцыю эксцэнтрысітэту планетнай арбіты (звычайна маючай назву ўраўненне цэнтра), для чаго патрэбна ад сярэдняй даўгаты планеты папярэдне адняць даўгату яе перыгелія, каб лічыць адлегласьці планеты не ад месца скрыжавання зямной экліптыкі з зямным экватарам, што не мае ніякага дачынення да арбіт планет, а ад іхнага ўласнага перыгелія. Грунтуючыся на такім новым аргуменце патрэбна знайсці ў асобнай для кожнай планеты табліцы папраўку на эксцэнтрысітэт яе арбіты і дадаць яе да сярэдняй даўгаты. У маіх удакладняючых табліцах я і абмежаваўся гэтай папраўкай, а ў звычайных дадаюць у ёй яшчэ аргументы кароткага і доўгага перыядаў, лікавая велічыня якіх залежыць ад абураючых уздзеянняў планет адна на адну, што дае агульную папраўку, не перавышальнаю ў крайніх выпадках 4°, а звычайна нашмат меншую.

Такім чынам мы бачым, што ўсе геліяцэнтрычныя вылічэнні планетных месцаванняў робяцца грунтуючыся на звычайных табліцах вельмі проста шляхам простых дадаванняў і адыманняў розных аргументаў, а да стварэння першых із гэтых табліц парыжскімі астраномамі, пад рэдакцыяй Левер'е ў палове XIX стагоддзя, такія вылічэнні былі складанай і ненадзейнай справай.

Наколькі ж далёка ў глыб стагоддзяў б'юць такія астранамічнае гарматы, галоўны зарад якіх складаецца із велічыні сярэдняга геліяцэнтрычнага абарачэння дадзенай планеты, выведзенага із некалькіх дзясяткаў яе назіраемых абарачэнняў? Адносна таго, што поўнай дакладнасьці ў іх няма, бачна ўжо із некаторай розніцы ў табліцах розных аўтараў, а таму і паручыцца за долі градуса (ці нават за цэлыя

градусы пры вылічэннях грунтуючыся на ўсіх сучасных табліцах за ніжняй мяжой сярэдневечча) мы ніяк не можам.

Маючы на мэце па магчымасьці скараціць лікавыя выкладкі, мой памёршы супрацоўнік па астранамічным аддзяленні Дзяржаўнага Навуковага Інстытута імя Лесгафта, М. А. Вільеў, знайшоў для аднолькавых геацэнтрычных спалучэнняў Юпітара і Сатурна перыяд роўны 912, 9 гадоў, а я пазней прыйшоў да высновы, што яшчэ лепшым з'яўляецца перыяд роўны 854 гады, узор якога я і даю на прыкладзенай сінаптычнай табліцы, ўяўляючай вылічаныя мной геацэнтрычныя месцаванні Юпітара і Сатурна для дасьледуемага намі зараз гараскопа Бругшавай фіўскай магільні за чатыры мае перыяды (табл. XXIX). Чытач бачыць сам, што кожны выпадак сыходжання абедзьвюх галоўных планет у тым жа сузор'і складаецца із трыяды сумежных адзін з адным гадоў, а кожная трыяда знаходзіцца ад другой – ніжняй ці верхняй – большай часткай на 59, а ў рэдкіх выпадках на 60 гадоў.

ТАБЛІЦА XXIX.

Агульны характар месцаванняў Юпітара і Сатурна ў паслядоўных перыядах іхных серыяльных спалучэнняў, пададзены на прыкладзе фіўскага гараскопа Бругша.




2-я серия

1-я серия




**4-я серия** **3-я серия**

█ – межы паміж сузор'ямі Рака, Ільва, Панны, Двайнят.

●← ●← ● – перасоўванні Юпітара за трыяду паслядоўных гадоў (геацэнтрычныя на кастрычнік-лістапад)

●← ●← ● – тое ж для Сатурна,

○ -месцы, дзе Юпітар абагнаў Сатурн (тое ж геацэнтрычна на кастрычнік-лістапад).

Суцэльныя лініі зверху ўніз праз кропкі, з ухілам налева паказваюць, на якой экліптыкальнай даўгаце застае кожная новая трыяда адпаведныя месцаванні ранейшых трыяд Сатурна. У сярэдзіне (паміж №№ 6 і 7) адбываецца ўяўляемае перанясенне правай

із трох ліній на лева, але гэта толькі таму, што мы не працягнулі правую лінію да канца, таму што яна перастала задавальняць заданню дзякуючы сыходу Юпітара із дасьледуемых сузор'яў.

Пунктырная лініі зверху ўніз праз зорачкі, з ухілам направа, даюць тое ж самае для Юпітара.

Кожная із серый паўтарае папярэднюю лёгкім нахілам направа.

Мы бачым, што напачатку ўсе серыі збліжэнняў Юпітара і Сатурна былі яшчэ ў першай палове Рака, пасярэдзіне кожнай серыі яны былі каля прамежку паміж Ільвом і Ракам, як і паказана ў знойдзеным Бругшам у Фівах гараскопе магільні Азірыена; а знізе ўсіх чатырох серый злучэнні Сатурна і Юпітара выяўляюцца ўжо каля спіны і за спінай Ільва, так што для далейшага нашага дасьледавання выяўляюцца прыдатнымі толькі спалучэнні ў сярэдніх радках табліцы XXIX.

У табліцы XXX я паказаў тры розныя выпадкі геацэнтрычных аднаўленняў ранейшага становішча Сатурна і Юпітара праз 854 гады. Верхняя пара – перад пачаткам серый, сярэдняя – у сярэдзіне і ніжняя – пад канец серый.

Табліца XXIX, уласна кажучы, уяўляе толькі графічны выгляд спалучальных серый Юпітара і Сатурна, знойдзеных маім звычайным спосабам прасейвання, паказаным у IV томе «Хрыста» ў пралогу, і ўжываўшымся мной у гэтым дасьледаванні ўжо не раз без графіка. А тут я дадаў яшчэ і графік з нагоды таго, што фіўскі гараскоп Бругша дае надзіва позні час дасьледуемага іерагліфічнага дакумента – XVII стагоддзе нашай эры! Існавала патрэба паказаць відавочнае і пераканаўчае рашэнне усяго задання. А што ж можа быць больш навочным, чым графік? І вы самі бачыце із яго наступнае.

ТАБЛІЦА XXX.

Тры ўзоры 854-гадовага аднаўлення ранейшых геацэнтрычных злучэнняў Сатурна і Юпітара ў тым жа сузор'і Задыяка і агульны характар месцавання пры гэтым Сонца, Месяца і астатніх планет (тры пары із рашэнняў фіўскага гараскопа Бругша).

| Гады і дні | Сатурн | Юпітар | Марс | Сонца | Венера | Меркурый | Месяц |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| -1295-IX -22<br>-441-IX-30 | 117°<br>114° | 148°<br>147° | 192°<br>205° | 212°<br>214° | на ўсход<br>ад Сонца | на ўсход<br>ад Сонца | у Панне |
| D = 854 г. і 8 дн. | -3° | -1° | +13° | +2° | | | |
| -144-X-16<br>+710-X -25 | 146°<br>144° | 161°<br>160° | 197°<br>211° | 229°<br>232° | на ўсход<br>ад Сонца | на ўсход<br>ад Сонца | у Панне |
| D = 854 г. і 9 дн. | -2° | -1° | +14° | +3° | | | |
| +1007-X-12<br>+1861-X-19 | 174°<br>171° | 172°<br>171° | 183°<br>196° | 215°<br>219° | на ўсход<br>ад Сонца | на ўсход<br>ад Сонца | у Панне |
| D = 854 г. і 7 дн. | -3° | -1° | +13° | +4° | | | |

Калі мы будзем штогадова пазначаць месцаванне Юпітара і Сатурна пад час вызначана дня года, то з кожным годам Сатурн будзе перасоўвацца сярод зорак налева на 12°3, а Юпітар на 30°4, г.азн. на цэлае сузор'е, як гэта паказана ў кожнай трыядзе гадоў у табліцы. І мы бачым, што напачатку кожнай із чатырох, прыведзеных намі на дыяграме XXIX зверху серый прыдатных спалучэнняў (кожнае із якіх складае трыяду гадоў), трыядная лінія Сатурна перакрыжоўваецца трыяднай лініяй Юпітара з правага боку графіка, г.азн. іхнае сыходжанне бывае напачатку дадзенай вобласьці неба, уключаючай у сябе сузор'і Рака і Ільва, і нават за Ракам у Двайнятах (напрыклад у 1385, 531, -323 і -1177 гадах). І само сабой зразумела, што выпадак, паказваны на фіўскім гараскопе Бругша і даючы іхнае

сыходжанне каля 142°, на мяжы Рака і Ільва, не дапасую да пачатковых частак гэтых серый.

Не дапасуе ён і да канчатковых іхных спалучэнняў (напрыклад у трыядзе 1979, 1125, 271, -583 гадах), таму што там Юпітар абганяе Сатурн з левага боку дадзенага прамежку, г.азн. ужо за Ільвом у Панне (табл. XXIX, знізу).

Толькі ў сярэдніх спалучэннях мы бачым задавальняючыя выпадкі, асабліва ў 1682, у 828, у -26 і ў -880 гадах, якія ўласна кажучы і з'яўляюцца адзіна задавальняючымі для знойдзенага Бругшам фіўскага гараскопа і падлягаюць далейшаму дасьледаванню па Марсу, калі мы палічым залішнім працягваць вылічэнні далей, чым за паўтары тысячы гадоў да пачатку нашай эры.

Мы бачым, што ў выпадку значнай дакладнасьці і шматтысячагадовай нязменнасьці знойдзенага мной 854-гадовага перыяду аднолькавых геа-геліяцэнтрычных спалучэнняў Сатурна і Юпітара ўсе гэтыя серыі і трыяды выявіліся б паўторамі адна адной. Але на справе Сатурн прыходзіць у тую ж кропку небе не роўна праз 854, а праз $854^1/_4$ гады, так што геацэнтрычна непаспявае на 3°, а Юпітар прыходзіць у ранейшую кропку геацэнтрычна праз 584,05 гадоў, так што таксама спазняецца градусаў на паўтары ў кожнай наступнай серыі. І наадварот выяўляецца апярэджванне ў абодвух, калі будзем лічыць серыі назад, як бачна на прыкладзеных выпадках (маючых агульны характа). Гэты цыкл вельмі цікавы яшчэ і тым, што маладзікі і аднолькавыя фазы Месяца прыпадаюць у ім у сярэднім праз 8 дзён, ды і Марс займае даволі блізкае да ранейшага становішча. Дакладна так жа і Венера з Меркурыем схільны тут да таго каб заставацца разы два-тры на тым жа боку ад Сонца, на ўсход ці на захад ад яго. Але працягваць (хаця б у дадзеным выпадку) такія разлікі і такія графікі як наша табл. XXIX, на вельмі доўгія тэрміны (хаця б на 10 перыядаў, г.азн. на 8500 гадоў) назад было б неасцярожна, з нагоды ўжо пазначанага мной нашага няведання абсалютна дакладнай велічыні сярэдняга часу абарачэння планет, і нават таго, ці застаецца яно нязменным ад тысячагоддзя да тысячагоддзя, і ці застаецца нязменнай і сама даўжыня сутак, якой мы іх мераем. А на дастатковую дакладнасць паказаных на нашых графіках чатырох перыядаў мы можам спадзявацца і гэта больш чым дастаткова для магчымасьці выкарыстання астраноміі да навуковай, рэчаіснай, а не фантастычнай гісторыі народаў на зямлі.

Дзякуючы 854-гадоваму цыклу злучэнняў Юпітара і Сатурна нам дастаткова знайсьці іхныя ўзаемныя спалучэнні пад час адной навейшай серыі і замест таго каб вылічаць папярэднічаўшыя серыі, можна проста скарыстацца тым жа самым графікам, паставіўшы з іншага яе боку даты меншыя на 854 гады, а за імі даты меншыя на 2*854 гады, на 3*854 гады і гэтак далей згодна з табліцай XXIX.

| Серии соединений Юпитера и Сатурна | $2^е$ созвездие налево | | $1^е$ созвездие налево | | Данное созвездие | | $1^е$ созвездие направо | | $2^е$ созвездие направо | | Серии соединений Юпитера и Сатурна |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | +80° | +70° | +60° +50° | +40° | +30° +20° | +10° | 0 −10° | −20° | −30° −40° | −50° | |
| 0 | C | C | B | B | A | A | −B | −B | −C | −C | 0 |
| −1 | $D_1$ | $C_1$ | $C_1$ | $B_1$ | $B_1$ | $A_1$ | $A_1$ | −B | −B | −C | −1 |
| −2 | $D_2$ | $D_2$ | $C_2$ | $C_2$ | $B_2$ | $B_2$ | $A_2$ | $A_2$ | $-B_2$ | | −2 |
| −3 | $E_3$ | $D_3$ | $D_3$ | $C_3$ | $C_3$ | $B_3$ | $B_3$ | $A_3$ | $A_3$ | | −3 |
| −4 | $E_4$ | $E_4$ | $D_4$ | $D_4$ | $C_4$ | $C_4$ | $B_4$ | $B_4$ | $A_4$ | | −4 |
| −5 | $F_5$ | $E_5$ | $E_5$ | $D_5$ | $D_5$ | | $C_5$ $C_5$ | $B_5$ | $B_5$ | | −5 |

Мал. 140.

Сярэднія геліяцэнтрычныя змены месцаванняў Марса на працягу 854-гадовых Сатурна-Юпітэравых цыклаў. Пры злічэнні назад мінус 1-ы цыкл за 854 гады да дадзенага. Мінус 2-і за 1708 гадоў. Мінус 3-і за 2562 гады, мінус 4-ы за 3416 гадоў і мінус 5-ы за 4270 гадоў.

Я спрабаваў распрацаваць такі ж графічны метад і для Марса, але не дасягнуў пажаданых вынікаў.

Сапраўды, якімі з'яўляюцца месцаванні Марса пад час аднолькавых гадоў розных серый Юпітара-Сатурна?

Калі іхны прамежак роўны 854 юліянскім гадам з папраўкай на іхную прэцэсію мы падзелім на зорнае абарачэнне Марса, то атрымаем 454 яго поўных абарачэнні і +0.055 долі яго зорнага абарачэння, што адпавядае сярэдняму геліяцэнтрычнаму перасоўванню ўсіх яго месцаванняў на 17°-18° у кожнай новай серыі злучэнняў Юпітара і Сатурна, г.азн. геліяцэнтрычна каля паловы сузор'я налева, калі будзем лічыць серыі ад мінулага да сучаснасьці, і направа, калі будзем лічыць назад (мал. 140). Дзякуючы ўплыву эпіцыкла геацэнтрычнага руху Марса, гэтае геліяцэнтрычнае перасоўванне ўдалечыні ад эпіцыклічнай пятлі (калі Марс далей усяго ад Зямлі) можа паменшыцца да 12°, а паблізу пятлі, калі ён бліжэй да Зямлі, павялічыцца да 45°.

Але гэтая бачная з Зямлі розніца ў перамяшчэннях асобных частак яго арбіты для нас не мае цікавасці, пры набліжаным да ±5° разліку, таму што самі нашы графікі (мал. 141) навочна скарачаюць ўсе гэтыя нераўнамернасьці.

Вось на толькі што пазначаным табліца-графіку дадзены шлях Марса паміж 1857 і 1812 гадамі. Мы перадусім назіраем тут тры перыяды, кожны із якіх

адрозніваецца на 15 гадоў ад папярэднічаўшага: Марс ішоў напрыклад у 1856 годзе амаль так жа, як у 1841, а ў 1841 амаль так жа, як у 1826 годзе. Але паступова нарастаючае адрозненне ў яго шляху не дае магчымасьці працягваць падабенства суседніх перыядаў на не суседнія, і мы бачылі, што гэты недасканалы цыкл замяніўся і на нашай табліцы больш дасканалым, роўным 32 гады, таму што, ужо пазначаны намі, 1856 год набывае вялікае падабенства з 1824 годам, што працягваецца і ў наступных за імі гадах. Толькі замест таго ж самага радка ў нашай табліцы патрэбна ў трэццім слупку браць для параўнання з першым наступны за ім радок: год 1856 і 1824, 1854 і 1822 і г.д. І гэты 32-гадовы перыяд трымаецца ўжо нашмат больш трывала, чым 15-гадовы.

Вазьміце адсюль, напрыклад, хаця б месцаванне Марса 17 студзеня 1856 года (што паказана кропкай, дзе значыцца I, г.азн. сярэдзіна студзеня згодна з каардынатамі 1800-1900 года). Хаця тады Марс геацэнтрычна быў каля сваёй эпіцыклічнай пятлі, каля 198° у Панне, аднак ён і 32 гады назад, г.азн. 17 сакавіка 1825 года, быў амаль тут жа, усяго на 5° правей. А ўдалечыні ад эпіцыклічнай пятлі, напрыклад, 17 студзеня 1857 г., ён быў каля 341° у Вадаліве, ды і 32 гады назад у 1825 годзе ён 17 студзеня быў амаль тамсама каля 339°, г.азн. правей толькі на 2° і таксама ў Вадаліве.

Але і тут паступова нарастаючае адрозненне ходу не дае магчымасьці знайсьці працяглага падабенства, больш чым на сотню гадоў, што ахаплівае тры перыяду, і гэты цыкл нарэшце пераходзіць у 521-гадовы, якім можна карыстацца да чатырох разоў, ахопліваючы двухтысячагадовы прамежак часу, далей якога практычна рабіць вылічэнняў не даводзілася.

А для вылічэнняў на меншыя тэрміны можна карыстацца нашымі графікамі, у выглядзе набліжанай, выведваючай прылады (як я паказваў ужо ў IV томе «Хрыста») карыстаючыся такім метадам:

Гісторыка-астранамічная выведка па Сатурну і Юпітару заўсёды дае нам, як і для дасьледуемага зараз выпадку Фіўскага гараскопа Бругша (табл. XXVIII), тры серыі іхных прыдатных злучэнняў за ўвесь прамежак часу роўны $2^1/_2$ тысячы гадоў.

Знойдзем на нашых графіках (мал. 141) такі год, калі Марс пад час пазначанага на гараскопе месяца (яго заўсёды можна вызначыць з дапамогай месцавання Сонца, табл. XXXI) быў у пазначаным сузор'і.

ТАБЛІЦА XXXI.

Сярэдняя адпаведнасць юліянскіх месяцаў і сузор'яў Задыяка за апошнія $2^1/_2$ тысячы гадоў.

| | |
|---|---|
| I Студзень – Сонца ў Казярогу | VII Ліпень – Сонца ў Раку |
| II Люты – Сонца ў Вадаліве | VIII Аўгуст – Сонца ў Ільве |
| III Сакавік – Сонца ў Рыбах | IX Верасень – Сонца ў Панне |
| IV Красавік – Сонца ў Авене | X Кастрычнік – Сонца ў Шалях |
| V Травень – Сонца ў Цяляці | XI Лістапад – Сонца ў Скарпіёне |
| VI Чэрвень – Сонца ў Двайнятах | XII Снежань – Сонца ў Стралку |

У Фіўскім гараскопе (мал. 139 стар. 696) затушаваны Скарпіён у якасьці пазнакі яго нябачнасьці ў праменях Сонца, гэта азначае справа адбывалася каля лістапада (XI), і азначае што Марс (Гор-Тэзэр – Чырвоны гор) паказаны ў лістападзе (X месяц) паміж Ільвом і Паннай. Такі выпадак мы маем на графіку 1840 года (мал. 141).



Р
Вод
Козер
Стрелец
Скорп
Весы
Дева
Лев
Рак
Близн
Телец
Овен
Рыбы
360
330
300
270
240
210
180
150
120
90
60
30
0
1857
1856
1855
1854
1853
1852
1851
1850
1849
1848
1847
1846



P
Вод
Козер
Стрелец
Скорп.
Весы
Дева
Лев
Рак
Близн
Телец
Овен
Рыбы
360 330 300 270 240 210 180 150 120 90 60 30 0
1845
1844
1843
1842
1844
1841
1842
1840
1839
1840
1838
1837
1838
1836
1835
1836
1834



P
Вод.
Козер.
Стрелец
Скорп.
Весы
Дева
Лев
Рак
Близн
Телец,
Овен
Рыбы
360 330 300 270 240 210 180 150 120 90 60 30 0
1833
1834
1832
1831
1832
1830
1829
1828
1828
1827
1826
1827
1825
1825
1824
1823




Мал. 141.

(Больш падрабязна ў 4 томе )

Чатыры ўзоры 14-гадовых вяртанняў геацэнтрычнага шляху Марса па сузор'ях Задыяка амаль да першапачатковага выгляду. В – дзякуючы сумаванню рознасьцей гэты недакладны цыкл пераходзіць у больш дакладны 32-гадовы, што выразна бачна пры параўнанні, напрыклад, 1856 года з 1824 і наступных за імі. Тут толькі эпіцыклічныя петлі перамяшчаюцца каля 10° направа (пры злічэнні ў мінулае) і нумарацыя месяцаў памяншаецца на адзінку. Лічбы I, II, III... даюць 17-я дні гэтых месяцаў у XVIII, IX і XX стагоддзях: у XII-XV стагоддзях гэта будуць іхныя 14-я дні, у I-IV стагоддзях -7-я дні і г.д.

Аднімем ад гэтага года перадусім першы год у апошняй серыі злучэнняў Юпітара з Сатурнам (ці нават асьцерагаючыся папярэдняе злучэнне, г.азн. 1445 год, табл. XXIII на стр. 701), дададзім да рознасьці 5 нулёў, адпаведна колькасьці дзесяткавых знакаў у 1 год ,880831, што ўяўляе сабой час зорнага абарачэння Марса, і падзелім рознасць на гэтую лічбу. Калі Марс пад час дасьледуемага намі года ішоў амаль гэтак жа, як на абраным намі графіку, то рознасць зразумела будзе амаль цалкам падзяляцца на час зорнага абарачэння Марса, а калі не, то гэта азначае што Марс пад час узятага намі года ішоў згодна з іншым графікам, і табліца XXXII паказвае, які мы павінны ўзяць у нашай табліцы (мал. 141) за прыдатны. Так у дадзеным выпадку, маючы:

Першапачатковы год графіка 1840

Дасьледеумы год 1445

Рознасць 395,000000 | 1,880832

376 1664

18 83360

18 80832

2528000

1880832

6471680

5642496

8291840

Адкінуўшы із дзелі 210,0133 усю цэлую частку, як прыводзячую Марс да першапачатковага становішча, мы маем толькі малы дробавы прыдатак

R = 0,0133

Табліца XXXII паказвае, што ён адпавядае не ўзятаму намі графіку 1840 года, а такому, які быў за 32 гады да яго, г.азн. у 1808 годзе. Такога няма ў нашых табліцах, але, ведаючы, што за 32 гады ці праз 32 графікі бывае амаль тое ж, што і ўзятае намі за падставу, мы і лічым, што ў 1445 годзе Марс ішоў задавальняючы.

ТАБЛІЦА XXXII.

Вызначэнне задавальняючых нашым патрабаванням графікаў Марса грунтуючыся на дробавых рэштках ад кожнага яго графіка, узятага ў нашых табліцах. Прамежкавыя дробавыя рэшткі паказваюць на прамежкавае месцаванне шукаемага намі графіка.

| | Дробы R | Графік ад якога заўгодна намі абранага праз: | | Дробы R | Графік ад якога заўгодна намі абранага праз: |
|---|---|---|---|---|---|
| Дробавыя рэшткі ад поўных абарачэнняў да ніжняга становішча | 0,00 | + 0 гадоў | Дробавыя рэшткі ад поўных абарачэнняў да ніжняга становішча | 0,00 | - 0 гадоў |
| | 0,01 | -32 гады | | 0,99 | +32 гады |
| | 0,02 | +15 гадоў | | 0,98 | -15 гадооў |
| | 0,04 | -17 гадоў | | 0,96 | +17 гадоў |
| | 0,05 | +30 гадоў | | 0,95 | -30 гадоў |
| | 0,06 | -2 гады | | 0,94 | +2 гады |
| | 0,09 | +13 гадоў | | 0,91 | -13 гадоў |
| | 0,1 | -19 гадоў | | 0,9 | +19 гадоў |
| | 0,11 | +28 гадоў | | 0,89 | -28 гадоў |
| | 0,13 | -4 гады | | 0,87 | +4 гады |
| | 0,15 | +11 гадоў | | 0,85 | -11 гадоў |
| | 0,16 | -21 гад | | 0,84 | +21 гад |
| | 0,18 | +26 гадоў | | 0,82, | -26 гадоў |
| | 0,19 | -6 гадоў | | 0,81 | +6 гадоў |
| | 0,21 | +9 гадоў | | 0,79 | -9 гадоў |
| | 0,23 | -23 гады | | 0,47 | +23 гады |
| | 0,24 | +24 гады | | 0,76 | -24 гады |
| | 0,26 | -8 гадоў | | 0,75 | +8 гадоў |
| | 0,28 | +7 гадоў | | 0,72 | -7 гадоў |
| | 0,29 | -25 гадоў | | 0,71 | +25 гадоў |
| | 0,30 | +22 гады | | 0,7 | -22 гады |
| | 0,32 | -10 гадоў | | 0,68 | + 10 гадоў |
| | 0,34 | +5 гадоў | | 0,66 | -5 гадоў |
| | 0,35 | -27 гадоў | | 0,65 | +27 гадоў |
| | 0,37 | +20 гадоў | | 0,63 | -20 гадоў |
| | 0,38 | -12 гадоў | | 0,62 | -12 гадоў |
| | 0,4 | +3 гады | | 0,6 | -3 гады |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 0,42 | -29 гадоў | | 0,58 | +29 гадоў |
| | 0,43 | +18 гадоў | | 0,57 | -8 гадоў |
| | 0,44 | -14 гадоў | | 0,56 | +14 гадоў |
| | 0,47 | +1 год | | 0,53 | -1 год |
| | 0,48 | -31 год | | 0,52 | +31 год |
| | 0,49 | +16 гадоў | | 0,51 | -16 гадоў |

Такім жа спосабам мы маглі б вылічыць ход Марса і для кожнага астатняга задавальняючага спалучэння Юпітара і Сатурна, але я прапаную больш кароткі спосаб. Бачучы, што іхныя задавальняючыя спалучэнні паўтараюцца праз кожныя 59 гадоў ці праз 59+1 год, я дзялю гэтыя дзьве лічбы на лічбу зорнага абарачэння Марса, потым (таму што тут злічэнне часу ідзе не назад, а наперад) бяру ад дробавых рэшткаў дзелі арыфметычныя дадаткі і пішу:

1-ая адпаведнасць: 59 гадоў адпавядаюць 0.6309 долі зорнага абарачэння Марса, як гэта патлумачана ў чацьвёртай кнізе «Хрыста» і тут дапасавана да вылічэння на табліцы XXXIII.

Калі ж узнікне папатрэба пераскоку на 1 год дзеля таго, каб дагнаць пайшоўшыя наперад патрэбныя спалучэнні Юпітара і Сатурна, то патрэбна дадаваць.

ТАБЛІЦА XXXIII.

Асноўнае патрабаванне Фіўскага гараскопа Бругша: Марс для навейшай серыі павінен ісьці, як у 1840 годзе.

| Гады R (таб XXXII) | Высновы |
|---|---|
| 1445- - 0.0133,<br>+59- -0.6309 | Г. азн. у 1445 годзе Марс ішоў амаль адпаведна з графікам 1840 года. Кастрычнік у Ільве і пачынаючы з лістапада ў Панне, дзе рабіў да ліпеня наступнага года эпіцыклічную пятлю. Дапасуе. |
| 1504- - 0.6442,<br>+59- -0.6309 | Г. азн. у 1504 годзе Марс ішоў адпаведна з графікам 1820 года. Кастрычнік у Шалях лістапад ў Скарпіёне. |
| 1563- - 0.2751,<br>+59- -0.6309 | Г. азн. у 1563 годзе Марс ішоў адпаведна з графікам 1847 года. З ліпеня і да пачатку наступнага года рабіў эпіцыклічную пятлю ў Авене. |
| 1622- - 0.9060,<br>+59- -0.6309<br>+1- -0.44684 | Г. азн. у 1622 годзе Марс ішоў адпаведна з графікам 1827 года. Кастрычнік у Ільве, лістапад у Панне. І 1623 год адпаведна з графікам 1828 г. Кастрычнік у Казярогу. Дапасуе. |
| 1682- - 0.0053,<br>+59- -0.6309 | Г. азн. у 1682 годзе Марс ішоў адпаведна з графікам 1840 года. Кастрычнік у Ільве і з лістапада ў Панне, дзе рабіў да ліпеня наступнага года эпіцыклічную пятлю. Дапасуе. |
| 1741- - 0.6362,<br>+59- -0.6309<br>+1- -0.4684 | Г. азн. у 1741 годзе Марс ішоў адпаведна з графікам 1820 года. Кастрычнік у Шалях і Скарпіёне, а ў 1742 годзе адпаведна графіку 1821 г. зрабіў эпіцыклічную пятлю паміж Раакам і Ільвом. |
| 1801- - 0.7355,<br>+59- -0.6309<br>+1- -0.4684 | Г. азн. у 1801 годзе Марс ішоў адпаведна з графікам 1833 года. Кастрычнік у Шалях і лістапад у Скарпіёне. |
| 1861- - 0.8348, | Г. азн. у 1861 годзе Марс ішоў амаль адпаведна з графікам 1829 года. Кастрычнік у Панне, лістапад у Шалях. |
| Для таго каб атрымаць дробныя рэшты для першай із папярэднічаўшых серый, патрэбна дадаваць да гэтых рэштаў 0,055. Каб атрымаць дробныя рэшты другой із папярэднічаўшых серый, патрэбна дадаваць 2*0,055=0,11 | |

2-ая адпаведнасць: 1 год адпавядае 0,4684 долі зорнага абарачэння Марса, як гэта тамсама паказана (Пралог, стар. 50) і выкарыстана тут для вылічэння на табліцы XXXIII.

Арыентуючыся на велічыню дробавых рэшткаў мы заўсёды знойдзем і графік па якому ішоў у дадзеным выпадку Марс, карыстаючыся табліцай XXXII.

Так у рэштцы для 1504 года атрымалася 0,6442, лічба прамежкавая паміж 0,63, якая дакладна адпавядала б 1820 году і 0,65, якая адпавядала б графіку праз 18 гадоў, г.азн. 1867 году. Але для нас не мае значэння які із гэтых графікаў нам узяць, таму што ход Марса на іх амаль дакладна тоесны.

У дачыненні да дадзенага выпадку можна сказаць, што калі мы знайшлі графік ходу Марса пад час нейкага года нейкай серыі загадзя пазначаных нам спалучэнняў Юпітара і Сатурна, то ў адпаведным годзе папярэднічаўшай серыі (г.азн. за 854 гады) Марс ішоў амаль адпаведна такому ж графіку, які быў за два гады перад дасьледуемым намі годам. А ў наступнай серыі – наадварот.

І вось, дапасуючы такія метады да гараскопа бругшавай Фіўскай магільні, мы атрымліваем наступныя рашэнні, пачынаючы з той серыі, якая прыпадае на час каля пачатку нашай эры (таму што да гэтага часу дапасаваў яе Бругш, кіруючыся толькі адзіна гістарычнымі меркаваннямі).

## А. Першая старажытная серыя спалучэнняў Юпітара і Сатурна (ад –323 па +271 год).

Зірнуўшы на нашу асноўную выведкавую табліцу (табл.XXVIII, стар. 701), мы бачым, што больш-менш прыдатныя спалучэнні Юпітара і Сатурна паміж Ракам і Ільвом у кастрычніку-лістападзе былі пад час гэтага перыяда, як я ўжо паведамляў, толькі ў -204, -145, -85, -26, +33 і +93 гадах, а такім чынам толькі гэтыя гады і падлягаюць далейшаму дасьледаванню, і перадусім дасьледаванню па Марсу.

*Із іх у -204 годзе Марс пры Сонцы ў Шалях ці Скарпіёне і пры Месяцы каля Панны (г.азн. у год мінус 204-X-19) месцаваўся геацэнтрычна каля 219°, г.азн. ужо не ў Панне, як паказана, а ў Шалях пры Сонцы пад 231° (таксама ў Шалях пры пераходзе ў Скарпіёна) і ішоў за Сонцам у Скарпіёна адпаведна з графікам 1850 года (табл. натр. 712), так што гэты год адпадае.*




Мал. 142.

Становішча планет 16 кастрычніка мінус 144 года і 7 кастрычніка плюс 93 года нашай эры. Для даты 18 кастрычніка мінус 144 года не дапасуе: Юпітар у спіне Ільва замест яго галавы, і Сонца ў Шалях замест Скарпіёна. Дрэнна дапасуецца Марс, паказаны паміж Ільвом і Паннай, а выявіўшыся бліжэй да Шаляў. Для даты 7 кастрычніка плюс 93 года не дапасуюць: Сатурн і Юпітар, патрапіўшыя ў спіну Ільва замест галавы. Сонца, месцаваўшаяся яшчэ ў Шалях замест Скарпіёна, і Венера ў Скарпіёне замест Стралка. Заканчэнні стрэлак паказваюць, дзе павінна быць пазначаная зорачкай планета для таго, каб задаволіць патрабаванні дасьледуемага гараскопа. А іншых, годных дэталёвага дасьледавання, рашэнняў астранамічная выведка не дае аж да 710 года нашай эры.

*У -145 годзе, пры Сонцы ў Шалях ці Скарпіёне і пры Месяцы ў Панне Марс быў не ў Панне, а ужо ў спіне Ільва, і акрамя таго мала дапасуе адносна Юпітара, што быў не паміж Ільвом і Паннай. У -144-X-16 Марс ішоў адпаведна з графікам 1829 года і быў ужо ў другой палове Панны, а не ў першай, як паказана. Праўда, што ў гэты год Венера была каля 250° і Меркурый каля 233°, г.азн. у Скарпіёне і Стралку, як і патрэбна, але Юпітар і Сатурн ужо разышліся на 10° (мал. 142) і акрамя таго Юпітар быў пасярэдзіне Ільва (156°), што не адпавядае надпісу пра іхнае злучэнне каля пашчы Ільва. Гэта азначае што і гэты год адпадае грунтуючыся на Юпітары і на Сонцы, засланіўшаму Шалі, а не Скарпіёна (таму што кружок на Шалях пішацца заўсёды на іхным астралагічным малюнку проста для пазначэння тут пачатку Сонечнага года ад восеньскага раўнадзенства).*

*У -85 годзе ў кастрычніку-лістападзе Марс ішоў далёка ад паказанага месцавання – па Стралку і Казярогу.*

*У -26 годзе Марс ішоў амаль адпаведна з графікам 1821 года і быў у лістападзе ў Ільве, а не ў Панне, гэта азначае і гэты год адпадае, асабліва таму, што, апісаўшы ў Ільве эпіцыклічную пятлю, ён прыйшоў у Панну толькі ў чэрвені наступнага года.*

*У +33 годзе Марс ішоў амаль адпаведна з графікам 1816 года і быў у лістападзе ўжо ў Шалях, ды і Венера была пад 209° таксама ў Шалях, а не паміж Скарпіёнам і Стралком. Адпадае і гэты год.*

*А ў +93 годзе ў кастрычніку пры Месяцы ў Панне і пры Сонцы ў Шалях пад 219° (год +93-X-7) Сатурн быў пад 164°, Юпітар пад 156, г.азн. абодва ўжо бліжэй да хваста Ільва, тады як пазначаны ў яго пашчы, а Марс быў сапраўды ў Панне пад 195°, Венера каля 265° і Меркурый каля 230 (мал. 142). Мы бачым, што і гэты год не дапасуе грунтуючыся на галоўных планетах, Юпітары і Сатурне, ды і дапасуе толькі для Сонца ў Шалях, а не ў Скарпіёне.*

Такім чынам, уся гэтая старажытная серыя адпадае. Што ж мы тут бачым? Вельмі важную рэч.

Сучасныя ягіптолагі грунтуючыся на сваёй высновы пра вялікую старажытнасьць ягіпецкага дэматычнага пісьма (з дапамогай якога зроблены надпісы на гэтай магільні) дапасуюць яе да першых стагоддзяў да пачатку нашай эры ці да яе пачатку. А наш гісторыка-астранамічны аналіз, аспрэчваючы гэта, аспрэчвае тым самым і старажытнасьць дэматычнага альфабэта.

Але магчыма яно было яшчэ больш старажытным, чым той перыяд, які мы цяпер дасьледавалі?

Я сам не пралічваў фіўскі гараскоп на прыналежнасць да больш старажытных часоў, лічачы справу не маючай сэнсу, але гэта зрабіў мой памёршы супрацоўнік па астранамічнаму аддзяленню Дзяржаўнага Навуковага Інстытута імя Лесгафта М. А. Вільеў, які не адважваўся да самой сваёй сьмерці падняць руку на ўсю старажытную храналогію. Яшчэ гімназістам ён прачытаў маю кнігу «Адкрыццё ў навальніцы і буры», і яна, – як ён мне сам потым распавёў, – заахвоціла яго заняцца вылічальнай астраноміяй. Толькі што скончыўшы Пецярбургскі ўніверсітэт на астранамічным аддзяленні, ён паступіў да мяне супрацоўнікам у інстытута імя Лесгафта. Разам з ім мы пачалі складаць тыя табліцы рухаў Сатурна і Юпітара, якія прыведзены ў мяне ў IV томе «Хрыста». Я пачаў гэта з ужо ўсталяваўшымся перакананнем, што памылкі ў звычайным храналагіраванні нашых гістарычных першакрыніц могуць даходзіць да

тысячагоддзяў, а ён яшчэ верачы ў глыбокую старажытнасьць ягіпецкай культуры і іншых усходніх культур і спадзеючыся пацвердзіць іх.

І вось, у 1914 годзе ў сьвет выйшла мая кніга «Прарокі». У дадатку да яе я ўпершыню даў кароткае вылічэнне разбіраемага намі зараз Фіўскага гараскопа Бругша, дзе паказаў, што дастаткова пераканаўчага рашэння для яго няма на працягу ўсяго першага тысячагоддзя нашай эры, а дзьве мала задавальняючыя даты атрымліваюцца, – ды і то ў выпадку праходжання Сонца ў Шалях, – толькі для 6 кастрычніка +93 года, ды 23 кастрычніка +710 года.

Пад уплывам пярэчанняў прафесара Тураева, а таксама і адпаведна уласнаму жаданню, Вільеў вырашыў, нарэшце, зрабіць грунтуючыся на маім метадзе поўны агляд усіх прыдатных для гэтага выпадку планетных спалучэнняў (даўжэй чым за 5400 гадоў, г.азн. пачынаючы ад мінус 3400 года аж да нашага часу). Яго дасьледаванне я размясьціў у І томе «Вестак Пецярбургскага Навуковага Інстытута імя Лесгафта», выходзіўшых пад маёй рэдакцыяй з 1919 года[7]. Там, пацвердзіўшы мае рашэнні, канспектаваныя ў «Прароках», ён знайшоў, што і пад час самага старажытнага перыяду (ад мінус 3400 года) атрымваюцца толькі два, ды і то мала прыдатныя рашэнні:

1) Для года мінус 2529-X-15, пры Сонцы каля 243° у Скарпіёне і пры Венеры каля 287° у Стралку, Меркурый месцаваўся каля 240°, на мяжы з Шалямі, Марс у Панне каля 192°, Юпітар паміж Ракам і Ільвом, як паказана, але і тут Сатурн сапсаваў усю справу, таму што знаходзіўся далёка перад Юпітарам у сярэдзіне Ільва. І тут паказаная планетная канстэляцыя, асноўнай рысай якой з'яўляецца цеснае злучэнне Юпітара і Сатурна паміж Ракам і Ільвом, не далей галовы Ільва (мал. 143) не падцвердзілася ў самым галоўным.

2) Для года мінус 1675-IX-23, калі Сатурн знаходзіўся пад 157°, Юпітар пад 137°, Марс пад 186° і Сонца пад 216°, Венера пад 256 і Меркурый пад 229°. Тут шмат што было б задавальняючым пры месцаванні Сонца не ў Скарпіёне, а ў момант пераходу ў Шалі із Панны, ды Сатурн сапсаваў усю справу: ён яшчэ не быў у злучэнні з Юпітарам, а на 20°-ай адлегласьці ад яго (мал. 143).

З нагоды важнасьці прадмета я тут канспектыўна выкладаю сутнасць усяго праверачнага вылічэння М. А. Вільева.

Блізкія сыходжанні Юпітара і Сатурна каля галавы Ільва былі згодна з ім толькі пад час наступных юліянскіх гадоў (пры гэтым значкі Ю. С. паказваюць, што Юпітар ідзе наперадзе Сатурна, а С. Ю., што Сатурн ідзе наперадзе Юпітара).

Марс

| | |
|---|---|
| -2766 (Ю. С.) | 0.429, вер. 25 |
| -2647 (С. Ю) | 0.705 вер. 29 |
| -1912 (Ю. С.) | 0.491 каст. 3 |
| -1793 (С. Ю.) | 0.767, каст. 29 |
| -1058 (Ю. С.) | 0.555, кастр. 12 |
| -939 (Ю. С.) | 0.786, кастр. 16 |
| -880 (С. Ю.) | 0.167, кастр. 24 |
| -85 (Ю. С.) | 0.849, кастр. 25 |
| -26 (С. Ю.) | 0.228, кастр. 2 |
| +34 (Ю. С.) | 0.125, кастр. 29 |
| +93 (С. Ю.) | 0.506, кастр. 7 |
| +710 (Ю. С.) | 0.574, кастр. 25 |

[7] М. А. Вільеў: «Тэорыя вызначэння часу зададзенай планетнай канстэляцыі» («Весткі Пецярбургскага Навуковага Інстытута ім. Лесгафта, тым І, 1919 г., стар. 58-128).

| | |
|---|---|
| +769 (Ю. С.) | 0.910, кастр. 2 |
| +828 (С. Ю.) | 0.291, кастр. 10 |
| +888 (Ю. С.) | 0.187, кастр. 7 |
| +947 (С. Ю.) | 0.565, кастр. 14 |
| +1623 (Ю. С.) | 0.873, кастр. 11 |
| +1682 (С. Ю.) | 0.353, кастр. 18 |
| +1742 (Ю. С.) | 0.249, кастр. 15 |
| +1801 (С. Ю.) | 0.629, кастр. 23 |
| +1861 (Ю. С.) | 0.524, кастр. 19 |

У другім слупку тут паказаны дробавыя парэшткі ад поўных абарачэнняў Марса, але лічачы не ад яго месцаванняў у патрэбным сузор'і, як у мяне, а грунтуючыся на яго сярэднім руху, пачынаючы ад веснавога раўнадзенства ў 1900 г. у сузор'і Рыб. Дзякуючы таму што сузор'е Панны, у якім паказаны ў гараскопе Марс, знаходзіцца амаль непасрэдна насупраць Рыб, то відавочна, што із усіх вышэйпаказаных гадоў, пры месцаванні Сонца ў Шалях і Месяца ў Панне (што вызначае апошнія дні верасня ці кастрычніка), ці нават пры Сонцы ў Скарпіёне (лістапад месяц) прыдатныя толькі тыя дні, у якіх дробавая рэштка Марса большая чым 0,3 і менш чым 0,6, г.азн. із усіх толькі што прыведзеных дат, для далейшага дэталёвага дасьледавання прыдатнымі з’яўляюцца толькі наступныя восем:

| | |
|---|---|
| -2766 (Ю. С.) | 0.429, вер. 25 |
| -1912 (Ю. С.) | 0.491, кастр. 3 |
| -1058 (Ю. С.) | 0.555, кастр. 12 |
| +93 (С. Ю.) | 0.506, кастр. 7 |
| +710 (Ю. С.) | 0.574, кастр. 25 |
| +947 (С. Ю.) | 0.565, кастр. 14 |
| +1682 (С. Ю.) | 0.353. кастр. 18 |
| +1861 (Ю. С.) | 0.524, кастр. 19 |

Але і з іх -2766, -1912 і -1058 гады з’яўляюцца непрыдатнымі грунтуючыся на Меркурыі, які быў з другога боку Сонца, чым паказана, а +947 год непрыдатны грунтуючыся на Венеры. Выключаючы 1861 год, як вельмі позні, маем на заканчэнні толькі +93, +710 і +1682 гады[8].




Мал. 143

Месцаванне планет 15 кастрычніка мінус 2529 года і 23 верасня мінус 1675 года. Для даты 15 кастрычніка мінус 2529 года не дапасуюць: Сатурн, што патрапіў замест галавы Ільва ў

[8] «Весткі Петраградскага Навуковага Інстытута імя П. Ф. Лесгафта», т. I, 1920 г.

яго спіну, бліжэй да хваста і Меркурый, патрапіўшы ўсярэдзіну сузор'я Панны. Для даты 23 верасня мінус 1675 года не дапасуюць: той жа Сатурн, і акрамя яго Сонца, толькі што ўступіўшае ў Шалі замест Скарпіёна. А 22 лістапада, калі Сонца прыйдзе ў Скарпіён Сатурн яшчэ больш ссунецца да хваста Ільва замест яго галавы. Заканчэнні стрэлак паказваюць, дзе павінна б быць пазначаная зорачкай планета для таго, каб задаволіць дасьледуемаму гараскопу. Абодва рашэнні не дапасуюць па самай галоўнай із кіруючых планет – Сатурна. А іншых годных для дасьледавання рашэнняў гісторыка-астранамічная выведка не дае аж да другога стагоддзя перад пачаткам нашай эры (наступная дыяграма).

Такімі з'яўляюцца рашэнні М. А. Вільева. Выключыўшы +1682 год, як прыдатны толькі пры Сонцы ў Скарпіёне, тады як Вільеў падобна мне няправільна лічыў за Сонца кружок над Шалямі, але прыйшоў да сумнай высновы, што для гэтай магільні не існуе ніводнага цалкам задавальняючага рашэння.

І вось нам зараз тут нічога не застаецца рабіць, як шукаць дастаткова дакладна задавальняючага рашэння бругшавага Фіўскага гараскопа пад час сярэднявечных і найноўшых злучэнняў Сатурна і Юпітара ў галаве Ільва, і пры тым лічачы, што кружок над Шалямі з'яўляецца проста пазначэннем пачатку года з восені, па-візантыйску, і што затушаваны Скарпіён пазначае яго апусканне ў прамяні Сонца, як я і лічыў спачатку, пакуль мяне не збіў са слушнага шляху вельмі позні год атрыманага мной рашэння.

## В. Сярэднявечная серыя спалучэнняў Юпітара і Сатурна паміж Ільвом і Ракам (ад +531 па +1125 гады).

Зірнуўшы на гэтую серыю нашай асноўнай выведкавай табліцы (табл. XXVIII, на стр. 701), мы бачым, што ў ёй спалучэнні Сатурна і Юпітара паміж Ракам і Ільвом, каля галавы Ільва, мелі месца толькі ў 650, 709, 769, 827, 887 і 947 гадах, а такім чынам толькі яны адны і падлягаюць далейшаму дасьледаванню, і перадусім грунтуючыся на Марсе.

Але ў 650 годзе Марс ішоў у кастрычніку і лістападзе ў Скарпіёне адпаведна з графікам 1818 года.

У 709 годзе Марс ішоў у кастрычніку ў Рыбах, замест Панны, а ў 710 годзе, хаця і быў пад канец Панны (211° для 25 кастрычніка 710 гады, ідучы адпаведна з графікам 1846 г.), але Сонца было яшчэ ў Шалях, ды і Юпітар быў не ў галаве, а далёка ў спіне Ільва (мал. 144).

У 769 годзе Марс ішоў у кастрычніку-лістападзе замест Панны ў Казярогу адпаведна з графікам 1826 года, а ў 770 годзе, хаця і быў у гэты час у Панне, але Юпітар ужо прыйшоў із Ільва ў Панну.

У 828 годзе Юпітар і Сатурн вельмі дапасуюць да пазначаных: шчыльна сышліся ў самой пашчы Ільва, але Марс ішоў адпаведна з графікам 1838 года і быў 6 лістапада замест Панны ў Ільве (пад 162° даўготы згодна з каардынатамі 1900 года, пры Месяцы ў Панне).

Тут ён і апісаў сваю эпіцыклічную пятлю, закрануўшы Панну толькі ў студзені наступнага года.

У 887 годзе Марс ішоў ужо ў Скарпіёне адпаведна з графікам1850 года, а не ў Панне. І гэты год не дапасуе.

А ў 947 годзе Марс ішоў адпаведна з графікам 1854 года і быў у лістападзе ў Стралку, замест Панны, што зноў абсалютна не дапасуе.




Мал. 144
Месцаванні планет 25 кастрычніка і 24 лістапада 710 года нашай эры.
У абодвух выпадках не дапасуе Юпітар, месцаваўшыся замест галавы Ільва ў яго спіне; Марс, месцаваўшыся ў Панне з боку Шаляў ці ў саміх Шалях, тады як павінен быў быць у Панне з боку Ільва, а ў другім выпадку і Меркурый. Заканчэнні стрэлак паказваюць, дзе павінны быць пазначаныя зорачкамі планеты, каб задаволіць патрабаванням дасьледуемага гараскопа. Іншых рашэнняў, прыдатных для дэталёвага дасьледавання, астранамічная выведка не дае аж да 1682 года нашай эры.

Мы бачым, што і із гэтай сярэднявечнай серыі спалучэнняў Сатурна і Юпітара паміж Ракам і Ільвом нічога не засталося. Не засталося нават і 710 года, які я, некалі, не адважваючыся выходзіць пры храналазіванні дэматычнага ягіпецкага пісьма за межы сярэдневечча, пакінуў (праз адсутнасць нечага лепшага) у сваёй кнізе «Прарокі», хаця б Юпітар у кастрычніку-лістападзе 710 года быў не ў галаве, а ў спіне Ільва (мал. 144).

І вось, раз мы ўжо ступілі на гэты цярністы шлях, нам нічога не застаецца рабіць, як прайсьці яго да канца і паглядзець, ці не знойдзем мы дастаткова прыдатнага рашэння ў апошняй серыі спалучэнні Юпітара і Сатурна.

## С. Навейшая серыя спалучэнняў Сатурна і Юпітара паміж Ракам і Ільвом (ад 1385 па 1979 год).

Зірнуўшы на гэтую серыю ў нашай асноўнай выведкавай табліцы (табл. XXVIII на стр. 701), мы бачым, што больш-менш удалыя спалучэнні Юпітара і Сатурна паміж Ракам і Ільвом былі тут толькі ў 1504, 1563, 1624, 1623, 1682, 1741, 1801 я 1861 гадах.

Толькі гэтыя гады, асабліва 1623 і 1682, і падлягаюць далейшаму дасьледаванню і перадусім грунтуючыся на Марсе.

Але ў 1504 годзе Марс ішоў адпаведна з графікам 1820 года і быў у кастрычніку-лістападзе ужо паміж Шалямі і Скарпіёнам, а не ў Панне.

У 1563 годзе ён ішоў адпаведна з графікам 1847 года і быў у кастрычніку-лістападзе ў Авене і Цяляці.

У 1623 годзе ён ішоў адпаведна з графікам 1828 года і быў у кастрычніку-лістападзе далёка ад Панны ў Казярогу.

І толькі ў 1682 годзе, самым прыдатным грунтуючыся на злучэнні Юпітара і Сатурна паміж Ракам і Ільвом каля самой галаве Ільва, Марс ішоў адпаведна з

графікам 1840 года і 17 лістапада 1682 года (пры Месяцы ў Панне, як паказана на гараскопе) і быў пад 182°, г.азн. якраз у Панне, на мяжы з Ільвом і пры сонцы пад 248°, якраз пасярэдзіне Скарпіёна (мал. 145). Вось выдатнае супадзенне, адзіна вартае самага ўважлівага дасьледавання грунтуючыся і яшчэ на двух астатніх планетах – Венеры і Меркурыю. Але рзгледзім спачатку і наступныя тры, хаця і менш задавальняючыя спалучэнні Юпітара і Сатурна ў гэтай серыі.




Мал. 145

Месцаванні ўсіх бачных простым вокам планет.
Зверху: на 17 лістапада 1682 года. Знізу: на 18 лістапада 1861 года. Безумоўна дакладнае супадзенне з Фіўскім гараскопам Бругша за ўвесь час ад мінус 2000 года і аж да нашага часу дае толькі 17 лістапада 1682 года (верхні малюнак, дзе цалкам адсутнічаюць выпраўляючыя стрэлкі).

У 1623 годзе Марс у кастрычніку-лістападзе быў на процілеглым баку неба, а ў 1622 Юпітар быў яшчэ паміж Ракам і Двайнятамі, так што абедзьве даты адпадаюць.

У 1741 годзе Марс ішоў адпаведна з графікам 1820 года і ў кастрычніку-лістападзе быў у Шалях-Скарпіёне замест Панны.

У 1801 годзе Марс ішоў адпаведна з графікам 1818 года і пры Месяцы ў Панне быў каля 23 кастрычніка ўжо пад 222° (у Шалях замест Панны, нябачны за Сонцам), а ў кастрычніку пайшоў у Скарпіёна. Не дапасуе.

І, нарэшце, у 1861 годзе, за год да выдання кнігі Бругша з апісаннем гэтай магільні, Марс ішоў адпаведна з графікам 1829 года і пры Сонцы ў Скарпіёне (219°) і Месяцы ў Панне месцаваўся 19 кастрычніка 1861 года каля сярэдзіны Панны (161°), але Юпітар і Сатурн сышліся ўжо ў хвасьце Ільва, а не ў яго пастцы.

Такім чынам, толькі ў 1682 годзе мы, нарэшце, атрымалі самы дакладны малюнак на небе гараскопа Бругшавай Фіўскай магільні ў дачыненні да Сонца, Месяца, Марса, Юпітара і Сатурна. У гэтым адзіным, пачынаючы ад мінус 3400 года і аж да нашага часу, выпадку каля 15 лістапада 1682 года Месяц быў, як паказана, у Панне; Марс, як паказана, толькі нядаўна прыйшоў у яе і быў каля 179° па даўгаце, бліжэй да Ільва. Ды і Венера пры дэталёвым дасьледаванні яе шляху была, як паказана, налева ад Сонца (каля 290°), паблізу галавы Стралка, да якой і нахіляецца яе дэматычны надпіс: «Сьвяцільня Раніцы».

Пры такой колькасці дзіўных супадзенняў ужо немагчымы ніякія сумневы, што запіс дапасуецца да 17 лістапада 1682 года нашай эры. Але толькі чаму ж назва

Меркурыя пастаўлена паміж Скарпіёнам і Шалямі, калі згодна з астранамічным вызначэннем ён быў у той час паміж Скарпіёнам і Стралком (каля 268° па даўгаце (мал. 145)?

Самы просты адказ дае на гэта сам малюнак: усё месца паміж Стралком і Скарпіёнам было ўжо занята найменнем Венеры (Пе-Нетэр-Тау, Свяцільня Раніцы). Найменне Меркурыя немагчыма было туды ўціснуць, і заставалася толькі размясьціць яго там, дзе яно і існуе, тым больш, што пры нізкім месцаванні Сонца на экліптыцы Меркурый у лістападзе, хутка ішоўшы ў гэты час адваротным шляхам праз сваё ніжняе злучэнне з Сонцам, менавіта ў накірунку да Шаляў, быў нябачным падчас стварэння гараскопа, і ранейшы аўтар амаль напэўна тут павінен быў памыліцца ў разліках. Пры гэтым жа і сам надпіс зверху загінаецца над Скарпіёнам.

Я цалкам разумею, што такое пазняе рашэнне можа быць падставай для страты прытомнасьці сучасным ягіптолагам і я прызнаюся, што страціў прытомнасць і сам, сведчанні чаго відавочныя. Пры першай спробе вызначэння гэтага гараскопа, у 1913 годзе, не знайшоўшы нічога дакладна прыдатнага, акрамя 1682 года, я і сам прызнаў магчымым зрабіць нацягванні і, заплюшчыўшы вочы на тое, што Сатурн і Юпітар цалкам выразна паказаны ў цесным злучэнні каля самай пасткі Ільва, спыніўся на іх злучэнні далёка адсюль у спіне Ільва ў 63 годзе нашай эры і нават на 710 годзе, калі толькі адзін Сатурн быў у пазначаным становішчы.

Але ж калі такія недакладнасьці мы будзем лічыць знаходзячыміся ў межах памылкі складалальніка гэтага гараскопа, то павінны будзем прызнаць перадусім, што яго напісаў сам Бругш, пазначыўшы такім спосабам час апісання ім гэтай магільні ў 1861 годзе, калі ўсё было як паказана, акрамя таго, што цеснае злучэнне Юпітара і Сатурна прыпадала не на галаву Ільва, а на яго хваст (мал. 145, знізу). А калі мы не пажадаем прызнаць, што гэта жарт Бругша, то павінны будзем перадусім кіравацца наступным меркаваннем: два цесныя радкі пра Юпітар і Сатурн, паказваючыя выключна на пашчу Ільва, павінны лічыцца асноўным указаннем, а надпісу Меркурый налева ад Скарпіёна, у той час калі яго малюнак патрэбна было б паставіць направа, не патрэбна надаваць значэння, грунтуючыся на адным тым меркаванні, што аўтару гэта твору было фізічна немагчыма зрабіць так праз адсутнасць месца, ды і яшчэ таму, што ён ужо дастаткова даўно не мог бачыць Меркурый ў полымі світанння. І тады атрымліваецца, што із усіх гэтых рашэнняў ад 3400 года да пачатку нашай эры і да сучаснасьці астраномія нам дае толькі адзін адказ:

**Фіўскі гараскоп Бругша паказвае на 17 лістапада 1682 года.** Толькі ў адзіна гэты год і дзень усё бачымае на небе пазначана з поўнай дакладнасьцю, а нябачымае пазначана прыблізна.

Гэта адзінае рашэнне.

Але няўжо нават у XVII стагоддзі ў Ягіпце яшчэ існавалі сьвятары-якавіты ці нестарыяне, не толькі даваўшыя адказы на нябесныя гараскопы і бальзамаваўшыя за плату шляхетных памёршых, – як гэта было нават і ў XVIII стагоддзі, – але і пісаўшыя згодна з царкоўнай традыцыі дэматычным пісаннем?

Атрымліваецца, як быццам бы так...

# Глава VII.

## Атрыбскія гараскопы.

У 1902 г. у Лондане Брытанская егіпталагічная школа выдала працу В. М. Фліндэрса Петры пад загалоўкам “Атрыба”[9], прысвечаную апісанню знаходак, зробленых у 1901 годзе гэтым ягіптолагам у Верхнім Ягіпце паблізу Сахага (Sohag). Атрыба меўшая пад час старажытнасьці найменне Хат-Рэпіт (г.азн. Умацаванне Рэпіт), знаходзіцца да поўдзень ад Дэкр-Амба-Шэнудэ (г.азн. Белага Кляштара), дзе яшчэ раней былі знойдзены сляды келлі, дапасуемай ягіптолагамі да IV стагоддзя нашай эры. А на поўдзень ад яе, каля Хагарзе, дзе атачаючыя скалы ўступамі апускаюцца да Нільскай даліны, былі знойдзены гістарычныя помнікі, дапасуемыя дасьледчыкамі да часу архейскага ягіпецкага царства.

І ў самой Атрыбе, яшчэ раней, былі знойдзены два храмы: адзін, дапасуемы да часу Пталямея IX Флеската, і другі, «пачаты Пталямеем XIII Аўлетам (г.азн. Богазмагальнікам-Дворнікам) і дабудаваны Клаўдыем і Адрыянам». Яна размешчана на самай мяжы пустыні, і дзякуючы гэтаму гэтыя парэшткі старажытнасьці былі засыпаны пяском, што само па сабе ўяўляе вельмі рэдкі выпадак, таму што ягіпецкія магільні звычайна знаходзяцца пад адкладаннямі нільскага глею, які непараўнальна горш спрыяльны для захоўвання.

Апошні із двух толькі што згаданых храмаў, належыць да тыпу Дэндэрскага (ці храма ў Эдфу), але атачаючая каланада выяўляе грэцкі ўплыў, а скульптурныя ўпрыгожванні абодвух, паказваюць на «рымскую культуру».

Матэрыялам із якіх яны пабудаваны з'яўляецца вапняк із сярэдніх мясцовых адкладанняў, лёгка разбураемы атмасфернымі ўплывамі, з нагоды чаго астатнія пабудовы тут часта рабіліся із пяшчаніка.

На невялікай адлегласьці ад раскопаў гэтых храмаў на ніжніх уступах узвышша, спускаючагася да нільскай раўніны і мала даступных для дасьледчыка нават і ў вызваленым ад пяску стане, Фліндэрс Петры знайшоў штучную пячору для пахавання, сьцены якой былі пакрыты малярствам і надпісамі, а на столі былі намаляваны і размаляваны living рознымі фарбамі **два гараскопы**, аб’яднаныя ў адзін агульны малюнак (мал. 146) і, відавочна **намаляваныя адным і тым жа мастаком,** г.азн. ніжні гараскоп быў намаляваны пасьля верхняга ніяк не пазьней, чым праз гадоў 30, але хутчэй усяго, нават нашмат раней гэтага крайняга тэрміну. Задыякальныя фігуры усюды маюць эліністычны характар, але выяўляюць некаторыя і чыста ягіпецкія асаблівасьці. Так, напрыклад, сузор'е Арыёна знізу (гл. ніжнюю частку малюнка), пададзена ў выглядзе чалавека падняўшага правую руку і запрашаючага падняцца на неба душы Мэры-Гора і яго бацькі Аб-Не-Мані, як яны названы ў іерагліфічных надпісах каля малюнкаў іхных душ, суправаджаемых на неба іхнымі зямнымі грахамі ў выглядзе змеяў і шакалаў (на левым баку малюнка). Абедзьве душы намаляны ў выглядзе птушак з чалавечымі галовамі, і верхні гараскоп, напэўна, належыць бацьку, а ніжні – сыну. Але абодва гараскопы, відаць, пазначаюць не час іхнага нараджэння, а час пералёту на неба. Толькі ў такім выпадку і дарэчна ўяўляць іх тут ужо ператварыўшыміся ў птушак.

[9] W. M. Flinders Petrie: Athribi, у 14 томе Весткі British Scool of Archaeology in Egipt. 1902 г.



Мал. 146.
Два Атрыбскія гараскопы Фліндарса Петры.

Згодна з тыпам малюнка, грунтуючыся на суцэльнасьці яго фігур і на аднастайнасьці фарбаў бачна, што абодва гараскопы былі намаляваны **адначасова** чалавекам, які быў разам і мастаком і астролагам і, напэўна, сваяком абодвух нябожчыкаў.

Вызначэнне часу гэтай магільні, як і вышэй апісаных дэндэрскіх задыякаў, з'яўляюцца асабліва надзейным з нагоды знаходжання тут адразу двух гараскопаў, падзеленых нядоўгім прамежкам часу.

Атрымаўшы летам 1919 года IV том «Брытанскай ягіпталагічнай школы» з гэтымі гараскопамі ад прафесара Б. А. Тураева для больш дакладнага вызначэння іхнага часу астранамічным шляхам, я паўтарыў перадусім прыведзеныя там (у нас табл. XXXIV) вылічэнні Нобеля, які атаясаміў разам з іншымі ягіптолагамі птушку са змяіным хвастом з Юпітарам, кідаючым змеяпадобныя маланкі, птушку з бычынай галавой прызнаўшы за Сатурн, сокала ўдалечыні ад Сонца – за Марс, а двухаблічнага Януса і птушку без асобных пазнак каля Сонца – за Меркурый і Венеру. Мая праверка паказала, што Юпітар у абодвух гараскопах быў значна лявей, чым вылічыў Нобель, ды і Марс таксама, тады як Сатурн у ніжнім гараскопе правей належнага. Атрымалася яшчэ горш, чым у Нобеля.

ТАБЛІЦА XXXIV.

Атрыбскія гараскопы згодна з вылучэннямі Нобеля, лічачы птушку са змяіным хвастом за Юпітар і птушку з бычынай галавой за Сатурн (British School of Archaeology in Egypt and Egyptian Research Account. 1908).

*The Dating of the Horoscopes*

Be E. B. Knobel.

*Second Horoscope,*

| | Geocentric Longitude. | Epoch, A. D. 52. |
|---|---|---|
| Sun in Taurus . . . . . . . . . | 31° — 60° | May |
| Moon in Gemini . . . . . . . | 61° — 90° | May 20 (New Moon, May 17) |
| Mercury in forepart of Taurus. | 31° — 45° | ? |
| Venus in hindpart of Taurus. | 45° — 60° | 25° Longitude greater than Sun |
| Mars in Cancer . . . . . . . . | 91° — 120° | 92° |
| Jupiter between Capricornus and Aquarius . . . . . . . | 300° | 306° |
| Saturn in Pisces . . . . . . . | 331° — 360° | 358° |

The year A. D. 52, May 20, suits well for Moon, Venus, Mars, Jupiter and Saturne:

*First Horoscope,*

| | Geocentric Longitude. | Epoch. A. D. 59. |
|---|---|---|
| Sun between Capricornus and Aquarius . . . . . . . . . . | 300° | January 20 |
| Moon in Sagittarius . . . . . . | 241° — 270° | About Last Quarter, January 25 |
| Mercury in forepart of Capricornus . . . . . . . . . . . . | 271° — 285° | ? |
| Venus in Pisces . . . . . . . . | 331° — 360° | 250° |
| Mars in Aquarius . . . . . . . | 301° — 330° | 327° |
| Jupiter in Leo . . . . . . . . . | 121° — 150° | 148° |
| Saturn in Gemini . . . . . . . | 61° — 90° | 58° |

The horoscope positions are probably taken from tables and not from observations, and the positions are in signs and not in constellations. The year A. D. 59, January, suits well for Moon, Mars, Jupiter and Saturn, but is discordant for Venus. No attempt has been made to reconcile Mercury. Jupiter and Saturn would be in similar relative positions about every 58 or 59 years. In the epochs — 118, — 60, — 1, 59, 117, the only year that suits for the three superior planets in A. D. 59, but the position of Venus is quite wrong for that year.

Каб вырашыць, хто із нас меў рацыю і паглядзець, ці не знойдзецца лепшага рашэння, я даручыў зрабіць асобнае дасьледаванне гэтага помніка старажытнасьці майму тагачаснаму асістэнту па астранамічнаму аддзяленню Навуковага Інстытута ім. Лесгафта, нябожчыку М. А. Вільеву.

Ён зрабіў вычэрпваючае вылічэнне для яго на прамежку часу ад мінус 500 года раней пачатку нашай эры і да +600 года пасьля яго, і, пацвердзіўшы (табл. XXXV) паказаную мной памылковасць нобелеўскага рашэння, прыйшоў разам з тым да высновы, што за ўсю гэтую тысячу гадоў існавала, толькі адна магчымая дата, ды і то да пачатку нашай эры. Гэта – 1 траўня мінус 185 (астранамічнага) года

для верхняга гараскопа і 6 студзеня мінус 178 года – для ніжняга (мал. 148 натр. 735).

ТАБЛІЦА XXXV.

Пераверка вынікаў A. B. Knobel'я М. А. Вільевым, лічачы птушку са змяіным хвастом за Юпітар і птушку з бычынай галавой за Сатурн.

| Сярэдне раўнадзённыя даты. Дата: 52 траўня 20.0 сяр. грын. час. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Сонца | Венера | Марс | Юпітэр | Сатурн |
| Згодна з Вільевым | 56°.50’.6 | няма | 117°20’5 | 307°21’5 | 340°13’2 |
| Згодна з Е.В Knobel’ю | няма | няма | 92° | 306° | 358° |
| Дата: 59 траўня 25.0 сяр. грын. час. | | | | | |
| | Сонца | Венера | Марс | Юпітэр | Сатурн |
| Згодна з Вільевым | 303°58’.5 | 259°19’5 | 340°8’0 | 149°19’2 | 57°59’0 |
| Згодна з Е.В Knobel’ю | няма | 250° | 327° | 148° | 58° |

Але самі яго вылічэнні, падмурак якіх я даю на прыкладзенай табліцы (XXXVI стар. 737), з нагоды важнасьці ўзнімаемых атрыбскімі гараскопамі храналагічных пытанняў, паказваюць, што і ім было зраблена нацягванне. Юпітар у верхнім гараскопе патрапіў у яго ў сярэдзіну Вадаліва (мал. 148), тады як на магільні ён паказаны паміж Казярогам і Вадалівам, а на ніжнім гараскопе не толькі Марс, перамясьціўшыся із Вадаліва ў Рыбы, не дапасуе, але нават і Юпітар з Сатурнам выйшлі за межы, пазначаных для іх сузор'яў. Выявілася што і Вільеў не атрымаў ніякіх задавальняючых вынікаў, як выразна бачна із яго ўласных рашэнняў, якія я паказваю ў скарочаным выглядзе (табл. XXXVI і мал. 148, стр, 735).

На табліцы XXXVII я даю ўсе гады, пад час якіх Сатурн і Юпітар былі, згодна з Вільевым, не толькі ў паказаных для іх на малюнку сузор'ях, але нават і каля іх.

Так для Юпітара (палічанага за птушку са змяіным хвастом) у верхнім гараскопе ўзята мяжа паміж 300° і 350° экліптыкальнай даўгаты, г.азн. увесь працяг ад пачатку Казярога і да заканчэння Вадаліва, хаця птушка са змяіным хвастом дакладна паказана паміж Казярогам і Вадалівам. Для Сатурна (палічанага за птушку з бычынай галавой) узяты межы ад 335° да 40°, г.азн. ад сярэдзіны Вадаліва праз Рыб да сярэдзіны Авена, хаця птушка з бычынай галавой дадзена непасрэдна пад Рыбамі. Дзякуючы гэтаму атрымалася больш рашэнняў, чым патрэбна, але затое не застаецца ніякай магчымасьці для пропуску хаця б нават і прыблізных супадзенняў.

Верхні Атрыбскі гараскоп.







Ніжні Атрыбскі гараскоп.




Мал. 147

Вільеўскі варыянт вылічэнняў Knobel'я (лічачы птушку са змяіным хвастом за Юпітар і птушку з бычынай галавой за Сатурн). Задавальняючымі з’яўляюцца толькі тыя месцаванні планет, дзе зорачка знаходзіцца над сваёй палоскай. Тут у верхняй палосе незадавальняюць патрабаванням Юпітар, Марс і Сонца; у сярэдняй Венера і Меркурый; у ніжняй дрэнна задавальюць Сатурн і Венера і незадавальняе Марс. Каардынаты 1910 года знаходзяцца пад затушаванымі палоскамі.

Верхні Атрыбскі гараскоп.




Ніжні Атрыбскі гараскоп.




Мал. 148

Рашэнне М. А. Вільева (лічачы птушку са змяіным хвастом за Юпітар і птушку з бычынай галавой за Сатурн). Задавальняючымі з’яўляюцца толькі тыя месцаванні планет, дзе зорачка знаходзіцца пад сваёй палоскай. Тут, у верхнім гараскопе, не задавальняюць патрабаванням Юпітар, Венера і Меркурый, а ў ніжнім цалкам не прыдатны Сатурн і дрэнна задавальняе Юпітар і Марс. Каардынаты 1900 года.

Бяручы да ўвагі тое, што Марс можа перайсьці із Рака, на якім ён паказаны ў верхнім гараскопе, у Казярога, у якім ён паказаны ў ніжнім, толькі праз 6 гадоў і 8 месяцаў, у гэтай табліцы даводзіцца лічыць прыдатнымі для далейшага дасьледавання толькі тыя радкі, калі даты ніжняга гараскопа з’яўляюцца каля 7 гадоў больш познімі чым даты верхняга гараскопа.

І вось пры іхнай праверцы з дапамогай Марса, Венеры і Меркурыя сапраўды атрымліваюцца толькі два рашэнні, ды і то дрэнныя.

ТАБЛІЦА XXXVI.

Два рашэнні М. А. Вільева пры здагадцы, што птушка са змяіным хвастом – Юпітар, а птушка з бычынай галавой – Сатурн: ці -185 і -178 гады, ці (горш) +349 і +355 гады.

| А. Геацэнтрычныя месцаванні Сонца і планет для канчаткова вылучаных дат верхняга гараскопа (Сярэдняе раўнадзенства грунтуючыся на часе даты) | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сонца | Мяркурый | Венера | Марс | Юпітэр | Сатурн |
| -185 г., Красавік 2 | [8 • 1] | [343° • 4] | 31° • 0 | 86° • 33 | 306° | 320° |
| Травень 1 | 36 • 1 | [20 • 0] | 66 • 1 | 101 • 8 | 309 | [321] |

| +349 Красавік 8 | 18 • 6 | [359 • 6] | 46 • 2 | 76 • 5 | 320 | 14 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Б. Геацэнтрычныя месцаванні Сонца і планет для канчаткова вылучаных дат ніжняга гараскопа (Сярэдняе раўнадзенства грунтуючыся на часе даты) | | | | | | |
| | Сонца | Мяркурый | Венера | Марс | Юпітэр | Сатурн |
| -178 Студзень 6 | 283° •2 | 273° • 1 | 330° • 1 | 321° • 7 | 150° | [35°] |
| +355 Студзень 13 | [262 • 3] | [253 • 1] | [309 • 3] | 285 • 8 | 161 | 93 |

Каардынаты II стагоддзя нашай эры. Для нанясення на мапу патрэбна дадаваць 21°.

Першае рашэнне: -185 год для верхняга і -178 год для ніжняга, згодна з астранамічным злічэннем, ці, што тое ж самае, 186 і 179 гады згодна са злічэннем гісторыкаў, і гэта пададзена ў табліцы XXXVI у каардынатах таго часу і на дыяграме (мал. 148, стар. 735) у каардынатах нашага часу. І яно, як я толькі што давёў, было з вялікімі нацягваннямі.

Другое рашэнне: +349 год для верхняга Задыяка і +355 для ніжняга, што паказана ў той жа табліцы XXXVI, у каардынатах таго часу, а ў нашых сучасных каардынатах гэта паказана на табліцы XXXVII (стар. 738).

Мы бачым, што такое другое рашэнне Вільева ўжо ні на што не прыдатнае.

ТАБЛІЦА XXXVII.

Гады прыдатных спалучэнняў Сатурна, палічанага за птушку з бычынай галавой, і Юпітара, палічанага за птушку са змяіным хвастом, і ўзятыя ў пашыраных межах для абодвух Атрыбскіх Задыякаў М. А. Вільева.

| | Верхні гараскоп | | | | Ніжні гараскоп | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Гады | Юп.° | Сат. ° | Дата | Гады | Юп. ° | Сат. ° | Дата |
| Да пачатку нашай эры | -423 · 65 | 342 | 335 | Травень 3 | | | | |
| | -364 · 65 | 335 | 335 | Травень 4 | | | | |
| | -305· 65 | 327 | 336 | Травень 4 | | | | |
| | -246 · 65 | 319 | 337 | Травень 4 | | | | |
| | -245 · 65 | 349 | 49 | Травень 4 | -238 · 94 | 190 | 64 | Студзень 20 |
| | -187 · 65 | 310 | 339 | Травень 5 | | | | |
| | -186 · 65 | 340 | 351 | Травень 5 | -179 · 94 | 80 | 64 | Студзень 20 |
| | -128 · 65 | 301 | 340 | Травень 5 | | | | |
| | -127 · 65 | 331 | 352 | Травень 5 | -120 · 94 | 174 | 66 | Студзень 20 |
| | -68 · 65 | 318 | 352 | Травень 5 | -61 · 94 | 165 | 67 | Студзень 20 |
| | -67 · 65 | 350 | 4 | Травень 5 | -60 · 94 | 102 | 83 | Студзень 20 |
| | -9 · 65 | 309 | 353 | Травень 6 | -2 · 94 | 155 | 68 | Студзень 20 |
| | -8 · 65 | 339 | 5 | Травень 6 | -1 · 9 | 182 | 80 | Студзень 20 |
| | +51 · 35 | 301 | 354 | Травень 6 | +58 · 06 | 148 | 69 | Студзень 20 |
| | +52 · 35 | 331 | 6 | Травень 6 | +59 · 06 | 176 | 85 | Студзень 20 |
| | | | | | +117 · 06 | 138 | 70 | Студзень 21 |
| | +111 · 35 | 321 | 8 | Травень 6 | +118 · 06 | 167 | 86 | Студзень 21 |
| | | | | | +176 · 06 | 129 | 71 | Студзень 21 |
| | | | | | +177 · 06 | 157 | 87 | Студзень 21 |
| | +170 · 35 | 312 | 9 | Травень 7 | +178 · 06 | 183 | 99 | Студзень 21 |
| | +171 · 35 | 342 | 22 | Травень 7 | +236 · 06 | 148 | 88 | Студзень 22 |
| | | | | | +237 · 06 | 178 | 100 | Студзень 22 |
| | +229 · 35 | 302 | 10 | Травень 8 | +295 · 06 | 140 | 89 | Студзень 22 |
| | +230 · 35 | 332 | 22 | Травень 8 | +296 · 06 | 169 | 101 | Студзень 22 |
| | +289 · 36 | 324 | 23 | Травень 8 | +354 · 06 | 131 | 90 | Студзень 23 |
| | +348 · 36 | 314 | 25 | Травень 9 | +355 · 06 | 159 | 102 | Студзень 23 |
| | +349 · 36 | 344 | 36 | Травень 9 | +356 · 06 | 187 | 117 | Студзень 23 |
| | +407 · 36 | 302 | 25 | Травень 9 | +414 · 06 | 150 | 103 | Студзень 23 |

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | +408 · 36 | 332 | 36 | Травень 9 | +415 · 06 | 180 | 118 | Студзень 23 |
| | +467 · 36 | 324 | 38 | Травень10 | +473 · 06 | 143 | 104 | Студзень 23 |
| | +526 · 36 | 315 | 39 | Травень10 | +474 · 06 | 171 | 119 | Студзень 23 |
| | | | | | +532 · 07 | 134 | 105 | Студзень 23 |
| | | | | | +533 · 07 | 102 | 120 | Студзень 23 |

* * *

Усё гэта вымусіла мяне праз некалькі гадоў зноў перагледзець пытанне.

У правільнасьці вылічэнняў Вільева ў мяне не было ніякіх сумневаў, працягваць яго вылічэнні на эпоху Крыжовых паходаў здавалася залішнім, а таму мне прыйшла думка перагледзець сам іхны падмурак.

ТАБЛІЦА XXXVIII.

Другое рашэнне М. А. Вілъева. Геацэнтрычнае месцаванне Сонца і планет для дат +349 і 355 гадоў. Каардынаты 1900 года.

| | | |
|---|---|---|
| Для Верхняга задыяка на 8 красавіка 349 года. | | |
| Сонца | 40° | у Авене, а патрэбна ў Цяляці |
| Меркурый | 20° | у Авене каля Рыб, а патрэбна ў Цяляці каля Двайнят. |
| Венера. | 67° | у Цяляці, і патрэбна ў Цельца |
| Марс | 97° | у Двайнятах, а патрэбна ў Раку. |
| Юпітар | 341° | Паміж Вадалівам і Рыбамі, а патрэбна паміж Вадалівам і Казярогам. |
| Сатурн | 35° | у Авене, а патрэбна ў Рыбах. |
| Для Ніжняга задыяка на 13 снежня 355 г. | | |
| Сонца | 283° | Сярэдзіна Стралка, а патрэбна ў Казярогу. |
| Меркурый | 274° | Стралок каля Скарпіёна, а патрэбна ў Рыбах. |
| Венера | 330° | Паміж Казярогам і Вадалівам, а патрэбна ў Казярогу каля Стралка. |
| Марс | 307° | Казярог каля Стралка. |
| Юпітар | 182° | Панна каля Ільва, а патрэбна ў Ільве. |
| Сатурн | 114° | Паміж Двайнятамі і Ракам, а патрэбна ў Двайнятах |

Перадусім узнікла пытанне: наколькі з’яўляецца слушнай Брытанская ягіпталагічная школа палічыўшая птушку са змяіным хвастом за Юпітар, а птушку з бычынай галавой за Сатурн?

У кнізе Фліндарса Петры не прыведзена ніякіх доказаў за правільнасць такога выбару. З астралагічнага ж і **асабліва** з міфалагічнага боку гледжання больш правільна прызнаць адваротнае. Юпітар, як вядома, ператвараўся ў быка, а Сатурн ніколі. Сатурн быў злавеснай планетай, нясучай моравыя пошасьці, а таму яму і адпавядаў хвост са змяінай галавой (і змеі выходзячыя із дзюбы згодна з выявай на ніжнім гараскопе), а ніяк не дабрадзейнай планеце – Юпітару. Вядома можна палічыць гэтых змеяў за маланкі, як робіць Фліндарс Петры, але ён ужо цалкам няправільна лічыць двухаблічнага Януса пад Цялем у верхнім Задыяку (і над Рыбамі ў ніжнім) за Венеру, тады як згодна з міфалогіяй і астралогіяй гэта павінен быць Меркурый, выглядаючы із-за Сонца то справа, то злева. Тады і застаючаяся птушка без асобных адзнак выяўляецца не Меркурыем, а Венерай.

Праўда, што згодна з тлумачэннем Фліндарса Петры і Нобеля Марс, тэарэтычна і апрыёрна, атрымлівае больш дакладнае месцаванне на небе ў другім гараскопе, чым пры прапанаваным тут мной. Сапраўды, калі птушка са змяіным хвастом паміж Казярогам і Вадалівам першага гараскопа з’яўляецца Юпітарам, а птушка з бычынай галавой пад Рыбамі – Сатурнам, то яны павінны патрапіць у становішчы, паказаныя ў другім гараскопе (Юпітар пад Ільвом і Сатурн пад Двайнятамі) праз 7 гадоў, і ў гэты час Марс (Сокал на Раку ў першым гараскопе) адпаведна з самой тэорыяй яго руху трапляе якраз пад Вадаліва бліжэй да Рыб, як і паказана на другім гараскопе. А пры адваротным тлумачэнні Юпітара і Сатурна,

яны трапляюць у прызначаныя ім на другім гараскопе месцы толькі праз 16 гадоў, і ў гэты час Марс хаця таксама падыдзе із Рака блізка да Вадаліва, але будзе яшчэ ў Казярогу. Аднак можна сказаць, што за дакладнасць становішча Марса ў другім гараскопе ніяк немагчыма ручацца: Марс у той час быў нябачным за Сонцам, і акрамя таго пад Казярогам ніжняга гараскопа была ўжо намалявана Венера (гэтым разам таксама з дзіўным хвастом) і Марс не было куды паставіць пад Казярогам жа.

Вось чаму немагчыма было не ласьледаваць і паказанага мной тлумачэння Юпітара і Сатурна, перш чым палічыць дасьледаванне Атрыбскіх гараскопаў закончаным і прызнаць іх фантастычнымі творамі.

Пры дапушчэнні, што птушка са змяіным хвастом з'яўляецца Сатурнам, а птушка з бычынай галавой – Юпітарам, астранамічнае вылічэнне дало мне таксама толькі адну серыю прыдатных спалучэнняў Сатурна і Юпітара на працягу прамежка ад пачатку нашай эры да сёмага яе стагоддзя. Гэтая серыя выявілася паміж 18 і 314 гадамі нашай эры (табл. XXXIX, стар. 740), для верхняга гараскопа, і паміж 151 і 448 для ніжняга гараскопа, а раней таго не была нічога прыдатнага да мінус VI стагоддзя.

Разгледзім жа справу і з гэтага боку гледжання. Дзякуючы таму, што адпаведна з агульным характарам спалучэнняў Сатурна і Юпітара, паміж абодвума гараскопамі павінен быць прамежак каля 16 гадоў, то пры параўнанні верхняга гараскопа з ніжнім на табл. XXXIX мы знаходзім:

ТАБЛІЦА XXXIX.

Параўнанне паміж сабой прыдатных дат, даваемых Сатурнам і Юпітарам для верхняга і для ніжняга Атрыбскіх гараскопаў, ад пачатку нашай эры да 628 года пры дапушчэнні, што птушка са змяіным хвастом – Сатурн, а птушка з бычынай галавой – Юпітар.

| Верхні гараскоп | | | Ніжні гараскоп | |
|---|---|---|---|---|
| Сатурн у Казярогу | Юпітар у Рыбах | | Сатурн у Ільве | Юпітар у Двайнятах |
| Гады: | Гады: | | Гады: | Гады: |
| *18,89 | *18,13 | | 5,29 | 1,71 |
| 48,35 | 41,88 | | 64,21 | 68,63 |
| *77,80 | *77,46 | | 93,60 | 92,35 |
| 107,26 | 113,05 | | 123,12 | 127,94 |
| *136,72 | *136,77 | ** | *152,58 | *151,66 |
| 166,17 | *172,36 | ** | 182,03 | 187,25 |
| *195,63 | *196,08 | ** | *211,49 | *210,97 |
| 225,9 | 231,67 | ** | 240,95 | 246,56 |
| *254,55 | *255,39 | | *270,41 | *270,28 |
| 284,00 | 279,12 | | 299,86 | 294,01 |
| *313,46 | *314,70 | | *329,32 | *329,59 |
| 342,92 | 338,43 | | 358,79 | 353,32 |
| 372,37 | 374,01 | | *388,23 | *388,90 |
| 401,83 | 409,60 | | 417,69 | 412,63 |
| 431,28 | 433,32 | | *447,15 | *448,21 |
| 460,75 | 468,91 | | 476,61 | 470,94 |
| 490,20 | 492,63 | | 506,06 | 507,52 |
| 519,66 | 516,35 | | 535,52 | 531,24 |
| 549,12 | 551,94 | | 564,98 | 566,83 |
| 578,56 | 575,66 | | 594,43 | 590,55 |
| 608,03 | 611,25 | | 628,89 | 626,14 |
| Заслугоўваюць дасьледавання толькі чатыры радкі, пазначаныя парамі зорачак (**) таму што толькі у іх гады ніжняга гараскопа адрозніваюцца ад гадоў верхняга толькі на 16, а не больш чым на 75 гадоў. | | | | |

Заканчэнне.

| Па зн акі | Верхні гараскоп | | Па зн акі | Ніжні гараскоп | | Па зн акі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сатурн у Казярогу | Юпітар у Рыбах | | Сатурн у Ільве | Юпітар у Двайнятах | |
| | 637,49 | 634.97 | | 653.35 | 649.86 | |
| | 666.94 | 670.56 | | 682.80 | 685.15 | |
| | 696.40 | 694.28 | | 712.26 | 709.17 | |
| | 725.86 | 729.87 | | 741.72 | 744.76 | |
| | 755.32 | 753.59 | | 771.18 | 768.48 | |
| | 784.77 | 789.18 | | 800.63 | 804.07 | |
| * | 814.23 | 812.90 | | 830.09 | 827.79 | |
| | 843.69 | 848.49 | | 859.54 | 851.52 | |
| * | 873.14 | 872.21 | | 889.00 | 887.17 | |
| | 902.60 | 907.80 | | 918.46 | 910.83 | |
| * | 932.06 | 931.52 | * * | 947.91 | 946.41 | * |
| | 961.52 | 967.11 | | 977.38 | 970.14 | |
| * | 990.97 | 990.83 | * * | 1006.83 | 1005.73 | * |
| | 1020.43 | 1026.42 | | 1036.29 | 1041.32 | |
| * | 1049.89 | 1050.15 | * * | 1065.75 | 1065.04 | * |
| | 1079.34 | 1073.87 | | 1095.20 | 1100.63 | |
| * | 1108.80 | 1109.46 | * * | 1124.66 | 1124.35 | * |
| | 1138.26 | 1133.18 | | 1154.12 | 1159.94 | |
| * | 1167.71 | 1168.77 | * * | 1183.57 | 1183.66 | * |
| | 1197.17 | 1192.49 | | 1213.03 | 1207.38 | |
| | 1226.63 | 1228.08 | | 1242.49 | 1242.97 | * |
| | 1256.09 | 1251.80 | | 1271.95 | 1278.56 | |
| | 1285.54 | 1287.39 | | 1301.40 | 1302.28 | * |
| | 1315.00 | 1311.11 | | 1330.86 | 1337.87 | |
| | 1344.46 | 1346.70 | * | 1360.31 | 1361.59 | * |
| | 1373.91 | 1370.42 | | 1389.77 | 1385.31 | |
| | 1403.37 | 1406.01 | | 1414.23 | 1420.90 | |
| | 1432.83 | 1429.73 | | 1448.68 | 1444.62 | |
| | 1462.29 | 1465.32 | | 1478.15 | 1480.21 | |
| | 1491.74 | 1489.04 | | 1507.60 | 1503.93 | |
| | 1521.20 | 1524.62 | | 1537.06 | 1539.52 | |
| | 1550.66 | 1548.35 | | 156652 | 1563.24 | |
| | 1580.11 | 1583.93 | | 1595.97 | 1598.83 | |
| | 1609.53 | 1607.66 | | 1625.43 | 1622.55 | |
| | 1639.03 | 1643.24 | | 1654.89 | 1658.14 | |
| | 1668.48 | 1666.97 | | 1684.34 | 1681.86 | |
| | 1697.94 | 1702.55 | | 1713.80 | 1717.75 | |
| * | 1727.40 | 1726.28 | | 1743.26 | 1741.17 | |
| | 1756,86 | 1750.00 | | 1772.72 | 1776.76 | |
| * | 1786.31 | 1785.59 | | 1802.17 | 1800.48 | |
| | 1815.77 | 1821.17 | | 1831.63 | 1836.07 | |
| * | 1845.23 | 1844.90 | * * | 1861.09 | 1859.79 | * |
| | 1874.68 | 1880.48 | | 1890.54 | 1895.38 | |
| * | 1904.14 | 1904.21 | * * | 1920.00 | 1919.10 | * |

1. для 18 года Верхняга гараскопа няма адпаведнасьці ў ніжнім раней 152 года, такім чынам, 18-ы год нашай эры непрыдатны.

2. Для 77 года Верхняга задыяка знаходзім у ніжнім той жа самы блізкі 152 год, г.азн. праз 75 гадоў. Зноў занадта вялікая розніца для двух частак аднастайнага малюнка, напісанага адным мастаком.

3. Для 136 года Верхняга гараскопа знаходзім у ніжнім самую блізкую адпаведнасьць у 152 годзе, г.азн. якраз праз 16 гадоў. Але Марс у траўні 136 года быў далёка ад Рака – у Вадаліве. Гэта азначае і гэтая дата непрыдатная, а суседнія гады 135 і 137 не дапасуюць па Юпітары.

4. Для 195 года верхняга гараскопа знаходзім у ніжнім самую блізкую адпаведнасць у 211 годзе. Вось першы выпадак, годны дэталёвага дасьледавання. Зробім жа яго грунтоўна. Марс у 195 годзе 30 красавіка быў пад 139° сучаснай экліптыкальнай даўгаты, г.азн. якраз у Раку, дзе і паказаны на яго гараскопе. Задавальняючымі уяўляюцца для таго ж 30-га красавіка 195 года і месцаванні Венеры ў Цяляці, пры Сонцы ў Цяляці ж і Месяцы ў Двайнятах, хаця Меркурый у гэты час знаходзіўся не ў Цяляці, як намалявана, а каля яго ў Авене, што можа быць патлумачана яго нябачнасьцю ў гэты час (мал. 149) на фоне ранішняга світання.

Але для ніжняга гараскопа, атрымаўшагася на 29-30 студзеня 211 года, якому мы павінны надаць вырашаючае значэнне, як назіраемаму падчас стварэння ўсяго малюнка, выявіліся задавальняючымі толькі Меркурый у Рыбах і Венера паміж Казярогам і Стралком. Найболей жа важная планета, Марс, выявілася пад 322° пры Сонцы пад 334° экліптыкальнай даўгаты, г.азн. у стане вечаровай бачнасьці, замест ранішняй, у Вадаліве каля Рыб замест Казярога, у якім дае яго месцаванне для гэтага моманту астранамічнае вылічэнне. Аднак, бяручы да ўвагі, што не дакладна пазначаны Марс быў тады нябачным у промнях світання, як паказвае сам малюнак, дзе гарызантальнымі рыскамі пазначаны межы нябачнасьці планет у промнях вечаровага ці ранішняга зарыва, то маё рашэнне можна лічыць прыблізна задавальняючым, калі не знойдзецца пазьней нічога больш прыдатнага. Я вылічыў усё гэта з дапамогай астранамічных табліцах Нейгебауэра[10], а Н. І. Ідэльсон праверыў мае вылічэнні з дапамогай іншых табліцах і атрымаў пагадняючыяся з маімі вынікі, якія я паказваю на табл. XL, (стар. 746).

ТАБЛІЦА XL.

Атрыбскія гараскопы.

Праверка маіх вылічэнняў Н. І. Ідэльсонам.

Ці дапасуюць даты 195-III-IV і 211-I да канстэляцый верхняга і ніжняга задыякаў у Атрыбе, калі птушку са змяіным хвастом лічыць за Сатурн, а птушку з бычынай галавой – за Юпітар.

| I. Верхні задыяк | | |
|---|---|---|
| Сонца паказана ў Цяляці і пры гэтым у першай яго палавіне, г. азн. паміж межамі даўгот 50°-70° (1900.0), што адпавядае прыблізна прамежку часу 195-IV-17 і 195-V-8. Месцаванне Месяца: λ = 103° (1900.0 – сярэдзіна Двайнят) паказвае на момант канстэляцыі 3° пасьля маладзіка. Адзіны маладзік паміж 195-IV-5 і 195-V-277 быў 195-IV-277. Із гэтага дата канстэляцыі: 195-IV-30.7 | | |
| Сатурн | = 315° | У сярэдзіне Казярога. Дапасуе. |
| Юпітар | = 351° | У першай палавіне Рыб. Дапасуе. |
| Марс | = 139° | Паміж Ракам і Ільвом. Дапасуе. А для даты на адзін месяцовы месяц раней (195-IV-1) даўгата Сонца = 32° сярэдзіна Авена – не дапасуе. І для даты на 1 месяцовы месяц пазьней (195-V-30) даўгата Марса = 155° – сярэдзіна Ільва не дапасуе. |

[10] Veroffentlichungen des Koniglichen Astronomischen Rechen-Instituts zu Berlin, №. 25. 1904.

| | | |
|---|---|---|
| Меркурый (Янус) | ☿= 39° | На 24° на захад ад Сонца – сярэдзіна Авена. Дапасуе |
| Венера (Птушка) | ♀= 48° | На 15° на захад ад Сонца – але пазначаны пад Сонцам, верагодна дзякуючы недахопу месца ўжо занятага Меркурыем. |
| Сонца | ☉= 63° | |
| **II. Ніжні задыяк**<br>Сонца пазначана ў другой палове Казярога, г. азн. паміж 314°-328°, што адпавядае прамежку часу 211-I-12 і 211-I-25.<br>Месцаванне Месяца паказвае на момант канстэляцыі: 2 дні да маладзіка. У межах: 211-I-12 і 211-XII-7 маладзікі адсутнічаюць. Самае блізкае адбылося 211-II-1,2, што паказвае на дату: 211-I-30. | | |
| Сонца | ☉= 334° | Пасярэдзіне Вадаліва. Дапасуе. |
| Юпітар | ♃= 96° | (Двайняты). Дапасуе. |
| Сатурн | ♄= 153° | (Леў). Дапасуе. |
| Марс | ♂= 322° | (Казярог – на захад ад Сонца). Не дапасуе. |
| Меркурый (Янус) | ☿= 351° | Рыбы на 17° на ўсход ад Сонца. Дапасуе. |
| Венера (Застаўшаяся птушка) | ♀= 298° | Казярог на 36° на захад ад Сонца. Дапасуе. |
| Марс можа лічыцца задавальняючым толькі ў выпадку яго нябачнасьці ў ранішнім зарыве.<br>Для даты на адзін месяцовы Месяц раней: 211-I-1.<br>☉ = 304°(паміж Стралком і Казярогам). Не дапасуе.<br>♂ = 301° – не дапасуе<br>Для даты на адзін месяцовы Месяц раней: 211-II-28.<br>☉ = 3° (у Рыбах). Не дапасуе.<br>♂ = 343°. Не дапасуе. | | |

Ніякіх больш ранніх рашэнняў астраномія не дае, нават і пры ўсіх іншых магчымых патлумачэннях планетнага значэння пазначаных на гараскопах птушак. Але і гэтае рашэнне значна псуецца Марсам, а таму паглядзім, ці не існавала пазьней цалкам задавальняючых спалучэнняў.

*Атрибские.*







Мал. 149.
Навочная выява вынікаў вызначэння часу Атрыбскіх гараскопаў пры здагадцы, што птушка са змяіным хвастом – Сатурн, а птушка з бычынай галавой – Юпітар. Дрэнна дапасуюць Меркурый у верхнім і Марс у ніжнім гараскопе.

5. Наступная пара рашэнняў, даваемых Сатурнам і Юпітарам для разглядаемай намі зараз серыі іхных прыдатных спалучэнняў, – красавік-травень 255 гады для Верхняга і студзень-люты 270 года для Ніжняга гараскопа. Але ў студзені-лютым Ніжняга гараскопа Марс быў не ў Вадаліве, а ішоў із Авена ў Цяля, і 4 лютага быў каля 60° экліптыкальнай даўгаты. Такая вялікая неадпаведнасць выключае якую б то ні было патрэбу ў далейшым дасьледаванні гэтай пары рашэнняў.

6. Трэццяя пара рашэнняў, даваемых Сатурнам і Юпітарам для старажытнай серыі іхных прыдатных спалучэнняў, гэта красавік-травень 314 года для Верхняга і студзень-люты 329 года для Ніжняга гараскопа. Але яна цалкам непрымальная па Марсу, які за чатыры дні да лютаўскага маладзіка, пры Сонцы ў Вадаліве і Месяцы ў Стралку, ішоў замест Вадаліва яшчэ ў Скарпіёне.

Тут і заканчваюцца ўсе прыдатныя для далейшага разбору даты старажытнага часу. Узнікае патрэба дасьледаваць і сярэдневечча. Із другога раздзела табліцы XXXIX (на стр. 741) мы бачым, што прыдатныя спалучэнні Юпітара і Сатурна адбываліся і ў X, XI і XII стагоддзях нашай эры.

Паглядзім, ці не знойдзецца хаця б у іх нечага задавальняючага.

1. Першая пара спалучэнняў у 932 і ў 946 гадах не дапасуе, таму што ў 946 годзе Сатурн быў яшчэ ў Раку (каля 134° геацэнтрычна), а не ў Ільве (142°-173°).

2. Другая пара спалучэнняў у 990 і ў 1005 гадах не дапасуе згодна з Марсам, які каля 27 траўня 990 года пасьля маладзіка месцаваўся яшчэ ў Цяляці (каля 86° геацэнтрычна) замест Рака (117°-142°). А наступны год таксама не задавальняе адносна Марса, таму што пасьля маладзіка 16 траўня, ён быў у Скарпіёне замест Рака.

3. **Трэццяя пара спалучэнняў у 1049 і ў 1065 гадах дае адзіна задавальняючыя вынікі**. Я ўжо выказваўся напачатку гэтага дасьледавання, што Марс не мог быць у траўні ў Раку, калі праз 16 гадоў ён паказаны ў лютым у Вадаліве і таму патрэбна прызнаць Верхні гараскоп не запісаным 16 гадоў назад на месцы, а вылічаным пазней, прытым Марс памылкова размешчаны замест Ільва ў Раку, як гэта было непазбежным пры існаваўшых пад час старажытнасьці вылічэннях Марса. Дзякуючы гэтаму нам і давялося ўсумніцца ў прыдатнасьці атрыманых намі рашэнняў на 195 і 211 гады, дзе Марс задавальняюча атрымліваўся для 195 года, але дрэнна размясьціўся ў 211 годзе, на ніжнім больш познім задыяку. Пачнём таму тут нашы вылічэнні з больш пазняга ніжняга гараскопа, як заснаваным на непасрэдным назіранні за небам, а не адноўленым з дапамогай ўспамінаў (мал. 150).

***Верхний, вычисленный автором гороскоп.***




***Нижний, наблюденный автором гороскоп.***




Мал. 150

Другое, канчатковае, рашэнне (Н. А. Марозава). Задавальняючымі з’яўляюцца ўсе месцаванні планет, дзе зорачкі (планеты) знаходзяцца пад сваёй палоскай. У ніжнім

гараскопе, як адзіна назіраўшымся аўтарам, усё безумоўна правільна. А ў верхнім вылічаным у 1065 годзе для 1049 (г.азн. за 16 гадоў назад) Марс і Венера патрапілі лявей належных месцаў з нагоды недакладнага ведання аўтарам іхнага сінадычнага абарачэння.

Маладзік у 1065 годзе адбыўся 9 лютага каля 338° пры Сонцы амаль пасярэдзіне Вадаліва. Месцаванне Месяца ў Стралку дае дату на 3 дні раней, г.азн. 6 лютага. Марс ішоў у гэты час якраз па Вадаліву каля 341° экліптыкальнай даўгаты (згодна з каард. 1900 г.), пры Сонца каля 335°, г.азн. быў на заканчэнні вечаровай бачнасьці, як і паказана ў дакладнасьці. Венера была ў Казярогу каля 326°, Меркурый, як і паказана, быў у Рыбах, у ранішняй бачнасьці каля 350° экліптыкальнай даўгаты, Сатурн быў якраз у Ільве, Юпітар у Раку.

Мы бачым, што ніжняе, г.азн. рэчаісна назіраемае аўтарам спалучэнне планет, са здзіўляючай дакладнасьцю апраўдалася тут вылічэннем. Разгледзім жа і Верхні гараскоп, які згодна з тэорыяй руху Сатурна і Юпітара мог мець месца толькі за 16 гадоў перад гэтым, г.азн. у 1049 годзе.

Я ўжо выказваўся, што згодна з тэорыяй руху Марса, калі гэтая планета знаходзілася пад час нейкага года ў студзені ці лютым у Вадаліве, то за 16 гадоў перад гэтым у красавіку яна знаходзілася няйнакш як у Ільве, а не ў Раку перад Ільвом, як дадзена на малюнку. Так атрымліваецца і ў дадзеным выпадку. Астранамічнае вылічэнне паказвае, што маладзік у Цяляці ў 1049 годзе быў 4 траўня. Серп Месяца з’явіўся (адпаведна з гараскопам) у Двайнятах 6 траўня, а Марс у гэты час ішоў геацэнтрычна пад 155° экліптыкальнай даўгаты (каард. 1900 г.) у Ільве, і нават быў там з кастрычніка мінулага года, апісваючы эпіцыклічную пятлю. Інакш не магло і быць ні пры якім іншым мінус 16-м годзе. А тым часам, мастак размясьціў Марс не на самым Ільве, а побач з Ільвом на Раку, адкуль зразумела, што ён маляваў гэты гараскоп ужо грунтуючыся на даўніх успамінах ці на сваіх вылічэннях, меўшых толькі набліжаны характар. Вось чаму і Мяркурый, які ішоў каля 57° экліптыкальнай даўгаты на мяжы Авена і Цяляці, ён вылічыў у Цяляці з боку Двайнят, а Венеру, ішоўшуюю каля 78° экліптыкальнай даўгаты паказаў у злучэнні з Сонцам, хаця б таксама ў Цяляці, як і патрэбна. А Юпітар, заўсёды лёгка вылічаемы, размешчаны правільна (каля 349°) у Рыбах, ды і Сатурн, як і патрэбна – у Казярогу.

Пры падобным тлумачэнні ўсё дасьледуемае намі малярства належыць лету 1065 года. Але паглядзім для паўнаты агляду і пазьней.

4. Чацьвёртая пара спалучэнняў у 1109 і ў 1125 гадах не дапасуе, таму што Юпітар у 1125 годзе перад маладзіком у Вадаліве быў ужо ў Раку замест Двайнят.

5. Пятая пара спалучэнняў у 1168 і ў 1183 гадах не дапасуе праз Марс, таму што за 15-гадовы прамежак часу ён не можа перайсьці із Рака ў Вадаліў, а будзе на процілеглым баку неба.

6. І, нарэшце, шостая пара спалучэнні ў 1226 і ў 1242 гадах не дапасуе праз Юпітар, які ў 1227 годзе быў яшчэ паміж Казярогам і Вадалівам і прыйшоў у Рыбы толькі ў 1228 годзе, калі Сатурн ужо пайшоў із Казярога ў Вадаліў, ды і 15-гадовы прамежак не прыдатны для пераходу Марса із Рака ў Вадаліў.

А далей мы не маем прыдатных спалучэнняў аж да пары спалучэнняў у 1845 і ў 1860 гадах, якую я не даследаваў, таму што ў знаходцы Фліндарса Петры немагчыма западозрыць падробку.

Рэзюмуем жа некалькімі славамі усё вышэйпавядомленае.

Абодва Атрыбскія гараскопы ўтвараюць адзін і той жа суцэльны малюнак на столі падземнай магільні, уяўляючай сабой неба, на якім зоркі намаляваны як

патрапіць, нагадваючы сабой пяціпялёсткавыя кветачкі[11]. Бяручы да ўвагі аднастайнасць фарбаў і малярства бачна, што размалёўка была здзейснена не ў два прыёмы, падзеленыя прамежкам у некалькі гадоў, а адразу на працягу некалькіх дзён ці, у крайнім выпадку, тыдняў. Гэта азначае што ранейшы гараскоп быў адноўлены ўжо грунтуючыся на ўспамінах і таму не мае такога сур'ёзнага значэння для вызначэння часу, як больш позні.

Тэорыя рухаў Сатурна і Юпітара пераконвае нас, што паказанае для іх перанясенне пры пераходзе ад Верхняга гараскопа да Ніжняга магло ажыццявіцца толькі праз 16 гадоў. Гэта азначае што і паміж сьмерцю адной із двух пахаваных тут асоб прайшло каля гэтага часу. Становішча Сонца Верхняга гараскопа ў Цяляці і Ніжняга ў Вадаліве ўдакладняе гэты тэрмін і дае нам 16 гадоў без трох месяцаў.

Тут усё выходзіць цудоўна і толькі падмацоўвае правільнасць зробленага намі тлумачэння птушкі са змяіным хвастом як Сатурна, і птушкі з бычынай галавой, як Юпітара. Сонца намалявана тут кружком, а Месяц – сярпом, так што для іх не можа быць непаразуменняў. Не можа быць непаразумення і ў тым, што птушка з арлінай галавой малюе Марс, таму што на Верхнім гараскопе яна дадзена ў Раку праз сузор'е ад Сонца, каля якога ў абодвух Задыяках стаіць двухаблічны спадарожнік з кіем – Мяркурый, што выглядае із-за Сонца то справа, то злева, як ён дадзены і на дэндэрскім Задыяку. А апошняя із пяці птушак – птушка паблізу Сонца без асобных прыкмет, – шляхам выключэння, павінна б быць прынята за Венеру.

Атаясамленне двухаблічнага падарожніка з Меркурыем і чатырох птушак, седзяых на сузор'ях Задыяка, з чатырма астатнімі планетамі, настолькі відавочна і да такой ступені падцвярджаецца іхным перасоўваннем на працягу 16 гадоў без трох месяцаў, што тут немагчымы ніякія спрэчкі.

Звяртае тут на сябе ўвагу толькі тое, што Марс, птушка з арлінай галавой, адпаведна з тэорыяй свайго руху магла прыляцець у Вадаліва пад Сонца ў тым толькі выпадку, калі за 16 гадоў без трох месяцаў да гэтага яна была пасярэдзіне Ільва. А тым часам яна паказана там толькі побач з Ільвом, сядзячай на Раку. Гэта азначае, што мастак маляваў Верхні гараскоп грунтуючыся не на непасрэдным назіранні неба, а грунтуючыся на ўспамінах ці вылічэннях, так што даў не цалкам дакладны малюнак. І зразумела, што ён мог гэта зрабіць толькі для ранейшага, Верхняга гараскопа, а Ніжні намаляваў непасрэдна назіраючы за небам.

Із падобнага боку гледжання адзінай прыдатнай датай для Атрыбскай магільні з'яўляецца 9 лютага 1065 года, як час сьмерці другога із пахаваных тут людзей. А разам з тым робяцца прабачальнымі і тыя нязначныя недакладнасьці, якія атрымаліся ў яго пры вызначэнні месцавання планет, на шаснаццаць гадоў назад, для 4 траўня 1049 гады, калі памёр першы пахаваны. Мы бачым, што атрымалася эпоха Магамета Газнійскага (памёр 1030 г.) і на падставе таго, што я паведамляў пра больш пазняе, чым лічаць,ператварэнне агаранства ў магаметанства, патрэбна думаць, што і ў XI стагоддзі Ягіпет быў яшчэ агаранскім, дазваляючым у сваім побытавым ужыванні і малярства, і скульптуру, забароненыя Каранам толькі пазьней.

Аднак, сама ступень захаванасьці малюнкаў, пісаных вадзянымі фарбамі на столі пячоры, сведчыць на карысць не вельмі глыбокай іхнай старажытнасьці. Калі ж чытач згадае тое, што я пісаў у другой кнізе «Хрыста» пра неспыняючыяся ні на імгненне мікрасейсмічныя ваганні зямной кары, то цяжка дапусьціць, каб за цэлае

[11] На маім малюнку яны злёгку рассунуты для выразнасьці.

тысячагоддзе яны не расхісталі трываласць лёгка абсыпаючайся вадзяной афарбоўкі пячорных сьцен і столі, на якіх усё гэта намалявана.

* * *

Тут мне і належала б закончыць сваё дасьледаванне. Але каб тыя, хто схільны лічыць птушку са змяіным хвастом за Юпітар, а птушку з бычынай галавой за Сатурн, не ўпікнулі мяне за тое, што я давёў вылічэнне Атрыбскіх гараскопаў на гэтым пастулаце толькі да паловы VI стагоддзя пашай эры, я прадоўжу і Нобелеўскія разлікі аж да нашага часу.

Вось у табліцы XLI, у першых двух яе слупках, дадзены ўсе гады знаходжання Сатурна ў Рыбах, а побач самыя блізкія да іх месцаванні Юпітара ў Казярогу, як гэта атрымлівалася на Верхнім гараскопе пры Нобелеўскім тлумачэнні абедзвюх птушак. А ў астатніх двух слупках дадзены ўсе гады знаходжання Сатурна ў Двайнятах і каля іх становішча Юпітара ў Ільве, як гэта атрымліваецца пры тым жа Нобелеўскім тлумачэнні на Ніжнім гараскопе.

На падставе таго, што Марс пераходзіць ад свайго травеньскага становішча ў Раку, паказанага ў Верхнім гараскопе, да студзеньска-лютаўскага становішча паміж Казярогам і Вадалівам паказанаму для яго ў Ніжнім, праз 6 гадоў і 8 месяцаў, (у табліцы XLI) прыдатнымі для дасьледавання грунтуючыся на Марсе з'яўляюцца толькі тыя гады сярэднявечнай серыі прыдатных спалучэнняў Сатурна і Юпітара, дзе даты Ніжняга гараскопа на гэтую ж колькасць гадоў большыя чым даты Верхняга. Гэтыя выпадкі і пазначаны пасярэдзіне табліцы падвойнымі зорачкамі. Прыдатнымі для дасьледавання праз Марс выяўляюцца тут толькі пяць радкоў паміж 965 і 1209 гадамі, сярэднявечнай серыі, ды дапасуюць яшчэ дзьве ў самы апошні час паміж 1820 і 1885 гадамі.

Разбяром жа іх спачатку ў агульным выглядзе.

1. У 965 годзе Марс ішоў блізка да графіка 1849 года[12]. Пры Сонцы ў Цяляці (г.азн. у юліянскім траўні) ён быў каля Рыб, а не ў Раку. Годам раней, у 964 годзе, ён праходзіў у гэты час па Раку, але Юпітар быў яшчэ ў Стралку, а не ў Казярогу. Годам пазней у 966 годзе і Марс і Сатурн, дапасуюць, але Юпітар быў ужо ў Вадаліве каля Рыб, а не паміж Казярогам і Вадалівам. Гэтыя гады такім чынам не заслугоўваюць далейшага дасьледавання.

2. У 1024 годзе Марс ішоў блізка да графіка 1829 года і быў у траўні яшчэ ў Двайнятах. Годам раней – у Стралку і годам пазьней – у Вадаліве. Тут ніводзін год не дапасуе.

3. У 1083 годзе Марс ішоў блізка да графіка 1841 года і быў у траўні каля Панны, а пад час сярэдніх гадоў каля Цяляці. Не дапасуе.

4. У 1143 годзе Марс ішоў блізка да графіка 1822 года і быў у траўні на мяжы паміж Паннай і Ільвом. І гэты выпадак не заслугоўвае далейшага дасьледавання.

5. У 1202 годзе Марс ішоў блізка да графіка 1849 года і быў у траўні ў Рыбах. Годам раней (у 1201 г.) ён быў у Раку, але Юпітар быў у Стралку замест Казярога, а годам пазьней Сатурн быў у Авене замест Рыб. Ніводзін із гэтай трыяды гадоў не дапасуе.

ТАБЛІЦА XLI.

Вылічэнне Атрыбскіх гараскопаў пры здагадцы, што птушка са змяіным хвастом – Юпітар, а птушка з бычынай галавой – Сатурн.

---

[12] Гл. гэтыя графікі тут на 712 старонцы.(мал. 141.)

| Па зн акі | Верхні гараскоп | | Па зн акі | Ніжні гараскоп | | Па зн акі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сатурн у Рыбах | Юпітар у Казярогу | | Сатурн у Двайнятах | Юпітар у Ільве | |
| | 553.45 | 550.39 | | 560.85 | 568.72 | |
| | 582.90 | 585.97 | | 590.30 | 592.44 | |
| | 612.36 | 609.70 | | 619,46 | 616.17 | |
| | 641.82 | 645.28 | | 649.22 | 651.75 | |
| | 671.24 | 669.01 | | 678.67 | 675.48 | |
| | 700.73 | 704.59 | | 708.13 | 711.06 | |
| | 730.19 | 728.32 | | 737.59 | 734.79 | |
| | 759.65 | 752.04 | | 767.05 | 770.37 | |
| | 789.10 | 787.63 | | 796.50 | 794.10 | |
| | 818.56 | 823.21 | | 825.96 | 829.68 | |
| * | 848.02 | 846.94 | | 855.41 | 853.41 | |
| | 877.47 | 882.52 | | 884.87 | 888.99 | |
| * | 906.93 | 906.25 | | 914.33 | 912.72 | |
| | 936.39 | 941.83 | | 943.78 | 948.30 | |
| * | 965.84 | **965.56** | * * | 973.24 | **972.03** | * |
| | 999.30 | 1001.15 | | 1002.40 | 1007.62 | |
| * | 1024.76 | **1024.87** | * * | 1032.16 | **1031.34** | * |
| | 1054.22 | 1060.46 | | 1061.62 | 1066.93 | |
| * | 1083.67 | **1084.18** | * * | 1091.07 | **1090.65** | * |
| | 1113.13 | 1119.77 | | 1120.53 | 1126.24 | |
| * | 1142.59 | **1143.49** | * * | 1149.99 | **1149.96** | * |
| | 1172.04 | 1179.08 | | 1179.44 | 1185.55 | |
| * | 1201.50 | **1202.80** | * * | 1208.90 | **1209.27** | * |
| | 1230.96 | 1238.39 | | 1238.36 | 1244.86 | |
| | 1260.41 | 1262.11 | | 1267.82 | 1268.58 | * |
| | 1289.87 | 1285.84 | | 1297.27 | 1292.31 | |
| | 1319.33 | 1309.56 | | 1326.73 | 1327.89 | * |
| | 1348.79 | 1345.15 | | 1356.18 | 1351.62 | |
| | 1378.24 | 1380.73 | | 1385.64 | 1387.20 | |
| | 1407.70 | 1404.46 | | 1415.10 | 1410.93 | |
| | 1437.16 | 1440.04 | | 1444.55 | 1446.51 | |
| | 1466.61 | 1463.77 | | 1474.02 | 1470.24 | |
| | 1496.07 | 1499.35 | | 1503.47 | 1505.82 | |
| | 1525.53 | 1523.07 | | 1532.93 | 1529.54 | |
| | 1554.99 | 1558.66 | | 1562.39 | 1565.13 | |
| | 1584.44 | 1582.38 | | 1591.84 | 1600.72 | |
| | 1613.90 | 1617.97 | | 1621.30 | 1624.44 | |
| | 1643.36 | 1641.69 | | 1650.76 | 1648.16 | |
| | 1672.81 | 1677.28 | | 1680.21 | 1683.75 | |
| * | 1702.27 | 1701.00 | | 1709.67 | 1707.47 | |
| | 1731.73 | 1736.59 | | 1739.17 | 1743.06 | |
| * | 1761.19 | 1760.31 | | 1768.59 | 1766.78 | |
| | 1790.64 | 1795.90 | | 1798.04 | 1802.37 | |
| * | 1820.10 | 1819.62 | * | 1827.50 | 1826.09 | |
| | 1849.56 | 1855.21 | | 1856.96 | 1861.68 | |
| * | 1879.02 | 1878.40 | * | 1886.42 | 1885.93 | |
| | 1908.47 | 1914.52 | | 1915.87 | 1920.99 | |

Мы бачым, што ўся сярэднявечная серыя нашай арыентатыўнай табліцы XLI адпала ад далейшага дасьледавання.

Застаецца толькі паглядзець указанне на магчымасць 1819 і 1878 гадоў для Верхняга (і адпавядаючых ім 1826 і 1885 гадоў для Ніжняга гараскопа). Але 1878 год адразу адпадае, таму што ў траўні Марс быў яшчэ ў Двайнятах каля Цяляці, а не ў Раку. У 1819 годзе, як паказваюць нашы графікі на стр. 712, Марс у траўні быў у Рыбах, а пад час папярэднічаўшага 1818 і ў наступным 1820 годзе, ён у траўні

быў якраз у Раку. Аднак у 1818 годзе Юпітар быў яшчэ ў Стралку, а не паміж Казярогам і Вадалівам і толькі ў 1820 ён заняў прыдатнае становішча ў Вадаліве бліжэй да Казярога. Ды і Сатурн быў, як паказана, у Рыбах. Аднак Мяркурый і Венера не падмацоўваюць і гэтай даты. Мяркурый быў у Авене каля Рыб (каля. 30° экліптыкальнай даўгаты), замест таго каб быць у Цяляці, а Венера выяўляецца каля 99° экліптыкальнай даўгаты, г.азн. ужо ў сярэдзіне Двайнят, замест таго ж Цяляці. Падобныя недакладнасьці не дазваляльныя для аўтара XIX стагоддзя, гэта азначае, і гэта дата адпадае. А разам з ёю адпадае канчаткова і здагадка Нобеля, што птушка са змяіным хвастом – Юпітар, а птушка з бычынай галавой – Сатурн, а не наадварот. Пры такой здагадцы астраномія не дасць нам ніводнага задавальняючага рашэння для Атрыбскіх гараскопаў, пачынаючы ад мінус 500 года, і да самага нашага часу.

Таму застаецца толькі лічыць правільным толькі маё тлумачэнне: у якасьці Юпітара птушку з бычынай галавой, а Сатурна птушку са змяіным хвастом, і разам з тым прызнаць, што Атрыбскія гараскопы зроблены вясной 1065 года нашай эры.

Зноў цалкам нечаканы вынік, але нічога не зробіш... Ды і выдатная захаванасць драўлянай труны і ўсіх яе малюнкаў, зробленых з дапамогай не вельмі трывалых вадзяных фарбаў, таксама паказвае на позні час...

# Глава VIII.

## Неспакойнае ягіпецкае зацьменне, дапасуемае да часу Такелота II.

Робячы астранамічную праверку старажытных ягіпецкіх надпісаў, я не магу тут не згадаць пра знакамітае Такелотава зацьменне, нарабіўшае столькі клопатаў астраномам. Справа ў тым, што Такелотаў ягіптолагі налічваюць цэлых чатыры асобнікі: адзін пад час дваццаць першай, два пад час дваццаць другой і адзін пад час дваццаць трэццяй дынастыі, як мы пабачым далей. Пра які ж ідзе тут гаворка і калі яны сапраўды жылі, калі рэчаісна існавалі? Такелот I лічыцца тэолагамі за Тыглат-Паласара Бібліі (2 К. 16, 7), а гэты апошні – запэўніваюць нас – быў сучаснікам цара Ахаза: Ахаз жа згодна з нашымі атаясамленнямі[13] з’яўляецца толькі біблейскай аперцэпцыяй візантыйскага імператара Зянона (474-491 гг.). Гэта азначае што і біблейскі Тыглатпаласар належыць V стагоддзю нашай эры, і мы адзначым тут, што першая частка яго наймення выводзіцца гебраістамі ад Diglath – тыгрскі, а другая ад санскрыцкага слова pala-sara – дзяржаўны цар. Не раней як яго ж стагоддзю павінен належаць і Такелот II, а астатнія павінны быць яшчэ больш познімі, калі не дублююць яго, такім чынам і Такелотава зацьменне патрэбна шукаць толькі ў V-VII стагоддзях нашай эры.

Паведамляючы пра яго надпіс знаходзіцца на адной сьцяне ў Карнаку і быў спачатку няправільна апублікаваны Лепсіусам[14] і прыведзены Бругшам у яго «Гісторыі Ягіпта»[15].

---

[13] Хрыстос, кн. I, ч. III, гл. 4.

[14] Lopsius: Denkmaler aus Aegypten und Aethiopieu. T. III, Bd. 256.

[15] Brugsch: Histoire d'Egvpte.. Першае выданне ў 1859 г. I, 233. Хрыстос. Кн. VI. 48

Вось як было надрукавана імі дапасуючае да гэтага зацьмення месца! Нават месяц Месоры яны замянілі на Хаяк!

«L'an 15, le 24 jour du mois de Choiac sous le regne de la saintete de sou pere, il arriva que ce pays... le ciel la lune luttant»...»... («*15 года, пад час 24 дня Хаяка пры валадаранні аўгусцейшаства яго бацькі адбыўся ў гэтай краіне... у небе змагаючыся месяц*»...)

Аднак Бёрч (Birch) у Athenaeum'e (1861, 14траўня) давёў, што замест Хаяка патрэбна чытаць Месоры:

«*25 дня Месоры* (каля юліянскага жніўня) *пад час 45 года валадарання яго гераічнага бацькі валадара Заходніх Фіваў, неба зрабілася нябачным... змагаючыся месяц...*».

Гемпач у сваёй кнізе «Пра гістарычную старажытнасьць ягіпецкага народа»[16] чамусьці выказаў здагадку, што ў гэтым месцы апісваецца не месяцовае, а сонечнае зацьменне ў месяцы Месоры і што Такелот II павінен быць сынам Асаркана III. А дзякуючы таму што ён дапасуе сьмерць апошняга да мінус 852 году, то згодна з яго падлікамі, 15 год Такелота II быў роўны мінус 840 году, а дваццаць пяты дзень месяца Месоры ён прызнаў адпавядаючым тагачаснаму 11 сакавіка. Чаму? Таму што толькі на 11 сакавіка прыпадае сонечнае зацьменне ў мінус 840 годзе, да якога ён загадзя меў жаданне яго дапасаваць...

Але я ужо не раз паказваў, што падобныя адвольныя падвядзенні гісторыі пад астраномію да дабра не вядуць. Так атрымалася і тут: пры больш дакладных вылічэннях гэтае зацьменне выявілася нябачным у Ягіпце. І вось Хінгс[17] прызнаў, напрыканцы, у гэтым апісанні патрэбна разумець месяцовае зацьменне, але зрабіў не лепш: ён дапасаваў яго да 4 красавіка мінус 944 года, прытым разам з Лепсівусам чытаў у дакуменце 24-е замест 25 Месоры.

Але і гэтае зацьменне, як выявілася, не было бачным у Ягіпце пасьля больш дакладных разлікаў. І вось, ён жа, няйнакш як із роспачы, дапасуе апісанне да сонечнага зацьмення 1 красавіка мінус 926 года. Але і яно, як выявілася пазьней, не было бачна ў Ягіпце... Тады І. Раска[18] зноў дапасаваў гэтае месца да месяцовага зацьмення 17 сакавіка мінус 869 года. Але і яно, згодна з больш дакладнымі разлікамі, не было бачна ў Ягіпце...

Потым грунтуючыся на копіі Эдвіна Сміта тэкст дакумента быў выдадзены ў выпраўленым выглядзе Гудзьвінам[19], а Хабас (Chabas), учыніўшы над ім стараннае дасьледаванне[20], зноў не атрымаў нічога прыдатнага для падмацавання старой храналогіі, і, не адважыўшыся яе аспрэчыць, прыйшоў із роспачы да дзіўнай высновы, што тут паведамляецца не пра нябесную з'яву, а пра «распаўсюдзіўшаяся ў Ягіпце паўстанне»!

---

16 Gumpach: On the historic antiquity of the people of Egypt. 1863 p. 96.

17 Hinks: Egypt dynasties of Manetho, I, p. 34.

18 Raska: Chronologic der Bibel. 1878. S. 200.

19 Aegyptolog. Zeitschrift. 1868. S. 125.

20 Там жа стар. 49.



Мал. 151.
Ягіпецкія астраномы назіраюць першае ранішняе з'яўленне Сотыс, абвяшчаючай пачатак новага сонечнага года (із Астраноміі XIX стагоддзя).

Нарэшце Малер, бачачы недарэчнасць такога тлумачэння, дастасаваў да 25 Месоры ўсе манчымыя у Ягіпце сонечныя і месяцовыя зацьменні паміж мінус 1045 і мінус 745 гадамі, але таксама прыйшоў да высновы, што за ўсе 300 гадоў на дадзены дзень не прыпадае ніякага зацьмення.

А надпіс жа відавочна паведамляе пра зацьменне, таму што ў старажытных запісах такія з'явы заўсёды ўяўляліся ў выглядзе змагання Сонца ці Месяца з нейкай пачварай, імкнуўшайся іх праглынуць, і таму спробы знайсьці прыдатны выпадак не спыніліся.

Каб цалкам зразумець тэкст, выклікаўшы столькі клопатаў сярод астраномаў, Аўгуст Эйзенлор у 1890 годзе старанна сфатаграфаваў надпіс пры вялікім павелічэнні, і вось які, згодна з яго перакладам, выявіўся сэнс усяго тэкста:

«*Калі пазьней у 15 годзе, пад час месяца Месоры, 25 дня, пад валадарствам бацькі-Гора, пышнага, боскага князя Фіваў, не праглынула неба месяца... вялікае няшчасьце настала ў нашай краіне...*».

Атрымаўшы такі пераклад (хаця ён і не пераіначваў ранейшага тлумачэння), прафесар Раска, усё яшчэ не страціўшы надзею пацмацаваць гэтым зацьменнем традыцыйную ягіпецкую храналогію, паспрабаваў вылічыць усе месяцовыя зацьменні бачныя ў Ягіпце ад мінус 1000 года да мінус 700, але і ў яго, як і ў Малера, атрымаўся адмоўны вынік.

Аднак жа надпіс добра захаваўся ў сваёй верхняй частцы, і знак пазначаючы 25, бачны на ёй выраза і зразумела, хаця на яго і падае збоку цень. Таксама і іерагліфічнае пазначэнне месяца: «вадзяная частка года (г.азн. сузор'е Вадаліва) месяц 4-ы – Месоры», выразна бачны на фатаздымку. Гэта азначае гэты іерогліф немагчыма чытаць інакш, як «Месоры 25 дзень», і месяц тут відавочна быў не блукаючы, а сузорны.



Мал. 152.
Ягіпецкае ўяўленне пра неба. Бог Себ ляжыць на зямлі, а бог Шу падтрымлівае багіню Нут – сучасную Галактыку.



Мал. 153.
Другая схема ягіпецкага неба. Знізу бог Себ, згарнуўшыся колам, паклаўшы сваю галаву і рукі на зямлю, і гэта зрабілася падмуркам першага неба. Падмуркам другога неба зрабілася багіня Пет, а трэццяга – багіня Нут.

«Калі грунтавацца на адным Лепсівусе, – выказваецца з гэтай нагоды здзіўлены Гендаль[21], – то патрэбна дапасаваць пачатак валадарання Такелота II да мінус 876 года (тады як згодна з традыцыйнай храналогіяй 22-я дынастыя, да якой прылічваецца Такелот II, пачалася з мінус 960 года).

Такім чынам 15 год Такелота II адпавядае мінус 882 году. Але тут у сваіх безвыніковых намаганнях падмацаваць астраноміяй звычайную храналогію Ягіпта гісторыкі так разышліся адзін з адным, што нават усталяванне межаў прамежку часу на працягу якога можна было б шукаць патрэбнае ім сонечнае ці месяцовае зацьменне, з'яўляецца цяжкім. Лінк[22] дапасуе 15-ы год Такелота II да мінус 785 года, прыраўноўваючы яго да 536 года другога перыяду сузор'я Сабакі, у якім 25 Месоры прыраўноўваецца, згодна з традыцыйнымі разлікамі, да 25 лютага. Лічачы, як і патрэбна згодна з тэкстам надпісу, што адбылося месяцовае зацьменне, ён таксама шукае яго, але не знаходзіць пад час пазначанага дня і таму хаця і верыць перакладу Бругша: «Неба не было бачным, месяц быў жудасны, прадракаючы бедствы гэтай краіне», але ўсё ж ахвяруе астраноміяй на карысць гістарычнай традыцыі, і прыходзіць да высновы, што тут маецца на ўвазе проста «нейкая метэаралагічная з'ява».

А Генцаль[23], адчуваючы, што метэаралагічнае тлумачэнне тут толькі шлях у нікуды, і не бачачы ніякай надзеі для задавальнення звычнай храналогіі, прыходзіць да маркотнай высновы, што тут маецца на ўвазе хутчэй усяго толькі чакаемае, а не наступіўшае зацьменне, і, каб не абвастраць гэтае непагадненне астраноміі з ягіпецкай гісторыяй, раіць астраномам нагогул спыніць далейшы пошук часу сонечных і месяцовых зацьменняў у старажытным Ягіпце[24].

Але замест таго каб дапасаваць такія рашучыя захады да выкарыстання астраноміі ў ягіпецкіх справах, ці не лепш ўсумніцца ў самой ягіпецкай храналогіі?

Гэта ж было відавочна ці поўнае сонечнае зацьменне, з яскравай каронай і з пратуберанцамі вакол змагаючагася з паначнеўшым небам месяца (такія зацьменні не так ужо і часта адбываюцца ў кожнай дадзенай мясцовасьці, і таму натуральна запісваюцца) ці поўнае месяцовае зацьменне, і ў абодвух выпадках няйнакш як у сузор'і Вадаліва, таму што паказана «водная частка Задыяка».

Але вось усе поўныя сонечныя зацьменні, праходзіўшыя праз Мемфіс, Каір і Дэльту Нілу.

У –1156-VIII-19, папярок Верхняга Ягіпта пад час першай паловы дня.

У –1123-V-18, перад поўднем, таксама папярок, але больш на поўдзень.

У –1062-VII-3, таксама, раніцай.

У –947-V-22, таксама, ранняй раніцай, па Дэльце.

У –830-VIII-15, па Дэльце пасьля поўдня.

У –823-IV-2, бліжэй да вечара, папярок Ягіпта.

У –492-XI-24, бліжэй да вечара, паўднёвей Каіра, папярок Ягіпта.

У –35-V-19, бліжэй да вечара, паўднёвей Каіра.

У +83-XII-27, каля Каіра.

У +291-V-15, каля Каіра, вечарам.

У +301-IV-23, паўднёвей Каіра, раніцай.

У +486-V-19, пасьля паўдня, паўднёвей Каіра.

[21] Ginzel: Specielier Kanon der Sonnen-und Mondfinsternisse, S. 261.

[22] Observatory, XI, 197.

[23] Ginzel, S. 261.

[24] ... So wird man wohl fernerhiu die Nachsuchung uach den in Aegypten sichtbar gewesenen Sonnen-und Mondfinsternissen aufgeben mussen (Giozel: Specieller Kanon, S. 262).

У +601-III-10, праз Дэльту перад поўднем.
У +718-VI-3, праз Дэльту перад заходам.
У +736-IV-3, праз Дэльту, вечарам.
У +993-VIII-20, праз Дэльту, у першую палову дня.
У +1061-VI-20, праз Каір, раніцай.
У +1112-III-29, праз Каір, перад заходам.
У +1293-VII-5, паўднёвей Каіра, апоўдні.
У +1478-VII-29, праз Дэльту, у другую палову дня.
У +1488-VII-10, паўднёвей Каіра, раніцай.
У +1839-III-15, паўднёвей Каіра, пры заходжанні.

Я ўзяў тут непасрэдна юліянскі стыль, як сярэдні паміж кліматычным і зорным злічэннем гадоў, таму што згодна з мясцовымі ўмовамі ён адзін можа больш-менш задавальняць адразу як ягіпецкай прыродзе так і метаду тамтэйшага вызначэння пачатку года арыентуючыся на выходжанне зоркі Сотыс, хто б яна ні была, із прамянёў Сонца. Яе выходжаннем, зразумела, пазначаўся толькі зорны год роўны 365д256374, а разводдзямі Нілу пазначаўся толькі кліматычны год роўны 365д242201.... Юліянскі ж год роўны 265д25, як сярэдні паміж імі, мог задавальняць і таму і другому злічэнню часу на некалькі стагоддзяў, перш чым старажытным навукоўцам давялося б нехаця пераканацца, што бог, непасрэдна паведаміўшы юліянскі, (г.азн. геліянскі) год самаму вялікаму із мудрых, сам памыліўся ў вызначэнні даўжыні свайго года.

З такога боку гледжання пануючая зараз у ягіптолагаў традыцыйная думка, што ягіпецкія навукоўцы-сьвятары лічылі некалі пад час глыбокай старажытнасьці, свой час з дапамогай рухомага года, заснавана цалкам на легкадумных здагадках аўтараў эпохі Рэнесансу, заблытаўшыхся ў сваіх уласных хітрасьцях і не меўшых дастаткова шырокага далягляду для свайго мышлення, інакш яны адразу ж заўважылі б, што часазлічэнне з дапамогай рухомага года не задавальняе іх жа ўласнаму цверджанню пра сувязь пачатку ягіпецкага года, як з яго зорнымі, так і з яго кліматычнымі пазнакамі. Я зноў паўтараю: год роўны 365 дням (не кажучы ўжо пра 360-дзённы) не змог бы пратрымацца ў Ягіпце нават і на працягу стагоддзя, не аспрэчыўшы сам сябе, а таму і юліянскае алімпіяднае злічэнне з дадаванннеем шостага (высакоснага) эпагамена павінна было ўзнікнуць у Ягіпце пад час таго ж стагоддзяя, пад час якога быў там усталяваны і 365-дзённы год. І калі мы дапусьцім, што апошні быў усталяваны пры Дыяклетыяне, то неабходнасць дадавання да чацьвёртага года аднаго дня павінна была выявіцца ўжо падчас Юльяна і яго тэакратычнага суваладара (калі не двайніка) «Вялікага Цара».

Год +388-VIII-18, сярэдзіна ў 5 гадзін 31 хвіліну ад грынвіцкай поўначы. Ішло із Атлантычнага акіяна праз сярэднюю Расію да Барнэа, і наўрад ці магло быць заўважана, тым больш выклікаць перапалох у Ягіпце.

Год +863-VIII-18, сярэдзіна ў 7 гадзін 9 хвілін ад грынвіцкай поўначы. Ішло із Гішпаніі праз Балканы і Крым у Ціхі акіян і было нікчэмным у даліне Ніла. Зноў мала дапасуе для перапалоху ў Ягіпце.

Год +928-VIII-18, сярэдзіна ў 4 гадзіны 30 хвілін ад грынвіцкай поўначы. Пачалося ў Самалі пры ўзыходжанні Сонца і пайшло ў Аўстралію. Наўрад ці было нават заўважана ў Ягіпце.

Год +1430-VIII-19, сярэдзіна ў 4 гадзіны 5 хвілін ад грынвіцкай поўначы. Пачалося пры ўзыходжанні Сонца ў Каспійскім моры і пайшло ў Ціхі акіян. У Ягіпце было яшчэ перад узыходам Сонца і было бачным толькі яго заканчэнне із-за гор.

Вось і ўсё, што было бачна ў Ягіпце із сонечных зацьменняў паміж 17-19 жніўня ад пачатку нашай эры да XV стагоддзя.

Нічога не дапасуе.

Гэта азначае што гаворка ідзе пра месяцовае зацьменне, як і можна было чакаць грунтуючыся на літаральным сэнсе запісу, дзе пра Сонца нічога не гаворыцца. Але із месяцовых зацьменняў няпоўныя такія частыя, што не робяць ніякага ўражання, нагадваючы толькі фазы Месяца, у чым не было ніякага дзіва для першабытнага розуму. Іншая справа поўныя з абсалютным знікненнем Месяца (асабліва пры дажджы метэарытаў). Яны заўсёды выклікалі трывогу ў першабытных людзей, а таму маглі патрапіць і ў запіс.

І вось, бяручы ў разлік усе поўныя зацьменні, якія былі бачнымі ў Ягіпце ад пачатку нашай эры паміж 17 і 19 жніўня (дзякуючы таму што невядома да якога дня дапасавалася дадзеная ноч, – да гэтага самога 18 жніўня ці да папярэднічаўшага, ці да наступаючага дня), мы знаходзім для гэтага прамежку дзён із бачных на прасторах ўсёй старой візантыйска-ягіпецкай імперыі толькі:

Год 7-VIII-17, з сярэдзінай у 3 гадзіны 8 хвілін ад грынвіцкай поўначы на ўзыходзе Сонца і заходзе Месяца ў Ягіпце. Звышпоўнае (22"2).

Год 593-VIII-17, з сярэдзінай у 21 гадзіну 51 хвіліну ад грынвіцкай поўначы, і каля поўначы ў Ягіпце. Звыш поўнае (20"8), ужо пры імператары Маўрыкіі, апошняе да каліфата.

Год 658-VIII-18, з сярэдзінай у 18 гадзін 40 хвілін ад грынвіцкай поўначы, і каля 8 гадзін вечара ў Ягіпце, калі людзі яшчэ не спалі. Звыш поўнае (19"9), адзінае, якое задавальняе 18-му дню і якое павінна было зрабіць моцнае ўражанне. Яно было ўжо пры каліфаце ў Ягіпце.

Іншых не было аж да XII стагоддзя, калі маем:

Год 1114-VIII-18, з сярэдзінай у 3 гадзіны 5 хвілін ад грынвіцкай поўначы, перад сьвітаннем у Ягіпце, з максімальнай фазай 19".

Год 1179-VIII-19, з сярэдзінай у 2 гадзіны 17 хвілін ад грынвіцкай поўначы, пад канец ягіпецкай ночы, звыш поўнае (21"9).

І, нарэшце, год 1244-VIII-19, з сярэдзінай у 17 гадзін 50 хвілін ад грынвіцкай поўначы, следам за наступленнем ягіпецкай ночы, звыш поўнае (21"4). Гэта было ад пачатку нашай эры і да нашых дзён другое месяцовае зацьменне, якое дзякуючы не вельмі позняму часу ночы (калі яшчэ ўсе не спяць) павінна было вырабіць моцную трывогу ў асяроддзі ягіпецкай публіцы.

Такім чынам, што ж мы бачым?

Для Такелотавага месяцовага зацьмення, цалкам не патлумачанага з боку гледжання старой храналогіі, з новага боку гледжання знаходзяцца цалкам правільныя рашэнні. Лічачы тры апошнія рашэнні, паказваючыя такія выпадкі ў XII і ў XIII стагоддзях нашай эры, вельмі позьнімі, мы можам спыніцца толькі на двух: 17 жніўня 593 года на адзінаццатым і дванаццатым (замест 15) гадах візантыйска-ягіпецкага імператара Маўрыкія (582-603), ці на зацьменні 18 жніўня 658 года на шаснаццатым (замет сямнаццатага) года імператара Канстанса, адпавядаючага біблейскаму Якіму, цару паланення, г.азн. ужо пасьля пераходу Ягіпта пад уладу агаранскіх валадароў.

І я пакажу далей, пры гістарычным разгляданні 21-23 псеўдадынастый ягіпецкіх валадароў, што гістарычным умовам моманту задавальняе толькі месяцовае зацьменне 18 жніўня 593 гады, калі не лічыць 1244 года.

На вялікі жаль аб'ём гэтай кнігі не дазваляе мне дадаць сюды яшчэ некалькі дакументаў астранамічнага характару, вылічэнне часу якіх таксама пацмацоўвае мае высновы.



Мал. 154.
Ягіпецкі пісьменнік.

# Частка пятая

## Чароўная казка пра старажытна-архейскі Ягіпет



Мал. 155.
Вялікія Гізехскія піраміды.

## Глава I.

### Ягіпецкія альфабэты і пісанныя імі першакрыніцы нашых ведаў па дзяржаўнай эвалюцыі псеўда-архейскага Ягіпта.



Мал. 156.
Гізехскі сфінкс.

У папярэднім раздзеле я даў агульную схему ягіпецкай гісторыі, разглядаемай з эвалюцыйнага боку гледжання. Гэта, так бы мовіць, межы, за якія гісторык не мае права выходзіць.

А што ж мы бачым у сучасных выкладаннях? Тут аўтары перакінулі ногі праз якія б то ні было эвалюцыйныя і натуральна-гістарычныя абмежаванні, як і ў гісторыі Фінікіі, дзе яны стварылі мараходную дзяржаву ў Сірыі без гаваняў і ўласных портаў.

Але перш чым пяройдзем да крытычнай часткі і да рацыянальнага дасьледавання першакрыніц, паглядзім, што гэта за іерагліфічнае пісанне, якім увекавечаны бясконцыя чароды старажытна-ягіпецкіх цароў і якім спісаны ўсе сьцены ягіпецкіх пабудоваў.

У 1799 годзе французкі інжынерны лейтэнант Бушар, кіруючы працамі па пабудове ўмацаванняў у Разеце (па-арабску Рэшыд) на заходняй утоцы Нілу, знайшоў там камень чорнага граніту да $1^1/_2$ метраў шырыні і да $2^1/_4$ даўжыні, які захоўваецца зараз у Брытанскім музеі пад найменнем «Разецкі камень».

На ім былі тры надпісы: аддзін іерагліфічным пісаннем, другі дэматычным (г.азн. свецкім) і трэцці грэцкім, усе выразаныя вялікімі літарамі без знакаў прыпынку, у 54 радкі. Із грэцкага надпісу выявілася, што гэта была ўрачыстая пастанова сьвятароў у памяць цара Пталямея Эпіфана, каб у падзяку за яго шматлікія дабрадзействы краіне і за літасьці і падарункі сьвятарскаму стану ўшанаваць яго вялікімі ўшанаваннямі і ў кожным храме паставіць яму статую на самым бачным месцы, а побач з ею выяву галоўнай боскасьці свяцілішча, падаючую яму зброю на перамогу. Акрамя таго, было пастаноўлена, каб пад час дня яго нараджэння яму і яго выяве аддаваліся божыя ўшанаванні. Дакумент дадае, што пастанова павінна быць напісана на помніках із цьвёрдага каменя з дапамогай сьвятога пісання, тубыльнага пісання і грэцкага пісання, і камяні з копіямі такой пастановы павінны быць у кожным храме I, II і III разраду.

Лічучы, што ўсе тры надпісы Разецкага каменя ўяўляюць сабой парадковы пераклад таго ж самага грэцкага тэксту, і што ўсе тры альфабэты павінны быць гукавымі, французкі ягіптолаг Шампаліён знайшоў напісанне імя Пталямея ва ўсіх

трох тэкстах, што было не цяжка зрабіць, дзякуючы таму што яно было ўсюды аточана авальна-чатырохкутным абадком, і такім чынам ён вызначыў, як іерагліфічна пісаліся пяць літар П, Т, О, Л, М, складаючыя слова Пталямей (мал. 157, зверху).

Са знойдзенага каля таго ж часу іншага надпісу на выспе Філе, крыху вышэй парогаў, дзе іерагліфічны тэкст таксама выявіўся з падрадковым перакладам на грэцкую мову, было такім жа чынам знойдзена імя Клеапатра (мал. 157), таксама ў адмысловым абадку – і Шампаліён дзякуючы яму дадаў да папярэдніх літар яшчэ чатыры К, Е, Р, А. Пры гэтым выявілася, што гук Т у імені Клеапатра быў намаляваны фігурай рукі (тот), а ў імені Пталямея – паўколам, і гэта паказвала на некаторую волю ў пазначэнні таго ж гуку рознымі графічна прадстаўляемымі прадметамі, назвы якіх пачынаюцца з дадзенага гуку, усё адно як рускую літару Д вы маглі б перадаць і сядзібай і дзьвярамі.




Мал. 157
Імёны Клеапатры і Пталамея ў іерагліфічнай транскрыпцыі.

З такімі першапачатковымі дадзенымі Шампаліён прадоўжыў свае дасьледаванні і вызначыў з дапамогай гэтага элементарнага метаду і астатнія знакі, звычайныя ў іерагліфічных надпісах. Калі ён памёр у 1832 годзе, ва ўзросьце 43 гадоў ад нараджэння, ягіпецкія іероглифы перасталі быць загадкай.

Зразумела, што пры такім ускосным спосабе выведвання ягіпецкага альфабэта ніяк немагчыма было паручыцца за дакладнасць вымаўлення ягіпецкіх слоў, не толькі ў сэнсе правільнасьці іхных націскаў, але ў шмат якіх выпадках і чыста фанетычных недакднасьцей. Я ўжо выказваўся, што для кожнай із пяці галосных, гукаў існуе дзьве тыповыя варыяцыі: адна з нізкім характэрызуючым яе метатонам і другая з больш высокім (цьвёрдае і мяккае вымаўленне).

Такім чынам у еўрапейска-азіяцкіх мовах існуюць:

**U** - **O** - **A** - **Э** (у складзе *шэ*) - **Ы** – рускія цьвёрдыя галосныя і

**Ü** - **Ö** - **Ä** - **E** . . . . . . . . . . . . . **I** – нямецкія мяккія галосныя, пры гэтым для мяккага **Ä** асабліва тыповым з’яўляецца ангельскае **a**.

Мы іх вымаўляем асабліва гулка, г.азн. з прыгукам галасавых струн, тон якіх мы можам то павялічваць, то зніжаць. Але мы можам вымавіць іх і шэптам, і тады ад іх застаюцца толькі іхныя асобныя метатоны. Такім чынам з кожнай пары атрымліваюцца дзьве, і мы можам іх размясьціць у гукавы квадрат, напрыклад, для першай пары:



і г.д.

А для кожнай із нетануемых, так называемых (хаця і няўдала) галосных вымаўляемых гукаў, існуюць іншыя гукавыя квадраты, у якія ўключаны варыяцыі: працяглая і выбуховая, гулкая і шэптавая, так што яны таксама размяшчаюцца ў адмысловыя гукавыя квадраты, як я іх асобна патлумачыў у трэццяй кнізе «Хрыста».

Сучасны іерагліфічны альфабэт змяшчае шэраг вымаўляемых элементаў, якія такім чынам размяшчаюцца на нашых асноўных гукавых квадратах:

## I. Галосныя вымаўляемыя элементы

а, е, і, у (о?), у(э?)

І акрамя таго, існуе іншае напісанне і відаць, асобнае вымаўленне, але невядома якой варыяцыі, дадатковыя **а**, **і**, **у**.

У абодвух выпадках вельмі цяжка вызначыць другарадныя адценні іхнага вымаўлення.

## II. Зычныя вымаўляемыя элементы.

А. Губны квадрат




Із яго бачна, што гулкія губныя галосныя **б** і **в** не маюць у іерогліфах асобнага напісання, як і ў жыдоўскім і ў грэцкім альфабэтах.

В. Дзясённа-зубны квадрат




І тут у іерогліфах для выбуховага гулкага ц (ζ)) няма асобнага напісання, гэтак жа як у нямецкім і рускім альфабэтах. Наша арфаграфія падзяляе яго на два гукі і піша: **дз**, што няправільна.

С. нёбна-дзеснавы квадрат.




І тут для шэптавага рускага **ч** і гулкага італьянска-ангельскага **g**, а таксама для **ж** не існуе асобных напісанняў, як і ў жыдоўскім альфабэце.

D. Нёбны квадрат.



І тут у іерогліфах для працяглых варыяцый **д** і **т** няма асобных напісанняў як і ў рускім альфабэце. У ангельскім жа альфабэце гэта гулкае і шэптавае **W**.

Е. Глоткава-гартанны квадрат.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **г — к** | | **вместо** | | **г — k** |
| **к — х** | | | | **h — х** |

Для гулкага **х** (г.азн. для нямецкага h) не існуе напісання.

Акрамя таго **л** і **р** часта блытаюцца адзін з адным, таму што **р** вымаўлялася картава, як у гулкай, так і ў шэптавай варыяцыях.

Мы бачым, што ў іерагліфічным пісанні, як і ў іншых старажытных пісаннях, амаль цалкам страчаны нёбна-дзясённы шыпячы квадрат, а для астатніх выяўляюцца ці недахопы ці лішкі. Недахопы збольшага маюць нагодай тое, што адна і тая ж літара мела два вымаўленні накшталт рускага **г**, якое чытаецца і як **g** і як **h**, а лішкавыя літары павінны былі мець невядомае нам вымаўленне і таму з упэўненасьцю можна сказаць, што аўтары ягіпецкіх запісаў не зразумелі б ні слова із нашага чытання іерогліфаў і толькі б рагаталі гледзячы на нас.

Асноўная ж частка гэтых маіх лінгвістычных высноваў тая, што іерагліфічнае і дэматычнае пісьмёны ўжываліся ў Ягіпце і падчас пашырэння там грэцкай літаратуры. Самі недахопы літар для пазначэння асноўных варыяцый зычных гукаў тут амаль тыя ж самыя, як у жыдоўскім і грэцкім альфабэтах, і гэта сведчыць, што яны развіваліся ў залежнасьці адзін з адным.

Дададзім яшчэ, што нават і клінапіс ужываўся пад час таго ж самага перыяду, што можна бачыць на прыкладзе запісу Дарыя Гістаспа, дзе з аднаго боку цвікападобна напісаны пярсідзкі, індыйскі і месапатамскі тэксты, а з другога боку – іерагліфічны надпіс. І там недахопы альфабэта ў дачыненні да гукавых квадратаў і да асноўных варыяцый галосных тыя ж самыя, як і тут, навочна сведчачы пра агульнасць паходжання ўсіх гэтых альфабэтаў.

Асобную цяжкасьць у чытанні ягіпецкіх помнікаў старажытнасьці ўяўляе схільнасць старажытна-копцкіх аўтараў да ўжывання скарочаных малюначных значкоў. Падобна таму як у сярэднявечных алхімічных і астралагічных лацінскіх кнігах Сонцы і золата маляваліся значком ☉, Месяц і срэбра значком ☽ і кожная планета і метал таксама мелі свой умоўны знак (☿, ♀, ♂, ♃, ♄) так і ў ягіпецкіх помніках, але яшчэ ў непараўнальна большай ступені, ужываліся падобныя ўмоўныя выявы прадметаў: замест слова цар – маляваўся яго скіпетр, замест слова ноч – пісалася *̲ і г.д. Хлопчык з пальцам пакладзеным у рот, пазначаў дзіцёнка; сокал, над якім было дададзена кола, пазначаў Сонца; пярэдняя палова ільва азначала пачатак, а яго задняя частка – заканчэнне, і г.д. і г.д.

У шмат якіх выпадках да фанетычнага напісання дадавалася тут жа, на прыканцы запісу слова пазначаючага нейкі рэчаісны прадмет, нешта падобнае на яго ілюстрацыю. Так, слова кракадзіл пісалася гукамі, а следам за ім дадавалася яго выява; пасьля слова забойства малявалася рука ўзброеная нажом; пасьля слова мужчына малявалася мужчынская, а пасьля слова жанчына – жаночая фігура.

Пры малой верагоднасьці таго, каб усе ягіпецкія аўтары ўжывалі розныя іерагліфічныя ўмоўныя значкі ў тым жа самым сэнсе, цяжка дапусьціць, што мы зараз заўсёды слушна прамаўляем іх у сваіх перакладах.

Мне цяжка тут канкураваць з тымі, хто прысьвяціў вывучэнню іерогліфаў усё сваё жыццё, але, магчыма, менавіта дзякуючы майму больш рознабаковаму погляду, мне зручней паказаць некаторыя кідаючыяся ў вочы супастаўленні.

Вось, напрыклад, Абідоская табліца, як яна напісана ў арыгінале (табл. XLII) і яе паўтарэнне рускімі літарамі, зробленае мной грунтуючыся на ўказаннях аднаго із нашых самых вядомых ягіптолагаў[25].

ТАБЛІЦА XLII

Абідоскі іерагліфічны пералік 76 продкаў Вялікага Рэ Месы і яго паралелізм з пералікам продкаў „Вялікага Цара Месіі“ ў Евангеллі Лукі (гл. III). Толькі ў 8-м і 10-м раздзелах іхныя найменні дадзены і грунтуючыся на Мацьвею (гл. I), таму што яны адны ўжываюцца ў сучасных гісторыкаў. (Пераклад іерагліфічных літар і значкоў на рускія зроблены мной збольшага грунтуючыся на H. Brugsch'у, збольшага В. В. Струвэ.)

| Іеро гліф (нумар) | Руская транскрыпцыя іiерогліфа | Згодна з Евангеллем Лукі (гл. III) | Дынастыя |
|---|---|---|---|
| 1 | М-Н-А (Мена=Стойкі, па грэцку Канстанцый) | Адам | |
| 2 | Т-Т-А (Тата=Дада=Давыд) | Сіф | п |
| 3 | А-Т-ТЬ (Атот) | Енас | е |
| 4 | А-Т-А (Ата) | Каінан | р |
| 5 | Хеспы = нівы=палеткі (размнажальнік) | Малелал | ш |
| 6 | Мр-Р-Бі (жаночы дзетародн. орган)–II (Мір-бі-пі) | Ірэд (Герой) | а |
| 7 | Патрыярх | Енах | я |
| 8 | К-Б-Х (Кебх) | Мафусал | |




| Іерогліф (нумар) | Руская транскрыпцыя іiерогліфа | Згодна з Евангеллем Лукі (гл. III) | Дынастыя |
|---|---|---|---|
| 9 | Б-Ца-У (Буцау) | Ламех | д |
| 10 | К+3Кау (3 мужчынскія дзетародныя органы) | Ной + 3 сыны | р |
| 11 | Авен-Ба (лампа) – Нотэр (сякера, бог) – Н | Сім | уг |
| 12 | Уц-Н-С (Уцнас) | Арпаксад | а |
| 13 | С-Н-Д-А (Сента) | Каінан | я |




[25] Згодна з указаннямі У. У Струвэ, каля 1920 года, і ды прабачыць ён мне, калі я зрабіў тут іншыя высновы, чым ён, грунтуючыся на ім жа.

| Іерогліф (нумар) | Руская транскрыпцыя іііерогліфа | Згодна з Евангеллем Лукі (гл. III) | Дынастыя |
|---|---|---|---|
| 14 | Два Ц-А+Шлем+АА (=Цацаы) | Сала (Савул) | 3-яя ды нас ты я |
| 15 | Нб-К (Небка) | Евер (юдэй) | |
| 16 | ... Цесар-Шах | Фалег | |
| 17 | Т-Т-А (Тота=Дода=Давыд) | Рагаў | |
| 18 | С-Ч-С (Сечэс) | Серух | |
| 19 | Рэ Нефер-К (Неф-Ерк-Рэ) | Нахор | |
| 20 | Сс. Нефет-У (Сенафеу) | Тора | |




| Іерогліф (нумар) | Руская транскрыпцыя іііерогліфа | Згодна з Евангеллем Лукі (гл. III) | Дынастыя |
|---|---|---|---|
| 21 | Х-Ф-У (Ху-Фу) – Хеопс | Аб-Рам | 4-ая ды на с тыя |
| 22 | Рэ Дэд (вежа) + Ф (Дэдэф Рэ) | Ісак | |
| 23 | Рэ Хе-Э-Ф (Хеф Рэ = Хефрэн) | Якаў | |
| 24 | Рэ М-Н-Ку (Менкаў Рэ) (Мікэрын) | Юда | |
| 25 | Шэпс (шануемы) + СС-К-Ф (Шэпс-Сескаф) | Парэс | |




| Іерогліф (нумар) | Руская транскрыпцыя іііерогліфа | Згодна з Евангеллем Лукі (гл. III) | Дынастыя |
|---|---|---|---|
| 26 | Ус-С-К-Ф (Ускаф) | Хец-Ром | 5-ая ды нас тыя |
| 27 | Рэ Шах-У (Шах-Цар = Шаху-Рэ) | Ром (А-Ром) | |
| 28 | К-К-А (Кака) | Амі-Надаў | |
| 29 | Рэ Нефер-Ф (Нефер-Рэ) | Нашон | |
| 30 | Рэ Н-Ус-С-Р (Рэ-Нусер) | Саламон | |
| 31 | Гор (Сокал) М-Н-Ку (Менкаў-Гор) | Баас | |
| 32 | Рэ Дэд (вежа) – К (Дэдк Рэ) | Авід | |
| 33 | У-Н-А-С (Унас) | Ясей | |




| Іерогліф (нумар) | Руская транскрыпцыя іііерогліфа | Згодна з Евангеллем Лукі (гл. III) | Дынастыя |
|---|---|---|---|
| 34 | Т-Т-А (Тота = Дода = Давыд) | Давыд | 6-ая Дына |
| 35 | Рэ Ус-С-К (Уск-Рэ) | Натан | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 36 | Рэ М-Р-АА (Меры Рэ) | Матафія | астыя |
| 37 | Рэ М-Р-Н (Мерэн Рэ) | Маінан | |
| 38 | Рэ Нэфер-К (Неф-ерк Рэ) | Малелай | |
| 39 | Рэ Мр-Н-Гор+Птушка+Сетка+Ф (=птушкалоў) | Елі-Акім | |




| Іерогліф (нумар) | Руская транскрыпцыя іерогліфа | Згодна з Евангеллем Лукі (гл. III) | Дынас тыя |
|---|---|---|---|
| 40 | Рэ Нутэр (сякера, бог) – К | Ян | 7-ая дынаст |
| 41 | Рэ М-Н-К (Менк Рэ) | Ёсіф | |
| 42 | Рэ Нефер-К (Неф-Ерк Рэ) | Раваам-Юдэй | 8-ая дынаст ыя |
| 43 | Рэ Нефер-К Неб-Б-АА (Нэва) | Аб-Іе-Сымон | |
| 44 | Рэ Дэд (вежа)-К-Мао+Чалавек з прашчой | Аса (Ісус)-Лявіт | |
| 45 | Рэ Нефер-К Х-Н-Д-У+Нага (Хадун) | Ясафат-Божы Дарунак | |
| 46 | Гор М-Р-Н (Мерэн-Сокал) | Ярам | |




| Іерогліф (нумар) | Руская транскрыпцыя іерогліфа | Згодна з Евангеллем Лукі (гл. III) | Дына стыя |
|---|---|---|---|
| 47 | С. Нефер-К (С. Неф-Ерк) | Озія-Яліэзер | 10-ая дынас тыя (дзевя тай няма) |
| 48 | Рэ Н-К (Нэк Рэ = Рамка) | Ятам-Ёсія | |
| 49 | Рэ Нефер-К Т-РР + Леў (Тэрэры) | Ахаз-Ір | |
| 50 | Гор Нефер-К (Неф-Ерк-Гор) | Езекія-Елмадам | |
| 51 | Рэ Нефер-К С-Н-Б ПАПА | Манасія-Касам | |
| 52 | С. Нефер-К Э-Н-Ну-У | Амон-Адый | |
| 53 | Рэ .... -Ку | Ёсія-Мелхій | |
| 54 | Рэ Нефер-Ку (Неф-Ерк Рэ) | Ісхонія-Нірый | |
| 55 | Гор Нефер-Ку (Неф-Ерк Сокал) | Салатыіл | |




| Іерогліф (нумар) | Руская транскрыпцыя іерогліфа | Згодна з Евангеллем Лукі (гл. III) | Дына стыя |
|---|---|---|---|
| 56 | Рэ Нефер-Ір (вока) – К | Зара-Бабель | 11-ая дынас тыя |
| 57 | Рэ Неб (чарка)-Хру (вясло) | Рысай | |
| 58 | Рэ С-Анк-К (Санх Рэ) | Ян | |




| Іерогліф (нумар) | Руская транскрыпцыя іiерогліфа | Згодна з Евангеллем Лукі (гл. III) | Дына стыя |
|---|---|---|---|
| 59 | Рэ С. Хатэп П-Т-Аб (Пата Аб) | Юда | 12-ая дынна стыя |
| 60 | Рэ Хепер-К (Хеп-Ерк Рэ) | Ёсіф | |
| 61 | Рэ Нуб-Ку (Нубку Рэ) | Сямей | |
| 62 | Рэ Хэ-Хепер | Матафія | |
| 63 | Рэ Хэ-Ку (Хеку Рэ) | Мат | |
| 64 | Рэ Н-Мао-Э-Т (Ранмаот) | Нагей | |
| 65 | Рэ МАо-Э Хру-У (Мао-Э-Хру Рэ) | Яслім | |




| Іерогліф (нумар) | Руская транскрыпцыя іiерогліфа | Згодна з Евангеллем Лукі (гл. III) | Дына стыя |
|---|---|---|---|
| 66 | Рэ Неб-Пх Т-Т (Небеф Тот) | Навум | 18-ая |
| 67 | Рэ Цесар-К (Цэс-Арк Рэ) | Амос | |
| 68 | Рэ О. Хепер-К (Аа Хеп-Ерк Рэ) | Матафія | 13-17 адсут нічаю ць |
| 69 | Рэ О. Хепер-Н (Аа Хеперн Рэ) | Ёсіф | |
| 70 | Рэ М. Хепер | Янай | |
| 71 | Рэ О Хепру (Аа Хепру Рэ) | Мелхій | |
| 72 | Рэ М-Хепру (Мен Хепру Рэ) | Лявіт | |
| 73 | Рэ Маот (валадарка праўды) – Неб | Божы Дарунак | |
| 74 | Рэ Цесар Хеперу, Рэ Сатэп-Н | Ілій (Бог) | |




| Іерогліф (нумар) | Руская транскрыпцыя іiерогліфа | Згодна з Евангеллем Лукі (гл. III) | Дына стыя |
|---|---|---|---|
| 75 | Рэ М-ПХ Т-Т (Тота Рэ=Цар Давыд) | Ёсіф | 19-ая |
| 76 | Рэ Маот (Валадарка праўды) – М | Панна Марыля | |




Кожнае асабістае найменне размешчана ў рамцы (картушы) і над ім намалявана Н-Сут (ягіпецкая расьліна) -Т-Н, г.азн. рэбусічна «за султана». На правым баку ідзе прадольны надпіс: «ды здзяйсняюцца ахвяры вашым патрыярхам сьвятым (ПТХ СКР, над №3 пад А-Т-ТЬ), валадарам сьвяцільні Шашыт, размешчанай пасярод храма «Царыцы М. Валадаркі Праўды» (у абадку над №7, пад Старэйшынай-падарожнікам) за сутэнаў Верхняга і Ніжняга царстваў (усходняга і заходняга, таму што Ўсход маляваўся зверху старажытных мап) і за султана шэфа, валадара абодвух царстваў «Царыцы М. Валадаркі Праўды» (у абадку над №17, пад Т Т-А), сына Сонца «Патрыярха, служкі сьвятога бога-слова» (АМР у абадку над №20, пад С. Нефер-у): 1000 хлябоў, 1000 кубкаў піва, 1000 быкоў, 1000 гусакоў, 1000 курэнняў,1000 мазяў, 1000 адзенняў, 1000 палотнаў, 1000 жбаноў віна, 1000 боскіх ахвяр, якія дае «Царыца Валадарка Праўды» (у абадку над №№ 37-38, над Рэ Неферкам)

Вось, напрыклад, пад № 16 значыцца Цэсар-Ша (ці з гартанным акцэнтам: цезарь-шах)... Але ж гэта відавочнае злучэнне слова **цэзар** і яго ўсходняга аналага **шах**. Вось пад № 33 стаіць Унас, але ж гэта лацінскае слова Unus, азначаючае адзіны. Вось пад № 1 стаіць напісанне МНА, якое грэка-лацінскія аўтары вымаўляюць мэнэс, але ж гэта грэцкае слова **монос**, тое ж самае, што і лацінскае Unus і азначаючае таксама – адзіны; гэта першапачатковы корань слова **манарх** – адзінадзяржавец. Вось, амаль ва ўсе назвы ўключана слова Рэ, сімвалізуемае кружком (Сонцам), але яно і ягіптолагамі лічыцца тут не літарай, а тытулам-знакам адзінадзяржаўца-тэакрата, азараючага сваім сьвятлом увесь сьвет; гэта італьянскае Re – цар, як ён там завецца і зараз, і толькі ў класікаў шляхам прыдыхання гэтае слова перайшло спачатку ў Reh, потым у Regus і нарэшце ў Rex.

Вось пад №№ 22, 32 і 44 стаіць Рэ Дэд. Але Дэд – гэта жыдоўскае вымаўленне слова Давыд (Дауд), азначаючае ўмілаваны, і тут жа пад № 44 намаляваны чалавек з прашчой у якасьці нагадвання пра тое, як Давыд забіў каменем із прашчы волата Галіяфа.

Вось некалькі разоў намаляваны Жук, якога нашы ягіптолагі вымаўляюць Хепер (№№ 60, 62, 68, 69, 70), але ж гэта біблейскае слова Heber, г.азн. перасяленец. Вось пераіначванне гэтага слова ў Хепру (№№ 71, 72), але ж гэта таксама біблейскае словы hebri – юдэй. Вось пад №74 значыцца Рэ Цэсар Хеперу, але ж гэта азначае Rex Caesar Heber – цар-цэзар-перасяленец. Вось пад №13 пазначана Сента, але ж гэта лацінскае Sanctus – пасьвечаны сьвяты, а пад №58 значыцца Санх-Рэ – Sanctus Rex.

Вось пад №№ 2, 17, 34, значыцца Тота-Рэ, але Т у іерогліфах мала адрозніваецца ад Д і блытаецца з ім, так што Тота і Дода (Давыд) адно і тое ж, і азначае – умілаваны. Вось, пад №59 значыцца Рэ С. Хотэп Пата-Аб, але Хотэп на іерагліфіцы азначае – служка, Пата – патэр, і Аб – бацька, і ўсё выказванне азначае: цар св. служка бацькі бацькаў. Дзякуючы гэтаму мы можам здагадацца, што і

вельмі часта сустракаючыяся ў гэтым радаводзе асобныя літары С, К (ці Ку) азначаюць Sanctus і Quirinus, што асобнае М азначае – Манарх, і г.д. як гэта было вельмі пашырана ў латынянаў, ды і у рускіх пры тытулах: князь (Кн;) і граф (Гр.).

Я ўжо выказваўся, што Хепер азначае Heber – перасяленец, а таму і пад № 62 Рэ хе - Хепер азначае цар перасяленец, і прыстаўка **хе** – з'яўляецца толькі вызначаючай часткай грэцкага **ho** (Ό) і жыдоўскае **he**, накшталт як Басілеўс хо-Мегас – мы перакладаем Васіль Вялікі.

Пад №№ 66, 57, 15 слова Неб, ці згодна з іншым вымаўленнем Неў, з'яўляецца жыдоўскім словам азначаючым – прарок. Да таго ж кораня можна дапасаваць і шматлікія Неф-Ерк-Рэ, г.азн. прарокаў, архірэяў, напісаных ребусічнымі выявамі: Нефер – скіпетр, літара К і Сонца – Рэ.

Слова Мерэн Рэ (№ 37) азначае Marinus Rex – марскі цар, слова Нэф-Ерк-Рэ Папа азначае прарок-архірэй-папас (бацька). А сустракаючыяся і ў іншых царскіх спісах выразы нападобе Біу-Рэс (Pius rex), Хе-Рес (ho Rex), Усур (жыдоўскае АШР – правадыр) і г.д. і г.д., я тут не буду пералічваць, каб не змарыць чытача.

Іерагліфічны альфабэт Ягіпта лічыўся папярэднікам нашага сучаснага гукавога, які быццам бы выпрацаваўся шляхам скарачэння яе знакаў. Аднак, бачачы гэтую складаную і вельмі распрацаваную сістэму іерогліфаў на ягіпецкіх дзяржаўных будынках, цяжка пагадзіцца з гэтым.

Вядома, пачаткам альфабэтаў было самае простае мнеманічнае пісанне. Найменні бачымых прадметаў, якімі з'яўляюцца чалавек, дрэва, вока, вуха, так і пазначаліся іхнымі выявамі. Найменні прадметаў нябачымых і назвы дзеянняў уяўляліся, дзе магчыма, сімвалічна, накшталт таго, як слова «падман» у іерогліфах ілюстравалася нагой, патрапіўшай у пастку. Але пазьней самаадвольна з'явілася і сістэма складовага пісання, дзе ў шэрагу добра малюемых прадметаў браўся толькі першы склад, як калі б у рускім альфабэце для гука "У" мы намалявалі выяву вуха, для складу "НО" – нос, для склада РУ – рука, для РО – рот, а потым, натуральна, праз некаторы час заўважылі б, што як у РО так і ў РУ фігуруе гук Р, які можна пісаць асобна, і два гукі "О" і "У", для якіх таксама магчыма прыстасаваць асобныя прадметныя пазначэнні. І вось, тая акалічнасць, што іерагліфічны альфабэт ягіпецкіх помнікаў уяўляе ўжо не склады, а асобныя літары і што ім пісалі ў Ягіпце адначасова са звычайным грэцкім, ўжываўшымся амаль без нейкіх змяненняў і ў сучаснай грэцкай мове, паказвае, што ў тым выглядзе, у якім мы яго маем, гэта быў не першапачатковы альфабэт, а хутчэй усяго нешта накшталт насьценнай папулярызацыі ўжо існаваўшага на папірусе дэматычнага пісання, інакш цяжка ўявіць, навошта да літарнага спосабу напісання прадмета так часта дадавалася на выстаўляных для публікі надпісах і яго выява. З такога боку гледжання дэматычнае пісанне, у процілегласць значэнню дадзенага яму наймення, было хуткапісаннем тагачасных грамацеяў-спецыялістаў, а выстаўленая для публікі на сьценах храмаў і іншых публічных будынкаў іерагліфічная пісьмовасць прызначалася якраз для публікі, г.азн. была сапраўдным дэматычным пісаннем, з дапамогай якога непісьменнае насельніцтва лёгка вучылася чытанню па складах[26]. Гэта была – процілегласць месапатамскаму клінапісу, які, згодна са сваім характарам,

[26] Гэта тое ж самае, як і зараз робіцца пры навучанні нашых дзяцей: размяшчэнне малюнкаў над літарамі. Толькі для ягіпецкіх дзяцей засвоіць сутнасць справы было нашмат лягчэй: нашы сучасныя літары не падобны на выявы рэчаў, найменні якіх пачынаюцца дадзенымі гукамі, а ў ягіпцянаў гэта існавала. Пры выглядзе ў надпісу вуха ад іх патрабавалася толькі вымаўляць "В", пры выглядзе носа вымаўляць – "Н", і г.д. А потым ужо пачыналася навучанне спалучэнням, і ўсё было гатова.

наадварот, павінен лічыцца ўжо больш позьнім адмысловым шыфрам мясцовых навукоўцаў, імкнуўшыхся схаваць свае пісанні ад тых, хто ўжо ведаў звычайны гукавы альфабэт.

Такім чынам, першапачатковым альфабэтам, із якога былі распрацаваны сучасныя, была не іерогліфы і клінапіс, а нейкі іншы, сляды якога яшчэ не знойдзены і, магчыма, згублены назаўсёды. Тут мы маем тое ж, што ў эвалюцыі жывёльнага сьвету. Самыя старажытныя з усіх чыста водных напластаванняў зямнога шара – сілурыйскія пласты, утрымліваюць у сабе ўжо такіх складаных жывёл, як рыбы, а на тое, што было раней, мы маем толькі некалькі ўрыўкавых і пры гэтым яшчэ загадкавых указанняў. Усе вядомыя нам папярэднічаўшыя напластаванні ўжо так моцна метамарфізаваліся, што страцілі амаль усе жывёльныя і расьлінныя парэшткі.

Такое становішча (як у біялогіі, так і ў ягіпталогіі), вядома, з'яўляецца сумным для нашай дапытлівасьці, але мы павінны з ім замірыцца, спрабуючы церпяліва і асэнсавана шукаць невядомае, і не рабіць як нецярпялівыя дзеці, прабуючыя папоўніць невядомае ўласнай самаўпэўненай фантазіяй, абапіраючайся на выпадкова пачутыя імі і нічым не праверыныя фантастычныя апавяданні іншых дзяцей.

У геалогіі – як я выказваўся пры выбары першакрыніц біяграфіі Магамета – за падобную дзіцячую нецярплівасць ўжо паплаціўся адзін карпатлівы нямецкі навуковец, прафесар XVIII стагоддзя, якому яго студэнты паказалі пячору, напоўненую вылепленымі імі самімі глінянымі фігуркамі розных невядомых дапатопных жывёл, і ён старанна сабраўшы, вывучыўшы і намаляваўшы іх, напісаў глыбакадумны з выгляду фаліянт. А пасьля надрукавання і пашырэння стаў вядомы жарт, і ён выдаткаваў усю сваю маёмасць, каб скупіць у выдаўцоў і знішчыць марную працу некалькіх гадоў свайго жыцця. Аднак і гэта яму не атрымалася зрабіць і яго кніга існуе ў некалькіх еўрапейскіх музеях, як навуковы кур'ёз[27], ды і я размясьціў тут тры малюнкі із яе.

Амаль у такой жа небяспецы знаходзіцца, як мне здаецца, і сучасная «Гісторыя трыццаці адной дынастыі ягіпецкіх фараонаў» да Аляксандра Вялікага, уяўляючая сабой нешта накшталт вялізнай ягіпецкай піраміды, пастаўленай на сваю вяршыню, пад якой ляжыць мумія, ды і то падробленая, у выглядзе «фіўскага храмавага сакратара» Манефо, быццам бы напісаўшага некалі (і чамусьці на грэцкай мове, хаця яго імя па-ягіпецку азначае Шануемы Богам, па-грэцку – Феафіл) астралагічныя вершы Apotelesmata і храналогію старажытнага Ягіпта ад спрадвечных часоў да III стагоддзя перад пачаткам нашай эры, калі быццам бы жыў ён сам.

Я, вядома, не маю намеру параўноўваць Манефонскія спісы ягіпецкіх султанаў трыццаці адной дынастыі з толькі што згаданай калекцыяй закамянеласьцей, якою нямецкія студэнты містыфікавалі свайго паважаемага прафесара. Твор Манефо, – кажуць нам, – «быў згублены хутка пасьля яго напісання», таму што ўпершыню пра яго згадвае (акрамя Плутарха) толькі легендарны ж рымскі хрысьціянскі гісторык Юлій Афрыканскі, які лічыцца заснавальнікам хрысьціянскай хранаграфіі. Але апакрыфічнасць абодвух мы ўжо дастаткова паказалі астранамічнымі вылічэннямі часу слупавання «Езуса» 21 сакавіка 368 года і часу стварэння Апакаліпсіса – 30 верасня 395 года. А яго лічаць

[27] «Весткі прыродазнаўчых навук» 1858 г.

жыўшым толькі ў III стагоддзі «пасьля Нараджэнння Хрыста», што дапасуе час жыцця Афрыкана да VII стагоддзя нашай эры.

«Дынастычныя спісы» гэтага Юлія Афрыканскага грунтуючыяся на Багашануемым-Манефоне ўпершыню прыводзяцца ў сярэднявечнага грэцкага пісьменніка Рыгора Сінкеласа, і такім чынам увесь падмурак старажытнай храналогіі Ягіпта заснаваны, па-сутнасьці, на кнізе, напісанай не раней VIII стагоддзя нашай эры, калі (ды і то «згодна з паданнямі») жыў Сінкелас.

Яшчэ Шлосэр, памёршы ў 1861 годзе, лічыў паведамленні пра Манефо і яго спісы не годнымі ніякай увагі. Але на працягу XIX стагоддзя было знойдзена некалькі дакументаў і шмат надпісаў на грамадзкіх будынках Ягіпта, якія заахвоцілі Бругша, а за ім і іншых ягіптолагаў, заснаваць на іх цэлую сістэму старажытнай храналогіі, у якой кожнаму паслядоўнаму ягіпецкаму султану надаецца $33^1/_3$ гады валадарання, як сярэдняя лічба, каб на стагоддзе, насуперак усім законам прыроды, прыпадала тры цары: выллічэнні нагадваючы нешта апакаліптычнае. Вось, напрыклад, на стр. 765 Бругша «спіс цароў і часу іхнага валадарання» (табл. XLIII), складзенаму ім грунтуючыся на яго ж уласных сведчаннях на падставе **Абідоскай таблiцы** ягіпецкіх цароў», пры гэтым я павінен заўважыць, што тэрміналогію сваёй табліцы ён дае цалкам не згодна з Абідоскім спісам, у якім, напрыклад, няма ніякіх Усур-Тасеновы-Аменемхатаў (59-75), а цалкам іншыя імёны.

Што гэта такое, чытач? Храналогія ці жарт над ёю?

«Няма нічога новага пад месяцам», – кажа старажытная прыказка, і яна цалкам апраўдваецца на гэтым адкрыцці Бругша. Астранамічнымі метадамі ўсталёўваў існуючую зараз старажытную храналогію Скалігер у XVI стагоддзі нашай эры (1540-1609), а вось статыстычныя метады сярэдніх лібаў да ягіпецкай храналогіі дапасаваў Бругш. Але бяда ў тым, што Скалігер прыстасоўваў астраномію да ўжо існаваўшых і лічыўшыхся непахіснымі царкоўных уяўленняў, а Бругш да загадзя запланаванай мэты – паказаць глыбокую старажытнасьць шануемых ім ягіпецкіх помнікаў Ягіпта і... у выніку атрымалася тое, што, чытаючы яго «храналогію», цалкам не разумееш, як дарослы чалавек мог сур'ёзна прапанаваць такую згодна з яго славамі «статыстычную схему», як на табліцы XLIII.

ТАБЛІЦА XLIII.

Фантастычныя вехі гісторыі Архейскага Ягіпта, складзеныя Бругшам.

| А. Старажытна-Архейскае царства. | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I дынастыя – (Тыніская). | | | | 28. | Кека | 3 500 | » » » |
| 1. | Мена | 4 400 | да н. х. | 29. | Нофарфра | 3 465 | » » » |
| 2. | Тота | 4 366 | » » » | 30. | Ранусер | 3 433 | » » » |
| 3. | Атот | 4 333 | » » » | 31. | Манкаў-хор | 3 400 | » » » |
| 4. | Ата | 4 300 | » » » | 32. | Таткара | 3 366 | » » » |
| 5. | Санты | 4 260 | » » » | 33. | Унас | 3 333 | » » » |
| 6. | Мірбапен | 4 233 | » » » | VI дынастыя (Мемфіская) | | | |
| 7. | Семепсес | 4 200 | » » » | 34. | Ускара | 3 300 | да н. х. |
| 8. | Кебе | 4 106 | » » » | 35. | Тэпт | 3 266 | » » » |
| II дынастыя (Тыніская) | | | | 36. | Мерыра Пэпі | 3 233 | » » » |
| 9. | Буцаў | 4 133 | да Н. Х. | 37. | Мерэнра | 3 200 | » » » |
| 10. | Какаў | 4 100 | » » » | 38. | Наферкара | 3 166 | » » » |
| 11. | Баін-Нутэр | 4 066 | » » » | 39. | Мерэнра Цафемса | 3 133 | » » » |
| 12. | Утыас | 4 033 | » » » | VII-XI дынастыі (невядомага паходжання) | | | |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 13. | Санта | 4 000 | » » » | | | | |
| III дынастыі (Мемфіская) | | | | 40. | Нутэркара | 3 100 | да н. х. |
| 14. | Цацаі | 3 966 | да Н. Х. | 41. | Менкара | 3 066 | » » » |
| 15. | Небка | 3 933 | » » » | 42. | Наферкара | 3 033 | » » » |
| 16. | Тосер | 3 900 | » » » | 43. | Наферкара Нэбі | 3 000 | » » » |
| 17. | Тота | 3 866 | » » » | 44. | Таткара Шэмі | 2 966 | » » » |
| 18. | Сэтэс | 3 833 | » » » | 45. | Наферкара Ханту | 2 933 | » » » |
| 19. | Наферкара | 3 800 | » » » | 46. | Марэнхор | 2 900 | » » » |
| 20. | Сенаферу | 3 766 | » » » | 47. | Санаферка | 2 866 | » » » |
| IV дынастыя (Мемфіская) | | | | 48. | Ранка | 2 833 | » » » |
| 21. | Хуфу | 3 733 | да Н. Х. | 49. | Наферкара Тэрэль | 2 800 | » » » |
| 22. | Рататф | 3 700 | » » » | 50. | Наферкахор | 2 766 | » » » |
| 23. | Хафра | 3 666 | » » » | 51. | Ноферкара Непісенэб | 2 733 | » » » |
| 24. | Менкара | 3 633 | » » » | 52. | Наферкара Ану | 2 700 | » » » |
| 25. | Шэнсеска | 3 600 | » » » | 53. | Наферкара-каура | 2 666 | » » » |
| V дынастыя (Елефантынская) (Асуанскае паўднёвае царства) | | | | 54. | Наферкаура | 2 633 | » » » |
| | | | | 55. | Наферкахор | 2 600 | » » » |
| 26. | Ускаф | 3 566 | да Н. Х. | 56. | Нафер-ар-кара | 2 566 | » » » |
| 27. | Сахара | 3 533 | » » » | 57. | Небхера Ментыхатэп | 2 533 | » » » |
| | | | | 58. | Санкара | 2 500 | » » » |
| Б. Сярэдне-архейскае царства. | | | | | | | |
| XII дынастыя- (Фіўская). | | | | 62. | Усуртатэн II | 2 366 | » » » |
| 59. | Аменемхат I | 2 466 | да Н. Х. | 63. | Усуртасен III | 2 333 | » » » |
| 60. | Усуртасен I | 2 433 | » » » | 64. | Аменемхат III | 2 300 | » » » |
| 61. | Аменэмхат II | 2 400 | » » » | 65. | Аменемхат IV | 2 266 | » » » |
| Прабел, абдымаючы больш 500 гадоў, на працягу якога ў Ягіпце былі цары-пастухі. (Ад XIII да XVII дынастыі ўключна) пяць царскіх радоў 2233-1733. | | | | | | | |
| В. Нова-архейскае царства. | | | | | | | |
| XIII дынастыя-(Фіўская). | | | | | | | |
| 59. | Аамес | 1 700 | да Н. Х. | 71. | Аменхатэп II | 1 566 | » » » |
| 60. | Аменхатэп I | 1 666 | » » » | 72. | Тутмес IV | 1 533 | » » » |
| 61. | Тутмес I | 1 633 | » » » | 73. | Аменхатэп III | 1 500 | » » » |
| 62. | Тутмес II | {1 600 | » » » | Аменхатэп IV- адзінабожжа | | | |
| 63. | Тутмес III | 1 600 | » » » | 74. | Хор-ем-хіб | 1 466 | » » » |
| (адно пакаленне ерэтычных цароў) 1433 да Н. Х. | | | | | | | |
| XIX дынастыя-(Фіўская). | | | | | | | |
| 75. | Рамесу I | 1 400 | да Н. Х. | | | | |
| 76. | Мінэпта I. Сэці I | 1 366 | » » » | | | | |
| 77. | Міамун I, Рамесу II | 1 333 | » » » | | | | |

Ён выказваецца: «будзем лічыць, што кожны ягіпецкі сутэн валадарыў у сярэднім на працягу $33^{1}/_{3}$ гадоў і тады, пералічыўшы ўвесь іхны шэраг прыводзімы як у грэцкіх так і іерагліфічных дакументах, мы атрымаем, што першы із гэтых цароў – Мена – жыў паміж мінус 4 400 і мінус 3 967 гадамі да пачатку нашай эры».

І вось, гэтая яго схема да гэтага часу трымаецца ў ягіпталогіі, хаця больш наіўнага за яе нічога немагчыма сабе ўявіць!

Нядарэчна разбіраць яе ў сур'ёзным творы, але дзякуючы таму што яна прынята і зараз, то і я зраблю выгляд, што прызнаю яе годнай абмеркавання і пакажу, да якіх абсурдаў яна прыводзіць.

Вядома, калі б сярэдні узрост ягіпецкіх султанаў да нараджэння імі першынца спадкаемцы пасада быў роўным $33^{1}/_{3}$ гадам, то і валадарылі б іхныя спадкаемцы ў сярэднім таксама па $33^{1}/_{3}$ гады, усё адно, паміралі б бацькі ў год

нараджэння сына-першынца, ці перажывалі гэты крытычныя момант на нейкую, але ў сярэднім на некаторую вызначаную колькасць гадоў.

Інакш атрымалася б, што валадарыўшых асобаў за дадзены перыяд часу існавала больш ці менш, чым колькасць спадкаемцаў, што, вядома, недарэчна.

Але як жа мы можам лічыць, што старажытныя прынцы, пры поўнай магчымасьці адружыцца ў самым раннім узросьце, нават і ў 16 гадоў, асабліва пры існаванні шматжонства, вялі манаскае жыццё ў сярэднім да 30 гадоў (даючы ім нават палёгку роўную $3^1/_3$ гадам для нараджэння першынца ад некалькіх іхных жонак). Але гэта ж неверагодна, а таму і «статыстычную», г.азн. фантастычную храналогію Бругша патрэбна скараціць амаль удвая.

Аднак і такое скарачэнне будзе вельмі малым, таму што яно заснавана на доўгай бесперапыннасьці дынастый і на выснове, што парадак успадкоўвання быў легалізаваны з самых старажытных часоў у такім выглядзе, як у сучасных еўрапейскіх манархіях, ад бацькі да сына. Але мы ведаем, што ў да-хрысьціянскіх краінах, калі цар не лічыўся «асьвечаным асобным царкоўным маслам», а таму і нараджаў такіх жа неасьвечаных дзяцей як і яго астатнія сваякі, парадак успадкавання пасада пераходзіў не да сына памёршага манарха, а да самага старэйшага ў родзе яго бацькі, г.азн. да брата, і пакуль усе браты не паміралі, пасад не пераходзіў да наступнага пакалення. А гэта зноў скарачае сярэдні час старажытных валадаранняў больш чым удвая, таму што цяжка дапусьціць, каб у тагачасных шматжонных цароў у сярэднім было толькі два сыны.

Што ж застаецца ад гэтага «дапасавання Бругшам метаду сярэдніх лічбаў» да ўсталявання старажытнай храналогіі Ягіпта? Адзін меланхалічны настрой, і больш нічога! А тым часам у публіку пушчана чутка, быццам бы гэтая храналогія падмацавана астраноміяй! Магу запэўніць чытача, што нічога падобнага няма, і быць не можа.

Ды і метад Бругша не быў навіной з даўняй пары. Вось гэтаму навочны прыклад. Пагледзіце ў Біблію ў кнігу «Цароў», і вы там пабачыце:

«*Савул валадарыў 40 гадоў».*

*«Спадкаемца Савула Давыд – 40 гадоў».*

*« Спадкаемца Давыда Саламон – 40 гадоў*».

Замест бругшавых $33^1/_3$ гадоў, узятых выключна для таго, каб атрымалася тры валадаранні за стагоддзе, тут узяты роўна 40 гадоў, а схема відавочна тая ж самая. Метад Бругша толькі патлумачыў нам тут метад старажытнага аўтара. Аўтар не ведаў, як доўга валадарылі ўжо легендарызаваныя людзі, і таму прызначыў ім такую колькасць гадоў, якая згодна з яго наіўным разуменнем найбольш дапасавала такім значным асобам. Схематычнасць падобнага годаззлічэння такая відавочная, што пра яе не варта і пашырацца далей.

А вось і яшчэ больш складаны выпадак.

Для таго каб прывесьці час стварэння богам першага чалавека Адама ў некаторае пагадненне з ужо ўсталяваўшыміся пад час сярэдневечча ўяўленнямі пра больш чым тысячагадовае існаванне сьвету, давялося прызначыць для біблейскіх патрыярхаў, аж да Абрама, больш за стагадовыя перыяды жыцця. Так, Адаму прызначылі 930 гадоў, Мафусаілу 969, Ірэду 962 і гэтак далей, і нашы прабацькі верылі гэтаму ад усёй чысьціні сваіх душ. Зараз такім лічбам вераць толькі дзеці, а сталыя (нават і тэолагі) спрабуюць прывесьці іх у нейкае пагадненне са звычайнай працягласьцю чалавечага жыцця.

Самае ўдалае тлумачэнне гэтых лічбаў я нядаўна прачытаў у адным із ангельскіх тэалагічных часопісаў. Пад найменнем гадоў, сцвярджае аўтар, патрэбна разумець месяцы, таму што ў той час яшчэ не была вядомай дакладная працягласць сонечнага года і таму час лічылі сінадычнымі месяцовымі месяцамі роўнымі $29^{1}/_{2}$ сутак.

Сапраўды, падзяліўшы дадзеную ў Бібліі колькасць гадоў на 12,3 месяцовых месяцы, змяшчаемыя ў юліянскім годзе, мы атрымліваем для продкаў Абрама (г.азн. бацькі Рыма) лічбы, паказаныя ў першым слупку прыкладзенай табліцы. Гэта лічбы сапраўды магчымыя, таму што ўсе гады жыцця тут – чалавечыя. Але дрэннай у іх выяўляецца толькі адна акалічнасць: у гэтых жа біблейскіх таблічках, акрамя агульнай лічбы гадоў жыцця, пазначана і колькасць гадоў жыцця кожнага патрыярха да нараджэння свайго першага сына і колькасць пасьля яго. І вось, у жыдоўскім тэксце вы бачыце, што пры такім пераліку гадоў на месяцы большасць старажытных патрыярхаў 3-га перыяду нарадзіла дзяцей ужо на 3-м годзе свайго жыцця, моцна набліжаючыся гэтым, як і патрэбна было чакаць згодна з тэорыяй Дарвіна, да малпаў. Ды і ўсе іншыя патрыярхі, акрамя Ноя (адразу нарадзіўшага тройню на 41 годзе свайго жыцця), станавіліся бацькамі выключна на прамежку ад 2 да 15 гадоў ад свайго ўласнага нараджэння, г.азн. зноў не па-людзку.

Ці не з'яўляецца гэтая акалічнасць, сапраўды, падцверджаннем паходжання чалавека ад малпы?

Грэцкія перакладчыкі Бібліі (калі толькі гэтае злічэнне гадоў не запазычана ў жыдоўскім тэксце із грэцкага), відаць, прытрымліваліся іншай думкі, таму што, дадаўшы роўна па 100 адзінак амаль да кожнай із жыдоўскіх лічбаў, дасягнулі таго, што Адам нарадзіў у іх трэццяга сына Сіфа ўжо на 21 годзе свайго жыцця, а астатнія дапатопныя патрыярхі каля 13-15-гадовага свайго ўзросту (табл. XLIV апошні слупок). А пасьля патопу нават і згодна з грэцкімі паведамленнямі дзеці пачалі з'яўляцца ў сваіх бацькаў каля 11-гадовага ўзросту і толькі апошнія ў нашай табліцы, – Нахер і Тора – нарадзілі сваіх першынцаў, нават грунтуючыся і на грэцкіх паведамленнях, на 6-м і на 5-м годзе ад свайго нараджэння.

ТАБЛІЦА XLIV

| | Поўная працягласць жыцця | Час да нараджэння першынца | |
|---|---|---|---|
| | | Згодна з жыдоўскім тэкстам | Згодна з грэцкім тэкстам |
| 1-ы перыяд | | | |
| Адам | 75 гадоў | 10 | 21 |
| Сіф | 74 » | 8 | 17 |
| Енас | 73 » | 7 | 15 |
| Каінан | 74 » | 6 | 14 |
| Малелал | 73 » | 6 | 13 |
| Ірад | 78 » | 13 | 13 |
| Енах | 30 » | 5 | 13 |
| 2-і перыяд | | | |
| Матусал | 81 » | 15 | 15 |
| Ламех | 63 » | 15 | 14 |
| Ной (Нехас) | 77 » | 41 | 41 |
| Сім (Кінан II) | 49 » | 8 | 8 |
| Арп-Кішд | 45 » | 3 | 11 |
| 3-і перыяд | | | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Сала | 38 » | 3 | 11 |
| Юдэй | 11 » | 3 | 11 |
| Фалес | 28 » | 3 | 11 |
| Рэ | 28 » | 3 | 11 |
| Серус | 27 » | 3 | 11 |
| Нахор | 17 » | 2 | 6 |
| Тора | 22 » | 5 | 5 |

Мы бачым, што ўсе гэтыя лічбы складзены яшчэ больш адвольна, чым у храналогіі Бругша, даўшага кожнаму ягіпецкаму цару па $33^1/_3$ гады да нараджэння першага сына. У яго, прынамсі, адразу заўважаецца метад, а тут ён яшчэ замаскіраваны некаторымі варыяцыямі для кожнага індывіда. Але канчатковы вынік атрымліваецца той жа самы: калі біблейскае слова ШНЕ (שנה) лічыць за назву звычайнага сонечнага года, то атрымліваецца, быццам бы ўсе старажытныя патрыярхі дасягалі здольнасьці нараджаць дзяцей толькі пасьля стагадовага ўзросту (чаго не бывае нават у кітоў), а Ной дасягнуў гэтага толькі на 500-м годзе свайго жыцця, застаючыся да таго часу фізічна няспелым. Калі ж лічыць ШНЕ за месяцы згодна з месяцовым злічэннем, то здольнасць нараджаць дзяцей наступала ў біблейскіх патрыярхаў так жа рана, як і ў малпаў.

Не будзем жа марнаваць свой час на разбіранне падобных храналогій і паспрабуем усталяваць сваю, грунтуючыся на асноўных пастулатах ўсіх ранейшых раздзелаў маёй працы: *спачатку вызначыць час помнікаў старажытнасьці, змяшчаючых дастатковыя ўказанні, не абмяжоўваючы сябе тымі межамі, якія нам дае так званая гістарычная традыцыя, і знойдзеныя для іх гады паставіць у якасьці вех для новай храналогіі, размеркаваўшы паміж імі і ўсе нашы прамежкавыя паведамленні пра дадзеную эпоху і дадзеную краіну*.

Але так як я ужо пачаў гэтую главу з выкладання ягіпецкага альфабэту і асноўных дакументаў, то спачатку закончу іх апісанне.

Помнік старажытнасьці, вядомы пад найменнем Абідоская табліца, які знаходзіцца зараз у Брытанскім музеі, быў знойдзены напачатку XIX стагоддзя на левым беразе Нілу (26°10" п. ш.), каля мястэчка Арабат-Эль-Мадфуне французкім генеральным консулам Мільё. Тут быццам бы сам Рамесу Міамун, г.азн. Вялікі цар-Месія, намаляваў доўгі надпіс, у якім, як у сучасным праваслаўным памінальніку пералічыў 76 сваіх памёршых продкаў.

Аднак пры параўнанні іхных імёнаў са спісам Манефо, выяўляецца вялікая блытаніна і гукавыя непагадненні. Ад цароў 18 Манефонавай дынастыі Абідоскі спіс раптам пераходзіць да цароў 12-й дынастыі Манефо і г.д...

Другі дакумент, на якім грунтуецца сучасная ягіпецкая храналогія, мае назву Турынскі царскі папірус; яму надаецца яшчэ большае значэнне, чым гэтым двум.

Ён быў знойдзены французкім генеральным консулам Дравеці ў Ягіпце і прададзены за вялікія грошы Турынскаму музею. На яго пачатку пералічаны дзьве асабліва цікавыя дынастыі ягіпецкіх цароў, дынастыі богаў. Із іх першая ўяўляе сабой мемфіскіх богаў, пачынаючы з бога Пта (Фатас – сьвятло ці Патар – бацька). Другая божая дынастыя ўяўляе радаводны спіс Фіўскіх богаў, пачынаючы з Амона (бога нябёс). Трэцяя дынастыя і трэцці радаводны спіс цароў-жывёл пачынаецца з Анубіса і ўтрымлівае ў сабе птушку Ібіса, быка Апіса і іншых чатырохногіх, нагадваючы сучаснаму прыродазнаўцу якраз тую калекцыю дапатопных гліняных фігурак, якую прынесьлі нямецкія студэнты свайму навукоўцу-прафесару для навуковага дасьледавання.

Усё гэта, вядома, мае вялікую каштоўнасць, як узор старажытнага сьветапогляду, але калі такому пачатку старажытна-ягіпецкай гісторыі немагчыма надаваць нейкай храналагічнай каштоўнасці, то чаму ж надаваць яе і працягу гэтага спіса, хаця б большасць імёнаў і былі ў ім сугучнымі з існуючымі ў Сінкеласа? Гэта сведчыла б толькі пра тое, што абодва спісы ўзяты з некаторымі зменамі з таго ж самага першапачатковага фантазёрства.

Як працяг спісу богаў і звяроў пералічаны адна за адной цэлых пятнаццаць нібы чалавечых дынастый. У іх пазначаны, як і ў радаводзе «дапатопных патрыярхаў біблейскай кнігі «Быццё», гады валадарання кожнага і нават колькасць гадоў аладарання кожнай дынастыі, хаця б із гэтай колькасьці заўсёды забываецца адняць ад агульнай сумы гады супольнага валадарання спадчынніка са спадкаемцай, што здаралася б у Ягіпце якраз, мяркуючы па неадпаведнасьці сумы з яе складнікамі, вельмі часта.

Чацьвёртым асноўным дакументам старажытна-ягіпецкай гісторыі служыць знаходзімая зараз у Булакскім ягіпецкім музеі (№ 916), «Табліца Сакара» (паблізу Каіра). Яе знайшоў Манэці на вялікіх мемфіскіх могілках, напалову засыпанай пяском пустыні, цягнучайся ўздоўж іх на працягу больш $4^1/_2$ міль, паралельна заходняму берагу Нілу, у магільні ягіпецкага жраца на імя Тунары, быццам бы жыўшага пры Рамзэсе II. Гэты жрэц намаляваны ў ёй прыходзячым на той сьвет на велічны сход 58 ягіпецкіх цароў, у якіх Бругш пазнаў першыя шэсць дынастый.

Каб бачыць, наколькі адпавядаюць адна адной гэтыя асноўныя першакрыніцы, я буду праводзіць іхнае параўнанне адпаведна часткам у прапанаваным далей крытычным нарысе нашых ведаў із вобласьці старажытнай ягіпецкай гісторыі, але, каб чытач не блытаўся ў наменклатуры, якая да непазнавальнасці розная ў розных аўтараў, я вазьму ў якасьці падмурку Абідоскі спіс (табл. XLII), прыстасоўваючы да яго, як дапаможнікі, папраўкі ці дадаткі Сакарскай (табл. XLV) і іншых нашых першакрыніц.

У першым томе «Хрыста» мы ўжо бачылі, што абодва гэтыя варыянты лічацца за генеалогіі «Вялікага Рэ-Месіі» нягледзячы на свае адрозненні і што Абідоскі радавод тоесны з генеалогіяй вялікага ж Езуса-Месіі ў Евангеллі Лукі: абодва спісы ўяўляюць адно і тое ж, і толькі напісаны на двух розных мовах, пад рознымі найменнямі.

Мы бачылі потым, што гэты ж спіс, але даведзены толькі да Зера-Бабеля, паўтараецца і ў біблейскай кнізе Параліпаменон. А Сакарская насьценная табліца ў Ягіпце ўяўляе толькі асобныя дынастыі таго ж спіса з двума маленькімі дадаткамі, пры гэтым дзьве дынастыі пералічаны задам наперад, а перарывы не прызнаюцца за перарывы.

ТАБЛІЦА XLV.

Сакарскі іерагліфічны сьценапіс – каляндар.

Фігуркі людзей, малітоўна седзячых на абадках, па чарзе носяць розныя галаўныя ўборы. Адны сімвалізуюць ночы, другія дні месяцовага месяца роўнага $29^1/_2$ суткам (усяго 59 дванаццаці-гадзінных адзінак). Тут звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што продкі ў 3-ццім раздзеле (на левым боку) і продкі ў 11-12 раздзелах (на правым баку) пералічаны ў адваротным парадку, чым на Абідоскай табліцы і абодва перавернутыя часткі займаюць па баках амаль сіметрычнае становішча. Каб палегчыць чытанне іерогліфаў ці даць разуменне не ведаючым пра характар іерагліфічнай насьценнай пісьмовасьці, я даў з бакоў табліцы пераклад іерагліфічных значкоў на рускі альфабэт (па Бругшу і па Струвэ). Чытач бачыць, што гэта напалову фанетычнае і напалову рэбусічнае пісанне. Знаек сонца (⊙) я ўсюды чытаю Re (італійскае цар)

| Нумарацыя згодна з Абідоскай пасьлядоўнасьцю і Евангеллем Лукі (глава 3) | | | | | | Нумарацыя згодна з сакарскай пасьлядоўнасьцю | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1-шы раздзел | Герой (Ірад) | ↓ | 6 | | Мр-Р-Бі (жаночы дзетарод. орг.)-II | Мр-Р-Ба (лямпа)+П+Н | 1 |
| | Мафусал | ↓ | 8 | | К-Б-Х (Кебху) | К-Б-Х-У+Пасудзіна | 2 |
| 2-гі раз дзел | Ламех | ↓ ↓ | 9 | | Б-Ц-У (Буцау) | Нотэр (сякера, бог)+3 птушкі | 3 |
| | Ной+ 3 сыны | ↓ | 10 | | К+3Кау(3 мужчын. дзетарод. орг.) | Тое ж самае (=Кекау) | 4 |
| | Сім (шляхетны) | ↓ | 11 | | Бе-Нотэр-Н (Бенатэрн) | Птушка+Ба-Нотэр-Т-Р-У | 5 |
| | Арпаксад | ↓ | 12 | | Уц-Н-С (Уцнас) | Уч-Нес (язык)+ Нес (язык) | 6 |
| | Каінан | | 13 | | С-Н-Д-А (Сенда) | Сенч (абскубаны гусак) | 7 |
| 3-ці раздзел (з адваротнай пасьлядоўнасьцю) | ↑ Тора | | 20 | ↑ | С. Нефер-У (Сенеферу) | Рэ Нэфер-К (цар Неф-Ерк) | 8 |
| | ↑ Нахор | | 19 | ↑ | Рэ Нефер-К (Цар Неферк) | СКР Нефер-К | 9 |
| | ↑ Сераф | | 18 | ↑ | С-Ч-С (Сечэс) | сьцёрта | 10 |
| | ↑ Рэгаў | | 17 | ↑ | Т-Т-А (Тотр=Дода=Давыд) | Б-А-Б-А+трохкутнік | 11 |
| | ↑ Фалег { | | 16″ | ↑ | } Цэзар-Шах | { Цэзар-Р (Цэзар Цар) | 12 |
| | ↑ | | 16′ | ↑ | | Цэзар Тота (Давыд) | 13 |
| | ↑ Юдэй | | 15 | ↑ | Неб-К (Небка) | Рэ-Неб-К | 14 |
| | ↑ Сала | | 14″ | ↑ | } Ц-А-Ц-А+галава | { Чалавек з палкай+Х-Н-І-Е | 15 |
| | ↑ | | 14′ | ↑ | | С. Нефер-Ф-Р-У | 16 |
| 4-ый Раз дзел | Аб-Рам | ↓ | 21 | | Х-Ф-У (Хеопс) | Х-Ф-У-Ф | 17 |
| | Ісак | ↓ | 22 | | Рэ Дэд-Ф (Цар Дэдэф) | Рэ Дэды-Ф | 18 |
| | Якав | ↓ | 23 | | Рэ-Хе-Э-Ф (Хеф-рэ) | Рэ Хе-У-Ф (Хеф-Рэн) | 19 |
| | Юдэй | ↓ | 24 | | Рэ Мн-Н-Ку (цар Менку) | Рэ Мн-Н-К (Цар Мек) | 20 |
| | Парэс | ↓ | 25 | | Шепс Сос-К-Ф | адламана | 21 |
| | | ↓ ↓ ↓ | | | У Абідоскім спісе гэтых трох цароў 22-24 няма. | адламана | 22 |
| | | | | | | адламана | 23 |
| | | | | | | адламана | 24 |
| 5-ы раз Дзе л | Хец-Ром | ↓ | 26 | | Ус-С-К-Ф (Ускаф) | Ус-С-К-Ф (Ускаф) | 25 |
| | Ром (Рым) | ↓ | 27 | | Рэ Шаху (цар Шах) | Рэ Шах-У (цар Шах) | 26 |
| | Амн-Надаб | ↓ | 28 | | К-К-А (Кака) | Рэ Нэфер-Ір-К | 27 |
| | Нахшам | ↓ | 29 | | Рэ Нэфер-Ф | Рэ Шэпсэс С-С-К | 28 |
| | Саламон | ↓ | 30 | | Рэ Н-Ус-Р (цар Нусер) | Рэ Хе-Нофер | 29 |
| | Баас | ↓ | 31 | | Гор-Мн-Н-Ку (Менку-Сокал) | Гор Мн-К (Менк Сокал) | 30 |
| | Авід | ↓ | 32 | | Рэ Дэд-К (Дэдка-цар) | Рэ Маот (пяро) – К | 31 |
| | Ясей | ↓ | 33 | | У-Н-А-С (Унас) | У-Н-А-С (Унас) | 32 |
| 6-ы раз дзе л | Давыд | ↓ | 34 | | Т-Т-А (Тата=Дада) | Т-Т-А (Татэ=Дада) | 33 |
| | Натан+Мат | ↓ ↓ | 35/ 36 | | Рэ Уск і Рэ Аа | П-А-Л-А (папа) | 34 |
| | Маніан | ↓ | 37 | | Рэ Мр-Н (цар Мерэн) | Рэ Мр-Н (цар Мерэм) | 35 |
| | Малелал | ↓ | 38 | | Рэ Нефер-К | Рэ Нефер-К (Неферк) | 36 |
| | Богапрызначаны | | 39 | | Рэ Мр-Н-Птушкалоў | Рэ Сэбэк (Кракадзіл)-К | 37 |
| 11-ы і 12-ы раздзел (у адваротнай пасьлядоўнасьці) | Еслім | | 65 | ↑ | Рэ Мао-Э-Хру-У | Рэ Мао-Э-Хру-У | 38 |
| | Нагей | | 64 | ↑ | Рэ Мао-Э-Т | Рэ | 39 |
| | Мат (Дар) | | 63 | ↑ | Рэ Хе-Ку (цар Хеку) | Рэ Хе-К (цар Хек) | 40 |
| | Дар Божы | | 62 | ↑ | Рэ Хе-Хепер | Рэ Хе-Хепер | 41 |
| | Сямей | | 61 | ↑ | Рэ Нуб-Ку (цар Нубк) | Рэ Нуб-К (цар Нубк) | 42 |
| | Ёсіф | | 60 | ↑ | Рэ Хепер-К | Рэ Хепер-К | 43 |
| | Іудэва | | 59 | ↑ | Рэ С. Хатэп П-Т-Іб | Рэ С. Хатэп П-Т-Іб | 44 |
| | Ян | | 58 | ↑ | Рэ С. Анх-К | Рэ С. Анх-К | 45 |
| | Рысай | | 57 | ↑ | Рэ Хру-Нэб (чарка -вясло) | Рэ Хру-Нэб (вясло-чарка) | 46 |
| 18-ы раздзел (13-17-ы не існуюць і ў Абідоскім спісе) | Наум | ↓ | 66 | | Рэ Неб-Пех-Тата | Рэ Пх-Неб (цар Пех-Неб) | 47 |
| | Амос | ↓ | 67 | | Рэ Цэзар-К | Рэ Цэзар-К | 48 |
| | Дар Божы | ↓ | 68 | | Рэ О. Хепер-К | Рэ | 49 |
| | Ёсіф | ↓ | 69 | | Рэ О. Хопер-К | Рэ | 50 |
| | Іанай | ↓ | 70 | | Рэ Мн-Хепер | Рэ | 51 |
| | Мелхій | ↓ | 71 | | Рэ О-Хепер | Рэ | 52 |
| | Левій | ↓ | 72 | | Рэ Мн-Хепер | Рэ | 53 |
| | Дар-Божы | ↓ | 73 | | Рэ Маот (Валадарка Праўды)-Неб | Рэ | 54 |
| | Ілій (Бог) | ↓ | 74 | | Рэ Цэзар Хепер | Рэ.............................Н | 55 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 19-ы раздзел | Ёсіф | ↓ | 75 | Рэ Мм-Пх-Т-Т (Тота) | Рэ..............................М | 56 |
| | Панна Марыя | ↓ | 76 | Рэ Маўзт (Валадарыца Праўды)-М | Рэ..............................М | 57 |
| | Цар-Месія | ↓ | 77 | Рэ Месу (Цр Месія) | Рэ.......Сатэр-Н-Р | 58/59 |
| Іерагліфічны надпіс зверху чытаецца так: *1-ы слупок знізу*: «Даваемае султанам, царом «Вус-Маот», царом «Сотэн-Н», сынам Сонца для Месіі (Мес-Су) Слова Божыя (Амр Амона, якому дадзена вечнае жыццё)». *Другі і астатнія слупкі знізу*: «Ды здзяйсняюць атрыманне ахвяр выступаючыя перад гэтым (*сямідзесяццю сямю сьвятымі*) штодня дзеля духу Ажыўшага кіраўнікам сьвята тройцы боскай: кіраўніку прац над усімі намесьнікамі султана, султанаву пісару, галоўнаму царскаму пісару, галоўнаму сьвятару, чытару Сут, правагалосаму сыну суддзі Па... (*далей сапсавана*). | | | | | | |

Усё гэта прымусіла мяне думаць, што і іншыя евангельскія радаводы Езуса і біблейскія радаводы Зера-Бабеля (Парал. I, гл. I) не прыдуманы грэкамі і сірыйцамі із уласнай галавы, а перакладзены із паралельных ім ягіпецкіх спісаў. Ці ж наадварот: ягіпецкія з'яўляюцца перакладамі біблейскіх радаводаў. Таму, карыстаючыся нашай Абідоскай табліцай, перакладзенай Лукой на біблейскую мову, як карыстаюцца слоўнікам, мы можам перакладаць біблейскія радаводы і назад на іерагліфічную мову і выявіць такім чынам эвалюцыю гэтых спісаў, таму што, вядома, яны не з'явіліся ў сучасным поўным і доўгім выглядзе ў адзін момант.

Асноўным прынцыпам для высвятлення працэсу ўзнікнення такіх генеалогій павінен быць эвалюцыйны прынцып, г.азн. больш доўгія спісы ўзніклі із больш кароткіх. А грунтуючыся на тым, што самы кароткі із маючыхся у нас радаводаў Езуса-Месіі знаходзіцца ў Евангеллі Мацвея, то ён жа павінен быць самым кароткім і із маючыхся у нас радаводаў цара-Месіі, г.азн. Ра-Месу II.

Евангеліст Мацьвей, давёўшы сваё пералічэнне ў адваротным упарадкаванні назад да Аб-рама (бацькі-Рыма), тут і скончыў сваю справу. Але не пагадзіліся з гэтым яго пасьлядоўнікі, у якіх узнікла жаданне працягнуць генеалогію сваіх герояў да першага чалавека – Адама. Гэта мы бачым і ў Абідоскай табліцы продкаў Ра-Месіі і ў тоесным з ім радаводзе Езуса-Месіі із Евангелля Лукі. Яны абодва грунтуючыся толькі на адной гэтай падставе не маглі быць створанымі раней заканчэння VIII стагоддзя нашай эры, і напісаны нават пазьней.

Да гэтага ж часу павінны дапасавацца і творы грэцкіх аўтараў Яўсевія, Афрыкана, Ёсіфа-Флавія і іншых, у якіх існуюць такія дадаткі.

А да якога стагоддзя дапасаваць Сакарскі спіс тых жа самых продкаў Ра-Месу?

Із табліцы XLV, дзе ён прыведзены цалкам, чытач бачыць, што і ён быў складзены пасьля радаводу Езуса ў Евангеллі Мацьвея, бо ў ім існуюць дадатковыя цары ад Мірбапена (№1) да С. Нефер-ф-Ру (№ 16), якіх яшчэ няма ў Мацьвея, і, акрамя іх яшчэ дададзены суваладары Дыяклетыяна (№№ 34-35).

Чытач сам бачыць, што гэты спіс прыстасаваны да нейкіх адмысловых мэт і па ліку іх 29*2 няцяжка здагадацца, што тут была ўжо спроба стварыць адмысловыя святцы на 29 дзён і 29 начэй месяцовага сінадычнага месяца, а апошняя ноч (ці па чарзе дзень) прызначалася самому Рамессе.

Так пад час сярэдневечча стваралася гісторыя старажытнага перыяду Ягіпта! Уся яна – міф, і прытым вельмі позьняга паходжання, не раней IX стагоддзя нашай эры. Пры ўсіх стараннях зазірнуць як магчыма глыбей у гісторыю Ягіпта, мы не можам нічога ў ёй бачыць далей Пталямея – сына Лага (г.азн. Казла), якога дарэмна лічаць за аднаго із вайсковых правадыроў Аляксандра Македонскага. Нават і Аляксандр у тым выглядзе, як мы яго ўяўляем сабе, з’яўляецца міфам і шмат у чым

спісаны з Канстанцыя Хлора (281-307), якім пачынаецца рэчаісная рымская гісторыя.

Такім чынам, не будзем спрабаваць дасягнуць не дасягаемага і, прыйшоўшы да высновы, што ўвесь самы старажытны перыяд гісторыі Ягіпта, які я заву Архейскім царствам, з’яўляецца сярэднявечным тварэннем, паспрабуем толькі адшукаць яго карані ў падзеях III-VII стагоддзяў нашай эры.

# Глава II.

## Цары багі і цары-быкі ў архейскім Ягіпце.

Я называю «Архейскім Ягіптам» той перыяд яго гісторыі, які працягваецца ад першага цара гэтай краіны, бога-Бацькі (Пата, г.азн. Pater), да апошніх нашчадкаў Вялікага Ра-Месу (г.азн. Вялікага Сына Боскага)[28]. А тэрмін Архейскі я бяру із палеанталогіі, дзе архейскай эрай завецца той перыяд зямнога жыцця, ад якога не засталося амаль ніякіх арганічных парэшткаў. Мы тут прысутнічаем толькі пры шкілеце вельмі складанага міфа, таму што ў дайшоўшым да нас выглядзе ён пазбаўлены якога там ні было цела. Усё, што мы ведаем пра пачатак архейскага перыяду, гэта толькі двухразовы пералік адных імёнаў богаў амаль без якіх бы то ні было іхных здзяйсненняў.

Першай дынастыяй архейскіх ягіпецкіх цароў згодна з паведамленнямі грэцкіх аўтарытэтаў сумнеўнай старажытнасьці ад імя легендарнага жраца Манефо, былі цары-багі, дзеці бога-Бацькі, меўшага назву Пата. Відавочна гэта тое ж самае слова, як і грэцкае патэр, і лацінскае пацер і азначае яно на ўсіх трох мовах адно і тое ж – бацька.

Вось яны ўсе сябры гэтай выдатнай дынастыі – сем, адпаведна з колькасьцю планет (табл. XLVI).

ТАБЛІЦА XLVI.

Мемфіская дынастыя старажытна-ягіпецкіх цароў-богаў (Патаітаў).

| | |
|---|---|
| 1. | Бог Бацька (па-ягіпецку Пата, ці скарочана Пта). |
| 2. | Бог Ра ці Рэ, сын Паты, сугучна з італійскім Re – цар. |
| 3. | Бог Шу, сын Ра. |
| 4. | Бог Себ, сын Шу. |
| 5. | Бог Азірыс сугучна з Jesus-Rex, сын Себа. |
| 6. | Бог Сэт, першы сын Азірыса, здрадніцкі забіўшы свайго бацьку. |
| 7. | Бог Гор (Горус) – другі сын Азірыса. |

Само сабой зразумела, што ў тым сухім выглядзе, як яны пададзены на нашай табліцы, яны мала чаго паведамляюць як розуму так і сэрцу. Але паверыўшы, што яны былі багамі і, такім чынам, жылі на небе, паспрабуем крыху асэнсаваць наш спіс астраноміяй і старажытнай астралогіяй.

Сем цароў-богаў першай Архейскай дынастыі адпавядаюць сямі старажытным, багам-планетам. Але яны былі валадарамі не адной толькі даліны Нілу, а і іншых старажытных краін. Паглядзім, ці не атрымаецца ў нас вызначыць іх грунтуючыся на якасьцях, пазначаных для іх нашымі першакрыніцамі.

1) Першы цар Пату, імя якога згодна з тлумачэннем ягіптолагаў азначае Дойлід, але грунтуючыся на корані сугучна, як мы толькі што сказалі, з грэка-

[28] Ra-mes-sy – бог-нарадзіў-яго, г.азн. Сын Боскі, адкуль грэкі зрабілі Рамзеса.

лацінскім словам патар-бацька, вызначаецца адным надпісам у Дэндэрскім храме падобна таму, як і біблейскі бог-Бацька.

«*Пата з'яўляецца богам, стварыўшым усё існуечае*». «*Усё, што існуе, стала пасьля яго*», – паведамляе надпіс. – «*Ён спадар праўды і цар богаў*».

Гэта відавочна грэка-лацінскі Зеўс-Юпітар, г.азн. біблейскі Вечна-жывучы, Іеве «Ягова» Бацька, адкуль і лацінскае Jeve-Pater (Ju-Piter). Яго нябесным знакам спачатку было Сонца, і толькі ужо потым, у хрысьціянскія часы, ён стаў сімвалізавацца планетай Юпітар, дзякуючы нейкім непаразуменням астралагічнага характару.

2) Бог Рэ, сын бога Паты (бога-Бацькі) згодна з гукавым складам свайго імя блізкі да італійскага Re – цар, адкуль лацінскае rex і французкае roi. Ён быў знакам стыхіі-Полымя і меў назву Вечна-існуючы (Зеўсам – па-грэцку). З нагоды палымянасьці яго лічаць за знак Сонца, але гэта, больш дакладна, спачатку была палымяна-чырвоная планета Марс – сын Сонца. Яго дарэмна атаясамляюць з Амонам-Рэ (Амонам-царом), які маляваўся ў егіпцянаў не чырвоным, а заўсёды ў блакітным адзенні, як Сонца ў блакіце дня.

3) Шу – лічыцца за сына і наступніка Марса-Рэ і характарызуецца акультыстамі як Добры геній (Агата-дайман па-грэцку). Ён сімвалізуе сабой стыхію-Паветра. Астралагічна гэта планета Юпітар.

4) Себ – лічыцца за сына Шу. Яго імя азначае – час, а таксама і зорка. Гэта грэцкі Хронас, астралагічна планета Сатурн, хаця аўтар гараскопа Фіўскай магільні, апісанай Бругшам, і называе сугучна з ім, Сабекам Меркурыя[29]. Ён, згодна са сведчаннямі акультыстаў, сімвалізаваў цьвёрды стан быцця – стыхію-Зямлю.

5) Азірыс (г.азн. Osi-Rex) быў сынам Себа. Ён характарызуецца акультыстамі як бог ажывання памёршых, ягіпецкі Езус-Хрыстос, корань імя якога Азі, ці Асі, падобны з найменнем Асы-Езуса. Гэта знак жыцця. Астралагічна гэта Месяц, паміраючы пад час кожнага маладзіка. Ён сімвалізаваў цякучую стыхію-Ваду, знак мінуўшага. Ягіптолагі атаясамліваюць яго з грэцкім Вакхам, але ён усяго больш падобен з евангельскім Хрыстом, г.азн. па-сутнасьці з больш позняй варыяцыяй таго ж Вакха, папойка ў гонар якога перарадзіліся ў таемства эўхарыстыі.

6) Сэт – лічыцца ягіптолагамі за старэйшага сына Азірыса забіўшага яго. Гэта – князь Цемры. Астралагічна ён уяўляецца «Цёмным Канём» Апакаліпсіса – Меркурыем, заўсёды хаваючымся за Сонцам, як у засадзе. Ён забівае адтуль свайго бацьку Месяца-Азірыса із засады, калі той набліжаецца да Сонца-Патэ, свайго бога-Бацькі. Пазьней, пры перанясенні злавесных уласцівасцей на Сатурн, яго пачалі блытаць з апошнім, як гэта мы бачым на той жа Фіўскай магільні, апісанай Бругшам.

7) Гор, ці Гарус, – малодшы сын Азірыса (Езуса-цара) і яго жонкі Ізіды, атаясамляемы з Апалонам, з нагоды сваёй светаноснасьці, з'яўляецца, згодна са сведчаннем акультыстаў, знакам новага жыцця, нараджаючагася із цела Месяца Азі-Рыса, калі яго забівае ўласны старэйшы сын Сэт, хаваючыся за Сонцам. Гор, ператварыўшыся із Люцыфера ў жанчыну, уяўляе сабой сучасную ранішнюю зорку – планету Венеру. Адпаведна з некаторымі тэалагічнымі тлумачэннямі гэта – хрысьціянская царква, нараджаючаяся быццам бы із цела пакаранага сьмерцю. Езуса.

---

[29] Гл. маю кнігу «Прарокі», стар. 301, а таксама ў гэтым томе главу пра Фіўскі гараскоп Бругша.

Мы бачым зараз, што «першая дынастыя», дынастыя архейскіх ягіпецкіх цароў, адзначаная ў нашых першакрыніцах сумнеўнай старажытнасьці, цалкам не гістарычная дынастыя, а сімвалічная. І нават сімвалы тут пераблытаны дзякуючы аддаленасьці сярэднявечных навукоўцаў адзін ад аднаго і іхнай нешматлікасьці. Усё, што нам застаецца тут рабіць, гэта толькі вызначыць час узнікнення такога міфа, і грунтуючыся на толькі што паказаным намі падабенстве імёнаў архейска-ягіпецкіх цароў з лацінскімі і асабліва бяручы да ўвагі падабенства Азірыса з евангельскім Езусам, мы павінны зрабіць выснову, што гэтая тэалогія была распрацавана ніяк не ў дагістарычныя часы, а адначасова з хрысьціянскай. Яна – міф, узнікшы ўжо пад час нашай эры, і нават дастаткова позна, а ніяк не да яе.

* * *

Разгледзім зараз і другую божую дынастыю, у якой паўтораны, у тым жа парадку, тыя ж шэсць сьвяцілаў за выключэннем толькі Меркурыя, забойцы Азірыса (табл. XLVII).

ТАБЛІЦА XLVII.

II (Фіўская) дынастыя цароў-багоў (варыянт першы).

| | |
|---|---|
| 1. | Амон-ра (Амон-цар), цар багаў (яго не патрэбна блытаць з Ра папярэдняй дынастыі, гэта другое імя бога-Бацькі). |
| 2. | Монт – першы сын Амона-цара (Марс). |
| 3. | Шу – другі сын Амона (Юпітар). |
| 4. | Сэб, ці Кэб, сын Шу (Сатурн). |
| 5. | Азі-Рыс, сын Себа (Месяц). (Сэт выключаны з ліку багаў-валадароў). |
| 6. | Горус, сын Азірыса (Ранішні сьветач – Люцыфер, ператварыўшыся пазьней у жанчыну Венеру. |

Мы бачым, што тут толькі Сэт (Мяркурый), забойца Азірыса, знік із ліку багаў, як Юда Іскарыёт із ліку 12 апосталаў Езуса. Гэта – як бы другое валадаранне нябесных сьвяціл і яно не супярэчыць астральнаму сэнсу падання, бо нябесныя сьвяцілы, здзейсніўшы свой шлях, вяртаюцца зноў у тым жа парадку, што і ўвасаблялася ў заходне-еўрапейскіх днях тыдня, напрыклад, у французкіх:

Di-manche (dies-dominica) – дзень гасподні – (нядзеля).
Lun-di (Месяцовы дзень) – панядзелак.
Mar-di (Марсавы дзень) – аўторак.
Mercre-di (дзень Мяркурыя) – серада.
Jeu-di (Зеўсавы дзень) – чацьвер.
Vondre-di (Венерын дзень) – пятніца.
Same-di (Себа дзень, Сатурна дзень) – субота.

Грунтуючыся ўжо толькі на адрозненні ва ўпарадкаванні гэтых назваў у параўнанні з вышэйпрыведзенымі ягіпецкімі бачна, што найменні планет, з нагоды іхнай рухомасьці, некалькі разоў былі пераблытаны на працягу стагоддзяў так жа як і пры пераходзе із адной краіны ў другую. Акрамя таго, парадак іхнага ўяўлення на сямі нябесных сферах старажытнасьці перамяняўся і згодна з тэарэтычнымі меркаваннямі, дзякуючы ўсё новым і новым удасканаленням першапачатковых зародкаў астраноміі. Спачатку яна яшчэ не бачыла адрозненняў у планетных адлегласьцях ад Зямлі і толькі пазьней усё больш і больш дакладна вызначала іхную аддаленасць як ад Зямлі, так і ад Сонца.

Тут мы выразна бачым і спосаб стварэння доўгіх старажытных генеалогій: тыя ж самыя (рэчаісныя ці ўяўныя) незалежныя адна ад адной асобы прызнаюцца дзецьмі адзін аднаго і із іх складаецца дынастыя, а потым гэтая ж самая дынастыя, з дапамогай лёгкіх варыяцый імёнаў і ўпарадкавання, дадаецца да самой сябе і

атрымліваецца нешта накшталт перыядычнай сістэмы элементаў. Як навочны прыклад, я даю тут супастаўленне дзён тыдня на розных мовах (табл. XLVIII).

ТАБЛІЦА XLVIII.

Як са спіса сямі дзён тыдня, супастаўленых на розных мовах, можна зрабіць шэраг дынастый, цалкам падобных на старажытна-ягіпецкія.

| I | II | III | IV | V |
|---|---|---|---|---|
| Славянская дынастыя | Стара-грэцкая дынастыя | Нова-грэцкая дынастыя | Жыдоўская дынастыя | 1-ая лацінская дынастыя |
| Voskresenje | He prote tes hebdomados | He Kyriake | Iuim Horishein | Dominica |
| Ponedelnic | He deytera | Selenes hemera | Iuim Hasheini | Feria secunda |
| Ftornik | He trite | Areos hemera | Iuim Hasdishi | Feria tertia |
| Sereda | He tetarte | Hermu hemera | Iuim Hareivii | Feria quarta |
| Tshetverg | He pempte | Dios hemera | Iuim Hkchamishi | Feria quinta |
| Pjatnitsa | He hecte | He Paraskeue | Iuim Hashishi | Feria sixta |
| Subbota | He hebdome | Kronu hemera | Iuim Hasshvii | Feria septima |
| .......... | | To nabbaton | Shabash | |
| VI | VII | VIII | IX | X |
| 2-ая лацінская дынастыя | Французкая дынастыя | Англа-саксонская дынастыя | Германская дынастыя | Італійская дынастыя |
| Solis dies | Dimanche | Sunday | Sonntag | Domenica |
| Dies dominica | ---- | ---- | ---- | ---- |
| Lunac dies | Lundi | Manday | Montaag | Ludeni |
| Martis dies | Mardi | Thuesday | Dienstag | Martedi |
| Mercuris dies | Mercredi | Thirsday | Mitwoch | Mercoledi |
| Jovis dies | Jeudi | Wednesday | Donnerstag | Jovedi |
| Veneris dies | Vendredi | Friday | Freitag | Venerdi |
| Saturni dies | Samedi | Saturday | Sonnabend | ………… |
| | | Sabbat | Samstag | Sabbato |
| Усе назвы дзеля аднастайнасьці напісаны лацінскім шрыфтам. Дасьледчык, атрымаўшы такую табліцу, хаця б і ведаў адну із гэтых дзесяці моваў, мог бы вызначыць, што яны рознамоўна паўтараюць тыя ж самыя сем дзён тыдня грунтуючыся на асобных супадзеннях сугучных найменняў у тых жа самых радках, а пасьля гэтага мог бы здагадацца, што нават і такі із прамежкавых слупкоў, нападобе другога, дзе не існуе ніводнага сугучча, ўяўляе той жа самы дзень тыдня. | | | | |

* * *

Пераходзячы да разбору далейшых паведамленняў пра розныя дынасты ягіпецкіх валадароў, мы бачым, што трэццяй ягіпецкай дынастыяй грунтуючыся на грэцкіх выпісах із неіснуючай у іхны час кнігі Манефо, лічацца цары-Цяляці (Сер-Апісы – Серафімы), ператварыўшыяся ў нас ад часоў «эпохі гуманізму» ў шасьцікрылыя дзіцячыя галоўкі, лётаючыя на абразах навокал бога-Бацькі. У ягіпецкіх жа храмах яны перадаваліся ў выглядзе жывых цялят, таму што ў выглядзе быка ці цяльца, на думку тагачасных старажылаў, з'яўляўся людзям бог-Бацька (верагодна таму, што яго сапраўднага аблічча ніхто не мог бачыць не памёршы ту жа). Гэта былі прадстаўнікі сузор'я Цяляці, і адсюль жа, напэўна, паходзіць і назва малазійцаў туркі ад грэцкага слова *таўрыкос*, ці *турыкас,* – бычыны. Але нават і на сотнях разрозненых кавалачкаў «Турынскага Царскага Папірусу», – найбольш падрабязнага із некалькіх дайшоўшых да нас спісаў уяўляемых архейскіх ягіпецкіх султанаў (сутэнаў) у іхнай пасьлядоўнасьці, – не знойдзена поўных і правільных паведамленняў пра гэтых напалову боскіх

валадароў старажытнага Ягіпта. Прачытаны толькі імёны: Апіс – сьвяты бык у Мемфісе, і Мневіс – сьвяты бык у Геліяполісе. Гэтыя цары-быкі і былі, кажуць, наступнікамі Горуса, апошняга цара-бога на старажытна-ягіпецкім пасадзе.

# Глава III.

## Цары-цені і першыя дзьве дынастыі чалавечых старажытна-ягіпецкіх цароў.

Вельмі мала захавалася паведамленняў у нашых першакрыніцах маючых дачыненне да гісторыі старажытнага Ягіпта пад час чацьвёртай дынастыі яго валадароў, пра цароў-ценяў (reges-manes), г.азн. пра валадаранне ў даліне Нілу душ памёршых людзей, уяўляемых у выглядзе іхных ценяў. Гэтая дынастыя вядома нам толькі із грэцкага Манефонскага рээстра, і таму, не вельмі давяраючы яму, я і пачну лепш усяго з чыста чалавечых дынастый (хаця і яны пазней выявяцца зданямі), на чале якіх стаіць Мена, што азначае Ўстойлівы (у перакладзе на грэцкую мову – Канстанцый), першы чалавечы султан (сутан) Ягіпта, памёршы:

Згодна з Бокам. .......... у 5702 годзе да пачатку нашай эры
Згодна з Унгерам........ у 5613 годзе да пачатку нашай эры
Згодна з Бругшам ...... у 4455 годзе да пачатку нашай эры
Згодна з Лаўтам.......... у 4157 годзе да пачатку нашай эры
Згодна з Лепсіусам..... у 3892 годзе да пачатку нашай эры
Згодна з Бунзенам ...... у 3623 годзе да пачатку нашай эры

Нягледзячы на вялікую дакладнасць усіх гэтых вызначэнняў, пазначаючых час не ў стагоддзях, і нават не ў дзесяцігоддзях, а ў адзінкавых гадах, розніца паміж імі, як бачыць сам чытач, дасягае больш 2000 гадоў, г.азн. больш чым уся наша еўрапейская эра, і ўжо адно гэта дастатква выяўляе асноўную якасць такой «старажытна-ягіпецкай храналогіі». Зірнуўшы па гэтую табліцу, вы прыходзіце да высновы, што цар Мена выяўляецца, згодна з Бекерам і Унгерам, жыўшым яшчэ да біблейскага Адама, створанага богам адпаведна з запэўніваннямі старажытна-хрысьціянскіх першакрыніц толькі ў 5508, а згодна з запэўніваннямі талмудыстаў у 3759 годзе да пачатку нашай эры, што таксама вызначана з дакладнасьцю да аднаго года, але пры параўнанні абодвух лічбаў – з недакладнасьцю больш 1700 гадоў.

Што ж дзіўнага ў тым, што я тут цалкам ігнарую як вылічэнні Бругша, так і храналогію Лепсіуса і Буізена, хаця яны і прызнаюцца спецыялістамі ў дадзенай вобласьці пазнання, а я яшчэ не?

Мена – адпавядаючы згодна з нашай схемай, прыведзенай у першай кнізе «Хрыста», Аўрэліяну «Аднаўляльніку сталіцы» (Restitutor Urbis), лічыцца ягіптолагамі заснавальнікам Мемфіса, а таксама першапачатковай рэлігіі і законаў, як яго грэцкі аднайменнік – Кастусь (ці хутчэй Канстанцый Хлор), лічыцца заснавальнікам Канстантынопаля і дзяржаўнай рэлігіі Ўсходу, ці як Ромул лічыцца заснавальнікам Рыма і яго першых законаў. Ён, акрамя таго, здзейсніў, згодна з грэцкімі паданнямі, паход у Лівію, адвёў Ніл плацінай (пры тагачасным стане тэхнікі!) у яго сучаснае рэчышча і потым быў праглынуты кракадзілам. Але ужо ў першым томе «Хрыста» (у главе «Рамзэс ці Хрыстос?») я давёў адзінства радаводу Хрыста ў Евангеллі Лукі і радаводу Ра-месу Вялікага ў Абідоскай табліцы, а разам з тым паказаў (табліца XLII), што «дынастыя» Мены» да цара Буцау з’яўляецца

толькі іерагліфічным пераклад біблейскай дынастыі «дапатопных патрыярхаў» ад Адама да Ламеха.



Мал. 158.
Чалавечыя ягіпецкія цары згодна з аперцэпцыямі сучасных ягіптолагаў.

Адам і Мена з гэтага боку гледжання выявіліся толькі двума разнамоўнымі перавадамі аднаго і таго ж міфа пра першага гістарычнага дзеяча нашай культуры, г.азн. пра дзеяча, ад якога пачаліся ў басейне Міжземнага мора гісторыка-біяграфічныя запісы, без якіх не можа існаваць дзяржаўнай гісторыі народаў, а толькі археалогія. Вусныя паданні звычайна ўжо ў чацьвёртым пакаленні цалкам забываюцца, як гэта здаецца ні дзіўным для розуму нязвыкламу засяроджвацца на этна-псіхічных з'явах. Але справа ў тым, што ёмістасць нашых мазгавых паўшар'яў не бязмежная, а закон выціскання адных нашых уражанняў іншымі такі, што першымі знікаюць із памяці сонныя ўражанні і мроі, другімі – уражанні ад паведамленняў іншых, хаця б яны ў першы момант і здаваліся незабыўнымі, а апошнімі знікаюць рэчаісныя асабістыя перажыванні і шмат паўторныя асабістыя ўражанні. Вось чаму ніхто із людзей у якіх не існуе радаводных запісаў, не ў стане паведаміць нам нават імены ўсіх чатырох сваіх прадзедаў і чатырох прабабуль, хаця б здавалася, што цікавасць да іх павінна на адно стагоддзе захавацца па бесперапыннай традыцыі, ад бацькі і маці да сына і дачкі. Сапраўды: як маці не паведаміць свайму сыну ці дачцэ, што звычайнага і незвычайнага здзейснілі яе

бацькі, і што павядомілі пра сябе ім іхныя бацькі і што паведамілі іхным бацькам іхныя ўласныя бацькі і г.д. І без сумневаў, што кожны бацька і маці не аднойчы распавядалі сваім дзецям ці размаўлялі пры дзецях пра сваіх бацькаў і нават сёе-тое пра дзядоў. Але пра прадзедаў яны ўжо цалкам былі няздольнымі нешта паведаміць і іхныя справы ўжо параўналіся са снабачаннямі і мроямі, знікаючымі без следу. Навочным напрыклад гэтага з'яўляецеся вы самі. І вы таксама нічога не паведаміце мне із жыцця вашых прадзедаў, партрэты якіх не вісяць у вас на сьцяне, і якія не згадваліся ў друкаванай літаратуры. Хаця іх асабіста ведалі ўжо вашы бацькі ці ва ўсякім разе два вашы дзяды і дзьве бабулі...

Разглядаючы працягласць жыцця каантаваных у псеўда-ягіпецкую гісторыю валадароў із першай і другой (ужо «Чалавечай», а не «бычынай») дынастыі згодна з грэкам Занарасам (які пісаў аднак ад імя ўсёведаючага старажытнага ягіпецкага жраца-гісторыка – Манефо) і згодна з Абідоскай табліцай (табл. XLIX), а таксама іхных аналагаў із першых біблейскіх патрыярхаў у паралелі з ягіпецка-рымскімі царамі заканчэння III і ўсяго IV стагоддзя, чытач сам бачыць, што, акрамя першага цара, Мена, усе астатнія імёны першай дынастыі разышліся ў грэцкіх паданнях з іхнымі іерагліфічнымі адпаведнасьцямі.

## ТАБЛІЦА XLIX.

Псеўда-першая дынастыя чалавечых старажытна-ягіпецкіх цароў згодна з рознымі аўтарамі і ў іхным параўнанні з біблейскімі дапатопнымі патрыярхамі і з царамі класічных пісьменнікаў.

| I. Згодна з Абідоскім спісам | II. Згодна з Занорысам ад імя Манефо | III. Згодна з Афрыканам | IV. Згодна з Яўсевіем ад імя Манефо | V. Згодна з Сакарскім спісам. | VI. Згодна з Турынскім папірусам |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Мена | Менэс, 62 г. | Менэс Фіўскі | Менэс Фіўскі, 60 г. | Адсутнічае | Мена |
| 2. Тота | Атотыс, 57 г. | Атотыс | Атотыс, 27 г. | Адсутнічае | Адсутнічае |
| 3. Атоть | Кенкенэс, 31 г. | Кенкенэс | Кенкенэс 39 г. | Адсутнічае | Атоты |
| 4. Ата | { Уэнэфес I, 23 г.<br>Уэнэфес II 42 г. | Уэнэфес | Вэнэфес | Адсутнічае | Атотыс |
| 5. Хеспы (нівы), прызнаў прыватнае землеваладанне | Усафай, 20 г. | Усафайдас | Усафайс, 20 г. | Адсутнічае | Усафайс |
| 6. Мірбіп (Мірбапен) | Мебідас, 26 г. | Міебіс | Ніебайс, 26 г. | 1. Мірбіп | Міебіс |
| 7. [Чалавек з кіем] | Семемпсес, 18 г. | Семемпсес | Мемфсес, 18 г. | Адсутнічае | . . . |
| 8. Кебх | Бенехес, 16 г. | Б’енехес | Вібетыс, 26 г. | 2. Кэбху | Кэбху |

| VII. Грунтуючыся на кнізе Быццё і на радаводзе Хрыста ў Еванг. Лукі | VIII. Грунтуючыся на візантыйскіх апакрыфістах (аўтарах) (цары | IX. Грунтуючыся на кнігах Самуіла і «Цароў» у Бібліі | X. Грунтуючыся на лацінскіх аўтарах Першай Рымскай імперыі | XI. Грунтуючыся на лацінскіх аўтарах Другой Рымскай імперыі | XII. Згодна з Эратасфенам |
|---|---|---|---|---|---|

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | трэццяй рымскай імперыі) | | | | |
| 1. Адам, 930 г. | Аўрэліян (270-275), 5 г. | Савул | Рэм | Сула | 1. Менэс Тэнцкі, 62 г. |
| 2. Сіф, 912 г. | Дыяклетыян (284-305), 21 г. | Давыд | Ромул | Пампей Вялікі | 2. Атотыс, Народжаны Герміем, 59 г. |
| 3. Енах, 812 г. (пачатак ушанання Бога-бацькі) | Канстанцый Хлор (305-306), 1 г. | Саламон | Нума Пампілій | Юлій Цэзар | 3. Атотыс Другі, 32 г. |
| 4. Кайнан, 910 г. | Кастусь I (306-337), 31 г.<br>Ліцыній (307-324), 17 г. | Раваам<br>Іераваам | Тул Гастылій | Актавіян Антоній | – |
| 5. Малелал, 895 г. | Канстанцый II, (337-361), 24 г. | Аб-Іэ (бацька бога) | Анк Маркій (дазволіў прыватнае землевалоданне) | Тыберый | – |
| 6. Ірэд (герой), 962 г. | Юльян (361-363), 3 г | Васа (цар Васіль) | Тарквіній Старэйшы | Калігула | – |
| 7. Енах, 365 г. (узяты жывым на неба) | Васіль Вялікі (361-378), 18 г. | Аса (Езус) | Сервій Тулій | Клаўдзій і Месаліна | 4. Дыабіс-Таварыскі, 19 г. |
| 8. Мафусал, 969 г. | Ян Залатавусны (378-407), 29 г. | Іасафат | Тарквіній Пышны | Нярон | 5. Пемфос, падобны Геркулесу, 18 г. |
| Тут звяртае на сябе ўвагу: 1) Сугучча першага іерагліфічнага цара Менес (МНА) з грэцкім словам монас – адзіны. 2) Пазначэнне пятага цара не з дапамогай альфабэта, а клетачкамі накшталт шахматных (гл. табл. XLVII, стар. 771) у якасьці пазнакі таго што ён падзяліў зямлю, і тое ж паведамляюць нашы лацінскія першакрыніцы пра Анка Маркіна (гл. тут слупок X). 3) Пазначэнне сёмага цара чалавекам з кіем – вечны падарожнік – адпавядае ў VII слупку Енаху, якога бог пазбавіў ад сьмерці за навуковыя заслугі (і час яго жыцця да ўзяцця на неба дадзены роўным 365 гадам, адпаведна колькасьці дзён за год, верагодна ў якасьці пазнакі таго, што ён вызначыў даўжыню сонечнага года. У VIII слупку ён адпавядае Васілю Вялікаму, у IX – цару Асе-Езусу, у X – Сервію Тулію, наладзіўшаму грамадзянскае ўладкаванне і забітаму сваім зяцем, а ў XI слупку – Клаўдыю, будаўніку і апекуну мастацтваў з жонкай Месалінай, накшталт Марылі Магдаліны, і атручанаму другой жонкай Агрыпінай. Астатнія адпаведнасьці заўважыць чытаць самастойна. Такім чынам кожны новы слупок не заўсёды ўяўляе сабой абсалютна тых жа самых асоб пад іншымі найменнямі, а часам замяняе іх мясцовымі суваладарамі ці асабліва знакамітымі дзеячамі іхнага валадарання, асабліва калі складзены ў іншай краіне. Гэтыя храналагічныя ізатопы нярэдка перакінуты сярэднявечнымі гісторыкамі цалкам у іншую краіну і эпоху. Ужо грунтуючыся на адным факце шматлікіх пропускаў, перастановаў, дадаванняў і пераіначванняў тых жа самых найменняў нават у аднамоўных адзін з адным грэцкіх аўтараў чытач бачыць, да якой ступені тут пераіначылася першапачатковая схема «сямі рамейскіх цароў Апакаліпсіса» невуцтвам і фантазёрствам складальнікаў, а таму і патрабаваць поўнага паралелізму ўсіх слупкоў тут немагчыма. | | | | | |

Тое ж самае мы бачым і ў другой «чалавечай» дынастыі (табл. L). Вось чаму я і буду часта называць гэтыя разьдзелы не дынастыямі, а школамі цароў, таму што такая назва дапускае магчымасць уяўлення пра адначасовасць іхнага валадарання

ў двух ці трох розных абласьцях імперыі, ці пра тое, што яны варыянты адной і той жа дынастыі, і ва ўсякім разе выключае наданне пра гістарычнасць і паслядоўнасць абедзьвюх псеўда-дынастый, як быццам бы існаваўшыя адна за адной.

ТАБЛІЦА L.

Псеўда-другая дынастыя чалавечых старажытна-ягіпецкіх цароў грунтуючыся на розных аўтарах і ў іхным параўнанні з біблейскімі пасляпатопнымі патрыярхамі і з царамі класічных пісьменнікаў.

| I. Згодна з Абідоскім спісам | II. Згодна з Занарысам ад імя Мавефо | III. Згодна з Афрыканам | IV. Згодна з Яўсевіям ад імя Манефо | V. Згодна з Сакарскім спісам |
|---|---|---|---|---|
| 9. Буцау | – | Бахус, 38 г. | Баас | 3. Бог і тры гусакі |
| 10. [К і 3 мужчынскія дзетанарадж. органы] | Кайехас, 31 г. | Кайехас, 39 г. | Кехас | 4. [К і 3 мужчынскія дзетанарадж. органы] |
| 11. [Авен і Агніца богу] | Бі Нотрыс, 47 г. | Бі-нот-Рэс, 47 г. | Бі-Офіс | 5. [Авен і Агніца богу] |
| 12. Уцнас | Тлас, 17 г. | Тлас, 19 г. | Ὁ Εβδομος (Септымій) | 12. Уцнас |
| 13. Санта | Сентэнес, 41 г. | Сетэнес, 41 г. | Сезо-Хрыс | 7. Сенч |
| Не занесены | Хай-Рэс, 17 г. | Хай-Рэс, 17 г. | Не занесены | Не занесены |

| VI. Згодна з Турынскім папірусам | VII. Згодна з біблейскай кнігай Быццё і радаводам Хрыста ў св. Лукі | VIII. Згодна з візантыйскімі апакрыфістамі. | XI. Згодна з Эратасфенам |
|---|---|---|---|
| – | 9. Ламех | Дыяклетыян ці Аўрэман | У Эратасфена ўвесь гэты перыяд яшчэ адсутнічае |
| Ке-кау | 10. Нех (Ной) і 3 сыны | Канстанцый Хлор (і трыумвірат), Арый | |
| (Бінатэрэн) | 11. Сім | Васіль Вялікі (Вялікі цар) | |
| (Згублена) | 12. Арпаксад | Хвядос | |
| Сетэнес | 13. Кайнан | Ян Залатавусны | |
| Не занесены | Не занесены | Аркадзь | |

У гэтых слупках скараціліся да шасьці чалавек і пад іншымі найменнямі тыя ж самыя сем апакаліптычных цароў, пасьля якіх не павінна было існаваць на зямлі ніякіх іншых і якія ужо былі пералічаны ў псеўда-першай дынастыі чалавечых іерагліфічных цароў. Тут звяртае на сябе ўвагу: 1) пад № 10 Абідоскай табліцы і пад № 4 адпавядаючай гэтаму Сакарскай табліцы замест імя цара стаіць літара К і каля яе 3 мужчынскія дзетараджаючыя органы, а ў адпаведнасьці з гэтым праходзяць у біблейскай паралелі Ной і яго 3 сыны, а ў візантыйскай і лацінскай паралелі Дыяклетыян з яго трыумвіратам, і Пампей з аналагічным трыумвіратам. 2) У першым радку Сакарскага спіса стаяць тры гусакі – знак паводкі. 3) Пад № 11 замест імя цара пастаўлены Авен і агніца богу, і ў паралель гэтаму ў VIII слупку стаіць Васіль Вялікі – заснавальнік хрысьціянскай літургіі. І тут мы можам сказаць тое ж, што ўжо паведамлялі ў нататцы да псеўда-першай дынастыі: кожны новы слупок не заўсёды ўяўляе сабой абсалютна тых жа асоб пад іншымі найменнямі, а часам замяняе іх мясцовымі суваладарамі, калі складзены ў іншай вобласьці, ці ж асабліва знакамітымі дзеячамі дадзенага валадарання, якія засланілі сабой сваіх манархаў. Гэта – храналагічныя ізатопы. Акрамя таго і тут разнастайнасць мянушак відавочна тых жа асоб у розных аўтараў пераіначваюць першапачатковую схему. Гэты другі перыяд (ці другая школа) быў дададзены ўжо пазьней, таму што ў Эратасфена ён яшчэ адсутнічае, і ад апошняга цара першага перыяду ён проста пераходзіць да трэццяга.

Усё гэта, як мы бачым, не гісторыя, а тэндэнцыйная схема, у падставе якой, відаць, знаходзяцца знакамітыя тэакратычныя цары Вялікай Міжземнаморскай Імперыі III і IV стагоддзяў: Аўрэліян, Канстанцый Хлор, Кастусь Сьвяты (і відаць, нават сам «Вялікі Цар», па-грэцку Васіль Вялікі), быўшыя таксама тэакратычнымі царамі і Ягіпта, магчыма, нават перавозімыя на яго тэрыторыю ў набальзамаваным выглядзе пасьля сьмерці для пахавання, як у вобласць святую і найбольш блізкую згодна з тагачаснымі уяўленнямі да крышталічнага скляпення нябёс. Ва ўсякім разе мы не ведаем у іншых месцах магільняў «візантыйскіх» і «рымскіх» цароў, а ў Ягіпце такіх магільняў (і нават выключна груваcткіх) як быццам занадта шмат для такой невялікай тэрыторыі. Ці была фізічна злольнай пабудаваць такія піраміды даліна Нілу грунтуючыся на адных сваіх сродках? А рабаваць ёй паблізу не было каго. Толькі Візантыя і магла ўсё гэта пабудаваць, ды і то не раней IV стагоддзя нашай эры.

Але чаму ж, – запытаюць мяне пабываўшыя там, пра што я ўжо згадваў у I томе, – аўтар Абідоскага спісу называе сваіх каранаваных тэакратаў інакш, чым Манефо, чым грэкі і чым Біблія? Нагода ў тым, – адкажу я, – што гэта не імёны, як у нас, а розныя найменні тых жа самых дзеячоў, далёка праславіўшыяся на розных мовах вялізнай візантыйскай тэтрархіі.

Тут мы маем справу не з самастойнай вынаходлівасьцю розных аўтараў, а менавіта з рознымі рэчаіснымі найменнамі для адных і тых жа асоб, усё адно, ці будзем мы лічыць іх міфічнымі ці рэчаіснымі. Адзначым яшчэ, што ўсе гэтыя «цары» лічацца даіерагліфічнымі, таму што ў іероглiфах пра іх нічога няма, акрамя імёнаў у чужых радаводах, а існуюць толькі ўрыўкавыя паведамленні ў грэцкіх паданнях, якія я дапасую без выключэння, як гэта ні супярэчыць сучасным уяўленням, да Эпохі Адраджэння ці да яе пярэдадня.

Такім чынам, найменне Мена, азначае як я ўжо выказваўся, Устойлівы, тое ж, што і Канстанцый па-грэцку. Усё паказвае, што як у Бібліі, так і тут мы маем справу не з рэчаіснай гісторыяй, з міфалогіяй не аднаго Ягіпта, а цэлай лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкай тэтрархіі III і IV стагоддзяў нашай эры, пазначыўшай па-рознаму гады іхнага валадарання грунтуючыся на нейкіх яшчэ невядомых для нас кабалістычных меркаваннях, пераканаўчых толькі для ствараючых такія міфы дзіцячых розумаў.

Другім «чалавечым» тэакратам гэтай «Першай псеўда-ягіпецкай дынастыі» згодна з грэцкімі крыніцамі, быў – паведамляюць нам – Атотыс (ён жа Тота (Давыд) – згодна з Абідоскім спісам). Ён адпавядае Енасу кнігі Быцця, пры якім, згодна са сведчаннем гэтай кнігі, (гл. 4, 26) упершыню пачалі ўшаноўваць бога-Бацьку (**IEYE**). Гэта нам дае ўжо часы Арыя і Дыяклетыяна-Богапаклiканага, празванага Ёвіус (боскі).

Ён – паведамляюць нам – напісаў нават твор па анатоміі, (праўда, без малюнкаў!) быў майстэрскім лекарам знайшоўшым сродак вырошчваць валасы на галовах лысаватых людзей, толькі рацэпт яго лекаў забыты ў наш час. Не спыняючыся тут на крытыцы яго анатамічных ведаў, я нагадаю толькі, што хірургічныя дасьледаванні чалавечых трупаў, а такім чынам і сама анатомія, пачаліся толькі з часу брусельскага лекара Андрэя Вязалія (1514-1564 г), а раней такой навукі не існавала. Гэта азначае і легенда пра яго кнігу па анатоміі не магла быць створанай грэцкімі аўтарамі раней XVI стагоддзя.

Пры двух царах Уенефесах (Вэнэфэсах), г.азн. адпаведна з нашымі супастаўленнямі пры Кастусю і Ліцынію, із якіх абодва ў Занарыса адпавядаюць

аднаму біблейскаму Кінану, а ў Абідоскай табліцы аднаму Аце, была – кажуць нам, – пабудавана прыступкападобная піраміда паблізу Сакара, прататып хрысьціянскіх званніц, але пад ёю знойдзены толькі касткі цялят-серафімаў (Серапісаў), так што яе час, грунтуючыся на існуючай храналогіі, хутчэй можна было б дапасаваць да дынастыі цароў-быкоў, а з нашага боку гледжання ўшанаванне цялят магло існаваць і пад час Візантыйскага перыяду, пазначаючы пачатак злічэння гадоў ад апускання сузор'я Цяляці ў полымя вечаровага зарыва, знак прынашэння яго ў ахвяру ўсеспалення.

Пры Семемпсесе – біблейскім Енаху – былі згодна з грэцкімі апакрыфістамі «цудоўныя з'явы», а потым чума і паўстанні, меўшыя наступствам падзенне гэтай першай «чалавечай» дынастыі. Пазначым, што згодна з Бібліяй Енаха «раптам не стала (Быццё 5.24), таму што яго забраў бог», а ў Абідоскім спісе ён, замест імя, намаляваны чалавекам з кіем, як вечны падарожнік.

У часы апошняга тэакрата першай ці першага другой «чалавечай» дынастыі – Баэтоса (Буцау) біблейскага Ламяха, відаць зноў жа Дыяклетыянавага новага перыяду той жа перыядычнай сістэмы, – паведамляюць нам, – расчынілася зямля паблізу горада Бубастыса (відавочна паблізу Геркуланума, таму што ў даліне Нілу, мяркуючы па захаванасьці яго абеліскаў, не было катастрафічных землятрусаў), і паглынула шмат каго із яго жыхароў. Пры наступным тэакрату Какау, імя якога азначае Цяля Цяльцоў, біблейскім Ною, выплыўшаму цэлым із вады патопу, захаваўшы ўсе роды жывых істот, быў, згодна з грэцкімі аўтарамі, заснаваны культ Авена, г.азн. першапачатковае хрысьціянства, што адпавядае ўжо сярэдзіне IV стагоддзя, таму што размову з нябесным Авенам, як знакам бога, мы маем упершыню ў Апакаліпсісе (395 г.). А ў Абідоскай табліцы Авен і Агніца богу стаяць пры яго наступніку, адпавядаючаму «Вялікаму цару».

Пры гэтым жа наступніку, Бінотрысе – біблейскім Сіме – было ўсталявана – паведамляюць нам – права за жанчынамі ўспадкоўваць пасад і быць апекунамі малалетніх спадкаемцаў пасаду. Згодна з сучаснымі гістарычнымі паданнямі гэта было пры Юлію Цэзару, зрабіўшым царыцай Клеапатру, а згодна з нашымі храналагічнымі параўнаннямі, атаясамляючымі Бі-Нотрыса з «Вялікім царом» Святцаў, пры «евангельскім Хрысьце».

Пасьля гэтага нам няцяжка ўсталяваць, што цар Уцнас псеўда-другой дынастыі, ён жа біблейскі Арфаксад, адпавядае Хвядосу Вялікаму, што цар Сэпці, імя якога азначае «Святы» хутчэй усяго Ян Залатавуст, а Цацай, біблейскі Сала, з'яўляецца Аркадзем, калі тут не дапушчаны перапынак пры пераходзе да наступнай дынастыі, каб не пакінуць першага яе цара без бацькі і без генеалогіі.

Тут мы ўшчыльную падыходзім да моманту, калі адбылося з'яўленне нацыянальных альфабэтаў на розных мовах лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкай тэтрархіі, і ў адпаведнасьці з гэтым мы чытаем у Бібліі, што каля таго ж часу (хаця ў Бібліі і не паказана, пры якім із гэтых тэакратаў) былі падзелены богам-Грамабоем зямныя мовы, і, перастаўшыя разумець адзін аднаго, народы перасяліліся ў розныя краіны зямной паверхні. З філалагічнага боку гледжання гэта павінна было здарыцца пры Іверы, імя якога азначае Перасяленец (ЭБР), а Біблія акрамя таго злучае гэтае перасяленне з пабудовай вялікай піраміды, як вежы да нябёс[30].

[30] Заканчэнне главы 10 і пачатак гл. 11.

Мы бачым, што наша супастаўленне непасрэдна прыводзіць нас да першараднага гістарычнага моманту, які вядомы пад імем Вялікага перасялення народаў пад час IV і пачатку V стагоддзя нашай эры.

Усё гэта вымушае думаць, што як у Бібліі, так і ў Абідоскай царскай табліцы мы маем справу са шкілетам гістарычнага міфа, у якім рэчаісны касьцяк яшчэ не паспеў пакрыцца целам, г.азн. яшчэ не цалкам аброс прадуктамі чыстага ўяўлення.

І мы бачылі ўжо, што і міф пра Ромула і Рэма і пра іхных шэсць царскіх нашчадкаў, дайшоўшы да нас у першай дэкадзе кніг Ціта Лівія, мае тое ж самае паходжанне, як і прыведзены зараз. Ён таксама з'яўляецца фантастычным апавяданнем пра толькі што згаданых дзеячоў IV стагоддзя.

Усё гэта выяўляе, што як іерагліфічны надпіс Абідаса, так і Біблейская кніга Быццё, узніклі ніяк не раней VI стагоддзя нашай эры. Інакш, чаму б у ёй адбілася нават «перасяленне народаў?».

Само сабой зразумела, што справа тут не абыйшлася без варыянтаў. Хаця нашы грэцкія першакрыніцы па гэтаму пытанню: Яўсевій, Афрыкан, Занарас, а таксама Флавій (усіх іх я далучаю да апакрыфістаў Эпохі адраджэння) і сцвярджаюць, што яны здабываюць веды із адной і той жа таямнічай крыніцы – нікому акрамя іх невядомага «ягіпецкага жраца Манефо», – але яны ўсё ж разыходзяцца не толькі ў вызначэнні часу валадаранняў і ў імёнах цароў, але нават і ў колькасьці прадстаўнікоў той жа самай «дынастыі», як сам чытач можа пераканацца із прыкладзеных табліц, дзе я памяшчаю і генеалагічны пералік Эратасфена, і Сакарскі спіс.

Тут жа я даю і мае варажбітныя атаясамленні.

Акрамя таго, я хачу тут дадаць і некалькі папярэджванняў адносна майго наступнага выкладання. Нязручна ставіцца да чытача так, як гэта зрабіў Гофман у сваім рамане «Прынцэса Брамбіла». Вы чытаеце яго некалькі гадзін з нейкім галавакружэннем і нічога не разумееце. Гэтая дзяўчына ў асобных главах з'яўляецца перад вамі то простай беднай швачкай, то заможнай арыстакраткай, то падарожніцай у далёкія краіны. Вы чытаеце сотню старонак і не разумееце, што ж тут за бязладдзе. Сон гэта ці перайманне рамана, напісанага вар'ятам? І вось на самым заканчэнні кнігі вы раптам даведваецеся, што ў ёй апісана жыццё першакласнай актрысы, якая да такой ступені захаплялася сваей роллю, што ўжо атаясамлівала яе са сваімі рэчаіснымі перажываннямі і адчувала сябе то прынцэсай, то жабрачкай, то гандляркай, то ў Францыі, то ў Ягіпце... Калі б Гофман папярэдзіў пра гэта загадзя, то вы чыталі б яго раман не без задавальнення, а пры такім адкладванні тлумачэння да заканчэння вам нічога не застанецца зрабіць, як усклікнуць, падобна мне самаму, калі я яго закончыў:

– Брамбілла! Ты мяне забіла!



Мал. 159.
Прыступкападобная піраміда на Сакарскім полі. Удалечыні бачны Вялікія піраміды Гізехскага поля. Яна лічыцца самай старажытнай дзякуючы сваёй грубай пабудове, але пра яе прызначэнне ўказанняў няма.

У такім жа становішчы будзе і мой чытач, калі я загадзя не папярэджу яго пра канчатковыя высновы майго крытычнага агляду сучаснай ягіпталогіі. Шэраг астранамічных вызначэнняў часу дакументаў, служачых першакрыніцамі нашай сучаснай палестынскай, рымскай і элінскай гісторыі, далі мне новыя храналагічныя даты і высветлілі для мяне яшчэ раней, што ўсе іхныя дзеячы храналагічна налягаюць на знакамітых наступнікаў Дыяклетыяна і з'яўляюцца толькі разнымі выкладаннямі гісторыі таго ж самага перыяду.

І вось і тут выяўляецца, што ўся ягіпецкая старажытная гісторыя таксама з'яўляецца толькі шэрагам водгаласаў той жа візантыйскай гісторыі IV стагоддзя, толькі паўтаранай у псеўда ягіпецкіх «дынастыях» каля 30 разоў, чаргуючыся як сем дзён тыдня, пададзеных на маёй табліцы на розных мовах.

# Глава IV.

## Псеўда-трэццяя дынастыя чалавечых старажытна-ягіпецкіх цароў.

Такім чынам, першыя дзьве «дынастыі» нібы-та чалавечых (а больш дакладна – чалавекападобных) ягіпецкіх цароў, пачынаючы ад Мены ніколі не існавалі самастойна, а спісаны з валадароў лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкай тэтрархіі пярэдадня сярэднявечча. Гэтыя валадары сапраўды былі ягіпецкімі тэакратычнымі царамі, але прызнаваліся за сваіх таксама і латынянамі, і грэкамі, і сірыйцамі, а жылі яны звычайна не ў Мемфісе ці Фівах (якія да таго ж да гэтага часу не знойдзены, не гледзячы на ўсе намаганні), а ў стратэгічным цэнтры сваёй імперыі – Царгорадзе, на беразе Басфора, і толькі ў паходах, ды на багамолле, хадзілі ў даліну Нілу, дзе стаялі галоўныя іхныя храмы.

Паглядзім, ці не выявіцца таго ж і ў «трэццяй дынастыі», якую мы таксама не павінны разглядаць як ідучую за першымі. Радавод жа Рамесу Вялікага на

Абідоскай табліцы з’яўляецца не храналагічным канспектам старажытнай гісторыі, а кангламератам першапачатковых урыўкавых гістарычных паведамленняў, размеркаваных у адзін шэраг старажытным кампілятарам так жа наіўна, як дзіцёнак размяшчае свае цацкі, з перакананнем, што робіць нешта вельмі сур'ёзнае.

З такога боку гледжання вельмі цікава зрабіць параўнанне чалавекападобных дынастый Архейскага Ягіпта не толькі з біблейскімі патрыярхамі, але і з іншымі спісамі цароў у Бібліі.

Тут я зноў павінен нагадаць чытачу: мова іерогліфаў павінна быць вельмі блізкай да біблейскай, і толькі добра ведаючы жыдоўскую мову ўсталюе нам правільнае чытанне іерогліфаў. Вось чаму ўсе ягіпецкія радаводы патрэбна передусім параўноўваць з біблейскімі, якіх асабліва шмат у кнізе «Быцця» і ў кнізе «Параліпаменон».

Возьмем передусім Параліпаменон, г.азн. па грэцку «Забытыя справы» (І,. гл. І, 43).

«*Вось цары*, – паведамляе яна, – *валадарыўшыя ў зямлі Адум, г.азн. у Рамеі* (Балканіі), *перш чым там запанаваў Цар Богазмагальнік* (г.азн. Савул ці Давыд):

**Цары зямлі Адум.**

*Бэла* (Блэ), *сын Беора ў горадзе Данубе.*

*Пасьля яго сьмерці Іабаб* (Іу-ббе-Боскае Вока), *сын Зэраха із Вцры* (ці Цры-Црэ).

*Пасьля яго сьмерці Хушам* (Хушм) *із Цімны*.

*Потым Гадад* (Едд) *сын Бедада із Эйута, перамогшы мадыянаў* (Мдзін) *на полі Муаба*.

*Потым Сымла* (Шмле) *із Мацрэке*.

*Потым Савул (*Шаул*) із Рэхабута* (Рхбут), *што пры струмені.*

*Потым Бэл-Ханан* (Бел-Хнн), *сын Экбура*.

*Потым Гадад* (Едд) *із Фэі і жонка яго была Меітбаль* (Меіфбал) *дачка Метрэда*, *унучка Мі Зеба* (Мі Зеб).

*Пасьля гэтага ў Адуме* (Рамеі) *былі адзінаццаць Старэйшын* (аліфаў).

Мы бачым, што тут старэйшыны храналагічна адпавядаюць біблейскім суддзям (Шуфцім), якія былі перад першым царом богазмагальнікаў Савулам. Але Савул у нас налягае на Сулу, а Сула на Аўрэліяна. Такім чынам, увесь гэты спіс нам даводзіцца дапасаваць да перыяду перад Аўрэліянам, г.азн. да дынастыі Геліагабала і яго сына Аляксандра Севера, і мы сапраўды бачым поўную адпаведнасьць у колькасьці (табл. LI).

Акрамя таго, выказванне, што яны былі раней, чым «над багазмагальнікамі запанаваў Цар (Млк-Млк), г.азн. Савул ці Давыд, пераносіць час да перад-Аўреліянскім перыядам, калі Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкая Тэтрархія часова кіравалася «трыццаццю царкамі (тыранамі)».

Усё гэта дае дададзеную тут схему параўнанняў (табл. LI).

ТАБЛІЦА LI.

Прыкладнае параўнанне адумскіх цароў з нашчадкамі Геліагабала.

| | |
|---|---|
| Бэла сын Беараа | Геліагабал (218-222). |
| Іабаб сын Зераха | Аляксандр Сявер (222-235). |
| Хушам із Тэманіцян | Максімін (235-238). |
| Гадад, сын Бедада | Пiліп (238-248). |
| Самла із Мацрэкі | Дэкій (248-252). |
| Савул із Рэхабута | Гал (252-257). |
| Бел Ханан | Валяр'ян (257-259). |
| Гадад і яго жонка | Галіен (259-268). |

| | |
|---|---|
| 12 Суддзяў | 30 тыранаў (268-271). |

Не цяжка бачыць, што аналагічныя супастаўленні мы можам зрабіць і з ягіпецкімі царамі 3-й дынастыі, але справа ў тым, што наступнікі Аляксандра Сявера не валодалі Ягіптам.

Вось чаму, толькі пераканаўшыся, што ў нас няма на мэце рабіць пагадненне ягіпецкіх іерагліфічных дынастый з ранейшымі біблейскімі і грэцкімі спісамі, я зноў буду шукаць у іх аналогіі з тымі ж наступнікамі Аўрэліяна, грунтуючыся на правіле перыядычнага чаргавання сямі дзён тыдня на працягу ўсяго года. І як у годзе із гэтых сямёрак набіраецца 365 дзён, так і ў радаводзе Вялікага Рамесу набіраецца 77 пакаленняў із пасьлядоўнага далучэння адзін да аднаго некалькіх разнамоўных спісаў сямі наступнікаў Аўрэліяна і Дыяклетыяна на заканчэнні III і на працягу першай паловы IV стагоддзя.

А наконт таго, што іхныя найменні незлічоныя і розныя ў кожнага аўтара, чытач сам можа пераканацца, прагледзеўшы якую заўгодна із маіх табліц, дзе параўнаны пры гэтым жа толькі аднамоўныя адзін з адным грэцкія аўтары. Із кожнай табліцы можна зрабіць доўгі радавод размясьціўшы, слупкі ў адзін безперапынны слупок.

У гэтай «трэццяй дынастыі», да нашых асноўных першакрыніц – Абідоскага спісу, Сакарскага спісу, Турынскаму папірусу, Афрыкана, Яўсевія-Памфіла (г.азн. набожнага ўсялюбца) – зноў дадаецца Эратасфен, у якім мы бачым характарыстычную асаблівасць, цалкам адпавядаючую нашай выснове пра перыядычнасць усіх дынастый.

У яго першыя тры цары Абідоскага спісу – Мена, Тота і Атоть пад тымі ж самымі імёнамі – пачынаюць першы перыяд (гл. вышэй табл. XLIX, слупок XII), другі перыяд цалкам адсутнічае (табл. L), і трэцці (табл. LII) з'яўляецца працягам першага. З нашага боку гледжання гэтаму і здзіўляцца няма падставаў: тут тое ж самае як панядзелак, аўторак і серада аднаго тыдня перыядычна налягаюць на тыя ж дні папярэднічаўшага тыдня. Але тут мы бачым і нешта нашмат больш дзіўнае. У трэццяй дынастыі цары Абідоскага спісу ідуць у адваротным парадку, чым у Сакарскім спісе. Усё адно як калі б у адным тыдні вы лічылі дні як звычайна, а на наступным наадварот: нядзеля, субота, пятніца, чацьвер, серада, аўторак і панядзелак (гл. на табліцы LII слупкі I і II, дзе ў першым слупку я павінен быў узяць №№ 14-20 знізу ўгару, каб атрымаць адпаведнасьць імёнаў з другім слупком). І такую ж з'яву мы пабачым і яшчэ раз у адзінаццатай і дванаццатай дынастыях.

Якім чынам магла адбыцца такая блытаніна і прытым не ў асобных выпадковых месцах, а ва ўзятых цалкам «дынастыях»? Вядома, толькі ў тым выпадку, калі б яны ўсе спачатку ўяўлялі не рэчаісную доўгую паслядоўнасць ягіпецкіх цароў, а выпадковыя спісы іхных разнамоўных мянушак, штучна складзеных адзін з адным, як аднолькавыя дошкі ў прыступках ганка. Тады толькі і будзе ўсё зразумела, продкаў жа аднаго і таго ж чалавека можна лічыць і ад нейкага родапачынальніка аж да дадзенай асобы, як зрабіў, напрыклад, евангеліст Мацьвей, пачаўшы сваё Евангелле арыгінальнымі словамі: «Аўраам нарадзіў Ісака, Ісак нарадзіў Якава, Якаў нарадзіў Юду» і г.д. аж да Ёсіфа, якога такім чынам ён лічыў яшчэ за праўдзівага бацьку Хрыста. А магчыма лічыць і назад, пераходзячы ад вашага бацькі да дзеда, прадзеда, прапрадзеда і г.д., як зрабіў евангеліст Лука пры пераліку продкаў таго ж Езуса ад яго бацькі аж да Адама.

Абодва гэтыя выпадкі мы і назіраем пры параўнанні асобных «дынастый» Абідоскай табліцы з такімі ж у Сакарскай.

Такія ж выпадкі могуць існаваць і ў іншых генеалагістаў, а таму мы не павінны здзіўляцца, калі ў асобных псеўда-дынастыях поўная аналагічнасць з агульнай схемай атрымліваецца толькі пры злічэнні іхных цароў у адваротным парадку.

Пры другім цару-тэакрату трэццяй чалавекападобнай дынастыі Нэф-Ерке Рэ (№ 19 Абідоскага спісу) дыск месяца, – паведамляюць нам, – раптам зрабіўся вялізным, што напалохала выступіўшых супраць яго лівійцаў. Калі лічыць, што гэта – пераблытанае апісанне месяцовага зацьмення, то мы можам пазначыць, што бачныя ў Ягіпце і ў Яўропе поўныя зацьменні Месяца каля часу Дыяклетыяна (281-305 гг.) і Арыя, якому адпавядае Неф-Ерк, адбыліся:

304-VIII-31, у 20 гадзін 47 хвілін ад грынвіцкай поўначы (15" 9).
303-IX-19, у 19 гадзін 10 хвілін ад грынвіцкай поўначы (12" 7).
303-III-19, у 21 гадзіну 49 хвілін ад грынвіцкай поўначы (15" 0).
299-XI-24, у 19 гадзін 59 хвілін ад грынвіцкай поўначы (14" 5).
296-VII-31, у 20 гадзін 5 хвілін ад грынвіцкай поўначы (16" 0).
293-X-2, у 23 гадзіны 17 хвілін ад грынвіцкай поўначы (14" 3).
289-VI-20, у 22 гадзіны 3 хвіліны ад грынвіцкай поўначы (21" 5).

У псеўда-трэццяй «чалавечай» дынастыі, Цэсар-Шах (№16) набыў славу знакамітага лекара і быў, – згодна са сведчаннем грэцкіх апакрыфістаў, – празваны Богам Лекавання. Эратасфен заве яго «найвялікшым із людзей». Ён жа, – кажуць нам, – з’яўляецца вынаходнікам іерагліфічнага пісання і навучыў абцёсваць камяні для вялізных пабудоваў. Ён налягае ў нас зноў, згодна з законам перыядычнасьці на Васіля Вялікага, правобраза евангельскага Хрыста.

А псеўда-апошні  із гэтых цароў, згодна з Абідоскім спісам, Цацаы (№ 14), імя якога азначае Паляпшальнік – тытулуецца «Гасподзь Праўды». Гэта біблейскі Фара, імя якога сугучна з Тора, г.азн. Закон, і адпавядае ў нас Яну Багаслову (ён жа Ян Залатавусны). Пра цароў гэтай дынастыі ўпершыню, акрамя не маючых значэння пазнейшых папірусаў, пачынаюць сведчыць і камяні. На адной із магільняў Мемфіскіх могілак існуе надпіс: «Гека, дойлід цара Снофру (С. Неф-Рэ, № 20, табл. LII»)[31].

ТАБЛІЦА LII.

Псеўда-трэцяя дынастыя чалавекападобных старажытна-ягіпецкіх цароў згодна з рознымі аўтарамі і адпаведна іхнаму параўнанню з біблейскімі пасляпатопнымі патрыярхамі і з царамі класічных пісьменнікаў.

| I. Згодна з Абідоскім спісам | II. Згодна з Занарасам ад імя Манефо | III. Згодна з Афрыканам ад імя Манефо | IV. Згодна з Яўсевіем ад імя Манефо | V. Згодна з Сакарскім спісам | VI. Згодна з Турынскім спісам |
|---|---|---|---|---|---|
| 20. С. Нэф-Рэ (цар-прарок) | Нэф-Эрк-Рэс | Нэф-Эрк-Рэс, 25 г. | «Дзевяты» (ὀένατος) | 8. Цар Нэф-Ерк | Цар Нэф-Ерк |
| 19. Цар Нэф-Эрк | Сосо-Хрыс | Сосо-Хрыс 48 гадоў | – | 9. Сакр-Нэф-Ерк | Сакр-Нэф-Ерк, 8 гадоў 3 мес. |
| 18. Сэчэс | Хан-Рэс | Хан-Рэс (цар-хан), 30 гадоў | – | 10. Сцёрта | Гуцэфа 11 гадоў 8 мес. |
| 17. Тота (До-да, Давыд) | Нахер-Офес | Нахер-Офес, 28 гадоў | Нахер-Охес | 11. Ба-Ба (+трохкутнік | Бэбці? |

[31] Бругш, стар. 50 арыгінала.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | у знак астраноміі) | |
| Адсутнічае | Тасор-Трос | Тосор-Тос 29 гадоў | Адсутнічае | 12. Цэзар-Рэ | Цэзар, 19 г. |
| 16. Цэзар-Шах<br>15. Неб-Ка (прарок) | Цюрэйс Месо-Хрыс | Цюрэйс, 7 гадоў<br>Місо-Хрыс, 17 гадоў | Сезартос «I яшчэ шэсць» | 13. Цэзар-Тота (ці До-да)<br>14. Рэ-Неб-Ка (цар-прарок) | Цэзэрці (цэзарыён) 6 гадоў<br>. . . цэфо, 6 г. 1 мес. |
| 14. Цацау + галава чалавека | Суфіс. Тасор-Тасіс, Ахес, Сефу-Рэс і Кефе-Рэс | Софіс, 16 г. Тасер-Тасіс, Ахес, Сефу-Рэс і Кафе-Рэс | Канец | 15. Чалавек з палкай і вяроўкай<br>16. С. Нефер-Фру | Гуну і С. Наф-Рэ, 24 гады |

| VII. Згодна з кнігай Быццё і з радаводам Хрыста ў св. Лукі. | VIII. Згодна з візантыйскімі апакрыфістамі. | IX. Згодна з біблейскай кнігай «Цары». | X. Згодна з лацінскімі апакрыфістамі. | XI. Згодна з Эратасфенам. |
|---|---|---|---|---|
| 20. Тора | Дыяклетыян | Майсей | Пампей Вялікі | 6. Тыгразмагальнік (Тойгарамахас) Мемфіскі, Найвялікшы із людзей, цар хваляў, 79 гадоў |
| 19. Нахор | Арый | Арон | Созіген? | 7. Стайхос, яго сын, 6 гадоў Ἄρης ἐναιστος |
| 18. Серух | Канстанцый Хлор | – | Юлій Цэзар | 8. Гасорміес, сябар кожнага, 30 гадоў |
| 17. Рагаў | (не занесены) | – | – | Не занесены |
| 16. Фалек (г.азн. Падзел) | Ліцыній | Аб-Іе | Антоній | 9. Марэс, дарунак Сонца, 26 гадоў |
| 15, Эбер (перасяленец) | Васіль Вялікі (Вялікі цар) | Аса (Езус) | Хрыстос | 10. Апаюфіс, 22 гады<br>11. Сірыос |
| 14. Сала | Ян Залатавусны і апосталы Пятро і Павел | Іасафат Норам | Ян Залатавусны? | 12. Хнубас-Гнейрас, Залатакудры сын Залатакудрага |

Тут звяртаюць на сябе ўвагу; 1) № 16 Абідоскага спісу, № 12 і 13 Сакарскага і адпаведны радок Турынскага папірусу, дзе чытаем іерагліфічна напісанымі проста тытулы, набыўшыя пашырэнне толькі пасьля пачатку нашай эры: Цэзар-шах, Цэзар-цар, і сугучныя з цэзарам у тым жа радку Тасора Занараса і Афрыкана, а згодна з лацінскімі аўтарамі ў гэтым жа радку стаіць цэзар Актавіян Аўгуст. 2) № 15 Абідоскага спіса, дзе цару Неб-Ка. (г.азн. прароку К.) адпавядаюць шматлікія аперцэпцыі таго ж самага евангельскага Хрыста. Але і тут патрэбна падзначыць тое ж, што было сказана пра папярэднічаўшыя дынастыі: не ўсе варыяцыі імёнаў у тым жа радку ўяўляюць толькі розныя найменні той жа асобы. То тут, то там з'яўляецца і яе храналагічны ізатоп, г.азн. замена суваладаром ці знакамітым сучаснікам, засланіўшым свайго валадара. Акрамя таго, значныя пераінчванні тых жа самых найменняў нават у аднамоўных адзін з адным грэцкіх аўтараў, а таксама адвольныя прыпіскі і ўстаўкі так пераінчылі першапачатковую схему «сямі апакаліптычных цароў», што патрабаваць дакладнага паралелізму ўсіх слупкоў і тут немагчыма.

Тут мы ужо заходзім у вобласць падлягаючую навуковай распрацоўцы, таму што толькі зараз і пачалася згодна з вышэйпавядомленым ягіпецкая насьценная пісьмовасць. Надмагільным помнікам Снофру (больш дакладна С. Нэф-Рэ) лічаць піраміду Ха (г.азн. Ушэсьце на неба), паблізу Мейдуна, але яна ў сучасных

ягіптолагаў мае назву «ілжэ-піраміда», таму што хутчэй мае выгляд праваслаўнай званніцы.

# Глава V.
## Псеўда-чацьвёртая (пірамідная) дынастыя чалавекападобных старажытна-ягіпецкіх цароў. Загадкавая нікчэмнасць «цароў вялікіх пірамід».

«Усе дарогі вядуць у Рым» – паведамляе лацінская прыказка, і вось мы зноў прыйшлі да яго ў Ягіпце, хаця пад гэтым Рымам і даводзіцца пакуль разумець, відаць, не італійскі Рым, а Рамею, г.азн. Візантыю. Відавочна, сусьветная лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкая тэакратычная імперыя IV-V стагоддзяў зрабіла вельмі моцнае ўражанне на ўвайшоўшыя ў яе склад народы, што пазьней пад час сярэдневечча было падставай узнікнення вялікай колькасьці разнастайных міфаў.

Пасьля псеўда-трэццяй дынастыі ў Абідоскім спісе мы непасрэдна пераходзім да Ху-Фу наступнай IV дынастыі (Хеф-Рэну грэцкіх аўтараў), зноў адпавядаючаму Дыяклетыяну (284-305), а згодна з Бібліяй Абраму, г.азн. Бацьку-Рыма. Над ім і выяўляецца пабудаванай галоўная із трох вялікіх пірамід на Гізехскім полі, дзе і жыў адзін час, згодна з біблейскім міфам, вялікі патрыярх Абрам, які сапраўды заслужыў такую піраміду.

Так пачынаецца чацьвёрты паўтор казкі пра ягіпецкага белага бычка, хаця б яшчэ і не Апіса, але ужо і з пазначэннем магільняў.

Наступнік Аб-рама Ісак – з гэтага боку гледжання – аналагічны Дэдэф-Рэ (ці Рэ-Тэтфу) Абідоскага спіса, павінен адпавядаць хутчэй усяго Канстанцыю Хлору, з якога спісаны і Юлій Цэзар. Яму мы не бачым піраміды.

Наступнік Ісака – Богазмагальнік Якаў – першы пабачыўшы ўсходы на неба – задыякальнае кола для руху планет, больш усяго адпавядае, як мне здаецца, Арыю, якому, відаць, і ўзведзена другая вялікая піраміда. А апошні біблейскі патрыярх – тэакрат Юда Якаўлеў як быццам адпавядае евангельскаму апосталу таксама Юдзе Якаўлеву. Але гэта імя азначае проста «богаслаўячы» (Ie-Удэ), ці «праваслаўны», а таму можа пазначаць і евангельскага Хрыста, і яго двайніка, заснавальніка праваслаўнай літургіі Васіля Вялікага, якому такім чынам пад іерагліфічным імем Менк-Рэ (грэцкае Менкаўра) узведзена трэццяя вялікая піраміда, магчыма замест першай простай, із якой маглі перанесьці яго мумію ў больш прыдатнае месца, таму што труна тут выявілася пустой. Але адносна яго існавала, відаць, шмат непагадненняў, і яму адпавядае шмат мянушак: Ра Ёсіс Архікратыр (Бог Езус Усётрымаючы) і Біу-Рэс, напэўна, Pius Rex. А ў Афрыкана ён жа мае назву Ра-т-Айсэс, накшталт цар Іезус. Вось чаму я і даю гэтую «дынастыю» ў двух падобных схемах (табл. LIII і табл. LIV).

Так мы дайшлі да трох знакамітых ягіпецкіх пірамід, гэтага сапраўднага дзіва старажытных велічных пабудоваў і ўжо апрыёрна павінны зрабіць выснову, што вялікімі былі і людзі, у гонар якіх яны пабудаваны[32].

---

[32] Ранейшае меркаванне, што цары самі сабе іх будавалі падчас двух-трох ці нават чатырох дзесяцігоддзяў свайго валадарання, прыдатна толькі для тых, хто не мае ніякага разумення пра працоўны кошт пірамід. Гэта праца шматлікіх пакаленняў, і будаваліся яны, як курганы, толькі пласт над пластом на сродкі шматлікіх валадароў, лічыўшых пахаваных тут людзей за вялікіх сьвятых.

І раптам мы бачым, што пад тымі імёнамі, якімі называюць меркуемыя пад пірамідамі парэшткі, па-сутнасьці былі нікчэмнасьцямі!

«Імя Хуфу на працягу доўгага перыяду часу нават не вымаўлялася народам», – сведчыць Герадот (II, 128), тлумачачы гэта тым, што ён быў ненавідзімы за такую вялікую пабудову...

Але хіба так бывае калі б то ні было ў рэчаіснасьці? Тых жа, каго ненавідзяць, наадварот, лаюць без канца, нашмат больш, чым хваляць тых, каго шануюць. Ды гэта выходзіць і няпраўда.

«*Нешматлікія парэшткі ягіпецкіх успамінаў, дайшоўшых да нас ад часоў Ху-фу*, – выказваецца Бругш[33] – *выстаўляюць яго цалкам у іншым асьвятленні, чым паведамленні пра яго грэкаў. Існуе надпіс на скале каля Вадзі-Магара, славячы Ху-Фу, як зьнішчальніка сваіх ворагаў*».

ТАБЛІЦА LIII.

Псеўда-чацьвёртая дынастыя чалавекападобных старажытна-ягіпецкіх цароў (першая схема).

| I. Згодна з Абідоскім спісам | II. Згодна з Занарасам ад імя Манефо | III. Згодна з Афрыканам ад імя Манефо | IV. Згодна з Яўсевіем ад імя Манефо | V. Згодна з Сакарскім спісам |
|---|---|---|---|---|
| 21. Ху-Фу 1-я вялікая піраміда | Уся гэтая дынастыя адсутнічае | Со-Фіс (Цар-Ратавальнік) | Няма | 17. Ху-Фу (Хеопс грэкаў) |
| 22. Цар Дэдэф (Дэдэф-Ра) | | Суфіс (Мудры) | Няма | 18. Цар Тэтэф (Тэтэф-Рэ) |
| 23. Цар Хеф (Хэф-Рэ) 2-я вялікая піраміда | | Суфіс II | Няма | 19. Цар-Хеф (Хеф-Рэ) |
| | | Цар-Мена (Мену-Рэ), 63 гады | Няма | 20. (выламана) |
| 24. Цар Мена (Мен-Каф-Рэ) 3-я вялікая піраміда | | Ра-т-Айсэс (Ρα τ̓Οισης) (Цар Езус?) | Няма | 21. (выламана) |
| 25 і 26. Шэйсэс-Каф і Ус-Каф | | Бі-хе-Рэс, Себер-хе-Рэс (7 г.), Тамфтыс (19 г.), Усер-хе-Рэс (28 г.) | Няма | 22,23,24 (выламаны) 25. Усер-Каф |

| VI. Згодна з Турынскім папірусам | VII. Згодна з радаводам Хрыста ў Евангеллі Лукі | VIII. Згодна з візантыйскімі гісторыкамі | IX. Згодна з біблейскімі кнігамі | X. Згодна з Эратасфенам. |
|---|---|---|---|---|
| Ху-Фу, 23 гады | 21. Аб-рам (бацька Рыма) | Дыяклетыян Боскі | Майсей | 17. Мосхэ-Рас (дадзены Сонцам) |
| Цар-Дэдэф 8 гадоў | 22. Ісак (пашыральнік закона) | Канстанцый Хлор? | Не пазначаны | 16. Саофіс II |
| Іерогліф не разгаданы | 23. Якаў-багазмагальнік | Арый | Арон | 15. Саофіс I («разгульны») |
| Цар-Менк | 24.Юда (бацька багаслоўя) | Апанас Вялікі (Вялікі Несьмяротны) | | 14. Біу-Рэс (Pius-rex?) |
| 25. Парыс (ён жа Ёсіф Выдатны) | | Вялікі Цар (Васіль Вялікі) | Езус Навін (Ратавальнік прарок) | 13. Рай-Іосіс Усемагутны Ρα-Ιωαις Αρχικρατορ. |

33 Бругш, стар. 75 арыг.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 26. Эс-Ром (ён жа Аф-Рым, сын Ёсіфа) | | Рыгор Багаслоў і Ян Залатавусны | | |
| Ў Занараса ўся гэтая дынастыя адсутнічае. У Эратасфена нумарацыя цароў дадзена ў адваротным парадку, чым у Афрыкана, у якога Ра-т-Айсес азначае цар Айсес, таму што Т па-жыдоўску, часта дадаецца да назоўнікаў. Немагчыма таксама не звярнуць увагу, што тры вялікія піраміды адпавядаюць тром найвялікшым біблейскім дзеячам пры параўнанні радаводу Ра-Месіі з радаводам Хрыста ў евангеллі Лукі, а пад іхнымі іерагліфічнымі імёнамі яны – нікчэмнасць. | | | | |

ТАБЛІЦА LIV.

IV Дынастыя. Дынастыя Вялікіх Пірамід (другая схема).

| I. згодна з Бібліяй і Евангеллем Лукі | II. згодна з Абідоскай табліцай | III. згодна з Сакарскай табліцай | IVа.Эратасфен згодна з яго прамой пасьлядоўнасьцю | IVв.Эратасфен згодна з яго адваротнай паслядоўнасьцю | V. Афрыкан 1-ы варыянтны шэраг | V. Афрыкан 2-і варыянтны шэраг | Атаясамленні |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 21. Аб-Рам (бацька Рыма) | 21. Ху-Фу 1-я піраміда Светачы | 17. Хуфуф (Хеопс) | 13. Рэ Ёсіс Пантакратар(Усемагутны) | 16. Сафіс | Со-Рыс (цар ратавальнік) | Бі-Хе-Рыс | Дыяклетыян-Богапакліканы, прызваны Iovius (Еговін), ён жа Майсей кнігі «Сыход» і Давыд кнігі Самуіла |
| 22. Ісак «пашыральнік закона» | 22 Цар Вежа Дэдф-Рэ | 18. Дэдк-Рэ | 14. Біу-Рэс | 15. Сафіс | Суфіс (двойчы) | Себер-хе-Рыс | Канстанцый Хлор |
| 23. Якаў Богазмагальнік | 23. Хаф-Рэ 2-я піраміда (Вялікая) | 19. Хеуф-Рэ (Хефрэн) | 15. Сафіс I | 14. Біу-Рэс | Мэна-Рэс 63 г. | Тамфтыс | Арый-Арон, ён жа прарок Самуіл |
| 24. Юда-Іякаўлеў (бацька Юдаізму) | 21. Менкаў-Рэ 3-я піраміда(Высокая) | Выскаблена імя | 16. Сафіс II | 13. Рэ-Ёсіс Пантакратар | Рэт-Айсэс | Усер-Хе-Рыс (28 г.) | «Цар Юдэйскі», Васіль Вялікі, евангельскі Хрыстос |
| Цікава, што калі ў Эратасфена дапусцім (як гэта было ў Абідоскай табліцы для III дынастыі) адваротны ход імёнаў, то Ёсіс Усётрымальнік будзе адпавядаць патрыярху Юдэю і імёны супадуць з дадзенымі ў Афрыкана. | | | | | | | |
| У гэтай «пірамІднай дынастыі» мне патрэбна нагадаць чытачу тое, што я ўжо паведаміў як папярэджанне ў першым томе «Хрыста». Я звярнуў увагу, што Абідоскі радавод Рэ-Месіі складаецца із 76 асоб, як і радавод Хрыста-Месіі ў Евангеллі Лукі. Я паставіў іх абодва побач і што ж атрымалася? Калі я дайшоў да іхнага 21 імя, то піраміда Хеопса (Хуфу) лягла, як на сваю мумію, на найвялікшага із біблейскіх патрыярхаў Аб-рама, імя якога азначае Бацька Рыма. Другая – піраміда Хефрэна – лягла на другога найвялікшага патрыярха Якава-Богазмагальніка, а трэцяя піраміда – на галаву заснавальніка юдаізму, які пад час сярэдневечча яшчэ зліваўся з апакаліптычным хрысьціянствам-месіянствам – Юды Якаўлева. Ці магчыма палічыць усё гэта за «простую выпадковасць?» | | | | | | | |

Але гэта амаль і ўсё, што пра яго вядома. Не вельмі шмат!

Пра яго наступніка Дэдкэ-Рэ – (Рататфэ грэкаў), няма ніякіх паведамленняў, акрамя прыведзенага намі наймення ў Абідоскай і Сакарскай табліцах. Грэкі не ведалі нават пра яго існаванне, і наступнікам Ху-Фу называлі непасрэдна Хефрэна

ці інакш Гебрыеса, лічачы яго то братам, то сынам Хуфу. Толькі на адной выдатна зробленай статуі із цьвёрдага зеленаватага дыярыту, апрацоўка якога безумоўна патрабавала ўжывання цьвёрдых сталёвых разцоў, не раней як сярэднявечнай вытворчасьці і высокай ступені мастацтва, знойдзена імя Хуфу і яго царскія тытулы. А пра яго справы нічога не вядома, хаця некалькі больш позніх надпісаў паведамляюць, што яго шанавалі як бога! Але за што ж такі гонар? Няўжо за адну асабістую нікчэмнасць? Як быццам бы так не бывае!

Пяройдзем зараз і да трэццяга піраміднага волата, бяручы да ўвагі яго вялізны маўзалей, да цара Менкэ ці Менхо-рэсу грэкаў.

Першыя дзьве піраміды выявіліся пры дасьледаванні пустымі, а ў гэтай ангельскі палкоўнік Візэ знайшоў драўляную накрыўку труны і каменную труну, якія ён выправіў у Лондан. Але на шляху карабель зведаў крушэнне каля Гібралтара, труна пайшла да дна, а накрыўка ўсплыла, дайшла па прызначэнню, і на ёй быў знойдзены малітоўны надпіс гэтаму самаму Менкаўру, як сьвятому, але без апісання яго здзяйсненняў. Ды і Герадот (II, 129) характарызуе яго як «валадара рахманага, справядлівага і паважаючага багоў», цалкам забываючы гэтым разам, што калі б ён прымусіў усё насельніцтва будаваць сабе такую пірамідзішчу, то абудзіў бы нянавісць не меншую за тую, якую быццам бы набылі яго папярэднікі. А із труны яго некуды вынеслі...

І вось я зноў пытаю чытача: як магла здарыцца такая недарэчнасць, што самыя вялікія ягіпецкія піраміды, цуды сьвету, пабудаваны для самых нікчэмных із усіх ягіпецкіх цароў? Нават мумій іх там не выявілася, хаця надпісы, зробленыя нетрывалымі вадзянымі фарбамі яшчэ не абсыпаліся?

Усё гэта так супярэчыць цьвярозаму розуму, што даводзіцца толькі зрабіць выснову, што пахаваныя тут людзі спачатку былі нават вельмі знакамітымі пад нейкімі іншымі найменнямі і тытуламі, і што іхныя муміі былі перанесены іхнымі прыхільнікамі грунтуючыся на нейкіх невядомых падставах у іншыя месцы.

А пра сапраўднае значэнне пірамід даводзіцца сур'ёзна падумаць, кіруючыся не толькі сляпой верай у тое, што нам паведамляюць, але і лагічнымі меркаваннямі ў адпаведнасьці з этнапсіхалогіяй.

І я зноў паўтараю: гісторык павінен не толькі запамінаць чужыя апавяданні, але і разважаць грунтуючыся на іхным змесце.

# Глава VI.

## Значэнне пірамід, як прамежкавых прыступак паміж старажытнымі і сучанымі званніцамі.

Спынімся крыху на адным першарадна важным пункце для нашай тэорыі пераемнай бесперапыннасьці чалавечай культуры і паспрабуем высветліць, што ж такое ўяўляюць сабой піраміды?




Мал. 160.
Масіўныя тварэнні старажытнай культуры ў даліне Ніла як бы з птушынага палёту. Маштаб будынкаў для рэльефнасьці павялічаны больш чым у сто разоў параўнальна з атачаючай мясцовасьцю.

Вось перад вамі, чытач, цікавы малюнак із кнігі Карла Опеля: «Дзівы старажытнай краіны пірамід – Ягіпет з вышыні птушынага палёту». Ці не праўда, моцнае ўражанне робіць яна на вас? Праўда, што пры больш уважлівым разгляданні сур'ёзны чалавек пачынае прыходзіць да высновы, што гэта карыкатурна, таму што выбітныя мясьціны краіны намаляваны ў незвычайна большым маштабе, чым сама мапа, і надаюць, як і ўсе астатнія апісанні Ягіпта, перабольшанае ўяўленне пра грандыёзнасць яго старажытных пабудоваў. А калі пачынаеш прыраўноўваць маштабы, то адразу бачыш, што на справе піраміды давялося б намаляваць тут толькі маленькімі кропкамі, а «коласаў» нават такімі

значкамі, якія было б магчымым разглядзець толькі з дапамогай моцнага павелічальнага шкла.

Але ўсё ж гэты «выгляд Ягіпта з вышыні птушынага палёту» характарызуе не адну звычку гісторыкаў перабольшваць значэнне яго архітэктуры, але і сапраўдную асаблівасць краіны: непрапарцыйна вялікія памеры і непрапарцыйна вялікую колькасць храмаў і грандыёзных магільняў даліны Нілу, у параўнанні з ёю самай. Нічога падобнага мы не знаходзім у іншых краінах не толькі старажытных і сярэднявечных, але нават і эпохі гуманізму.

У чым жа рэчаісная падстава такой выключнай асаблівасьці? Няўжо толькі ў простым капрызе жыхароў краіны?

«І сказалі людзі, – як паведамляе біблейская кніга Быццё, – пабудуем вежу да нябёс, і пачалі будаваць вежу да нябёс». Але так, чытач, бывае толькі ў казках. Чалавек, як я ўжо не раз вас пераконваў (але не ведаю, ці паспеў пераканаць), з’яўляецца дзіцём прыроды. Пакуль яна не паспела яго выняньчыць, ён павінен быў расьці ў яе на руках, а самастойна, як сталы, ён пачынае хадзіць толькі пачынаючы з нашага часу, калі прыродазнаўства значна вызваліла яго ад улады стыхійных магутнасьцей прыроды. Пад час старажытнасьці ж і сярэднявечча, калі ён сілкаваўся толькі дзіцячымі казкамі старажытных тэолагаў з іхнымі бясконцымі дзівамі, ён быў у стане і будаваць адпаведна са сваёй самаволяй грандыёзныя палацы і храмы толькі ў сваім уяўленні... А вось жа грандыёзныя пабудовы ў даліне Нілу не фантастычныя, а рэчаісныя. Якія ж магутнасьці былі нагодай іхнай пабудовы, раз мы прыйшлі да высновы, што яны не маглі ўзнікнуць грунтуючыся на простай самаволі людзей?

І вось, паглыбіўшыся ў стыхійную прыроду Ягіпта і яго наваколля, мы знаходзім дастаткова навочнае тлумачэнне гэтага факта, інакш нетлумачальнага.

Ужо з першых момантаў сьвядомага жыцця чалавецтва (і не толькі ў даліне Нілу, але і паўсюдна) яго непазбежна і моцна цікавіла пытанне пра жыццё і сьмерць. Пачуццё самазахавання, выпрацаванае яшчэ на першых прыступках жыцця жывёльнага сьвету іхным змаганнем за існаванне, вымушала і яго інстынктыўна баяцца сьмерці. Ды гэта і натуральна: без такога пачуцця жыццё жывёл з іхнай рухомасьцю не магло б існаваць. Гэта азначае што баязнь сьмерці з’яўляецца пачуццём прыроджаным. Чалавек назірае старасьць і сьмерць сабе падобных і пачынае грунтуючыся на аналогіі прыходзіць да высновы, што яна пагражае і яму, хаця падобная выснова, дзякуючы эгацэнтрызму першабытных людзей, наўрад ці была зроблена вельмі рана: кожны мог лічыць сябе адметнай істотай, не як іншыя, а таму і несьмяротным, калі нехта, ці нешта, яго не заб'е. А пра магчымасць забойства ён, вядома, не адзін раз атрымліваў папярэджванні, хаця б як наступства простага падання пры спатыканні, пры гэтым яму было вельмі балюча. Такая інстынктыўная боязь небяспек з’яўляецца ўласцівай і для бязмоўным жывёл, а таму перадалася і чалавеку, як, напрыклад, у некаторых, «боязь вышыні».

Пазьней, ужо пры больш высокай ступені развіцця, у чалавека пачалі ўзнікаць пытанні: із-за чаго і чаму? Тады і ўсе хваробы і, як іхны вынік, сьмерць – пачалі прыпісвацца, грунтуючыся на аналогіі з рэчаіснымі выпадкамі жыцці, нападам нябачных злых духаў, якія, выгнаўшы із цела душу, пачынаюць пажыраць цела, як языкі полымя пажыраюць дрэва, да самых костак. А іхная прысутнасць, хаця яны і з’яўляюцца нябачнымі для вока, заўсёды выяўляецца кепскім пахам, як і прысутнасць астатніх нячыстых духаў, чаму за імі і ўсталявалася такая назва.

І вось, калі ўжо існавалі сухапутныя і марскія стасункі паміж берагавымі краінамі міжземнаморскага этнічнага басейна, тады на берагах Басфора, служыўшагм натуральным агменем «рамейскай» культуры, непазбежна пачалі пашырацца апавяданні пра цуды далёкіх краін. У Сіцыліі вечна дыміцца вялізная гара – ахвярнік нябеснаму богу – і каля Неапалітанскага заліва на Вязувіі знаходзіцца сядзіба бога-Грамабоя і скалынальніка зямлі. А ў Ягіпце існуе не меншае дзіва: па ўсяму сьвету пайшлі чуткі, што людзі пасьля сьмерці там не гніюць, што каля Мемфіса ёсць «Святая зямля», у якую забаронены ўваход нячыстым духам, пажыраючым цела нябожчыкаў. Целы застаюцца там нятленнымі.

Такія апавяданні, вядома, былі пашыраны да перыяду бальзамавання як наступства той простай акалічнасьці, што пад уплывам супольнага ўздзеяння сонечных прамянёў і пякучага самуму, трупы людзей і жывёл, кінутыя на паверхні зямлі на мяжы пустыні, павінны былі часта высыхаць як сушаная рыба, калі іх не з'ядалі шакалы, і потым заносіліся пяском.

Для валадароў зямлі пад час арыянска-хрысьціянскага перыяду, ужо разумеўшых непазбежнасць не толькі чужой, але і ўласнай сьмерці, найбольш жудаснай перспектывай, вядома, была думка быць абгрызенымі да костак нейкімі пражэрлівымі, смярдзючымі, паганымі духамі. А таму і думка быць пахаванымі ў «Сьвятой зямлі», дзе іхныя целы ў поўнай цэласьці будуць чакаць усеагульнага ажывання памёршых, павінна была здавацца асабліва прывабнай.

У выніку гэтага эліна-ягіпецкія валадары маглі выдаваць загады сваім спадкаемцам, пад пазрозай з'яўляцца да іх пасьля сьмерці і катаваць, перавезьці сябе для пахавання абавязкова ў Ягіпет, на Гізехскае поле. А для большай засьцярогі ад гніення на дарозе мог быць прыдуманы і звычай даставаць папярэдне кішкі і вантробы, як звычайнае месца знаходжання нячыстых духаў, і запаўняць утвараючуюся пустэчу духмянымі рэчывамі, як дэзынфектарамі.

Такім з'яўляецца найбольш натуральнае тлумачэнне выключнай шматлікасьці мумій і грандыёзных магільняў у даліне Нілу. Падставай гэтага была не чалавечая мясцовая самаволя, а сама яго стыхійная прырода.

Але чаму ж над трыма із такіх мумій выраслі гіганцкія піраміды? (мал. 161 і 162) Паглядзім спачатку, што паведамляюць пра гэта гістарычныя паданні.

Згодна з традыцыямі ягіпецкіх арабаў першай паловы XIX стагоддзя, пакуль яны яшчэ не зведалі ўздзеяння еўрапейскай культуры, тры гіганцкія піраміды на паўднёвы захад ад Каіра, на другім беразе Ніла, былі пабудаваны адпаведна з загадам цара волатаў Ган-ібн-Гана, жыўшага задаўга да стварэння Адама[34].

На тамтэйшай мове гэтыя пабудовы маюць назву абу-мір, што азначае магільны склеп, магільня, а грэцкая назва «піраміда» паходзіць ад πύρ (пюр) – полымя, верагодна таму, што на іхных вяршынях начамі запальваліся агніцы, бачныя здалёк. Ягіптолагі XIX стагоддзя пераконваюць нас, што «будаўнік» самай высокай із пірамід Хуфу валадарыў яшчэ за 3733 гады да пачатку нашай эры, г.азн. праз 129 гадоў пасьля сусветнага патопу, таго, які адбыўся згодна з біблейскімі першакрыніцамі (падмацаванымі шматлікімі «сьведкамі») у мінус 3852 годзе.

Але з боку гледжання эвалюцыйных уяўленняў пра гісторыю чалавецтва, у падставе якіх ляжыць паступовае ўдасканаленне тэхнікі і матэрыяльнай культуры,

[34] Карл Опель: Дзівы старажытнай краіны пірамід. Руск. выд. 1868 г., стар. 136.

гэта так жа неверагодна, як і будаўніцтва пірамід вышэйзгаданым царом волатаў Гаі-ібн-Ганам.

Нам немагчыма глядзець на гэты прадмет інакш, як праз акуляры аб'ектыўнага сучаснага сацыёлага і прыродазнаўча-навуковага тэарэтыка. А з рэалістычнага боку гледжання ўся эвалюцыя першапачатковай чалавечай культуры была заснавана толькі на эканамічнай і разумовай няроўнасьці першабытных людзей. Немагчыма ж заплюшчваць вочы на тое, што дадатковыя каштоўнасьці фізічнай працы народных мас старажытнасьці давалі магчымасць з дзяцінства аддавацца разважанням і вынаходлівасьці, назапашваючы разнастайныя веды, толькі нязначнай частцы людзей, якая так ці інакш іх апрапрыявала. Пачатак раздзялення першабытнага грамадства на людзей фізічнай і на людзей разумовай працы быў разам з тым і пачаткам яго матэрыяльнага прагрэсу і далейшага разумовага развіцця. А заканчэнне такога раздзялення магчымы толькі тады, калі ўсе людзі дасягнуць дастатковай матэрыяльнай і разумовай дасканаласьці і будуць амаль вызвалены машынамі ад фізічнай працы. Але гэта стане разам з тым і заканчэннем наогул далейшага чалавечага развіцця. Пасьля гэтага чалавецтва пяройдзе да яшчэ мала зразумелага для нас статычнаму стану, як чалавек дасягнулы сталасьці і перастаўшы больш фізічна ўдасканальвацца.

Тры гіганцкіх піраміды Хуфу, Хефрэна і Менкаўра не маглі паўстаць згодна з узмахам чароўнага жазла ці быць пабудаваны качэўнікамі і беднымі людзьмі. Яны маглі быць пабудаваны, і пры гэтым кожная не за час жыцця аднаго пакалення, толькі вялікай краінай, у якой існавала магчымасць сабраць ураджай, здольны пракарміць, акрамя саміх сейбітаў, яшчэ цэлае войска людзей, занятых на працягу шматлікіх гадоў на староннвй працы.

А гэты ўраджай мог быць засяроджаны ў руках кіруючага такой пабудовай толькі пры прымусовай магутнасьці заснаванай не толькі на фізічным, але і маральным характары, таму што неадукаваны ў сучасным сэнсе чалавек адпаведна са сваёй прыродай безклапотны, і калі не ўсведамляе карыснасьці для сябе здзяйсняемай ім справы, то заўсёды давядзе яе да развалу пасіўнай інэртнасьцю, аб якую разаб’ецца энэргія самых няўмольных валадароў.

А пад час старажытнасьці патрэбы людзей былі яшчэ малымі, клімат дазваляў існаванне без адзення, і качавы лад жыцця паблізу ад вузкай даліны Нілу пераважаў. Пры такіх умовах спроба прымусіць качэўніка, хаця б і запалоненага, доўга працаваць у якасьці раба, была б тым жа, што злавіць вецер у полі: рабства стала магчымым толькі пры больш высокіх патрэбах саміх жа рабоў, ды і то пры ўмове, што ім няма куды збегчы.

Вось чаму з’яўляецца цалкам незразумелай наяўнасць трох вялікіх пірамід і іншых пабудоваў грандыёзнага характару, напаўняючых даліну Нілу, без такой папярэдняй перадумовы: як іхныя будаўнікі, так і ўвесь абавязкова шматлікі народ, з якога збіраліся для гэтага сумарна вялізныя падаткі (ці які сам прыходзіў для будаўніцтва ў вольны ад земляробскай працы час), чамусьці лічылі карыснымі такія пабудовы не для аднаго свайго валадара, але і для сябе, г.азн. няйнакш як разлічвалі і самі падняцца па такіх высокіх усходах на неба.



Мал. 161.
Вялікія ягіпецкія піраміды

З боку гледжання эвалюцыі матэрыяльнай культуры ў Ягіпце тры яго каласальныя піраміды (ужо не бяручы да ўвагі іншыя вялізныя пабудовы) наўрад ці маглі быць пабудаваны раней пачатку сярэдневечча. Нават жа ў XIX стагоддзі насельнікі вёсак Масара і Тура (па-грэцку Троя) займаліся ломкай камянёў са шматлікіх каменяломняў паблізу гор Макатама, перацягваючы іх на нізкіх вазах ці на санках, запрэжаных быкамі, і нагружаючы імі свае караблі на Ніле, але хіба можна нават і падумаць, каб яны зрабілі нешта падобнае за прамежак роўны 10-30 гадам, які ў сярэднім прыпадаў на час валадарання аднаго валадара? Ды ці і магчыма лічыць, што каменяломны занятак без якіх бы то ні было ўдасканаленняў існаваў там 5000 гадоў?



Мал. 162.

Выгляд вялікіх пірамід з боку Сфінкса

Я не маю астранамічных сведчанняў для вызначэння часу стварэння пірамід і таму звярну ўвагу непасрэдна на першакрыніцы, адкінуўшы якія б то ні было наданні. Што мы пра іх ведаем? Я ўжо выказваўся пра гэта. Мы ведаем вельмі мала.

«Будаўніком» самай вялікай піраміды «Сьветачы» лічыцца Хуфу, згадваемы ў іерагліфічных надпісах і атаясамляемы з Хеопсам Герадота, з Хембесам Дыядора Сіцылійскага і Са-Рысам (Σώ-ρις) у цытатах із Манефона. Але нават і гэтыя грэцкія і лацінскія пісьменнікі дапасавалі яго да шмат больш пазьняга часу, чым ягіптолагі XIX стагоддзя. «Будаўніком» другой лічыцца Хаф-Рэ (Хефрэн грэкаў), а трэццяй – Менкау-Рэ (Мікерын грэкаў). Але наколькі ж праўдападобна думка, што самі валадары будавалі іх для свайго ўласнага пахавання?

Вось надпіс на накрыўцы труны Менкау-Рэ, знойдзенай у трэццяй із вялікіх Гізехскіх пірамід і захоўваемай зараз у Брытанскім нацыянальным музеі:

Зрабіўшыся Азірысам (Iesu-Rex) валадар Задыяка (?) несьмяротны
Цар неба, сын Богамаці (Нут) спадкаемца бога часоў (Сева-
Саваофа). Ды распасьціраецца над табой і ды пакрые цябе боская
маці твая багіня Богамаці (Нут) у імя сваё. Ды здзейсніць яна
нябеснае таемства, каб ты быў як бог пазбаўлены ад якой бы то ні
было пакуты, о, цар Менку-Рэ Несьмяротны!

Усё гэта паказвае, што трэцяя із вялікіх пірамід сапраўды ўтрымлівала ў сабе яго мумію. Але із гэтага надпісу ніяк немагчыма зрабіць выснову, што піраміда была пабудавана ім самім, а не паступова, на працягу цэлых пакаленняў яго прыхільнікаў. Ва ўсякім разе, гэтую эпітафію пісаў сабе не ён, а іншыя, ужо пасьля яго сьмерці.



Мал. 163.
Разрэз вялікай ягіпецкай піраміды згодна з Марыетам. Із самога малюнка бачна, што піраміда будавалася ўжо пасьля сьмерці таго, каму яна была прысьвечана, таму што пахавальная камера спачатку было зроблена ў зямлі, і да яе вёў нахільны падземны калідор. Над выйсьцем гэтага калідора із пад зямлі, г.азн. з правага боку нашага малюнка (а не із яго сярэдзіны далёка ад уваходу ў магільню) відавочна і будаваўся першапачатковы зародак піраміды, і новыя пласты яе камянёў накладаліся галоўным чынам ззаду (з левага боку нашага малюнка). Ад ніжняга першапачатковага ходу будаўнікі хутка пачалі другі, ідучы ўгару і будавалі адну над другой каплічкі, у якія, магчыма і пераносілі парэшткі (мумію), па меры ўзвышэння піраміды.

Згодна з нашым параўнаннем радаводу Хрыста ў евангеліста Лукі з радаводам Рэ-Месы (Рамзэса), дадзенаму яшчэ ў I кнізе «Хрыста» і паўторанаму для зручнасьці чытача і тут (далей у главе пра Рамзеса Вялікага), атрымліваецца, што гэта быў біблейскі Юда, родапачынальнік юдэяў, што ў перакладзе азначае «Богаславячы», ці «праваслаўны», а згодна з нашым параўнаннем радаводаў цароў юдэйскіх і візантыйскіх ён павінен быць таксама і сучаснікам Васіля Вялікага.

А тым часам Занарас і іншыя грэцкія першакрыніцы, спасылаючыся на легендарнага Манефо, прыпісваюць пабудову піраміды Менкава-Рэ «красуні-царыцы Нітакрыс» (Ніт-Акер – Нітка Дасканаласьці), яшчэ меўшую назву Радопіс, г.азн. «Ружатварая». Каб пагадніць толькі-што прыведзены намі надпіс з гэтым паданнем, ягіптолагі XIX стагоддзя патлумачылі, што піраміда спачатку будавалася менавіта сутэнам Менку-Рэ для сябе, але хітрая красуня, якая дапасуецца імі ужо да наступнай 6-й дынастыі, г.азн. жыўшая нашмат пазьней, не спадзеючыся пабудаваць для сябе асобную вежу да неба, пачала надбудоўваць піраміду цара Менку, каб ляжаць у адной пабудове з ім, зрабіўшы ў ёй там дадатковы склеп і для сваёй муміі.

Такая думка заснавана на тым, што ўсярэдзіне гэтай піраміды знойдзены два асобныя склепы, прытым уваход у самую старажытную магільню, дзе знаходзіўся прыведзены намі надпіс, не даходзіць да вонкавага боку піраміды, а толькі да яе ніжняй вокладкі, а ўваход у другі магільны склеп даходзіць да другой вокладкі. Магільня ў апошняй, лічыцца, была раскрадзена арабамі каля 820 года нашай эры пры халіфу Мамуне.

Хай будзе так. Але ж арабы не маглі разрабаваць ніжні склеп, які заставаўся замураваным да яго адкрыцця ў XIX стагоддзі. Куды ж дзелася яго мумія? Відавочна, яе чамусьці перанеслі ў іншае месца яшчэ ў тыя часы, калі яе паважалі.

Падвойнае пахаванне тут, вядома, было, але толькі ніяк не двух чужых адна адной асоб. Гэта супярэчыць замагільным уяўленням старажытных: ад адной думкі ляжаць разам з чужым нябожчыкам, кожны старажытны прыйшоў бы ў жах. Іншая справа, калі нябожчык быў чалавекам нейкай царыцы.

Тады зразумела, што ёй пажадана было пасяліцца разам з ім і пасьля сваёй сьмерці.

Але хто ж тады былі гэтыя Антоній і Клеапатра? Адпаведна з нашымі параўнаннямі Антоній атаясамляецца з Ліцыніем, суваладарм Кастуся Сьвятога, пакаленнем раней Васіля Вялікага («Вялікага цара»), і ледзь ці не бацька і маці евангельскага Хрыста... Але тут вялікі абшар для здагадак.

Іерагліфічна гэта піраміда мае назву Хір, г.азн. Высокая.

* * *

Перш чым перайсьці да далейшага выкладання, я тут павінен спыніцца зноў над рашэннем пытання пра мэты, перасследуемыя пры пабудове пірамід.

Калі кіравацца Бібліяй – ужываючай слова Вавілон, у яго прамым сэнсе: «Брама Боская» (Ваб-Ілу[35], адкуль і паходзіць праваслаўнае імя Вавіла), – то легенда пра знакамітую біблейскую вежу да неба (пад тым жа найменнем «Брама Боская») можа мець сваёй крыніцай толькі адну із ягіпецкіх пірамід, ці ж яна аб'ядноўвае іх усе пад адным найменнем, дзякуючы таму, што гэтае біблейскае паданне было распрацавана ўжо далёка ад даліны Нілу. Сапраўды, ні ў Месапатаміі, ні ў нейкім іншым месцы мы не маем у парэштках старажытных пабудоваў нічога такога, што магло б даць нагоду для ўзнікнення міфа пра вежу да нябёс. А тут у даліне Нілу іх нават занадта шмат. У саміх назвах пірамід: Вялікая, Высокая, Узыходжанне душ (на неба), Наймацнейшае месца, Найсьцейшае месца і г.д. гучаць падставы да такой легенды.

Але Біблія ж паведамляе нам, што наступствам гэтага быў і падзел народу на некалькі самастойных (згодна з мовай набажэнстваў). Гэта азначае і яна ўжо дапасуе справу да перыяду пасьля распадзення Рымскай імперыі на прыканцы IV стагоддзя нашай эры.

Акрамя таго, патрэбна браць да ўвагі і наступнае меркаванне, пра якое я выказваўся і раней.

Нам нададзена ранейшымі тлумачальнікамі, быццам бы свавольныя ягіпецкія цары-тэакраты, у тым ліку нават і «ружатварая Нітка-Дасканаласьці», поўніліся думкамі пра сваю сьмерць, ледзь ці не з самага дня свайго нараджэння, і што яны пачынаючы з ранняга ўзросту ўжо вымушалі ўсю краіну будаваць для сябе магільню, як у Пушкінскім вершы «Русалка»:

Ужо рыдлёўкаю пакорлівай сабе магілу старац капаў,
І толькі пра сьмерць жаданую сьвятых дагоднікаў маліў.

Але гэта наўрад ці правільна ў дачыненні нават да нейкага із зямных цароў, заўсёды больш схільных клапаціцца пра сваё зямное жыццё і ўладу, чым думаць пра замагільнае. Самі ж рымскія папы да гэтага часу не будуюць сабе жывымі магільняў. Клопаты пра гэта заўсёды ўскладаліся людзьмі на сваіх сваякоў, якія і будавалі магчыма каштоўныя маўзалеі.

З такога боку гледжання і піраміды могуць быць хутчэй усяго маўзалеямі, узведзенымі ў якасьці ўшанавання людзей тымі, хто іх перажыў, як узведзены і ўсе звычайныя чалавечыя надмагільныя помнікі. Толькі тут відаць прысутнічала не адно жаданне паказаць нябожчыку і ўсім атачаючым сваю павагу да яго, што мае месца пры пабудове звычайных надмагільных маўзалеяў з больш-менш чуллівымі надпісамі, але так жа і ўяўленне пра пасьлясмяротную магутнасць нябожчыка, яшчэ пры жыцці памазанага сьвятарамі і называемага няйнакш як Ваша Сьвятасць. Мы бачым, што ўжо ў той час было разуменне пра сьвятога, а такім чынам, і пра грэшнага чалавека, як у сучасных хрысьціянаў і муміі сьвятых у Ягіпце былі родапачынальнікамі сучасных «нятленных парэшткаў» у праваслаўных кляштарскіх храмах. Відавочна, да гэтых магільняў здалёку прыходзілі маліцца пілігрымы, лічачы знаходзіўшыяся ў іх трупы «цудадзейнымі, і магчыма лічылася маючай карысць для сябе справай дадаць да іх хаця б адзін камень, што было цалкам магчыма бяручы да ўвагі слаістую канструкцыю пірамід, так што яны павялічваліся з кожным годам.

---

[35] Калі не выводзіць жыдоўскае напісанне בבל (ББЛ) – ад слова Біблія.

Ды не цяжка заўважыць, што і самі піраміды былі відавочнымі папярэднікамі праваслаўных званніц. Паглядзіце на якую заўгодна із нашых цэркваў. Што вы ў іх бачыце? Перадусім, перад вамі падымаецца як магчыма вышэй да неба, званніца, заўважаемая ўжо здалёк. Адпаведна з першапачатковым планам, здзяйсняемым амаль заўсёды і зараз (хаця гэтае правіла ўжо забыта), яна чатырохкутная і, падобна ягіпецкім пірамідам, заўсёды арыентавана сваімі чатырма бакамі «на чатыры бакі сьвету», таму што зямлю пад час старажытнасьці таксама лічылі ў выглядзе квадрата. Гэта і ёсць навейшая «ягіпецкая піраміда», толькі дзеля эканоміі матэрыялу звузіўшаяся ў сваім падмурку. Яна больш не мае выгляду надмагільнага насыпу толькі дзякуючы развіццю будаўнічага мастацтва. Пірамідальная ж форма была першаўзорам кожнай вежы. Калі яшчэ не было цэменту, было цяжка пабудаваць высокую пабудову са стромкімі сьценамі, ды і залезці па іх наверх было немагчыма, асабліва з камянямі для працягу будаўніцтва. Нехаця даводзілася будаваць прыступкападобную вежу ў выглядзе піраміды, якую да таго ж ад пакалення да пакалення – ад цара да цара – можна было бязмежна надбудоўваць новым шэрагам камянёў (мал. 164). Толькі пры завяршэнні гэтага працэсу латаліся ўсе яе паслядоўныя шматлікія прыступкі з дапамогай прызматычна абцёсаных камянёў, якія была магчымасць нават і ссунуць пры новай надбудове. З такога боку гледжання званніцападобная піраміда «Ўсшэсьце на неба» (Ха) паблізу Мейдуна, прысьвечаная «Богу Праўды» (Снофру), з'яўляецца з архітэктурнага боку гледжання ўжо наступнай стадыяй развіцця пірамід, пераходам да сучаснай званіцы грэка-рускіх храмаў, як такіх жа спроб падняцца бліжэй да неба.



Мал. 164.

Пераход ад піраміднага ягіпецкага могілкавага храма да праваслаўнага. На ўсход ад піраміды знаходзіўся ахвярнік, як і ў праваслаўных храмах, але толькі пад намётам замест будынка, а званніца, якую тады не маглі пабудаваць у выглядзе мінарэта, высілася падобна кургану.

Разгледзім жа і далейшую аналогію нашых храмаў з пірамідамі.

Што вы бачыце на ўсход ад нашых навейшых усходаў (на неба)? Ахвярнік, абаронены, ад дажджу купалам, г.азн. храм, а пад ахвярнікам абавязкова «мошчы», г.азн. хаця б кавалачак муміі таго сьвятога, якому тут належыць маліцца.

А як жа ў нас здабываліся на практыцы «кавалачкі мумій» пры пабудове новых храмаў? Вынікі агляду мошчаў падчас рускай рэвалюцыі асьвятляюць гэта. «Мошчы», хаця іхная назва і паходзіць ад слова «магутны», амаль усюды выявіліся простымі кучамі напалову рассыпаўшыхся костак і таму няцяжка было ахвяраваць адну із іх для пабудовы новага храма. Факт жа застаецца тым, што згодна з царкоўным паданнем яшчэ да падзелу цэркваў рымскі біскуп Фелікс, жыўшы

быццам бы яшчэ ў другім стагоддзі пасьля «Нараджэнння Хрыста» пастанавіў, каб літургія здзяйснялася не інакш, як «на мошчах сьвятых дагоднікаў пад ахвярнікам», а 5-ы Карфагенскі сабор дэкрэтаваў, каб ніводзін храм не будаваўся інакш, як з кавалачкам муміі нейкага сьвятога пад ахвярнікам.

Гэты факт асьвятляе і на тое, чаму ў ягіпецкіх пірамідападобных званніцах знаходзяць абавязкова памяшканне для мошчаў нейкага «сьвяцейшаства», у гонар якога будавалася дадзеная піраміда. Дакладна так жа і ахвярнік, побач з кожнай пірамідай (мал. 164), майстраваўся, як і ў сучасных хрысьціянскіх храмах, абавязкова на ўсход ад пабудаваных пры ім «усходаў на неба».

Парэшткі такога ахвярніка і знойдзены на ўсход ад піраміды цара Менкі, так дзіўна налягаючага на заснавальніка юдаізму Юду і ад іншых пірамід так дзіўна налягаючых на Арыя-Арона і Майсея-Дыяклетыяна.

Такім чынам, пры пaглядзе накіраваным з поўначы, ягіпецкі могілкавы храм заўсёды ўяўляе сабой схематычны профіль, намаляваны на левым боку, а праваслаўны – такі ж профіль на правым боку мал. 164, пры гэтым у ягіпецкіх могілкавых храмах дзякуючы адсутнасьці дажджоў існавала магчымасць і не будаваць над ахвярнікам цэлую сядзібу, як у еўрапейскіх і азіяцкіх дажджлівых краінах, а можна было ў выпадку патрэбы ставіць просты намёт, ад якога, вядома, зараз не засталося і сьледу, чым і тлумачыцца адсутнасьць значных развалін на ўсход ад піраміды Хуфу і ад іншых.

А адносна таго, што гэта былі адмысловыя могілкавыя храмы, заснаваныя абавязкова на мошчах сьвятых, красамоўна сведчыць тое, што каля піраміды Хуфу мы бачым, як і каля хрысьціянскай царквы, вялізную колькасць не пірамідападобных прыватных магільняў.

Такім чынам, без сумневаў, піраміды былі званніцамі адмысловых калянільскіх могілкавых храмаў, асобнага ўзору, даўшых схему для пабудовы ўсіх далейшых хрысьціянскіх цэркваў, а тое, што мы называем Луксорскім, Карнакскім ці іншымі храмамі, пабудаваных па тыпу тагачасных палацаў, былі хутчэй усяго першапачатковымі ўніверсітэтамі, г.азн. храмамі навукі, дзе жылі яе жрацы: астролагі, алхімікі, лекары і г.д.

Іерагліфічным найменнем самай вялікай піраміды, так дзіўна налягаючай на Майсея пры яго атаясамленні з Бога-Пакліканым грамавержцам царом-тэакратам, Дыяклетыянам Ёвіусам (ён жа Бацька-Рыма – Абрам, і Ромул латынянаў), – як мы ўжо згадвалі, – было Хут, г.азн. «Светачы», верагодна таму, што на яе вяршыні гарэлі начамі вечныя ахвяравальныя агні. Унутраныя камяні для яе здабываліся ў трох месцах із таго ж не вельмі цьвёрдага вапняка, на пласьце якога яна стаіць, як гэта бачна, і да гэтага часу. А лепшыя камяні для прыступак, па якіх сьвятары падымаліся на яе вяршыню, перацягваліся з дапамогай падкладваемых пад абчасаныя камлыгі бярвенняў па каменнай дамбе, спачатку із каменяломняў на ўсход ад Мемфіса да правага берага Нілу і потым ад Ніла да месца пірамід. А чырвона-чорны граніт, якім яна, – як кажуць, – была апранута пасьля заканчэння, мог перавозіцца па Нілу ад Асуана.

«Арабскія» гісторыкі паведамляюць, быццам бы каліф Міамун (каля 820 года) загадаў пракрасьціся ва ўнутр усіх пірамід Гізехскага поля з мэтай знайсьці схаваныя ў іх скарбы, але пад вонкавай суцэльнай покрыўкай цяжка было знайсці ў іх хады. У піраміду «Светачы», аднак, некалі сапраўды пракраліся, і магчыма самі вернікі, дзякуючы чаму ў наш час у ёй не выявілася ні магільні Майсея-Дыяклетыяна, ні верагодных надпісаў пра Бацьку-Рыма – Абрама.

Другая із ягіпецкіх пірамід падымаецца на самай справе вышэй усіх, але толькі таму, што пабудавана на больш узвышаным месцы, і яе іерагліфічнае імя Урт азначае Вялікая. Яе лічаць пабудаванай для (г.азн. у імя) Хефрэна (іерагліфічна Хаў-Рэ (цар Хаў), а згодна з нашымі атаясамленнямі – у імя Арыя, ён жа біблейскі Арон.

Пра трэццюю вялікую піраміду мы ўжо выказваліся, а із астатніх меншых пірамід я асобна пазначу толькі адну паблізу паселішча Абу-Сір, каля Гізэхскага поля, роўную 118 футам вышыні, служыўшую, як думаюць, магілай імператара Шаха-Рэ, ці інакш Цэзара-Шаха (Цэсар-Шах), г.азн. адпаведна з нашымі атаясамленнямі Юлія Цэзара, налягаючага ў сваю чаргу на Канстанцыя Хлора – «першага імператара». Яна мае завву Ха-Ба, г.азн. Узыходжанне Душы, і падмацоўвае маю думку, што гэтыя пабудовы ствараліся ў якасьці ўсходаў на купал неба.

Ужо адзін той факт, што вышэйзгаданае Мамунава «рабаванне аджыўшых свой век царкоўных каштоўнасьцей» не было здзейснена да Мамуна рымска-ягіпецкімі імператарамі, асабліва хрысьціянскімі, пачынаючы ад Хвядоса Вялікага, даводзіць, што піраміды ў візантыйцаў лічыліся сьвятымі пабудовамі, і што мошчы, знаходзімыя ў іх, лічыліся імі негніючымі парэшткамі сваіх уласных сьвятых. Інакш «халіфу Мамуну» (легендарны ён ці рэчаісны?) не было б патрэбы зазіраць ва ўжо даўно адшуканыя хрысьціянамі і разрабаваныя імі таемныя хады ў глыбіні пірамід.

У пагадненні з гэтым мы маем згадванні пра піраміды і ў Бібліі. Пад ужываемай у нас іхнай грэцкай назвай мы іх знаходзім толькі ў грэцкай кнізе Молаты (Макавеі), якой няма на жыдоўскай мове.

У жыдоўскім жа тэксце я лічу слова БМУТ, якое перакладаюць словам «узвышша», за жыдоўскую назву пірамід, як храмаў, прысвечаных культу памёршых сьвятых.

У такім сэнсе згадваецца пра іх шмат разоў.

І ўсё гэта сведчыць пра тое, што піраміды лічыліся праўдзіва-рэлігійнымі пабудовамі аж да пачатку магаметанства ў Ягіпце. А мы ўжо бачылі ў першай частцы гэтага тома, што яно пачалося не раней Махмуда-Заваёўніка (памёр 1030 г.) ці нават Султана Магамета (1374-1421), таксама пазначылі ўжо і тое, што ў іерогліфах «цары» маюць назву ці султаны – сутэны, як у турак, ці шахі – шаху, як у персаў.

Такім чынам, згодна з храналагічнымі атаясамленнямі Хеопс (ён жа біблейскі Абрам – Бацька Рыма, ён жа Ромул латынянаў і Давыд кнігі «Цары») адпавядае Дыяклетыяну (284-305), якому, як прынятаму пасьля сьмерці ў асяроддзе сьвятых, і была прысьвечана першая гіганцкая піраміда-званніца размешчаная на захад ад яе ахвярніка. Хефрэн, ён жа Ісак (г.азн. Пашыральнік Закона) у кнізе «Быццё», адпавядае хутчэй усяго Арыю, біблейскаму Арону, які жыў пасьля Дыяклетыяна (307-325 гг.). А для трэццяга цара Менку (Менку-Рэ), адпавядаючага біблейскаму Якаву Богазмагальніку ці Юдзе, заснавальніку царства юдэйскага (г.азн. багаслаўячага), у нас не застаецца нікога із выдатных дзеячаў таго часу, акрамя заснавальніка хрысьціянскай літургіі Васіля Вялікага – евангельскага Хрыста ці яго бацькі і маці, ці «Юды – брата госпада» хто б ён ні быў...

Але ў такім выпадку, – скажуць мне, – і прыведзены вышэй акафіст цару Менку з'яўляецца акафістам Хрысту ці аднаму із вялікіх дзеячаў хрысьціянства?

Як быццам бы – так, але толькі яго мумія была кудысьці перанесена яшчэ раней заканчэння піраміды верагодна пасьля перамогі нейкай новай хрысьціянскай секты.

Справа ў тым, што IV дынастыя – Хуфу, Дэдэф-Рэ, Хаф-Рэ і Менкау-Рэ – з'яўляецца толькі чацьвёртым перыядам той жа самай перыядычнай сістэмы продкаў Рэ-Месы, складзенай із паўтарэння тых жа самых спадкаемцаў Аўрэліяна, як бачна із прыкладзеных мной табліц у першай главе гэтага аддзела. Тут асабліва звяртае на сябе ўвагу той факт, што ў Сакарскай насьценнай табліцы (табл. XLV стар. 783) імёны, адпавядаючыя евангельскаму Хрысту і яго наступнікам (№№ 20-24), кімсьці знарок адламаны, тады як усе папярэднічаўшыя і наступныя, пакуль зноў перыядычна не падышлі да таго ж шэрага (пад №.№ 50-58), пакінуты ў поўнай цэласьці. Дакладна так жа немагчыма не звярнуць увагу, што і Яўсевій выключыў са спіса ягіпецкіх цароў усіх траіх «волатаў», пахаваных у вялікіх пірамідах.

Ці можна із гэтага зрабіць выснову, што ён ведаў, хто ў іх ляжаў? А інакш як жа патлумачыць, што, акуратна згадваючы самых нязначных царкоў-теакрацікаў, ён не згадаў менавіта гэтых найвялікшых? Відавочна, што выключэнне іх Яўсевіем было наўмысным!

Ён проста не жадаў бянтэжыць нязручнымі ўспамінамі хрысьціянскую паству свайго часу і сваёй мясцовасьці.

# Глава VII.

## Значэнне пірамід як усходаў на неба. Гістарычная непазбежнасць такіх пабудоваў пад час адпаведнай эпохі развіцця касмалагічных ведаў.

Такімі з'яўляюцца гістарычныя паведамленні пра піраміды. Але яны яшчэ не тлумачаць нам самае галоўнае: навошта было будаваць надмагільныя курганы ў менавіта такой форме і чаму тры?

Тут застаецца прызнаць толькі тое, што людзі таго часу лічылі, быццам бы пахаваныя тут вялікія сьвяты і павядуць іх на неба і кожная із трох сектаў, канкуруючы з іншай, будавала над іхнымі целамі зручныя ўсходы для гэтага, а вялікія усходы тады немагчыма было фізічна зрабіць, інакш як у выглядзе піраміды.

Пра старажытныя спробы зрабіць усходы на неба мы маем у Бібліі два згадванні. Перадусім, як і належыць, знаходзім снабачанне пра такія ўсходы, навеянае выглядам Задыякальнага пояса, па якому падымаюцца і апускаюцца зоркі і планеты.

«*Якаў* (багазмагальнік) *пайшоў ад Студні-Сямі* (зорак) *да Карнака*[36] *і спыніўся начаваць у адным пустэльным месцы таму што зайшло Сонца. Ён паклаў пад галаву камень, заснуў і пабачыў: вось усходы ўпіраюцца ў зямлю, а іхны верх даходзіць да неба, і бог-Стваральнік сусьвету стаіць на іх і паведамляе*:

*– Я бог Бацькі-Рыма* (Аб-Рама), *бог Ісака і я даю табе і тваім нашчадкам зямлю, на якой ты ляжыш. Твае нашчадкі будуць як пясок марскі і пашырацца і да захаду, і да ўсходу, і да поўначы, і да поўдня. І блаславяцца ў табе і ў іх усе зямныя народы*.

---

[36] חרנה (ХРНЕ) ці Харнах, г.азн. Карнах у Ягіпце.

*Якаў прачнуўся і сказаў:*

*– Сапраўды багі прысутнічаюць на гэтым месцы, а я і не ведаў. Якім жахлівым з'яўляецца гэтае месца! Гэта Сядзіба Багоў* (БІТ-АЛЕІМ), *гэта Брама нябёс* (ШЭР-ЕШМІМ).

*Ён узяў камень, служыўшы яму падгалоўем, і паставіў яго ў якасьці напамінання. Ён паліў на яго масла і назваў тое месца Сядзіба Бога* (БІТ- АЛ[37]), *а раней яно мела назву ЛУЗ*[38]. *Тут ён потым пабудаваў «Сядзібу Богу»* (Быццё **28**, 10-17).

Другое згадванне пра ўсходы на неба, як ужо практычна будуемыя, мы маем у той жа кнізе Быццё, але выпадкова размешчанае раней (у главе 11).

«*Калі людзі рушылі з усходу на захад, яны знайшлі* (на захадзе) *раўніну Няспання над Спячым* (ШНЭР, ці Сенаар у Паўднёвым Ягіпце), *пасяліліся там і сказалі адзін аднаму:*

*– Наробім цэглы і абпалім яе на полымі.*

*Так яны пачалі ўжываць цэглу замест натуральных камянёў. Асфальт з берагоў Мёртвага возера быў у іх замест вапны.*

*– Пабудуем вежу* (МТДЛ) *да няба – сказалі яны.*

*– А бог сышоў* (з неба) *паглядзець на іхную пабудову і сказаў*:

*– Вось што яны пачалі рабіць! Зараз ужо не будзе для іх цяжкасьці ні ў чым. Перамяшаем іхныя мовы, каб адзін не разумеў другога*!».

*Гэтым ён раскідаў іх па ўсёй зямлі і яны перасталі будаваць сваё ўмацаванне. Таму і дадзена яму імя Брама Бога*» (ББЛ), па-грэцку Вав-іл-он (Βαβ-υλ-όν) – Брама-Бога-Она – (ягіпецкага сонечнага бога).

Дзе ж і калі ўсё гэта было?

На гэта нам дае адказ самая праўдзівая са старажытных кніг – Апакаліпсіс, часам стварэння якога, без сумневаў, быў вечар 30 верасня і наступны за ім дзень 1 кастрычніка 395 г., і аўтарам якога без сумневаў быў Ян Багаслоў, ён жа Хрызастом ці Залатавуст із Антыёхіі, будучы візантыйскі патрыярх. Із яе выразна бачна, што імем Вавілон пад час апошніх гадоў IV стагоддзя нашай эры, а такім чынам і пазьней, звалася на Візантыйскім Усходзе панаваўшая там да таго часу мікалаіцкая дзяржаўная царква, відаць, ужываўшая штукарства пры выкананні сваіх звычаяў.

«*Вястун неба* – выказваецца Ян у 17 главе Апакаліпсіса – *завёў мяне ў захопленым стане ў пустэльнае месца. І пабачыў я адтуль* (у сілуэтах аблокаў на палымяным фоне вечаровага зарыва) *жанчыну, седзячую на барвовым сямігаловым зверы з дзесяццю рагамі, напоўненым блюзнерскімі эмблемамі* (сузор'ем Самка-Гідры). *Жанчына была апранута ў парфіру і барвяніцу* (вечаровага зарыва), *упрыгожана золатам, жэмчугам і каштоўнымі камянямі. У руцэ яе была залатая чарка* (із аблокаў на сузор'і чарка Гідры), *напоўненая брыдотамі і брудам яе амаральнасьці. А на ілбе яе надпіс:*

***Таемства!***
***Вялікая Цьвярдыня Брама Госпадава (Вавілон)***
***маці распуснікаў і брыдот зямлі.***

*І я бачыў, што жанчына гэтая была пабарвёнай* (на пунсовым фоне світанку) *крывёй шукаючых праўды і прадвеснікаў Ісуса, і, разглядаючы яе, я дзівіўся вялікім здзіўленнем*.

---

37 בת-אל (БІТ-АЛ) – Сядзіба Бога, а  (БІТ-АН) зваўся Геліёнам у Ягіпце.

38 לרץ (ЛУЗ) – міндальнае дрэва, сугучна з Луксорам, хаця Луксор далёка ад пірамід.

*Чаму ты дзівішся*? – запытаў мяне вястун неба. – *Гэтая жанчына адлюстроўвае сабой Вялікую Цьвярдыню* (дзяржаўную царкву), *валадаручую над зямнымі царамі*» і г.д.[39] .

Адсюль мы бачым, што слова Вавілон, г.азн. Брама Госпадава, ужывалася яшчэ і на прыканцы IV стагоддзя нашай эры для пазначэння Візантыйскай тэакратыі, рэлігійным цэнтрам якой і быў Ягіпет. І калі б візаітійскія імператары пажадалі будаваць вежу да нябёс, то для іхнага ўяўлення лепшага месца немагчыма знайсьці.

Да гэтай жа лакалізацыі «біблейскай вежы да нябёс» прыводзяць і іншыя меркаванні.

Калі мы будзем браць да ўвагі, што цэглу із сумесі нільскага глею і сечанай саломы пачалі, відаць, раней усіх іншых народаў рабіць егіпцяне для пабудовы прыватных будынкаў, што Сенаарам і да гэтага часу завецца паўднёвая частка басейна Нілу і што вежу да нябёс будавалі народы, прыйшоўшыя «з усходу», то месца такой вежы даводзіцца шукаць ніяк не на берагах Тыгра ці Еўфрата, а перадусім у Ягіпце, куды асфальт лёгка маглі сплаўляць морам із блізкага Эль-Кудс-Ерусаліма, тады як на раўніны Тыгра і Еўфрата яго даводзілася б дастаўляць уюкамі праз пустыню, што цалкам немагчыма. Прытым жа толькі ў Ягіпце мы знаходзім вежы падобныя з выгляду на і да гэтага часу існуючыя піраміды.

Як я ўжо паведамляў, у Ягіпце іх налічваецца каля 25, але, за выключэннем трох, яны невялікія, і служылі, відаць, проста магільнямі духоўных ці свецкіх валадароў, прылічаных да ліку сьвятых. Але іхная шматлікасць не павінна нас збіваць са слушнага шляху пры тлумачэнні трох гіганцкіх падобных пабудоваў, тым больш, што дробныя маглі стварацца ўжо пазней, у якасьці пераймання буйных.

Самая вялікая із пірамід – Хуфу-Майсея, – атаясамляемага мной з Дыяклетыянам – мае зараз 233 метры, г.азн. амаль чвэрць вярсты ў падмурку і 145 метраў (каля $^1/_7$ долі вярсты) у вышыню, але яна была больш высокай, таму што яе падмурак ўжо засыпаны пяском. Наступная за ёй мае ў падмурку 211 метраў і 137 метраў вышыні. Першая піраміда Хуфу (няправільна званая Хеопсавай) стаіць на абчасанай тэрасе левага берага даліны Нілу, вышынёй каля 20 сажаняў і мае ў аб'ёме больш $2^1/_2$ мільёны кубічных метраў, другая Хефрэнава складае ў сабе некалькі больш 1 мільёна кубічных метраў ці каля 115 мільёнаў кубічных футаў. І не дарэмна гэтыя пабудовы лічацца самымі галоўнымі із сямі цудаў старажытнасьці[40].

У пірамідзе Хуфу спачатку было 205 пластоў каменя кожны каля $2^1/_2$ футы таўшчынёй і кожны бок іх быў старанна абчасаны і стульваўся з іншым так, што выступ на ніжнім баку верхняй пліты, у выглядзе рабра ў дзьве цалі таўшчынёй, шчыльна заходзіў у жолаб на верхнім боку ніжняй пліты. Пры такім спосабе ссоўванне камянёў цалкам немагчыма, і піраміда ўтварае жахлівыя ўсходы роўныя 205 прыступкам з жаўтлява-белага цьвёрдага пясчаніку. На падставе таго, што

---

[39] Гл. маю кнігу «Адкрыццё ў навальніцы і буры», дзе дадзены першы асэнсаваны пераклад Апакаліпсіса, царкоўныя ж нікуды не годныя дзякуючы таму, што перакладчыкі не ведалі астраноміі і іхны пераклад падобны на трызненне вар'ята.

[40] Сямю цудамі сьвету, як вядома, лічыліся: 1) піраміды Ягіпта, 2) Фароскі маяк паблізу Александрыі Ягіпецкай, 3) сьцены і вісячыя сады «Вавілона», 4) храм Дыяны Эфескай, 5) гіганцкая статуя Зеўса працы Фідыя, 6) маўзалей Артэмізіі ў Галікарнасе і 7) колас Радоскі, вялізная бронзавая статуя Апалона пры ўваходзе ў Радоскую гавань.

высока зверху, на адной прыступцы ляжалі парэшткі гранітных прызмаў, запаўняўшых прыступкі, зрабілі выснову, што піраміда ўся была абкладзена гладкім гранітам, так што на яе немагчыма было ўзлезьці. Але гэта цалкам не абгрунтавана. Гранітныя прызмы маглі быць пакладзены толькі палосамі, што было нават патрэбна для таго, каб па іх гладкай паверхні, як па роўнай дарозе можна было зацягваць на лінах камяні для верхніх пластоў піраміды. Гэта паказвае толькі, што накладанне ўсё новых і новых пластоў на піраміды меркавалася неабмежаваным па часе.

«Якая маса камянёў – справядліва заўважае Опель – была выкарыстана, каб пабудаваць адну гэтую магілу! Колькі гарадоў можна было б із яе пабудаваць! І колькі працы і намаганняў было выдаткавана на ломку камянёў, на перацягванне іх да Нілу! Яны ламаліся на другім яго беразе ва Ўсходніх горах і яшчэ да сёння бачна месца, дзе гэта рабілася. Сотні тысяч людзей былі цэлымі гадамі (больш дакладна: стагоддзямі!) заняты абчэсваннем камянёў, перасоўваннем іх на гадзінныя адлегласьці[41], узняццем на ўступы скал роўнымі 140 футаў вышыні, і, нарэшце, накладаннем адзін на другі. Цэлых дзесяць гадоў былі заняты 200 000 (!!) рук, на ўзвядзеніі толькі аткоснай плаціны, якая патрэбна была, каб можна было зацягваць камяні на горную тэрасу. Плаціна павінна была быць доўгай, каб не быць занадта крутой, і павінна была быць шырокай, каб тысячы людзей маглі паднімацца і спускацца па ёй са сваімі ношамі, не перашкаджаючы адзін аднаму.

І калі, нарэшце, плаціна была гатова, зноў сотні тысяч людзей, перамяняўшыяся праз кожную чвэрць года свежымі, дваццаць гадоў былі заняты ўзвядзеннем піраміды. Хай уявяць, што гэта азначае, калі трыццаць гадоў сотні тысяч чалавек заняты нейкай (і – дададзім ад сябе – цалкам не маючай для іх карысьці) справай[42]!»

Калі мы згадаем пра недасканаласьці старажытных каменяломняў і каменячосных прылад, з дапамогай якіх патрэбна было адшчапіць гэтыя пліты і недасканаласць перавозячых прыстасаванняў для іхнага перамяшчэння із аддаленых мясцовасьцей, то мы прыйдзем да высновы, што над кожнай пірамідай павінна было сапраўды працаваць шматлікае войска рабоў і сланоў, а за яго спінай павінна была нябачна стаяць яшчэ большае войска земляробаў, карміўшае іх усіх, і сябе, дадаткова да працы, нармальна здзяйсняемай дарослымі для ўтрымання сябе і падрастаючага пакалення.

А калі мы паменшым гэтае «войска працы» да 10 000 чалавек, то павінны будзем расцягнуць час пабудовы кожнай піраміды не менш як на 300 гадоў.

Так ў кожнага глыбакадумнага чалавека ўзнікае першае непаразуменне, непазбежнае, калі ён прытрымліваецца ранейшага погляду і прызнае яшчэ глыбокую старажытнасьць гэтых пабудоваў. Такое войска мела магчымасць ўтрымліваць толькі вялізная імперыя з насельніцтвам, налічваючым шмат мільёнаў, у якую Ягіпет мог уваходзіць толькі як складовая частка!

Даліна Ніла, нягледзячы на сваю ўрадлівасць, адна не была ў стане пракармліваць сваімі дадатковымі прадуктамі такое вялізнае войска, адцягнутае ад нейкай сапраўды карыснай працы. Гэта магла здзейсніць толькі імперыя, накшталт Рамейскай, з моцна развітым суднаходствам, маючай сродкі не толькі для падвозу

[41] Нягледзячы на некаторыя малюнкі старажытных мастакоў, я ўсё ж лічу, што перасоўванне гэтых гмахаў адбывалася няйнакш як пры дапамозе сланоў.

[42] К. Опель: Дзівы старажытнай краіны пірамід, ч. I, гл. II.

матэрыялаў, але і для падвозу харчавання у цэнтральную вобласць ці горад, дзе здзяйснялася такая пабудова.

Але нават і вырашыўшы гэта пытанне ў сэнсе прыналежнасьці ягіпецкіх пірамід да перыяду эліна-рымскай культуры, мы сустракаемся, як я ўжо выказваўся, з яшчэ большым непаразуменнем. Што магло заахвоціць вялікую імперыю да такога вялізнага і не маючага карысьці выдаткавання чалавечай працы?

Сярэднявечныя гісторыкі, лічыўшыя, што гістарычнае жыццё народаў ствараецца іх уласнай воляй, а дзяржаўнае ўладкаванне – узаемнай дамовай, і не прасіўшыя навукоўцаў інжынераў і архітэктараў падлічыць каштарыс на старажытныя пабудовы, вядома, нават і не задаваліся такімі пытаннямі. Пажадаў валадар і зрабіў. Пабудаваў жа Ромул – Рым, а Пятро Вялікі – Пецярбург.

Але мы зараз прытрымліваемся трохі іншых поглядаў. Мы ведаем, што роля асобы ў агульным ходзе гістарычнага жыцця чалавецтва не вялікая ўжо і вялікая: гэта толькі ўяўная з'ява. Ніхто зараз не скажа, што, напрыклад, французкай рэвалюцыі ніколі б не было, калі б у вось такой-та правінцыі Францыі ў XVIII стагоддзі не нарадзіўся Рабесп'ер, а ў вось такой-та правінцыі – Марат, і што ў нас не было б спробы заснавання камуністычнай дзяржавы, калі б із-за мяжы не прыехаў Ленін.

Не! Усё гэта адбылося б, таму што абедзьве рэвалюцыі доўга рыхтаваліся грамадзкай і рэлігійнай адсталасьцю кіруючых станаў, скаваўшых чалавечы геній у асобе яго носьбітаў – інтэлігенцыі і не разумеўшых таго, што астатняе насельніцтва было толькі сляпым і заўсёды неахвотным здзяйсняльнікам вялікіх і дабрадзейных задум чалавечага генію.

Ніхто не скажа таксама, што нядаўняй сусветнай вайны ніколі не было б, калі б за некалькі дзясяткаў гадоў да яе ў Берліне (ці не ведаю дзе) не нарадзіўся хлопчык Вільгельм, а ў Пецярбургу хлопчык Мікалай. Не! Мы скажам, што гэтая вайна рыхтавалася цэлыя палову стагоддзя ўсеагульнай мілітарызацыяй насельніцтва еўрапейскіх краін дзеля ўрадавага абагачэння і ўлады. Кожнаму народу надавалі, што адзіна ён і з’яўляецца абраным народам, якому наканавана абнавіць увесь сьвет да лепшага, як толькі ён атрымае для гэтага патрэбныя матэрыялы, сродкі і дастатковую магутнасць, а магутнасць ствараецца, перадусім, вялізнасьцю тэрыторыі і яе натуральнымі багаццямі... Без такога надання, без сумневаў, ніякі народ не адважыўся б на вялікую і рызыкоўную наступальную вайну, нягледзячы на ўвесь уплыў свайго валадара ці нязначнага валадаачага пласта і салідарных з ім асоб, ўдзельнічаючых у адміністрацыі краіны.

Дакладна тое ж можна сказаць і ў дачыненні да саміх вярхоўных валадароў.

Мала адукаваныя і таму мала дасьведчаныя людзі з дзяцінства зведваюць неперэадольнае пазьней наданне, быццам бы на чале народаў маглі з'яўляцца, і сапраўды з'яўляліся калі-нікалі нейкія людзі-звяры, поўныя злосьці і нянавісьці да людзей, якімі малявалі летапісцы, напрыклад, нашага Яна Жахлівага, Атылу, Нярона ў Рыме, Ірада ў Палестыне і г.д. Усе гэтыя людзі-зьвяры маляваліся ў галовах юнацтва чымсьці накшталт таго злыдня з вершаванай драмы, здаецца, Сумарокава, які, патрапіўшы ў бязвыхаднае становішча, сам пратыкае сябе мячом з ускліканнем:

Ідзі, душа, у пекла і будзі вечна палону!
О, калі б са мной загінуў увесл сусьвет!

і памірае, скрыгочучы зубамі.

Сучасны ўсебакова-дукаваны чалавек ведае, што людзей, якія сьвядома рыхтуюць сябе «ў пекла», не можа існаваць, што падобнымі злыднямі ў звычайным жыцці, забіваючых іншых не дзеля рабавання, бывалі толькі баязліўцы, апантаныя маніяй перасьледу і дзейнічаючыя пад падазрэннем, пераходзячым у іх ва ўпэўненасць, што іншыя збіраюцца іх забіць ці абрабаваць. Але падобныя маньякі, як толькі іхная манія пачынала набываць шырокія памеры, заўсёды заканчвалі тым, што атачаючыя сапраўды гублялі цярпенне і так ці інакш пазбаўляліся ад іх.

Нават жа і Атыла пад час старажытнасьці ці Напалеон у навейшы час кіравалі «вялікімі паходамі» цалкам не таму, што самі надавалі іх сваім славалюбствам. Не яны вялі натоўп, а натоўп вёў іх. Вядома, пра ўнутраныя падахвочванні паходаў Атылы, Тамерлана і г.д. нам цяжка разважаць, не ведаючы сацыяльных умоваў таго часу, але спружыны напалеонаўскіх паходаў у нас у наяўнасьці. Анархія першых гадоў французкай рэвалюцыі мела наступствам з’яўленне, як і непазбежна пры кожнай анархіі, у падрастаючым пакаленні масу хуліганаў. Логіка гісторыі патрабавала так ці інакш іх зьнішчыць, і вось, Напалеон і паклаў іхныя галовы

У далінах, дзе Эльба шуміць,
Пад снегам халоднай Расіі,
Пад гарачым пяском пірамід.

Ідэалогію гэтых ваякаў мы навочна бачым у першых трох куплетах марсэльезы, пад гукі якой яны ішлі, а ідэалогію анархічнага перыяду мы бачым у папярэднічаўшай ёй сялянскай карманьёле.

Усе гэтыя меркаванні із вобласьці «грамадзкай псіхалогіі», г.азн. навукі, якая пакуль толькі малюецца ў марах, могуць здацца майму чытачу вельмі далёкімі ад закранутага тут мной сюжэту – пабудовы ягіпецкіх пірамід, і аднак яны адны могуць тут служыць арыяднавай ніткай, здольнай даць нам магчымасць выбрацца із лабірынту памылковых здагадак, пра падставы пабудовы трох, адна вышэй другой, грамадзкіх ці дзяржаўных пабудоваў у Ягіпце. Я тут маю намер выразна паказаць чытачу, што піраміды – гэта не індывідуальныя задумы нейкай асобы, а агульнанародныя пабудовы, у якіх, адкрыта ці ўскосна, шляхам дастаўлення харчавання, брала ўдзел працаздольнае насельніцтва шматлікіх культурных згодна з тым часам краін, аб’яднаных разам з Ягіптам адной урадавай уладай.

Згодна з асноўным законам грамадзкага жыцця ўсе вялізныя прадпрыемствы, патрабуючыя вялікага выдаткавання працы мас, здзейсняемы толькі пры спагадлівым стаўленні да іх з боку гэтых мас. Немагчыма патлумачыць падобныя рэчы капрызам трох асобных пасьлядоўных валадароў, жадаўшых зрабіць сваю будучую магілу вышэй, чым у сваіх папярэднікаў. Насельніцтва, нават і ва ўмовах рабаўладальніцкай краіны, не пайшло б на гэта, тым больш, што ніводзін староннi чалавек не толькі із вайсковых правадыроў, але нават і са складу сямейства самога валадара, не быў зацікаўлены ў знясільванні ўсяго насельніцтва дзеля відавочна не маючых карысьці **для сябе** пабудоваў.

Другое, больш прыдатнае на выгляд, тлумачэнне ўзнікнення пірамід, спрабавалі вылучыць найноўшыя гісторыкі, выказаўшыя здагадку, быццам бы усё гэта рабілася дзеля абароны даліны Нілу ад наносаў пяску. Але і яно, нават без доўгіх разважанняў, непрыдатнае. Для гэтага адзінай, на некаторы час мэтазгоднай, пабудовай была б пабудова суцэльнай сьцяны, ды і яна пры некаторым далейшым разважанні засталася б без рэчаіснай карысьці. Даліна Нілу падтрымліваецца толькі глеем ад штогадовых яго разводдзяў, які, дамешваючыся да наносімага пяску

пустыні, і ствараў яе ўрадлівасць. Пабудаваць плаціну азначала б загубіць усю краіну.

Мы бачым, што ні адно із прапанаваных да гэтага часу тлумачэнняў не вытрымлівае сур'ёзнай крытыкі і нам даводзіцца звярнуцца толькі да адзінай высновы, на якую я ўжо паказваў вышэй: чатыры вялікія піраміды былі чатырма спробамі пабудаваць усходы на неба. Іх пірамідападобная форма не павінна нас здзіўляць, таму што ніякай іншай формы, акрамя піраміды, для вельмі высокіх і ні да чаго не прыстаўленых усходаў не магла прыдумаць не толькі старажытная, але і сучасная архітэктура. Згадайце, напрыклад, хаця б Эйфелеву вежу ў Парыжы.

У архітэктуры не толькі ніколі не было, але і не будзе спосабаў будаваць усходы да аблокаў інакш як у такім выглядзе, асабліва із камянёў. Пры пірамідападобнай форме даводзіцца пачынаць пабудову із аднаго цэнтральнага кубічнага каменя, які кладзецца ў падмурак, а потым да яго шчыльна прытуляюцца з бакоў восем іншых, такіх жа, а цэнтр закрываецца новым каменем. Гэта і ёсць зародак квадратнай піраміды, якая такім спосабам можа павялічвацца да бясконцасьці.

Спакуса ж для такой пабудовы была вялікая. Справа ў тым, што блакіт неба, размешчаны, падобна сонечнай фотасфере, лёгкім дымаватым пластом роўным некалькім кіламетрам таўшчыні і газавая абалонка зямнога шара, там, дзе заканчваецца яе другі пласт – стратасфера – здаецца для наіўнага, непадрыхтаванага навукай чалавека, не вышэй чым на некалькі дзясяткаў сажаняў над яго галавой. Я згадваю як і сам, гадоў сямі ці васьмі, калі яшчэ падзяляў біблейскае ўяўленне пра неба, як пра крыштальны каўпак над зямлёй, плаваючы на паверхні бяздоннага і бясконцага акіяна (як вялізны каўчэг, на вяршыні якога сядзіць рулявым яго ствральнік), шмат разоў спрабаваў вызначыць яго вышыню. Я лажыўся летам пад якім-небудзь высокім дрэвам, і блакітнае нябесна-крышталёвае скляпенне ўяўлялася мне, хаця і няпэўным, але ва ўсякім разе раз у дзесяць больш блізкім, чым адлегласць да ранейшага месца нашага маёнтка – Старога Борка, – дзе яшчэ высілася ранейшая сядзіба са срэбным шарам, зіхацячым на высокім шасьце над яе дахам. А дзякуючы таму што яна была ўсяго на адлегласьці паловы вярсты, то я і зрабіў выснову, што неба павінна знаходзіцца не вышэй чым на 50 сажаняў над паверхняй зямлі і што пабудаваць туды вялікія ўсходы са слупоў і папярэчын, якраз накшталт піраміды, цалкам магчыма.

Усе гэтыя дзіцячыя развaжанні, якія, вядома, у цалкам такім жа выглядзе прыходзілі і ўсім самастойна абуджаючымся наіўным розумам, непазбежна павінны былі ў свой час узнікнуць у галовах самых выбітных мысляроў старажытнасьці, падзяляўшых біблейскія погляды. А думка залезьці на неба павінна была здавацца не толькі ім, але і ўсяму насельніцтву краіны такой прывабнай, што яно не было супраць масава ісьці за такой прынадай і выдаткаваць на яе шмат гадоў сваёй уласнай працы, як непасрэдна, так і ўскосна, шляхам гвалтоўнага захопу ў рабства насельнікаў аддаленых краін і іхнага ўтрымання пры вырабніцтве пабудоваў. І, вядома, такія ўсходы на неба патрэбна было будаваць пад заступніцтвам толькі самых найвялікшых сьвятых – Майсея, Арона, Хрыста.

Але чаму ж для гэтых пабудоваў была абрана мясцовасць на левым краю даліны Нілу, на захад ад старажытнага Мемфіса, парэшткі якога захаваліся і да гэтага часу на поўдзень ад мястэчка Гізэх? Чаму менавіта сюды прывозілі хаваць целы і чаму менавіта сюды ж з вялікімі высілкамі звозіліся вялізныя кубічныя камяні, надзвычай дакладна і гладка вычасаныя са шчыльнага нумулітавага

вапняку Аравійскіх гор, калі іх даводзілася з вялікімі намаганнямі перавозіць на месца і сушай, і морам? Чаму патрэбна было будаваць іх тут, а не там, дзе рабіліся камяні? Я ужо і раней намякаў на нагоду.

Толькі таму, вядома, што гэтае месца грунтуючыся на нейкіх наіўных меркаваннях старажытных грэка-рымскіх, жыдоўска-арабскіх ці мясцовых ягіпецкіх мудрацоў было палічана самым сьвятым і найбольш блізкім да неба. І я ўжо выказваўся, што адным із такіх меркаванняў мог быць факт негніення тут на мяжы з пустыняй чалавечых і жывёльных трупаў.

Тры самыя вялікія ягіпецкія піраміды з'яўляюцца з гэтага боку гледжання толькі трагічнымі помнікамі старажытных памылак, праз якія непазбежна павінна была прайсьці навука пра ўладкаванне сусьвету, перш чым дайсьці да сучаснага вучэння пра бязмежнасць нябеснай прасторы.

У трох месцах тры секты спрабавалі будаваць вежу да неба і неадменна над нятленнымі парэшткамі нейкага асабліва вялікага сьвятога, і кожны раз нейкі мудрэц вызначаў у дадзеным месцы вышыню неба і паведамляў знаходзіўшымся пад яго ўплывам народам і іхным валадарам: «на вось такой-та вышыні мы дасягнём да неба!». І валадары і некалькі пакаленняў народаў будавалі тут піраміда-падобныя ўсходы з вялікімі намаганнямі, але, дабудаваўшы да паказанай вышыні, пабачылі, што неба аддаляецца ад іх і паранейшаму застаецца недасягальным.

Расчараваным ініцыятарам такога прадпрыемства нічога не заставалася як заявіць, што гэтае месца не пажадана богу-богаў, а таму і мошчы патрэбна вынесьці адсюль некуды ў іншую магільню.

І так было да таго часу, пакуль вялізная колькасць безсэнсоўна выдаткаванай працы не падарвала, нарэшце, давер да старой тэорыі пра блізкасць тут неба і пра магутнасць тых, чые мошчы тут ляжалі, і пакуль не пачалі шукаць новую, больш прыдатную сістэмы сьвету.

Такой уяўляецца мне сапраўдная падстава пабудовы трох вялікіх ягіпецкіх пірамід і з боку гледжання эвалюцыі навукі пра неба, і з боку гледжання грамадзкай псіхалогіі, кладучай у падставу сваіх высноваў цьверджанне, што роля асобы ў развіцці буйных дзяржаўных пабудоваў не такая вялікая і што ў вобразе вялікіх людзей кожнай эпохі толькі ўпершыню адлюстроўваецца тое, да чаго несьвядома для сябе падрыхтаваны той пласт насельніцтва, у асяроддзі якога была выхавана дадзеная асоба.

Такім чынам, тры вялікія ягіпецкія піраміды – тры ўсходы на неба. А астатнія дробныя, атачаючыя іх, – ужо простыя магілы наступных валадароў, якія будавалі іх чыста ў якасьці пераймання са стратай першапачатковага сэнсу, як і кожныя перажыткі старых рэлігійных вераванняў, ператварыўшыяся ў чыстую звычаёвасць. А Ягіпет пад час старажытнасьці лічыўся сьвятой зямлёй, верагодна яшчэ дзякуючы і таму, што тут каля 30° паўночнай шыраты, апоўначы веснавога раўнадзенства цалкам кладзецца на зямлю Вялікая Дарога Зорак – Млечны Шлях і гарызонт пірамід у гэты час, як штосутачна і пад час іншых месяцаў ад кастрычніка да траўня, але ужо не ў самую апоўнач[43], і зараз яшчэ бачыцца цалкам аточаным яго зіхатлівай палосай, быццам ракой, цякучай малаком і мёдам, якою малюецца ў

[43] Падчас зімовага сонцастаяння – у 6 гадзін раніцы, а падчас летняга – у 6 гадзін вечара, але ў гэты час Сонца яшчэ не зайшло. Такая выява апускання ўсяго Млечнага шляху ў выглядзе кола на зямны небасхіл у краіне пірамід бачна пад час кожнай ночы паміж кастрычнікам і траўнем.

Бібліі Ханаан (КНЕН). А паўтары тысячы гадоў таму назад накладанне Млечнага Шляху на гарызонт пірамід было яшчэ больш дакладным, з нагоды прэцэсіі.

Непасрэдна на поўначы гэтай Нябеснай ракі быў відаць тады Пасад Бога (у сузор'і Касіяпеі), апусціўшыся на зямлю; непасрэдна на поўдні быў бачным Паўднёвы Крыж, засланяючы сабой Дзверы Пекла, чорную пляму, маючую зараз назву Вугальны Мяшком. На ўсходзе із гэтай ракі выходзіць Змеятрымальнік, на захадзе пад яе апускаецца Арыён у падземнае царства. Пчаліны Вулей із легенды пра Самсона, ці па нашаму сучаснаму, Валасы Веранікі, знаходзіцца ў зеніце неба, а ў надзіры – пад зямлёй – хвост сузор'я Кіта, на якім згодна са старажытнымі ўяўленнямі плавала Зямля.

Такім з’яўляецца, штодня паўтараючымся нябеснае атачэнне пірамід, што асабліва выразна абмалёўваецца, як я ўжо паведаміў, пад час выбітнога дня веснавога раўнадзенства, калі святкуецца Вялікдзень адпаведна з законам біблейскага Вялікага Прысьвечанага[44], знойдзенага дачкой «Фараона» ў кошыку, плаваючым па рацэ.

Мімаволі зноў і зноў пры гэтым паўстае ў памяці ўжо прыведзеная намі легенда пра Якава-Богазмагальніка, як ён пайшоў ад Студні Сядзьміцы[45] і прыйшоў у Харнэх (Карнак[46]) і, застаўшыся там начаваць, пабачыў у сне на зямлі ўсходы, верх якіх дакранаўся да неба, а Вестуны бога ўзыходзілі і сыходзілі па іх і як ён сказаў: «тут будзе Боская Сядзіба, і із усяго падараванага мне я аддам на яе дзясятую частку» (Быццё 28).

Так справа была і з ягіпецкімі пірамідамі. Прыдумалі іх не старажытныя валадары Ягіпта: гэтыя валадары не былі здольнымі нічога прыдумаць, акрамя войн, і гэтым здзяйснялі сваю гістарычную ролю аб'яднання асобных народаў першабытнага чалавецтва ў сваёй краіне ў вялікія дзяржавы цалкам несьвядома, не задаючыся ніякімі эвалюцыйнымі пытаннямі. Піраміды прыдумалі тагачасныя навукоўцы спачатку як найбольш трывалую форму вышынь для назірання ці для помнікаў, а потым ім жа прыйшла ў галаву ідэя пра магчымасць, абкладваючы такі помнік, асабліва над целам вялікага сьвятога, з усіх бакоў новымі і новымі пластамі кубічных камянёў, узвышаць бязмежна пабудову, захоўваючы за ёю тую ж форму. Чаму б у такім разе не давесьці яе вяршыню – прыйшло ім у галаву – і да крыштальнай цьвердзі, затуляючай зямлю згодна з Майсеевай сядміцай тварэння, якая здавалася ім даволі блізкай?

Але для гэтага патрэбна было выкарыстаць для працы масы насельнікаў, а тыя самі не пойдуць, таму што скажуць: гэта «вельмі добра, але хай робяць іншыя, а я лепш пачакаю знізу і паднімуся на неба па ўжо гатовых усходах». Патрэбна было арганізаваць сістэматычнае войска працоўных, а гэта мог зрабіць толькі вярхоўны валадар краіны з дапамогай свайго войска, і таму, акрамя народа, патрэбна пераканаць і яго, наводзячы па думку, што па такіх усходах ён будзе мець магчымасць падняцца на неба яшчэ і пры жыцці прама ў абдымкі да таго, у гонар каго ўзводзілася пабудова.

І вось валадары і пілігрымы да ягіпецкіх сьвятых месцаў, дзе целы нябожчыкаў не гніюць, пайшлі на прынаду. Праца энергічна вялася выключна таму, што ёй спачуваў не адзін цар, але і ўсе чараўнікі, і яго прыдворныя, і войска,

---

[44] Г.зн. Майсея (משח).

[45] באר (БАР) – студня і שהב (ШБЕ) – сем.

[46] חרן (ХРН).

ды і масы насельнікаў нічога не маглі запярэчыць супраць карыснасьці для іх такога прадпрыемства. І спатрэбілася поўнае знясіленне ўсіх эканамічных рэсурсаў і сродкаў дзяржавы для таго, каб людзі пераканаліся, што неба для іх такім спосабам недасягаема.

І мы ўжо бачылі, што гэтая справа была задумана не раней заканчэння IV стагоддзя нашай эры.

Калі будаваліся самыя вялікія із пірамід? Мясцовыя насельнікі сучаснага Ягіпта не маюць пра іх паходжанне ніякіх успамінаў, і – як я ўжо паведамляў – лічаць іх за стварэнні цара волатаў Ган-ібн-Гана, а пісьменнікі Эпохі Адраджэння і грунтуючыся на іх сучасныя навукоўцы дапасуюць іх да дагістарычнай старажытнасьці. Астранамічных спосабаў вызначэння іхнага часу да гэтага часу мной не знойдзена, але мяркуючы па таму, што ўсе знойдзеныя да гэтага часу іерагліфічныя надпісы, утрымліваючыя гараскопы, даводзіцца дапасаваць ужо да сярэдневечча нашай эры, і піраміды патрэбна прызнаць пабудаванымі ва ўсякім разе не раней чацьвёртага стагоддзя.

Падзел ягіпецкайкультуру на чатыры параксізмы, раз’яднаныя паміж сабой тысячагоддзямі заспакаення, супярэчыць агульнаму закону эвалюцыі дзяржаваў, згодна з якім аднойчы утварыўшаяся вялікая імперыя больш не знікае, а толькі саступае сваё месца іншай. Як жа магла ягіпецкая, – калі верыць сярэднявечным паданням, – чатыры разы ажываць із памёршых у новым бляску і чатыры разы зноў апускацца ў нябыт на сотні гадоў?

ТАБЛІЦА LV.

Храналагічная дыяграма ўяўляемай старажытна-ягіпецкай гісторыі.

| | |
|---|---|
| -3 200 | |
| **-3 000** | 1-ы параксізм грандыёзнага будавання: вялікія піраміды |
| -2 800 | Тысячагадовы летаргічны сон. |
| -2 600 | |
| -2 400 | |
| -2 200 | |
| **-2 000** | 2-і параксізм: лабірынт у Медынет-эль-Фазома. Вадаём для адводу Нілу. Аменэм-Хат III. |
| -1 800 | Другі сон на палову тысячагоддзя. |
| -1 600 | |
| -1 400 | |
| **-1 200** | 3-і параксізм. Карнак. Старажытны Суэцкі канал. Рамзэс III. |
| -1 000 | Трэцці сон на 800 гадоў. |
| -800 | |
| -600 | |
| -400 | |
| **-200** | 4-е абуджэнне. Эпоха Пталямеяў. |
| 0 | Элінская эпоха. Перыяд высока-культурнага стану з Александрыйскай бібліятэкай, Фароскім маяком паблізу Александрыі, суднаходствам па Міжземнаму і Чырвонаму морах. |
| +200 | |
| +400 | |
| +600 | Чацьвёрты сон на 1 200 гадоў. |

Зірніце толькі на прыкладзеную храналагічную схему (табл. LV). Згодна са звычайнай храналогіяй, яшчэ за 3 200 гадоў да пачатку нашай эры тут заснаваў вялікую імперыю цар Мена (Менэс) і да яго эпохі дапасуецца пабудова трох вялікіх усходаў на неба ў Гізеху: Хуфу, Хафрэна і Менкаўры. Відавочна, што да той жа эпохі павінны быць дапасаваны і малыя. Паўтараць падобны стыль пасьля перапынку ніхто не стаў бы. Потым тысячу гадоў быццам бы нічога не будавалі,

але раптам пры Аменэме III зноў будуюць вялізныя пабудовы: вадаём для Ніла і лабірынт каля Фаюма.

Потым зноў 800 гадоў бяздзейнасьці, а пасьля таго трэцяя хваля грандыёзнага будаўніцтва. Пры Рамзэсе II будуюць канал, злучаючы Чырвонае мора з Міжземным (хаця росквіт ягіпецкага мараплаўства і быў толькі праз 1 000 з лішкам гадоў пасьля гэтага!). Потым зноў быццам бы тысячагадовы глыбокі сон краіны пад валадарствам трох паслядоўных напаловудзікіх народаў, а пасьля яго зноў новая хваля грандыёзнага будаўніцтва: пры Пталямею пачынаюць узводзіць Дэндэрскія і іншыя грандыёзныя храмы, пачынаецца ветразёвае мараплаўства, захапленне навукамі, а пасьля гэтага Ягіпет зноў засынае ўжо на 1 200 гадоў аж да нашага часу, калі яго апошнюю грандыёзную пабудову – Суэцкі канал – здзейснілі не тубыльцы, а еўрапейцы для сваіх уласных мараходных патрэб.

Усе гэтыя папераменныя абуджэнні і засынанні так супярэчаць асноўным сацыяльна-эвалюцыйным законам, згодна з якімі культурныя цэнтры развіваюцца і знікаюць ў залежнасьці ад прыродных умоваў, а не ад волі асобных валадароў, што сучасная рэалістычная гістарычная навука, у падставе якой павінны ляжаць геніяльныя высновы Бокля, не можа лічыць прымальнай a priori такую гістарычную схему. Гэта азначае што ўсе грандыёзныя пабудовы Ягіпта патрэбна дапасаваць да адной і той жа эпохі, і, вядома, да самай позняй із усіх чатырох уяўляемых абуджэнняў Ягіпта, да эпохі палітычнага аб'яднання з лаціна-элінскімі краінамі, пры якім навука і тэхніка Ягіпта дасягнула дастатковага развіцця. Гэтая выснова падмацуецца ў нас і іншымі меркаваннямі, не кажучы ўжо пра вышэйпрыведзеныя, астранамічныя вылічэнні тых із помнікаў ягіпецкай старажытнасьці, на якіх выяўлены -гараскопы.

# Глава VIII.

## Псеўда-пятая дынастыя чалавекападобных старажытна-ягіпецкіх цароў.

### Цары малых пірамід.

Я пачынаю так званае Старажытна-ягіпецкае царства з пятага згуртавання ягіпецкіх цароў, дапасуючы першыя чатыры згуртаванні да вышэй апісанага «Псеўда-Старажытнага».

Яно шмат у чым нагадвае 3-яе згуртаванне, якое пачынаецца ад Неб-кі (біблейскага Эвера), але выглядае больш падрабязным з дадаваннем некаторых нядоўга валадарыўшых цароў. Падобна таму як пад час папярэднічаўшага «псеўда-старажытнага» царства тыя ж самыя багі-планеты, якія ўваходзілі ў першую боскую дынастыю, паўтарыліся з нязначнымі варыяцыямі ў імёнах і ўпарадкавання ў другой «божай дынастыі» (табл. XLVI і XLVII, стар. 785 і 788), так і тут, тыя ж самыя ягіпецка-рамейскія цары III стагоддзя нашай эры, якіх мы ўжо бачылі адбіўшыміся ў 3-й і 4-й дынастыях, паўтараюцца зноў (табл. LVI).

Гэтая дынастыя вызначаецца тым, што быццам бы ў гонар яе «святцейшаствваў» пабудаваны, сцвярджаюць, меншыя піраміды, што вызначае і іхнае меншае значэнне ў вачах наступных пакаленняў. Зразумела, што яны не маглі б лічыцца міфічнымі, калі б захаваліся іхныя магільні і таму мы павінны былі б лічыць гэтую дынастыю за працяг папярэднічаўшай, г.азн. атаясаміць іх з

усходнімі царамі V і VI стагоддзяў, ад Хвядоса I, які ўступіў на пасад у 378 годзе пасьля сьмерці Васіля Вялікага і прынамсі да Гераклія (у 641 г.). Мы маглі б сказаць што пасьля жахлівай метэарытнай катастрофы ў Чырвоным моры ў 622 годзе нашай эры (пра якую я выказваўся вышэй у выкладанні нагод узнікнення ісламу) тут адбылася амена рэлігіі, і Ягіпет тэакратычна, а таму і адміністрацыйна аддзяліўся ад Візантыі, стаўшы агаранскім, хаця яго агаранства і не было яшчэ магаметанствам, і характарызавалася толькі хаджэннямі на ўшаванне ў Меку.

Аднак пры маёй спробе, хаця б гэтым разам выйсьці із зачараванага кола сямі «рымскіх» цароў IV стагоддзя, зноў нічога адпаведнага не атрымалася, **таму што большасьці малых пірамід не выявілася існуючымі ў прыродзе**, і таму мне зноў давялося вярнуцца ў IV стагоддзе, імкнучыся размеркаваць застаючыяся малыя піраміды паміж суваладармі Дыяклетыяна-Майсея, Арыя-Арона і Васіля Вялікага-евангельскага Хрыста, – як гэта бачна на прыкладзенай табліцы (табл. LVI).

Вось найменні некаторых малых пірамід, прыведзеныя згодна з Бругшам паралельна з пахаванымі ў іх «сьвятасьцямі», пры гэтым нумарацыя дадзены згодна з Абідоскім сьпісам, а ў дужках пазначаны іхныя біблейскія назвы адпаведна з радаводам Хрыста ў Евангеллі Лукі.

| Імёны «Свяцейшастваў». | Імёны іхных пірамід. |
|---|---|
| 25. Шепсэс-Каф (Фарэс-Парыс) | Кэбе – Халаднаватая. |
| 26. Ус-хаф (Ес-Ром) | Абу-Сэту – Самае чыстае месца. |
| Іх мы дапасавалі да закачэння чацьвёртай дынастыі, а ў пятай засталіся: | |
| 27. Шаху-Рэ (Ром) | Ха-Ба – Узыходжанне душы (на неба). |
| 29. Нэф-эрк-Рэ (Насон) | Ба – Душа. |
| 30. Рэ-Нусер (Салмоп) | Ман-Сэта – Самае моцнае месца. |
| 31. Менка-Гор (Баас) | Ніпэр-Сета – Самае сьвятое месца. |
| 32. Татка-Рэ ці Дэдкэ-Рэ (Овід) | Ніфор – Выдатная. |

– Дзе ж, – запытаеце вы мяне, – гэтыя піраміды?

– «Халаднаватая», «Самае чыстае месца», «Душа» і «Самае сьвятое месца» цалкам адсутнічаюць у Ягіпце. Назва «Самае сьвятое месца» знойдзена толькі на адным камені грабнічнага будынку сьвятых быкоў паблізу Сакары, але саму піраміду знайсьці не маглі... А што да «Ўзыходжання душы» і да «Самага моцнага месца», то першая з іх знаходзіцца – запэўніваюць нам – паблізу паселішча Абу-Сір і мае каля 30 метраў вышыні.

– А як жа яе распазналі?

– Каля яе аднойчы знайшлі – паведамляюць нам – камень, на якім было напісана чырвонай фарбай імя «Сахура». Ды і другая вызначана тамсама падобным жа спосабам: і каля яе аднойчы знайшлі такі ж пазначаючы камень з найменнем «Рэ-Нусер».

– А дзе ж – запытаеце вы – зараз гэтыя камяні, на якіх вадзяная фарба нейкім цудоўным чынам не сцёрлася і не змылася разводдзямі Нілу на працягуу тысячагоддзяў?

Іх зараз няма і сьледу, – адкажуць вам.

Добра! Відавочна апошнія гады вызначаліся вельмі разбураючымі ўласцівасьцямі. За некалькі тыдняў яны зьнішчылі тое, што да іх заставалася непашкоджаным на працягу цэлых дзясяткаў стагоддзяў, як бы спецыяльна для таго, каб нейкі шукальнік змог іх прачытаць... А пасьля гэтага падобныя надпісы, вядома, сталі ўжо непатрэбнымі: яны саслужылі сваю справу і маглі спакойна пагрузіцца ў вобласць нірваны.

ТАБЛІЦА LVI

Псеўда-пятая дынастыя чалавекападобных старажытна-ягіпецкіх цароў згодна з рознымі аўтарамі і ў іхным параўнанні з біблейскімі пасьля-патопнымі патрыярхамі і з царамі класічных пісьменнікаў (Гэта – цары невядома дзе знаходзячыхся малых пірамід).

| I. Згодна з Абідоскім спісам | II. Згодна з Занарасам ад імя Манефо. | III. Згодна з Афрыканам ад імя Манефо | IV. Згодна з Яўсевіем ад імя Манефо | V. Згодна з Сакарскім спісам | VI. Згодна з Турынскім папірусам |
|---|---|---|---|---|---|
| 27. Шаху-Рэ (цар-шах) | Ад сут ні ча юць у За на ры са | Цар-Шэф (Шэф-Рэ), 13 гадоў | Ад сут ні ча юць у Яў се вія | 26. Шах-Рэ (цар-шах) | Саху-Рэ (цар-шах) |
| 28. Какау | | – | | – | – |
| 29. Цар Нэў-Эрк | | Цар Нэф-Эрх, 20 гадоў і цар Сеса 7 гадоў | | 27. Цар Нэф-Эрк і 28. Цар Сепсеск | Цар Нэф-Эрк, 20 г. ці цар Сепсеск ? гадоў |
| 30. Цар Неў-Усер (Нусер) | | Цар Хе, 20 г., і цар Рату, 44 г. | | 29. Хе-Нэф Эрк-Рэ | Сокал Аковаў і цар Неў-Усер (30 ці 3 г.) |
| 31. Сокал-Менк (Менк-Гор) | | Цар Менх, 9 гадоў | | 30. Сокал-Менк (Менк-Гор). | Сокал-Менк (Менк-Гор) 8 гадоў |
| 32. Цар Дэдк | | Цар Тэнх, 44 гады | | 31.Цар Дэдкэ | Цар Дэдкэ 28 ці 18 г. (інакш Аса-Езус |
| 33. Унас | | Онас, 33 г. | | 32. Унас | Унас, 30 гадоў |

| VII. Згодна з кнігай Быццё і радаводам Хрыста ў Евангеллі Лукі | VIII. Згодна з візантыйскімі апакрыфістамі | IX. Згодна з біблейскімі кнігамі | X. Згодна з Эратасфенам. | XI.Назвы прыпісваемых ім грэкамі неіснуючых «малых пірамід» |
|---|---|---|---|---|
| 27. Ром (а-Рам) | Дыяклетыян-Бога-Пакліканы | Савул | У Эратасфена а ўся гэтая дынастыя адсутнічае | «Узыходжанне Душы» |
| 28. Амі-Надаб | Максімін? | – | | – |
| 29. Насон | Канстанцый-Хлор? | Давыд | | «Душа» |
| 30. Салман | Кастусь і Ліцыній? | Саламон | | «Самае моцнае месца» |
| 31. Баас | Арый? | Прарок Самуіл | | « Самае сьвятое месца» |
| 32. Авід | Вялікі цар (Васіль Вялікі)? | Прарок Ілія | | «Прыгожая» |
| 33. Ясэй | Ян Залатавусны? | Прарок Елісей | | – |

Цікава, што ўвесь гэты перыяд дададзены ўжо пасьля Эратасфена. У яго цары малых пірамід адсутнічаюць цалкам, і наступная – шостая – дынастыя лічыцца непасрэдным працягам папярэднічаўшай чацьвёртай. А ў Яўсевія адсутнічае як яна так і абедзьве папярэднічаўшыя дынастыі: ён пазначае і ў наступнай – шостай дынастыі – толькі двух цароў, лічачы іх за працяг другой дынастыі. Ужо адно гэта выяўляе нам увесь механізм стварэння бясконца-доўгай дынастычнай гісторыі Ягіпта з варыяцыямі пад рознымі імёнамі тых жа самых сямі апакаліптычных рамейскіх цароў толькі з рэдкімі заменамі іх мясцовымі суваладармі, засланяўшымі іх дзеячамі, як храналагічнымі ізатопамі, што парушае сучасную складнасьць перыядычнай сістэмы. Так здарылася і з перыядычнай сістэмай хімічных элементаў Мендзялеева, што яе, вядома, ускладніла і выклікала спачатку шэраг нападак, але потым усе пераканаліся ў яе слушнасьці. У Афрыкана гэтая дынастыя мае назву Элефантыйскай, напэўна, таму, што запіс пра яе знойдзены ў Элефантыне. Гэта азначае, такую назву дала візантыйскім царам (ці іхным суваладарам)

Элефантыйская школа. Грэцкія апакрыфісты прыпісваюць ім малыя піраміды, пазначаныя ў апошнім слупку. Калі б піраміды з гэтымі самымі імёнамі ўсярэдзіне былі знойдзены ў Ягіпце, то і «дынастыю» давялося б лічыць не за новае паўтарэнне казкі пра ягіпецкага белага бычка, а за рэчаісна існаваўшую. Але ніякіх іхных пірамід не існуе ў Ягіпце. Іхныя імёны згадваюцца толькі ў надпісах на чужых магільнях. А апавяданне пра тое, што імя Рэ-Нусер (Цар Нусер) было некалі кімсьці знойдзена на камянях, валяючыся зараз без надпісаў на зямлі (Бругш, стр, 87), і што імя «Унас» знайшоў некалі Марыт усярэдзіне адной пірамідападобнай пабудовы», мы не можам лічыць за доказ, таму што куча камянёў – яшчэ не піраміда, ды і імя Унас (ад лацінскага unus – адзін?) можа належаць якому заўгодна прыватнаму багацею ягіпцяніну.

Із «малапірамідцаў» ці хутчэй «безпірамідцаў» Шепсескаф (№ 25) – вельмі нагадвае, згодна з Бругшам[47], біблейскага Ёсіфа.

«Пата Шепсэс (патэр Шэпсэс), – выказваецца ён, – быў, як біблейскі Ёсіф, пры сваім папярэдніку загадчыкам усіх запасных харчовых крамаў і руднявых распрацовак, першасьвятаром бога-Бацькі (Паты) у храмавым горадзе Мемфісе і быў наступнікам Менка-Рэ».

Згодна з нашымі атаясамленнямі ён адпавядае апосталу Яну, спісанаму з Яна Залатавуста.

А з нагоды апошняга мала-піраміднага цара гэтай табліцы Татка-Рэ (біблейскага Авіда), змешчанага пад № 32 у Абідоскім спісе, я павінен даць некаторыя тлумачэнні.

Відаць, яго пераблыталі з Дэдка-Рэ (№ 44) наступнай псеўда-дынастыі, адпавядаючаму згодна з законам перыядычнасьці зноў Васілю Вялікаму ці яго вучню Яну Залатавусту, грунтуючыся на наступнай падставе:

«У самым старажытным із усіх вядомых манускрыптаў, папірусе знойдзеным інжынерам Прысам д'Авен у Фівах, – паведамляе нам Бругш[48], – змяшчаючым шэраг маральных пажаданняў, пад назвай «Мудрасьць гарадзкога кіраўніка Бацькі (Патэра) Хатэпа з часоў цара Асы, ды жыве ён!» – утрымліваецца наступнае месца ў чыста евангельскім духу:

«*Калі ты ўзвысіўся, быўшы раней нізкім, і набыў скарбы, быўшы раней у галечы, і зрабіўся самым шляхетным у сваім горадзе, то ды не ўздымаецца тваё сэрца праз тваё багацце, таму што даравальнік яго – бог. Не пагарджай бліжнім сваім, які зараз знаходзіцца ў тым становішчы, у якім ты быў сам, а стаўся да яго як да роднага*».

Але ж гэта тая ж самая ідэалогія, як і пры ўзнікненні хрысьціянства!

Цар Аса, пры якім жыў гэты Езус Сірах, лічыцца ягіптолагамі тоесным з Татка-Рэ (Дэдка-Рэ) пятай дынастыі. Але ў пятай дынастыі цар Дэд ці Татка адпавядае біблейскаму Авіду і візантыйскаму Вялікаму цару, як бачна із параўнання радаводу Ра-Месу ў Абідоскім спісе з радаводам Хрыста-Месіі ў Евангеллі Лукі (№ 33 Абідаса). Але і ў VIII дынастыі існуе другі Татка-Рэ (№ 44. Абідоса), непасрэдна адпавядаючы біблейскаму Асе, пры параўнанні таго ж радаводу Ра-Месу з радаводам Хрыста згодна з Евангеллем Мацьвея. Ці магчыма прыпісаць гэта простай выпадковасьці?

Тут вельмі мала шанцаў на выпадковае супадзенне, а тым часам біблейскі Аса, згодна з маімі астранамічнымі і этналагічнымі супастаўленнямі, адпавядае Хрысьціянскаму Езусу. Хіба гэта не новы довад перыядычнага паўтарэння тых жа самых асоб пад рознымі імёнамі?

---

[47] Бругш, стар. 86 арыгінала

[48] Бругш, стар. 91 арыгінала.

Апошні із цароў пятага радаводу – Унас (№ 33) – адпавядае зноў евангельскаму Хрысту, але яму тут няма піраміды, таму што яна ўжо была дадзена яму пад імем цара Менкава. Турынскі папірус на гэтым заканчвае свой першы раздзел ягіпецкіх тэакратаў, і пасьля яго пачынаецца новая рубрыка, адмежаваная чырвонай рысай.

# Глава IX.

## Псеўда-шостая дынастыя чалавекападобных старажытна-ягіпецкіх цароў.

Гэтую псеўда-дынастыю, ці лепш сказаць шосты перыяд цароў-тэакратаў у перыядычнай сістэме ягіпецкіх валадароў, я лічу асабліва цікавай.

Калі чытач прыгледзіцца да прыкладзенай табліцы (табл. LVII), то ён пабачыць, што ў Эратасфена, Яўсевія і Афрыкана яна ўяўляе ўжо не радавод Хрыста ці Ра-Месу Вялікага, а продкаў царыцы Нітакрыс, імя якой азначае: Нітка Дасканаласьці, «жанчына вышэй мужчыны», згодна з арыгінальнай характарыстыкай «Набожнага Ўсешанавальніка (Яўсевія Памфіла па-грэцку)». А Эратасфен тытулуе яе больш паэтычна «Афіна Пераможца», і Герадот яе ж называе «Ружалікая».

Не цяжка здагадацца, што яна ўяўляе евангельскую панну Марылю. Хаця на ёй і заканчваюцца спісы гэтага радаводу ў Эратасфена, Яўсевія і Афрыкана і хаця яна перанесена на заканчэнне больш доўгага радаводу Абідоскай табліцы пад № 76 (гл. табл. XLII на стр. 771), але калі вы паглядзіце на № 40 у табліцы XLII, то пабачыце, што там замест «Ніткі Дасканаласьці» пастаўлены Рэ-Нутер К., г.азн. Цар-бог К., пры гэтым К. з’яўляецца скарачэннем нейкага тытула накшталт Кесар, гэта мы пастаянна назіраем і ў лацінскіх надпісах пры ўласных імёнах. А ў радаводзе Лукі на яе месцы стаіць Аб-Іе, г.азн. Бацька бога.

Праўда, прадаўжальнік Эратасфена дадае, што пасьля Нітакрыс была яшчэ сёмая дынастыя доўжыўшыўшаяся 75 гадоў, потым восьмая –100 гадоў, потым дзявятая –100 гадоў, із якой ён прыводзіць толькі Актавіяна (Okhtovis), потым дзесятая, потым адзінаццатая, із якой ён прыводзіць толькі «Аменэ-Меса», але гэта відавочна толькі для таго, каб давесьці вынік да 2300 гадоў, ад свайго першага цара Менеса-Адама да сьмерці Майсея, згодна з біблейскай храналогіяй, лічачай, што Адам быў створаны богам за 3760 гадоў да пачатку нашай эры і за 2300 гадоў да сьмерці Майсея.

З той жа колькасьцю гадоў пагадняе свой спіс і Афрыкан, спасылаючыся на таго ж ягіпецкага першасьвятара Манефо, які быццам бы ўсё гэта вылічыў. Але вылічваў, вядома, не міфічны Манефо, а сам аўтар, ці хутчэй аўтары, таму што, відавочна, тут працавала цэлая кампанія, дастаткова шчыльна, хаця і не цалкам, злучаная адзін з адным і з жыдоўскімі сярэднявечнымі кабалістамі ў Александрыі ці ў Каіры. Асобныя практыкаванні гэтай кампаніі мы знаходзім і ў Евангеллях Лукі і Мацьвея, і ў радаводзе Магамета, і ў біблейскіх кнігах і ў двух іерагліфічных надпісах у Сакары і Абідосе.

А працэс творчасьці тут зразумелы. Гэта начапленне ў адзін безперапынны ланцуг разнамоўных і рознаіменных паданняў пра сем першых рамейскіх цароў-тэакратаў.

Хаця ў Евангеллях і паведамляецца, што Хрыстос быў сынам Ёсіфа і ўнукам Якава, але атаясаміць іх з Ёсіфам-Прыгожым Біbліі і з Якавам Богазмагальнікам азначала б скараціць як жыдоўскую, так і ягіпецкую гісторыю тысячы на паўтары гадоў.

А дзе ж у такім разе размясьціць царства Ізраільскае і царства Юдэйскае! Нічога не заставалася рабіць, як, адклаўшы да больш далёкага канца выдатную царыцу «Нітка Дасканаласьці», дадаць да толькі-што пералічаным варыянтаў яшчэ некалькі такіх жа, часам нават пералічаных задам наперад, як мы ўжо бачылі пры параўнанні Абідоскага і Сакарскага варыянтаў трэццяй дынастыі (і пабачым яшчэ тамсама ў двух варыянтах адзінаццатай і дванаццатай дынастый).

ТАБЛІЦА LVII

Псеўда-шостая дынастыя чалавекападобных старажытна-ягіпецкіх цароў згодна з рознымі аўтарамі і пры іх супапараўнанні з біблейскімі пасляпатопнымі патрыярхамі і з царамі класічных пісьменнікаў.

| I. | II. | III. | IV. | V. | VI. |
|---|---|---|---|---|---|
| Згодна з Абідоскім спісам | Згодна з Занарасам. | Згодна з Афрыканам | Згодна з Яўсевіем | Згодна з Сакарскім спісам | Згодна з Турынскім папірусам |
| 34. Тата | Адсутнічаюць у Занараса | Атоэс, 30 гадоў | Атоэс | 33. А-Таці | А-Таці ? |
| 35. Цар Уск | | Фіас, 53 г. | Адсутнічае | – | – |
| 36. Цар Мэры-Папі | | Мету-Суфіс, 7 г. | | 34. Папа | Папі, 20 г. |
| 37. Цар Мерэн | | – | | 35. Цар Мерэн | Цар-Марэн? |
| 38. Цар Ніў-Эрк | | Фіопс, 94 г. | Фіопс, 94 г. | 36. Цар Ніў-Эрк | Цар-Нэф Эрк-Паш |
| 39. Цар Мерэн Тэфам-цаў (лавец птушак-планет) | | Ментэ-Суфіс, 1 г. | – | 37. Цар Кракадзіл (Рэ-Собек) | (Імя разбурана) |
| [40. Рэ-Нутер-К.] Наступная дынастыя пералічана задам наперад і пачынаецца ім жа. | | Царыца Ніт-Акрыс (Нітка Дасканаласьці), 12 г Закан. спіса Афрыкана | Царыца Ніт-Акрыс (Нітка Дасканаласьці), 12 г Закан. спіса Яўсевія. | (Царыца Ніт-Акрыс перанесена яшчэ праз два перыяды пад №57) | Царыца Ніт-Акрыс (Нітка Дасканаласьці) |

| VII. | VIII. | IX. | X. | XI. |
|---|---|---|---|---|
| Згодна з радаводам Хрыста ў Евангеллі Лукі | Згодна з радаводам Хрыста ў Евангеллі Мацьвея | Згодна з лацінскімі апакрыфістамі | Згодна з Эратасфенам. | Згодна з грэцкімі апакрыфістамі |
| 34. Давыд (Додаці Тота) | 14. Давыд | Пампей Вялікі | 18 Майстэс, 33 г. | Дыяклетыян |
| 35. Натан | Адсутнічае | Адсутнічае | – | – |
| 36. Дарунак-Боскі (Матафія) | | | 19. Памес Правадырападобны, 35 г. | Арый |
| 37. Маінан | | | – | Максіміян |
| 38. Мелеай | 15. Саламон | Юлій-Цэзар | 20. А-Папус Найвялікшы, 100 г. | Канстанцый Хлор |
| 39. Елі-Акім (боскае цверджанне) | 16. Раваам | – | 21. Ехеско-Сакрас, 1 г. | Кастусь Вялікі |

<table>
<tr><td>40. Ёсіф Прыгожы (бацька Езуса ці ён сам)</td><td>17. Аб-Іе (бацька бога)</td><td>Клеапатра і Антоній</td><td>22. Царыца Ніт-Акрыс (Нітка Дасканаласьці) Заканчэнне спіса Эратасфена</td><td>Панна Марыля і Ліцыній</td></tr>
<tr><td colspan="5">Тут заканчваюцца спісы Афрыкана, Яўсевія і Эратасфена, і мы бачым, што яны напісалі не што іншае як радавод царыцы «Нітка Дасканаласьці», якую можна лічыць за ягіпецкі варыянт евангельскай панны-Марылі, маці Хрыста. Эратасфен давёў колькасць яе продкаў да 22, адпаведна колькасьці літар жыдоўскага альфабэту. Яўсевій назваў 20 і дадаў, што было і «яшчэ шэсць», а Афрыкан давёў ужо да 46.<br>У Абідоскай табліцы і ў ідучым цалкам паралельна з ёю радаводзе Хрыста ў евангеліста Лукі «Хрыстос» патрабіў бы тут на саракавое месца і на гэтым месцы ў ёй значыцца Рэ-Нутэр-К., г.азн. Цар-бог-Кесар, пры гэтым тытул Кесар напісаны толькі пачатковай літарай, як прынята для тытулаў і ў класікаў. Але дзякуючы далейшаму працягванню перыядычнай сістэмы яго чалавекападобных продкаў ён тут апынуўся толькі сёмым разам сваім уласным продкам.</td></tr>
</table>

Такой з’яўляецца рэчаісная падстава ўсіх наступных дадаванняў і іхных трансфармацый на працягу перыядаў. У Абідоскай табліцы «Нітка Дасканаласьці» перастаўлена са свайго ранейшага 40-га нумара на № 76, пад імем Рэ-Маот М. (г.азн. царыца праўды Марыля), і для зразумеласьці яна намалявана і персанальна сярод гэтага іерагліфічнага надпісу седячай на кукішках і глядзячай у люстэрка (№ 76 табліцы XLII, на стр. 771). А атрыманы прамежак пасьля № 40 запоўнены 36 яе новымі родапачынальнікамі.

Ды і тут у VI дынастыі, як я ўжо паведамляў, яна заканчвае сабой толькі больш сьціплыя спісы Яўсевія, Эратасфена і Афрыкана (табл. LVII слупкі III-IV-VI-X).

Якой жа выглядае гэтая VI дынастыя?

Пра большасць яе асоб няма ніякіх біяграфічных паведамленняў у ягіпецкіх надпісах, як і пра наступных за імі кабалістычна выведзеных цароў, якіх Бругш размеркаваў схематычна, ад сваёй шчырасьці падараваўшы кожнаму па $33^{1}/_{3}$ гадоў валадарання (табл. LVIII).

ТАБЛІЦА LVIII.

Шостае царскае гняздо ягіптолагаў XIX стагоддзя (па Бругшу) (нумарацыя Абідоская).

| Мянушкі | Час валадаранні згодна з Бругшам |
|---|---|
| 34. Тата | ад -3300 гады |
| 35. Ускаў-Рэ | ад -3266 гады |
| 36. Мэры-Рэ-Пэпі | ад -3233 гады |
| 37. Мерэн-Рэ | ад -3200 гады |
| 38. Неў-Ерк-Рэ | ад -3166 гады |
| 39. Мерэн-Рэ Цэфамсаф | ад -3133 года |

Самым цікавым тут з'яўляецца вывядзенне на гістарычныя падмосткі бога Азірыса, спісанага з евангельскага ажыўшага Хрыста. Ён часам мае найменне «апраўданы», і да таго ж часу ягіптолагі дапасуюць выдатныя стройныя статуі з круглымі тварамі, тонкімі насамі і ўсміхаючыміся вуснамі, у якіх ужо вымалёўваецца сапраўдная хрысьціянская эпоха.

Аднак ці вынікае із гэтага, што і сама вышэйпазначаная дынастыя валадарыла пасьля ўсіх папярэднічаўшых ёй, пры якіх мастацтва не дасягнула яшчэ такой дасканаласьці? Вядома, ні ў якім выпадку! Яна можа быць таксама толькі новым перыядычным іхным паўтарэннем. Хіба выявы евангельскага Хрыста і яго апосталаў не рабіліся нават і ў XV стагоддзі цалкам рознымі ў грэкаў і ў латынянаў? Хіба не робяцца і зараз мала падобнымі адна на адну яго выявы? У

кожным стагоддзі і ў кожным асобным басейне культуры малярства адлюстроўвала іх у сваім стылі і пад сваімі імёнамі.

Усё, што можна вывесьці із гэтага, гэта тое, што калі стварылася ўяўленне пра шосты перыяд той жа самай перыядычнай сістэмы чалавекападобных старажытна-ягіпецкіх цароў, мастацтва ў Ягіпце стаяла ўжо на больш вялікай ступені дасканаласьці, чым калі складаўся чацьвёрты перыяд, і да новых мянушак тых жа асоб былі дададзены новыя тытулы, у якіх слова Рэ (цар) упершыню замяняецца словам (Ерк-Рэ), напрыклад, у найменні Нэф-Ерк-Рэ), сугучным са словам архірэй, якое ў перакладзе азначае вярхоўны боскі Цар, ад грэцкага ***архі*** і ***іе-рэ***, дзе ***Іе*** – з'яўляецца скарачэнне слова Егова, лацінскае ***Ёвіс***, а ***Re*** – італійскае – цар.

Першаму із цароў VI псеўда-дынастыі, Тоту (№ 34, Атоэсу па-грэцку), прыпісваюць піраміду Тат-Сэту, г.азн. «Даўгавечнае Месца», але яе нідзе няма, хаця Атоэс і называецца Сынам Сонца. Другому цару, Уску (№ 35), які мае назву Аці (Атоть першай псеўда-дынастыі), прыпісваецца піраміда Баін, (Душы) таксама не знойдзеная. Трэццяму – Мэры-Рэ-Пэпі – звычайна прызначаюць піраміду Мен-Нофер, г.азн. «Добрае Месца», якое таксама адсутнічае ў Ягіпце. Пры ім ужо згадваецца і пра «сьвята Хваста» (Хоб-Сэпт), г.азн. пра пяць дадатковых дзён года.

Я адкажу, што другога, трэццяга і чацьвёртага із гэтых цароў няма ў радаводзе Мацьвея, і яны храналагічна адпавядаюць (табл. LVIII) суваладарам Дыяклетыяна (284-305 гг.). А згадванне пра хвост года азначае, што ў той час быў ужо год роўны 365 дням.

Да вялікага здзіўлення ягіптолагаў у Дэндэрскім акадэмічным храме багіні Гатор у аддаленым пакоі быў знойдзены надпіс пра тое, што адзін із тэакратаў VI дынастыі, Мэры-Рэ Пэпі, рабіў дабудовы да гэтага палаца, узведзенага быццам бы яшчэ царом Хуфу із псеўда-чацьвёртай дынастыі.

Але Дэндэрскі храм-акадэмія быў пабудаваны, грунтуючыся нават і на высновах ягіптолагаў XIX стагоддзя, і на характары яго скульптур, і на некаторых надпісах, **не раней** як «пры апошніх Пталямеях», г.азн. не раней часоў Сулы, Пампея і Юлія Цэзара. Як жа тут было выйсьці із цяжкасьці? Заставалася – ці перанесьці ўсю гэтую дынастыю больш чым на тры тысячы гадоў наперад і зрабіць выснову, як мы і робім зараз, што імёны Хуфу, Менку-Рэ, Пэпі і іншыя – не што іншае, як пахавальныя ці каранацыйныя найменні валадароў лаціна-эліна-сірыйска ягіпецкай тэакратычнай імперыі IV стагоддзя, ці, абараняючы ад крушэння ўсю традыцыйную храналогію, прызнаць, як зрабілі ягіптолагі XIX стагоддзя, быццам «надпісы, знойдзеныя і каментаваныя Дюміхенам у Дендэрах, у Эдфу і ў іншых месцах Ягіпта даводзяць толькі тое, што храмы, пабудаваныя і ўпрыгожаныя рымлянамі, «амаль усе без выключэння ўзводзіліся на месцах старажытных ягіпецкіх свяцілішчаў» і што, акрамя таго, «рымляне пераносілі ў свае новыя храмы «**са строгай дакладнасьцю, заснаванай на глыбокай рэлігійнай павазе да сьвятынь, тыя старажытныя надпісы, якія знаходзіліся на сьценах старажытнага храма», ужо разбуранага перад новай пабудовай**!

Якой ні недарэчнай з этнапсіхалагічнага і нават з практычнага боку гледжання з'яўляецца такая здагадка, але як было абыйсціся без яе, маючы жаданне чаго б гэта ні каштавала захаваць веру ў глыбокую старажытнасьць пірамід? Ягіптолагі XIX стагоддзя, ідучы па гэтай дарозе, цалкам забыліся, што ад Піраміднай Імперыі да Пталямеяў імі ж налічаеццм каля 3 000 гадоў і што за такі час не маглі не перамяніцца рэлігійныя ўяўленні. Ды і наогул, для грэкаў, уплыў

Такім чынам, мы зноў падышлі да таго ж, да чаго набліжаліся ўжо адзінаццаць разоў. Завяршыўся 12-ы перыяд перыядычнай сістэмы ягіпецкіх цароў і мы ўсё яшчэ не выйшлі за межы III-IV стагоддзяў.

I Сакарская, і Абідоская табліцы называюць апошняга цара гэтай дынастыі, Аменэм-Хата IV, г.азн. Мао-э-Хру-Рэ, бацькам Тут-Меса I (Рэ Неб-Тата ці Тот-Мес пад № 66 Абідоскага і Рэ-Неб пад № 47 Сакарскага радаводу), не робячы тут ніякага перапынку. А вось ад Турынскага папірусу захаваліся жмуткі, на якіх паміж Амен-Емхатам IV і Тутмесам I было дададзена яшчэ ва ўсякім разе палова сотні імёнаў, і прайшло не менш чым паўтары тысячы гадоў, як і лічаць легкаверныя ягіптолагі.

Паглядзім жа і на гэтых прэтэндэнтаў на старажытна ягіпецкі пасад.

# Глава XIII.

## Псеўда-трынаццатая дынастыя чалавекападобных старажытна-ягіпецкіх цароў. Турынскі працяг псеўда-архейскага ягіпецкага царства.

Ды дазволіць мне чытач дадаць тут адзін невялікі верш:

«У дзячка была сабака, ён яе шанаваў,
Яна з'ела кавалак мяса, ён яе забіў.
Ён забіў свайго сабаку ў зямлю закапаў
I такі на магіле надпіс напісаў:
«У дзячка была сабака, ён яе шанаваў,
Яна з'ела кавалак мяса, ён яе забіў
Ён забіў свайго сабаку, у зямлю закапаў
I такі на магіле надпіс напісаў:
«У Дзячка была сабака, ён яе шанаваў,
Яна з'ела кавалак мяса ён яе забіў».

і г.д. без канца.

Як гэта ні дзіўна, але тут мы бачым жывое адлюстраванне старажытна-ягіпецкіх дынастый. Усе яны – бясконцая песьня пра дзякаву сабаку.

Некаторае адхіленне ад зачараванага кола, ці, прынамсі, дадаванне да яго, дае нам тут Турынскі папірус.

Пачынае ён свой пералік, так жа як і ў XII дынастыі, з таго ж самага родапачынальніка Візантыйска-Рымскай імперыі Дыяклетыяна, патрапіўшага ў гэтую сваю чаргу на № 59 Абідоскага спісу, дзе ён названы Рэ С. Хатэп-Пата-Аб, г.азн. цар С. слуга патэра-бацькі. А тут (табл. LXIV) ён названы Себек Хатэп (із чаго мы можам зрабіць выснову, што літара С., якую мы часта сустракаем асобна сярод іерагліфічных тытулаў, азначае Себек, падобна таму як па-руску Кн. азначала князь, св. – сьвяты і о. – айцец для служак культу). А тут да яго дададзены яшчэ тытул Ху-Таві (заступнік краіны), званне цалкам прыдатнае для арганізатара Рамейскай імперыі – Дыяклетыяна-Бога-Закліканага, з тытулам Jovius – боскі.

Вось гэта Турынская ўстаўка на табліцы LXIV.

ТАБЛІЦА LXIV.

Трынаццатая дынастыя грунтуючыся на Турынскім папірусе (выпраўленаму Бругшам).

| | |
|---|---|
| 1. Цар аберагальнік краіны (Рэ-Ху-Таві Себек-Хатэп I). | 35-43.(дзевяць ці дзесяць імёнаў знішчаны). |

| | |
|---|---|
| 2. Сахемка-Рэ | 44. Мер-хапер-Рэ. |
| 3. Рэ-Амен-ем-Хат І. | 45. Мерка (Рэ). |
| 4. Сэ-Хатэп-Аб-Рэ І. | 46-50 (знішчаны). |
| 5. Аўфні. | 51. . . . мес. |
| 6. Санх-Аб-Рэ. | 52. Рэ . . . Маат Аба. |
| 7. Сменка-Рэ. | 53. Рэ Ўбэн І. |
| 8. Сэ-Хатэп-Аб-Рэ ІІ. | 54-57 (знішчаны). |
| 9. . . . . . кара. | 58. Нахазі (ра), 0 год. . . мес. 3 дні. |
| 10. (Папірус сапсаваны; тут было адно ці, магчыма, два імені.) | 59. Хахеру-Рэ, 3 дні. |
| 11. Натэм-Аб-Рэ. | 60. Неб-еф-аўту-Рэ, 2 гады 5 месяц. 15 дзён. |
| 12. Рэ-Себек-Хатэп ІІ. | 61. Сехіб-Рэ, 3 гады. |
| 13. Ран-(сэн)-еб. | 62. Мер-тэфа-Рэ, 3 гады. |
| 14. Анту-Аб-Рэ І. | 63. Сутка-Рэ 1 год. |
| 15. СетэФ . . . Рэ. | 64. Небтэфа-Рэ, 1 год. |
| 16. Рэ-Сахем-Ху Тауі (ён жа Себек-Ха-тэп ІІІ). | 65. Рэ-Убен ІІ, 0 » |
| 17. Рэ-Узер ... | 66-67 (знішчаны). |
| 18. Смонхка-Рэ Мермеша. | 68. . . .Тэфа-Рэ. |
| 19. . . . ка-Рэ. | 69. . . . Рэ-Убен ІІІ. |
| 20. . . . Узер-Сер. | 70. Аўту-аб-Рэ ІІ. |
| 21. Рэ-Сохем (сутауі?) ён жа Себек-Хатэп IV). | 71. Хер-аб-Рэ. |
| 22. Ха-Сешэш-Рэ, названы сынам Ха-ан-Хефа (з ппасадным імем Нафер-Хатэп). | 72. Небсен-Рэ. |
| 23. Рэ-Сахатор. | 73-76 (знішчаны). |
| 24. Ха-Нафер-Рэ (Себек-Хатэп V). | 77. Се-Хапер-ен-Рэ. |
| 25. . . . . (Хака-Рэ). | 78. Тут-херу-Рэ. |
| 26. (Ха-Анх-Рэ Себек-Хатэп VI). | 79. Санх (ка)-Рэ. |
| 27. Ха-Хатэп-Рэ (Себек-Хатэп VII), 2 гады 8 мес. 29 дзён. | 80. Нафер-тум-Рэ. |
| 28. Уахаб Рэ Аб, 10 г. 8 м. 18 дзён. | 81. Сахем-Рэ. |
| 29. Мер-Нафер-Рэ Аі, 13 г. 8 м. 18 дзён. | 82. К . . . Рэ. |
| 30. Мер-Хатэп-Рэ, 2 гады 2 м. 9 дзён. | 83. Нафер-Аб-Рэ. |
| 31. Санх-Нэў-Рэ-Уту, 3 гады 2 м. | 84. Рэ . . . . |
| 32. Мер-Сахем-Рэ Анран, 3 гады 1 м. | 85. Рэ-Хан. |
| 33. Сутка-Ра \ Рэ, 5 гадоў. | 86. Нуткар-Рэ. |
| 34. Амен-ем-Рэ. | 87. Смен. . . |

Як на яе глядзець? У Абідоскім спісе, знойдзеным у 1866 годзе Марыетам на сьцяне калідора ў храме, прыпісваемага Сеты I, бацьку Рамзэса, у Харабат-Эль-МадФуне-Абідосе, якім мы тут карыстаемся (табл. XLII, натр. 771), і ў амаль тоеснай з ім табліцы Рамзэса II, знойдзенай раней Міліо ў іншым храме гэтага ж мястэчка, і ў Сакарскім каляндарным надпісе, прыводзімым у нас (таб. LXV натр. 783), усе гэтыя цары Турынскага папірусу, г.азн. у суме на прамежку амаль двух тысяч гадоў валадарання, – цалкам адсутнічаюць.

Як нам тут выйсьці з цяжкасьці? Ці палічыць, як зрабілі ягіптолагі XIX стагоддзя, што ўсе ранейшыя радаводы Рамесу і Хрыста з'яўляюцца толькі кароткай вытрымкай із нейкага вялікага і поўнага спіса, паступова ствараўшагася і сьвята захоўваўшагася (і пры гэтым толькі ў адным адзіным асобніку!) на працягу тысячагоддзяў, нават і ў такія часы, калі яшчэ не ўмелі нават пісаць?

Але такая здагадка недарэчная: навошта было скарачаць поўны спіс, калі ўся тэндэнцыя як старажытных, так і новых гісторыкаў ідзе, наадварот, убок падаўжэнні яго ўсімі спосабамі (як мы асабліва добра бачым гэта менавіта на прыкладзе ягіпталогіі XIX стагоддзя). Застаецца толькі далучыцца да супрацьлеглага мяркавання, як зрабілі тут мы, і паспрабаваць толькі высветліць сабе, якім чынам вырасла гэтае гіганцкае дрэва са свайго першапачатковага парастка?

Вядома, і зараз мы можам выказаць меркаванне, што маючыяся ў Турынскім папірусе цары не што іншае, як новыя варыянты таго ж самага музычнага лейтматыва ў гонар сямі рымска-візантыйскіх імператараў, як і ўсе папярэднія, але, на жаль, мы не маем пра іх ніякіх паведамленняў, акрамя вышэйпрыведзеных імёнаў, і таму нам лепш усяго тут згадаць словы апостала Паўла, напісаныя ім у лісьце да Цімафея (I. 1, 4) і да Ціта (3.9) з нагоды гэтых жа самых радаводаў:

«*Размаўляй з тымі, якія не займаліся байкамі і радаводамі бясконцымі, неразумных жа спаборніцтваў і радаводаў і спрэчак* (з нагоды іх) *пазбягае*».

А што да таго, як быў пашыраны пад час сярэдневечча гэты сапраўды тупы род складальніцтва, дастаткова прывесьці хаця б іхныя пералікі ў Бібліі. Вось некалькі прыкладаў.

У кнізе Быццё: Радавод сыноў Адама (5. 1); радавод сыноў Ноевых (10, 1); радавод сыноў Сіма (11. 10); радавод Тары (25, 1); радавод Ізмаіла (25, 12; радавод Ісака (25, 19); радавод Ісава (36, 9)...

У кнізе Ездры: радаводы тых, якія выйшлі із Вавілона (8. 1) і г.д.

У евангеллі Лукі (гл. 3) і ў евангеллі Мацьвея (гл. 1): радаводы Хрыста, цалкам паралельныя Абідоскаму і Сакарскаму радаводам Рэ-Месы Вялікага і радаводу Магамета ў ібн-Ісхака і г.д.

Я не кажу ўжо пра радавод «роду ў якога зубы – мячы», згадваемага ў Прыпавесьцях (14), ці «рода блудніцкага і хітрага», згадваемага адразу як у Мацьвея (12, 39), так і ў Марка (8, 12) і ў Лукі (11, 29), без пералічэння продкаў.

І без іх добра бачна, што гэты тупагаловы род літаратурнай творчасьці быў пад час сярэдневечча вельмі пашыраны. Але як жа можна закладаць яго ў падмурак навукі, хаця бы і ягіпталогіі?

Аспрэчваючы якую б то ні было гістарычнасць такіх імёнаў для пазначанага пры іх часу, я выкажу толькі некалькі думак з нагоды іх паходжання. Мы ўжо бачылі ў Абідоскім спісе сярод продкаў Рэ-месіі поўную паралель са спісам продкаў Езуса ў Евангеллі Лукі. Але я яшчэ мала звяртаў увагу на тое, што гэты ж спіс ляжыць і ў падмурку пераліку біблейскіх патрыярхаў, занімаючым ўсе першыя восем главаў біблейскай кнігі, маючай па-грэцку назву Параліпаменон. Там ён толькі папоўнены ў розных месцах бакавымі радаводамі, і колькасць асоб уключаных у яго, даведзена, як і ў Турынскам папірусе, да некалькіх соцень.

Вось для ўзору лаканічны змест першай часткі гэтай кнігі:

ПАЧАТАК ГЛАВЫ I.

*Адам, Сіф, Енас-Каінан, Малелеіл, Іарэд, Енах, Мафусал, Ламех, Сім, Хам, Іяфэт.*

*Сыны Іяфэта: Гамер, Махог, Мадай, Явон, Тубал, Мешэх, Тырас...*

І гэтак далей, і гэтак далей, і гэтак далей, каля двух старонак, да самага заканчэння першай главы!

ПАЧАТАК ГЛАВЫ II.

*Сыны Ізраіля: Рувім, Сымон, Левій, Юда, Ісахар, Завудон, Дан, Ёсіф, Веніямін, Неўфалім, Гад, Асір.*

*Сыны Юды: Ір, Анон, Шэла. . . .. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*

І гэтак далей, і гэтак далей, і гэтак далей, яшчэ на дзьве старонкі да заканчэння другой главы!

І тое ж самае напаўняе ўсе першыя восем главаў. Ці няпраўда як цікава? А адкуль жа аўтар усё гэта ведаў? Тэолагі адказваюць прама і шчыра: «ад сьвятога духу!». Дык чаму б не сказаць тое ж самае і ягіптолагам? Абедзьве ж генеалогіі такія падобныя!

Тая іхная частка, якую мы назіралі ў Абідосе да Зарабабеля (№ 56 Абідоскага спіса і Евангелля Лукі), заканчваецца ў Параліпаменоне Біблейскім у трэцяй главе (3. 19). А далей у 4-й главе такім жа чынам пералічаны нашчадкі Юды (каля сотні). Вось вам і патрэбная 13-я дынастыя грэцкіх аўтараў) у якой грэкі налічваюць толькі 60 асоб!

Потым у 5-й главе Параліпаменона, за пераклад найменне якога – «Прыморскія апавяданні»[59] – мне так дасталася ад прафесара Мікольскага, – пералічаны нашчадкі Рувіма, таксама амаль сотня. Гэта падобна на 14-ю дынастыю, у якой грэкі налічваюць толькі 76 асоб.

У 6-й главе таго ж неперакладаемага Параліпаменона дадзены сыны Левія – добры матэрыял для 15-й дынастыі і нават непараўнальна больш шматлікі.

У 7-й главе тамсама прыведзены нашчадкі Ісахара, прыдатныя для 16-й дынастыі.

А ў восьмай главе мы знаходзім, нарэшце, нашчадкаў Веніяміна, якія адпавядаюць 17-й дынастыі, пасьля чаго і заканчваецца «біблейскі царскі спіс» словамі:

«*Так былі пералічаны па родах сваім усе богазмагальнікі, і вось, яны запісаны ў кнізе багазмагальніцкіх цароў. Юдэі ж за свае беззаконні пераселены ў Вавілон*» (Параліпаменоп І, 9. 1).

Гэта азначае, што усё гэта лічыцца да пераходу Ягіпта да ізмаэліцтва-агаранства.

Вось чаму я і лічу, што для тлумачэння вышэйпрыведзенага ўрыўка Турынскага папірусу, а разам з ім і ўсёй 13-й дынастыі грэкаў, валадарыўшай, згодна з іхнымі паведамленнямі, у праваліўшыхся зараз некуды пад зямлю без следу Фівах на працягу 453 гадоў, і зьмяшчаўшай 60 цароў (на кожнага ў сярэднім 7½ гадоў валадарання), патрэбна патлумачыць перадусім дынастычныя спісы 4-8 главаў Параліпаменона.

Генетычную сувязь Турынскага папіруснага спіса са спісам біблейскага Параліпаменона немагчыма аспрэчваць пасьля маіх тлумачэнняў. Патрэбна толькі прыняць да ўвагі, што і тут магчыма патрэбна чытаць цэлыя шэрагі імёнаў назад, як было з XII дынастыяй. Нагоду гэтага лёгка зразумець. У сухіх пераліках імёнаў, накшталт Абідоскага спіса, кожнае пісалася вертыкальна ў абадку (картушы):

| М Н А | Т Т А | А Т Т | и т. д. |
|---|---|---|---|
| **Мена** | **Тота** | **Атот** | |

І ўсе яны размяшчаліся побач, як мы бачым напачатку Абідоскага спіса (імёны першых трох цароў якога я тут напісаў для зразумеласьці рускімі літарамі, замест іхных іерагліфічных знакаў).

---

[59] Ад Παραλος – прыморскі, і ύπομνεμα – успамін.

Але ў якім упарадкаванні чытаць гэтыя імёны? Грэк і латынянін прачытаў бы іх, як і мы, злева направа, і тады Мена атрымліваецца продкам Атота. А араб ці юдэй прачыталі б справа налева, і ў іх Атот атрымаўся б дзедам Мены... Калі б як тыя, так і другія спісалі Абідаскую табліцу ці нейкую са складаючых яе дынастый, то генеалогія ў іх атрымалася б адваротнай. Іхныя ўнукі, атрымаўшы копіі із такіх запісаў, аднолькавасць першакрыніцы якіх ужо забылася, лёгка маглі палічыць іх за два розныя радаводы, напрыклад, першую за продкаў Аты, а другую за яго нашчадкаў, і гэтым падвоіць спіс.

Магчыма, што ўсе асобы, уключаныя ў 13-ю дынастыю, былі таксама пераблытаны такім чынам і я нават цалкам не спыніўся б на гэтым спісе, калі б некаторыя яго імёны не выявіліся ў надпісе на правай сьцяне карнакскага «Пакоя продкаў», размалёўка якога прыпісваецца часам Тут-Меса III.

Там сярод малюнкаў напісаны іерогліфамі два дзясяткі імёнаў, із якіх першы дзясятак уяўляе тыя ж найменні, што і ў Турынскім папірусе (табліца LXV).

ТАБЛІЦА LXV.

Зародак псеўда-трынаццатай дынастыі ў Карнакскім надпісе.

| 1-я палова Карнакскага спіса | Турынскі папірус |
|---|---|
| 1. . . . . . . . . . .Ка (Небка?). . . . . . | Адсутнічае. |
| 2. . . . . . Сутэн-Рэ (Цар-султан) . | 1. Рэ-Ху-Таві (сонца, ахоўваючае краіну). |
| | 2-5. Тут дададзена 4 імені: Сахемка-Рэ і г.д. |
| 3. Санх-Аб-Рэ . . . . . . . . . . . . . . . | 6. Санх-Аб-Рэ. |
| | 7-15. Дададзена 8 імён: Смен-ка-Рэ, Се-Хатэп-аб-Рэ і г.д. |
| 4. Рэ-Сахем Ху-Таві . . . . . . . . . | 16. Рэ-Сохэм-Ху-Таві. |
| | 17-20. Тут дададзена 4 імені: Рэ-Узер-Рэ, Смонхка-Рэ, Мер-меша (г.азн. вайсковы правадыр). |
| 5. Рэ-Сахем-Су-Тані. . . . . . . . . . | 21. Рэ-Сахем . . . . . |
| 6. Ха-Сесаш-Рэ . . . . . . . . . . . . . . | 22. Ха-Сесаш-Рэ Нохер-Хатэп. |
| | 23. Дададзены: Рэ-Сахатор. |
| 7. Хэ-Нафер-Рэ . . . . . . . . . . . . | 24. Ха-Нафер-Рэ Себек-Хатэп. |
| 8. Ха-ка-Рэ . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 25. (Імя разбурана, але згодна з месцам павінна быць: Ха-Ка-Рэ). |
| 9. Ха-Анх-Рэ-Себек-Хатэп . . . . | 26. (Імя разбурана, але згодна з месцам павінна быць Ха-Анх-Рэ). |
| 10. Ха-Хатэп-Рэ . . . . . . . . . . . . . | 27. Ха-Хатэп-Рэ; 4 г. 8 мес. 29 д. |

Астатні дзясятак Карнакскага спіса адрозніваецца ад Турынскага папіруса. Пры агульнай тэндэнцыі да падаўжэння ягіпецкай гісторыі Бругш[60], зразумела, лічыць Карнакскі спіс за скарачэнне Турынскага папірусу. А з нашага боку гледжання Карнакскі спіс з’яўляецца першапачатковым і ў Турынскім папірусе, напэўна, да яго дададзены, калі ўсё гэта не адсябеціна, яшчэ і іхныя намесьнікі і суваладары ў розных частках дзяржавы. Таму і спіс атрымаўся надзвычай доўгі, а ўсе гэтыя дадаткі настолькі ж фантастычныя, як і іхная падстава і іх патрэбна вывучаць не з гістарычнага, а з псіхалагічнага боку гледжання.

Тут звяртае на сябе ўвага тытул другога цара Су-тэн-Рэ, г.азн. Султан-Цар, падобны з Шаху-Рэ пятай дынастыі (пад № 27 Абідоскага спіса) і з Цэзарам трэццяй дынастыі (№16 Абідоскага спіса).

---

[60] Brugsch, стар. 183 арыгінала.

У апошнім выпадку напаловусапсаванае імя «... КА» будзе Небка (Эвер-Юдэй), і мы зноў прыйдзем толькі да новага перыяду той жа самай перыядычнай сістэмы продкаў Рэ-Месу і Хрыста-Месіі.

Што пра іх вядома із насьценных надпісаў Ягіпта? Вельмі мала.

На скалах каля Семпе, вышэй другога вадаспада знойдзены пазнакі вышыні разводдзяў Нілу з надпісамі, накшталт: «Вышыня Нілу пад час трэццяга года валадарання Себек-Хатэпа»[61]. Дзьве выдатна зробленыя статуі, большыя за чалавечы рост, з імем Смонхка-Рэ Мермеша (вайсковы правадыр) знойдзены падчас раскопаў развалін храма Паты ў Танісе. Адна з іх у Луўры (пад № А, 16) і на ёй выразана імя Рэ-Месу і Апепі, які лічыцца князем гіксосаў. Статуя, знойдзеная ў Тэль-Бэсту (які лічыцца за старажытны Бубаст) у дэльце Нілу, і іншая паблізу Данголы, прыпісваюцца Себек-Хатэпу V. Гранітная статуя, знойдзеная ў Танісе, лічыцца выявай Себек-Хатэпа IV, ды і усё астатняе ўяўляе такія ж невыразныя ўрыўкавыя дакументы, грунтуючыся на якіх немагчыма скласьці ўяўленне пра нешта складнае. А нумарацыя «хатэпаў» – чыстая прыдумка.

Ва ўсякім разе гэтая «дынастыя» не можа лічыцца самастойнай, таму яна адсутнічае як у Абідоскім, так і ў Сакарскім радаводах, як у радаводзе Езуса ў евангеліста Лукі так і Мацьвея. Із гэтага зразумела, што Турынскі папірус напісаны не раней пачатку крыжовых паходаў, і гэтая яго псеўда-трынаццатая «дынастыя» з'яўляецца хутчэй усяго пералікам каліфаў.

# Глава XIV.

## Ад псеўда-чатырнаццатай да псеўда-сямнаццатай дынастыі, валадарства цароў-пастыраў і цароў-пастухоў.

Чатырнаццатая ягіпецкая дынастыя – кажуць нам – была дынастыяй цароў-пастухоў (па-грэцку βασιλε͂ις ποιμένειοι), якую дарэмна атаясамляюць з гіксосамі, якіх мы атаясамляем з агаранамі[62].

Не ведаю, як для вас, чытач, а для мяне такая дынастыя здалася цалкам недапасуючай не толькі для Ягіпта, але і для якой-небудзь іншай краіны на зямной паверхні.

Прачытаўшы ўпершыню, здаецца ў Яўсевія, што чатырнаццатая дынастыя ў Ягіпце была дынастыяй цароў-пастухоў, я, перадусім, паглядзеў, ці не знойдзецца ў яго ж на наступных старонках яшчэ дынастыі цароў-фурманаў, ці цароў-краўцоў, але нічога падобнага не было.

Як жа патрапіла сюды гэтая пастухоўская ідылія? Толькі ж у казках мы чытаем пра аркадзкіх пастухоў і пастушак, выяўляючыхся ў той жа час прынцамі і прынцэсамі.

Пры далейшым знаёмстве маё здзіўленне яшчэ больш павялічылася. У Ёсіфа Флавія[63] патлумачана, што «згодна з тлумачэннямі адных рукапісаў гэта былі вандруючыя арабы, а згодна з тлумачэннямі іншых – узятыя ў палон пастухі».

---

[61] Спачатку Бругш лічыў яго чацьвёртым (Brugsch, Histoire d'Egypte, I, p. 73), а потым трэццім, у нямецкім выданні 1877 гады, якім я тут карыстаюся.
[62] Апошняе слова пішацца па-грэцку ὑξός (іксос) і ὑκουσσός (іксусы), а на-лаціне yksos і ykousos.
[63] І. Флавій: Пра старажытнасьць юдэйскага народа супраць Апіёна, 1, 14, § 83.

Пастухі, ды яшчэ ўзятыя ў палон; як быццам бы ў Ягіпце не было сваіх уласных пастухоў для ўрачыстага каранавання на царства!

Новыя тлумачальнікі гэтага месца пераконваюць, вядома, што не пастухі былі ўзяты ў палон егіпцянамі і ўцараваны, а самі прыйшлі і паланілі ўвесь Ягіпет. Аднак з новага боку гледжання, складаючагася ў тым, што ў гісторыі ўсё залежыць ад суадносін змагаючыхся магутнасьцей, такое тлумачэнне яшчэ менш праўдападобна, чым літаральнае разуменне толькі што прыведзенага паведамлення нашых першакрыніц.

Адпаведна ўмовам свайго жыцця, пастухоўская краіна не можа мець ні моцнай цэнтральнай улады, ні правільна арганізаванага ў дастатковай колькасьці войска. Халастыя пастухі, вядома, могуць час-ад-часу збірацца разам, у значныя ватагі, каб ладзіць нечаканыя набегі на суседнія часткі культурнай краіны дзеля рабавання і, захапіўшы ўсё што патрапіць, зараз жа бегчы да сябе ў стэп за межы дасягальнасьці, але наладзіць у ёй працяглую ўладу яны могуць толькі ў фантастычным рамане, а не ў рэчаіснасьці.

Усё, чаго яны ў стане дасягнуць – гэта вымусіць суседніх культурных валадароў плаціць сабе штогадовую вызначаную даніну за абяцанне не рабіць больш налётаў, як не раз і бывала ў гісторыі, але які ж гісторык абвясьціў бы іх грунтуючыся на такой нагодзе царамі дадзенай краіны, і замест уласных яе валадароў даваць спісы гэтых пастухоўскіх рабаўнікоў?

Аднак маё кплівае стаўленне да цароў-пастухоў працягвалася толькі да таго часу, пакуль астранамічная праверка старажытных першакрыніц не прывяла мяне да атаясамлення наступнай за імі дынастыі з эліна-ягіпецкімі царамі IV стагоддзя нашай эры.

Тады для мяне зрабіліся зразумелымі і цары-пастухі, як духоўныя валадары краіны, побач з яе вайсковай уладай. Сам жа евангельскі Вялікі Цар называў сябе «пастырам добрым», а слова «пастыр» і да гэтага часу ужываецца ў пратэстанцкіх цэрквах для пазначэння асоб пасьвечаным у духоўнае званне. Цары-пастухі, з такога боку гледжання, з'яўляюцца толькі царамі-пастарамі, г.азн. каранаванымі біскупамі, «наглядаючымі за сваёй духоўнай паствай», прыраўноўваемай да авечак. Гэта былі першапачатковыя мітрапаліты, яшчэ не злучаныя зарокам неадружвання і таму перадаваўшыя пасьвячэнне свайму першынцу, лічыўшамуся з часу такога звычая духоўным князем свайго народа.

З падобнага боку гледжання робяцца зразумелымі шмат якія да гэтага часу незразумелыя выказванні нашых першакрыніц. Так, напрыклад, у Яўсевія, як у грэцкім так і ў армянскім тэксце, паведамляецца: «17-я дынастыя цароў пастыраў былі фінікійскімі братамі (ἀδελφοί) валадарамі замежнымі». А ў Флавія паведамляецца быццам «Тут-Мосіс (Юльян) запанаваў пасьля высялення гэтых пастыраў із Ягіпта ў Ерусалім» (пры гэтым, пераблытаўшы яго з Амасісам, Флавій дае Тут-Мосісу 25 г. і 4 месяца валадарання).

Гэта прыводзіць нас зноў да часу евангельскага Хрыста і апосталаў, і што ж мы бачым? Апошнім давескам да цароў-пастыраў быў, згодна з Флавіем (табл. LXVI, слупок I), Асес, г.азн. лацінскае Езус і стара-рускае Ісус[64].

ТАБЛІЦА LXVI

Псеўда-сямнаццатая дынастыя, дынастыя цароў-пастыраў.

| 4- | Згодна з Ёсіфам Рудым | Згодна з кнігай | Ў Афрыкана | Ў Яўсевія | Магчымыя |
|---|---|---|---|---|---|

[64] Вось варыянт гэтага імя ў розных манускрыптах. Ἄσσις, (Ассіс) Ases, Aseth (біблейскае Аса).

| ае згур-не | (Флавіем) супраць Апіёна са спасылкай на Манефо | | Софіс у Сінкеласа (стар. 194, 195, 83) як XVII дынастыя | як XV дынастыя | Усялюба як XVII дынастыя | атаясамленні |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | Салатыс, 19 гадоў | Салітэс, 19 гадоў | Сайтэс, 19 гадоў | Сайтэс, 19 гадоў | Дыяклетыян-Бога-Закліканы, 21 год |
| 3-яе згуртаванне | 2 | Бнаан (Бэн-он), 14 гадоў | Байён, 44 гады | Бнаан, 44 гады | Байён, 40 гадоў | Арый? [Бен-Он – сын бога Она] |
| | 3 | Апахнан, 36 г. 7 мес. | Апанас (Апанас?) | Пахнан, 61 год | Стаан, 50 гадоў | «Несьмяротны» |
| | 4 | Апо-Афіс, 61 год | Афо-Афіс, 61 год | | | |
| 2-е з-не | 5 | Янас, 50 гадоў 1 мес. | Сетас, 50 гадоў | Архлес, 49 (61) | Архлес, 30 гадоў | Ян Багаслоў? |
| | 6 | Адсутнічае | Кэртаас, 44 гады | Афобіс, 61 (491) | Афо-Афіс | Сымон Пятро? |
| 1-е з-не | | Давесак | Асобная дынастыя | | | Давесак |
| | 7 | Асэс (Езус), 49 гадоў 2 мес. | Асэф (Аса), 29 гадоў | | | Езус (Васіль Вялікі 49 гадоў жыцця) |
| | | Сума 259 г. 10 м. | Сума 274 (284) | Сума 284 | Сума 103 | |

Мы бачым, што згодна з кнігай Сафіс ён размешчаны асобна ад іншых у асобную дынастыю, а ў Флавія перад ім стаіць Янас, відавочна грэцкае Іоаннэс, названы ў іншых аўтараў Архлэсам (г.азн. Архіалаосам – кіраўніком народа) і Сефасам (г.азн. Сафісам – навукоўцам), і гэта вымушае лічыць, што тут маецца на ўвазе Ян Залатавуст, аб'ядны тут з Янам Папярэднікам ці ж нумарацыя ўзята ў адваротным парадку.

Яшчэ вышэй мы бачым Апахнаса, пераіначванне грэцкага слова «несьмяротны» (Афаіас), тым больш, што гукі П і Ф па-жыдоўску маюць адно і тое ж літарнае пазначэнне.

Такім чынам, уся дынастыя царскіх (г.азн. каранаваных) пастыраў падзялілася на чатыры згуртаванні: 1) згуртаванне Езуса, у якім застаецца ён адзін, 2) згуртаванне Яна Багаслова, да якога мімаволі хочацца далучыць і наступнага за ім Афобіса, імя якога азначае па-грэцку «адважны» і таму вельмі дапасуе да Сымона Пятра, 3) згуртаванне Апанаса, г.азн. «несьмяротнага», якім лічыўся не толькі Апанас Вялікі, але і яго двайнік «Вялікі цар» святцаў, у таварышы якому самі напрошваюцца Апаафіс і Бнон. Імя першага азначае «Ад Змея» і нагадвае сабой старажытны знак мудрасьці – сузор'е Паўночнага Змея (Цмока), у сярэдзіну якога глядзяць восі абарачэння ўсіх свяціл сонечнай сістэмы па іхных арбітах. У Яўсевія яго імя пераіначана ў Стаан, нагадваючы слова сатана (Satan), якое паходзіць ад скарачэння імя Сатурн. Другі калега Апанаса Бнаан (Бэн-Он), відавочна ад біблейскага і ягіпецкага кораня, азначае Сын бога Она і блізкі да Арыя і, нарэшце, 4) згуртаванне Салітыса, у якім ён, як і Езус, застаецца самотным. Калі наша супастаўленне ў агульным правільнае, то гэты Салітыс, імя якога па-грэцку азначае Калыхальнік, скалынальнік[65], а па-раманску ад кораня Salus – Выратаванне нагадвае сваім значэннем Юпітара Грамабоя, скалынальніка зямлі і можа дапасавацца толькі да самога Дыяклетыяна, які ўсталяваў сучасны рэлігійны цырыманіял – першага імператара-пастыра.

Само значэнне яго імя Бога-Закліканы і мянушка Jovius г.азн. Боскі, цалкам адпавядаюць яго становішчу на чале дынастыі із сямі асоб адпаведна колькасьці сямі планет. У біблейскай генеалогіі, згодна з кнігай Самуіла, ён адпавядае, як мы

[65] Σαλέυω (салеуо) – калышу.

бачылі, дару Давыду, ад нараджэння якога, як і тут, выводзіцца евангельскі Езус, а згодна з кнігай «Быццё» Дыяклетыян – гэта Майсей, тады як Арый – Арон. А для прарока Самуіла, памазаўшага Давыда-Дыяклетыяна на царства, тут нічога не застаецца, акрамя Апофіса, калі не таго ж Арыя, то яго сучасніка, даўшшага нагоду да стварэння із некага Мікалая Цудадзея.

Дыяклетыян-Майсей, згодна з паданнем кнігі «Быццё», быў як свецкім, так і духоўным валадаром, заканадаўцам і правадыром, вывеўшым абраны народ Грамабоя із долі рабства і нябыту ў запаветную зямлю волі і ведаў, але ён не мог правесьці яго туды, таму што нага чалавека вырасшага ў рабстве, не заслугоўвала таго, каб уступіць у яе. Ён памёр на перавале ў тую зямлю, і ніхто не ведае, дзе яго магіла». У тую зямлю, згодна з біблейскім паданнем, павінен быў завесьці свой абраны парод Езус, і мы яго бачым апошнім у гэтай генеалогіі. А Ян-Багаслоў (ён жа Залатавуст) тэндэнцыйна атаясомлены з яго папярэднікам Янам Хрышчэльнікам, таму што інакш давялося б зрабіць выснову, што і сам Езус, як народжаны падчас рабства не быў вартым зайсьці ў зямлю запаветную.

Мы бачым тут, як на далоні, усю дзіцяча-наіўную махінацыю дзіцяча-наіўнага розуму сярэднявечнага сафіста-мудрагела, таму што назваць яго нават і першабытным навукоўцам немагчыма ў гэтым выпадку. Усюды пакінуты канцы нітак, грунтуючыся на якіх лёгка разблытаць увесь яго клубок. Вось хаця б і сума гадоў, пад якія падведзена дынастыя. У Афрыкана вы не дарэмна бачыце вынік: 284 гады. Што гэта такое? Гэта час прайшоўшы ад пачатку сярэднявечнай Хрысьціянскай эры (так званай ад «Нараджэнння Хрыста», грунтуючыся на якой лічым зараз і мы) да пачатку эры Дыяклетыяна, ўжываўшайся напачатку сярэдневечча. Калі Дыянісій Малы «знайшоў», як кажуць праз 220 гадоў «пасьля Нараджэнння Хрыста», г.азн. згодна з нашым злічэннем каля паловы VI стагоддзя нашай эры, што Хрыстос нарадзіўся не напачатку IV, а напачатку I стагоддзя, ён выклікаў гэтым, вядома, вялікае засмучэнне ў розумах сучаснікаў, і яго храналогія наўрад ці была прынята навукоўцамі тады ж. Але вось прайшлі яшчэ стагоддзе ці два. Ідэя Дзіянісія здалася вельмі прыдатнай для таго, каб паменшыць вастрыню рэлігійных пытанняў, хваляваўшых розумы тагачасных навукоўцаў пра дачыненні самога Езуса і яго вучняў да ўсіх памятаемых царкоўных і свецкіх дзеячаў нядаўняга часу, і ён, згодна з ілжывай падказкай Дзіянісія, быў перанесены на тры стагоддзі назад. Разам з ім давялося перанесьці ў ранейшыя стагоддзі (падвоіўшы і нават патроіўшы і пачьвярыўшы) усіх дзеячаў нядаўняй гісторыі, і атрымаўся той вавілонскі гармідар які нам зараз даводзіцца разбіраць, каб падрыхтаваць глебу для новай асэнсаванай гісторыі чалавечай культуры, стройна-эвалюцыйны і заканамерны ход якой застанецца невысьветленым да таго часу, пакуль не будзе расчышчана і пасартавана ўсё гэтае сярэднявечнае смецце.

На заключэнне, я зраблю яшчэ адну пазнаку.

Пакуль я лічыў, што дынастыя «цароў-пастухоў» была ўзята непасрэдна са «шчасьлівай грэцкай Аркадыі», мне здаваліся міфічнымі і дзьве першыя ягіпецкія дынастыі: дынастыя цароў богаў і дынастыя цароў-быкоў. Але пасьля пераходу да ідэі, што цары-пастухі былі вярхоўнымі мітраноснымі-пастырамі, мне мімаволі прыйшла думка: чаму ж яны так зваліся? Нас пераконваюць: адпаведна з параўнаннем чалавецтва са статкам бараноў і авечак, якія пасьвіць пастух, як сказана ў Евангеллі. Але чаму ж першабытнаму розуму прыйшло ў галаву такое не вельмі ўхвальнае як для людзей, так, мабыць, і для саміх валадароў параўнанне? Ці не таму, што ў Ягіпце, як і ў Месапатаміі, існаваў спачатку культ быка, у вобразе

якога ўяўлялі бога Грамабоя, параўноўваючы гром з бычыным ровам? На асьвечанага быка сыходзіў, вядома, «дух» самога нябеснага бога-грамабоя, астралагічна ўяўляемага сузор'ем Цяляці.

Злучэнне сузор'я Цяляці з Сонцам напачатку юліянскага траўня абвяшчала ў паўднёвай Яўропе і ў Ягіпце перыяд моцных і частых навальніц, а таму і ўзнікла ўяўленне, што сярод гэтага згуртавання зорак жыве сам бог-Бык, ці Апіс, хаця пазьней сузор'е Цяляці і зрабілі сядзібай Венеры, а Юпітару прызначалі у якасьці сядзібы сузор'е Стралка, параўноўваючы яго маланкі са стрэламі, таму што Стралок пад час перыяду чэрвеньскіх навальніц бачны на працягу ўсей ночы ад заходу да ўзыходу Сонца.

Само імя сьвятога быка Апіс ад жыдоўскага АПС (ці АФС – заканчэнне, мяжа) азначае у перакладзе: бык заканчэння, бык мяжы, г.азн. калі ён выходзіць раніцай із прамянёў світання, бывае заканчэнне сонечнага шляху да поўначы.

Цікава, што і для паўднёвага тропіка мы маем аналагічнае сузор'е. Грэкі назвалі яго Офіух, г.азн. Змеятрымальнік, і нават намалявалі і Змея, якога ён трымае, а спачатку гэта слова магло азначаць Концатрымальнік (Апеух), таму што пры яго выходжанні із прамянёў ранішняга світання наставала заканчэнне руху Сонца да поўдня, які знаходзіўся напачатку нашай эры амаль пасярэдзіне Стралка. Але А і О не маюць адрозных адзін ад аднаго напісанняў у жыдоўскім альфабэце, так жа як Ф і П, і таму пераход Апіса (заканчэння) у Офіса (Змея) быў лёгкім па-грэцку і па-жыдоўску. Калі мы чытаем у дынастыі Амоса-Дыяклетыяна (г.азн. Магутнага-Бога-Закліканага) шэраг цароў,  меўшых найменне Амен-Афісы, г.азн. падтрымліваючыя-выхоўваючыя, Апіса (пазначальніка тропікаў), то ўзнікае жаданне атаясаміць гэтае імя з імем Афіуха-Змеятрымальніка.

Пазней, калі ўзнікла здагадка, што Цяля пазначае не летняе сонцастаянне, а веснавое раўнадзенства, апускаючыся як ахвяра ўсеспалення ў полымя вечаровага зарыва пры Сонцы ў Рыбах, то гэтым самым утравыўся зрух храналогіі назад на прамежак часу роўны каля 4 000 гадоў.

Старажытнага астранома, вядома, цікавілі перадусім павароты Сонцы з поўдня на поўнач, г.азн. на лета, і з поўначы на поўдзень, г.азн. на зіму і ён прыдумаў вызначаць такія моманты адлікам дзён паміж тымі суткамі, калі цень ад вертыкальна стаяўшага прадмета бывае карацей усяго і, потым, даўжэй усяго. Але ён мог зрабіць гэта толькі прыблізна, таму што перад момантам сонцастаяння штодзённыя паўдзённыя дадаванні ці памяншэнні ценю робяцца такімі маленькімі, што на працягу некалькіх дзён цень здаецца цалкам аднолькавым. Вызначыць пачатак году ад аднаго із такіх момантаў было магчымым толькі прыблізна, і, аб'яднаўшы гэта з цэлым лічбай маладзікоў, вылічылі год роўны 12 месяцовым месяцам (354 дні).

Далей пайсьці было немагчыма, пакуль не ўзнікла ідэя пра сферычнасць скляпення неба і не склалася такім чынам уяўленне пра нябесны экватар, як пра важную каардынату. З'явілася ідэя пра вызначэнне не момантаў дасягнення ценем максімальнай і мінімальнай даўжыні, а яе сярэдняга становішча паміж гэтымі абедзвюма межамі на вертыкальна пастаўленым квадранце, першым зародку сучасных мерыдыянных колаў. Тут штодзённыя павелічэнні і памяншэнні ценю робяцца больш значнымі і ўзнікае магчымасць больш дакладна вызначыць дзень пераходу ценю праз сярэдзіну. Гэта натуральна мела наступствам перанос пачатку года ад сонцастаяння да яго пачатку ад раўнадзенства. Царства Целяці

закончылася, і пачалася эпоха ахвяравальнага Авена – яго апусканне ў полымя вечаровага зарыва.

У кожнага цара-быка ў Ягіпце быў штат сьвятароў, якія натуральна і мелі назву “яго пастухі”. Такое найменне і захавалася за імі пад час ужо пазначай намі дынастыі цароў-пастыраў. Яно дайшло да нас у сучасных назвах служак царквы пастырамі і пастарамі, і ўвайшло ў Евангелле, дзе адзін із аўтараў прымушае Езуса паведаміць пра сябе: «Я пастыр добры», што вельмі дапасуе да яго, калі браць за падставу наша супастаўленне на табліцы LXVII (далей), што ён меў спачатку імя Амен-Офіс, г.азн. Выхавальнік Апіса, інакш сказаць «Пасьвечаны ў таямніцы ягіпецкага культу». Гэтае найменне часта сустракаецца пад час апісанага намі перыяда, і яго немагчыма разумець у сэнсе аднаго толькі каджэння і воклічаў перад чорным храмавым быком з белай плямай на ілбе і жаўлаком на языку (чаго можна было дасягнуць і штучнымі сродкамі). Гэта патрэбна хутчэй усяго разумець у сэнсе сістэматычных вымярэнняў становішча Рэгула ў дачыненні да Сонца. Пазьней, калі такім чынам ўжо было ўсталявана, што кропка вясны знаходзіцца ў сузор'і Рыб, тады яе дасьледчыкі набылі назву замест пастухі Цяляці, рыбакі. Езус набыў назву Навін, г.азн. рыбак, ды і супрацоўнікі евангельскага Езуса сталі рыбакамі. Дынастыю цароў-рыб мы да здзіўлення не знаходзім у нашых іерагліфічных першакрыніцах, а толькі дынастыю цароў-быкоў, якая ідзе за першай дынастыяй ягіпецкіх цароў богаў. Але патрэбна было б дадаць і яе.

Так мы зноў падышлі да пачатку ягіпецкай тэакратыі і мы бачым, што яна не такая ўжо доўгая, як нас вучылі ў школе: яна ні ў якім выпадку не заходзіць у глыбіню стагоддзяў за пачатак нашай эры.

Але я ўжо выказваўся, што цароў-пастыраў (назваўшы па-грэцку) непатрэбна аб’ядноўваць з замяніўшымі іх царамі-гавяднікамі (гіксосамі – гікшэзу). Паспрабуем жа хаця б трохі разабрацца ў тым, якія дынастыі патрэбна дапасаваць да першых і якія да другіх.

Але і тут нам непатрэбна быць катэгарычнымі.

Таму што перыяд панавання гігсосаў у архейскім Ягіпце які быў быццам бы яшчэ за 1800 гадоў да пачатку нашай эры не больш гістарычны. Ён відавочна спісаны з пераходу егіпцянаў да ўшанавання аскепкаў метэарытнага каменя ў Мецы пасьля метэарытнай катастрофы на Чырвоным моры ў 622 годзе і, магчыма, выкліканага ёю тэктанічнага землятрусу ў Сірыі і Ягіпце што тэакратычна і аддзяліла Ягіпет ад Візантыі, замест розных стратэгічна немагчымых аравійскіх завояванняў, у чым легкадумна пераконваюць нас артадоксы.

Пасьля толькі што разгледжанай намі псеўда-трынаццатай дынастыі Ра-Ху-Таві Себек-Хатэпа, адсутнічаючай у Абідоскім і Сакарскім спісах, але быццам бы валадарыўшай у без сьледу зніклых Фівах на працягу цэлых 453 гадоў і змяшчаючай 60 цароў, у тых жа Фівах валадарылі, згодна з Сікеласам, яшчэ:

| | |
|---|---|
| XIV дынастыя, копцкая, 46 цароў | 484 гады |
| XV дынастыя, агаранская, 6 цароў (валадарыўшых у сярэднім кожны па 43 (!) гады) | 260 гадоў |
| XVI дынастыя, агаранская | 251 год |
| XVII дынастыя, Фіўская | ? гадоў |

Але ні для адной з іх, як я ўжо паведамляў, няма месца ў асноўных нашых дакументах па гісторыі Ягіпта.

З нашага боку гледжання XIV копцкая дынастыя і была дынастыя цароў-пастыраў, а першая агаранская дынастыя (XV ягіпта-грэкаў) была дынастыя

Амейядаў, якую заснаваў, Маавія Халіф, перанёсшы рэзідэнцыю ў Дамаск, і яна існавала ад 661 да 750 год нашай эры, калі Абул-Абас, пазбавіўшы пасада апошняга халіфа другой дынастыі, Марвана II, даў пачатак дынастыі Абасідаў, якія перанеслі ў 762 годзе рэзідэнцыю ў Багдад, на берагі Тыгра (2-я агаранская дынастыя).

Тут асобнае значэнне набывае адзін помнік, знойдзены ў Танісе і захоўваемы зараз у Булакскім музеі ў Ягіпце, на якім стаіць такая дата:

«*400-ы год 4-ы дзень месяца Месоры пры цару Нубе*».

Гэты Нуб (г.азн. нубіец) дапасуецца ўжо да дынастыі Гік-Шазу, г.азн. цароў-агаранцаў, і, вылічваючы яго грунтуючыся на эрэ Дыяклетыяна, мы атрымліваем для яго 684 год нашага летазлічэння, г.азн. якраз час першай агаранской дынастыі[66].

Само сабой зразумела, што і легенда пра панаванне ў Ягіпце двух чужацкіх (для грэкаў) агаранскіх дынастый магла ўзнікнуць у Візантыі ніяк не раней 800 года нашай эры. А яшчэ больш цікавым атрымліваецца тут тое, што калі мы возьмем агульны час валадарання над Ягіптам агаранскіх цароў-гавяднікаў, што азначае і само найменне Сірыі (ад Шур – бык), то атрымаем грунтуючыся на толькі што прыведзеным спісе 511 гадоў. А дадаўшы іх да часу канчатковага пераходу Ягіпта да агаранства ў 634 годзе заўважаем, што храналогія Ягіпта тут даведзена да 1145 года, г.азн. да пярэдадня таго, як султан Саладын із курдаў, які нарадзіўся ў 1137 годзе, пазбавіў пасаду ў 1171 годзе дынастыю Фацімідаў у Ягіпце і стаў султанам як Ягіпта, так і Сірыі.

А што ж мы чытаем у знакамітага Ёсіфа Флавія? Арабы (г.азн. агаране) пад назвай гакаў, (г.азн. князёў) былі чужымі валадарамі, пад якімі валадарылі ягіпецкія дынастыі, як васалы.

«*Прызначылі яны* (агаране) *аднаго са свайго асяроддзя царом, імя яму было Салатыс* (Саладын). *Гэты цар заснаваў сваю рэзідэнцыю ў Мемфісе, браў з Верхняй і Ніжняй зямель даніну і размясьціў свае гарнізоны ў самых важных іхных месцах. Але асабліва ўмацаваў ён усходнія ўскраіны, таму што прадбачыў, што асірыйцы, тады самы моцны із народаў, пачнуць напад на яга царства.*

*Знайшоўшы ў Сетраіцкай акрузе горад Аварыс, размешчаны ў вельмі выгадным месцы на ўсход ад Бубастыйскага рукава Нілу, – ён, адбудаваўшы яго, умацаваў вельмі моцнымі сьценамі я размясьціў у ім 240 000* (ох!) *цяжка ўзброеных ваяроў, якія былі павіннымі ўтвараць яго гарнізон... Туды ён выпраўляўся летам, часткова для таго, каб назіраць за раздачай войску харчавання і пенсіёну, часткова ж, каб падтрымліваць баязнь у чужынцаў, прымушаючы сваё войска займацца вайсковымі практыкаваннямі.*

*Салатыс памёр, працараваўшы 19 гадоў*».

А потым Флавій пачынае блытацца і выказваць анахранізмы:

«*Яго наступнік* (??) *на імя Банон* (ці Беан, відавочна Бэн-Он, сын бога Яна) *валадарыў 44 гады.*

*Пасьля яго быў Апахнан – 36 гадоў 7 мес*.

*Потым быў Афобіс* (ці Апофіс, ці Афозіс*) – 61 год.*

*Потым Аннас* (ці Іяннас, ці Іенаіас, ці Анна) *– 50 гадоў 1 месяц.*

*Нарэшце Асэф* (ці Асэт, ці Ассіс) *– 49 гадоў 2 месяцы*.

*Гэтыя шэсць былі першымі царамі. Яны ваявалі безперапынна, маючы на ўвазе вынішчыць жыхароў Ягіпта да караня* (!!).

[66] Калі ж лічыць грунтуючыся на ісламіцкай Геджры, то атрымліваем 1022 год нашай эры.

*Увесь іх народ зваўся гіксосы, г.азн. цары-жывёлаводы. Таму што «гік» – сведчыць Флавій – пазначае на сьвятой ягіпецкай мове цара, а «сос» у «вуснах народа» пазначае жывёлавода. Два гэтыя словы, узятыя разам, і складаюць імя Гіксос. Некаторыя лічаць, што яны былі арабы*».

Я звяртаю зноў асаблівую ўвагу на здзіўляючую сугучнасць імя першага султана гэтай гіксоскай дынастыі ў Мемфісе, Салатыса і на яго храналагічнае супадзенне з султанам Ягіпта Саладынам (Салах-ад-дын), імя якога азначае Набожны. Ён быў сынам малаазійскага князя Этоба і, акрамя Ягіпта, скарыў Сірыю і забраў у хрысьціянаў Эль-Кудс (г.азн. горад Іліі Сьвятога, ён жа Іліён і Элія-Капіталіна класікаў і палестынскі Ерусалім жыдоў і хрысьціянаў), але хутка пасьля таго вярнуў яго крыжакам. Ён памёр у 1193 годзе, пасьля 22-гадовага валадарання ў Ягіпце. Праўда, яго дынастыя была знішчана мамелюкамі ўжо праз 80 гадоў, у 1250 годзе, а наступнікі легендарнага Салатыса ў Флавія валадарылі ў суме 260 гадоў, але патрэбна прыняць да ўвагі поўную неверагоднасць цэлага пасьлядоўнага шэрага незвычайна доўгіх валадаранняў, прыводзімых ў яго, і хутчэй можна выказаць здагадку, што ў спісе Флавія дадзена працягласць іх поўнага жыцця. А ў такім разе зноў падмацоўваецца тое, што я ўжо выказваў у сваёй кнізе «Прарокі» пра тое, што кнігі Флавія напісаны ужо пад самага заканчэння Эпохі Адраджэння.

Дакладна тое ж даводзіцца сказаць і пра Турынскі папірус.

Гэтым смутным перыядам, не маючым ніякага неаспрэчнага падмацавання ў іерагліфічных дакументах, заканчаецца так званае «Сярэдняе Царства Архейскага Ягіпта», дапасуемае ягіптолагамі XIX стагоддзя да перыяду паміж –2466 і –1733 гадамі з прыблізнай памылкай на 3000 гадоў раней рэчаіснасьці.

Агульнае ўражанне ад усяго гэтага застаецца такое, як быццам бы Ёсіф Флавій, як аўтар XVI стагоддзя нашай эры, спісаў султана Салатыса з султана Саладына, і такім чынам усё, што мы чытаем у ягіпецкай гісторыі, як час ад пабудовы пірамід да заканчэння валадарання гіксосаў з’яўляецца толькі новым працягнутым варыянтам ягіпецкай гісторыі за прамежак ад Кастуся I (ці Канстанцыя Хлора) да султана Саладына і яго наступнікаў у XII стагоддзі нашай эры.

То ж мы пабачым і далей.

# Частка шостая

## Месяца-народжаныя цары



Мал. 166.
Амарнская школа мастацтваў у Ягіпце. Аскепак жаночай галавы, знойдзены ў Амарне і захоўваючыся зараз у Берлінскім музеі. Тыповая трактоўка прадмета, развіўшаяся ў Яўропе толькі пад час эпохі гуманізму.

# Глава I.

## Псеўда-васемнаццатая дынастыя. Спадкаемцы Аамеса (месяца-народжанага), дапасуемага сучаснымі ягіптолагамі да прамежку ад -1550 да -1300 гадоў.



Мал. 167.
Шкляначкі са шматкаляровага празрыстага шкла, з імем князёўны Іезік-Хонзу, святаркі бога Бацькі (Амона-Юпітара).

Псеўда-трэццюю Ягіпецкую імперыю Бругш пачынае з адважнага султана Аа-Меса, імя якога азначае Месяца-народжаны[67]. Ён – кажуць нам – выгнаў ворагаў краіны за ўсходнюю мяжу і пачаў будаванне вялікіх будынкаў. Яго дынастыя прыведзена тут мной, грунтуючыся на Бругшы, у табліцы LXVII, а адпавядае ён згодна з маімі атаясамленнямі зноў Дыяклетыяну і збольшага Арыю, так што часова перарваная валадарствам гіксосаў-агаранаў перыядычная сістэма візантыйска-ягіпецкіх цароў IV стагоддзя нашай эры аднаўляецца зноў і зараз нават з імёнамі іхных жонак.

Але такіх імёнаў зноў няма ў Абідоскім і Сакарскім спісах. Праўда, у Сакарскай табліцы ўвесь гэты раздзел кімсьці, відаць знарок выламаны, «каб не спакушаць вернікаў», (табл. LXXVI, слупок 2, і навочна на табліцы XLV на стр. 163) але ў Абідоскай табліцы ён цэлы і імёны там цалкам іншыя. Ці можна іх атаясаміць? Чаму ж не, калі яны з'яўляецца толькі той жа перыядычнай сістэмай накшталт чаргавання сямі дзён тыдня на працягу года? Якімі з'яўляюцца іхныя характарыстыкі? Дастаткова прыдатнымі для нас.

ТАБЛІЦА LXVII.
XVIII псеўда-дынастыя архейскіх ягіпецкіх цароў грунтуючыся на розных аўтарах.

<table>
<tr><th>1. Абідос</th><th colspan="2">2. Сакара</th><th>3. Бругш</th><th>4. Ёсіф Флавій (I вар.)</th><th>5. Яўсевій, кн. I</th><th>6. Канон Яўсевія Сінкеласа</th></tr>
<tr><td>67. Цэзар-Архі-цар</td><td colspan="2">48. Цар цэзар К.</td><td>Аамес і царыца Нафер-Тары</td><td>Тот Мосіс, 25 гадоў 4 мес.</td><td>Аа-Мосіс, 25 гадоў</td><td>А-Мосіс, 25 гадоў</td></tr>
<tr><td>68. О. Хепер (Heber) Архі-цар (Эрк-рэ)</td><td>49</td><td rowspan="5">Уся гэтая частка Сакарскай тынкоўкі кімсьці і выламана</td><td>Амен-Хатэп і царыца Аа-Хатэп</td><td>Хеброн [Гебр?], 13 гадоў [Hebrian]</td><td>Хеброн, 13 гадоў [Hebrian]</td><td>Хеброн, 13 гадоў [Hebrian]</td></tr>
<tr><td>69, Цар О. Хепер [Heber]</td><td>50</td><td>Тут-Мес I і царыца Аа-мес і Мэры-Амон</td><td>Амен-Офіс I, 20 гадоў 7 мес.</td><td>Амен-Офіс, 24 гады</td><td>Амен-Офіс, 21 год</td></tr>
<tr><td>70. Цар М. Хеперу [Hebri]</td><td>51</td><td>Рэгенства царыцы Хнум-Амон Эатон Тут-Мес II</td><td>Суваладарка Амессэс, 21 г. 9 мес.</td><td></td><td></td></tr>
<tr><td>71. Цар О. Хеперу [Hebri]</td><td>52</td><td>Тут-Мес III і царыца Хашоп-Мэры Рэ</td><td>Мэф-Рэс, 12 гадоў 9 мес.</td><td>Мітрэс. 12 гадоў</td><td>Місфрэс 12 гадоў</td></tr>
<tr><td>72. Цар М.</td><td>53</td><td>Амен-Хатэп II</td><td>Мэтра Гмуфозіс</td><td>Мітрэс</td><td>Місфрэс</td></tr>
</table>

[67] Аа – месяц. Мес – народжаны. Месяц лічыўся ўвасабленнем Гермеса, бога пісьмовасьці, а потым Гермес пачаў атаясамляцца з Меркурыем. Першая літара (А) ягіпецкага альфабэту малявалася Анандасам (ібісам)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Хеперу [Hebri] | | | | [Gmuthosis], 25 г. 10 мес. | | Гмутозіс 26 гадоў | Гмутозіс, 26 гадоў |
| 73. Валадарка Праўды Нэў | 54 | | Тут-Мес IV і царыца Мутэмут | Тут-Мосіс, 9 гадоў 8 мес. | | Тут-Мосіс, 9 гадоў | Тут-Мозіс, 9 гадоў |
| 74. Цэзар-цар Хеперу [Hebri] цар-сатэп | 55 | | Амен-Хатэп III і царыца Ці | Амен-Офіс II [Мемнон], 30 гадоў 10 мес. | | Амен-Офіс, 31 г. [Мемнон] | Амен-Офіс, 31 г. |
| 75. Цар М. Пех-Тата | 56 | | Амен-Хатэп IV [Хун-Атэп] Заснаванне адзінабожжа | Орас, 36 гадоў 5 мес. [гара-скапіст] | | Орас, 28 гадоў [гара-скапіст] | Орас, 37 гадоў [горус] |
| Адсутнічаюць | Адсутнічаюць | | Адсутнічаюць | лацінская ўстаўка | Дачка Апепхе-Рэс 12 гадоў 1 мес. | Панна Ахепхе-Рэс, 16 гадоў | Панна Ахепхе-Рэс, 12 гадоў |
| | | | | | Брат Пафоціс, 9 гадоў | Не занесена | Афо-Рэс, 9 гадоў |
| | | | | | Не занесена | Не занесена | Хенхе-Рэс, 16 гадоў |
| | | | | | Ахенхэ-Рэс II, 12 гадоў 5 мес. | Ахер-Рэс, 8 гадоў | Хе-Рэс, 8 гадоў |
| | | | | | Ахенхэ-Рэс III [суваладар], 12 гадоў 3 мес. | Хер-Рэс, 15 гадоў | Асе-Рэс, 15 гадоў |
| | | | | | Армайс, 4 г. 1 мес. | Армайс Дунайскі, 5 гадоў | Дунайскі, 5 гадоў |
| 76. Валадарка Праўды М. | 57. . .[імя выламана] | | Са-Анехт і царыца Мэры Атэн | Ра-Мессэс I [цар Месія] | | няма | няма |
| Заканчэнне Абідоскага спіса | Заканчэнне Сакарскага спіса | | Тут-Анх-Амон [Жывая выява Юпітара] | Ра-Месэс II 66 гадоў 2 мес. | | Ра-Месэс Ягіптас, 68 гадоў | [Ягіптас], 68 гадоў |
| | | | Гор (Horus)-Ем-Хіб | Амен-Офіс III, 19 гадоў 6 мес. | | Амен-Офіс, 40 гадоў | Амен-Офіс, 40 гадоў |
| | | | | Сума аўтара 333 года | | Сума аўтара 348 гадоў [а атрымліваецца 317 гадоў] | Сума аўтара 347 гадоў |

| 7. Софіс | 8. Афрыкан, «Вытрымкі» | 9. Радавод Хрыста ў Лукі | 10. Радавод Хрыста ў Мацьвея | 11. Атаясамленні |
|---|---|---|---|---|
| Амосіс і Тэт-Мосіс, 26 гадоў | А-мос (моцны) | 67. Амос (моцны) | 32. Акім | Дыяклетыян, 21 год (284-305) |
| Хеброн, 13 гадоў [Hebrian] | Хеброн, 13 гадоў [Hebrian] | 68. Матафія | 33. Азар | Канстанцый Хлор [285-306] ці Максіміян [285-305] 21 год |
| Амемфэс, 15 гадоў | Амен-Офіс, 24 гады | 69. Ёсіф | 34. Цадэк [сьвяты] | Арый? Ліцыній? |
| Аменсэс, 11 гадоў | Аменсіс, 22 гады | 70. Іаанай | 35. Ахім | Алена, маці Кастуся [пам. 327 г.]? |
| Місфрэс-Гмутозіс, 16 гадоў | Місф-Рэс, 13 гадоў | 71. Мелхій [царуючы] | 36. Эл-Юд | Кастусь I [324-337] 13 гадоў |
| Місфрэс, 26 гадоў | Місфрэс Гмутозіс, 26 гадоў | 72. Лявіт [Эл-Юд] | 37. Элі-Азар | Канстанцый II? |
| Тут-Мозас, 9 гадоў | Тут-Мозас, 9 гадоў [і царыца Мутэмут] | 73. Мат-Тат | 38. Мат-Тат | Юльян і маці «Вялікага цара»? |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Амен-Офіс, 31 г. | Амен-Офіс Мемнон, 31 год | 74. Элій [Ілія] | 39. Якаў [багазмагальнік] | Хрыстос «Вялікі цар» |
| Орас, 37 гадоў [гараскапіст] | Орас, 37 гадоў [гараскапіст] | 75 Ёсіф | 40. Ёсіф [прыгожы] | Ян Залатавусны з гараскопам Апакаліпсіса |
| Ахенке Рэс. 12 гадоў | Ахер-Рэс, 32 года | | | Аркадзь і Еўдаксія? |
| Афо-Рэс, 29 гадоў | Пафос, 6 гадоў | | | Брат Аркадзя Ганорый |
| Хенхе-Рэс, 26 гадоў | не занесена | | | Аэцый і Плацыдыя, 21 год |
| Ахер-Рэс, 30 гадоў | Хер-Рэс, 12 гадоў | Адсутнічаюць | Адсутнічаюць | Валентыніян, 11 гадоў |
| няма | Ахер-Рэс, 12 гадоў | | | Рэцімер, 16 гадоў |
| Армайас Данаас, 5 гадоў | Армесіс, 5 гадоў | | | Ромул Аўгустул, 5 гадоў [апошні заходне-рымскі імператар] |
| няма | Ра-Месэс, 1 год | Панна Марыля | Панна Марыля | Ёсіф і Марыля |
| Ра-Мессэс Ягіптас, 68 гадоў | адсутнічае | Заканчэнне радаводу Лукі | Заканчэнне радаводу Мацьвея | Хрыстос, «Вялікай цар» |
| Амен-Офіс, 8 гадоў | Амен-Офіс, 19 гадоў | | | Ён жа ў іншай аперцэпцыі |
| Сума аўтара 398 гадоў | Сума аўтара 262 гадоў | | | |

ТАБЛІЦА LXVIII.

Канец псеўда-XVIII дынастыі па іншых варыянтах і дынастыя продкаў Фуорыса (Фуа-Рэгс).

| I | II | III | IV | V | VI |
|---|---|---|---|---|---|
| Яўсевій I варыянт | Яўсевій II варыянт | Сінкелас у Армянскім спісе | Афрыкан | Ёсіф Флавій (II вар.) | Софіс |
| | Сефас (Сэці), 55 г. | Сефас, 55 г. | Сефас, 51 г. | Ягіптас (Сефас), 51 г. | |
| | Няма | Няма | Няма | Армайс (Рамесэс), 8 г. | Армайас Данаас, 9 г. |
| Рамесэс Ягіптас, 66 г. | Рампцэс, 66 г. | Рампсэс, 66 гадоў | Рамп-сакес, 66 г. | Рампсэс, 66 г. | Рамесэс Ягіптас, 68 г. |
| Амен-Офіс, 40 г. | Амен-Ефіс, 40 г. | Амен-Ефіс, 40 (8) л | Амен-Ефес, 20 г. | Амен-Офіс, 20? г. | Амен-Офіс, 8 г. |
| | Няма | Няма | Рамесэс 60 г. | Сефас, 51 г. | |
| | Амен-Емес, 26 г. | Амен- Емес, 26 г. | Амен- Емес, 5 г. | Рамесэс, 8 г | |
| | Фуорыс (Polyb.), 7 г. | Фуорыс (Polyb.), 7 г. | Фуорыс | Няма | Фуорыс |

«*На 22 годзе Валадарання султана Аа-Меса*, – паведамляе адзін надпіс у каменяломнях Тура і Масара паблізу Каіра[68] – *загадаў Яго Аўгусцейшаства адкрыць скалістыя каменяломныя пячоры, каб выразаць лепшы белы вапняк у горнай мясцовасьці АН, для храмаў даўгавечнага існавання: для сядзібы боскага Пта ў Мемфісе, для міласьцівага бога Амона ў Фівах... і для розных іншых помнікаў, будуемых згодна з загадам Яго Аўгусцейшаства. Камяні выцягваліся быкамі, якіх прывялі і перадалі працуючым чужакі фенах*».

[68] Бругш, стар. 258 арыгінала.

Знізу гэтага надпісу існуе выява шасьці запрэжаных быкоў, вывозячых на простых санках каменную камлыгу.

Яго красуню жонку Нафер-тары-Аамес надпісы тытулуюць «Дачка, Сястра, Жонка і маці Цароў», а таксама «Жонка бога Амона». Яе малююць ідучай у першай пары са сваім чалавекам у шэсьці цароў. Усё гэта, адпаведна з нашым меркаваннем, зноў толькі пачатак новага варыянта ягіпецка-візантыйска-рымскай дынастычнай гісторыі.

Вось адзін із надпісаў, у якім згадваецца пра спадкаемцу Аа-Меса. Ён знойдзены ў Эль-Кабе, на магільні яго вайсковага правадыра таксама Аа-меса[69], і я размяшчаю яе тут, як характэрызуючую стан ягіпецкай вайсковай і марской справы ў той час.

«*Памёршы кіраўнік карабельнага экіпажа Аа-мес сын Аб-Ана выказваўся так:*

*Я абвяшчаю вам і ўсяму народу пра ганаровую ўзнагароду, мной атрыманую. Я восем разоў быў адораны залатым даваннем перад тварам усёй краіны, адораны і нявольнікамі і нявольніцамі ў вялікай колькасьці. Я валодаў шматлікімі палеткамі зямлі. Найменне «адважны», якое я заслужыў, ніколі не забудзецца ў гэтай зямлі.*

*Я правёў сваю маладосць у горадзе Нухеб. Бацька мой быў вайсковым правадыром памёршага цара Ра-Секенэна. Баба, сын спадарыні Раант, было імя майго бацькі. Я быў прызначаны кіраўніком замест яго на караблі «Цяля» ў часы валадара зямлі Амеса памёршага.*

*Я быў яшчэ малады і не адружаны, і апрануты ў адзенне моладзі. А пасьля таго як я прыгатаваў для сябе жыллё, я быў узяты на карабель «Поўнач», таму што я быў дужы. Маім абавязкам было суправаджаць пешкі вялікага валадара – жыццё і шчасьце і здароўе ды будуць яго доляй! – калі ён ездзіў на калясніцы.*

*Аблажылі горад Аварыс. Служба мая была ісьці пешкі перад Яго Аўгусьцейшаствам. Я быў пераведзены на карабель «Узыход у Мемфісе. Я рукапашна змагаўся на вадзе, на возеры Пацэтку паблізу Аварыса, і ўзяў адну руку* (у якасьці доказу, што забіў яе ўладальніка). *Пра гэта было павядомлена дарадцам цару. Мне далі залаты дарунак за адвагу. Потым разгарэўся на тым месцы новы бой, і я зноў ваяваў рукапашна і зноў узяў адну руку. Мне ў другі раз далі залаты дарунак. Змагаліся пры мясцовасьці Такем, на поўдзень ад горада* (Аварыса). *Тут я ўзяў жывога палоннага, дарослага чалавека. Я залез у ваду, і вёў яго ў ёй так, каб застацца ўбаку ад дарогі, вядучай у горад. Я ішоў у вадзе, трымаючы яго моцна. Пра мяне паведамілі дарадцу цара, і я атрымаў яшчэ раз залаты падарунак. Мы захапілі Аварыс. Я ўзяў там палонных – дарослага чалавека і трох жанчын, усяго чатыры галавы. Яго Аўгусьцейшаства аддаў мне іх ва ўласнасць, як рабоў.*

*Мы аблажылі горад Шэрахан у 6-м годзе, і Яго Аўгусьцейшаства захапіў яго. Я ўзяў здабычу: двух жанчын і адну руку. Мне далі залаты дарунак за адвагу. І аддадзены былі мне палонныя, як нявольніцы.*

---

[69] Бругш, стар. 280 арыгінала.



Мал. 168.
Выгляд мошчаў (муміі) Амен-Офіса I (інакш Амен-Хатэп I) з драўлянай размаляванай маскай на даху труны і з рэшткамі галінкавых гірляндаў у труне.

*Пасьля таго як Яго Аўгусьцейшаства скрышыў сірыйцаў у Азіі, паехаў ён угару ў Хонт-Хон-Нафер, каб раскідаць горных жыхароў Нубіі. Яго Аўгусьцейшаства вельмі шмат каго забіў паміж імі, і я там узяў здабычу: двух дарослых людзей і тры рукі. І мне зноў далі залаты дарунак, і акрамя таго, двух нявольніц.*

*Яго Аўгусьцейшаства паехаў уніз па рацэ. Сэрца яго было радасным дзякуючы адважным і пераможным справам. Ён забраў у валоданне землі поўдня і поўначы. Тады прыйшоў вораг з поўдня. Яго перавага заключалася ў шматлікасьці яго народа. Але багі поўдня былі супраць яго магутнасьці, і Яго Аўгусьцейшаства знайшоў яго каля вады Тэнт-Та-Тот. Яго Аўгусьцейшаства забраў ворага ў палон жывым. Усе людзі сутэна вярнуліся са здабычай. Я забраў двух маладых людзей, адрэзаўшы іхнае адступленне да карабля непрыяцеляў.*

*Мне далі пяць валоў, акрамя надзелу ворнай зямлі ў пяць мер у маім горадзе. Тое ж самае далі і экіпажу карабля. Тады прыйшоў зноў вораг, імя яму Тэта-ан. Ён сабраў каля сябе хеўру злых людзей. Яго Аўгусьцейшаства зьнішчыў яго і служак яго, так што іх не стала. Тады былі мне дадзены трое людзей і пяць мер ворнай зямлі ў маім горадзе.*

*Я вёз вадой і памёршага султана Амен-Хатэпа* (I), *калі ён ехаў угару* (па рацэ) *супраць Куша, каб пашырыць мяжы Ягіпта. Ён перамог Нубійца ў асяроддзі яго ваяроў. Загнаныя ў цясьніну, яны не мелі магчымасьці збегчы. У замяшанні стаялі яны, як быццам бы былі нішто. Я тады стаяў наперадзе нашых ваяроў і ваяваў, як патрэбна. Яго Аўгусьцейшаства дзівіўся маёй адвазе. Я ўзяў дзьве рукі і прынёс іх да Яго Аўгусьцейшаства. Мы шукалі жыхароў і статкі Нубійца. Я ўзяў жывога палоннага і прывёў да Яго Аўгусьцейшаства. Я прывёз Яго Аўгусьцейшаства за два дні ў Ягіпет, ад верхняй студні* (Хнум-хірт). *Мне падарылі залаты дарунак. Тады я прывёз двух нявольніц, акрамя тых, якіх я ўявіў перад Яго Аўгусьцейшаствам. І я быў прызначаны на пасаду «віцязя цара»* (у рыцарскае званне). *Я вёз памёршага цара Тут-Меса I, калі ён ехаў вадой у Хонт-ханофер, каб задушыць зваду паміж жыхарамі і каб адбіць напад з боку сушы. І я быў адважны перад ім на вадзе, хаця пры нападзе на караблі было* (нам) *дрэнна з нагоды перамены* (ветру). *Я быў прызначаны на пасаду кіраўніка экіпажа»...*

(Тут прабел, але згодна са зместам апавядання ён павінен быў утрымліваць у сабе нагоду да новай вайны супраць жыхароў поўдня.)

«*Тады загарэўся гневам Яго Аўгусьцейшаства, як пантэра, і кінуў сваю першую стралу, якая засталася ў целе непрыяцеля. Непрыяцель зваліўся без пачуццяў перад яго царскім вянком. І тады адбылася вялікая яго параза, і мы адвялі ўсіх людзей у палон жывымі.*

*Яго Аўгусьцейшаства паехаў уніз. Усе народы былі пад яго ўладай. Пагарджаемы цар нубійскіх народаў быў прывязаны да носа карабля Яго Аўгусьцейшаства і пакладзены на зямлю ў горадзе Фівы. Пасьля таго выправіўся Яго Аўгусьцейшаства ў краіну Рутэну (Лацінію), каб астудзіць жар сваёй мужнасьці на жыхарах той краіны, і дасягнуў зямлі Нахараіна.*

*Яго Аўгусьцейшаства, – ды будзе жыццё, шчасьце і здароўе яго доляй! – знайшоў там непрыяцеля. Ён прызначыў парадак бітвы і нанёс ім вялікую паразу. Незлічона шмат было жывых палонных, якіх Яго Вялікасць адвёў перамогамі сваімі. І вось я быў наперадзе нашых ваяроў. Яго Аўгусьцейшаства дзівіўся маёй адвазе.*

*Я паланіў і адвёў вайсковую калясніцу з коньмі, і таго, які на ёй знаходзіўся, жывым палонным, і паказаў іх Яго Аўгусьцейшаству. Тады я быў адораны золатам. Я зрабіўся высокапаважаным і дасягнуў старасьці. Са мной будзе тое, што з'яўляецца доляй усіх людзей на зямлі. Я пайду ў падземны сьвет і буду пакладзены ў труну, якую сам для сябе загадаў прыгатаваць*».

Відаць, сутэн Амен-Хатэп  (г.азн. слуга Амона), ён жа Цэсар-Ерк-Рэ ці Канстанцый Хлор, з якога спісаны Юлій Цэзар і пра якога згадвае аўтар гэтага надпісу ад імя яго рыцара, часта адсутнічаў у сталіцы, бо яго маці – Нафер-тары кіравала некалькі гадоў царствам. Першы яго паход быў на караблі, як апісана ў вышэйпрыведзеным вялікім дакуменце, потым ён накіраваўся на поўнач вайной на вялікі народ Кахах, называемы сьветласкурым, а гэта ніяк не сведчыць пра тое, што ён ішоў паходам на жыхароў Паўночнай Афрыкі, якія маюць колер твару не больш сьвятлы чым ягіпецкі, а паказвае на еўрапейцаў.

Пасьля сьмерці ён, як і Дыяклетыян і Кастусь І і Юлій Цэзар, быў прылічаны да ліку сьвятых і яму быў пастаўлены царкоўны ахвярнік і прыдуманы адмысловыя малітвы.

Яго наступнік Тутмес І, адпавядаючы хутчэй усяго Ліцынію, па-грэцку мае назву Тутмозіс. Ён – кажуць нам – наладзіў паход нават на берагі Еўфрата.

«*Зямля ва ўсім сваім аб'ёме*, – паведамляе адзін надпіс, – *ляжыць каля яго ног*[70]. *Ніколі нічога падобнага не было пры іншых царах. У незлічонай колькасці прыбывалі ў Ягіпет з поўдня на караблях статкі рагатага быдла, рэдкія звяры, пантэравыя скуры, слановая костка, чорнае дрэва, бальзам і духмяныя смолы, золата і каштоўныя камяні, пшаніца і хлеб. У руднях Уаца* (атаясамляемага з залатаноснай далінай Алакі ці Алахі, распасьціраючайся ад Каруска на паўднёвы-ўсход да мора), *рабы із неграў і палонныя выламвалі із глыбокіх шахтаў залатаносныя кварцавыя пароды і, дробячы іх у асобных млынах, здабывалі з іх золата, а ягіпецкія і чужаземныя ваяры вартавалі іх*».

«*Пустэльнымі і сумнымі* – выказваецца Бругш – *выяўляюцца зараз для позірку падарожніка берагі Ніла з іхнымі засыпанымі пяском храмамі, гарадамі і ўмацаваннямі, стаячымі ў вузкай Нубійскай даліне ракі, дзе народ ледзь знаходзіць пражытак для сябе і свайго быдла. Толькі дзе-нідзе расьце самотная фінікавая пальма ці іхнае згуртаванне, адзіныя прадстаўніцы царства дрэў, а фон гэтай змрочнай выявы складаюць цёмныя скалы з крутымі абрывамі. Але і тут тады кіпела праца. У вёсках, пабудаваных паблізу прыбярэжных узгоркаў, сядзела працоўнае насельніцтва, дастаўляўшае Ягіпту тыя творы, якіх не давала яму ўласная глеба. Карабельнікі, выпрабаваныя ў цяжкіх плаваннях па небяспечных быстрынях Верхняга Нілу, былі на службе не толькі цароў, але і вайсковых правадыроў і купцоў*».

---

[70] Бругш, стар. 226 арыгінала.

«*На сьвяты, набожны і паважаючы гледзішчы натоўп ішоў да сваіх каменных храмаў ці да высечаных у скалах магільняў «сьвятых сутэнаў» і глядзеў на пышнасць служыўшых ім «сьвятых бацькоў»* (як надпісы называюць мясцовых сьвятароў*), нёсшых на плячах у працэсіі залатыя лодкі з выявамі богаў. Калі прыязджаў сам сутэн у Нубійскую зямлю на шыкоўна ўпрыгожаным караблі з ветразямі із каштоўнага белага вісону, ускліканням радасьці і весялосьці не было канца. І гэта было зразумела. Цар заўсёды пакідаў каштоўныя дарункі, каб падтрымаць у народзе думку, што ён бацька і дабрадзей сваіх падданых*».

На сьцяне адной із пячор Сальсіліскіх гор (24°30' паўн. ш.) знойдзена такая хвалебная песьня, якую можна дапасаваць да таго ж часу:

*Слава табе, цару Міц-Рымскаму, сонцу чужакоў!*
*Імя тваё вялікае ў зямлі Куш,*
*дзе твой вайсковы крык пракраўся ў жыллё людзей.*
*Вялікая твая магутнасць, яна пакрывае сорамам народы.*
*Літасьцівы валадар, наш сутэн, жыццё, шчасьце і здароўе яму!*
*Ён з’яўляецца сьвяцячымся сонцам.*

«*Мастацкасць і рамяство* – дадае Бругш – *падавалі адзін аднаму руку пад час гэтых старажытных часоў. Калясніцы*, *выкладзеная золатам і срэбрам, якімі апісваюць іх надпісы; зброя, ад* **панцыраў** *самай выдатнай апрацоўкі да азддобленай каштоўнымі металамі дзіды; залатыя, срэбныя і бронзавыя пасудзіны хатняга ўжывання, – усё да намётавай падстаўкі, да лаўкі і да тысяч дробных прадметаў штодзённага жыцця, здаваўшыхся патрэбнымі цывілізаванаму тагачаснаму чалавеку, усё гэта паказвае нам, як было развіта культурнае жыццё ў Ягіпце з боку гледжання мастацтва і густу ў тыя самыя старажытныя часы*».

Так па-мастацкі выказваецца Бругш.

Хай будзе адпаведна з яго словамі. Але толькі ці сапраўды ўсё гэта было так даўно? Ды і ўсе яго надпісы: ці не з’яўляюцца сярэднявечнымі міфамі пра ўжо даўно мінулыя падзеі? І ці сапраўды ўсё тое, што паведамляецца тут пра пышнасць «ягіпецкіх» валадароў, адбывалася ў даліне Нілу, а не апрапрыявана туды мясцовымі мастакамі больш позняга часу? Камяні ж тады замянялі друкарскі станок; дык чаму ж на іх было немагчымым «друкаваць» паэтам і казачнікам свае ўласныя творы? Тут для мяне асабліва падазронай здаецца выява ваюючых султанаў у стаячым выглядзе на двухколавых калясніцах, тады як на іх можна было трывала размясьціцца толькі лежачы на восі, падобна гармаце.

Тутмес I вярнуўся пераможцам із краіны Двух Рэк (Нахараін). Са славай і з вялікай здабычай уступіў ён у сваю сталіцу. «Ён абмыў сваё сэрца» – паведамляюць іерогліфы.

А із пераможных надпісаў, зробленых ад імя Тутмеса III, мы даведваемся, быццам бы Тутмес I у гонар свайго пераможнага паходу ў «Краіну Рэк», паставіў памятны камень, побач з якім пазьней у гонар сваіх паходаў размясьціў помнік і яго наступнік Тутмес III, Вялікі.

У іхны час, – запэўніваюць нас, – ужо існаваў сонечны ягіпецкі каляндар, пачынаўшыся месяцам Тотам, і з яго дапамогай пазначаліся даты надпісаў. Але існаванне нечага падобнага можна дапусьціць толькі пачынаючы з Нікейскага сабора пры Кастусю I у 325 годзе.

«Тутмесу I, валадарыўшаму нядоўга, успадкаваў Тутмес II (відаць, Кастусь I) і з ім сукіравала некаторы час улюбёнка яго бацькі Хашоп, якая пазней стала жонкай Тутмеса III».

Гэтая ягіпецкая Еўдаксія, накшталт біблейскай Гафоліі, не толькі захапіла ўладу пасьля сьмерці Тутмеса I, але, што асабліва выдатна, скінула – паведамляюць нам – з сябе жаночае адзенне, апранулася ў мужчынскую мантыю і назвала сябе сутэнам, надзяваючы вянок і адметныя прыкметы ягіпецкіх цароў. Усё гэта даволі падобна на апісанне ўладных жанчын у лацінскіх аўтараў, накшталт Месаліны і Платыдыі. Хлопчык Тутмес III, яе брат, сапраўдны валадар Ягіпта, быў часова адхілены ад пасада. У сьвятых кнігах сьвятарства і ў іхных каменных летапісах Хашоп запісваецца, як імператар з тытуламі: Ма-ка-рэ Хнум Амон-Хашоп.

«Пры ёй больш усяго была накіравана ўвага на прыступкападобны храм з тэрасамі ў Дэйр-эль-Бахры, каля Каптоеса. Яго дойлід і пры гэтым сябар царыцы быў разумным і майстэрскім мастаком, не меўшым шляхетных продкаў, як пра тое паведамляе яго помнік, захоўваючыся зараз у Берліне». Гэта быў Сімнут, сын Рам-Меса і спадарыні Ханофер, згодна з нашай храналогіяй адначаснік з евангельскім Езусам ці з яго бацькам дойлідам Ёсіфам. Пасьля сьмерці свайго мастака царыца «ў знак падзякі» паставіла яму помнік у форме статуі, паказваючай яго седзячым з сагнутай спінай і падабранымі нагамі. Гэтая выява зроблена із чорнага граніту і на правым плячы статуі існуе кароткі, але шматзначачы надпіс: «не знойдзена ў пісаннях яго продкаў». На тым-жа помніку ад імя мудрага дойліда распавядаецца пра царыцу, ужываючы для яе пазначэння займеннік ***ён***, а не ***яна***, таму што такой была ўсёмагутная воля Хашоп.

«*Я быў* – паведамляе аўтар надпісу ад імя Семнута – *саноўнікам, які шанаваў «яго»* (царыцу Хашоп) *і які набыў сабе здзіўленне гэтага валадара зямлі. «Ён» зрабіў мяне вялікім на зямлі, «ён» прызначыў мяне старэйшым кіраўніком сваёй сядзібы і назіральнікам усёй краіны. Я быў першым із першых і вялікім майстрам над майстрамі*».

Надпіс заканчваецца славамі:

«*Я жыў пры валадару зямлі, «цары» Мака-рэ, ды жыве ён вечна*!».

Якім бы ні было становішча Семнута пры царыцы Мака-рэ Хашоп, але не выклікае сумневаў адно: яго стварэнні выдатныя адпаведна таму часу і стылю. Пабудовы дапасуемыя ягіптолагамі да часоў валадарання Хашоп, належаць да лепшых твораў своеасаблівай ягіпецкай умоўнай манеры мастацтва, якую мы лічым тыповай для той краіны і ў дачыненні да каменнай працы, формы і агульнага плана пабудоваў, і каштоўных, распісаных фарбамі ўпрыгожванняў. «Гэта быў, відаць, той момант, калі ягіпецкая мастацкая ўмоўнасць, дасягнуўшы сваёй вышыні, павінна была замяніцца новым больш блізкім да прыроды малярствам ці загінуць, не пакінуўшы нашчадкаў. Але нават у сваім разбураным выглядзе кучы ягіпецкіх развалін вырабляюць моцнае ўражанне», – выказваецца Бругш.

Царыца Хашоп, – паведамляюць нам, – не задаволілася аднымі асалодамі ад мастацтва ягіпецкіх мастакоў. Згодна з ўказаннем аракула фіванскага галоўнага бога Амона, яна адважваецца на падрыхтоўку марской экспедыцыі для вандравання ў невядомую краіну Пунт (сугучна з Понт).

Надпісы і выявы на сьценах храма ў Дэйр-эль-Бахры паказваюць, што, дасягнуўшы (з дапамогай Амона) мэты вандравання, пасланнікі высадзіліся на беразе «далоневай гары», паднімаючайся прыступкамі. Ніколі не бачаныя людзі, жыхары той «боскай зямлі», здаліся на беразе, не менш здзіўленымі, чым самі маракі. Яны паказаны на малюнках жывучымі у пабудовах на палях, у маленькіх купалападобных халупах, да якіх доступ быў толькі па ўсходах. Іхныя пабудовы знаходзіліся пад ценем абцяжараных пладамі какосавых пальмаў, а пад дрэвамі пасвіліся статкі рагатага быдла.

Але ж гэта, чытач, раман ужо з часоў не рэчаіснай, а міфічнай царыцы! І час яго можа быць наколькі заўгодна пазнейшы. У падобным жа стылі раман працягваецца і далей.

Пасьля першых хвілін прысьвечаных здзіўленню, вандраўнікі – паведамляе аўтар – абмяняліся з князямі краіны міралюбнымі запэўніваннямі і сяброўскімі падарункамі. У надпісе гэта перададзена наступнымі словамі:

«*Прыбыў царскі пасланнік з ваярамі, суправаджаўшымі яго. Кожны із князёў краіны Пунт набліжаецца з каштоўнымі і шматлікімі рэчамі ў знак шанавання сьвятасьці багіні Гатор, жывым адлюстраваннем якой з'яўляецца царыца*».

Выява, да якой дапасуецца гэты надпіс, малюе пасланніка ў суправаджэнні ваяроў, прынімаючага залатыя ланцугі, пярсцёнкі, сякеры і кінжалы, падарункі «князя краіны Пунт на імя Парыху (Парыс), які ў суправаджэнні сваёй жонкі Ары... (сапсавана), сваіх двух сыноў і сваёй маладой дачкі кланяецца, падняўшы свае рукі, царскаму пасланніку».

Яго княгіня намалявана надзвычай тоўстай і седзячай на асле.

«*Быў наладжаны* – паведамляе наступны надпіс – *намётавы лагер царскага пасланніка і яго ваяроў у краіне бальзамавай прыступкападобнай гары ў зямлі Пунт, на беразе вялікага мора, каб прыняць князёў. Ім былі прапанаваны хлеб, мёд* (напой), *віно, мяса, сушаныя плады і рознае іншае із краіны Ташэр* (Ягіпта?), *як было загадана ад царскага двара*».

Галоўны із князёў Пунт, згаданы вышэй Парыху, у суправаджэнні сваёй пачварна тоўстай жонкі таксама «прынёс даніну да берага вялікага мора». Перад намётам пасланніка намаляваны залатыя пярсцёнкі, слановыя іклы і каштоўная духмяная смала, навaленая кучай. На выяве бачны абцяжараныя ношай жыхары краіны Пунт і паганятыя аслоў, нагружаных markdown рознымі вырабамі, гонячымі статкі ў накірунку да намётаў.

Каля трыццаці ладанавых дрэваў, перасаджаныя ў вялікія кадушкі, прыносяцца тубыльцамі, пры гэтым кожнае дрэва патрабуе для пераноскі агульных намаганняў шасьці чалавек. На выяве вельмі рэчаісна і дакладна намалявана цяжкая праца карабельнікаў і тубыльцаў пры складванні і пакаванні рэчаў. А надпіс яшчэ і тлумачыць гэтую выяву:

«*Цяжка нагружаюцца* – паведамляе яна – *караблі цудоўнымі вырабамі зямлі Пунт: рознымі вырабамі із дрэва Сьвятой зямлі, кучамі духмянай смалы, жывымі ладанавымі дрэвамі, вырабамі із чорнага дрэва і са слановай косткі, аздобленымі чыстым золатам зямлі Аму, лакрычным коранем, дрэвам хесіт, курэннем ахем, ладанам, сурмой для* (падфарбоўкі) *вачэй, малпамі з галавой сабакі* (кіпакефаламі), *мартышкамі, барзымі сабакамі, пантеравымі скурамі і жыхарамі зямлі з іхнымі дзецьмі. Ніколі нічога падобнага не прывозілася ні да аднаго із цароў з таго часу, як стаіць сьвет*».

Караблі адплываюць ад Пунта. Пры плаванні ўжываюцца як ветразі так і вёслы. Ладанавыя дрэвы ў кадках стаяць на палубах паміж скрынямі і цюкамі; малпы на пацеху экіпажу скачуць і лазяць вольна па караблю. Із надпісу бачна, што ў ліку вандроўнікаў знаходзіліся і князі зямлі Пунт.

Царыца вітала чужацкіх князёў на ўрачыстай аўдыенцыі. Яны кінуліся перад ёю на зямлю і выказвалі ёй з выкарыстаннем афіцыйных ягіпецкіх выразаў, што яна, царыца Ягіпта, «з'яўляецца сьвецячым Сонцам», «валадаркай краіны Пунт» і што «яны сталі падданымі яе Аўгусьцейшаства». Перад царыцай праводзяць у доўгім шэсьці чужацкіх жывёл і праносяць вырабы той чужой зямлі, не выключаючы і кадак з дрэвамі, даючымі пахучую смалу.

Такім з'яўляецца ілюстраванае апавяданне на сьценах аднаго із унутраных пакояў прыступкападобнага храма ў Дэйр-эль-Бахры, дапасуемага да часу за паўтары тысячы гадоў да пачатку нашай эры; але ў задняй сьцяне гэтага ж храма замест чакаемых тут магільняў рода Аа-меса, выявіліся муміі грэцкіх часоў, якія нават і артадаксальнымі ягіптолагамі дапасуюцца да часоў «не раней заканчэння Пталямеяў».

– Як жа яны сюды патрапілі?

– Пакладзены пазьней! – адказваюць нам гісторыкі XIX стагоддзя[71].

– Але якія ж цары не пасароmеліся б пакласьці, сваіх бацькоў, «у бозе пачыўшых шануемых», у чужыя магільні?

Адказу на гэтае натуральнае пытанне мы не маем.

А з нашага боку гледжання справа выглядае вельмі проста.

Хіба не пакрываюць і зараз нашы маляры сьцяны храмаў ці грамадзкіх будынкаў фрэскамі з гістарычнымі сюжэтамі? Дык чаму б не лічыць, што і толькі-што прыведзенае мной ілюстраванае апавяданне пра вандраванне ў краіну Пунт, з'яўляецца такой жа аповесьцю, складзенай пазьней ад імя адной із быццам бы дзейнічаючай у ёй асоб?

Нават жа і «апавяданні камянёў» патрэбна чытаць не з дзіцячым даверам, а з крытычным асэнсаваннем маючагася ў іх сюжэта!

Асабліва ж цікава тут паказаць на тое, што год у той час лічыўся ўжо не ад пачатку разлівання Нілу восенню, а гэтак жа як у рымлян (рамеяў), ад веснавога раўнадзенства. На пастаменце аднаго із самых прыгожых абеліскаў із ружовага граніту, пастаўленага перад уваходам у Карнакскі храм, знаходзіцца такі надпіс:

«*Царыца загадала вырабіць гэты цудоўны твор мастацтва із гранітных адломкаў Чырвонай Гары* (г.азн. паблізу Асуана) *і праца працягвалася ўсяго пяць месяцаў, ад 1 дня месяца Мехіра 15 года да апошняга дня месяца Месоры наступнага 16 года*».

Гэта азначае, што новы год пачынаўся тут паміж Мяхірам і Месоры. Лічачы, што месяц Тот вызначаўся, як паведамляюць першакрыніцы, з'яўленнем Сірыуса (а таксама і Рэгула) над ранішнім світанкам, што прадвяшчала разліванне Нілу, і адпавядаў юліянскаму жніўню-верасню, мы павінны зрабіць выснову, што Мехір адпавядаў нашаму студзеню. За ім ішоў Паменот – люты таго ж года, а потым Фармуці – сакавік наступнага года і Месоры, адпавядаючы ліпеню.

Толькі пры такіх умовах і набывае сэнс гэты надпіс.

Дакладна гэтак жа і ў Вялікім надпісе «Карнакскага храма» паведамляецца, што Тутмес III «*перайшоў мяжу пад час месяца Фармуці* (сакавіка) ***22****-га года для таго, каб прыйсьці ў Газу праз невялікую колькасць дзён, пад час дня сваіх тэзаімянінаў 4-га Пахонса* ***23****-га года*». Гэта азначае, новы год пачаўся тады каля апошняй паловы сакавіка, што і адпавядае вясноваму раўнадзенству, прыпадаўшаму на напачатку нашай эры на час каля 22 сакавіка.

Гэтым зноў пацмацоўваецца мая думка, што тагачасны ягіпецкі год быў ужо не бегаючым па ўсіх порах года роўным 365 дням, а юліянскім роўным $365^1/_4$ дзён, які дастаткова добра пазначаў раўнадзенства на працягу 300 гадоў.

А калі мы будзем лічыць, што гады валадаранняў лічыліся ад выпадковага часу кожнага ўцаравання, то страцім якую б то ні было магчымасць вызначэння дакладнай храналогіі.

---

[71] Бругш, заўв, да стар. 290 руск. выд.

Да часу Тутмеса III Вялікага, быўшага, згоднага з ягіпецкім разуменнем, 38 гадоў поўным валадаром пасьля (?) заканчэння апекі і толькі што апісанага перыяда суваладарання з яго сястрой, дапасуецца вялізная колькасць каменных помнікаў. Гісторыя гэтага часу, мае вялікую колькасць ілюстрацый у выглядзе самых разнастайных твораў мастацтва, – магчыма выраблены ужо пазьней, – паказваючых нам Міц-Рым цэнтрам тагачаснага культурнага сьвету, як выніку вайсковай перавагі, так і ажыўленага гандлю, і адкрывае нам нечаканыя выявы мінулага жыцця.

Мы бачым тут, як Тутмес III пачынае змаганне з самымі магутнымі царствамі свайго часу і пераможна даходзіць да крайніх межаў вядомай тады зямлі, як у Азіі на ўсходзе, так і ў Лівіі на захадзе, і на поўдні ў Цэнтральнай Афрыцы. Мы знаёмімся з вырабамі чужацкіх земляў, па якіх праходзіў Тутмес, і даведваемся пра некаторыя іхныя назвы із вуснаў чужацкіх народаў. Тыя ж надпісы ў «Фіўскім» храме Амона, змест якіх мясцовыя сьвятары тлумачылі вандраваўшаму па Ягіпту Германіку, паведамляюць зараз і нам тое ж самае.

«*Прачытана было мне* – паведамляе гэты апакрыфіст – *колькі кожнаму народу было прызначана даніны, перакладзенай на вагу золата і срэбра; якой была колькасць зброі, коней і іншых дарункаў, прынесеных храму ў выглядзе слановай косткі і водараў; колькі кожны народ павінен быў даставіць збожжа і рознага начынення, сапраўды не менш чым тыя колькасьці, якія прызначае магутнасць парфян ці ўлада рымлян*».

Больш за трыццаць паходаў ажыццявіў Тутмес III (Кастусь I) супраць чужацкіх народаў на працягу дваццаці гадоў, пры гэтым, – згодна з выхвальнымі словамі аўтараў, – браўся прыступам горад за горадам, рэкі пераходзіліся з боем адна за другой, і цэлыя краіны пакідаліся ззаду пры стомляюча-доўгіх паходах пад чужым небам і сярод варожага насельніцтва.

«У той час настае новы перыяд у жыцця Халдэі, – выказваецца Бругш, лічачы Халдэю, г.азн. краіну астролагаў, за Заходнюю Месапатамію. – Зараз яна кіруецца арабскімі царамі, якія доўга ўжо былі валадарамі Месапатаміі. І ўсе гэтыя падзеі, здзейсніўшыяся непасрэдна перад тым, калі Тутмес III абвясьціў сябе поўнаўладным валадаром Ягіпта, не маглі не вырабіць моцнага перавароту ў жыцці народаў ад Еўфрата да Міжземнага мора і, вядома, мелі сваё уздзеянне і на Ягіпет». Але мы ўжо ведаем, што ніякага «арабскага», г.азн., больш правільна сказаць – агаранскага заваявання не было да сярэдневечча, бо і само імя Агар з’яўляецца толькі пераіначваннем слова Геджра, г.азн. пачатак ісламіцкай эры ў 622 годзе нашага злічэння. Ды і першакрыніцы нашых сучасных ведаў пра Блізкі Ўсход, а менавіта аўтары XVI стагоддзя, называюць халдэйскай мовай пасля-хрысьціянскі дыялект Месапатаміі[72]. З гэтага боку гледжання справа для старажытнай храналогіі выглядае яшчэ больш цяжкай. Візантыйска-ягіпецкіх тэакратаў зараз ужо блытаюць з намесьнікамі (каліфамі). Але працягнем апавяданне і далей.

Галоўныя пункты, на якія вёў свой наступ (ягіпецка-візантыйскі) Тутмес на працягу некалькіх гадоў вайны, былі лутэны (лаціны?) і цахі (чэхі?). Апісанне апошняга паходу на іх мы дадзім тут выкарыстоўваючы ўласныя словы ягіпецкага надпісу ў Карнакскім храме Амона:

«*Цар Тутмес III – ды жыве ён вечна! – аддаў загад паставіць у выглядзе памятнай таблiцы такі надпіс у гэтым свяцілішчы, якое ён пабудаваў у гонар свайго бацькі* (бога Грамабоя Амана)[73]:

---

[72] Гл. Сіра-халдэйскія граматыкі, выд. Peterman'ом, 1872 г.

[73] Бругш, стар. 299 немец, арыг. 1877 г.

«*У 23 годзе 16-га Пахона, у Іхеме, цар наладзіў нараду са сваімі ваярамі і сказаў ім:*

*– Прыйшоў* (у нашу краіну) *варожы цар горада Кадэш. Ён захапіў Мегідо і там знаходзіцца ў наш час. Ён сабраў да сябе цароў усіх народаў ад вод ягіпецкіх да зямлі Нахараін* (Двухрэчча) *і сказаў мне так: «я буду стаяць перад Мегідо, а ты прыходзь сюды ваяваць.*

*– Скажыце ж мне, якім шляхамісьці да гэтага горада?*

*Вайсковыя правадыры адказалі цару:*

*– Немагчыма нам ісьці дарогай ядучай праз цясьніны, таму што ёсць даведкі, што ворагі стаяць там у засадзе і што шлях той непраходны для вялікай колькасьці людзей. Але добры шлях ідзе праз Алуну. Ён не дае магчымасьці для раптоўнага нападу, ён шырокі шлях. Вазьмі яго да ведама, пойдзем па ім і выйдзем у Та-ан-нака* (Таанах)*. Другі шлях, які ты можаш узяць да ведама, ёсць шлях на поўнач ад Цафта* (Цафат)*. Мы выйдзем па ім да поўначы ад Мегідо. Куды павядзе наш перамагаючы валадар, туды і мы пойдзем за ім, толькі ды не вядзе ён нас на непраходную дарогу!*

*Тады выказаўся найяснейшы сутэн* (султан) *– жыццё, шчасьце і здароўе яму*!

*– Клянуся заступніцтвам Ра і заклікаю ў сведкі бацьку майго Амона, я, сын сонечнага бога Ра, чысты жыццём, пайду па шырокай дарозе Алуны. Хай жадаючыя ідуць іншымі дарогамі, названым вамі, а тыя, хто не жадае, хай ідуць за мной. Хай не кажуць ворагі, не ведаючыя пра бога Ра: султан аддаляецца дзякуючы жаху, выркабленага намі*».

*Вайсковыя правадыры адказалі цару:*

*– Ды дасць нам твой бацька Амон Фіўскі дапамогу і абарону, калі мы будзем ісьці за табой, куды б ты ні павёў, таму што служцы належыць быць ззаду свайго гаспадара.*

*Цар выйшаў перад усім сваім сабраўшымся войскам і сказаў яму:*

*– Ды павядзе нас Амон, і хай паклянуцца ваяры, кажучы: «не пайду наперадзе цара, хай ідзе цар наперадзе свайго войска*!».

*Так і ішоў цар на чале сваіх ваяроў.*

*Пад час году 23 на 19 дзень Пэхаіа* (красавіка) *быў пастаўлены царовы намёт паблізу горада Алуна, але цар пайшоў далей. Яго боскі бацька Амон ішоў* (у выглядзе Сьцяга) *перад ім, і бог Хармаху, сьветавы бог Геліяполіса, ішоў побач...*

*Паўднёвы фланг быў каля горада Та-а-нака, паўночны фланг у куце, на поўдзень ад горада* (Мегідо)*. Цар стаяў перад імі. Ар'ергард адважных ваяроў цара заставаўся каля горада Алуна і зайшоў у даліну.*

*Яны напоўнілі даліну. Яны наладзілі лагер і цар стаў перад тварам сваіх ваяроў.*

*– Будзьце напагатове, прыгатуйце зброю, таму што раніцай заўтрашняга дня мы сыдземся ў бітве з пагарджаемым ворагам.*

*Калі паставілі варту, ваяры выказваліся:*

*Трымайцеся, трымайцеся! Пільнуйце, пільнуйце яго! Ахоўвайце жыццё цара каля шатра.*

*Пад час года 23-га на 31-ы* (21?) *дзень Пахона* (красавіка), *пад час сьвята новага месяца, які прыраўноўвае* (год) *да ўцаравання цара, рана раніцай было загадана ваярам, каб яны пачалі* (бітву).

*Цар стаяў на медзянай калясніцы*[74], *і з ім было ўсё патрэбнае. Ён быў як Гор-Уражваючы, бог магутнасьці, і як Менту, бог «Фіваў». Паўднёвы фланг ваяроў быў каля гары побач з ручаём Ніна; паўночны фланг на паўночны захад ад Мегідо, а цар пасярэдзіне паміж імі, і бог Амон побач з ім.*

---

[74] Зноў пазначу, што ваяваць, стоячы на калясніцы, адпаведна ўзору Іллі Прарока пад час навальніцы, можна толькі ў казцы, а на рэчаіснай зямлі існуюць два адзіныя спосабы: пешкі ці конна. На калясніцы ж таго тыпу, як малюецца на «помніках», можна толькі збягаць ад непрыяцеля, лежачы на восі падобна гармаце, каб цэнтр цяжару быў нізка, інакш абавязкова зваліўся.

*Ворагі пабеглі да Мегідо, на іхных тварах жах, яны пакінулі сваіх коней і свае залатыя і срэбныя калясніцы. Іх паднялі* (на сьцены города Мегідо) *за іхнае адзенне, як на вяроўках, таму што брамы горада былі замкнуты, баючыся дзеянняў сутэна.*

*Пакуль іх зацягвалі на сьцены за адзенне, – о, калі б ваяры цара не аддаліся жаданню забраць у якасьці здабычы рэчы ворагаў! – яны захапілі б Мегідо ў тую ж гадзіну! Але падняты былі за свае адзенні пагарджаемы цар Кадэта і пагарджаемы цар горада Мегідо, яны выслізнулі ад цара і схаваліся ў свой горад*!

*Угневаўся цар....*

Потым пасьля перапынку апісана канчатковая перамога Тутмеса III:

«*Вянок яго адолеў іх. Былі забраны ў якасьці здабычы іхныя коні, залатыя і срэбныя калясніцы, выраблены ў зямлі Асебі. Яны брыкаліся, лежачы ў кучы, як рыбы на сушы. Адважныя царскія атрады ваяроў пералічылі іхныя рэчы. Быў захоплены намёт пагарджаемага цара і ў ім яго сын. Ваяры паднялі крык радасьці і ўшанавалі Амона, спадара Фіваў, які даў перамогу свайму сыну... Яны прынесьлі* (перад царом) *здабычу, узятую імі: адрэзаныя рукі, жывых палонных, жарабіц, калясніцы, золата і срэбра і розныя рэчы.*

*Цар сказаў:*

*– Дзякуйце Амона за абарону, якую падараваў мне, свайму шануемаму сыну, сонечны бог Ра ў гэты дзень*.

*І яны засталіся каля плаціны, якая была аточана свежымі зялёнымі дрэвамі кожнай пароды той краіны. І цар пажадаў знаходзіцца, як ва ўмацаванні, на ўсход ад горада.*

*Цар загадаў адбудаваць гэтае месца і атачыць яго тоўстымі сьценамі з зубцамі, і даў яму назву «Мен-хепер-ра, авалодаўшы завалодаў раўнінай азіятаў». І прызначылі варту перад сядзібай цара і сказалі:*

*– Трымайцеся, трымайцеся! Сьцеражыце, сьцеражыце! Ахоўвайце жыццё цара каля шатра.*

*Цар загадаў, каб варожыя жыхары заставаліся ззаду сьцен; выключэнне было зроблена толькі для проціleглага выхаду, каля брамы іхнага ўмацавання... І было гэта запісана на скураным скрутку ў сьвяцільні Амона пад час таго ж дня.*

*Тады прыйшлі цары краіны з дзецьмі, каб схіліцца перад царом і папрасіць яго даць дыханне ноздрам іх ад моцы рукі яго і ад велічы яго духу.*

*І сталі дзеці цароў прад сутэнам і паднеслі яму падарункі: срэбра і золата, сінія і зялёныя камяні, пшаніцу, віно ў мяхах і плады для ваяроў цара, бо кожны із* (народа) *Кіці браў удзел у гэтым падвозе прыпасаў, каб вярнулі іх на радзіму. І дараваў сутэн чужацкіх цароў*»...

Потым ідзе пералік здабычы:

| | |
|---|---|
| *3401* | *жывых палонных.* |
| *83* | *рукі (адсечаныя ў забітых).* |
| *2041* | *кабыл.* |
| *191* | *жарабят.* |
| *1* | *калясніца, абітая золатам, і кузаў з золата, належаўшыя варожаму цару.* |
| *31* | *калясніца, абітая золатам, царская.* |
| 892 | калясніцы яго пагарджаемых ваяроў. |
| *1* | *выдатны жалезны панцыр непрыяцельскага цара.* |
| *1* | *выдатны жалезны панцыр цара Мегідо.* |
| *200* | *броняў іхных пагарджаемых ваяроў,* |
| *602* | *лукі.* |
| *7* | *намётавых слупоў, абітых золатам, із намёта непрыяцельскага цара.* |

| Акрамя таго, узята здабычы для сябе ваярамі цара: | |
|---|---|
| . . . . . | *быкоў.* |
| . . . . . | *кароў.* |
| *2000* | *маладых козачак.* |
| *20500* | *белых коз.* |

І зноў узнікае ўражанне, як быццам бы ўсё гэтае апісанне і пералічэнне прадметаў складзена ўжо вельмі позна і больш падобна на міф сярэднявечча...

А вось і яшчэ надзвычай цікавы спіс месцаў і гарадоў, знойдзены ў 1875 годзе пры ачышчэнні цокаля аднаго із пілонаў на поўдзень ад свяцілішча ў Карнакскім храме. Я знарок памяшчаю яго цалкам з указаннямі грунтуючыся на Ружэ, Марыэце, Бругшы і Ўласаве на адпаведныя месцы ў біблейскіх кнігах. Па-за дужкамі напачатку радкоў пазначаны ў дакладным упарадкаванні і транскрыпцыі найменні гарадоў і мястэчак, із якіх Тутмес III быццам бы забраў палонных, а за імі ў дужках дадзены ўказанні на біблейскія кнігі.

Прагледзеўшы яго (табл. LXIX), чытач сам пабачыць, што ўсё гэта ўзята галоўным чынам із кнігі «Езус Навін», а таму і сучасна яму. А я ўжо паказаў раней, што Езус Навін (г.азн. Ратавальнік-прарок) з’яўляецца усходнім варыянт паданняў пра Езуса Хрыста.

Мы бачым, што некаторыя із найменняў, прыводзімых тут, упершыню згадваюцца толькі ў кнігах Макавеяў, некаторыя (№ 19, горад Бейрут) толькі ў Іезекііля, сярэднявечнае паходжанне якога я вызначыў астранамічна на 452 год нашай эры. Але самым цікавым з’яўляецца тут згадванне пра Якава-Боскага (№ 102; і пра жыхароў горада Наіна, які ўпершыню сустракаецца толькі ў Евангеллі Лукі (7, 11), у апавяданні пра ажыўленне Езусам памёршага сына наінскай удовы. А пра Езуса Навіна ўжо і згадваць няма чаго! Усе гарады ўзяты із яго.

ТАБЛІЦА LXIX.

Гарады краіны Лутэн.

«*Гэта вопіс жыхароў краіны верхняй Лутэны, якія узяў у палон Яго Аўгусьцейшаства* (Тутмэс III) *у непрыяцельскім горадзе Мэгідо. Яго Аўгусьцейшаства забраў іхных дзяцей у горад Ус каб напоўніць сядзібу бацькі свайго Амона, валадара Апе ў першым сваім пераможным паходзе, як загадаў яго бацька Амон, які вёў яго па правільным шляху*».

| |
|---|
| 1. Горад Кадэшу (Кадыс ад арабскага кадзі – суддзя). Яго лічаць за зніклы горад на рацэ Аронта. |
| 2. Горад Макета-Мегідо згадваецца ў біблейскіх кнігах: Езус Навін XII, 21; 3 Царстваў IV, 12; 4 Царстваў XXII 29 і інш. (злічэнне па-руску). |
| 3. Кіцецан (рака Кісон, згадваемая ў Псалмах, 82,10; Суддзяў IV,7; 3 Царстваў XVIII, 40). |
| 9. Тутыян (Дафаін, ці адпаведна з нашым чытаннем Дофаі. Быццё XXXVII 17; 4 Царстваў VI, 13 і інш.). |
| 10. Лібіна (Ліўна; Езус Навін X. 29). |
| 11. Кірэт-Нецан (КірыаФ-Саіна; Ез. Нав. XV, 49). |
| 12. Марона (Ез. Нав. XI, 5: воды Меромскія). |
| 13. Тамаску (Дамаск згадваецца ў Быццё XIV, 15). |
| 14. Атар (Аддар; Ез. Нав. XV, 3). |
| 16. Хамт (Емаф; Лічбы, XIII, 22, Ез. Нав. XIII. 5 і інш.). |
| 17-18. Аквіду і Шэеман – Акод і Самуліс адсутнічаюць у Бібліі. |
| 19. Біарут (Бейрут; Іезек. XI, I; XII, 16; Страбон, XVI, 2, 18). |
| 20. Мадан (Мадон; Ез. Нав. XI, I; XII, 19). |

| |
|---|
| 21. Сарна (Сарон; I кн. Пар. V, 16; Здзяйсн. IX, 35). |
| 22-23. Бузан (Візантыя?) |
| 26. Каанау (Кана, горад у Ез. Нав. XIX, 28 потым XVI. 8). |
| 27. Алан (Еглон; Ез. Нав. XV, 39). |
| 28. Астарут (Аштарот; Другазак. I, 4; Ез. Нав. XII, 4). |
| 29. Рэпаа (Рапейон; Рафон; I Макк. V, 37; Пліній Hist. Nat. V, 16, § I Рафана). |
| 30. Макута (Македа; Ез. Нав. X, 10). |
| 31. Луіс (Лаіс; Суд. XVIII, 7). |
| 32. Хацор (Асор; Ез. Нав. XIX, 36). |
| 34. Каннарут (Хінэрэф; Ез. Нав. XIX, 35; мора Кінерэфскае згадваецца ў Ліч. XXXIV, II; Ез. Нав. XIII, 27; вобласць Кіннероф, 3 Царстваў XV, 20). |
| 36. Адамаім (горад Адама; Ез. Нав. III, 16). |
| 38 Шэмена (Сунэм; Ез. Нав. XIX, 18). |
| 39. Мошал (Мішал; Ез. Нав. XIX, 26). |
| 40. Аксеп (Ахзіў; Ез. Нав. XV, 44; Міхей, I, 14). |
| 41. Кевасуан (Каўцэіл; Ез. Нав. XV, 21). |
| 42. Таанак (Фаанах; Ез. Нав. XII, 21; Суд. V, 19). |
| 43. Іблеаму (Іўлеам; Суд. I, 27; Ез. Нав. XVII, II і 4 Царстваў IX, 27). |
| 46. Анна (Анн, азначае вока, у пераносным сэнсе – крыніца; такую назву мела шмат мясцовасьцей. Тут, напэўна, згадваецца горад калена Юды; Ііс. Нав. XV, 32, ці калена горад Сымона, XIX, 7). |
| 47. Аак (Акко; згадваецца ў кнізе Суддзяў, 1, 31). |
| 49. Керыман (вядомая гара Карміл; тут існавала і ўмацаванне бараніўшае шлях із прыбярэжнай Саранскай раўніны, ва ўнутраную раўніну Ездрэлонскую. Горад Карміл згадваецца ў надзеле Асіра ў Ез. Нав. XIX, 26; але быў і іншы горад Карміл у надзеле Юды, гл. у Ез. Нав. XV, 55; таксама I Царстваў XXVII, 3; 2-я кн. Парал. XXVI, 10). |
| 50. Віар (Вярэя, I Макк. IX, 4). |
| 51. Шэмеіс (Саміс, Веф-Саміс – Сядзіба Сонца, згадваецца ў Ез. Нав. у надзеле Юды, XV, 10; у надзеле Ісахара, XIX, 22; у надзеле Нефаліма XIX, 38; ср. Суд. I, 33). |
| 52. Анухарут (Анахараф, Ез. Нав. XIX, 19). |
| 53. Апер (Афра ў надзеле Веніяміна, Ез. Нав. XVIII, 23; відаць, іншы горад Афра ў Суд. VI, II). |
| 55. Хашбу (Хесбон ці Хэшбон; заходнееўрапейскае чытанне імя Есефон на ўсход ад Ярдана. Ліч. XXI, 26; Ез. Нав. XIII, 17). |
| 57. Негабу (мы не ведаем горада Негеба, але ведаем, што ўся Паўднёвая Краіна мела назву Негеб, слова азначаючае: сухі. Так у Clarke's Bible Atlas, pl. 11, 12). |
| 58. Ан-Шхен (Шыён, Ез. Нав. XIX, 19). |
| 59. Рыанма (Мерыамме ці Аранам, горнае ўмацаванне у даліне Елеўфера). |
| 62. Іопу (Іопэ, Яфа. У Ііс. Навіна Ёпія, XIX, 47, у надзеле. Дана). |
| 64-65. Лутэн і Аунаў (Лод і Она згадваюцца разам у Бібліі, гл. I Пара. VIII, 12; I Ездры II, 33; Лод назве Ліда – Неямія. VII, 37; XI, 35). |
| 66. Апукен (Афек; існуе некалькі месцаў таго ж найменя, напр. Ез. Нав. XII, 18 (названы Афека XV. 53); іншы Афек: Ез, Нав. XIX, 30 і XIII, 4, іншыя мясцовасці таго ж найменя згаданы: I Царстваў IV, I, XXIX, I; 3 Царстваў XX, 26). |
| 67. Суко (Сахо; I Пара. IV, 18; Сахо 3 у Царств. IV,10; Сахо ў Ез. Нав. XV, 35 і XV, 48. Гэтя шматлікасць аднайменных гарадоў робіць немагчымым вызначыць, пра каго ж ідзе гаворка). |
| 71. Мактэл (Мігдаль-Эль; Ез. Нав. XIX, 38. у надзеле Нефаліма; Мігдал-Гад; Ез. Нав. XV. 39. умацаванае месца Юдэі, размешчанае на прыморскай раўніне. |
| 73. Шабатун (Rivus Sabbaticus, зліваецца з Міжземным морам на паўнач ад Аркі; бярэ пачатак у Ліване. |

| |
|---|
| 75. Наoун ці Наін (мы не ведаем згадванняў гэтага Наіна раней Евангелля Лукі VII. 11). |
| 76. Ходыта (Хадыд; згадваецца ў Бібліі разам з Лод і Она, пачынаючы з I Ездры II. 33; ср. тут жа № 64 і 65). |
| 77. Хар ці Гар (невядома, дзе знаходзіўся, але ў 2 Ц. XXIII-II. 33, адзін чалавек названы гарарыцянінам; таксама I Пара. XI, 34). |
| 79. Ісфар (Ішпар ці Саффір ці Шаффір згадваецца ў Міхея, I, 11). |
| 80. Керэр (Герар па поўдзень ад Газы; Быццё X, 19; XX, I; XXVI. I, 6). |
| 82. Рыбау (Равва. Шмат мясцовасьцей маюць найменне Рабба ці Равва на ўсход ад Ярдана: Другазак. III. 11; Іiс, Нав. XIII, 23; Ієрам. XLIX, 2 і інш.. і на захад ад Ярдана: Ез. Нав. XV. 60, назв. Аравва. Магчыма, Араб) |
| 85. Марва-Ам (Мамрэ; па ўсёй верагоднасьці мясцовасць, згадваемая ў Быцці XXIII, 17. паблізу Хеўрона). |
| 87. Рэхуб (із некалькіх Рехавофаў згадваемых у Бібліі, тут павінна быць гаворка ідзе пра мясцовасць, дзе Ісак выкапаў студню, на поўдні Палестыны: Быт. XXVI, 22. Тут у Вадзі-Рубайхэ знойдзены Сцюартам парэштткі студні і селішча (Біблейскі слоўнік Сміта). |
| 90. Аубіл (ср. № 15; Абіль; магчыма, дарэчы пад гэтым імем разумеецца адзін із гарадоў, называўшыхся складаным імем; першая частка яго была Авэ ці Абель, напр. 3 Ц. XV, 20; Побыт. I, II Ліч. XXXIII, 49; 3 Ц. IV. 12 і інш. І ніжэй яшчэ пад № 92 і 99 існуе Абель). |
| 95. Аіна (Анайя, магчыма, тое ж, што Айн, ср. № 46). |
| 96. Каламан (Калім, горад згадваемы ў I Царстваў XXV. 44; Ісая X, 30). |
| 97. Бэція – Бэт, Веф (і Біт Асір) азначае сядзіба. Вельмі шмат асірыйскіх гарадоў пачыналіся гэтым словам). |
| 98. Данун (Дафнэ, на левым беразе Аронты паблізу Антыохіі Сірыйскай згадваецца у 2 Макк. IV, 33. Ср. Страбон кн. XV, I, § 73 і XVI. 2 § 4). |
| 99. Аубіл (пар. № 90). |
| 102. Якаў-Ал. Вельмі цікавае згадванне імя Якава. Гэтае словазлучэнне азначае: Якаў Боскі. |
| 105. Рыбут (Равві́ф у надзеле Ісахара; Ез. Нав. XIX, 20). |
| 107. Амук (Бэт-Емек у Ез. Нав. XIX, 27, у надзеле. Асіра). |
| 108. Салта (Цартан; 3 Царстваў IV, 12; ад слова Султан). |
| 109. Барут (верагодна Беероф, зараз Бейрут, Ез. Нав. IX, 17). |
| 110. Бэт-Шэар (Бэт-Сан: Ез. Нав. XVII, II; I Ц. XXXI. 10). |
| 112. Халкут (Хелкаф; Ез. Нав. XIX, 25). |
| 113. Ан-Кенам (Ен-Ганнім: адзін у Ез. Нав. XV, 34; іншы там жа XIX, 21). |
| 114. Кэбау (Гіва ў надзеле Юды; Ез. Нав. XV, 57. Другі горад Гівефа ў надзеле. Веніяміна; Ез. Нав. XVIII, 28). |
| 115. Тэлель (Тарала; Ез. Нав. XVIII, 27). |

Амаль поўная адпаведнасць найменняў не дазваляе сумнявацца ў тым, што прыведзены намі зараз спіс належыць да той жа позняй эпохі, што і біблейскія прароцтвы, як і апавяданне пра Езуса Навіна і апавяданне пра евангельскага Хрыста. І нават калі мы дапасуем Тутмеса III і ўвесь яго род не толькі да такой старажытнасьці, якую яму прыпісваюць, а да IV стагоддзя нашай эры, то ўсе гэтыя іерагліфічныя надпісы давядзецца палічыць не за складзеныя пры ім самім пратаколы пра яго справы, а за простыя легенды пра справы глыбокай старажытнасьці. Пабудавалі ж французы ў Парыжы Вандомскую калону ў якасьці ўшанавання перамог Напалеона I толькі пры яго значна аддаленым наступніку Другой Імперыі, і пабудавалі ж, у Ноўгарадзе ў XIX стагоддзі, помнік тысячагоддзю Расіі з імёнамі і выявамі яе першых цароў, дапасуемых самімі яе дойлідамі за тысячу гадоў да створанай імі пабудовы. Нават жа і згодна са звычайнай храналогіяй Майсей і Езус Навін завялі «народ Боскі» ў Палестыну із

Ягіпта на 300 гадоў пазьней Тутмеса. А адпаведна з нашай тэорыяй, атаясамляючай Езуса Навіна з евангельскім Хрыстом, Езус Навін і быў якраз сучаснікам Кастуся – Тут-Меса.

У іншых помніках, паведамляючых пра Тут-Меса, згадваецца нават і пра зямлю халіфаў (зямля Халіву), што паказвае на іхнае вельмі пазняе паходжанне.

Вось, напрыклад, надпіс на магільні аднаго яго вайсковага правадыра Амеп-ем-Хіва, знойдзенай Эберсам,[75] якая напісана ад яго імя, але, вядома, не самай яго муміяй, а нейкім перажыўшым яго спецыялістам па такіх надпісах, склаўшым сваё апавяданне згодна з даручэннем яго дзяцей ці іншых спадкаемцаў:

«*Я служыў цару, майму валадару, у яго паходах у землі Поўначы Поўдня... Калі Яго Аўгусьцейшаства даходзіў да краіны Нахараін* (Двухрэчча), *я вывеў адтуль трох дарослых людзей, паланёных у ручным змаганні. Я прывёў іх перад Яго Аўгусьцейшаства жывымі палоннымі. Я браў удзел у паходзе супраць народа высокага пласкагор'я Уан* (наваколле возера Ван на Армянскім плато), *на захад ад зямлі Халіфа* (Халіву)[76]. *Я ўзяў у палон 13 амаў* (па-жыдоўску ам азначае народ, людзі), *70 аслоў і 13 жалезных дзідаў, абкладзеных золатам.*

*Потым я змагаўся рукапашна ў паходзе супраць народа Кара-Каймеш і забраў некалькіх жыхароў жывымі палоннымі. Я прайшоў у брод праз раку Нахараін, а яны былі ў маёй руцэ, і я прывёў іх перад цара... Я дзівіўся мужным здзяйсненням цара Тутмеса III, даваўшагаа жыццё супраць народа Цор*».

Дадам тут ад сябе, што я схільны лічыць гэты Цор за слова цар (цэзар), а не за рыбацкую вёсачку Цур на Сірыйскім беразе, таму што цэзары зваліся скарочана царамі не толькі па-руску, але і цалкам на Ўсходзе. Тут у надпісе мы бачым ужо відавочную хвальбу, а далей і недарэчнасць:

«*Я дзівіўся* – выказваецца ад імя таго ж Амен-Хіва надмагільны пісьменнік згодна з заказам яго спадкаемцаў – *незвычайнай падзеі здзяйсненай маім валадаром у краіне Ні. Ён гнаўся адразу за 120 сланамі* (!!) *дзеля іхных іклоў. Я напаў на самага вялікага паміж імі, які кінуўся на Яго Аўгусьцейшаства. Я прарэзаў яму хобат. Яшчэ жывы, ён гнаўся за мной. Я зайшоў у ваду і стаяў паміж двух скал*».

Вось ужо тыповае «апавяданне паляўнічага» Тартарэна дэ-Тараскон, так услаўленага Альфонсам Дадэ!

Потым нам паведамляецца, як нейкі невядомы жахлівы звер кінуўся ў гушчу ваяроў.

«*Я пабег за ім пешы, трымаючы кінжал, і распароў яму пуза. Я адрэзаў яму хвост, перадаў цару і атрымаў за тое хвалу ад боскага. Радасць, выяўленая ім, напоўніла маё цела, і задавальненне пракралася ў маю душу...*».

«*І вось скончыў цар плынь свайго жыцця пасьля шматлікіх гадоў, услаўленых заваёвамі і трыумфамі, пачынаючы са свайго першага і заканчаючы сваім апошнім днём месяца Фаменота* (лютага) *яго 54-гадовага валадарання. Ён паляцеў на неба, калі закацілася сонечнае кола. Нашчадак бога далучыўся да свайго бацькі.*

*Калі ж на зямлі пачалося сьвітанне і надышла раніца, і паднялося сонечнае кола, і неба асьвяцілася сьвятлом, тады цар Амен-Хатэп II, – ды жыве ён вечна! – сеў па пасад свайго бацькі...*»

Я не заканчваю гэты надпіс. Чытач сам бачыць, што такія замагільныя ўхвалы складаліся не самімі нябожчыцамі, лежачымі ў труне, а спецыялістамі па пахаванню шляхетных асоб, грунтуючыся на паведамленнях іхных сваякоў, пры гэтым красамоўства адпавядала дамоўленаму кошту. З такога боку гледжання мы і

---

[75] Dr. Ebers, Thaten und Zeit Tothmes III у Zeitschrift fur Egypt, 1873.

[76] Горад Халіву лічаць за Алепа, але тады чаму ж ён размяшчаўся на ўсход ад зямлі Ван?

павінны на іх глядзець. Нам не патрэбна, адпаведна з прыкладам ранейшых дасьледчыкаў, ламаць галаву над тым, якім чынам нябожчык разам са сваім царом паляваў адразу на 120 сланоў і прытым у краіне Ні, якую некаторыя лічаць за Ніную, г.азн. Нінэвію, а іншыя шукаюць горад Ні на рацэ Аронце, хаця статкі сланоў не вадзіліся ні там, ні там...

Я ўжо выказваўся, што жыццяапісанне Тутмеса III моцна нагадвае біблейскае жыццяапісанне Ёаса, які гадаваўся ў храме, пакуль улада была захоплена Эталіяй (інакш Гафоліяй). Усе гэтыя цары адсутнічаюць у радаводзе Езуса, маючагася ў Евангеллях, але дададзены потым да кнігі Цароў.

У адным із надпісаў храма Апе ў Карнаку аўтар выказваецца ад імя Тутмеса пра яго апякунку – царыцу Хашоп:

«*Тое, што я паведамляю – не прыдумка! Яна была здзіўленнем людзей і таямніцай для сэрца богаў, ведаўшых усё гэта*».

Потым аўтар распавядае, як Тут-Мэс павінен быў жыць у горадзе Бута на поўначы, у храме Амона, быдучы «падобным на маладога Гора».

«*І гэта не казка*», – заканчае сам Тут-Мес. – *Увесь час, пакуль я быў дзіцём і хлопчыкам, я знаходзіўся ў храме Амона, але не атрымаў нават звання «Бачучы бога»* (сьвятар).

Каб некалькі суцішыць запал занадта не крытычнага даверу да «гоману ягіпецкіх камянёў», я прывяду яшчэ вытрымку із аднаго «справаводчага» надпісу, напісанага сведкам на вялікай каменнай пліце, знойдзенай Марыетам і захоўваемай зараз у Булакскім музеі.

«*На 34-м годзе* (Тутмеса III), *у апошні дзень месяца Мехіра* (студзеня) *была прынесена ахвяра богу Амону на яго вялікім месцы. Я выправіўся туды суправаджаць Амона-Бацьку. І* пайшоў бог на сваіх уласных нагах *сьвяткаваць гэтае сваё выдатнае сьвята. Дзіўна было глядзець на яго сьвятасць*»... «*І пайшоў бог далей, пакуль сьвяткавалася выдатнае сьвята майго валадара*»[77].

Такім з’яўляецца паведамленне **сьведкі** і калі вы не жадаеце верыць яму, то вам патрэбна ставіцца з асьцярожнасцю і да іншых, хаця б і больш праўдападобным сведчанняў ягіпецкіх камянёў.

Тутмесу III прыпісваецца пабудова Дэндэрскага храма на падставе знойдзенага там Дюментонам надпісу:

«*Цар Тутмес III загадаў пабудаваць гэты будынак у памяць сваёй маці, багіні Гатор, спадарыні Ан* (Сонечнага вока), *боскай царыцы ўсіх богаў. У горадзе Ан быў знойдзены вялікі план яго старажытнага малюнка, на скураным скрутку, падчас спадкаемцаў Гора, у сярэдзіне цаглянай сьцяны, на паўднёвым боку храма, пад час валадарання цара Пені*» (грэцкае папас – бацька).

А гэты Пэпі жыў, адпаведна са злічэннем ягіптолагаў XIX стагоддзя, у 3233 годзе да пачатку нашай эры і за 1633 гадоў да Тутмеса III! Чытач бачыць сам, што тут не больш праўдападобнасьці, чым і ў папярэднічаўшым апісанні прыходу бога Амона на сваё сьвята на ўласных нагах.

А мы ўжо ведаем грунтуючыся на задыяках Дэндэрскага храма, што ён быў пабудаваны пры візантыйска-ягіпецкім цару-тэакрату Юстыніяне, (527-565 гг.) і закончаны скульптурай 15 сакавіка 563 года нашай эры. Гэта азначае, цар Тутмес як быццам бы тут спісаны ужо із яго і дапасуецца да VI стагоддзя нашай эры.

Пра межы «сусьветнай імперыі Тутмеса III» паведамляецца на вялізным маналітным абеліску із ружовага граніту, які зараз знаходзіцца ў Канстантынопалі:

---

[77] Бругш, стар. 367 арыгінала.

«*Цар Тутмес III прайшоў вялікую акружнасць зямлі двух Рэк пераможным заваёўнікам на чале свайго войска. Ён паставіў сваю мяжу на канцы сьвету і на землях задняй вады Двухрэчча*».

Зараз лічаць, што Тутмес III (г.азн. па-нашаму Кастусь I) быў першым, хто пачаў будаваць абеліскі[78], а таму яму ж прыпісваюць і знакамітую Іголку Клеапатры, размешчаную ў Лондане. Але ж немагчыма, аднак, выключаць здагадку, што абеліскі будаваліся і ў яго гонар. Пасьля ж сьмерці ён быў далучаны да ліку багоў і яго імя, намаляванае на знаходзімых зараз тысячамі статуэтак і каменных скарабеях, лічылася талісманам супраць шкодных уплываў злых духаў і ведзьмакоў.

Яго пасадным найменнем было Рэ-Мен-Хепер. Я ўжо пазначаў, што ён быў сучаснікам Вялікага Цара (Васіля Вялікага, даўшага падставы да стварэння легенд пра евангельскага Хрыста), і водгалас гэтага мы бачым у тым, што следам за ім у Абідоскім сьпісе стаіць Амен-Хатэп II, які ў радаводзе Мацьвея названы Эл-Юд, г.азн. бог Багаславячых, а ў Лукі – Мелхій, г.азн. Цар Боскі. І ў адпаведнасьці з гэтым паміж камянямі-кудменямі, зробленымі ў форме сьвятых жукоў, якія насілі пазнейшыя ягіпцяне для абароны ад злых духаў і ведзьмакоў, існуе шмат такіх, на ніжнім боку якіх напісана: Амен-Хатэп[79], мянушка якога Аа-Хепру-Рэ.

Вельмі дрэнна захаваўшыся надпіс каля паўднёвых пілонаў храма Апе ў Канаку распавядае пра яго паход у зямлю Двухрэчча для заспакаення паўстаўшых лутэн, пры гэтым ён быццам бы паланіў 7 цароў і вывез шмат здабычы, у тым ліку 640 купцоў. У нубійскім храме Амада існуе урэзаная ў сьцяну пліта, на якой пасьля яго ўхвалаў паведамляецца:

«*У той час цар упрыгожыў храм, які яго бацька, цар Тот-Мес, пабудаваў трывала із каменя з агароджай із цэглы. Дзверы былі із лепшай акацыі з вяршыні Сталовай гары. Пілоны із трывалага каменя, з мэтай ушанаваць у ім вялікае імя свайго бацькі, сына Сонца Тот-Меса III.*

*Цар Амен-Хатэп сам кіраваў сьвятам закладкі храма ў знак павагі да сваіх продкаў, і ім ён прысьвяціў шматлікія ахвяравальныя пасудзіны і начыненне са срэбра і жалеза, падстаўкі, ахвярнікі, жалезны кацёл, жароўні, падносы і патэльні для курэння*».

Ён вёў вялікія пабудовы як у Ягіпце так і ў Нубіі і пры ім згадваецца шмат знакамітых сьвятароў.

Пераходзячы зараз да Тут-Меса IV (Юльяна цэзара) – немагчыма не спыніцца на надпісе, знойдзеным на пліце паміж лапамі вялізнага Гізехскага сфінкса, прыпісваючаму яму яго аднаўленне замест стварэння, што часта робяць старажытныя паданні.

«*Надышла гадзіна, калі ён, Тут-Мес IV*[80], *пасьля паляўнічага падарожжа даваў адпачынак сваім дваім служкам. Ён скарыстаўся гэтым часам, каб прынесьці там богу Хор-Маху паблізу* (храма) *Сакара ў «горадзе памёршых» і багіні Рану ахвяраванне, складаючаяся із насення кветак, і каб памаліцца вялікай маці Ізідзе, валадарыні паўночнай сьцяны і валадарыні паўднёвай сьцяны, і Сахеце Ксаіцкай і Сэту.*

*Таму што вялікае зачараванне ляжыць на той мясцовасьці ад пачатку часоў і да валадароў Вавілона, па сьвятому шляху багоў да заходняга сьветавога кола Она, таму што выява сфінкса з'яўляецца выявай Хеп-Рэ* (павіннага быць)*, вялікага бога, жывучага на тым месцы, самага вялікага із усіх боскіх духаў, істоты, больш усіх ушаноўваемай,*

[78] Бругш, стар. 386 арыгінала.

[79] Бругш прыпісвае іх Амен-Хатэпу III (Бругш, стар. 399). Але калі на іх не пазначана III, то можна быць упэўненым, што яны дапасаюцца да Амен-Хатэпа II.

[80] Бругш, стар. 395 нямецкае выд. 1877 г.

*якая спачывае. Да яго ўздымаюць рукі жыхары Мемфіса і ўсіх гарадоў, размешчаных на прыляжачай да яго мясцовасьці, каб маліцца перад яго тварам і прыносіць яму каштоўныя ахвяравальныя падарункі.*

*Пад час аднаго із тых дзён здарылася, што сон завалодаў прынцам Тут-Мес, калі ён, пасьля свайго вандравання, прыбыў сюды падчас поўдня і лёг, каб адпачыць у цені вялікага бога.*

*У самую тую хвіліну, калі Сонца стаяла ў сваёй самай высокай кропцы, ён пабачыў сон, і яму ўявілася, як быццам бы гэты выдатны бог размаўляў з ім сваімі ўласнымі вуснамі, як размаўляе бацька са сваім сынам, і сказаў:*

*– Зірні на мяне, глядзі на мяне, сын мой, Тут-Мес! Я бацька твой Хармаху, Хеп-Рэ, Ра, Тум. Табе дадзена будзе... царства, і ты будзеш насіць белы вянок і чырвоны вянок на пасадзе бога зямлі Себа, малодшага із богаў. Тваім будзе сусьвет у даўжыні сваёй і ў шырыні сваёй, усюды, дзе асвятляе яе бліскучае вока валадара ўсяго. Паўната і багацце будуць у цябе, усё лепшае на зямлі і кштоўная даніна ад усіх народаў. Дадуцца табе доўгія гады для часу твайго жыцця. Мая асоба міласьціва да цябе і маё сэрца належыць табе. Я дам табе найлепшае.*

«*Я засыпаны пяском краіны, на якой размешчаны* (пачынае ўжо апакрыфаваць аўтар). *Абяцай мне, што ты зробіш тое, што я жадаю ў маім сэрцы, тады я даведаюся, што ты – мой сын, мой памагаты. Падыдзі, ды будзем мы з табой у яднанні.*

*Аз есмь...* (далей сьцёрта).

*Пасьля гэтага Тут-Мес прачнуўся і паўтарыў усе яго словы. Ён зразумеў сэнс слоў бога і захаваў іх у сваім сэрцы, кажучы сам сабе: я бачу, як жыхары горада ўшаноўваюць яго храм ахвяраваннямі, не думаючы вызваліць ад пяску стварэнне цара Хаф-Рэ* (згодна з нашым атаясамленнем самога ж Дыяклетыяна), *выява якога была ім зроблена богу Тум-Хор-маху*»[81].

Тут заканчваецца разабраная частка апавядання.

«Але хаця наступныя радкі надпісу цалкам разбураны, не цяжка адгадаць і апошнюю частку падання» – выказваецца Бругш, наіўна лічачы ўсё гэта за гістарычны факт. – Само сабой зразумела, што калі Тут-Мес IV дасягнуў царства, ён палічыў сваім сьвятым абавязкам выканаць дадзенае сфінксу абяцанне. Ён загадаў ачысьціць ад пяску ўсё яго гіганцкае цела і следам за гэтым, пад час першых жа дзён свайго валадарання, паставіў паміж лапамі сфінкса пліту з надпісам, пазначаную 19-м днём Атыра, першага года валадарання Тут-Меса! V».

[81] Хор-Ма-Ху ці Гор-Ем-Ху, г.азн. Гару ў Ззянні.



Мал. 169.
Калосы ў даліне Нілу падчас яго разводдзя.

Se non e vero, e ben trovato (калі і не праўдзіва, то добра прыдумана), – скажам мы і дададзім ад сябе: мы ведаем нават, адкуль усё ўзята: гэта парафраз снабачання Якава із 28-й главы біблейскай кнігі і Быццё», дзе гаворыцца:

«*Якаў пайшоў у Харан, прыйшоў на адно месца, застаўся там начаваць... і пабачыў у сне*: *вось усходы* (задыякальны пояс) *стаяць над зямлёй, і вестуны бога* (планеты) *узыходзяць і сыходзяць па іх, і вось бог-Бацька* (Іеве-Юпітар) *стаіць на іх і кажа*:

*– Я бог Аўраама, бацькі твайго, і бог Ісака. Зямлю, на якой ты ляжыш, я дам табе і тваім нашчадкам. Ты пашырышся да мора* (на захад), *і на ўсход, і на поўнач, і на поўдзень, і блаславяцца ў тваіх нашчадках усе зямныя плямёны*»...

*Якаў абудзіўся ад свайго сну і сказаў*:

*– Праўдзіва бог-Бацька прысутнічае на гэтым месцы, а я і не ведаў! Якое жахлівае гэтае месца! Гэта сядзіба бога, гэта брама нябёс!..*

*І назваў ён тое месца «боская сядзіба», а раней яно мела назву Луз. Тут ён паставіў пазней каменны помнік*» (Гл.35,14).

Тое жа самае апавяданне!

Наступнікам Тут-Меса IV быў Амен-Хатэп III (**Мемнон**) перадаюць нам далей. – Ім пабудаваны паблізу Медынет-Абу храм Амону (богу-Бацьку) і пастаўлены каля яго каласальныя статуі «Мемноны», адна із якіх, – як паведамляюць сярэднявечныя грэцкія аўтары, – выдавала меладычныя гукі «яшчэ напачатку валадаранні Актавіяна Аўгуста» (г.азн. згодна з нашымі атаясамленнямі Кастуся Сьвятога), калі з нагоды землятрусу з яе звалілася верхняя частка. Потым Сэптымій Сявер (згодна з нашымі атаясамленнямі Адаакр) загадаў паставіць яе галаву на ранейшае месца, але гукі ўжо не аднавіліся.

Згодна з нашымі атаясамленнямі (табл. LXVII, стар. 909 II, мы тут зноў вярнуліся да евангельскага Хрыста і да «Вялікага Цара» (Васіля Вялікага) Святцаў. І гэта падмацоўваецца дэталямі яго біяграфіі. Так, на сьцяне Луксорскага храма (Мал. 170) намаляваны: дабравесьце пра яго арханёла Гаўрыіла (у выглядзе Гора) царскай Панне, яе апладненне Святым духам (кнэфам), яго народзіны і ўшанаванне

яго прыйшоўшымі вандраўнікамі. Гэта азначае, Мемноны былі выявамі Хрыста і (напэўна) яго наступніка – Яна Багаслова (Залатавуста).



Мал. 170.
Тры выявы, паведамляючыя пра цудоўнае нараджэнне Амен-Афіса (Амен-Хатэпа) III, на сьцяне Луксорскага храма ў Ягіпце (згодна з Massey: Natural Genesis). 1) Арханёл Гаўрыіл (ён жа Гор) абвяшчае царуючай Панне пра нараджэнне ёю цудоўнага сына. 2) Бог Дух Святы (кнэф) з крылатым Сонцам над галавой містычным спосабам апладняе яе, што выяўляецца круглявасьцю яе жывата. 3) Царыца Панна нараджае Амен-Афіса, седзячы на пасадзе. Укленчаныя бабкі прымаюць яго, а малюнак, змешчаны пад рысай гэтай выявы адлюстроўвае ўшанаванне нованароджанага немаўляці дзевяццю фігурамі, дзьве із якіх сцёрты (гл. А. Мальвер: Навука і рэлігія, стар. 60 рускага перакладу). Усё гэта відавочна паказвае, што Амен-Афіс (Амен-Хатэп) III таксама атаясамляўся з евангельскім Хрыстом.

«Пераходзячы да стваральніка «калосаў», дойліда Амен-Хатэпа, – выказваецца Бругш[82] – меўшага магчымасць выканаць такую гіганцкую працу, мы павінны заўважыць, што некаторыя надпісы на камянях сведчаць нам пра тое, што ён задумаў і выканаў сваё велічнае прадпрыемства грунтуючыся на ўласнай ініцыятыве, без загаду на тое валадара. Для гэтага было недастаткова аддзяліць ад гары і вырабіць такія каласальныя выявы, патрэбна было яшчэ і давезьці іх да Нілу, пагрузіць на караблі, выгрузіць і паставіць на месца, Амен-Хатэп сам сведчыць, што пабудаваў восем караблёў, каб падняць цяжар такіх гіганцкіх фігур».

«Нават у наш час паравозаў і ўдасканаленых машын – дадае Бругш – перамяшчэнне і пагрузка на караблі падобных цяжараў уяўляла б вялізныя цяжкасьці. А ў тыя часы (г.азн. задаўга да пачатку нашай эры) усё гэта, нават пры вялікай колькасьці чалавечых высілкаў, ўжываемых у справе, уяўляецца проста немагчымым».

Так! Гэта слушна. Але толькі чаму ж Бругш не зрабіў із такой немагчымасьці і належных высноваў?

Вось надпіс на адной са статуэтак таго ж скульптара[83]:

«*Цар Амен-Хатэп* (III)*, старэйшы сын бога Хар-Маху, прызначыў мяне сваім падстарэйшым пісарам. Я быў навучаны сьвятому пісанню і бачыў пышнасць бога Тота. Мне былі адкрыты ўсе таямніцы. Я усебакова авалодаў мастацтвам выказванняў*»... «*Амен-Хатэп – сам сонечны бог: ды будуць яму ў долю шматлікія шэрагі 30-гадовых сьвят без канца. Я дзейнічаў* (пры прыгатаванні статуй) *на падставе маіх уласных вылічэнняў, калі пад маім кіраўніцтвам высякаліся із добрага чырвонага каменя дзьве статуі... Сарок локцяў была іхная мера... Яны былі дзіўнымі як па шырыні, так і ў вышыню. Высадка іх* (на караблях) *у Фівах* (?!) *была радаснай падзеяй*».

[82] Бругш, стар. 411 арыгінала.
[83] Бругш, стр, 903 ням. Выдання 1877 года.



Мал. 171.
Амен-Хатэп III згодна з аперцэпцыяй Амарнскай школы ў Ягіпце.



Мал. 172.
Аперцэпцыя царыцы Тыі, жонкі Амен-Хатэпа III, якую ён узяў кахаючы не із княжага роду.

Усе ягіптолагі прызнаюць гэты надпіс дапасуючымся да статуй Мемнона, г.азн. да коласаў. На паўночным усходзе ад Медынэт Абу і зараз стаяць абедзьве статуі, зробленыя із цёмна-чырвонага моцнага пясчаніку, але іхныя твары цалкам выветрыліся.

А вось узор і прыватнай пісьмовасьці таго часу, рабіўшайся, як і ў клінапісе, на абпаленых гліняных пласьцінках[84]:

---

[84] Бругш, стар. 417 арыгінала.

«*Гэтым даносіцца пра ўсе крадзяжы, здзейсненыя працаўнікамі Нехумута*, – драпае на гліне загадчык нейкім складам. – *Яны таемна залезлі ў сядзібу. Яны скралі... і разлілі масла. Яны адчынілі зерневую скрыню, змяшчаўшую полбу, скралі сьвінец із адтуліны студні. Яны зайшлі ў пякарню і скралі запас раней выпечанага хлеба і разлілі масла, прызначанае для асьвятлення на 13-ы дзень месяца Еніфі, пад час самога дня каранавання цара Амен-Хатэпа*».

А на другім баку чарапка пералічаны і наступныя здзяйсненні злодзеяў:

«*Яны зайшлі ў камору і скралі тры доўгія хлябы, восем упрыгожванняў... Яны выпілі піва із бурдзюка, ляжаўшага на вадзе, у той час, як я быў у сядзібе майго бацькі. Ды загадае, валадар, каб мне была выказана справядлівасць*».

На адным із жукападобных камянёў значнай велічыні паведамляецца, што межы царства Амен-Хатэпа (III) даходзілі на ўсход да зямлі неграў (калі). Ён быў добрым паляўнічым і забіў, – паведамляюць надпісы, – 210 ільвоў падчас паходу ў зямлю неграў. Ад яго імя пабудавана шмат храмаў, у тым ліку Луксорскі у гонар Еговы-Амона. Сваёй жонкай ён абраў кахаемую ім дзяўчыну не із царскага роду і меў двух сыноў Амен-Хатэпа і Тот-Меса і дачок: Ізіду, Хант-Міхіб і Сацімонт, адружыўшуюся пазьней з адным із наступных цароў.

# Глава II.

## Амарнскі апендыкс да псеўда-васямнаццатай дынастыі чалавекападобных цароў архейскага Ягіпта. Цар «Сонечны Водбліск» (Хун-Атэн).



Мал. 173.
Заснавальнік адзінабожжа, г.азн. Ян-Багаслоў (Залатавуст) ці сам Васіль Вялікі, ён жа Хрыстос, згодна з аперцэпцыяй Амарнскай школы, даўшай яму найменне Хун-Амен, а згодна з другім чытаннем Эхн-Атэн, г.азн. Сьвятло Аданая. Яго ж лічаць за Амен-Хатэпа IV.

Амен-Хатэп IV, прзваны Хун-Атэнам, цалкам адсутнічае як у Абідоскай табліцы, так і ў евангельскіх радаводах Езуса, і таму я лічу яго калі не за новую гістарычную аперцэпцыю самога «Хрыста», то за новую варыяцыю аўтара Апакаліпсіса – Яна Залатавуста заканчэння IV стагоддзя. А калі мне скажуць, што пры, такой колькасьці атаясамленняў той жа асобы ці не знойдуць археолагі і шмат яе мумій, то я адкажу: інакш і быць не можа! Існавала ж аж да апошняга часу ў розных месцах некалькі галоў Яна-Хрышчэльніка, дык чаму б не быць і некалькім муміям яго хрэсніка?

Пры гэтым цару пачынае ўзнікаць ідэя пра адзінабожжа, вучэнне пра адзінага Сьветавога бога, – і Амен-Хатэп IV, пры апазіцыі стараһвераў, бярэ тытул «Вярхоўнага сьвятара Хор-маху» і «сябра Сонечнага аблічча». Сьвятары адкрыта паўсталі за гэта супраць яго, а ён супраць іх. Ён загадаў усюды знішчыць імя Амона на помніках, і нават ва ўласным імені Амен-Хатэп выкінуў першую частку і прыняў новае найменне Хун-Атэн, г.азн. Водбліск Аданая і Нафер-Хепер-Рэ. Ён сабраў – кажуць нам – мастакоў, працаўнікоў і муляраў, пабудаваў пышны храм новага стылю ў Ху-Атэне, зараз ператварыўшымся ў вёсачку Тэль-эль-Амарна з палымянымі ахвярнікамі богу Сонца Атэну. Паблізу ад яго ён пабудаваў і ўласны палац, і палац для сваёй жонкі Наферыт-Ці і для дачок і ўсяго двара. Яго дойлідам быў Бек, сын «заснавальніка малярства із натуры». Адзін із надпісаў у каменяломнях Сільсіліса, адкуль здабываўся трывалы цёмна-карычневы пясчанік для будынкаў і статуй, прыпісвае яму пабудову Вялікай піраміды Ху-Фу. Бругш[85] прыводзіць гэты надпіс у такім выглядзе:

«*Першым разам разаслаў цар загад,... каб сабралі ўсіх будаўнікоў ад выспы Елефантыны нават да горада Самхуда* (лічым за Мігдал, горад Ніжняга Ягіпта); *і ўсіх кіраўнікаў «правадыроў народа», для выраблення вялікай ломкі моцнага каменю пры пастаноўцы Вялікай Піраміды ў імя бога сьвятла* (піраміды «Светачы»), *які знаходзіцца ў Фівах у сонечным абліччы. І ператварыліся вялікія і шляхетныя спадары і кіраўнікі, носячыя апахалы, у наглядальнікаў за ломкай і пагрузкай на караблі камянёў*».

І вось, атрымліваецца, што **Хеопсаву піраміду пабудаваў Хун-Атэн, жыўшы, згодна з Бругшам, праз 2267 гадоў пасьля Хеопса**!

Толькі пры нашых атаясамленнях гэтыя недарэчнасьці знікаюць.

[85] Бругш, стар. 424 арыгінала.



Мал. 174.
Аперцэпцыі Амарнской школы ў Ягіпце.
фантастычны краявід часоў Эхі-Атона
(Хун-Афіна).



Мал. 175.
Аперцэпцыі Амарнскай школы. Эхн-
Атон (Хун-Атэн) і яго жонка Нафрэ-Ціці
(Нофер-Іці)

Пасярэдзіне пабудаванага Хун-Атэнам новага сталічнага горада (мал. 176) стаяў – паведамляе паданне – вялікі храм Сонца. Горад быццам бы быў размешчаны недалёка ад Нілу на вялікай раўніне, нагадваючай раўніну заходняй часткі «Фіваў».

На ўсходзе, на заднім плане, падымаліся крутыя горы, а з поўначы і з поўдня цягнуліся амаль да ракі, як абмяжоўваючыя горад сьцены, хрыбты высокіх узгоркаў. «Толькі два вузкія праходы на ўсходзе, справа і злева ўсходняга хрыбта, з'яўляліся выхадамі із замкнёнай шырокай даліны» – паведамляе нам Бругш, цалкам і не падазраючы, што сталічныя гарады не могуць будавацца дзе патрапіць, а толькі там, дзе назасілася больш усяго дадатковых каштоўнасьцей чалавечай працы, і што горад накшталт паказанага на малюнку 176 немагчымы.




План Ахетатона (по чертежу Питри).

Мал. 176.
Уяўляемая лялечна-малюсенькая арэна дзейнасьці «вялікага рэфарматара Эхнатона (Хун-Атэна) і ўяўляемае размяшчэне яго ўяўляемай сталіцы (затушаванае месца пасярэдзіне мапы, «горада аднаго імгнення» - Ахет-Атэна, накшталт Афінаў (згодна з Аўдзіевам). Цалкам недапушчальная камбінацыя для гістарычнага маштабу.

Вярхоўным жрацом ці прарокам у храме бога Сонца быў нейкі Мэры-Рэ, г.азн. «шануемы Сонцам», аднайменны з Мэры-Рэ, суваладаром Мэры-Рэ-Пэпі. Тытул гэтага вярхоўнага слугжкі Хун-Атэна быў: «вярхоўны назіральнік сонечнага аблічча ў храме Сонца ў горадзе Ху-Атэн». Ён быў урачыста ўзведзены ў сваё высокае званне пры цару, які звярнуўся да яго з такой прамовай:

– «*Я асабіста прысутнічаю, каб узвысіць цябе да звання вярхоўнага назіральніка Сонечнага аблічча ў храме Сонца горада Ху-Атэна. Ды будзеш ты такім, згодна з тваім жаданнем, таму што ты быў маім служкай, верным новаму вучэнню. Ніхто, акрамя цябе, гэтага не зрабіў, і таму сэрца маё поўніцца задавальненнем ў дачыненні да цябе. Таму і даю я табе такое высокае званне, кажучы: сілкуйся ад стала сутэна, твайго валадара, у храме Сонца*».

Потым цар загадаў паклікаць скарбніка і сказаў яму:

– «*Ты, захавальнік палаты срэбра і золата* (у пустыні ж!), *узнагародзь вярхоўнага назіральніка сонечнага дыска ў горадзе Ху-Атэн. Пакладзі залатыя каштоўныя каралі вакол яго шыі, пакладзі золата да яго ног, бо ён быў верны новаму вучэнню сутэна ва ўсім, што было сказана ў дачыненні да гэтага выдатнага месца, уладкаваных у палаце піраміды, у храме Сонечнага аблічча, у горадзе Ху-Атэн. Ахвярнік Сонечнага аблічча напоўнены рознымі добрымі рэчамі і вялікім запасам зерневага хлеба і полбай*».

Такім з’яўляецца пышны надпіс, які цалкам не адпавядае геаграфічным умовам Нільскай даліны паблізу вёсачкі Эль-Амарна, дзе не магло існаваць нічога нават і ў старажытнасьці, акрамя вёсачкі. Ху-Атэн азначае «Сядзіба-Аданая», Аданаем жа ў Біблії завецца бог, але невядома – Бацька ці Сын. Ці не адсюль паходзіць і імя багіні Афіны і горада Афіны, хаця яно тлумачыцца таксама і значэннем: карабельная прыстань? А адносна таго, што бог Аданай і класічны Адоніс адно і тое ж, не можа быць сумневаў.



Мал. 177.
Цар «Водбліск Аданая», іерагліфічна Хун-Атэн, выехаў катацца на сваёй калясніцы разам з жонкай Нафер-Іці (згодна з іншым чытаннем Нафрэ Ціці), цалуючую яго на шляхі. (Малюнак на магільні ў "Тэль-Амарне (Із аперцэпцыі Амарнскай школы малярства).



Мал. 178.
Князь Эйа і яго жонка Тыя бяруць із рук імператара залатыя каралі. Частка малюнка ў магільні Эйі у Амарне. Узор аперцэпцыі Амарнскай школы ў Ягіпце.

Адзін із самых высокіх саноўнікаў, жыўшы пры двары цара і кіраваўшы яго сядзібай, меў імя Аа-Мес. Ён жа назіраў за храмавымі крамамі харчовых прыпасаў. Пасьля Мэры-Рэ ён належаў да самых дбайных прыхільнікаў новага вучэння. Гэта паказваецца адным надпісам, знойдзеным у магільні Тэль-эль-Амарна, якая зьмяшчае малітву Аа-Меса да Сонца:

«*Прыгожым з'яўляецца заходжанне тваё, о Сонечнае аблічча жыцця, валадар валадароў, цар сусьветаў! Калі ты зліваешся з небам у тваім заходжанні, тады радуюцца сьмяротныя перад тваім тварам. Яны аддаюць ушанаванні таму, хто стварыў іх, і моляцца перад тым, хто зрабіў іх, моляцца перад вачамі твайго сына шануючага цябе цара Хун-Атэна. Уся Ягіпецкая зямля і ўсе народы паўтараюць тваё імя пры тваім узыходжанні каб усхваляць тваё узыходжанне. О ты, бог, сапраўды існуючы, таму што*

*мы бачым цябе абодвума нашымі вачамі. Ты ёсць той, які стварае тое, чаго не было ніколі, які стварае ўсё і ўтрымліваецца ва ўсім. І мы з'явіліся дзякуючы вымаўленню тваіх вуснаў... Даруй жа мне даруемую літасць на ўсе дні, даруй мне добрае пахаванне пасьля глыбокай старасьці на зямлі Ху-Атэна, калі я закончу добрую плынь майго жыцця*».

«*О ты, сонечнае аблічча*! – усклікае ў адным надпісе яго жонка Наферу-Нафер-Іці. – *О ты, жывучы бог! Няма нікога іншага, акрамя цябе. Ты лякуеш вочы тваімі прамянямі, стваральнік усіх істот. Калі ты ўзыходзіш на ўсходзе неба, каб даць жыццё таму, што ты стварыў, тады людзі, і звяры, і птушкі. і земнаводныя ажываюць, сузіраючы цябе, і яны засынаюць пры тваім заходжанні*».

Усе гэтыя гімны настолькі нагадваюць Псалмы, што павінны быць дапасаваны да той жа эпохі, да часу евангельскага Хрыста, а сын сонечнага бога сімвалізаваны ў Месяцы, нараджаючагася ад яго зноў і пасьля кожнага абыходу неба зліваючагася з ім. Вось чаму яму і прысвячаўся Вялікдзень пад час поўні Нісана адпаведна з законам Майсея (г.азн. Дыяклетыяна). А пад час поўні Ціршы – было сьвята Сукот, а пад час маладзіка Ціршы – сьвята прынашэння першых каласоў на працягу 49 дзён пасьля нісанскай поўні, г.азн. у красавіку.

Дачка Хун-Атэна – кажуць нам – і знайшла ў кошыку плывучага па Нілу Майсея і выхавала яго, чым і вызначаюць яго час, цалкам не заўважаючы, што ўсё гэта – казка.

Але дзе ж – запытае мяне чытач – артадаксальныя ягіптолагі размяшчаюць вялікую піраміду Амен-Хатэпа IV, прысьвечаную богу-Сьвятла, калі яе нідзе не існуе асобна ад ужо вядомай нам піраміды «Светачы» на Гізехскім полі?

Марыет надае нам, што яна была пазьней разабрана да шчэнту адным із наступнікаў Хун-Атэна, і яе камяні пайшлі на пабудову чацьвёртай пары ўваходных пілонаў на поўдні вялікага храма Амона ў Апе, на шляху да Луксора, таму што на іх існуе імя Харэнхіба... Але падобныя здагадкі занадта легкадумныя, гара нарадзіла мыш... Вышэйпрыведзенае паданне не можа быць дапасавана ні да чаго іншага, акрамя піраміды «Светачы», і ў такім выпадку яна ўзведзена не раней заканчэння IV стагоддзя.

Акрамя таго, Бругш[86] звяртае ўвагу на семітычны характар толькі-што прыведзенай малітвы і выказваемых у ёй рэлігійных уяўленняў.

Вельмі шмат хто бачыць у маці Хун-Атэна не інакш, як жанчыну із пярэдняй Азіі. Так Марыет[87] паказвае, што царыца Ці, яго маці, малюецца з ружовымі шчакамі, як і царыца Радоніс, будаваўшая піраміду «Высокая». Ленарман таксама лічыць яе жанчынай паўночнай расы.

Аднак спроба заснаваць адзінабожжа ў асобе солнцашанавання – пераконваюць нас – была пакінута ўжо пры наступніках Хун-Атэна, таму што яны ўшаноўвалі і астатніх багоў.

Такое заканчэнне мае васямнаццаты перыяд перыядычнай сістэмы Архейскіх ягіпецкіх цароў і пачынаецца дзевятнаццаты. Але ён ужо з'яўляецца не поўным, таму што патрэбна было падвесьці ўсю сістэму пад містычную лічбу семдзесят сем. А для гэтага зараз жа пасьля Амен-Хатэпа, заснаваўшага служэнне адзінаму богу-Бацьку і заняўшага 74 нумар Абідоскага спісу, засталося для наступнага перыяду толькі тры месцы, якія можна было закончыць з гонарам, толькі зрабіўшы іх аналагамі апошніх асоб сяміскладовага-перыяду. Паглядзім жа, як гэта атрымалася.

[86] Бругш, нататка да стар. 427 рускага перакладу.
[87] Mariette: Apercu de l'histore d'Egipte, p. 59.

# Глава III.

## Дадатак грэцкіх аўтараў да псеўда-васямнаццатай дынастыі.

У папярэднічаўшай частцы мы разабралі першую палову XVIII дынастыі да Хун-Атэна, якога мы атаясамілі з Янам Залатавустам, гараскапістам Апакаліпсіса, адпаведна чаму ён і названы ў астатніх нашых першакрыніцах Орасам і Гарусам (табліца LXVII, стар. 908). Паглядзім зараз і на другую палову табліцы. Перадусім мы бачым у ёй у Флавія, Сінкеласа, Яўсевія, Софіса і Афрыкана дадаванне шасьці цароў, якіх няма ні ў Абідоскім, ні ў Сакарскім радаводзе, ні ў Бругша. Мне доўга яны здаваліся загадкавымі, але нарэшце мне прыйшла ў галаву думка: ці не патрапілі сюды цары Заходняй Рымскай імперыі пасьля яе аддзялення ад Усходняй? І раптам усё стала зразумелым. Параўнаўшы часы іхнага валадарання, пазначаныя ў Флавія, з часамі валадарання заходне-рымскіх імператараў, пачынаючы з першага з іх Ганорыя і заканчваючы падзеннем Заходняй імперыі, я атрымаў поўны паралелізм (малюнак натр. 967), і гэтыя ж дынастыі далі мне магчымасць высветліць, наколькі вялікімі бываюць адступленні ў гадах валадарання заведама тых жа валадароў у розных аўтараў, як я ўжо згадваў.

Пяройдзем зараз і да самага заканчэння псеўда-XVIII дынастыі.

Пасьля сьмерці Хун-Атэна (Амен-Хатэпа IV) – кажуць нам – а больш дакладна, зноў да яго былі згодна з рознымі іерагліфічнымі запісамі яшчэ тры цары, якіх няма ў Абідоскім спісе.

Першы з іх Са-Апехт праходзіць як цень: пра яго нічога невядома, акрамя імя на адным радаводзе, і таму мы можам не браць яго да ўвагі, як нейкага суваладара, але мы не можам зрабіць падобнана ж з астатнімі дзвума.

Другі із іх Тут-Анх-Амон (Жывая выява Амона), паказаны на магільні аднаго яго сучасніка, знойдзенай Лепсіусам у мястэчку Курнат-Мурай насупраць «Фіў»[88]. Ён урачыста сядзіць на пасадзе і перад ім стаяць абодва яго паўднёвыя намесьнікі. А да берага ракі перад ім прысталі каштоўна нагружаныя караблі, з якімі прыехала для яго ўшанавання негрыцянская прынцэса. Яна едзе да яго на павозцы, аточаная служкамі якія ўжо кладуць да ног цара яе падарункі. Сюды ж прыйшлі з поўначы і румяныя князі луціiскага (лацінскага) народа, апранутыя ў каштоўныя шматкаляровыя сукенкі, з чорнымі валасамі, завітымі ў локаны. Над імі надпіс: «гэтыя цары із краіны Верхні Лутэн нічога не ведалі пра Міц-Рым з часоў Боскага (Дыяклетыяна). Яны просяць міру ў цара, кажучы:

«*Даруй нам волю тваёй рукой*! *Неапісваемымі з'яўляюцца твае перамогі і няма ў цябе ворагаў у твой час. Усе землі спачываюць мірна*!».

І далей:

«*Гэта самы лепшы выбар вырабаў іхнай зямлі: срэбра, золата, блакітнага каменя, зялёнага каменя і розных іншых каштоўнасьцей*».

А над падарункамі неграў стаіць:

«*Гэта прыбыла шыкоўная эфіёпская даніна, лепшы выбар твораў зямлі поўдня, і выгрузка іх здзяйсняецца ў Фівах пад кіраўніцтвам Хіу, царскага сына Куш*».

---

[88] Бругш, стар. 433 ням. выд. 1877 г. Намалявана ў Denkmalor, III. 115

Наступны цар быў – кажуць нам – не сынам, а выхаванцам Хун-Атэна, таму што меў назву «пісьменнікам царскага правасуддзя»[89]. Тут жа знаходзяцца і астранамічныя выявы.

Такім чынам мы зноў падышлі да часу таго ж Васіля Вялікага ў выглядзе Хор-ем-Хіба, названага ў Мацьвея Якавам, а ў Лукі нават Богам (Ілія́й).

Яму існуе і храм некалькі на поўнач ад мястэчка Аба-Хаўда, наўскос ад Ібсамбула, высечаны ў гладкай паверхні скалы, спускаючайся да Ніла.

Ад берага вядуць да яго невялікія ўсходы, і над уваходам крылатае сонечнае аблічча і картуш: Хор-ем-Хіба 18 дзень. Усярэдзіне храма ён паказаны то дзіцёнкам, якога корміць грудзьмі жанчына ў форме багіні Мут, жонкі Еговы-Амона, то юнаком, якога вядуць Гор і Анубіс, то памужнеўшым, якога вянчае на царства сам бог Тот. Тут жа і Хнум з галавой Авена, а пасярэдзіне пусты саркафаг, меўшы, напэўна, тое ж значэнне, як і абавязковыя магільні Езуса (плашчаніцы) у нашых храмах.

Ён жыў – кажуць нам – да свайго заклікання на царства ў спакойнай адзіноце, займаючыся навукамі, у горадзе Ха-Сутэн што азначае горад Султана (іерагліфічны Цар-Горад). Гэты горад таксама меў найменне Ха-Вену, г.азн. Горад Фенікса, іншымі славамі – месцам назірання сузор'я Фенікса для вызначэння набліжэння раўнадзенства грунтуючыся на яго паступовым падняцці над гарызонтам, лепшым сродкам для такіх вызначэнняў да вынаходніцтва тэлескопаў.

Грунтуючыся на камені, які знаходзіцца зараз у Турынскім музеі, паданне пра яго пачынаецца так:

«*Ён* (Хор-Ем-Хіб) *быў яшчэ на руках, сілкуючыся малаком* (маці*), калі перад ім схіляліся да зямлі старыя і маладыя*»... *Сам бог-апякун, бог Цар-Горада, падрыхтоўваў яго да вялікіх здзяйсненняў. Ён ведаў дзень яго шчасьця, каб перадаць яму царства, таму што бог зрабіў яго, свайго Сына, вялікім перад вачамі смяротных і жадаў пашырыць яго значэнне, пакуль надыдзе дзень, пад час якога ён успрыме сваю царскую пасаду*».

Яшчэ юнаком Хор-Ем-Хіб быў паказаны сутэну, валадарыўшаму ў той час.

«*Ён захапіў сэрца цара, які быў зачараваны яго якасьцямі і радаваўся таму, што выбраў яго. Ён прызначыў яго апекуном зямлі, пакуль ён не дасягне правоў «сына», як спадкаемцу ўсяго царства. На пасаддзе апекуна* (эпітопа) *зямлі і выконваў Хор-Ем-Хіб абавязкі свайго звання, як дарадчык цара, да поўнага яго задавальнення. Ён задавальняў і ўлагоджваў жыхароў выказваннямі сваіх вуснаў, і калі бываў пакліканы да царскага двара, з'яўляўся туды без баязні. Ён расчыняў свае вусны, даваў адказы цару і супакойваў яго выказваннямі сваіх вуснаў. І быў ён адзіным дабрадзеем, як ніхто і ніхто іншы. Ён радаваўся адной праўдзе, насімай ім у сэрцы, прыпадабняючыся багам Тоту і Пата. Ва ўсіх сваіх здзяйсненнях ён ішоў па іхнаму шляху, і шлях гэты быў яму абаронай і аховай на зямлі заўсёды*».

Неўзабаве ён атрымаў яшчэ больш важнае прызначэнне: ён быў прызначаны Адонам (адкуль біблейская назва бога – Аданай і міфалагічная Адоніс) усёй зямлі. «І быў ён Адонам на працягу шматлікіх гадоў». Як наступства яго шчаслівага кіравання яму былі выказаны розныя ўшанаванні і адрозненні.

«*Шляхетныя пры двары схіляліся перад ім, стоячы перад дзьвярамі царскай сядзібы. І калі да яго набліжаліся цары дзевяці чужацкіх народаў поўдня і поўначы, то*

---

[89] Бругш, стар. 437 нямецкага арыгінала, 1877 г. і Лепсіус у Denkmalor, III, 105. Яго магільня была ў Баб эль-Малуку, на захад ад Фіваў, у Лівійскіх гарах, у даліне царскіх магільняў. Ён у надпісах называецца пераможцай азіятаў, вялікай сваёй магутнасьцю.

*распасьціралі свае рукі і славілі яго душу, як калі б ён быў богам. І рабілася ўсё, што павінна было рабіцца, калі ён аддаваў загады.*

*І было перад тварам смяротных яго значэнне больш важным за значэнне самога цара; яго віталі жаданнем шчасьця і здароўя. Ён караў правініўшыхся і дарыў ураджаі людзям.*

*І вось загадаў бог Амон, ды ідзе бог Гор у радасным настроі ў вечны горад Фівы, і ды трымае сына свайго* (Хор-ем-Хіба) *каля сваіх грудзей, каб перанесьці на яго сваю царскую годнасць і прызначыць яго царом на ўвесь працяг яго жыцця. Тады падчас шыкоўнага амонавага сьвята ў Апе краіны паўдзённай пабачылі людзі бога Гора, валадара Цар-Горада, у суправаджэнні свайго сына, ідучых па шляху каранавання на царства, каб ускладзена была на яго яго годнасць і быў дадзены яму пасад. Узрадаваўся Амон-Рэ, пабачыўшы царскую дачку... і пажадаў злучыць яе з Хор-ем-Хібам. Ён павёў яе да гэтага князя, спадкаемцу пасада, зайшоў у царскае жыллё і паставіў яго* (Хор-ем-Хіба) *перад сабой на ўзвышаным месцы для цудоўнай дачкі сваёй. І яна схілілася і абняла яго чароўную постаць і стала перад ім. І ўсе божышчы Палаты Полымя былі ў захапленні пры яго адружанні: багіні Нехеб, Буто* (Уто), *Нэйт, Ізіда, Нэфціс і багі Гор, Сэт і ўсё кола багаў на вышыні напоўнялі ўвесь сьвет гукамі хвалебных спеваў, нават да вышыні нябёс, і была ўсюды радасць з нагоды літасьці Амона*.

*Тады пайшоў Амон, і сын яго перад ім, у царскую палату, каб ускласьці на галаву яго царскі шлем і працягнуць яго жыццё да межаў, якія павінны былі быць. І багі ўсклікнулі:*

– *Мы сабраліся, мы жадаем аднавіць яму яго* (царства), *мы жадаем даць яму царскія ўпрыгожванні сонечнага бога Ра, мы жадаем у ім ушанаваць Амона. Ты прывёў яго да нас, каб нас бараніць. Даруй яму трыццацігоддзі, сваточныя гады і столькі дзён царства колькі ў Гора. Ды будзе ён той, які зробіць у Апе, і ў Оне* (Геліяполісе), *і ў Мемфісе тое, што твайму сэрцу пажадана. Ды зробіць ён слаўнымі гэтыя мясцовасьці! Яны ўсталявалі вялікае імя боскага, і напісаны былі наступныя яго тытулы, адпаведна тым, якія* (належаць) *сьвятасьці бога Сонца:*

1. *Тытул Гор, г.азн. моцнае Цяля* (сузор'е Цяляці), *заўсёды гатовы параіць.*

2. *Тытул Гасподзь падвойнага вянка* (Двайняты наверсе экліптыкі), *г.азн. вялікі сваімі цудоўнымі здзяйсненнямі ў Апе*.

3. *Тытул Залаты Гор, г.азн. грунтуючыся на правасуддзі, ахоўнік краіны.*

4. *Тытул Цар, г.азн. Сер-Хепру-Ра, абраны самім богам Сонца.*

5. *Тытул Сын Ра, г.азн. Міамун Харэмхіб. Ды жыве ён вечна!*

*І вось выйшла із царскага жытла аўгусцейшаства гэтага цудоўнага бога Амона, цара багаў, і сын яго быў перад ім. Амон абняў яго чароўную асобу, увянчаную царскім шлемам для таго, каб перадаць яму залатую ахоўваючую выяву сонечнага дыска. Дзевяць чужацкіх народаў былі пад яго нагамі, неба было ў сваточным настроі, краіна поўная асалоды, а багі ягіпецкія – іх душа была поўная прыемных адчуванняў. Ад жыхароў, быўшых ў найвялікшым захапленні, паднялася да неба хвалебная песьня; малы і вялікі ўзяліся за ліру, і ўся краіна была ў радасным руху.*

*Калі скончылася сьвята ў Апе, у краіне паўдзённай, тады пайшоў Амон, цар усіх багаў у сьвеце, у Фівы, а цар паехаў на сваім караблі, як выява бога Хармаху* (г.азн. паўдзённага Сонца) *уніз па рацэ. Ён уступіў у валоданне зямлёй, як было тое ў звычаі з часоў бога Сонца Ра. Ён ачысьціў жыллё багаў ад дробных вод багністай краіны Нату да самай Нубіі. Ён загадаў зрабіць усе іхныя выявы, кожную як было раней.*

*І радаваўся сонечны бог Ра, бачачы, што аднаўлялася тое, што было разбурана пад час папярэднічаўшапа перыяду.*

*Ён* (Хор-ем-Хіб) *паставіў выявы багаў у іхных храмах і загадаў прыгатаваць сто статуй, усе адной велічыні, із розным каштоўным камянёў. Ён наведваў гарады багаў, ляжаўшыя ў развалінах у краіне, і загадаў іх аднавіць у такім выглядзе, якімі яны былі ад*

*пачатку ўсіх рэчаў. Ён паклапаціўся пра іхныя штодзённыя ахвяравальныя сьвяты і пра ўвесь храмавы посуд, прыгатаваны із золата і срэбра. Ён забяспечыў іхныя храмы сьвятымі людзьмі і спевакамі, і лепшай ахоўваючай вартай, ён падараваў ім ворную зямлю і быдла і забяспечыў іх розным начыненнем, патрэбным ім, каб яны мелі магчымасць кожную новую раніцу спяваць богу Сонцу Ра:*

*– Ты зрабіў вялікім наша царства ў тваім сыне, які з'яўляецца суцяшэннем тваёй душы, у цару Хор-ем-Хібе. Даруй яму трыццацігадовыя сьвяты, дай яму перамогу над усімі землямі, як Гору, сыну Ізіды, да якога таксама схілялася тваё сэрца ў Оне, у супольнасьці твайго кола багаў*».

Усё гэта вельмі падобна на новы міф пра таго ж самага евангельскага Хрыста, перанесены ў даліну Ніла, з якой ён, магчыма, і быў родам. Паведамляе ж нават і евангельская легенда, што ён правёў сваё дзяцінства ў Ягіпце.

На паўднёвых пілонах вялікага храма Амона ў Апе, на шляху да Луксора, існуе надпіс дзе Хор-ем-Хіб завецца Горам (вечным, ад грэцкага слова: «горос» – час, стагоддзе, гадзіна, адкуль і слова гараскоп):

«*Так кажа Амон-Рэ, цар багаў: цудоўны помнік пабудаваны мне табой, Гор Разумны. Маё сэрца цешыцца тваім шанаваннем. Я ў захапленні ад выгляду твайго помніка мне і таму дарую табе даўгавечнасць, роўную даўгавечнасьці Сонца, такой з'яўляецца колькасць гадоў Гора, як валадара краіны*»[90].

Тут жа, у іншым надпісе, князі зямлі Понт спяваюць яму:

«*Слава табе, цару Міц-Рымскаму, Сонцу дзевяці чужацкіх народаў! Клянёмся тваім імем! Мы не ведалі Міц-Рыма, бацькі нашы ніколі не бывалі ў ім. Даруй нам волю тваёй рукой. Мы будзем тваімі падданымі*».

А негры ў надпісе Сільсільскіх пячор спяваюць яму:

– «*Слава табе, цару Міц-Рымскаму*! *Вялікім з'яўляецца тваё імя ў зямлі Куш* (Эфіёпіі), *дзе твой баявы крык пракраўся ў сэрцы людзей. Вялікая твая магутнасць, літасьцівы валадар. Яна пакрывае сорамам народы...».*

Такім быў апошні цар дынастыі Аа-Меса. Параўноўваючы парадак цароў гэтага рода з парадкам іх у XII дынастыі (табліца LXX), мы бачым паміж XII і XVIII дынастыямі адну агульную рысу. У абодвух чаргуюцца тыя ж два прозвішчы і адно із іх Амен-ем-Хат сугучна з Амен-Хатэп.

ТАБЛІЦА LXX

Аналогія імёнаў у дынастыі Амен-Ем-Хата і Аа-Меса

| Род Амен-Ем-Хата XII дынастыя | Род Аа-Меса XVIII дынастыя згодна з Бругшам |
|---|---|
| Амен-Емхат I | Аа-Мес.<br>Амен-Хатэп I. |
| Усур-Тасэн I<br>(*Правадыр Тасэн* I) | Тут-Мес I.<br>Тут-Мес II.<br>Тут-Мес III. |
| Амен-Емхат II | Амен-Хатэп II. |
| Усур-Тасэн II<br>Усур-Тасэн III | Тут-Мес (IV). |
| Амен-Емхат III | Амен-Хатэп III. |
| Амен-Емхат IV | Амен-Хатэп IV.<br>(служка Амона) |

[90] Бругш, стар. 445 нямецкага арыгінала.

З нашага боку гледжання гэта цалкам зразумела. Дынастыя Амен-Ем-Хатаў і дынастыя Амен-Хатэпаў – толькі два перыяды той жа самай перыядычнай сістэмы цароў легендарнага Архейскага Ягіпта. Гэты новы доказ таго, што ўся дынастычная гісторыя старажытнага Ягіпта – асобны варыянт казкі пра Белага бычка.

Але як бы вы ні глядзелі на гэтае пытанне, вынік адзін: із усіх пры-Нільскіх надпісаў пра Амен-Хатэпа I зразумела, што яго час ніяк немагчыма дапасаваць да перыяду за 1500 гадоў да пачатку нашай эры, а даводзіцца дапасаваць ўжо да эпохі ўзнікненні хрысьціянства, г.азн. да чацьвёртага стагоддзя нашай эры. Ягіпецкі навуковец-тэолаг Арый быў першым, прыйшоўшым да высновы пра ўшанаванне адзінага бога стваральніка, ды і нашы астранамічныя вызначэнні часу ўзнікнення біблейскіх прароцкіх кніг дастаткова сведчаць, што так званыя «семітычныя ўяўленні пра адзінага бога» пачаліся ўпершыню ад Арыя і аформіліся толькі пад час перыяда візантыйскага іконазмагальніцства. Лічыць, што да такіх абстрактных уяўленняў прыйшлі яшчэ за тысячы гадоў да таго часу месапатамскія пастухі – азначае здзекавацца над сацыялогіяй і над этналогіяй. Падобныя ўпрашчэнні пара пакінуць як ў навуцы, та і ў палітыцы. Але калі гэта так, то і для Хор-ем-Хіба мы не не ў стане знайсьці іншую асобу, акрамя евангельскага Хрыста. І калі нават выявіцца, што ў Ягіпце існуе не адна яго магільня, то гэтым будзе даказана толькі тое, што і ягіпецкія сьвятары не саромеліся ў сродках для заахвочвання багамольцаў.

Такое заканчынне ў нас мае і 18-ы перыяд перыядычнай сістэмы лаціна-эліна-ягіпецкіх цароў з апендыксам да яго із трох цароў, налягаючых ужо на XIX перыяд. Із дзевятнаццатага пачынаюцца Рамесіды, г.азн. боганароджаныя цары, цары хрысьціяне. Але перш, чым мы прыступім да іх вывучэння, мне патрюбна сказаць чытачу яшчэ некалькі слоў.



Мал. 179, 180 і 181.

Зверху паказана, як згодна з ягіпецкімі аперцэпцыямі іберы (юдэі) падносяць дарункі намесьніку. Знізу налева – статуэтка дзяўчыны, расьціраючай камянямі збожжа, направа – гончыя сабакі перад паляваннем.

У якасьці характарыстычнага прыкладу і ўказання на тое, як сярэднявечныя, асабліва грэцкія, аўтары стваралі бясконцыя чароды псеўда-ягіпецкіх старажытных

тэакратаў шляхам бясконцага паўтарэння тых жа самых некалькіх гістарычна праславіўшыхся асоб са злёгку ці цалкам змененымі, а часам і цалкам не змененымі імёнамі, я прывяду на заканчэнні майго апавядання пра міфічны Архейскі Ягіпет яшчэ адзін цікавы выпадак: якім чынам із аднаго цара Фуорыса, размешчанага на прыканцы спіса Софіса, іншыя аўтары – Сінкелас, Афрыкан і Ёсіф Флавій (у некаторых іхных спісах) – стварылі яшчэ новы перыяд у толькі-што выкладзенай перыядычнай сістэме ягіпецкіх валадароў. Я бяру яго дадзеныя з грунтоўнай кнігі Эдуарда Мейера «Die egyptische Chronologiee».

Мы ўжо бачылі, што «лацінскі дадатак» да псеўда XVIII дынастыі (табл. LXVII, стар. 909) падвёў нас непасрэдна да моманту аддзялення Італіі ад Візантыі.

Але ў пераліку цароў гэтага апендыкса мы не знаходзім цара, які адпавядаў бы патрону Рыма, апосталу Пятру, а натуральна чакаць, што і ён вынырне для нас у ягіпталогіі пад нейкай ягіпецкай мянушкай. Сапраўды, мы і маем яго ў кнізе Софіс пад імем Фуорыса, г.азн. Бога-цара.

Мы ўжо назіралі выключна доўгае валадаранне Рамесу II, валадарыўшага 66 гадоў. І вось гэты ж цар-Месія, па-грэцку Рамзэс, з'яўляецца зноў у Яўсевія ў выглядзе Рампцэса, прадзеда Фуорыса, з такім жа выключна доўгім валадараннем 66 гадоў (табл. LXVIII, стар. 910). Не забыты і яго бацька Армайс (радок 2). Мы ведаем, акрамя таго, што Рамесу II па-грэцку яшчэ меў назву Сезастрыс, і вось ён фігуруе тут жа ў першым радку пад імем Сефас, і яму дадзена тут таксама вельмі доўгі час валадарання – 51 год. Як быццам бы іх пераблыталі з Юстыніянам.

Параўнаеце толькі паміж сабой слупкі нашай табліцы, і вы пабачыце самі ўвесь механізм гэтай храналагічнай фабрыкацыі.

Аналагічна зрабілі і астатнія нашы першакрыніцы.

Так фабрыкавалася ў старажытнасьці гісторыя. – Навошта? – запытаеце вы. – Дзеля таго, – адкажу я, – што, ссунуўшы дынастыю Дыяклетыяна ў Ягіпце на дзьве тысячы гадоў, немагчыма было не паспрабаваць нечым запоўніць астатні прамежак.

Узор перад намі ў наяўнасьці, і калі вы і не жадаеце пагадзіцца са мной, што ўся дынастыя Амосіса спісана з дынастыі Дыяклетыяна ў Ягіпце, то вам ва ўсякім разе немагчыма не пагадзіцца, што ўсе пяць продкаў Фуорыса XVIII дынастыі спісаны з апошніх прадстаўнікоў папярэднічаўшай дынастыі, і ўвесь механізм падробкі так па-дзіцячы наіўны, што толькі дзіцёнак мог глядзець на яго сур'ёзна.



Мал. 182.
Тыповыя выявы планет на ягіпецкіх гараскапічных малюнках.

# Разважанні і меркаванні




Мал. 182.
(другі раз 182)
(Злева – прырода і расьліннасць усёй Афрыкі. Направа – месцы даліны Нілу прыдатныя для аседлага жыцця. Із апошняй мапы бачна, што культурнае жыццё магло добра развіцца толькі ў Дэльце Нілу, ды і то толькі пад абаронай моцнай марской дзяржавы ва ўсходнім басейне Міжземнага мора. Па-за берагамі Ніла да культуры прыдатны толькі аазіс Медына (Медынет эль-Фаюме, гл. чорная пляма налева ад рэчышча Ніла).

# Глава I.

## Некалькі слоў пра ягіпецкія «дынастыі».

Збіраецца белы бычок праз мост перабрацца ў лясок. Перайшоў, ды ляжаць там мачала. Спалохаўся мачала бычок, адступіў ён зноў за масток... Пачынаецца казка спачатку.

Рэзюмэ старажытна-ягіпецкай храналогіі.

З нагоды першараднай важнасьці рашэння пытання пра тое, ці былі ўсе шматлікія дынастыі Архейскага Ягіпта рэчаіснымі ці прыдуманымі (і грунтуючыся на якім метадзе іх прыдумлялі і складалі), я яшчэ раз спынюся на гэтым пытанні, нягледзячы на баязь надакучыць таму чытачу, які ўжо пагадзіўся з папярэднім выкладаннем. Але ж я тут больш павінен лічыцца з зацятымі, чым з падатлівымі чытачамі.

Возьмем прыклад із навейшай гісторыі.

Вось перад намі існавала Аўстрыйская імперыя XIX стагоддзя. Яна складалася із двух частак: нямецкай Аўстрыі са сталіцай Вена (Він) і мадзярскай Вугоршчыны са сталіцай Будапешт, а да гэтай пары далучылася яшчэ і славянская Боснія-Герцагавіна. У гэтай імперыі валадарыў з 1848 года Франц-Ёсіф і жыў амаль заўсёды ў сваім венскім палацы, а ў буда-пештцкі толькі часам наведваўся. Аўстрыйскія немцы лічылі яго сваім каралём, вугорскія мадзяры – сваім і, нарэшце, далучаныя герцагавінцы – сваім князем.

Яго войска складалася як із нямецкіх так і з мадзярскіх, і славянскіх палкоў. Кожная із трох частак жыла сваім уласным унутраным жыццём, мела сваю ўласную эканамічную і грамадзянскую эвалюцыю. Вонкавы гандаль і іншыя эканамічныя дачыненні ішлі ў кожнай асобна ў залежнасьці ад геаграфічнага становішча, і толькі прадстаўніцтва перад замежнымі дзяржавамі, ды войны былі агульнымі, хаця і самі тры часткі не раз ваявалі адна з другой.

Уявіце сабе, што нейкі вугорскі летапісец напісаў гісторыю Вугоршчыны на мадзярскай мове, дзе зваў Франца-Ёсіфа проста Ёсіфам, а нейкі нямецкі летапісец у Тыролі напісаў на нямецкай мове гісторыю Аўстрыі (г.азн. Тыроля з Венай), дзе зваў Франца-Ёсіфа проста Францам, пазначаючы час, як і першы, толькі гадамі яго валадарання.

Уявім потым, што тое ж зрабіў і нейкі баснійскі манах на славянскай мове, завучы яго па-свойму Францыскам.

Уявім потым, што ўся наша сучасная літаратура пра падзеі XIX стагоддзя загінула ў нейкім грамадзкім ці стыхійным перавароце, і нейкім дзівам захаваліся толькі гэтыя тры манускрыпты.

Потым культура пачалася зноў з дзіцячага веку, і нейкі «гісторык» гадоў праз трыста знайшоў гэтыя дакументы. У яго была добрая прыродная памяць, але да сістэматычных разважанняў ён яшчэ не прызвычаіўся і быў такім жа наіўным у навуках, як сучасны 12-гадовы хлопчык сярэдняй навучальнай установы. Пры жарсным жаданні даведацца як магчыма больш із гісторыі загінуўшай культуры ён мімаволі паддаўся б імкненню палічыць Франца, Францыска і Ёсіфа за трох валадароў, адзін із якіх валадарыў над Тыролем, другі над Вугоршчынай і трэцці над Босніяй-Герцагавінай.

Калі гэта было? Ён адзначыў бы, што кожны з іх меў дачыненне і да двух астатніх краін. Вялікія адрозненні ў культуры кожнай апісанай краіны лёгка маглі надаць яму думку, што тут ён мае справу з трыма перыядамі культуры той жа самай Прыдунайскай імперыі, якая цалкам звалася Аўстрыяй, і ён напісаў бы навуковы трактат пад назвай «Тры перыяды Аўстрыйскай культуры: першы – Аўстрыя пад славянскім валадараннем Францыска I, другі – Аўстрыя пад мадзярскім валадараннем Ёсіфа I і трэцці перыяд – Аўстрыя пад нямецкім валадараннем Франца I.

У назвах згадваемых трыма летапісамі гарадоў ён таксама лёгка б заблытаўся. Так, вугорская сталіца Буда-Пешт складаецца із Пешта на правым беразе Дуная і Буды – насупраць яго, які па-нямецку мае назву Офен. Калі ў нямецкага летапісца Буда-Пешт названы Бург-Офен, – у вугорскага – проста Буда, а ў славянскага Град-Пест, то, аднавіўшы адзін на яго рэчаісным месцы, гісторык пачаў бы шукаць іншыя назвы ў іншых месцах і із аднаго і таго ж захопу Будапешта пасьля вугорскага паўстання зрабіў бы тры: захоп Града-Песта Францыскам I (яшчэ да таго часу, як ён зрабіўся баснійскім валадаром), захоп Буды

Ёсіфам І пры вугорскай дынастыі і, нарэшце, захоп Офена Францам І пры нямецкай дынастыі. Дапасуючы этымалагічна і геаграфічна Буду да Вугоршчыны, ён пачаў бы шукаць і, пры моцным жаданні, знайшоў бы Офен недзе ў нямецкім краі, напрыклад, палічыў бы яго за горад Гоф у Баварыі і г.д.

Дакладна тое ж атрымалася б і з іншымі геаграфічнымі назвамі, нават і з самой Венай, якая па-славянску мела назву Ведзень, а па-нямецку Він.

У выніку такога спалучэння адзін з адным трох разнамоўных і разнамясцовых гісторый валадаранне аднаго і того ж Франца-Ёсіфа выявілася б гісторыя трох розных цароў і ў трох розных краінах, і ў іхных валадараннях не выявілася б нічога агульнага, акрамя сугучнасьці некаторых найменняў, накшталт Франц і Францыск, Він і Вена, ды яшчэ таго, што час валадарання іх усіх выявіўся б выключна доўгім, каля 67 гадоў.

Як было б магчыма для наступнага, больш рознабакова адукаванага і крытычна больш глыбокадумнага навукоўцы здагадацца, што гэтыя тры перыяды аўстрыйскай гісторыі фікцыя?

Калі б у кожнай із гісторый была б апісана нейкая рэдкая нябесная з'ява, накшталт вызначанага месцавання планет па сузор'ях ці поўнае зацьменне Сонца ў дадзеным горадзе ці на працягу дадзенага месяца, то адначасовасць, а з ёю і тоеснасць ўсіх трох апісанняў было б лёгка ўсталяваць, як я не раз і рабіў у маёй кнізе.

Але калі гэтага няма? Тады атаясамленне можна зрабіць, у выпадку калі апісана працягласць не аднаго дадзенага валадарання, але хаця б трох яго нашчадкаў ці продкаў.

Так, у дадзеным выпадку знаходзім:

Час валадарання трох аўстрыйскіх імператараў:

1. Франц-Ёсіф-Карл (1804-35) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 31 г.
2. Фердынанд-Карл-Леанард-Ёсіф-Франц-Марцэлін (1835-48). . . . . . . . . 13 г.
3. Франц-Ёсіф (1848-1915) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 67 г.

Пад якімі б са сваіх шматлікіх імёнаў ні былі б апісаны ў розных творах гэтыя тры аўстрыйскія імператары, для матэматыка не мае значэння. Ён прама скажа: такое супадзенне трох пасьлядоўных лічбаў, згодна з тэорыяй верагоднасьці, практычна немагчыма: ва ўсіх дасьледуемых творах тут апісанні адных і тых жа асоб, што б ні сцвярджалі пра іх папярэднічаўшыя аўтары, якія не ўжывалі да свайго дасьледавання высновы матэматычнай тэорыі верагоднасьці.

Калі колькасць валадаранняў перавышае больш чым тры, то робяцца не маючымі значэння і прыватныя непагадненні паміж сведчаннямі першакрыніц: асобныя пропускі тлумачацца часьцей усяго забываннем з боку аўтара той ці іншай асобы, ніколі не бываўшай у апісваемай аўтаномнай вобласьці і не вызначыўшайся яскравымі грамадзянскімі ці вайсковымі справамі, а невялікія адхіленні ў гадах валадарання – памылкамі перакладчыкаў ці тэндэнцыйным падвядзеннем сумы да загадзя запланаванай лічбы.

Абодва метады – астранамічны і пасібілітарны (грунтуючыся на тэорыі верагоднасьці) – я і ўжываю ў гэтым маім дасьледаванні старажытнай гісторыі народаў, дзе ў нас няма ніякіх, нават і іерагліфічных, дакументаў, пры ўважлівым вывучэнні якіх мы маглі б сказаць: «яны належаць вось такому-та стагоддзю», без падказак нашых папярэднікаў, якія ведалі яшчэ менш нас.

Выкарыстаем жа абодва нашы метады да ягіпецкай гісторыі.

правінцый, прыморскіх і ўнутраных гарадоў; у крайнім выпадку гэта – адрозненне культуры «бацькаў і дзяцей» хутка і разнастайна прагрэсіраваўшай краіны.

Профільны характар ягіпецкага малярства не з’яўляецца прыкметай яго адсталасьці ад грэцкага ці няздольнасьці маляваць фігуры людзей анфасна, а тлумачыцца цалкам іншымі падставамі. Першыя скульптары, прыгатаваўшыя фігуру чалавека, без сумневаў ставіліся да яе з забабонным жахам, лічачы, што яна раптам пачне рухацца і размаўляць. У гэтым падстава шанавання статуй, якія для старажытных яшчэ не былі, як для нас, простымі камянямі. Старажытныя не мелі разумення пра дзейнасць мязаў, пра косткі, як пра механічныя рычагі 2-га роду, і пра нервы, вымушаючыя мязы скарачацца. Для іх усе рухі, былі толькі дзеяннем адной волі на суцэльную масу рук, ног, галавы і г.д. Ім было незразумела, чаму б той жа волі не праявіцца і ў фігуры чалавека ці жывёлы, вылепленай із гліны, як зрабіў згодна з Бібліяй і сам бог-бацька, ажывіўшы гліняны злепак, толькі дунуўшы на яго. І не дзіўна, калі старажытныя мастакі і дулі на свае творы з мэтай удыхнуць у іх дыханне свайго жыцця.

Тое ж самае было і з малярствам, асабліва, калі яго пачалі размалёўваць. Кожнае дзіцё, узяўшы аловак, лёгка робіць кружок, ставіць у ім дзьве кропкі, пазначаючыя вочы, выводзіць нос і рот, дадае з бакоў два вухі і атрымлівае анфасную фігуру асобы, магчыма, яшчэ больш лёгка, чым профільную. Профільная фігура з’яўляецца ўжо другім прыёмам першапачатковага дзіцячага малявання. Дык чаму ж выключна ён ўжываецца ягіпецкімі мастакамі на сьценах храмаў? Падстава гэтага – таксама забабоны. Анфасная фігура глядзіць са сьцяны храма прама на вас, і гэта палохае. Кожны ведае, што, калі ў нейкага партрэта мастак намалюе вочы пазіраючыя наперад, дзякуючы агульным законам перспектывы плоскіх фігур гэтыя вочы будуць глядзець прама на вас, ці стаіце вы насупраць партрэта ці адыйдзеце ўбок. Не разумеючыя перспектыўных з'яўваў людзі заўсёды дзівяцца гэтаму і запэўніваюць, што такі партрэт паварочвае на вас вочы, куды б вы ні пайшлі. Існуе шмат апавяданняў і пра тое, як партрэты начамі выходзяць са сваіх рамак... І ўсе такія апавяданні былі, вядома, паўсюдна пашыраны пад час забабоннай старажытнасьці.

Зайсьці вечарам пры месяцы ў залу храма са сьцен якой глядзяць на вас сотні гістарычных і негістарычных асоб, асабліва ваяроў са зброяй у руках, было занадта боязна для жыўшых тут жрацоў і таму яны патрабавалі ад мастакоў, каб тыя малявалі свае фігуры пазіраючымі не наперад, а неадменна ўбок.

Ніякімі іншымі этнапсіхалагічнымі ці мастацка-эвалюцыйнымі падставамі немагчыма патлумачыць такую ягіпецкую ўмоўнасць той эпохі, агульнай (відаць толькі грунтуючыся на гэтай адной падставе) усім ягіпецкім школам у адрозненні ад візантыйскіх, дзе людзі былі менш забабоннымі і таму маглі знарок заказваць мастакам такія партрэты сваіх сьвятых, якія, палохаючы першабытную душу, глядзелі прама на падыходзячага да іх ці нават адразу на ўсіх стаячых паблізу, даючы пачатак уяўленню пра «**ўсёбачачае вока**».

Другі шэраг непаразуменняў, парушаючых поўную правільнасць перыядаў нашай перыядычнай сістэмы, складаўся, відаць, у звычаі старажытных гісторыкаў прыпісваць царам здзяйсненні іхных падданых. Так і ў нас да гэтай пары кажуць, што «Пецярбург пабудаваў Пятро Вялікі», хаця ён уласнаруча не паклаў у яго падмурак нават і дзясятка бярвён. І зараз кажуць, што Аляксандр II вызваліў сялян, хаця ён толькі пагадзіўся з праектам, які быў выпрацаваны асвечанымі дзяржаўнымі дзеячамі яго часу.

Ва ўсіх буйных справах і рэформах мелі вялізную ролю не цары, а выбітныя асобы іхнага пакалення, пад уплывам якіх і дзейнічаў манарх, калі ён не быў пазбаўлены цьвярозага розуму, а старажытныя гісторыкі прыпісвалі ўсе справы асабіста яму.

Разглядаючы з гэтага боку гледжання нашу перыядычную сістэму ягіпецкіх дынастый, мы не можам не заўважыць і ў ёй прыкмет такой падстаноўкі. Так, мы ведаем, што пры Дыяклетыяне і пры яго наступніку ў Ягіпце – Ліцынію – вялізную ролю меў біскуп Арый, заснавальнік першапачатковага арыянскага адзінабожжа. Адлюстраванне Арыя мы маем у першасьвятару Ароне біблейскай кнігі Сыход, і ў прароку Самуіле ў біблейскай кнізе яго імя (па-руску II кніга Царстваў). У нашай перыядычнай сістэме іхныя здзяйсненні, як я ўжо згадваў, аб’ядноўваюцца са здзяйсненнямі тагачасных цароў (калі яны рабіліся згодна з іхнай санкцыяй), і таму часам цалкам не ведаеш, чыя асоба пераважае ў іерагліфічных паведамленнях пра іх. Асабліва гэта выяўляецца ў сёмым радку нашай перыядычнай сістэмы, у якой у адных «дынастыях» да спраў Юльяна далучаюцца справы яго сучасніка, евангельскага Хрыста, а ў іншых дынастыях Юльян дадаецца да Езуса.

Ва ўсіх такіх дэталях яшчэ доўга давядзецца разбірацца цікавячымся дадзеным пытаннем, але агульны характар перыядычнасьці ў нашых храналагічных табліцах такі выразны, што над ім не мае сэнсу спыняцца далей у гэтай частцы маёй працы.

* * *

Другім і пры гэтым вельмі вялікім падмацаваннем маёй тэорыі з'яўляецца наяўнасць магільняў толькі для адной пары паслядоўных дынастый (4 і 5-й), пры поўнай адсутнасьці магільняў і мумій ад іншых, у тым ліку і ад нашчадкаў такога магутнага цара, як Дыяклетыян. Нават жа ад Тэадорыха Гоцкага, памёршага ў 526 годзе і непараўнальна менш вялікага, чым Юстыніян таго ж часу (памёр 565 г.), засталася да гэтага часу у цэласьці магільня ў Равэне, а для Юстыніяна яе нідзе няма, акрамя як сярод пірамід Гізехскага паля ў Ягіпце. Дзе магілы ўсіх лаціна-грэка-сірыйска-ягіпецкіх імператараў, пачынаючы з Дыяклетыяна, калі яны не тут? І гэта – вельмі важнае падцверджанне маёй тэорыі.

Для XVIII ягіпецкай дынастыі не знойдзена ніводнай магільні, хаця і знойдзена шмат згадванняў пра яе дзеячоў у выглядзе імёнаў на сьценах будынкаў, прысьвечаных розным багам. У памяць Хор-ем-Хіба, адсутнічаючага ў Абідоскім спісе, але заканчваючага XVIII дынастыю ў грэцкіх аўтараў (табл. LXVII, стар. 909), існуе храм, але труна ў ім пустая і відавочна мае толькі сімвалічнае значэнне, як пустыя труны Хрыста, абавязковыя ў кожным хрысьціянскім храме. Для Амен-Хатэпа I няма ніякіх прыкмет труны. для Амен-Хатэпа II таксама, хаця на выспе Бігэ да захад ад Філе ляжала на зямлі яшчэ і на прыканцы XIX стагоддзя яго каласальная статуя. Для Амен-Хатэпа III таксама няма труны, хаця ў цясьніне Рабес-Султанат сярод 16 магільняў у выглядзе кватэр, высечаных у схіле гары і ўпрыгожаных карцінамі і скульптурамі, існуе магільня яго жонкі Ці, маці Хун-Атэна. Там існуе і яе партрэт з ружовым колерам твару, падмацоўваючым назву Ружалікая, ужываемую для царыцы Нітка Дасканаласьці.

Для Амен-Хатэпа IV, г.азн. Хун-Атэна (Адона), таксама няма труны. Для Тут-Меса I існуе храм, але без труны.

Для Тут-Меса II не знойдзена асобных пабудоваў. Для Тут-Меса III існуе шмат надпісаў з пазначэннем яго імя, але без падрабязнасьцей, і няма магільні. Для Тут-Меса IV – таксама.

У XII дынастыі для Амен-Ем-Хатаў і Усур-Тасэнаў не існуе ніякіх прыкмет магільняў, а толькі дзе-нідзе надпісы на чужых будынках.

Тое ж самае і для іншых псеўда-дынастый гэтага перыяду. Магільні ёсць толькі для IV і, магчыма, для часткі V дынастыі ў выглядзе пірамід, як мы і бачылі вышэй. Адсюль зразумела, што толькі гэтыя дынастыі і прыдатныя для навуковай распрацоўкі самі па сабе, і да іх жа павінна прыстасоўвацца і навуковая распрацоўка дзейнасьці наступнікаў Дыяклетыяна, якія таксама застаюцца без магільняў у Яўропе ці Азіі.

Тое, што я выказваўся вышэй пра старажытныя школы, хаваючыя адна ад другой свае веды з дапамогай сваіх асобных жаргонаў, але імкнуўшыхся скарыстацца ведамі іншых школ, тлумачыць нам, чаму і грунтуючыся на грэцкай наменклатуры розныя перыяды, складзеныя із варыяцый аднаго і таго ж шэрага сапраўды гістарычных валадароў, носяць розныя назвы: Тыніская дынастыя, Мемфіская дынастыя і г.д.

Тэрмін «Тыніская дынастыя» цалкам не азначае тут таго, што аўтар прыпісвае дадзенаму шэрагу цароў рэзідэнцыю ў Тынісе, а толькі тое, што яе наменклатура была выпрацавана Тыніскай акультнай школай для ўласнага ўжывання і для таго, каб іншыя школы не змаглі ў ёй нічога зразумець. А дзякуючы таму што дынастыя Дыяклетыяна, пра якую ў ёй паведамляецца, валадарыла ў IV стагоддзі, то і Тыніс быў няйнакш як горадам V ці VI стагоддзя. Лічыць за яго парэшткі, як робіцца зараз, агароджу із абпаленай цэглы навокал кургана Ком-ес-Султан на паўночны ўсход ад Абідоскага храма ў Гарабіт-эль-Мадэрукэ негрунтоўна. Тут ніколі не магло быць сталіцы згодна з геаграфічнымі умовамі (ок. 27° п. ш., далёка ад культурных нізоў Нілу), і таму я лічу, што гаворка тут ідзе хутчэй усяго пра Тыніскую гістарычную школу, і пад Тыніскім Номам мы павінны разумець ці Туніскі каліфат VII стагоддзя, ці папярэднічаўшую яму Туніскую правінцыю Лаціна-Эліна-Сірыйска-Егіпецкай тэтрархіі V-VI стагоддзяў, калі тут сапраўды існаваў самастойны культурны цэнтр.

Наменклатура трох «Мемфіскіх дынастый» (III, IV і VI) верагодна была выпрацавана ў трох «мемфіскіх» школах, належаўшых розным багам і таму хаваўшых свае веды адна ад адной (хаця мы і не ведаем, дзе быў Мемфіс).

Наменклатура «Элефантынскай дынастыі» з гэтага боку гледжання была выпрацавана ў Элефантыне, г.азн. па-грэцку Слановым горадзе. Ягіптолагі размяшчаюць яго на выспачцы Джэзірэт Асуан, насупраць мястэчка таго ж імя, ніжэй першых вадаспадаў (каля 24° з.ш). Дапусьціць, што тут валадарыла, у пустыні, на адлегласьці больш 100 вёрст ад позіркаў усіх людзей найбольш заможнай і населенай нізіны Ягіпта, цэлая дынастыя яго валадароў нават смешна. Хто б у людных цэнтрах жыцця стаў бы прызнаваць такую збегшую пустынна-пражываючую дынастыю? Хіба не знайшлося б у «Мемфісе» тысяч людзей, паспяшаўшыхся замяніць яе сабой?

Нават і для самастойнай культурнай акультнай школы такая эміграцыя ад цэнтраў жыцця была б смяротнай, і таму я лічу, што пад «Слановым горадам» патрэбна разумець нейкае іншае месца на зямной паверхні, хаця б і не ў даліне Нілу. Ды і Асуан заўсёды меў значэнне ў якасьці пасярэдніка для экспартнага гандлю Ягіпта з Месапатаміяй. Пры гэтым мы не павінны забывацца, што «Элефантынская (г.азн. VII) дынастыя» даводзіць нас да Нэф-Ір-Рэ (№ 56 Абідоскага спіса), біблейскага Зора-Бабеля, якога мы ўжо дапасавалі да часу каліфата ў Ягіпце, не раней заканчэння VII стагоддзя нашай эры. Гэта азначае,

школа, ужываўшая гэтую наменклатуру, дапасуецца таксама не раней як да VII стагоддзя. Ці немагчыма дапусьціць, што імя Элефант тут з'яўляецца толькі элінізаваным словам каліфат? Падобныя выпадкі нярэдкія. Называлі ж Стакгольм рускія пісьменнікі XVIII стагоддзя Шкляным і г.д. У апошнім выпадку гэта азначала б наменклатуру Дамаскай халіфскай школы і ў яе імёнах Шаху-Рэ (Саху-Рэ) і іншых сапраўды чуюцца агаранскія спалучэнні гукаў.

Прапушчаная ў радаводах Рамзэса і Езуса «псеўда-дзявятая дынастыя», відавочна ніколі не валадарыўшая ў Ягіпце, у грэкаў мае назву Геракліапалітанскай, г.азн. із горада Геркулеса, і адведна з некаторымі із нашых супастаўленняў, асабліва ў другім томе «Хрыста», магла б быць дынастыяй нашчадкаў Ганорыя, валодаўшай выключна заходняй часткай падзяліўшайся да таго часу імперыі Дыяклетыяна. У такім разе горадам Геркулеса мог звацца толькі адзін із буйных цэнтраў сярэднявечнай Італіі. Калі Геркуланум быў засыпаны пасьля Пампеі, то можна думаць, што гаворка ідзе пра яго. Але я нават не ўпэўнены ў тым, ці правільна мы называем Пампеяй горад на схіле Вязувія, а Геркуланумам горад каля берага Неапалітанскага заліва, і ці не патрэбна называць іх наадварот, таму што «Пампея» старажытных была менавіта прыбярэжным горадам.

Мы ўжо бачылі, што наменклатура псеўда-дванаццатай і (згодна з Абідоскім спісам) размешчанай за ёй псеўда-васямнаццатай дынастыі вельмі блізкія адна да адной. Толькі, Амен-ім-Хаты першай заменены Амен-Хатэпамі другой, ды Усур-Тасены заменены Тут-Месамі. Яны абедзьве маюць назву «Фіўскія» дынастыі і відавочна зноў толькі таму, што іхныя наменклатуры былі распрацаваны ў двух «Фіўскіх школах». І тут не цяжка бачыць, што за 609 вёрст ад Каіра-Мемфіса, як натуральнай сталіцы культурнага Ягіпта, не маглі існаваць на працягу стагоддзяў цэлыя дзьве дынастыі, не будучы знішчанымі за такую эміграцыю сучаснымі ім валадарамі населеных частак краіны, меўшых магчымасць трымаць іх у падпарадкаванні толькі із таго геаграфічнага месца, дзе сходзяцца асноўнае рэчышча Нілу і ўсе пратокі яго дэльты. За вадаспадамі мела магчымасць узнікнуць толькі самастойная акультная школа анахарэтаў, калі пачало ўзвялічвацца пустыннажыхарства, і магчыма, што тут была радзіма некага із выдатных навуковых і рэлігійных дзеячаў IV стагоддзя, пасьля сьмерці якога туды пачалі збірацца пілігрымы, як у наш час у турэцкае мястэчка Эль-Кудс, памылкова названы хрысьціянамі Ерусалімам.

Але ж ні «Мемфіса», ні «Фіваў» ў Ягіпце не знойдзена... Гэта азначае, што і іхныя школы былі не ў іх...

* * *

Мы давялі наша дасьледаванне да № 74 Абідоскага спіса – да Хор-ем-Хіба, і бачылі, што дынастычная гісторыя ўсяго гэтага перыяду з'яўляецца жывым адлюстраванне песні пра «дзякаву сабаку». Але тое ж самае мы пабачым і ў наступных «дынастыях», сярод якіх мы знойдзем і Бубастыйскую, і Саідзкую (Сідонскую), і Эфіопскую, і Пярсідзкую наменклатуры (больш правільна – школы).

Пазначу толькі папярэдне, што Саіс ці Сайд (Σαις, Σαιδος) малююць на заходняй пратоцы Нілу, атаясамляючы з сучасным Са-эль-Хагарам, але тут зноў жа не магло ўзнікнуць выбітнога валадарачага горада адпаведна з геаграфічнымі ўмовамі, як не магло і на Сірыйскім узбярэжжы, на месцы сучасняга мястэчка маючага назву Сайда. Наўрад ці мела магчымасць і пазьней узнікнуць тут свая школа. Іншая справа ў сучасным Порт-Саідзе, таксама Саіс па-грэцку. Яго магчыма

б палічыць нават і за біблейскі Сідон, а больш позьняе запусьценне гэтага горада і перанясенне культурнага цэнтра ў Александрыю, патлумачыць калі б не было лепшага тлумачэння, замываннем усходняга рукава Нілу і пераходам галоўнага фарватара на захад, на што тут не патрэбна тысячагоддзяў.

# Глава IV.

## Некалькі слоў пра этнаграфію «іерагліфічнага Ягіпта» (часу Тот-Меса III) і мяжуючых із ім краін.

Я буду тут грунтавацца галоўным чынам на дасьледаванні Бругша, асабліва на яго «Гісторыі Ягіпта»[97], але для зручнасьці рускага чытача буду ўсюды цытаваць яго грунтуючыся на перакладзе Ўластава. Я асабліва шаную Бругша за яго прастадушнасць, якая робіць яго кнігі сырым матэрыялам для далейшай апрацоўкі, а калі мне скажуць, што яны ўжо састарэлі, то я адкажу, што яшчэ больш састарэлі Герадот і Фукідыд і прыводзімыя мной ягіпецкія дакументы.

Менавіта такія кнігі і маюць вялікае значэнне для дасьледчыка, маючага жаданне самастойна распрацоўваць прачытанае, таму што ў іх яшчэ не замазаны вонкавым тынкаваннем шчыліны сырога матэрыялу.

---

[97] Brugsch: Histoire de l'Egipte, 1877г.; рускі пераклад 1880г.




Мал. 185.
Статуэтка (Луўрскі музей).

Пачынаючы ад самых старажытных часоў Ягіпецкая імперыя – пераконваюць нас – падзялялася на Паўночную зямлю (То-Мехіт на мове іерогліфаў) і на Паўднёвую зямлю (То-Рэс), і абедзьве вобласьці ўтваралі два асобныя царствы. Той, хто ў нас мае назву ягіпецкі фараон (ад біблейскага Парэх падобна з грэцкім патрыярх), ніколі не меў у іерогліфах такога найменя. У Паўночнай імперыі ён меў назву султан (іерагліфічна сутэн) з тым жа сэнсам, як і зараз у Турцыі, а ў Паўднёвай імперыі яго іерагліфічнай назвай было Шэўт, верагодна тое ж, што арабскае шэйх і пярсідзкае шах. Гэтае слова азначала наогул старэйшы, ці кіраўнік племя; а ў духоўным сэнсе – кіраўнік прысьвяціўшых сябе богу (сьвятароў). Лічыць такі тытул паходзячым ад аднагучнай з ім назвы пчолы, як лічыць Бругш, а за ім і некаторыя іншыя ягіптолагі, не менш дзіўна, чым, напрыклад, вырабляць рускае слова вецер ці нямецкае Wetter (надвор'е) ад перад-лацінскага veterus, г.азн. стары. Тут рускае і нямецкае слова відавочна маюць адно паходжанне, таму што не толькі гучане, але і сэнс іх блізкі, але цалкам іншае з аднагучным з імі перад-лацінскім словам. Тое ж і ў дачыненні да шэфта (шэфа) і пчалы. Так жа дарэмна і слова фараон ягіптолагі вырабляюць ад Пер-Ао, г.азн. высокая сядзіба ці парог; народ зваў яго толькі Неб-Нутэр, г.азн. прарок Бога, і даваў яму тытул Яго Сьвятасць. А «сядзібай» маглі назваць толькі яго дынастыю. Ды і наогул было б дзіўным называць каго б там ні было сядзібай ці парогам, хаця і высокім. Іншая справа, калі размова ішла не пра самога султана, а пра яго двор, тады, вядома, такі выраз быў бы дарэчным.

Падобна таму як папы носяць на галаве патройную тыару ў якасьці пазначэння таго, што яны лічацца намесьнікамі Езуса, а таксама свецкімі і

духоўнымі валадарамі, так і ў султанаў-шэйхаў так званай «Ягіпецкай імперыі» былі два вянкі: чырвоны вянок Паўднёвай зямлі і белы – Паўночнай зямлі.

Нам кажуць, што Паўночнай імперыяй была дэльта Нілу да першых яго парогаў каля Файюма, а Паўднёвай тое, што ідзе на поўдзень па-Нілу ад гэтых парогаў, але геаграфічна гэта цалкам неверагодна: абедзьве часткі ўяўляюць адно непадзельнае цэлае і тут не магло ўтварыцца двух «карон». Паўночнай зямлёй у дачыненні да месцавання іерагліфічных надпісаў магла быць толькі Сірыя з Малой Азіяй і Візантыяй у дынастычным яднанні з сучасным Ягіптам, як Паўднёвай імперыяй.

Пад час росквіту ягіпецкай тэакратычнай культуры, у яго склад таксама ўваходзілі Лівія (Ліву), сталіцай якой, без сумневаў, была Александрыя, потым Краіна Золата (Нубія, ад Нуб – золата), г.азн. Гішпанія ці Абісінія, якая часта кіравалася намесьнікамі сутэнаў, і, акрамя таго, Зямля Бірузы (Сінайская паўвыспа) і Сьвятая Зямля (Та-Нутэр), якую даводзіцца лічыць за Палестыну, таму што яна на шляху ў краіну Лутэн (Латынян). Зямля Бірузы складала асобнае царства.

Але дзе была краіна Лутэна, нйменне якой так дзіўна нагадвае Лацінскую імперыю?

Пра яе згадваецца асабліва шмат у гісторыі дынастыі Аа-Меса (XVIII дынастыя гісторыкаў). Так у надпісе на труне аднаго вайскавода, Аа-Меса-сына-Абана, паведамляецца:

«*Яго Аўгусьцейшаства выправіўся ў краіну Лутэну, каб астудзіць жар сваёй адвагі на жыхарах той краіны. Яго Аўгусьцейшаства дасягнуў зямлі Нахараіна* (г.азн. Двухрэчча) *– ды будзе жыццё, шчасьце і здароўе яго доляй! – знайшоў сваіх непрыяцеляў і прызначыў парадак бітвы. Яго Аўгусьцейшаства нанёс ім вялікую паразу*.

*Незлічонай была колькасць жывых палонных, якіх Яго Вялікасць звёў сваімі перамогамі*. І вось я быў *наперадзе нашых ваяроў. Яго Аўгусьцейшаства дзівіўся маёй адвазе. Я ўзяў і звёз вайсковую калясніцу з коньмі, і таго, хто ў ёй знаходзіўся, жывым палонным і паказаў Яго Аўгусцейшаству. Тады я быў адораны золатам і стаў высокапаважаемым і дасягнуў старасьці*»[98].

Краіна, якую ягіпцяне называлі Верхняй Лутэнай, складалася, згодна са сведчаннямі паданняў, са шматлікіх асобных княстваў, сярод якіх згадваецца вялікі народ хеты, г.азн. готы, займаўшыя асноўнае месца.

Такім чынам, гаворка ідзе пра задунайскіх готаў, і краіна Нахараін, – выяўляецца краінай Дуная і Прута з іхнымі шматлікімі прытокамі... Месца падзей пераносіцца ў Яўропу, а не ў Месапатамію, і нават у сярэдневечча... Але як жа гэта магло здарыцца?

Гэта магло здарыцца толькі ў тым выпадку, калі на сьценах ягіпецкіх храмаў і маўзалеяў ушаноўваліся надпісамі не адны мясцовыя справы даліны Нілу, а сусветныя падзеі таго часу, калі краіна іерогліфаў лічылася толькі рэлігійным цэнтрам магутнай візантыйска-ягіпецкай імперыі, палітычным і вайсковым цэнтрам якой быў Цар-Горад.

Як гэта ні дзіўна з першага позірку, але далей мы пабачым цэлы шэраг падмацаванняў гэтай ідэі.

У адным із вялікіх надпісаў Карнакскага храма Амона, у паведамленні[99] пра паход Тутмеса III (18-й дынастыі) пералічваецца між іншым цэлы шэраг рэчаў,

[98] Бругш, стар. 235 арыгінала.
[99] Бругш, стар. 294 арыгін.

узятых у якасьці даніны із краіны «Лутэны», ці Рутэны, дзякуючы таму што ў іерогліфах увесь час блытаюцца гукі **Л** і **Р**.

***Даніна із зямлі Рутэн (Лутэн) у 32 годзе: падатак ад цара Асура (Асур азначае: правадыр).***

*Адзін кавалак сапраўднага блакітнага каменя, 20 мна 9 кіці вагі.*
*Два кавалкі сапраўднага блакітнага каменя, 30 мна вагі.*
*Агульная вага трох кавалкаў, 50 мна 9 кіці.*
*Блакітны камень із «Боб-Ілу»* (г.азн. Брамы Бога).
*Шмат пасудзін із каменя хертэт із краіны Асура* (краіны Правадыра).

***«Падатак цароў Рутэн* (Лутэн) *у гэтым годзе»:***

*Дачка аднаго цара ўпрыгожаная....................................*
*....................................................... блакітнага каменя гэтай краіны.*
*65 рабоў і нявольніц, яго падатак.*
*4 калясніцы, абітыя золатам, кузаў пазалочаны.*
*6 калясніц медзяных, кузаў із «агату».*
*45 маладых бычкоў і цялят.*
*600 быкоў.*
*Шмат пшаніцы: немагчыма было перамераць.*
*104 мна і 5 кіці важыў срэбны кубак з «кенкенам».*
*1 залаты шышак, абкладзены блакітным каменем.*
*1 жалезная браня, упрыгожаная золатам.*
*823 кубкі бальзаму.*
*1718 кубкаў віна і мёду.*
*Шмат полбы.*
*Слановай косткі...*
*Дрэвы для вырабаў: кедр, меру, песга, цагу і розныя іншыя лепшыя пароды лесу для паліва. І шмат якія іншыя каштоўныя вырабы гэтай краіны, якія ва ўсі месцы, дзе быў цар, прыносіліся ў яго шацёр.*

А далей яшчэ паведамляецца ў тым жа надпісе[100]:

*Тады прыведзены былі пярэдняга* (султана) *дзеці цароў і іхныя браты каб заставацца закладнікамі, і для таго каб, калі адзін із гэтых цароў памрэ, тады сутэн адпусьціць сына яго, каб прызначыць замест яго бацькі:*
*4 сыны цароў, выведзеныя сёлета.*
*181 рабоў і нявольніц.*
*188 жарабіц.*
*9 калясьніц з абіўкай із золата і срэбра.*
*40 калясніц размаляваных.*
*Пад час года 31, пахонса 3, былі сабраны палонныя цары гэтага года і выведзены былі із горада Ан-ан-рут, размешчанага на беразе возера Нес-ро-ан.*
*Усе месцы прыпынку цара былі забяспечаны рознымі добрымі рэчамі, якія атрымліваліся царом ад жыхароў зямлі Цэхі* (Чэхіі?). *Караблі Кефту і Капуні* (Капуі?) *былі нагружаны брусамі і мачтавымі дрэвамі.... а таксама доўгімі жэрдкамі для цара.*

Тут ужо па наяўнасьці караблёў у паходзе бачна, што ён быў не із Мемфіса ў Месапатамію, дзе на шляху няма ніякіх мораў і караблёў.

***Падатак цара Асебі* (Кіпра) *у тым жа годзе.***

*108 кавалкаў ачышчанай медзі, 2040 фунтаў вагі.*
*5 кавалкаў свінцу, вагой 1200 фунтаў.*
*110 фунтаў блакітнага каменя.*
*1 клык слановы.*

***Даніна, накладзеная на пагарджаемую зямлю Куш.***

---

[100] Бругш, стар. 309 арыгін.

*2 локці працы пагарджаемай зямлі Куш; 600 фунтаў золата.*
*3...........................................................................................60 неграў.*
*<u>1 сын цара Блеміеў.</u>*
*64 чалавекі ўсяго.*
*Акрамя таго, нагрузілі на караблі шмат слановай косткі, чорнага дрэва і розных іншых каштоўных стварэнняў зямлі. Такім быў падатак землі Куш.*

Металы, як бачна із ілюстраваных выяваў, узважваліся на шалях з каромыслам і двума кубкамі, пры гэтым замест нашых гірак ужываліся выявы жывёл (ляжачыя быкі), зробленыя із каменя і медзі.

Перад сваім вяртаннем Тутмес III пачаў будаванне на 23 годзе свайго валадарання ўмацавання ў Ліменэне (Лімане).

«*Толькі што прыбыўшы ў «Фівы», ён неадкладна заснаваў тры так званыя пераможныя сьвяты, г.азн. рымскія трыумфы па пяць дзён кожны, у якасьці ўспаміна пра свае паходы*».

Яго каляндар паказваў больш 40 святочных дзён, як тое бачна із вельмі важнага, але на жаль сапсаванага надпісу:

*4-а Пахонса сьвята ўсшэсьця на пасад Тутмеса III.................. 1 дзень*
*Сьвята Пехеб-Кау 1-га Тыбі......................................................... 1 дзень*
*Сьвята маладзіка* (1) *і 6-га дня кожнага месяца........................ 24 дні.*

*Султан прызначыў вялікія ахвяраванні і прынашэнні на «ўсе часы» богу Амону, якія павінны былі прыносіцца падчас яго «трыумфальнага сьвята», а таксама пад час дня вялікага сьвята 15 Паофі*[101]*, калі сьвятасць гэтага вялікага бога прыходзіла сама, каб сьвяткаваць сьвята свайго падарожжа на караблі, у горадзе Апе паўднёвай краіны Патарыс...*

*Ахвяры прыносіліся Амону, «каб падзякаваць яго за перамогі над зямлёю Верхняя Рутэна*» (Латына).

На адным з надпісаў Карнакскага храма-акадэміі ў двух пакоях, размешчаных на паўночны ўсход ад Залы калон, Марыет адкапаў яшчэ некалькі надзвычай цікавых выяваў: вялізныя гарлачыкі вышынёй роўнай калонам храма, кактусы, розныя хмызнякі і дрэвы, лісьце, кветкі, дыні, гранаты і іншая садавіна, цяляты і рознае рагатае быдла, чаплі, копчыкі, гусакі, галубы ў наіўным перамяшанні адны з другімі. Надпіс паведамляе, што гэта расьліны са **Сьвятой Зямлі** (Танутэр), якую праходзіў Тутмес на шляху ў зямлю Лутэн, «каб перамагчы яе, як загадаў яму бацька яго Амон».

«*Клянуся Сонцам* – паведамляе ад яго імя надпіс – *і бяру ў сведкі бацьку майго Амона: усё гэта праўда, няма ніякага цэню самаспакусы ў тым, што са мной здзейснілася. Тое, што вырабляе выдатная зямля, тое я і загадаў намаляваць на гэтай карціне для таго, каб паказаць бацьку майму Амону, у вялікім храме, у якасьці ўспамінаў на вечныя часы*».

А другі надпіс пад той жа выявай дадае:

«*Год 25-ы, пры цару Тутмесе III, – ды жыве ён вечна! – табілі расьлін, якія знайшоў цар у зямлі Рутэн*».

Зразумела, што са старога боку гледжання гэты надпіс, у якім Сьвятая Зямля, непасрэдна супадае з хрысьціянскай Палестынай, а ніяк не з полем пірамід, павінна была выклікаць вялікія непаразуменні.

---

[101] Згодна з надпісамі аднаго із адломкаў храма Елефантыны, пабудаванага Тутмесам III у гонар бога Хнума, там было сьвята Амона пад час дня новага года 1-га Тота. Надпіс паведамляе яшчэ пра сьвята «Амона паўднёвых Фіваў», якое працягвалася 11 дзён. Пры Рэ-Месу III гэтае сьвята пачыналася 19-га Паофі і працягвалася 24 дні. Перадсвяткаванне Хет мела месца 18 Паофі.

«Магчыма варта выказаць здагадку, – выказваецца Бругш[102], – што найменне Сьвятой Зямлі, ці, выказваючыся бліжэй да арыгінала, «Боскай Зямлі», пашыралася на ўсю Аравійскую паўвыспу так, што цар, праходзячы ў Ханаан праз Аравію, лічыў, што ён праходзіць па «Зямлі госпада». Яшчэ магчыма, што цар, у адным са сваіх паходаў, наўмысна зайшоў на Сінайскую паўвыспу, якая таксама мела назву боская зямля. Але скажам шчыра, што гэтая здагадка не мае вялікай праўдападобнасьці, таму што Сінайская паўвыспа надзвычай бедная расьліннасьцю, і нават належыць да самых сумных і нерадзючых мясцовасьцей Аравіі. Што ж да таго, каб зямля Рутэн сама называлася ягіпцянамі «боскай зямлёй» ў біблейскім сэнсе, то для гэта ў нас няма ніякіх доказаў».

У выніку ўсяго – дадаю я ад сябе – атрымліваецца, што Сьвятой Зямлёй ягіпецкіх надпісаў магла быць толькі Палестына, і што, такім чынам, час самога запісу дапасуецца ўжо да позьне-хрысьціянскай эпохі.

Сьвятары Амона (храм і скарбасховішча якога так шчодра надарыў цар) не задаволіліся ў выказванні сваёй падзякі адным толькі напісаннем на сьценах храма гэтага падання пра перамогі Тут-Меса ў якасьці вечных успамінаў будучым пакаленням. Не! Нейкі невядомы паэт апеў тут і славу цара Тут-Меса (г.азн. Боганароджанага), і веліч бога Амона. Гранітная дошка, на якой напісана яго песьня, захоўваецца ў Булакскім музеі (пад № 63).

Я паказваю тут толькі яе частку:

«*Ідзі да мяне*, – выказваецца Амон,– *цешся і дзівіся маёй велічы, сын мой, паважаючы мяне, Тут-Мес, вечна жывучы!*

*Я ўслаўляюся ў бляску ранішняга Сонца дзякуючы твайму шанаванню,*

*І сэрца маё напаўняецца радасьцю, калі ты накіроўваеш свае ступні да майго храма.*

.........................................................

*Каля чатырох слупоў неба я раблю вялікай тваю магутнасць...*
*Хай твой вайсковы кліч раздаецца над землямі чужакоў.*
*Цары зямлі ды будуць у тваёй руцэ.*

.................................................................

*Табе даручаю я зямлю ў даўжыню і ў шырыню яе.*
*Жыхары Захаду і Ўсходу, ды будуць табе падначалены.*
*Праходзь з радасным сэрцам землі, якія ніхто не наведваў у твой час,*
*Прайдзі вялікае воднае кола*
*Да зямлі Нахараін у поўнай моцы перамогі.*
*Мая воля, каб народы чулі твой ваярскі крык,*
*Які пранікае ў іхныя* ***пячоры.***
*Я забраў у ноздрэй іхнае дыханне жыцця.*
*Мая царская змяя* (суз. Цмока, полюс Экліптыкі) *блішчыць на тваім чале.*
*І ў нішто ператворыцца вораг твой да краю неба.*
*Вось яны прыходзяць і нясуць падаткі на плячах сваіх*
*І схіляюцца перад тваёй сьвятасьцю.*
*Вераломны ды ўпадзе знясожаны каля цябе*
*З пякучым гарэннем у сваім сэрцы і дрыгаценнем сваіх частак.*

.......................................................

*Я прыйшоў, і ты перамог жывучых у* (Малой) *Азіі,*
*Ты паланіў жывёлаводаў Рутэніі* (Лутыніі),
*Ды пабачаць яны тваю сьвятасць у бляску твайго царскага сану,*

---

[102] Бругш, стар. 351-352 арыг.

*Калі ты бярэшся за зброю на вайсковай калясніцы.*
*Я прыйшоў, і ты перамог зямлю Ўсходу.*
*Ты прыйшоў да тых, якія жывуць у межах Сьвятой Зямлі.*
*Ды пабачаць яны тваю сьвятасць, як зорку Канопус,*
*Якая вылівае сваё сьвятло палаючым бляскам, даруючы ранішнюю расу*
*Я прыйшоў, і ты перамог зямлю Захаду,*
*Кефа* (Корфу?) *і Асеві* (Кіпр) *баяцца цябе.*
*Хай бачаць яны тваю сьвятасць, як падабенства* (сузор'я) *Цяляці*,
*Поўнага мужнасьці, нахіліўшага рогі, да якога немагчыма наблізіцца,*
*Я прыйшоў, і ты перамог усходніх рабоў і іхных валадароў* (рымлян).
*Зямля Мацеі* (матаў – народаў) *дрыжыць ад баязні перад табой.*
*Ды пабачаць яны тваю сьвятасць, як кракадзіла, жахлівага ў вадзе, – ды не будзе сустрэчы з ім!*
*Я прыйшоў, і ты перамог жыхароў выспаў сярод Вялікага мора* (г.азн. грэкаў).
*Ды пабачаць яны тваю сьвятасць як помсніка, з'яўляючагася на спіне сваёй ахвяры.*
..................................................
*Я прыйшоў, і ты перамог качавых нубійцаў*
*Да зямлі Шат*[103]*, знаходзячайся ў тваіх руках.*
*Ды ўгледзяць яны тваю сьвятасць, як сьвятасць двух братоў* (Сузор'е Двайнят, самае высокае ў небе),
*Рукі якіх я злучаю, каб цябе блаславіць.*
*Твае дзьве сястры ды даруюць табе шчасьце і здароўе,*
*Мае рукі ў нябеснай вышыні адхіляюць ад цябе бедствы.*
*Я ахоўваю цябе, любага майго сына,*
*Моцнае Цяля, паўстаўшае царом у «Фівах»,*
*Якога я зачаў: Тут-Меса, вечна жывучага,*
*Здзейсніўшага усякае дабро маёй сутнасьці.*
*Ты аднавіў маё жыллё даўгай працай,*
*Пашырыўшы яго ў даўжыню і шырыню супраць існаваўшага.*
........................................................
*Ты ўсталяваў радасныя сьвяты ў гонар Амона,*
*І большымі з'яўляюцца твае пабудовы, чым усіх ранейшых цароў.*
*Я даў табе загад пабудаваць іх,*
*І тваё жаданне было адпаведным майму.*
*Таму я сажу цябе на пасад Гора на нескончаемую колькасць гадоў,*
*Кіруй і напраўляй жывучыя пакаленні!*

Цікава таксама, што ў гэтым жа пакоі некалькі выяваў пазначаны імем Аляксандра II, які лічыцца за сына Аляксандра Вялікага. Поўны анахранізм.

Яшчэ больш цікавыя ўказанні на зямлю рутэнаў, ці лацінаў даюць нам выявы ў магільні аднаго саноўніка, знойдзенай Лепсіусам у Курнат-Мурае, на заходнім беразе Ніла. Там ягіпецкі сутэн, але ўжо апошні цар гэтай дынастыі, намаляваны седзячым на пасадзе, і перад ім два яго намесьнікі, а да берага Нілу прысталі караблі, вельмі нагружаныя дарункамі негрыцянскіх народаў. Разам з імі прыбыла пакланіцца цару і негрыцянская царыца. Яна намалявана едучай на павозцы, запрэжанай быкамі, аточаная сваімі служкамі, кладучымі да ног сутэна каштоўныя падарункі, прывезеныя іхнай чорнай валадаркай. Уся гэтая пастанова надзвычай нагадвае біблейскае апавяданне пра наведванне Саламона царыцай Саўскай. Але...

[103] Шат-Гара Арарат ці тут магчыма Шат-эль-Араб – Паўднёвая Месапатамія.

смешна нават і падумаць, каб у неграў некалі існавалі **царыцы**! Відавочна, што ўсё апавяданне уяўляе сабой чысты міф.

Тут жа з'яўляюцца на малюнках і румянаскурыя князі Лутэн, апранутыя ў каштоўнае шматкаляровае адзенне, і іхныя чорныя валасы старанна прыбраны ў локаны. Яны прыбылі, каб паднесьці султану творы мастацтва сваёй краіны, як заклад іхнага мірнага настрою і павагі да цара.



Мал. 186.

Жанчыны ў іерагліфічным мастацстве. Сустрэча царыцы дамамі.

«Тут перад нашымі вачамі разгортваецца поўная жыцця выява эканамічнага развіцця як поўдня, так і поўначы», – выказваецца наіўна Бругш. – Гэтая выява падпісана ягіпцянінам так: «*Прыбыццё падаткаў Валадару Зямлі, прыносімых пагарджаемымі Лутенамі пад правадырствам сутэнавага пасланніка ва ўсе краіны, царскага сына Куш, намесьніка поўдня Амен-Хатэпа*».

Над князямі Лутенаў стаяць словы:

«*Гэтыя цары із краіны Верхні Рутэн не ведалі нічога пра Ягіпет з часоў Боскага. Яны просяць у цара міру, кажучы: «Даруй нам волю ад рукі тваёй; неапісаны твае перамогі, і няма ў цябе ворагаў у твой час, усе землі жывуць у міры*».

Светласкурыя слугі Лутэнскіх князёў нясуць дарункі і вядуць коней, а іхныя рабы, нясучыя на плячах цяжары, намаляваны з чырвонымі барадамі. Надпіс на іх паведамляе:

«*Гэта самы лепшы выбар рознага начынення з іхнай зямлі са срэбра, золата, блакітнага каменя, зялёнага каменя і розных іншых каштоўнасьцей*».

А над дарункамі неграў стаіць надпіс:

«*Гэта прыбыццё пышнай эфіёпскай даніны, лепшы выбар стварэнняў зямель поўдня і іхнае выгружэнне ў Фівах пад кіраўніцтвам царскага сына Куш*: Хіу»[104].



Мал. 187.
Жанчыны ў іерагліфічным мастацстве. Прыбіранне дамы.

«Гасьцінцы Поўначы, – паведамляе Бругш, – вельмі каштоўныя адпаведна з матэрыялам, але яшчэ больш каштоўныя адпаведна з мастацкай формай і аздабленнем, часта нагадваючы руку **грэцкіх** майстроў. Яны навочна паведамляюць нам пра тое ж, пра што паведамляе нам і вялікі пераможны надпіс Тутмеса III. У той час ўздоўж усходняга берага Міжземнага мора ўтварылася школа высокага мастацтва, надаваўшая творам майстроў самыя вытанчаныя формы не толькі для прадметаў раскошы, але і для рэчаў штодзённага ўжывання. Вырабы развозіліся праз шматлікія гандлёвыя шляхі ва ўсе часткі вядомага тады сьвету, і ўсюды служылі ўзорамі для пераймання. Іхны артыстычны кошт прызнавалі і ягіпцяне, валодаўшыя развітым густам».

«Калі мы склалі ўяўленне пра творы поўначы, – выказваецца Бругш далей – грунтуючыся на выявах магільні, знойдзенай Ленсіусам, то мы маем магчымасць грунтуючыся на апісаных карцінах скласьці ўяўленне і пра развіццё густу і майстэрства ў асяроддзі неграў таго часу. Нягледзячы на нязвыклы для нас і некалькі дзіўны накірунак іхнага густу (як напрыклад, на тое, што да рагоў быкоў у іх прыроблены штучныя чалавечыя рукі), мы не можам адмовіць і неграм той эпохі ў валоданні мастацкім пачуццём, выяўляючымся ў формах іх пасудзін і розных рэчаў. Калі мы нават не будзем браць да ўвагі іхныя залатыя пасудзіны, аздобленыя каштоўнымі камянямі, то і ў разнастайных прадметах жыццёвых патрэб, – у шалях, зброі, караблях і іншых прадметах, прывезеных чорнай царыцай ў «Фівы», мы заўважаем несумнеўнае развіццё мастацкага таленту, які, вядома, развіваўся не без уплыву Ягіпта, але ў якім прысутнічае і самастойнае прыроджанае мастацтва пераймання ў прыроды і ўнутранае пачуццё хараства. Ды і зараз мы грунтуючыся на тысячах прыкладаў можам пераканацца, што негр не можа лічыцца пазбаўленым пачуцця выдатнага».

[104] Бругш, стар. 435 арыг.



Мал. 188. і 189.
Жанчыны ў іерагліфічным майстэрстве. Царыца.

І, як прыклад, Бругш прыводзіць некаторыя вырабы майстроў Судана са срэбра, паказаныя на Венскай Сусьветнай выставе ў 1873 годзе і на Філадэльфійскай у 1876 г., мімаволі збліжаючы такім чынам тое, што ён лічыць мастацтвам 1500 года да пачатку нашай эры з сучасным мастацтвам чорнай расы. Атрымліваецца, што на працягу больш чым тры тысячы гадоў яе мастацтва не зрабіла ніякіх поспехаў. Ці можна лічыць гэта праўдападобным? Ці можна дапусьціць, што і ў краіне Рутэн, якая як згодна з месцаваннем, так і згодна з румяным колерам твараў яе жыхароў уяўляе несумнеўна еўрапейцаў, ды і імя якой – Рутэны – без сумневаў з’яўляецца Латэны (таму што ягіпцяне таго часу ўвесь час замянялі гук *Л* на картавае *Р*), яшчэ за дзьве тысячы гадоў да росквіту яе мастацкай культуры існавала такое ж высокае майстэрства? Ды і няўжо Латэны, найменне якіх паходзіць ад Лацыума ў сярэдняй Італіі, былі валадарамі Пярэдняй Азіі яшчэ амаль за тысячу гадоў да легендарных Ромула і Рэма?

Усё гэта так неверагодна, што нават і акрамя нашых астранамічных меркаванняў час Тут-Месаў давялося б перанесьці наперад больш чым на паўтары тысячы гадоў, у першыя стагоддзі нашай уласнай эры.

У пагадненні з такім уяўленнем знаходзіцца і надпіс пра захоп Аскаліна, г.азн. Аскалона ў зямлі Латын (Рутэн) пры Рэ-Месе Вялікам. Аскалон жа быў умацаваннем візантыйцаў, фігураваўшым яшчэ пры крыжаках і разбураным туркамі толькі, у XIII стагоддзі!

Недахоп месца не дазваляе мне пашырацца тут далей пра Лутэнаў і пра Сьвятую Зямлю, але і таго што я паведаміў, дастаткова, каб паказаць, што пад рутынамі меліся на ўвазе лаціны, пад хетамі, – готы, а пад Сьвятой зямлёй – Палестына.

Згодна са старажытным ягіпецкім паданнем багі Амон-Рэ (Юпітар), Горус (Апалон) і, Гатор (Венера), разам з іншымі меншымі, прыйшлі ў Ягіпет з краіны Пунт і нават сам Амон-Юпітар меў назву князь Пунт, а Венера-Гатор – гаспадыня Пунта. Го́ра-Апалона называюць «Сьвятым ранішнім сьвяцілам, узыходзячым на захадзе ад краіны Пунт»[105].

Гэтая краіна была за морам ад Ягіпта, таму што згодна з Бругшам на скалах Хамамата існуе надпіс, дзе нейкі «шляхетны Гану» паведамляе:

«*Я быў пасланы весьці карабель у краіну Пунт, каб прывезьці для султана духмянасьці, якія збіраюць для яго шматлікія князі «Чырвонай Зямлі» дзякуючы жаху, які ён надае ўсім народам. Я падняўся ад горада Коптаса* (зараз Кефт) *і яго сьвятасць даў наказ, каб ваяры, павінныя мяне выпраўляць, былі із Фіваіды...*[106].

*Я пайшоў адтуль з 3 000 людзей і прайшоў праз месца маючае назву Чырвоная вёска, і праз апрацаваныя землі. Я загадаў нарыхтаваць бурдзюкі і драўляныя падноскі, каб несьці, жбаны з вадой... прыйшоў у прыморскі горад Себу, загадаў пабудаваць грузавыя караблі* (для падарожжа ў Пунт) *і потым здзейсніў вялікае ахвяраванне: быка, кароў і коз. Калі я вярнуўся ў Себу, я выканаў наказ сутэна, прывёз усё тое, што я знайшоў у гаванях сьвятой зямлі. Я пайшоў зноў па дарозе Ўака і Рохана і прывёз з сабой дарагія камяні, для статуй храмаў. Падобнага ніколі яшчэ не было з таго часу, як існуюць цары... з часоў валадарання бога Сонца Рэ*».

Із гэтага апісання зрабілі выснову, што краінай Пунт была Аравія (ці Самалі). Так лічылі ягіптолагі Масперо, Марыет, Вількінс, Ленарман, а за Себу яны лічылі сучасную гавань Касейр на афрыканскім беразе Чырвонага мора.

Але як жа зямля Пунт «ляжала на захад ад Сьвятой зямлі», калі да яе паехалі па Чырвонаму моры? Адзначым лепш, што найменне Пунт было вельмі вядомым ў старажытнасьці і сапраўды знаходзілася за Сьвятой зямлёй – Палестынай, складаючы ўсходнюю частку Рымскай імперыі. Гэта была Паўночная частка Малой Азіі ад Цар-Горада (Понт Галацкі) і да самога Каўказа. Для егіпцянаў з поўдня гэта павінна было ўяўляцца пачаткам усёй усходняй Рымскай імперыі, але тут яе відаць змешваюць з Індыяй.

Такімі з’яўляюцца галоўныя краіны, з якімі меў стасункі ці сутыкненні Ягіпет часоў Тут-Месаў, і яны настолькі падобныя на сусьветную Рымска-Візантыйскую імперыю Кастуся I, што аддаляць іх ад гэтай эпохі на тысячы гадоў немагчыма.

# Глава V.

## Некалькі слоў пра лакалізацыю падзей патрапіўшых у іерагліфічныя запісы, першапачатковыя метады храналагіравання.

[105] Бругш: Гіст. Фараонаў, стар. 110 арыгінала.
[106] Бругш. 110.

Падобна таму як біблейская кніга «Быццё» з’яўляецца першай спробай стварыць «сусьветную гісторыю», так і іерагліфічная літаратура на каменных сьценах і асобных плітах не абмяжоўвае сваю цікавасьць выключна тым, што рабілася ў даліне Нілу, а паведамляе пра падзеі ўсіх вядомых тады краін. А з гэтага боку гледжання мімаволі ўздымаецца пытанне і пра перагляд існуючай зараз лакалізацыі іерагліфічных паведамленняў.

Дзе, напрыклад, была рэзідэнцыя магутных фараонаў-сутэнаў? У таямніча знікшым Мемфісе? У праваліўшыхся без сьледу пад зямлю стобрамавых ягіпецкіх Фівах?

Але ніякіх буйных і магутных сталічных гарадоў у паказаных нам для іх месцах нават і быць не магло. Яны не прыстасаваны для гэтага ні са стратэгічнага, ні з гандлёвага боку гледжання. Нават жа і грыбы не растуць там, дзе для іх не існуе патрэбных умоваў.

І сапраўды, калі даліна Нілу ў XIX стагоддзі адкрылася для праўдзіва-навуковых дасьледаванняў, адразу ж выявілася, што ніякіх парэштках буйных сталічных гарадоў у паказваных двух месцах не існуе.



Мал. 190.
Мапа зямной паверхні на папірусе, знойдзеная ў Ягіпце і дапасуемая да часу Рэ-Месу II.

Найбольш верагодным уяўлялася б, што стабрамнымі Фівамі[107], г.азн. Афе, ягіпцянаў былі Афіны і што Мемфісам быў Цар-Горад. Але Афіны, як мы бачылі ўжо ў V томе «Хрыста», зрабіліся культурным цэнтрам толькі падчас крыжовых паходаў. Ва ўсякім разе немагчыма аспрэчваць, што ягіпцяне часу іерогліфаў лічылі не сябе далучанымі да Рыма і Візантыі, а, наадварот, Рым і Візантыю

[107] Вось пераіначванні гэтага наймення; Афе, Апе, т'Апе, Тэбе, Фебе, Фівы, а грэкамі таксама: Боскі горад (Дыёспаліс).

далучанымі да сябе, чаму і называлі сябе Міц-Рым, г.азн. Найвышэйшы Рым, а візантыйцы называлі сябе толькі проста рамеямі.

Калі выйшаўшыя спачатку із даліны Ніла лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкія тэакраты і не жылі ўжо на сваёй старажытнай радзіме, а, на думку ягіпцяніна, у «яе правінцыях», то насельнікі даліны Нілу тлумачылі гэта і апраўдвалі стратэгічнымі меркаваннямі, тым больш, што на вечны спачынак імператары заўсёды прывозіліся ў сваю краіну, і ў ёй жа ўзводзілі сабе магільні, а ўсім ягіпцянам будавалі вежы да нябёс за кошт параможаных «варвараў».



Мал. 191.
Велічны храм у пустыні ў гары Ібсамбул (Абу-Сімбаль) у Нубіі. Лічыцца, што гэта старажытныя выявы Амона-Грамабоя «Фіванскага», бога-Бацькі (Пата) «Мемфіскага», Гаруса-Маха (Хормаху) Геліяпольскага і «Новага бога» Цара-Месіі Вялікага (Рэ-Месу Міамуна). Але вельмі магчыма, што злева тут сядзяць Майсей і Арон, а справа Хрыстос і Ян Багаслоў (г.азн. адпаведна з нашымі атаясамленнямі Дыяклетыян і Арый, Васіль Вялікі і Ян Залатавусны). І ўвесь гэты дзіўны будынак-статуя мог быць зроблены толькі пад час візантыйска-ягіпецкага перыяду не раней імператара Юстыніяна.

Такія ўяўленні цалкам магчымы псіхалагічна, калі нават выказаць здагадку, што, жывучы вечна на чужыне, візантыйска-рымска-ягіпецкія валадары і забываліся, нарэшце, пра сваю копцкую мову.

Для прыкладу возьмем хаця б нашых рускіх імператрыц. Увесь рускі народ лічыў іх сваімі, а не немкамі, хаця яны амаль заўсёды размаўлялі па-нямецку, а па-руску вымаўлялі толькі з вялікімі намаганнямі і памылкамі ў словах і ў вымаўленні. А іхныя нямецкія суайчыннікі і сваякі заўсёды лічылі іх немкамі, нягледзячы на тое, што яны з'ехалі ў далёкую Рэсію і што Рэсія не была пад агульнай каронай з Германіяй.

Але вы ўявіце сабе, што абедзьве краіны мелі б адну дынастыю, як Аўстра-Вугоршчына да сусьветнай вайны, ці Швецыя і Нарвегія да іхнага распадзення. Тады не толькі рускія імператрыцы, нарадзіўшыяся ў Германіі, але і ўся галштэйн-гаторпская дынастыя лічылася б у Германіі і ў Галштыніі за сваю ўласную нацыянальную дынастыю, нягледзячы на тое, што яна з часу Ульрыха Галштэйн-Гаторнскага (прыняўшага пры пераездзе ў Рэсію і пры сваім вонкавым пераходзе ў праваслаўе імя Пятро) і перасялілася жыць на берагі Нявы. Асабліва ж моцна

палалі б вернападданніцкія пачуцці і нацыянальны гонар у Галштэйне і Гаторпе, калі б у дадатак да свайго паходжання адтуль кожная асоба гэтай дынастыі ўпрыгожвала б сваю радзіму за кошт «заможнай і радзючай рускай зямлі» разнастайнымі рэлігійнымі, навуковымі, грамадзкімі пабудовамі, выклікаўшымі здзіўленне ўсяго сьвету і рабіўшыя Галштэйн-Гаторп месцам захаплення і наведванняў для чужынцаў. І сувязь падтрымлівалася б яшчэ больш, калі б кожны руска-галштэйнскі цар пасьля сваёй сьмерці абавязкова хаваўся ў краіне сваіх продкаў пад цэлай вежай да нябёс, адмыслова ўзведзенай дасылаемымі туды ваеннапалоннымі.

Ці не з'явіліся б і ў Галштэйне і ў Гаторпе на сьценах будынкаў такія ж шматлікія апавяданні пра здзясненні цароў і іхных сваякоў і саноўнікаў, якія таксама перавозяцца туды адпаведна з традыцыяй для пахавання, як у месца сьвятое ўжо згодна з адным тым, што адтуль паходзяць іхныя «сьвятыя асобы» і што там яны пасьля сьмерці не зведвалі непрыемнага гніення?

Такім чынам і з псіхалагічнага, і са стратэгічнага, і з рэлігійнага, і з падставага-культурнага, і з камерцыйнага боку гледжання пераход першапачатковых ягіпецкіх імператараў на еўрапейскі кантынент з часу пашырэння далёкага карабельнага плавання, пры пакіданні за імі месца пахавання на радзіме Арыя, робіцца цалкам зразумелым. Дылема зводзіцца толькі да таго, каб вырашыць, стварылі ягіпецка-візантыйскую імперыю ягіпцяне ці грэкі? І мы бачым, што з ягіпецкага боку гледжання яе стварылі ягіпцяне, а візантыйцы лічылі яе цароў сваімі нацыянальнымі адпаведна з такім жа правам, як і рускія лічылі галштэйн-гаторпскую дынастыю сваёю рускай, хаця у ёй не было ніводнай кроплі рускай крыві, бо ўсе яе цары з часоў Пятра І традыцыйна адружваліся на іншаземках.

Гісторыя галштэйн-гаторпскай дынастыі ў Расіі тлумачыць і адрозненне імёнаў, пад якімі вядомы тыя ж самыя асобы ў ягіпецкіх і ў еўрапейскіх запісах. Як Пятро ІІІ, так і ўвесь шэраг пасьлядоўных рускіх імператрыц пасьля прыезду сюды із Германіі абавязкова праходзілі, перад уступленнем на пасад, адменны рэлігійны звычай з пераменай імя. Ульрых набыў імя Пятро пры прыездзе ў Расію, Вільгельміна-Аўгуста атрымала імя Марыля Аляксандраўна пры адружанні з Аляксандрам ІІ, а дацкая Дагмара-Сафія-Фрыдэрыка атрымала імя Марыля Фёдараўна перад адружаннем з Аляксандрам ІІІ.

Уявіце зараз, што яны хаваліся ў сябе на радзіме, якая ніколі не лічылася для іх чужой. Якімі імёнамі ўпрыгожылі б іхныя магільні мясцовыя патрыёты-дойліды, асабліва калі б усе мужчынскія і жаночыя імёны ў той час мелі толькі характар мянушак, накшталт Леў і Ружа, Арол і Сарна, зразумелыя толькі на сваёй мове, а рускія такія ж найменні гучалі б дзіка і смешна для галштэйнскага вуха?

Вядома, усе гэтыя імператрыцы былі б пазначаны іх мясцовымі імёнамі і, раскопваючы іхныя парэшткі, археолаг аддаленых будучых стагоддзяў, страціўшы якія б то ні было паведамленні пра іх, палічыў бы іх за мясцовых валадароў.

Шматлікасць імёнаў, пад якімі фігуруюць у розных дакументах рамейскія імператары, тлумачыцца, як я ужо не раз выказваўся, збольшага тым, што яны з самага пачатку былі напісаны на розных мовах. Так першакрыніцы першай дэкады кніг Ціта Лівія былі напісаны па-лівійску, біблейскія кнігі пра тых жа ягіпецка-рымска-візантыйскіх цароў напісаны на біблейскім жаргоне карэйшыцкай мовы, а ягіпецкія імёны тых жа цароў былі ўзяты ў агульную іерагліфічную мову з мясцовых мянушак ці хутчэй таму, што кожны акругові храм даваў кожнаму цару,

пры ўступленні на пасад, сваю адменную мянушку як яго новы ганаровы тытул, пра які потым паведамлялася і цару, і які даваў яму права лічыць сябе пасьвечаным у шэраг сьвятароў дадзенага храма.

Згадаем, што на ягіпецкіх надпісах шмат хто із сутэнаў намаляваны ў падвойнай кароне, што паказвае і на дзьве пасадавыя назвы, акрамя мянушак, атрыманых імі пры жыцці, пры розных перамогах і пры рэлігійных пасьвячэннях. А хіба мы не бачым такіх жа шапак і ў рымскіх вялікіх пантыфексаў і ў папаў? І хіба мы не бачым, як і рускія вайсковыя правадыры пасьля перамог атрымлівалі дадатковыя найменні: Сувораў стаў графам Рымнікскім, Паскевіч зрабіўся Эрыванскім, Мураўёў – Амурскім і г.д.

Але калі мы станем на такі бок гледжання, то павінны адразу ж адмовіцца і ад звычаю падсоўваць чытачу, ды і самім сабе, імёны старажытных цароў накшталт Саламон, Давыд, Рамсэс без тлумачэння іхнага сэнсу, бо менавіта ў іхным сэнсе, а не ў незразумелым для нас спалучэнні іхных замежных гукаў, і складаецца ключ да ўсталявання праўдзівай характарыстыкі дадзенай асобы і да разумення таго, чаму яна ж у іншай мясцовасьці атрымала іншую мянушку.

З нашага боку гледжання, гісторыя Ягіпта пачынаецца толькі з Дыяклетыяна.

З гэтага моманту пачынаюць распавядаць і нільскія камяні сваёй іерагліфічнай ілюстрацыйнай мовай, якая ніякім чынам не ўяўляе із сябе першабытны альфабэт, а толькі адмысловае прыстасаванне для пісання таго, што мы зараз завём плакатам.

Само сабой зразумела, што для твораў, прызначаных для шырокай публікі, самым зручным быў такі альфабэт, у якім няма неабходнасьці вучыць літары, таму што патрэбны гук выяўляецца сам сабой: намалюйце замест Л – ільва, замест Б – бусла і г.д. і кожны непісьменны скажа вам іхныя назвы: патрэбна будзе толькі патлумачыць яму, каб ён вымаўляў пры разборы не ўсё імя фігуркі, цалкам, а толькі першы яе гук, – і вось мастацтва чытання адразу засвойваецца кожным кемлівым хлопчыкам ці дзяўчынкай. Яны пачынаюць самі чытаць, пасьля таго як ім паказаны прыклады. Падобныя мнеманічныя малюнкі мы бачым і на нашых дзіцячых альфабэтах, і калі б мы пісалі непасрэдна іхнымі малюнкамі, то навучанне пісьменнасьці ішло б з імгненнай хуткасьцю.

Такім чынам насьценнае іерагліфічна іерытычнае пісанне з’яўляецца толькі вельмі дасьціпнай папулярызацый ужо выпрацаваўшайся ў замкнёным асяроддзі навукоўцаў гукавога хуткапіснага альфабэту, няправільнаназаваемага зараз «дэматычным» пісаннем, таму што ён па-ранейшаму заставаўся набыткам імператарскіх пісьменнікаў, зародкам сучасных акадэмікаў, а для натоўпу, чытаючага толькі плакаты на сьценах будынкаў, былі створаны лёгкія пісьмёны-іерогліфы.

Аднак я пазначу, што ў той жа час з'явілася і іншая адваротная плынь: абцяжарыць чытанне акультных запісаў, зрабіць іх цалкам недаступнымі для непасьвечаных. Адмысловым шыфрам для гэтага служыла цвікападобнае пісанне ці клінапісанне, асабліва набыўшае пашырэнне на радзіме кабалістыкі – Месапатаміі.

Пра гэтую плынь і пра яе час я яшчэ не разважаў, хаця маё астранамічнае і геафізічнае дасьледаванне помнікаў так званай «асіра-вавілонскай старажытнай культуры» ўжо паказала мне тэндэнцыйнасць і памылковасць усіх ранейшых вызначэнняў іхнай глыбокай старажытнасьці. Яно нават выявіла, што ніякага сталічнага горада Вавілон каля сучаснага нам турэцкага мястэчка Кербэла на

Еўфраце не існавала і не магло існаваць, а быў тут толькі адзін із другарадных гарнізонных мястэчак на імя Тынцір ці Кандыгір, і ў выніку астранамічнага дасьледавання клінапісаў старажытна-пярсідзкае царства храналагічна налягло на сярэдне-пярсідзкае.

Пра гэта я буду падрабязна разважаць у сёмым томе «Хрыста», а адносна асірыйцаў (Ашур) я яшчэ раз пазначу адну важную акалічнасць, вядомую з даўніх пор і змешчаную амаль ва ўсіх падручніках, яшчэ з канца II стагоддзя «да Нараджэнння Хрыста»; яны вываліліся з гістарычнай павозкі і бяз следу зніклі з перхні зямнога шара.

Жадаючы патлумачыць такую дзіўную падзею здарыўшуюся з цэлым народам, гісторыкі XVIII і XIX стагоддзяў выказалі меркаванне, што іх цалкам знішчылі паўстаўшыя супраць іх мідзяне і персы каля 668 года да пачатку нашай эры, а адпаведна са знойдзеным мной астранамічным шляхам летазлічэння нічога падобнага не было, і ўся гісторыя Асірыйска-Вавілонскага царства спісана з падзей, адбыўшыхся праз столькі ж гадоў пасьля пачатку нашай эры, наколькі яны лічыліся адбыўшыміся да яе. Гэта перамена знака “+” на “–“ дае розніцу каля 1336 гадоў, і яна з’яўляецца той жа самай розніцай, якая прыявяла ў нас паданні пра ягіпецкія старажытнасьці і пра цароў «абранага народа Божага» ў адпаведнасьць з фактычнай лаціна-эліна-ягіпецкай гісторыяй з часоў Канстанцыя Хлора.

Я не магу тут не згадаць пра яшчэ адну вельмі цікавую акалічнасць: калі мы пазначым, да якіх гадоў ад стварэння сьвету дапасавалі хрысьціянскія і рабінскія гісторыкі перыяды, злічаемыя ад «Сусьветнага патопу да нараджэння Майсея», то пабачым амаль тую ж самую сістэматычную розніцу: 1386 гадоў. Пры гэтым нават і адступленне на 50 гадоў тлумачыцца тым, што Майсей быццам бы вывеў «абраны народ боскі» із Міц-Рыма адпаведна з жыдоўскімі паданнямі ў 80-гадовым узросьце, а адпаведна з першапачатковымі хрысьціянскімі – у трыццацігадовым, як і Хрыстос.

Я лічу, што ў сярэднявечных спрэчках паміж равіністамі і хрысьціянамі пра тое, чыя вера больш «старажытная», спачатку хрысьціяне перанесьлі час нараджэння Езуса, каля 333 гадоў назад, да 1-га года нашай эры. Потым іхныя апаненты «равіністы» зрабілі для свайго Майсея зрух на 1386 гадоў да пачатку нашай эры, а хрысьціяне не прызналі яго і таму, пры перакладанні на эру ад стварэння сьвету, Майсей выявіўся ў іх народжаным на 1386 гадоў пазьней, чым згодна з жыдоўскім злічэнннем. Я асабліва пазначу, што тут само нараджэнне Майсея, а не «стварэнне сьвету» было перанесена назад, таму што час жыцця дапатопных біблейскіх патрыярхаў прыстасаваны ў хрысьціянскіх пісьменнікаў да таго, каб, дайшоўшы да выляплення богам із гліны Адама, звесьці адрозненне свайго і рабінскага злічэння да нуля. Спосаб для гэтага (як бачна на табл. LXXII) выявіўся па-дзіцячаму просты: спатрэбілася толькі дадаць некалькім із патрыярхаў па 100 гадоў іхнага неадружанага і бяздзетнага жыцця.

ТАБЛІЦА LXXII.

Часы нараджэння дапатопных патрыярхаў грунтуючыся на рабінскай і хрысьціянскай храналогіях ад стварэння сьвету[108]

| | Згодна з рабінскім злічэннем | Згодна з хрысьціянскім злічэннем | Розніца часу |
|---|---|---|---|
| 1. Адам | 0-ы год | 0-ы год | 0 гадоў |

[108] Лічбы ўзяты з Біблейскай гісторыі прафесара А. П. Лапухіна.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 2. Сіф | 130 год | 230 год | 100 гадоў |
| 3. Ена | 235 год | 435 год | 200 гадоў |
| 4. Каінан | 325 год | 625 год | 300 гадоў |
| 5. Малелеіл | 395 год | 795 год | 400 гадоў |
| 6. Іарэд | 460 год | 960 год | 500 гадоў |
| 7. Енах | 622 год | 1122 год | 500 гадоў |
| 8. Ушэсьце Енаха на неба. | 987 год | 1487 год | 500 гадоў |
| 9 Мафусаіл | 687 год | 1287 год | 600 гадоў |
| 10. Ламех | 879 год | 1479 год | 600 гадоў |
| 11. Ной | 1056 год | 1662 год | 606 гадоў |
| 12. Патоп | 1656 год | 2262 год | 606 гадоў |

Але такое спрошчана-наіўнае дадаванне хрысьціянскімі сьвятарамі поўных і дакладных стагоддзяў да першапачатковых рабінскіх дат працягвалася толькі да патопу, а пасьля яго бухгалтэрыя ўскладнілася, і на яе разблытванне ў мяне зараз няма ні часу, ні жадання. Я толькі звярну ўвагу на розніцу ў 1386 гадоў для Аўраама, Ісака, Якава, Ёсіфа і Майсея грунтуючыся на рабінскім і хрысьціянскім злічэннях. Палічыўшы, што гэта і быў першапачатковы зрух назад храналогіі, мы прыйдзем да высновы, што атрымаем першапачатковыя гады, калі будзем дадаваць такую ж лічбу, як дадатную, да адмоўных гадоў біблейскай храналогіі да пачатку нашай эры. Зрабіўшы гэта, мы атрымаем:

Для пачатку валадарання Раваама (-980 +1386) = 406 год замест 306 года, калі запанаваў яго прататып Кастусь I, – розніца 100 гадоў.

Для пачатку валадарання Ахава (-923 +1386) = 463 год замест 363 года, калі запанаваў яго прататып Валент, – розніца 100 гадоў.

Для пачатку валадарання Седэкіі (-598 +1386) = 788 год замест 668 года, калі запанаваў яго прататып Кастусь Паганат, – розніца 120 гадоў.

У выніку мы бачым, што і тут прагулялася тая ж карэктыруючая храналогію рука, якая выявілася ў раздзеле дапатопных патрыярхаў. Спачатку таксама дададзена роўна 100 гадоў, а потым і іншыя лічбы; напэўна, маючы на мэце пагадненне з іншымі храналогіямі, сапсаваўшыміся ад падобных легкадумных перасоўванняў гістарычных фактаў то назад, то наперад па поўныя стагоддзі.

Мімаволі згадваецца нам тут ужо не раз пазначаныя мной і вельмі шматлікія выпадкі ў ягіпецкіх іерагліфічных надпісах, калі першапачатковыя ўласныя імёны ягіпецкіх тэакратаў ці імёны іхных продкаў выяўляюцца начыста выскабленымі і замененымі іншымі, таксама магчыма дзеля падвядзення храналогіі пад загадзя запланаваную колькасць гадоў.

Даверлівыя і прастадушныя ягіптолагі XIX стагоддзя, накшталт Бругша, спрабавалі патлумачыць гэта зайздрасьцю наступнікаў да сваіх папярэднікаў і жаданнем прыпісаць сабе іхныя справы. Але я ўжо паказваў раней, чаму такое тлумачэнне прыдатна толькі для дзяцей, а не для дарослых. Надпісы ж былі публічнымі, і ўсе, умеючыя чытаць, ужо чыталі іх на сьценах з сапраўднымі імёнамі. Падданныя толькі абсмяялі б свайго цара за ганарлівасць. Такая справа магла быць зробленай толькі праз стагоддзі пасьля сьмерці тых, пра каго паведамлялі надпісы, і для мяне няма сумневаў, што ўсе выскабленні зроблены такімі ж «рэдактарамі», якія распрацоўвалі і сучасную нам біблейскую храналогію.

Дапасаваўшы іерогліфічныя надпісы да аддаленых стагоддзяў і бачачы са здзіўленнем на іх візантыйскія тытулы ці візантыйскія імёны апісваемых цароў ці іхных сваякоў, рэдактары выламвалі не прыдатныя для іх імёны і замянялі тымі, якія адпаведна з іхнымі вылічэннямі павінны былі тут быць. Згодна з нашай храналогіяй, як памятае чытач, іерагліфічны альфабэт быў прыдуманы не раней

заканчэння IV стагоддзя і быў вядомы на працягу ўсяго перыяду каліфаў, аж да панавання ў Ягіпце мамелюкаў, купленых у манголаў у XIII стагоддзі ягіпецкім султанам Недж-Эдынам і вызначаўшыхся крайнім фанатызмам і неўтаймаванасьцю.

Зразумела, што калі гэтыя ягіпецкія апрычнікі забілі ў 1251 годзе султана Туран-шаха і валадарылі самі 500 гадоў (да 1811 года, калі Магамет Алі адначасова перабіў 740 іхных правадыроў), усе прыхільнікі першабытнай культуры і неабрэзаныя іншаверцы пакінулі Ягіпет. У той час, напэўна, і знікла традыцыя чытання іератычных іерогліфаў, адноўленая толькі Шампаліёнам пасьля знішчэння мамелюкаў.

Тая рука, якая прагулялася па насьценных ягіпецкіх надпісах, замяняючы адны імёны іншымі, належала, напэўна, ужо да апошніх стагоддзяў мамелюкскага перыяду.

# Глава VI.

## Пісьменнікі і літаратура псеўда-старажытнага Ягіпта.

Зрабіўшыся зыбкай сучаснай чалавечай культуры і злучанага з ёю аселага жыцця, Ягіпет, натуральна, павінен быў зрабіцца і зыбкай чалавечай літаратуры.

Але і літаратура не нараджаецца, як Афіна-Палада із галавы бога-Бацькі ў поўным узбраенні, а залежыць ад удасканаленняў у тэхніцы і ад агульных сацыяльных умоваў. Пакуль існаваў качавы лад жыцця, нікому не магла прыйсьці ў галаву думка пра запісванне адбываючыхся падзей жыцця: сведчанне таму эскімосы і ўсе астатнія дзікія народы. У іх маглі з'яўляцца толькі рудыментарныя спробы замаляваць на дрэве ці скале нейкую сцэну, як робяць і нашы дзеці, але непараўнальна горш іх, таму што адсутнічалі папярэднія ўзоры: кожны малюнак тады з нагоды сваёй рэдкасьці быў як зярнятка, патрапіўшае на пустую глебу.

Для таго каб чалавек, мог выдаткаваць час на пераемную разумовую дзейнасць, для таго каб такія зярняткі эвалюцыянавалі, патрэбна была перадусім значная шчыльнасць аселага насельніцтва і ў ім некаторая частка, вольная ад першапачатковай усеагульнай працоўнай павіннасьці чыста матэрыяльнага характару. Патрэбна было існаванне даволі значнага і сталага заможнага пласта насельніцтва, якому б астатняе насельніцтва прыносіла самаахвотныя ахвяры, як сямействам першабытных тэолагаў, ці які сам бы забіраў частку здабыткаў матэрыяльна працючых мас, ці ў сэнсе працы рабоў, захопленых пры розных паходах, ці як падатак на прысвоеныя сабе тэрытарыяльныя часткі. Толькі дзеці такога прывілеяванага пласта, разумовая дзейнасць якіх не душылася б з самага дзяцінства надзённымі фізічнымі працамі, вельмі працяглымі ў той час з нагоды нізкага стану тэхнікі, і мелі магчымасць аддавацца розным задумам, вынаходніцтвам і назіранням, міжвольна плацячы гэтым нашмат больш фізічна працуючым масам за ўсё, што прымусова ад іх бралі, ці што несла ім само насельніцтва.

І тады інстынктыўна адчувалася ўсім насельніцтвам папатрэбна ў кіруючым пласьце, як у лекары ад перажываемай мужчынскай часткай кожнага чалавечага грамадства (пад час дзіцячага перыяду яго жыцця) асобнай хваробы, накшталт коры. Гэтую хваробу мы можам назваць непераадольным усеагульным імкненнем

дарослых мужчын да драпежніцтва і да ўзаемных боек, падобна таму, як мы назіраем гэта зараз у пеўняў.



Мал. 192, 193 і 194.
Ягіпецкія храмы-ўніверсітэты. 1. Храм, высечаны ў скале Гірма (згодна з Перо і Шынье). 2. Тыповы план храма-ўніверсітэта. 3. Пярэдні фасад храма ў Эдфу (рэстаўрацыя).

Спадчынныя гены падобных драпежніцкіх інстынктаў маюць уласцівасць паступова заглушацца пры развіцці дзейнасьці процілеглых ім генаў думкі, і таму ўвесь прывілеяваны пласт першапачатковага грамадства натуральна распадаўся на два падпласты: мірную інтэлігенцыю і ваяўнічую адміністрацыйную частку. Уся грамадзка-палітычная гісторыя народаў з’яўляецца прадуктам дзейнасьці апошняй часткі, а ўся разумовая культура з’яўляецца прадуктам дзейнасьці першай часткі, якая на берагах Міжземнага мора, відаць, ніколі не замыкалася, як у Індыі, у не змешваючуюся з іншымі кастамі.

«На ягіпецкай школьнай лаве – выказваецца Бругш у сваёй «Гісторыі фараонаў» – сядзелі побач і сын беднага пісьменніка, і сын заможнага валадара, і павучанні настаўніка будзілі тут у сэрцы славалюбівага юнака жаданне вызначыцца»[109].

Хай аўтар гэтых радкоў і занадта абагульняе такія выпадкі, аб'яднанне на школьнй лаве бедных і заможных дзяцей, але ў дачыненні да змешвання ў школах храмавай інтэлігенцыі з вайскова-адміністрацыйным пластом гэта павінна было быць цалкам рэчаісным. Вытанчаная і апавядальная літаратура ўзнікла, вядома, нашмат раней чалавечай пісьмовасьці і існавала ў выглядзе песень пра мінуўшчыну і апавяданняў пра далёкія краіны (маючы невялікае дачыненне да атачаючага празаічнага жыцця) яшчэ задоўга да таго, як быў знойдзены спосаб увекавечваць іх на камянях і гліняных плітках, і яшчэ больш задоўга да таго, як быў вынайдзены для гэтага ў ягіпецкім Бібласе папірус, а ў малаазіяцкім Пергаме – пергамент[110].

Гэтая перадпісьмовая літаратура няправільна названа ангельцамі фальклорам, а нашымі перакладчыкамі – народным эпасам. Яна ніколі не была тварэннем фізічна працуючых мас, а цалкам з'яўляецца справай першапачатковай, хаця б яшчэ і не меўшай сродкаў запісвання сваіх пачуццяў і разважанняў інтэлігенцыі, якая, як і зараз, вылучалася ў адметны пласт, галоўным чынам, із заможнай часткі насельніцтва, з рэдкімі самародкамі із мала забяспечаных сямей. Толькі ў іх і быў час для «складальніцтва».

---

[109] Бругш, стар. 25 арыг.

[110] Пі-Байлас (ці Пі-Пірас) зараз Більбек, даўшы найменне папірусу і Бібліі, размешчаны ў Ніжнім Ягіпце каля 30° 24 п. ш., паблізу самага ўсходняга із рукавоў Нілу, на захад ад горных папірусных азёр, размешчаных на поўнач ад Суэца. Там жылі напачатку сярэдневечча і жыды (што азначае пересяленцы), эміграны із аравійцаў і іншых народаў, далучыўшыхся да біблейскай рэлігіі. Там, а не ў Месапатаміі, і ўзнікла Біблія, г.азн. Біблоскія кнігі.





Мал. 195 і 196.
Наіўная выява сажалкі ў садзе на сьцяне ягіпецкай сядзібы і выява магільні ў выглядзе жылля.

Але адкуль бы таленавітая ў разумовым дачыненні асоба ні вылучылася, яна зараз жа б дэкласавалася, г.азн. пакінула свой першапачатковы занятак. Так, у Англіі, вялікі фізік Фарадэй, які быў спачатку пераплётчыкам, кінуў цалкам гэты занятак, як толькі пачаў вывучэнне фізікі; так, у Расіі, Ламаносаў, які нарадзіўся селянінам, збег з вёскі і цалкам кінуў земляробства, як толькі паступіў у Маскве ў Славяна-лацінскую акадэмію, а потым зрабіўся прафесарам хіміі і пісьменнікам. Тое ж самае і ў вытанчанай літаратуры. Кальцоў цалкам запусьціў занятак гандлем, калі пачаў друкаваць свае першыя вершы і не здолеў у поўнай меры развіць свой паэтычны талент толькі таму, што не меў сродкаў для канчатковага дэкласавання ў чыстую інтэлігенцыю.

У аналагічным становішчы былі і ўсе іншыя пісьменнікі. Хаця Лермантаў адпаведна са сваімі сродкамі для існавання і быў гусарскім афіцэрам, але ён стаў геніяльным паэтам толькі дзякуючы таму, што негліжаваў сваёй службай, ускладаючы навучанне жаўнераў на фельдфебеляў і застаючыся толькі намінальна

вайскоўцам. Хаця Леў Таўсты і лічыўся да канца свайго жыцця абшарнікам і вясковым гаспадаром, але мы добра ведаем, што ўсе клопаты па кіраванню маёнткам былі ім ускладзены на жонку, а сам ён толькі арыгінальнічаў, калі дазваляў пісаць з сябе партрэты прыязджаючым мастакам то за сахой, то ў выглядзе сейбіта. Усё гэта ў рэчаіснасьці было ў яго толькі адпачынкам ад разумовай працы, гульнёй геніяльнага інтэлігента ў мужычка, як дзіцёнка ў лялькі, не могучай пакрыць у дачыненні да атрымліваемых прадуктаў выдаткуемага ім на гэта часу.

Тое ж самае адбываецца, калі, не пакідаючы свайго надзённага занятку, земляроб, працоўны, купец ці дзяржаўны дзеяч пачынае «цешыцца пяром» у галіне навукі ці літаратуры: вынік яго працы не пакрывае затрачаны на яе час. Разумовая праца не сумяшчальная з іншымі заняткамі.

Так было і ў старажытнасьці, нават і пад час дапісьмовага перыяду. Усё, што мы называем «народным эпасам», створана не працуючымі ў іншых абласьцях людзьмі, не рольнікамі і не рамесьнікамі, «цешачыміся разумовай творчасьцю» пасьля сваёй звычайнай фізічнай працы. У вобласьці чыстай літаратуры ўсё таленавітае было створана дэкласаванымі із іхнага асяроддзя баянамі, менестрэлямі і рознымі іншымі вандруючымі і не вандруючымі спевакамі, таксама пакінуўшымі пад музыку сваіх гераічных песень і паданняў, першапачатковы занятак і знайшоўшымі дзякуючы свайму таленту прыём пры дварах тагачасных князёў і валадароў.

Увесь так званы фальклор з’яўляецца іхным стварэннем, але ў ім, згодна з самімі ўмовамі яго ўжывання дзеля забавы балюючай ці бяздзейнай публікі, не магло стварыцца нічога строга навуковага, г.зн. патрабуючага для разумення ці запамінання значных высілкаў разумовай дзейнасьці. Развівалася ў той час толькі фантастычная ці авантурыстычная частка пявучага апавядання, стварыўшы масу асобных нядоўгіх песень і казак, скампанаваных і сістэматызаваных пазней у вялікія складаныя творы ужо пад час перыяда хуткапісання, калі папірус і пергамент, а магчыма і папера, зрабіліся нярэдкімі. Усе доўгія паэмы старога часу маюць падобны мазаісты характар і складаюцца са спалучаных паміж сабой пераходнымі дадатковымі масткамі розных асобна створаных апавяданняў, сабраных пазьней таленавітымі кампілятарамі, названых потым то Адысеямі, то Шахерызадамі. Яны і зацэментавалі і апрацавалі іх канчаткова з боку гледжання складнасьці і аднайстайнасьці апавядання, ды і то ўжо пасьля крыжовых паходаў.

Грунтуючыся на павядомленым мы можам прама сказаць, што першапачатковая стадыя пісьмовасьці ні ў якім выпадку не магла ўзнікнуць сярод месапатамскіх ці іншых качэўнікаў, а павінна была з'явіцца менавіта ў зыбцы земляробства – Ягіпце, дзе глеістыя разводдзі Нілу давалі людзям магчымасць сеяць без арання і гэтым рабілі магчымым аселае жыццё з усімі яго толькі што апісанымі натуральнымі рысамі, характэрнымі для першай стадыі эвалюцыі чалавечай культуры.

Але для таго каб навуковая і літаратурная творчасць магла **эвалюцыянаваць**, мала адной патэнцыйнай умовы для яго ў наяўнасьці грамадзкага пласта вольнага ад неабходнасьці штодзённай і працяглай фізічнай працы.

Акрамя гэтага павінна была існаваць і некаторая стадыя матэрыяльнай культуры: дастаткова зручныя сродкі для пісьмовага выкладання думак, і матэрыялы, на якіх розныя думкі выкладаліся б і пашыраліся. А гэта не магло быць

дадзена чалавецтву, – як пераконваюць нас старажытныя аўтары, – адным «Герміем Тройчы Найвялікшым, сынам Азіруса і Ізіды», а павінна было выпрацавацца пасьлядоўнымі і цяжкімі намаганнямі чалавечай творчай думкі на працягу не аднаго пакалення.

Першым спосабам адлюстравання думак было, вядома, чыста-рэбусічнае драпанне маляўніча адлюстроўваемых падзей на сьценах сваіх сядзіб ці на скалах. Потым – і мы можам гэта выказваць чыста тэарэтычна, не грунтуючыся на нейкіх дакументах, – нехта заўважыў, што ўсе словы распадаюцца на склады і, знайшоўшы некалькі лёгка адлюстроўваемых і аднаскладова называемых прадметаў, накшталт нос, рак, бык і г.д., раптам з захапленнем заўважыў, што спалучэннямі іхных першых гукаў магчыма запісаць імёны ўсіх нябачымых прадметаў хаця часам і некалькі пераіначваючы іхнае вымаўленне.

Так на сьвет з'явілася самая вялікая прылада чалавечай думкі, падстава ўсёй яго далейшай культуры, стварыўшая гістарычную памяць чалавецтва, і справядлівым з’яўляецца выказванне, што народ, не маючы сваёй пісьмовасьці, «не мае і сваёй гісторыі».

Вядома, яны таксама існавалі са спрадвечных часоў, але яны не памятаюць таго, што было пад час мінулых пакаленняў, як нічога не памятаем і мы пра нашых продкаў за другім пакаленнем, калі пра іх няма ў сямейным архіве нейкіх пісьмовых дакументаў. Непісьменныя народы не маюць магчымасьці абагаціць свой розум досьведам мінулых пакаленняў, а таму і не маюць магчымасьці разумова эвалюцыянаваць. Кніга – гэта памяць чалавецтва, гэта спосаб непасрэднага стасавання кожнага із нас з разумнымі людзьмі, мінулых часоў і свайго ўласнага часу.

Але ў старажытным Ягіпце (а магчыма нават і пад час сярэднявечча) не існавала яшчэ такога зручнага і таннага матэрыялу, як папера для значных кніг, ды не існавала яшчэ і прылады для іхнага друкавання. Як жа было ім пашыраць прадукты сваёй разумовай творчасьці?

Самым лепшым выйсьцем, вядома, было пісаць іх на сьценах публічных пабудоваў, куды заўсёды з'яўляецца шмат наведвальнікаў, ці на гладкіх паверхнях прыдарожных скал. Што магло быць лепшым і зручным чым такі спосаб для першапачатковых пісьменнікаў, творчасць якіх была яшчэ такой рудыментарнай, што не магла стварыць апавядання даўжэйшага чым некалькіх сучасных старонак?

Дакладна так жа і для першых мастакоў, у распараджэнні якіх яшчэ не было палатна, больш зручнага чым тыя ж самыя сядзібы і скалы для размяшчэння на іх малюнкаў?

І вось мы знаходзім на раскопваемых зараз сьценах ягіпецкіх пабудоваў не толькі паданні гераічнага зместу, – самы лёгкі род літаратурнай творчасьці, таму што ён з'яўляецца толькі простай кампіляцыяй чужых паведамленняў із рэчаіснага жыцця, – але і сапраўдныя фантастычныя апавяданні, як першыя зародкі нашай сучаснай белетрыстыкі.

Лёгкая даступнасць чытання рэбусічна-складовага пісання, – таму што для гэтага патрэбна ведаць толькі метад, а альфабэт даецца амаль без вывучэння, – рабіла іхныя апавяданні амаль адразу даступнымі для ўсіх кемлівых галоў і ўменне прачытаць кожнае такое апавяданне на сьцяне ягіпецкага храма-акадэміі магло пазьней служыць экзаменам на самую нізкую прыступку асьветы. Частку гэтага я ўжо паведамляў, але з мнеманічнай мэтай паўтараю і яшчэ раз з некаторымі дадаваннямі.



Мал. 197.
Жывёлагадоўля ў Ягіпце.

У нядаўні час раскопкі на выспе Крыт далі магчымасць фактычна падмацаваць ужо існаваўшыя раней гіпотэзы пра паходжанне сучасных альфабэтаў. Так згодна з Эвансам[111] галава быка (па-сяміцку Алеф) малявалася ў іерагліфічным пісанні контурна, а ў лінейным яе перавярнулі і атрымалася еўрапейскае А (па-грэцку Альфа, мал. 198, стар. 1035).

| 1OSTKI | OLDEST ATHIOPIC | SABAAN | NASHKI (ARABIC) | TEMA 500 B.C | SINDJIRLI 600 B.C | MOABITE Stone | PHOENICIAN (CYPRUS) | INSCRIP. of THERA | Etruscan Inscription | CYRILLIC | GLAGOLI |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | A A | A A A | Δ | [illegible] |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | B(?) | Б ·b, В ·v | [illegible] |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | | [illegible] | [illegible] | Г | [illegible] |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | Δ Δ | [illegible] | Д | [illegible] |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | | [illegible] | [illegible] | Е | [illegible] |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | | | Ж ·ž | [illegible] |
| [illegible] | | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | | S ·dz, З ·z | [illegible] |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | И ·i | [illegible] |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | | [illegible] | [illegible] | | | [illegible] |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | I | І | [illegible] |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | К | [illegible] |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | Л | [illegible] |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | М | [illegible] |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | Н | [illegible] |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [M×] | [illegible] | | |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | O | O | О | [illegible] |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | | [illegible] | [illegible] | П | [illegible] |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | | | | |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | | |
| [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | Р | [illegible] |
| | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | W | M M | [illegible] | С | [illegible] |
| | + | [illegible] | [illegible] | [illegible] | [illegible] | × | [illegible] | T | T | Т | [illegible] |

[111] Evans: Scripta Minoa. Oxford, 1909; і яго ж: The Palace of Minos, I London 1921.

Выява плывучай рыбы (па сяміцку Нун) прывяла да еўрапейскай літары N (па-грэцку Ню, там жа).

Замалёўка намётавых дзьвярэй (па-сяміцку Далет) прывяла да грэцкай літары Δ (дэльта), потым да еўрапейскага D, таму што ў Яўропе не было намётаў, і дзьверы сядзіб адчыняліся бакавым спосабам, а ў славянаў захавалася Д (мал. 198, стар. 1035).






Із назвы першых двух літар грэцкага альфабэта Альфы і Віты (Бэты) утварылася слова альфабэт, а словазлучэнне «добры стыль» бярэ пачатак ад таго, што дадрукарскія перапісчыкі імкнуліся пісаць «добрым пяром», г.азн. стылетам (stylè).

Правіла – вымаўляць толькі першы гук у назве прадмета, пазначаючага літару – тлумачыць нам разам з тым і звычай скарачаць галосныя гукі ў сярэдзіне слоў, характэрызуючае амаль усю старажытную пісьмовасць: для першабытнага чалавека было цяжка вымаўляць выбуховыя зычныя накшталт **п, б, к, д** без спалучэння з галоснай, а таму браўся цэлы першы склад у найменні прыдатнага прадмета ці, у выпадку адсутнасьці прыдатнага склада, блізкі да яго і мала вызначаны: *бы* замест **б**, *гы* замест **г** і г.д. І цікава, што калі б мы пажадалі пісаць так па-руску, то і ў нас для гука Ы не знайшлося б прадмета, найменне якога пачыналася б з яго (табл. LXXIII) і мы былі б вымушаны пісаць СН замест сын, МСЛ – замест “мысль” і г.д.

Возьмем, напрыклад, для гука А выяву аркі, для Б – бутэлькі ці матылька (бабачка), для В – вянка і г.д., як паказана ў табліцы LXXIII, і вы самі, не навучаючыся, прачытаеце кожнае слова, напісанае такімі навочнымі літарамі. Гэта і было зроблена на старажытных насьценных надпісах першага перыяду пісьмовасьці.

ТАБЛІЧКА LXXIII.

Прыкладная схема навочнага (плакатнага) рускага альфабэта і немагчымасць на ім знайсьці выяву для гука Ы.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| А | Анёл, арка | И | іголка | С | стол, стулік |
| Б | Бутэлька | К | Ключ, кола | Т | Топор (сякера) |
| В | Вянок | Л | Ліса | У | Ухо (вуха) |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Г | Глаз (вока) | М | Мыш | Ф | Факел (паходня) |
| Д | Дом (сядзіба) | Н | Нос | Х | хвост |
| Е | Елка | О | Олень (алень) | Ц | Цепь (ланцуг) |
| Ж | Жук | П | Пяро | Ч | Чарка |
| З | Змей | Р | Рука | Ш | Штопар |
| Ы – адсутнічае слова якое пачынаецца такім гукам, і таму гэты гук заўсёды апускаецца ў старажытных альфабэтах. | | | | | |

Але для таго, каб назапашваць матэрыялы для першапачатковай літаратуры, непазбежна даводзілася шмат вандраваць. Галава гандляра ці пілігрыма напаўнялася разнастайнымі звесткамі і ідэямі, і ствралася магчымасць эвалюцыйнай пераемнасьці ў літаратурнай і навуковай творчасьці ад пакалення да пакалення ці, больш дакладна, ад года да года, таму што пакаленні людзей замяняюцца непрыкметна і паступова.

Натуральнае жаданне выказацца больш вытанчана і арыгінальна, чым папярэднікі, выпрацоўвала, побач з першапачатковай вульгарнай, больш складаную і літаратурную мову, якая мімаволі ўваходзіла ва ўжыванне пісьменнага пласта насельніцтва. Разам з тым павялічвалася і ідэйная ёмістасць мазгавых паўшар'яў, як асноўнага склада нашай падсьвядомай творчасьці, і мы не на шмат памылімся, калі скажам, што ёмістасць мозгу для ідэй узрастае ў кожнага дадзенага індывіда суразмерна з ўсёй колькасьцю сьвядома прачытанага ім ад першага дня яго пісьменнага жыцця, а здольнасць да ідэйнай творчасьці павінна быць блізкай да квадратнага кораня ад прачытанага з выпраўляючым каэфіцыентам на прыродныя здольнасьці мозгу, характэрызуючым у чалавека тую яго якасць, якую мы называем талентам.

Такім чынам, па меры таго, як назапашваўся матэрыял для чытання, пераемна павялічвалася і чалавечая творчасць у кожнай культурнай краіне. Апавяданні на яе мове рабіліся больш сьмелымі, больш даўгімі і больш разнастайнымі, а сама мова развівалася ўсё больш і больш, даводзячы свае формы да вершатварэння і вытанчанай мастацкай прозы. Сучасны адукаваны чалавек, прачытаўшы тысячы кніг, і ўявіць сабе не можа, у колькі соцень разоў ідэйная ёмістасць яго галавы большая за такую ж ёмістасць яго хаця б і пісьменнага, але мала чытаючага субрата, не кажучы ўжо пра цалкам непісьменнага суайчынніка. Гэтага адрозненне немагчыма заўважыць грунтуючыся на вонкавых цялесных прыкметах, а ўнутрана яно вялізнае. Але для таго, каб ёмістасць галавы дайшла да сучаснай велічыні ў адукаваных людзей зямнога шара, спатрэбілася ўжо папярэдне мець друкавальны станок і высока распрацаваныя тэхнічныя спосабы фабрычнага вырабу паперы.

У старажытнасьці нічога падобнага не існавала. Папірусныя лісты выраблялiся першабытным працяглым спосабам, ды і скураны пергамент таксама. Само яго найменне паказвае нам, што ён упершыню пачаў выраблядца ў Пергаме (зараз Бергамо), сталіцы Мізіі ў Малой Азіі, а час узнікнення гэтага горада не апускаецца, нават і згодна з сучаснымі храналагічнымі ўяўленнямі, за трэццяе стагоддзе да пачатку нашай эры. Адпаведна ж з нашай эвалюцыйнай тэорыі ён нават быў заснаваны на некалькі стагоддзяў пазьней.

Да вынаходніцтва папіруса і пергаменту нічога не заставалася, як пісаць з дапамогай драпання на гліняных пласьцінках, што і рабілі ў Месапатаміі. Але тут страчвалася лёгкасць пашырэння напісанага, і таму лепшым спосабам пашырэння

сваіх твораў заставалася толькі адно – уласнаручнае гравіраванне іх аўтарам на сьценах публічных пабудоваў.

Пры натуральным паслядоўным павелічэнні колькасьці аўтараў і пры павелічэнні іхных твораў, сьцены ягіпецкіх грамадзкіх пабудоваў пачалі цалкам пакрывацца імі, і распарадчыкі такіх пабудоваў, вядома, пачалі дазваляць пісаць на іх толькі такія творы, якія ўяўлялі з іхнага боку гледжання сур'ёзную гістарычную цікавасць, а не белетрыстыку. Разважаючы пра гэтыя надпісы, я ніяк не магу пагадзіцца з існуючай зараз думкай, быццам бы яны заўсёды рабіліся хутка пасьля апісваемых там падзей і не з’яўляюцца творамі, шчыра аб'вяшчаемыя самімі аўтарамі і іхнымі першымі чытачамі за новыя апавяданні пра даўно мінулыя часы, г.азн. што гэтыя плакаты старажытнасьці з'яўляюцца зародкамі нашых сучасных палітычных гісторый. Да такой думкі асабліва схіляюць мяне часта сустракаючыяся там корэктуючыя выпраўленні ўласных імёнаў апавядання. Мы бачым, што ўсё апавяданне пра жыццё нейкага сутэна захавана не кранутым, але спачатку стаяўшае яго імя  ўсюды старанна выскаблена і на яго месцы выцарапана іншае.

Такімі, напрыклад, з’яўляюцца ў Карнакскім Акадэмічным храме замены нейкіх больш новых імёнаў імем Міненты II, пра якога амаль не згадваюць астатнія камяні[112]. Такімі ж з’яўляюцца цэлы шэраг іншых больш пазніх падчышчанняў уласных імёнаў на цэлым шэрагу пры-нільскіх помнікаў, пра якія я ўжо згадваў.

Ягіптолагі XIX стагоддзя тлумачаць гэта тым, быццам бы наступны сутэн із ганарыстасьці даваў загад сьціраць у гістарычных апавяданнях, знаходзячыхся на сьценах грамадзкіх будынкаў, імя таго, хто іх сапраўды здзейсніў, і ўстаўляць у апісваемыя падзеі яго ўласнае імя замест сьцёртага; але я ужо і раней выказваўся, што падобныя тлумачэнні дыхаюць занадта вялікай наіўнасьцю. Аднак паўтару больш падрабязна і тут.

Надпісы ж на грамадзкіх будынках чыталі ўсе пісьменныя людзі на працягу больш-менш значнага часу, і маглі нават жыць і ўдзельнікі, і сведкі гэтых падзей. Усе сталі б толькі смяяцца над такім відавочным фатаўством свайго валадара. Якімі б ні былі безсаромнымі норавы таго часу, – чаго мы дарэчы не заўважаем, – але гэта была б ужо такая ступень безсаромнасьці перад сваімі ўласнымі супрацоўнікамі і прыдворнымі, якую псіхалагічна немагчыма дапусьціць ні для якога часу.

Такія падробкі маглі рабіцца толькі таемна, а не на вачах ва ўсіх, ды і навошта яны былі б? Хто перашкаджаў магутнаму сутэну загадаць выразаць пра сябе які заўгодна новы надпіс, не сьціраючы імёны папярэднічаўшых? Ці нехапала месцы на плітах? Але ў такім выпадку ён заўсёды мог бы загадаць выцерці ўвесь надпіс цалкам і замест яго размясьціць прыдуманае прыдворным пісьменнікам апавяданне са свайго ўласнага жыцця, не абуджаючы ўсеагульнага рогату і вясёлай беганіны да перарobленага надпісу ўсяго насельніцтва, каб пасьмяяцца над сваім валадаром.

Не! Гэта тлумачэнне ягіптолагаў XIX стагоддзя цалкам не падыходзіць для рэчаіснага жыцця, а таму нам застаецца для выбару толькі два тлумачэнні, цалкам натуральныя і практыкуючыяся да гэтага часу.

Першае з іх палягае ў тым, што апавяданне было напісана маладым навукоўцам пра жыццё ўжо даўно памёршай славутасьці. Аўтар атрымаў дазвол наглядчыка будынка надрапаць свой твор на сьцяне, але калі ён стаў

---

[112] Бругш стар. 567 арыгінала.

агульнадаступным, із асяроддзя старых навукоўцаў з'явіліся крытыкі, пачаўшыя аспрэчваць паданне і сцвярджаць, што яно мае дачыненне да жыцця цалкам іншай асобы. Тады, адпаведна з рашэннем усяго навуковага калектыву, магло быць пастаноўлена, хаця магчыма і негрунтоўна, выскрабліць няправільна пастаўленае імя і замяніць яго іншым, «правільным».

Другое тлумачэнне я выказваю толькі з вялікай неахвотай, але ва ўсебаковым дасьледаванні патрэбна браць да ўвагі **ўсе** магчымасьці. У надпісе магло выявіцца добра знаёмае імя вельмі позьняй эпохі для прыхільніка глыбокай ягіпецкай старажытнасьці і, «каб пазбегнуць спакусы», яно магло быць сьцёрта нейкім занадта прававерным падарожнікам па Ягіпту пад час той эпохі, калі чытанне іерогліфаў яшчэ не было забыта, ці пасьля 1822 года, калі яно было толькі-што адноўлена Шампаліёнам і калі Ягіпет быў яшчэ цяжка наведваемай краінай для еўрапейца, і таму было мала магчымасьцей для крытычнай праверкі ўзятых із яго паведамленняў.

Я ніколі не дазволіў бы сабе выказаць апошнюю думку, калі б у мяне з даўніх гадоў не засталіся ўспаміны пра апавяданне аднаго рускага вандраўніка[113] па Ягіпту пад час першай паловы XIX стагоддзя, настолькі ўразіўшае мяне ў той час, што гэтае месца і да гэтага часу засталося ў памяці. Аўтар там распавядае, што калі ён наведваў з пачуццём амаль рэлігійнага замілавання магільні і пабудовы, апісаныя Шампаліёнам, то не знайшоў і сьледу ад шмат якіх апісаных ім малюнкаў, і на яго пытанне, – «хто іх сьцёр?» – суправаджаўшы яго араб адказаў, быццам бы сам Шампаліён. На новае здзіўленае пытанне марака: навошта ж? – ён атрымаў ад араба, яшчэ памятаўшага Шампаліёна, лаканічны адказ:

«Для таго, каб яго кнігі заставаліся адзіным дакументам для больш пазніх дасьледчыкаў і людзі не маглі б без іх абысьціся».

Вядома, араб мог і падмануць, але навошта? І ці сапраўды значная колькасць малюнкаў Шампаліёна выявіліся сьцёртай пры прыездзе ў Ягіпет наступных ягіптолагаў? Калі так, то яго малюнкі не могуць лічыцца безумоўна праўдзівымі дакументамі, якімі б вялізныя ні былі яго заслугі ў справе заснавання сучаснай ягіпталогіі.

«Платон мне сябар, – паведамляе лацінская прыказка, – але яшчэ большым сябрам павінна быць праўда». Дасьледаванне сьцёртых у ягіпецкіх надпісах уласных імёнаў і замена іх на некім выцертым месцы новымі імёнамі непазбежна наводзіць на здагадку, што тут была зроблена наўмысная містыфікацыя і, магчыма зроблена менавіта тым, хто першым апублікаваў гэтыя надпісы, асабліва, калі апублікаванне было пад час першай паловы XIX стагоддзя. Хаця ілжывае славалюбства і жаданне праславіцца чаго б гэта ні каштавала і бывае чужым, адпаведна самой сваёй сутнасьці, сапраўды геніяльным мыслярам, аднак, на жаль, гэтага немагчыма сказаць пра карпатлівых кампілятараў гістарычных фактаў. Дзіўным довадам гэтага служыць уся старажытная гісторыя хрысьціянства, ды і сучасны нам скандал з «нятленнымі мошчамі» ў праваслаўных кляштарах служаць не меншым узорам нядобрасумленнасьці тых, каму належала б быць асабліва сумленнымі. Вось чаму пры кожным асобным выпадку сур'ёзнаму дасьледчыку даводзіцца разглядаць, якое із двух дадзеных мной тлумачэнняў найбольш верагоднае.

---

[113] Наколькі памятаю, гэта знаходзіцца ў кнізе Базілі – Вандраванне рускага марака па Ягіпту, Сірыі і Грэцкім архіпелагу, надрукаванай пад час 40-х гадоў XIX стагоддзя.

Мы ўжо бачылі пры дасьледаванні гараскапічных надпісаў Дэндэрскіх, Атрыбскіх і «Фіўскіх» задыякаў, што росквіт падобнай пісьмовасьці прыпадаў на пачатак сярэдневечча, і на той жа позні час паказвае і змест некаторых із тых надпісаў, дзе сьцёрты сапраўдныя імёны ягіпецкіх сутэнаў, а на выцертым месцы напісаны іншыя і звычайна больш нязвыклай рукой[114].

Вось, напрыклад, урыўкі надпісу «Вялікага храма Амона ў Афе», верхняя частка якога знішчана. Яна ўпершыню была абнародавана Ружэ ў Revue Archeologique 1867 года.

«*Пад час пятага года, у месяцы...* (назва сьцёрта*), пад кіраваннем «валадара вянка», якому дараваў уладу бацька яго Амон, цара Верхняга і Ніжняга Ягіпта, Мінэнты Хатэп-Хі-ма* (гэта імя ўстаўлена замест нейкага пазьнейшага ў выскрабеным месцы), *даючага жыццё, знаходзіўся боскі дабрадзей на* (імя месца сьцёрта), *таму што ўсе багі ахоўвалі яго і ўсе народы былі ў жаху ад яго пагляду...*

*Ён выправіў амбасадараў у зямлю Маваір* (Маўрытанію, Марока?),... (зноў імя сьцёрта) *і ўсё загатаваў для свайго ўзбраення. Прыйшла яго гвардыя, прыйшло поўнае магутнасьці войска, і выдатным было для ўсіх жыхароў уступленне яго наёмнага войска.*

*Пад час месяца...* (зноў назва сьцёрта) *летам здарылася, што пагарджаемы цар непрыяцельскай зямлі Ліву* (Лівіі) *на імя Мар-Айі, сын Дыда, зрабіў уварванне ў зямлю Тхухенну* (цыганоў) *з чужацкімі ваярамі-наймітамі, у ліку якіх былі...* (сьцёрта), *сайрданы* (сардзінцы), *сакалса* (сікільцы ці сіцылійцы), *каваса*, *ліку* (лікійцы), *турша* (туркі), *пры чым выбраў сабе лепшых змагароў і бегуноў уласнай зямлі. Ён павёў з сабой жонку і дзяцей... і правадыроў вайсковага стану. Ён дасягнуў мяжы Заходняй Зямлі пры палях горада Пі-ар-шос* (Прасопіс, які размяшчаюць на Разецкім рукаве Нілу). *Тады раз'юшыўся супраць іх Яго Вялікасць, як леў* (прыведзена яго шаблонная прамова).

*Войска яго пайшло і рука боская была з ім, а Яго Вялікасць пабачыў сон, быццам статуя Пта, якая стаіць каля ўваходнай брамы, ажыла, сыходзіць да яго, як волат, і кажа яму, падаючы меч:*

*– Заставайся ззаду, адкладзі ганарлівую адвагу.*

*Сутэн адказаў*:

*– Глядзі! Мае ваяры і калясніцы ў дастатковай колькасьці прыгатавалі засаду на вышыні ў наваколлі Пі-ар-шоса* (Прасопіс)...

*– Калі пагарджаемы цар варожых ліву* (лівійцаў) *прыбыў да 3 дня месяца Епіфі... ваяры Яго Вялікасьці кінуліся з калясніцамі і Цар Нябесны, Амон, быў з імі, і Нуб* (бог народа Хіта) *падаваў ім сваю руку... Нікога із непрыяцеляў не засталося, таму што наёмныя чужацкія ваяры Яго Вялікасьці выдаткавалі 6 гадзін, каб іх знішчыць.*

*Шмат людзей пакінула пагарджаемага цара ліваў. Ён бег, пакінуўшы свае сандалі, лук і калчан ззаду сябе і ўсё, што пры ім было...*

*Кіраўнік памежнай варты паслаў данясенне царскаму двару* (дзе відавочна заставаўся султан пасьля свайго прарочага сну) *такога зместу*:

*– Вораг маўр збег, ён тросся ўсім целам і пазбег сустрэчы са мной толькі дзякуючы цемры ночы. Усе пахвальбы яго зрабіліся пустымі, і ўсе словы яго ўпалі на яго галаву. Не ведаю нічога пра яго лёс. Пакінь яму душу! Калі ён жывы, то зноў не паднімецца. Загадай ім паставіць іншага на яго месца із яго братоў, браўшых удзел у бітве. Ён павінен будзе прызнаць яго, а сам ён зараз пагарджаемы князямі, як пачвара*».

............................................................

*«Правадыры чужацкіх наймітаў, ахоўваючай варты, калясніц і ўсе адслужыўшыя свой тэрмін ваяры вярнуліся дахаты, а тыя, якія належалі да юнага войска, атрымалі загад гнаць перад сабой аслоў, наўючаных* (у якасьці трафеяў) *дзетароднымі часткамі*

---

[114] Бругш, стар. 567 арыгін.

*цела неабрэзанага народа ліваў і адсечанымі рукамі ўсіх абрэзаных народаў, якія прыйшлі з імі, як жарабяты на сенажаць. На аслах жа былі і ўсе рэчы непрыяцеляў кожнай зямлі.*

*«І цешылася ўся зямля высока, да нябёс. Гарады і вёскі апявалі здзейсненыя цудоўныя дзеі і падвезлі здабычу пад акенца палаца, каб Яго Вялікасць мог паглядзець свае заваёвы».*

Такім з'яўляецца паданне пра бітву і тут жа дададзены спіс прывезенага.

1) *Дзетародных частак неабрэзаных царскіх дзяцей і братоў народа Лівіі – 6*

*Таксама простых ліваў – 6359*

*Усяго разам – 6365*

2) *Рук абрэзаных народаў із Прыморскіх краін:*

*Турыну* (турак) *– 250*

*Шайрдана* (сардзінцаў) *ці із Сардаў* (у Малой Азіі) *Акайуаша* (сьцёрта)

(Ахейцаў):

*яны былі із абрэзаных*

і г.д.

Цікавым тут з'яўляецца тое, што атаясамленне згадваемых тут народаў з сучаснымі было зроблена яшчэ першымі ягіптолагамі. Ахеяне і цыгі (цыгане) узяты Бругшам із сведчанняў Страбона[115]. Сарданаў за сардзінцаў прызнаў яшчэ Ружэ. Народ леку Ленарман і Ружы атаясамляюць з лаканійцамі ці лакедэмонцамі. Тырэнаў можна лічыць за жыхароў узбярэжжаў Тырэнскага мора, г.азн. за італьянцаў, а тургау нікуды немагчыма дапасаваць інакш, як у да ўнутранай часткі Малой Азіі да сучасных турак.

Разглядаючы гэты вінегрэт народаў, пераможаных пры сутэне Мікепта (імя якога тут пастаўлена замест кагосьці іншага на выскрабленае месца), Масперо[116] прыходзіць да высновы, што лівійцы тут пастаўлены на чале ворагаў толькі дзякуючы таму, што нашэсьце было зроблена з іхнай краіны, як мяжуючай з Ягіптам, і пры іхным удзеле, а на самай справе тут была моцная канфедэрацыя народаў Міжземнага мора, войска якой высадзілася на Лівійскі бераг на грэцкім вайсковым флоце із Архіпелага.

З гэтым немагчыма не пагадзіцца. Але... як жа туркі, сіцылійцы, сардзінцы, ахейскія грэкі, каўказцы і цыгане маглі ў агульнай канфедэрацыі зрабіць напад на Ягіпет з мора за паўтары тысячы гадоў да пачатку нашай эры? Якім чынам мог тады ўзнікнуць падзел народаў на абрэзаных і неабрэзаных, з пагардлівым стаўленнем першых да другіх, як было толькі пад час позняга мусульманскага перыяду? Нават жа самыя крайнія аматары дагістарычных часоў прыпісваюць вынаходніцтва абразання Майсею, які жыў, згодна з іхнай думкай, нашмат пазьней Мінэты, а на справе старажытнасьць гэтага звычаю наўрад ці перасягае пачатак арыянства.

Калі ж нават і палічыць, што легендарны прарок Майсей жыў за паўтары тысячы гадоў да пачатку нашай эры, то немагчыма ж сцвярджаць, што згодна з яго загадам пачаў абразацца не толькі атачаючы яго народ, але і ўвесь басейн Міжземнага мора за выключэннем адных лівійцаў. Пра гэта дзіўна нават і падумаць, і таму ў асобе Мінэпты II мы павінны шукаць аднаго із «султанаў» сярэдневечча.

Да гэтай жа высновы прыводзіць змест і іншых надпісаў, із якіх я вазьму хаця б папірус Анастасі №1. Анастасі быў шведзкім консулам у Ягіпце ў 30-х гадах

---

[115] Страбон, кн. XI, гл. 1, § 12; кн. XVII, гл. III, § 24, пры гэтым Страбон пераконвае, быццам Ахейцы, Цыгі і Генахі (Генуезцы) жылі ў Закаўказзі.

[116] Maspero: Hist. ant., p. 249.

XIX стагоддзя і сабраў там калекцыю папірусаў, якія знаходзяцца зараз у Брытанскім музеі, выдаўшым гэтыя дакументы ў факсіміле[117].

Ён напісаны іератычным пісьмом, г.азн. самым старажытным курсівам, калі практыка ў пісанні павялічылася настолькі, што ўжо перасталі вымалёўваць у выглядзе складаных фігурак кожную асобную літару. Спачатку яго лічылі за сур'ёзны твор, але Бругш дастатковa пераканаўча даказаў, што тут насмешка нейкага дасьведчанага аўтара таго часу над няўдалай спробай маладога навукоўцы напісаць па-ягіпецку рыцарскі раман згодна з духам сярэдневечча, а сам папірус Анастасі № 1 характэрны, як першы ўзор літаратурнай крытыкі, з якой я раблю тут толькі вытрымкі.

«*Твой твор ўяўляе сабой шмат чаго нахапанага наўздагад* – пачынае аўтар берагоў Нілу свой адказ аўтару, даслаўшаму яму белетрыстычны твор. – *Гэта куча высокапарных выказванняў, нагрувашчаных табой самавольна, і значэнне якіх зразумеюць толькі тыя, каму яны падабаюцца. Ты неаднаразова паўтараеш: я апісваю віцязя, мы ж пярэчым табе: ці з'яўляўляецца праўдзівым тваё апісанне?*

*Коні бягуць, як лісіцы, вочы іхныя расчырванеліся, яны падобныя на бурны вецер, калі ён раптоўна налятае. Надзень жа на сябе даспехі, вазьмі лук, мы будзем дзівіцца здзяйсненням тваёй рукі! – кажаш ты.*

*А вось я намалюю табе выяву твайго сапраўднага віцязя, твайго героя.*

*– Ты не хадзіў у зямлю Хіта,* – скажу я яму, – *ты не бачыў зямлі Аупа, ты не ведаеш выгляду Хатума. Ты ніколі не паднімаўся на Савойскі горны хрыбет і нага твая ніколі не хадзіла па ім. Там толькі моцна ўчапіліся твае рукі за бок тваёй калясніцы, калі штуршок патрос коней, якія цягнуць цябе.*

*– Патлумач жа мне задавальненне быць вандруючым віцязем. Вось ты стаміўся і пачынаеш вечарам вяртацца. Усе часткі твайго цела размолатыя і пабітыя. Ты соладка засынаеш. А для злодзея пад час гэтай няшчаснай ночы надышоў зручны час. Нейкія людзі заходзяць у стайню, конь б'ецца, і зладзеі сыходзяць назад, скраўшы тваё адзенне. Твой канюх прачынаецца ноччу, ён заўважае, што здарылася, забірае астатняе і сыходзіць да злыдняў.*

*Паспрабуй зараз зрабіцца зноў добра ўзброеным, вандруючы віцязь*!».

Потым крытык звяртаецца ўжо да самога аўтара.

«Ты (аўтар выказваеш свайму віцязю:)

*– Вісячы над безданню на слізкай вышыні пры глыбіні абрыва роўнай двум тысячам лакцей, напоўненага адломкамі скал і дробных камянёў, ты падымаешся зігзагамі ўгару, ты нясеш лук, ты бярэш жалезны меч. Старцы бачаць – калі іхныя вочы добрыя, – як ты абапіраешся на тваю руку*». «*Ствары ж сабе імя падобнае «Моцнаму»* (па-грэцку: Кастусю), *Азельскаму валадару, які адкрыў ільвоў усярэдзіне бальзамавага дрэва ў Баку, у цясьніне, лічымай за небяспечную дзякуючы шэзам, схаваўшымся за дрэвамі. Яны маюць 14 локцяў у даўжыню і 5 у шырыню. Насы іхныя даходзяць да іхных падэшваў.*

*А я кажу твайму віцязю:*

*– Ты цалкам адзін, няма пры табе Моцнага, няма ззаду войска. Ты не знаходзіш ніякага Арыіла* (жыдоўскае слова: леў боскі), *які б падрыхтоўваў перад табой шлях і даваў парады, папярэджваючы цябе. Ты не ведаеш дарогі. Валасы на тваёй галаве падымаюцца дыбам і стаяць старчаком. Душа твая ў пяце. Сцежка поўная адломкаў скал і камянёў. Няма абыходу блізка. Шлях аброс цёрнам, дзядоўнікам, ваўчаягадай і калючымі расьлінамі. З аднаго боку ў цябе прорва, з другога стромкая сьцяна гары. А ты павінен тут праехаць! Калясьніца, на якой ты едзеш, падскоквае. Ты клапоцішся пра*

[117] Select papiri in the hieratic character. 1841-1844 гг.

*бяспеку сваіх коней. Калі калясніца зваліцца ў прорву, яна пацягне цябе з сабой. Папругі звальваюцца... Зламалася дышла на сьцежцы вузкага праходу. Не ўмеючы звязаць яго, ты пакідаеш вось на месцы. Мужнасць твая знікае. Ты пачынаеш бегчы. Неба бясхмарнае. Ты адчуваеш смагу, а непрыяцелі гоняцца за табой, у цябе пачынаецца трасучка. Табе пагражае галінка калючай акацыі, ты перакідаеш яе на другі бок і раніш свайго каня. А ты яшчэ не знайшоў спакою. Патлумач жа мне прывабнасць зрабіцца віцязем! Ты прыходзіш у Ёну* (Яфу) *і знаходзіш фінікавае дрэва ў поўным цвіценні. Ты адкрываеш адтуліну твайго рота, каб з'есьці, і знаходзіш, што дзяўчына, якая вартуе сад, прыгожая. Яна выконвае тваё жаданне, паказвае табе скуру сваіх грудзей. Цябе пабачылі, цябе дапытваюць і ты абавязаны сваім вызваленнем толькі свайму званню віцязя, так твой пояс саслужыў табе службу: ты аддаеш яго як кошт за падраныя шматкі*»...

*Я закрэсліў заканчэнне твайго твора* (працягвае крытык, звяртаючыся ўжо да самога аўтара) *і вяртаю табе назад тваё апавяданне. Тут сабрана ўсё, што існуе ў тваіх словах. Мая прамова бязладная і неадукаваны не здолее яе зразумець.* Але *дзякуючы таму што ты пісьменнік сутэна, то падобен на ваду, якая робіць зямлю ўрадлівай. Тлумач жа коратка тое, што я паведаміў, і не кажы пра мяне: «ён зрабіў маё імя смярдзючым перад усімі астатнімі людзьмі». Я толькі меў жаданне намаляваць табе становішча вандруючага віцязя, і для цябе наведаў разам з ім усе іншаземныя народы і паказаў табе іхныя землі ў агульнай выглядзе*».

Такім з’яўляецца самы старажытны із усіх вядомых нам узораў літаратурнай публіцыстыкі, із якога я выключыў толькі пералік розных гарадоў, якіх, на думку аўтара, не ведаў вандруючы рыцар, а з ім і сам стваральнік апавядання, пададзенага яму на разгляд. І няўжо гэты крытыка-літаратурны парастак не даваў ад сябе ніякіх адгалінаванняў дзьве тысячы гадоў? І няўжо вы лічыце, што гэты ягіпецкі Бёрнэ жыў за паўтары тысячы гадоў да пачатку нашай эры?

Ва ўсякім разе тут узор не насьценнага, а ўжо папіруснага перыяду літаратуры, калі на будынках ужо перасталі пісаць выключна практычныя надпісы, замяняўшыя сучасныя газеты і плакаты.

Гэта – нягледзячы на іератычны курсіў арыгінала – хутчэй усяго ўжо папярэднік Сэрвантаса, які напісаў свайго Дон-Кіхота каля 1605 года. Выказаныя тут ідэі пахнуць ужо XV стагоддзем пасьля пачатку нашай эры, а не XIV стагоддзем да яе.

# Частка сёмая

## Хрыстос у іерогліфах



Мал. 200.
Хрыстос у іерогліфах. Ягіпецкае ўяўленне пра вялікага цара-Месію (Рэ-Месу Міамуна).
Ягіпецкая скульптура.

# Глава I.

## Рэ-Месія і Хрыстос.

«Крыж з вушкам – эмблема вечнага жыцця».
Андрэеўскі: Ягіпет (стар. 141).



Мал. 201.
Формы хрысьціянскага крыжа на сярэднявечных копцкіх выявах. Гліняная плітка № 8569 у калекцыі Erment Каірскага музея, даўжынёй роўнай 45 сантыметраў (поўная тоеснасць з выявамі на іерагліфічных малюнках).

Параўнанне радаводу Рэ-Месу Вялікага на «Царскай Табліцы» Абідоскага храма з радаводам Вялікага Цара Месіі ў Евангеллі Лукі выявіла, як мы бачылі вышэй (і яшчэ далей у першым томе «Хрыста»), такое дзіўнае колькаснае і якаснае падабенства, што з боку гледжання матэматычнай тэорыі верагоднасьці, як я паказаў у першым томе, абсалютна немагчыма лічыць абодва гэтыя радаводы за нешта іншае, як за два розна-наменклатурныя варыянты аднаго і таго ж радаводу. Яны абодва з'яўляюцца цалкам паралельнымі аж да Цэзара-Хеперу, г.азн. Caesar'a Heber'a (цара юдэйскага) пад № 74 Абідоскага спіса, атаясамляемага ў іншых спісах з Харам-Хібам, а ў евангеліста Лукі з самім богам-Грамабоем (Іл-Іе)[118] (таксама пад № 74). У радаводзе Мацьвея ён мае назву Якаў, з імем якога злучана ўяўленне пра богазмагальніцства і пра адкрыццё ўсходаў на неба (табл. LXXV, стар. 1045).

Тут і заканчваецца на цару-Богазмагальніку псеўда-XVIII дынастыя (ці больш дакладна – XVIII перыяд) перыядычнай сістэмы ягіпецкіх цароў у грэцкіх тлумачальнікаў і ў дапаўняльнікаў евангельскага радаводу Хрыста, а разам з ёю і ў спісанага з яе XVIII перыяду абідоскага радаводу Вялікага Рэ-Месу. Пачынаецца новы, XIX перыяд, тых жа самых валадароў Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай

[118] Па-жыдоўску АЛ-Іе, дзе Ал агульная назва бога-бацькі, а ІЕ звычайнае скарачэнне ІЕВЕ, лацінскае Jove.

тэтрархіі, пад назвай дынастыя Рэ-Месідаў, г.азн. цароў-месіянцаў, інакш кажучы – першапачатковых хрысьціянаў.

Пачынаецца яна, аднак, не так, як гэта мы бачылі ў ранейшых дынастыях, не за 7 пакаленняў, а толькі ад прадзеда, і таму прыстасавана да XVIII дынастыі ў выглядзе дадатку, як гэта і паказана на нашай асноўнай табліцы (табл. XLII, стар. 771). А тут я даў гэты дадатак на табліцы LXXVI у двух варыяцыях – згодна з Абідоскім спісам, які тут і заканчваецца, і згодна з папіруснай версіяй, прыведзенай у Бругша. І мы бачым, што папіруснік, выкарыстаўшы тут цалкам свае ўласныя найменні, у дадатак да іх зрабіў із аднаго Вялікага Цара-Месіі 12 цароў-месіяў адпаведна з лічбай Хрыста і яго 11 верных апосталаў, аднаго із якіх нават паставіў яго дзедам. Але яшчэ больш цікавым з'яўляецца тое, што замест маці Хрыста – дзяўчыны з люстэркам у руцэ (№ 76) у Абідоскай табліцы – ён даў яму бацьку на імя Менэ-Пата-Сэці, г.азн. Адзіны (монас) Бацька (pater) Сэт, нягледзячы на тое, што ў Абідоскай табліцы пры дзяўчыне з люстэркам у руцэ стаіць яшчэ прыпіска М-рэ, г.азн. Марыля, і яшчэ Рэ-Маот, г, азн. царыца Праўды.

## ТАБЛІЦА LXXIV.

Параўнанне лічбаў продкаў Рэ-Месу Міамуна ў пасьлядоўных псеўда-дынастыях «ягіпецкіх цароў» грунтуючыся на Абідоскай табліцы з лічбамі продкаў Езуса-Месіі ў іх натуральных згуртаваннях грунтуючыся на Евангеллі Лукі (гл. 3.).

| Продкі Езуса | | | | | | | | | | | | | 1-ы чалавек. | 1-ы цар | Продкі Рэ-Месы | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1-ае нат згурт. | | | | | | 8 | 7 | 6 | 5 | 4 | 3 | 2 | | | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 1-ая дынаст. | | | | | |
| 2-ое нат. згурт. | | | | | | | | | 13 | 12 | 11 | 10 | 9 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | | 2-ая дынаст. | | | | | | | |
| 3-яе нат. згурт. | | | | | | | 20 | 19 | 18 | 17 | 16 | 15 | 14 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 3-ая дынаст. | | | | | | |
| 4-яе нат. згурт. Вялікае | | | | | | | | | | 24 | 23 | 22 | 21 | 21 | 22 | 23 | 24 | Вялікая 4-ая дынаст. | | | | | | | | | |
| 5-яе нат. згурт. | | | | | 33 | 32 | 31 | 30 | 29 | 28 | 27 | 26 | (25) | (25) | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 5-ая дынаст. | | | | |
| 6-яе нат. згурт. | | | | | | | | 39 | 38 | 37 | 36 | 35 | 34 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | | | | 6-ая дынаст. | | | | |
| 7-яе нат. згурт. | | | | | | | | | | | | 41 | 40 | 40 | 41 | | | | | | | | 7-ая дынаст. | | | | |
| 55 | 54 | 53 | 52 | 51 | 50 | 49 | 48 | 47 | 46 | 45 | 44 | 43 | 42 | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 | 47 | 48 | 49 | 50 | 51 | 52 | 53 | 54 | 55 |
| 8-10 нат.згурт. | | | | | 11-ае нат. згурт. | | | | | | 58 | 57 | 56 | 56 | 57 | 58 | | 11-ая дынаст. | | | | | 8-10-я дынаст. | | | | |
| 12-ая нат.згурт. | | | | | | | 65 | 64 | 63 | 62 | 61 | 60 | 59 | 59 | 60 | 61 | 62 | 63 | 64 | 65 | | 12-ая дынаст. | | | | | |
| *Псеўда-згубленыя 13-17 -я дынастыі грэцкіх аўтараў* | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 77 | | | 76 | 75 | 74 | 73 | 72 | 71 | 70 | 69 | 68 | 67 | 66 | 66 | 67 | 68 | 69 | 70 | 71 | 72 | 73 | 74 | 75 | 76 | 77 | | |
| Езус Месія Боганароджаны | | | Пан на Марыля | Продкі Езуса-Месіі Згодна з Лукой | | | | | | | | | | Продкі Рэ-Месіі Згодна з Абідосам | | | | | | | | | Валадарка Праўды | | Рэ-Мессу Боганароджаны | | |
| 18-19-ае нат.згуртаванне | | | | | | | | | | | | | | 18-19-ае дынастыі | | | | | | | | | | | | | |
| Паралелізм абодвух бакоў поўны: кожны із 76 ягіпецкіх продкаў Рэ-Месы мае свайго ізатопа ў продках Езуса-Месіі ў Лукі. Такое супадзенне як агульнай колькасьці, так і асобных згуртаванняў згодна з тэорый верагоднасьці магчыма толькі ў двух выпадках: 1) калі Рэ-Месу тоесны з Езусам-Месіяй, ці 2) калі гэта былі два адначасныя і розна знакамітыя стрыечныя браты. Калі ж палічыць, што ўсё гэта міф, то – гэта той жа самы міф у двух розна-нацыянальных інтэрпрэтацыях. Другая выснова: ці біблейскія патрыярхі ўяўляюць сабой ягіпецкіх цароў пад іншымі найменнямі, ці наадварот. Іншага выйсьця няма. | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

## ТАБЛІЦА LXXV.

Параўнанне АБІДОСКАГА СПІСА 76 продкаў боганароджаннага Рэ-Месу-Міамуна і 76 продкаў боганароджаннага Езуса ў ЕВАНГЕЛЛІ ЛУКІ з захаваннем іхнай паслядоўнасьці (гл. агульную нумарацыю ў сярэдзіне табліцы). Курсіўныя адзнакі і падзел на дынастыі дададзены сюды мной: у арыгіналах жа імёны дадзены запар. Налева збоку варыянт згодна з Евангеллем Мацьвея.

| З-на з Еван. Мацьвее | Евангелле Лукі (III, 23-38) | | Абідоская табліца |
|---|---|---|---|
| | *«Дынастыя» дапатонных патрыярхаў* | | *1-я (Тыніцкая) дынастыя згодна са* |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| я | | | | *злічэннем Яўсевія і Афрыкана.* |
| У Ма цьвея гэ тых про дка ў Е зу са ня ма | Першы чалавек | Адам | 1 | Мена... першы цар зямлі |
| | | Сіф | 2 | Тота |
| | | Енас | 3 | Атоть |
| | | Каінан | 4 | Ата |
| | | Малелеіл | 5 | Два палі (хеспы) (Ісафайс) |
| | | Ярэд | 6 | Мірбіп |
| | | Енах | 7 | Старэйшына з кіем |
| | | Мафусаіл | 8 | Кэбху |
| | *«Дынастыя» Ноя (Неха), выйшаўшага із вады патопу.* | | | *2-я (Тыніцкая) дынастыя згодна са злічэннем Яўсевія і Афрыкана.* |
| | | Ламех | 9 | Буцау |
| | | Ной | 10 | Ка+3 дзетародн. часткі (каў) |
| | | Сім | 11 | Бенатэрн |
| | | Арфаксад | 12 | Уціяс |
| | | Каінан | 13 | Сента |
| | *«Дынастыя» Евера (па-жыдоўску Евер-араб – перасяленец).* | | | *3-я (Мемфіская) дынастыя згодна са злічэннем Яўсевія і Афрыкана.* |
| | | Сале | 14 | Цаца |
| | | Евер (Юдэй) | 15 | Небка |
| | | Фалег | 16 | Цесар-Ша (Цэзар-шах) |
| | | Рагаў | 17 | Тота |
| | | Серух | 18 | Сечас |
| | | Нахор | 19 | Нэф-Ерк-Рэ |
| | | Фара | 20 | С-Нэф-Ур-У |
| У Мацьвея Гэта №№ 1,2, 3 і 4 | *«Дынастыя» Абрама (АБ-РМ азначае Бацька Рыма[119]).* | | | *4-я (Мемфіская) дынастыя згодна са злічэннем Яўсевія і Афрыкана.* |
| | 1. Абрам Бацька Рымскай Імперыі | | 21 | Хуфу-Хеопс Над ім 1-я вялікая піраміда |
| | 2.Ісак | | 22 | Дэдэф-Рэ |
| | 3. Якаў-Ізраіль Бацька Царства Ізраільскага | | 23 | Хеф-Рэ. Над ім 2-я вялікая піраміда |
| | 4. Юда Іякаўлеў Бацька Царства Юдэйскага | | 24 | Менкаў-Рэ (Мікэ-Рын) Над ім 3-я вялікая піраміда |
| | 5. Фарэс Парэс (Перс) | | 25 | Шэпсэс-Каф (*Піраміда* «Халаднаватая») |
| У Мацьвея тыя ж імёны | *«Дынастыя» Фарэсу (па-жыдоўску ФРЦ-ПРС – перс.).* | | | *5-я (Элефантынская) дынастыя згодна з Афрыканам (няма ў Яўсевія).* |
| | 6. Ес-Ром | Ес-Ром | 26 | Вус-Хаф (*Піраміда «Найчыстае Месца»)* |
| | 7. А-Рам | Рам (РМ) | 27 | Шаху-Рэ (*Піраміда «Узыходжанне душы на неба*») |
| | 8. Амінадаў | Амінадаў | 28 | Кака |
| | 9.Наасон | Наасон | 29 | Нефер-Ф-Рэ (*Піраміда «Душа»)* |
| | 10. Салман | Салман | 30 | Не-Ус-Рэ (*Піраміда «Наймоцнае месца»)* |
| | 11. Вааз | Баас | 31 | Менку-Гор (*Піраміда «Найсьвятое месца»)* |
| | 12. Авід | Авід | 32 | Дэдкэ-Рэ (*Піраміда «Выдатная»)* |
| | 13. Ясей | Ясей | 33 | Унас |
| *«Дынастыя» Давыда (па-жыдоўску ДУД-(ДОД) – умілаваны).* | | | | *6-я (Мемфіская) дынастыя (згодна са здагадкамі Бругша).* |
| | 14. Давыд (Дода) | Давыд (Дода) | 34 | Тота (іерогл. ТТА – ДДА – Дода[120]) |

[119] Звычайна лічыцца, што імя Аб-Рам азначае: Бацька Шматлікіх, выводзячы Рам ад арабскага raham (шматлікасць). Але першапачатковай транскрыпцыяй гэтага слова з'яўляецца не РХМ (רחם), а РМ (רם), г.азн. Рым. Гэтага натуральнага тлумачэння да гэтага часу не прапаноўвалі, таму што лічылі, што падзел царстваў Ізраільскага і Юдэйскага адбыўся каля -980 г. і што Рымская імперыя узнікла толькі ў -753 г. Але мае астранамічныя вылічэнні пакажуць далей няправільнасць абедзьвюх дат.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Згодна з Еван. Мацьвея | | Натан | 35 | Уск-Рэ |
| | | Матафій | 36 | Мэры-Рэ |
| | 15. Саламон Мудры | Маінан | 37 | Мерэн-Рэ |
| | | Мелеай | 38 | Нэф-Ерк-Рэ |
| | | Елі-а-Кім | 39 | Гор-Мерэн-Рэ-Цефамцаф (*птушкалоў*) |
| Яе няма ў Мацьвея | «Дынастыя» Яна (загадкавая). | | | *7-я дынастыя (Мемфіская).* |
| | | Ян (Іянан) | 40 | Нэў-Ерк-Рэ |
| | | Ёсіф | 41 | Менк-Рэ |
| *«Дынастыя» Раваама, I «цара Юдэйскага», і дынастыя Озіі.* | | | | *8-я і 10-я дынастыі. Пра іх толькі выпадковыя сведчанні ў грэцкіх аўтараў.* |
| Варыянт Евангелля Мацьвея. | 16. Раваам-Юдэяў. | Юда (Юдэй) | 42 | Нэў-Ерк-Рэ (*Мемфіская дынастыя*) |
| | 17. Аб-Іе | Сымон | 43 | Нэў-ерк-Рэ-Нева |
| | 18. Аса | Левій | 44 | Дэдкэ-Рэ-Сема |
| | 19. Іа-Сафат | Матат | 45 | Нэў-Еркс-Рэ Хэнду (*хадун*) |
| | 20. Іа-Рам | Іа-Рам | 46 | Мерэн-Гор |
| | 21. Озія[121] | Елі-езер[4] | 47 | С-Нер-Ерк (*гераклеапалітанская дынастыя*) |
| | 22. Іа-там | Ёсія | 48 | Нэк-Рэ |
| | 23. Ахаз | Ір | 49 | Нэў-Ерк-Рэ-Тэрэру |
| | 24. Езек-Ія | Елмадам | 50 | Нэў-Ерк-Гор |
| | 25. Манас-Ія | Касам | 51 | Нэў-Ерк-Рэ Тата-Сеніб |
| | 26. Амон | Адый | 52 | С-Неў-Ерк-Эну |
| | 27. Іос-Ія+Іс-Ахаз | Мелхій | 53 | .........ку-Рэ |
| | 28. Іехон-Ія | Нірый | 54 | Неў-Ерку-Рэ |
| | 29. Салафі-Іл | Салатыіл | 55 | Неў-Ерку-Гор |
| *«Дынастыя» Зараваселя (Чужога Вавілону).* | | | | *11-я (Дыяспалітанская) дынастыя згодна са здагадкамі Яўсевія і Афрыкана.* |
| Згодна з Мацьвеем | 30. Зора-Вавель | Зора-Вавель | 56 | Нэф-Ер-Ірк-Рэ |
| | | Рысай | 57 | Неб-Хру-Рэ |
| | | Ян | 58 | Санх-К-Рэ |
| *«Дынастыя» Юды Макавея (Богаславячага Малацьбіта).* | | | | *12-я дынастыя Цароў-Пастыраў (Іксосаў) згодна з Сінкеласам (Тыніская).* |
| У Мацьвея гэтай дынастыі няма. | Прымус юдэяў да абразання[122] | Юда | 59 | С-Хотэп Пата Іб-Рэ |
| | | Ёсіф | 60 | Хап-Ерк-Рэ |
| | | Сямей | 61 | Нуб-Ку-Рэ |
| | | Маттаф-Ія | 62 | Хе-Хеп-Ёр(К)-Рэ |
| | | Мааб | 63 | Хе-Ку-Рэ |
| | | Нагей | 64 | Мао-э-т-Рэ |
| | | Еслім | 65 | Мао-э-Хру-Рэ |
| Дынастыі 13-17-я адсутнічаюць у ягіпталогіі. | | | | |
| *«Дынастыя» Аб-Юды Навума (Навум азначае Суцяшальнік).* | | | | *18-я (Дыяспалітанская) дынастыя згодна са злічэннем Афрыкана.* |

[120] Да № 34. (пасярэдзіне табліцы). Іерагліфнае ДДА ці ТТА дарэмна чытаецца Эдуардам Меерам адваротна іншым, каб зрабіць із яго АТТ (Атот). Гэта той жа іерогліф, што і пад № 2.

[121] Да № 47. У біблейскай кнізе «Цары» паміж Ія-Рамам і Озіяй Мацьвея яшчэ дададзены Ахазія, яго жонка Гафолія (Эталія), першасьвятар Іадай, Іааш і Азарыя ці Амасія, якіх няма ні ў радаводзе Мацьвея, ні ў радаводзе Лукі (калі не палічыць, што Елі-Езер і Ёсія-Ідай і Іоаш), ні ў Абідоскай радаводнай табліцы, ідучай, як мы бачым цалкам паралельна радаводу ў Лукі. Можна думаць, што гэты пропуск і з'яўляецца нехапаючай ў ягіпталогіі 9-ай (Геракліапалітанскай дынастыя Яўсевія і Афрыкана, дзе яны называюць толькі Ахфоэса Ἀχθοής), верагодна гэта – Ахазія.

[122] Да № 59. Грэцкія аўтары дапасуюць гэта да 128 года.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Варыянт Еван. Мацьвея | 31. Аб-Юд (Бацька Юдэяў) | Навум Суцяшальнік | 66 | Неб-Пех-Тата-Рэ |
| | 32. Акім | Амос | 67 | Цэсар-(ер-к)-Рэ |
| | 33. Азар | Матафій | 68 | О-Хеп-Ерк-Рэ |
| | 34. Цадэк (Сьвяты) | Ёсіф | 69 | О-Хеп-Ерн-Рэ |
| | 35. Ахім | Іянай | 70 | М-Хеп-Ерн-Рэ |
| | 36. Эл-Юд | Мелхій | 71 | О-Хеп-Еру-Рэ |
| | 37. Елі-Азар | Левій | 72 | М-Хап-Еру-Рэ |
| | 38. Матан | Матат | 73 | Мает-Неб-Рэ (жанч. з люстэркам) |
| | *(Боскі дарунак)* | | | *(заснаванне адзінабожжа)* |
| | 39. Якаў | Гелій (Юлій) | 74 | Цэсар-Хепер-Рэ Сатэн-н-Рэ |
| | | | | *(адступленне ад адзінабожжа)* |
| | *«Дынастыя» Якава (19-я дынастыя).* | | | *19-я дынастыя грэцкіх аўтараў.* |
| | 40. Ёсіф | Ёсіф | 75 | М-Пех-Тата-Рэ |
| | (41. Панна-Марыля і Св. Дух). | (Панна-Марыля і Св. Дух). | 76 | М-Рэ +Жанчына з люстэркам (Валадарка Праўды) |
| | 42. ЕЗУС ХРЫСТОС – «СЫН БОСКІ» | | 77 | РЭ-МЕСУ МІАМУН – «СЫН БОСКІ» |
| Ўсяго 42 пакаленні, пачынаючы ад Абрама-Хеопса (7*6=42) | | Усяго 77 пакаленняў ад Адама-Мены (7*11=77) | | Усяго 77 пакаленняў, пачынаючы ад Адама-Мены (7*11 = 77) |

Тут евангельская ідэалогія выступае так відавочна, што я нават не магу сабе ўявіць, якім чынам будуць аспрэчваць гэта мае апаненты. І ў радаводзе ж евангельскага Хрыста ў евангеліста Лукі (у 3 главе), паўтараючай усіх гэтых 76 продкаў Рэмісіі пад іншымі найменнямі, аўтар вядзе да евангельскага Хрыста-Месіі таксама праз прыёмную дачку (ці фіктыўную жонку Ёсіфа) дзяўчыну Марылю, сапраўдным чалавекам якой быў быццам бы сам бог-Грамабой, які нарадзіў ад яе сабе сына містычным спосабам.



Мал. 202.

Крыж ператвараецца ў ордэнскі знак. Гліняная пласцінка роўная 35 см даўжынёй у Каірскім музеі пад № 8548. Абапал грэцкі надпіс: υπερ μνημης και αναπαισεως εν χω ν η μακαρια ταβωρα εκοιμηθη εν τη σημερον ημερα ητις εστιν τυβι ς΄της τριτης ινδικτιονος.

Але раней, чым перайсьці да Рэ-Месідаў, я папрашу чытача звярнуць увагу на складзеную мной табліцу LXXVII (стар. 1050). На ёй паказаны іншыя наменклатуры і варыяцыі заканчэння радавода Рэ-Месы ў розных грэцкіх школах. Мы бачым, што гэтае месца надзвычай блытанае не толькі праз цяжкасць высветліць, якім чынам Ёсіф, не быўшы ні бацькам, ні чалавекам Марылі, мог быць дзедам яе сына, як паказана ў евангеліста Мацьвея, але і з нагоды вялікіх непагадненняў іерогліфаў з грэцкімі аўтарамі. Выключыўшы Рэ-Тота, Міне-Пату-Сэта і адпавядаючую яму ў Евангеллях панну Марылю (№ 76), яны затое дадалі нават і ў XVIII дынастыі, у якасьці продкаў Рэ-Месіі, асоб, якіх няма ў іерагліфічных надпісах. Навошта гэта яны зрабілі? Відавочна, дзеля таго ж, дзеля чаго складзена ўся старажытна-ягіпецкая храналогія. Надавалі тым жа асобам розныя найменні, магчыма, дзякуючы панаваўшаму тады сярод навукоўцаў імкненню схаваць свае веды ад непасьвечаных, а пазьней і самі ўжо не былі ў стане ў іх разабрацца. Чытач бачыць, што гэтыя новыя варыянты таго ж самага заканчэння продкаў Рэ-Месы-Хрыста маглі б даць і мне нагоду падоўжыць спіс старажытна-ягіпецкіх цароў яшчэ на 72 пакаленні, тым больш, што ў іерогліфах няма ні пра аднаго із іх нейкіх указанняў, ды і із краін, акрамя Міц-Рыма, пазначана толькі краіна Данай, меўшая назву Марэацийскі ном, дзе Рэ-Месу III – запэўніваюць нас – перамог народ пу-расатаў[123].

ТАБЛІЦА LXXVI

Псеўда-XIX і псеўда-XX дынастыі чалавекападобных старажытна-ягіпецкіх цароў: цары-месіянцы (рэ-месіды).

| Згодна з Абідоскім спісам | Згодна з Бругшам |
|---|---|
| *XIX дынастыя* | *XIX дынастыя* |
| 75. Цар Тота (Давыд) | 75. Рэ-Месу I -1400 год |
| 76. Валадарка Праўды | 76. Менэ-Пта-Сэці -1366 год |
| [Заканчэнне Абідоскага спіса] | 77. Рэ-Месу II Вялікі (Хрыстос) -1333 год |
| | 78. Менэ-Пта-Хотэфіма -1300 год |
| | 78. Мене-Пта-Сэці II -1266 год |
| | 79. Сетнахт-Мерэр -1233 год (?) |
| | 80. Міамун II -1233 год |
| | *XX дынастыя* |
| | 81. Рэ-Месу III, хан-Она -1266 год |
| | 82. Рэ-Месу IV -1166 год |
| | 83. Рэ-Месу V -1166 год |
| | 84. Мерытум (Рэ-Месу VI) -1166 год |
| | 85. Рэ-Месу VII -1166 год |
| | 86. Рэ-Месу VIII -1166 год |
| | 87. Рэ-Месу IX -1133 год |
| | 88. Рэ-Месу X -1133 год |
| | 89. Рэ-Месу XI -1133 год |
| | 90. Рэ-Месу XII -1133 год |
| | (Заканчэнне рэ-месаў) |

ТАБЛІЦА LXXVII

[123] Бругш, стар. 578 ім. арыгінала 1877 г.

Заканчэнне Абідоскага і Сакарскага спісаў і іх супастаўленне з яго іншымі варыяцыямі.

<table>
<tr><th>Згодна з Абідоскім спісам</th><th>Згодна з Сакарскім спісам</th><th>Згодна з Евангеллем Лукі</th><th>Згодна з Евангеллем Мацьвея</th><th>Згодна з Ёсіфам Флавіем (I вар.)</th><th>Згодна з Яўсевіем Усяшануючым (I вар.)</th><th>Згодна з Софісам</th><th>Згодна з грэцкімі апакрыфістамі</th></tr>
<tr><td rowspan="5">Адсутнічаюць</td><td rowspan="7">Усе сьцёрты</td><td rowspan="5">Адсутнічаюць</td><td rowspan="5">Адсутнічаюць</td><td>Брат Пафоціс, 9 г.</td><td>Няма</td><td>Афо-Рэс 29 г.</td><td>Ганорый, брат Аркадзя. 28 г.</td></tr>
<tr><td>Няма</td><td>Няма</td><td>Хегке-Рэс, 26 гадоў</td><td>Аэцый, апякун Валентыніяна III, 21 год</td></tr>
<tr><td>А-Хегке-Рэс Суваладар (хак), 12 г. 5 мес.</td><td>А-Хер-Рэс, 8 г.</td><td>А-Хер-Рэс, 30 г.</td><td>Валентыніян пасьля апекі 11 г. і ўсяго 32 гады</td></tr>
<tr><td>А-Хегке-Рэс, 12 г. 3 мес.</td><td>Хер-Рэс, 15 г.</td><td>Няма</td><td>Рэцымер, 16 г.</td></tr>
<tr><td>Армайс, 4 г. 1 мес.</td><td>Армайс Данаос (Дунайскі)</td><td>Армайас Данаас, 9 г.</td><td>Ромул Аўгустул, 5 г.</td></tr>
<tr><td>76. Валадарка Праўды</td><td>76. Панна Марыля і бог-бацька</td><td>41. Панна Марыля і бог-бацька</td><td>Цар-Месія (Рамесэс) I, 1 г. 4 мес.</td><td>Няма</td><td>Няма</td><td>[Ёсіф і Марыля]</td></tr>
<tr><td>[77. Цар Месія]</td><td>77. Хрыстос</td><td>42. Хрыстос</td><td>Цар Месія (Рамесэс) II 66 г. 2 м.</td><td>Рамесэс Ягіптас, 68 г.</td><td>Рамесэс Ягіптас, 68 г.</td><td>[Хрыстос]</td></tr>
</table>

Усё гэта зноў больш адпавядае перыяду лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкіх цароў IV стагоддзя нашай эры, чым перыяду за паўтары тысячам гадоў да таго часу.

Вось чаму, пакінуўшы пакуль дынастычныя меркаванні, звернемся да характарыстыкі самога Цара-Месіі Вялікага і яго эпохі грунтуючыся на існуючых у ягіпецкіх помніках указаннях.




№ 8567. Гліняная плітка 75 см. у даўжыню.



№ 8638. Гліняная плітка 75 см. у даўжыню



№ 8589. Гліняная плітка каля 70 см. у даўжыню.

Мал. 203, 204 і 205.
Узоры копцкіх хрысьціянскіх выяваў крыжа зародкі сучасных ордэнскіх крыжоў. Із кнігі: Catalogue generale des antiquites egyptiennes du musee... Caire par W. E. Crum. Caire, 1902

# Глава II.

## Характарыстыка эпохі вялікага цара Месіі. З'яўленне на падмостках гісторыі готаў (хеты).

Пры разборы іерагліфічных надпісаў дасьледчык раз і назаўсёды павінен пазбавіцца ад дзіцячага ўяўлення, што калі ў іх перадаюцца размовы і загады нейкага сутэна, то яны і запісаны пры ім жа. Інакш яму і ў Бібліі, пры кожным выказванні пачынаючымся славамі: «так кажа бог» – давялося б лічыць, што і сапраўды так паведамлялася аўтару богам з неба, праз рупар. Гэта вельмі звычайная манера сярэднявечных аўтараў. А таму, калі ў розных іерагліфічных запісах мы бачым рэчаісную эвалюцыю літаратурнага складу ці вытанчанасьці малюнкаў, то павінны прыпісаць гэта больш позьняму часу **самога подпісу**, а не больш пазьняму часу **яе сюжэта**. Інакш, прачытаўшы, напрыклад, Жыццяапісанні Хрыста ў Евангеллях, а потым таксама ў Рэнана ў яго «Vie de Jesus» і ў Штраўса ў «Leben Jesu kritisch bearbeitet», давялося б прызнаць, што яны пісалі ўжо пра нейкага Хрыста II, які жыў амаль праз 2000 гадоў пасьля Хрыста I.

Розніца мянушак, даваемых старажытным царам, таксама не павінна нас бянтэжыць: перагледзьце бегла ўсе тутэйшыя табліцы і вы самі пабачыце, што ў Яўсевія ў яго радаводзе – адны імёны, у Афрыкана – іншыя, у Сафіса – трэцція, у Абідоскай табліцы – чацьвёртыя і г.д. без канца, а тым часам самі сучасныя ягіптолагі ўжо пераканаліся, што яны пазначаюць тыя ж асобы.

Ды і адрозненні характарыстык Цара-Месіі і яго продкаў у розных аўтараў не павінна нас здзіўляць: агульнае ж правіла складаецца ў тым, што кожны, характэрызуючы тую ці іншую гістарычную асобу, больш характарызуе гэтым самога сябе, чым яе.

З такімі абмоўкамі я і прыступаю да свайго пытання.

Характэрыстычнай рысай часоў Рэ-Месіянцаў – запэўніваюць нас ягіптолагі – з'яўляўцца выходжанне на гістарычныя падмосткі народа хета, згодна са сваім найменнем сугучнага з готамі.

Ці маем мы падставы атаясаміць абодва найменні? Згодна з сучаснымі гісторыкамі, падзяляючымі іх двухтысячагадовым прамежкам, вядома, не.

Эдуард Мейер лічыў, што хеты належаць да «асноўнага ствала малаазіяцкага народа». Помнікамі іхнай культуры ён лічыць барэльефы з насатымі прысадзістымі чалавечымі фігурамі ў вастраканечных шапках і ў чаравіках з загнутымі «наверх насамі. Але грунтуючыся на якіх жа падставах такое атаясамленне? Толькі на загадкавых надпісах, асабліва шматлікіх у Хамоце на Аронце і Кархемышы на Еўфраце.. Галоўным цэнтрам іх з'яўляецца сярэдзіна Малой Азіі і Кападокія, дзе «знайшлі» і галоўную сталіцу гэтага народа: у сьмецці каля сучасняй вёскі Багазкой на пласкагор'і на ўсход ад Галіса, на адлегласьці роўнай 5 дням шляху ад Ангоры. Джордж Сміт у 1876 годзе «прызначыў» тут месцазнаходжанне сталіцы хетаў, Каркеміша, у парэштках Джэрабіса. У 1905 годзе А. Віiклер выявіў тут некалькі дзясяткаў гліняных таблічак, тры на «вавілонскай» мове. Потым Макрыдзі-бей знайшоў у 1906 годзе ў смецці на схіле ўзвышша цэлы «архіў хецкіх цароў», у выглядзе масы гліняных таблічак, да 200 000, некаторыя на асіра-вавілонскай мове, якія паказалі, што тут існаваў горад Хаці[124]. Тут знаходзіліся лісты мясцовых цароў да ягіпецкіх і да асіра-вавілопекім валадароў і іхных міністраў і васалаў, і назад, у тым ліку клінапісны ліст Рэ-Месы I да мясцовага цара Хатушылы II, з прыкладаннем пячаткі, у якім выкладзены пункты мірнай дамовы, супадаючыя слова ў слова з ягіпецкім тэкстам, напісаным на сьценах Карнакскага храма і Рэмесэума, дзе паведамляецца, што арыгінал напісаны на срэбнай таблічцы. Ён прыведзены ў Бругша з выкладаннем умовы ўзаемнага вяртання ўцекачоў.

Тут знайшоўся і віншавальны ліст ягіпецкай царыцы да яе хецкай «сястры» з нагоды заключэння міру....

Тут жа «знойдзены» парэшткі сьцен вакол высокага крамля, парэшткі брамаў з вежамі і фігурамі ільвоў і пяці вялікіх палацаў са шматлікімі памяшканнямі і крамамі навокал.

У вёсачцы Эйюке, на адлегласьці некалькіх гадзінах шляху на паўночны ўсход ад Багазкоя, таксама выяўлены парэшткі палаца, а на паўднёвы ўсход ад яго – могілкі шляхетных асоб.

Із мясцовых эмблем асабліва цікавымі з’яўляюцца: крылаты сонечны дыск і змеі, як у ягіпцянаў. А акрамя іх, двухгаловы арол, як у візантыйцаў, падвойная сякера і крылатыя бажкі, відавочныя правобразы херувімаў.

Іхныя царыцы суваладарылі з царамі і, нароўні з імі, прыкладалі сваю пячатку на дзяржаўных дакументах. Такім было жаночае раўнапраўе яшчэ за паўтары тысячы гадоў да Нараджэнння Хрыста!

Але вось раптам нядаўна выявілася нешта цалкам дзіўнае з боку гледжання такой храналогіі.

Дасьледаванне паўднёва-рускіх курганоў прывяло да знаходак прадметаў таго ж тыпу. Так у Чэртамлыцкім кургане на Кубані, у чэртамлыцкай царыцы знойдзены вастраканечны галаўны ўбор, як у хецкіх. Ды і на Кубані ў другім тысячагоддзі (нашай эры!) жыў народ, стварыўшы такія ж рэчы, якія знойдзены і ў

[124] Акадэмік Бузескул, Адкрыцці ў вобласьці культуры хетоў (Навука на Украіне, Л» 2, 1922 года).

Майкопе, а ў Кіеўскай губерніі адкапаны бронзавы пояс тыпу тых, якія «несумнеўна» належалі культуры, блізка-роднай хецкай[125].

Г. І. Бароўка выказваецца з гэтай нагоды, што «ўплыў хецкай культуры быў дастаткова магутным, каб адбівацца яшчэ вельмі доўгі час (праз дзьве тысячы сто гадоў!) на вялікай адлегласьці, за тры дзевяць зямель, у трыдзясятым царстве, пасьля таго як народ і дзяржава, стварыўшыя яе, даўно адышлі ў вечнасць».

І сапраўды, як не дзівіцца і нам такой магутнасьці хецкай культуры?

З фактам, вядома, спрачацца немагчыма: у Кіеўскай губерніі зараз даказана існаванне хецкай (г.азн. гоцкай) культуры ў другім тысячагоддзі пасьля пачатку нашай эры... Але тым больш можна і павінна спрачацца з сучасным уяўленнем, што гэтыя ўборы і прадметы заставаліся нязменнымі ад мінус 1392 года, куды дапасуюць Рэ-Месу ІІ, жонка якога віншавала хетскую царыцу, насіўшую такі ж убор, з мірнай дамовай. Ужо адна думка пра тое, каб жанчыны, якія вельмі схільны да таго каб начапляць на сябе нешта арыгінальнае, на працягу трох тысячагоддзяў захавалі прабацькаўскае адзенне, здаецца мне да смешнага не адпаведаючай жаночай псіхалогіі. Вядома, мне адкажуць, такія ж уборы з'явіліся другасна ў Паўднёвай Расіі праз тысячагоддзі пасьля таго, як зніклі ў сябе на радзіме, але гэта ўяўляецца мне яшчэ менш верагодным. Тут магла быць толькі пераемная сувязь, і ўжо адно гэта вымушае дапасаваць хецкую культуру, а з ёю і рэ-мэсіянцаў, да сярэдневечча.

А што да 200 000 (ох!) плітак, дзе не толькі знойдзены лісты Рэ-Месы Хрыста да мясцовага цара, але і гліняныя копіі (ох!) лістоў, якія пісалі ў Ягіпет самі хецкія цары і царыцы, пакідаючы **дублікаты** сабе на памяць, нават з дадаваннем сваіх пячатак, то мімаволі ўзнікае скептычнае пытанне: ці не пячаткі гэта Біля Стумпса із гумарыстычнага рамана Дыкенса «Замагільныя запіскі Піквікскага клуба»?

Вось як выказваецца пра хетаў Марцін Бельскі ў сваёй «Польскай хроніцы» XVI стагоддзя:

«Готы ці геты (таму што гэта быў адзін і той жа народ) з'явіліся, як піша Ілля Спартанскі, із выспы Скандынавія, дзе зараз Швецыя, із-за Паўночнага мора, са сваім правадыром Берыкам, як пра тое сведчаць гоцкія гісторыкі – Албаній і Іярдан). Яны аселі перадусім каля Віслы, дзе іх пазначае і Пталямей, пад імем гітонаў і ваявалі з тэнетамі і вандаламі, нашымі (польскімі) продкамі. За імі ў зямлю альмерынгаў, дзе зараз Прусія, прыйшлі гепіды, якіх готы так называлі па-свойму, таму што яны былі гультаяватымі і аднаго племені з готамі. Потым, размножыўшыся, готы пайшлі са сваім правадыром Філімірам да Меоцкага возера (Азоўскага мора) а адтуль да Чорнага мора (і да Дакіі, і да Мізіі, і да Фракіі), аб'яднаўшыся разам. Ад іх і ўтварыліся дакі і **геты**, якіх гісторыкі лічылі адным і тым жа народам. Некаторыя з іх пайшлі на ўсход, як гэтага хоча гісторык Іярдан, але дзе б татары ні вызначыліся, ён іхныя вычыны прыпісвае сваім готам; так ён сцвярджае, што готы **перамаглі ягіпецкага цара**, захапілі Азію, напладзілі парт (амазонак[126]), таму што амазонкі былі масагетамі, і дапамагалі Троі супраць грэкаў».

[125] Г. І. Бароўка, Жаночыя галаўныя ўборы Чэртамлыцкага кургана. (Весткі Акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры, 1921 г.)

[126] «O Gotach abo Getach.
«Gotowie abo Getowie (bo to ieden byl narod, iako pisze Heliaz Spartanus) wyszli z Skandyey, abo z Skandinawiey wyspy, gdzie dzis Szwecya (z zamorza pulnocaego) y tu do nas z Berykiem wodzem swym pzzyszli (tak jako Ablanius

У гэтым месцы хронікі Бельскага ўяўляюць цікавасць тры месцы. Першае із іх – атаясамленне готаў з гетамі, пры гэтым дзякуючы гартаннаму вымаўленню гука *Г* паўднёвымі народамі, пачынаючы з украінцаў, слова геты перанаінačылася ў hity ці ў хіты, ці іты (італійцы). Здагадка Іллі Спартанскага, што яны прыйшлі са Скандынавіі, вядома, гэтак жа мала заслугоўвае ўвагі, як і існаваўшае раней цьверджанне, быццам бы адтуль жа прыйшлі ў Кіеў і рускія цары з Рурыкам; але сумнявацца ў тым, што готы мелі сувязь з германцамі наўрад ці магчыма, таму што адсюль жа паходзіць і гатычны, г.азн. франка-германскі стыль у архітэктуры. Ва ўсякім разе гэта было ўжо сярэднявечча і падмосткі падзей – Яўропа.

Другім цікавым месцам у хроніцы Бельскага з'яўляецца тое, што амазонкі зваліся *партамі*, і дапамагалі Троі супраць грэкаў. Пасьля таго, як я паказаў, што Троя (па-грэцку Іліён) з'яўляецца Эліяй Капіталінай, як зваўся Эль-Кудс, г.азн. палестынскі Ерусалім, легенда пра амазонак таксама павінна належаць да эпохі «крыжовых паходаў». А слова парты, ад грэцкага слова партэнас – дзяўчына, таго ж кораня, як і яна, Парфенія. І тут цалкам зразумела, што такую назву краіна атрымала не таму, каб там набіралася войска із дзяўчат, а дзякуючы нейкаму сугуччу. І вось яе размяшчэнне за вярхоўямі Еўфрата (старажытная назва, якога па-жыдоўску пішацца ФРТ ці ПРТ), кідае сьвятло і на ўсё астатняе. Пераход ад кораня ПРТ да грэцкага Партэнас цалкам натуральны, а разам з тым натуральна і каламбурнае ўзнікненне ў грэкаў уяўлення, што там ваююць дзяўчыны. Так утварылася легенда пра амазонак... Але гэты каламбур мог узнікнуць і ў Яўропе ад старажытнай назвы Ніжняга Дуная Прут (ПРТ).

Трэццяе цікавае месца гэта – паданне «гоцкага гісторыка Ярдана», што **готы перамаглі ягіпецкага цара, скарылі Пярэднюю Азію і распладзілі ваяўнічых дзяўчын (парт)**. Гэта зноў магчыма дапасаваць толькі ці да часу Крыжовых паходаў, калі готы, г.азн. франкі па-нашаму, сапраўды скарылі часова Ягіпет і Пярэднюю Азію і абвясьцілі жаночае раўнапраўе, ці, яшчэ лепш, тут ідзе гаворка пра заваяванне Ягіпта і Пярэдняй Азіі італамі пры Дыяклетыяне, пры гэтым, дзякуючы ўсходняму звычаю рабіць цьвёрдае прыдыханне над пярэдняй галоснай, із італаў утварыліся hital'ы і нарэшце хіты, хеты і, на поўначы, готы. Тады ў выніку атрымаецца, што царства готаў у Сярэднюю Яўропу прыйшло не са Скандавіі, а із Паўночнай Італіі, што геаграфічна нашмат больш праўдападобна: Ламбардыя размешчана якраз у надзвычай зручным месцы для аб'яднання Балканскай і Апенінскай паўвыспаў.

І вось у асобе хітаў-готаў мы прыходзім да пачатку той жа казкі пра ягіпецкага белага бычка. І цікава, што другі цар хітаў-італаў мае назву Маўра-сар, г.азн. Чорны цар, цэзар Нярон па-італійску, якога мы ўжо атаясамілі з Валентам

---

y Jordanes historykowie Gotscy o lym swiadcza) takze tu osiedli (naprzod nad Wisla gdzie ie tez kladzie Ptolomeus) zowiac ie Gitones. A ci walczyli z Henety y z Wandality przodki naszemi. Za nimi sie tez przywlekli do Aimerygow (gdzie dzis Pruska ziemia) Gepidy, ktore oni po Gotsku iako byl eniwe nazwali a ci tez iednegoz Gotskiego narodu z nimi byli. Potym oni Gotti rozrodziwszy sie tu v nas, z wodzem swym Philimirem ku Meockiemu iezioru w pola poszli a stamtad ku czarnemu morzu, y Dacyey, y Miszyey, y Tracyey, pomkneli sie. y stadze Daki, Miszy, Traces, Gety, te wszystkie za jedno historykowie mieli. Wiec tez drudzy na wschod slonca sie obrocili, tak jako to chce miec Jordanes, (co ma rozumiem z Ablaniusza) gdzie cokolwiek kiedy slawnego Tatarowie na swiecie vvezynili, to wszystko swym Gottom przypisuie to jest ze Krola Egiptskiego porazili, Azya sobie pod posluszenstwo podbili Party, Amazony, splodzili, (jakoszci Amazony Maszageckie to niewiasty byfy) y Troianom przeciw Grekom pomagali». (Kronika Polska, Marcina Bielskiego. Novo przez J. Bieskiego syna iego wydana, 1597. Дастаўлена мне Ў. Р. Мрочакам).

(363-378 гады нашай эры, якраз пры Васілю Вялікам, заснавальніку першапачатковага хрысьціянства).

Паглядзім жа зараз, што нам паведамляюць ягіпецкія іерогліфы пра гэты народ «хетаў», галаўныя ўборы якога знойдзены ў Кіеўскай губерніі і ў казакоў на Кубані.

Ягіпецкія надпісы называюць яго «вялікі народ» і яго краіну «вялікая зямля» не толькі за шырокія прасторы, але і за рыцарскія якасьці і адвагу, у чым іерагліфісты лічылі іх роўнымі сабе. «Яны мелі – выказваецца Бругш – першае месца ў хаўрусе абласьцей Пярэдняй Азіі. У іерагліфічных надпісах з павагай згадваюцца імёны іхных цароў і багаў».

Пры ўцараванні Рэ-Месы І іхным царом быў – кажуць нам – Сапрэр, сугучны з тым, каго ў Персіі звалі Сапарам (нарад. 309?, памёр 380?), заваяваўшага Арменію і Месапатамію і пад канец свайго жыцця пачаўшага перасьлед месіянцаў-хрысьціянаў. У такім разе Рэ-Месу І і Сапар ІІ налягаюць храналагічна якраз на Дыяклетыяна-Ліцынія і нават на Юльяна. Сапрэру ўспадкавалі згодна з іерогліфамі Маўра-сар, г.азн. цар маўр, а потым яго дзеці: Майтанар, ваяваўшы з ягіпцянамі, і Хета-сар (гоцкі цар), стаўшы хаўруснікам і цесьцем вялікага Рэ-Месу ІІ, які адпаведна з нашымі атаясамленнямі храналагічна налягае на Вялікага цара (Васіля Вялікага), даўшага падставу для міфаў пра Хрыста.

Згодна з агульнай характарыстыкай рэлігійных поглядаў пасьля Рэ-Месы І на чале хецкага пантэона стаялі ў той час Сутэх (Сэдэк, г.азн. пасьвечаны, па-грэцку Хрыстос[127]) і яго жонка Астарта-Анета, ездзіўшая па небу ў калясьніцы. Із гарадоў згадваюцца Тунец (у якім бачаць Дафну на рацэ Аронта, вышэй Антыёхіі), і горад Халіву (халіфа), лічымы за сучасны Алепа (Халеб у арабаў), на перавале із даліны Аронты ў даліну Еўфрата. Гэта яшчэ і зараз значнае месца складавання тавараў з паўтараста тысячамі жыхароў, галоўны горад Халебскага вілаета ў Сірыі. Там, згодна з іерогліфамі, існаваў храм, пасьвечаны Бэлу-Сутэху (Цэдэку-Юпітару, г.азн. Хрысту).

Краіна, дзе панавалі ў гэты час хеты, звалася Ка-ца-та-на, даволі сугучна, – як адзначаюць ягіптолагі, – з Гауцанітысам Пталямея (V, 18). Яе звычайна дапасуюць да Месапатаміі, без грунтоўных падставаў.

Аднак ягіпецкія надпісы малююць хетаў, як і старажытныя еўрапейскія малюнкі рымлянаў, паголенымі, а не з завітымі барадамі, як у месапатамцаў. Яны паказаны змагаючыміся збольшага на калясніцах, па тры чалавекі на кожнай, збольшага пешымі, размешчанымі ў правільным парадку. Яны згодна з іерогліфамі і іхнымі малюнкамі, узброены вельмі разнастайна, і іхнае добра наладжанае войска складалася перадусім із асноўнага нацыянальнага ядра пад назвай «абраныя», а потым са шляхетных вершнікаў (г.азн. рыцараў) і наёмнага, нават чужацкага, войска.

У «бітве пры Кадэце» (сугучна з Кадыксам у Андалузіі) паміж хетамі і візанта-ягіпцянамі пры Рэ-Месе-Міамуне 8 000 «абраных» хетаў стаялі ў першым шэрагу пад кіраваннем «Камайца» (сугучна з лацінскім comes – граф), а 9 000

[127] Што жыдоўскае Цэдэк на грэцкую мову перакладаецца як Хрыстос – без сумневаў. Наша слова «сьвяты» ці лацінскае sanctus азначае: той, якога пасьвяцілі (на храмавае «служэнне»), а па-грэцку гэта перакладаецца «хрыстос». Мы бачым із гэтага, што сьвятасць хрысьціянскіх сьвятых тлумачыцца не бязгрэшнасьцю іхнага жыцця, а здзяйсненнем над імі царкоўнага звычаю, які, як лічылася, рабіў іх несьмяротнымі, як багоў, для чаго і забяспечвалася ім захаванне цела з дапамогай муміфікавання, так каб здавалася, быццам бы сьвяты заснуў да часу запатрабавання багам-бацькам.

іншых суправаджалі цара. Іхныя калясьніцы ішлі пад правадырствам Таргапаса (Дарагапа?) і Пайса, а наёмнымі войскам кіраваў Таадар (Хвядор). Дакладна такжа і большасць іншых уласных імёнаў гэтага народа не семітычнага кораня, а грэка-рымскага. Мы бачым, што тут апісана такое ж знакамітае змаганне за гегемонію паміж Усходам і Захадам, як і ў Фукідыда пад час Пелапанэскай вайны, пры чытанні якой нават смешна і падумаць, што «магутная Спарта» тулілася ў горнай цясьніне Пелапанэса, дзе нічога не магло быць, акрамя вёсачкі!

Першы із цароў рэ-месіянскай дынастыі – Рэ-Месу I – вядомы толькі тым, што быў бацькай свайго знакамітага сына Мінэпту-Сэці I і яшчэ больш знакамітага ўнука Рэ-Месу II (табл. LXXVI, стар. 1047). Надпісаў і малюнкаў, маючых дачыненне да Мінэпту-Сэці I, шмат у Карнакскім храме-акадэміі. Знадворку паўночнага боку гэтага вялізнага будынка з 134 калонамі вялікай таўшчыні і вышыні знаходзяцца надпісы, паведамляючыя нам, што пад час першага ж года валадарання ён быў вымушаны пачаць вайну з народам шазу ў мясцовасьці Кап-ан («Ханаан»). Яны ўварваліся ў землі Мінэпту-Сэці і ён выступіў супраць іх. Ён пайшоў таксама супраць «ханаанскіх» луцінаў (лацінаў), перамагаючы іхных асобных князькоў аж да «вялікага ўмацавання Кадэс» (сугучна з Кадысам), захапіўшы якое, прайшоў і далей.

«*Ён перамог* – паведамляе выхвальваючыся адзін із надпісаў пад малюнкам – *качавыя народы*, *зрынуў на зямлю земляробчыя народы* (менты) *і паставіў сваю мяжу ад пачатку сьвету і да крайніх межаў зямлі Нахараін, якую атачае Вялікае Мора*»[128].

*Сьвятары і шляхта з поўдня і поўначы «Ягіпта»* – паведамляе надпіс пад іншым малюнкам – *прыбылі, каб усхваляць боскага дабрадзея пры вяртанні яго із зямлі рутэн* (латын) *з велічэзнай здабычай; нічога падобнага не бывала з часоў бога-Сонца.*

*Яны выказваюцца, усхваляючы цара так:*

*Ты вярнуўся із чужых зямель, якія перамог. Ты падняўся над ворагамі, якія* (зараз) *табе падначалены. Ды будзе працягвацца тваё царскае жыццё, як жыццё Сонца на небе! Ты астудзіў сваю мужнасць* (крывею) *дзевяці чужацкіх народаў. Сам сонечны бог вызначыў твае межы. Рука яго бараніла цябе, калі твая булава паднялася над галовамі ўсіх народаў, цары якіх упалі пад ударамі твайго мяча*».

Амаль уся паўночная сьцяна Карнакскага храма пакрыта такімі ж ілюстраванымі апавяданнямі пра вайсковыя справы Сэці I, які ваяваў таксама і з насельнікамі пустыні Барка на захад ад дэльты Нілу, меўшай у грэкаў назву Мармарыка.

«*Цар перамог іх*, – паведамляе надпіс пад адным малюнкам, – *стоячы на месцы. Яны не былі ў стане ад перапалоху трымаць свае лукі і сядзелі, схаваўшыся ў сваіх пячорах, баючыся цара*».

Мы бачым, што да таго часу, пакуль ягіпецкая гісторыя дапасуецца да дагістарычнага часу, пытанне пра хетаў немагчыма высветліць. А пры перанясенні падзей на пачатак сярэдневечча, яно адразу атрымлівае правільнае рашэнне. Яны самі сабой атаясамліваюцца з готамі. Хеты, іты (італы) і готы – адно і тое ж.

[128] Бругш, стар. 464 арыг.



Мал. 206.
У даліне Ніла.

# Глава III.
## Іерагліфічныя паданні пра Вялікага Цара-Месію.




Мал. 207.
Гліняная пласьцінка № 8519 у Каірскім музеі з апакаліптычнымі знакамі Альфа і Амега (А і ω) па баках.

Пасьля сьмерці Сэці I, пра якога паведамляецца, што «душа яго раптам узлясцела, як птушка, да неба богаў, каб там цешыцца лепшым існаваннем у сонечнай лодцы», яго сын Ра-Месу II стаў валадарыць аднаасобна. Яго поўны

тытул быў: Рэ-Усер-Ма Сатэп-ен-Рэ – Рэ-Месу Міамун-А-Іахту (пераможац). Храналагічна ён супадае з заснавальнікам хрысьціянскага набажэнства Васілём Вялікім, але як быццам бы шмат якія рысы ўзяты ў яго біяграфію ад яго суваладара Юльяна Філосафа, і таксама з дзейнасьці Юстыніяна Вялікага, паклаўшага пачатак таму, што мы называем рымскім правам».

Народным найменнем Рэ-Месу II было Сес, Сэтэсу і Сестура ператварыўшаяся пры перакладзе на грэцкую мову ў Сезастрыса ці ў Сатэра (Ратавальніка), героя і сусьветнага заваёўніка старажытных евангельскіх і іншых легендарных паданняў (мал. 208).

Колькасць помнікаў гэтага дзеяча, пакрываючых у выглядзе парэшткаў усю прастору Ягіпта і Нубіі і кожны дзень яшчэ выступаючыя на белы сьвет, такія шматлікія, што апісваючыя яго жыццё і здзясненні знаходзіцца ў неўразуменні, з чаго пачаць. Ён тут больш усяго нагадвае Езуса Навіна.

Храм Абідоса – выказваюць здагадку ягіптолагі – стаяў у гэты час напалову пабудаваным, і першым клопатам Рэ-Месу было давесьці пабудову да канца. У доўгім надпісе, на левым боку ад ўваходу, паведамляецца:

«*Стаў царом гаспадар гэтай зямлі* (Рэ-Месія?), *каб ушанаваць гонар свайго бацькі на працягу першга года, падчас першага ж свайго падарожжа ў Фівы* (якія праваліліся без следу пад ягіпецкую зямлю, і якія пазней вынырнулі із мора ў Грэцыі). *«Ён загадаў выляпіць выявы свайго бацькі, – гэта быў цар Сэці, – адну ў Фівах, другую ў Мемфісе* (таксама недзе знікшым) *каля брамы, якую ён пабудаваў для сябе, акрамя тых якія знаходзіліся ў Ніфуры, у Абідосе, у Горадзе памёршых. Так выканаў ён жаданне, якое хвалявала яго сэрца з тых часоў, як знаходзіўся ён на зямлі, на глебе бога Ун-Нафера. Ён аднавіў памяць пра свайго бацьку і пра тых, якія спачываюць з ім у падземным сьвеце, вымусіўшы зноў ажыць яго імя, загадаўшы зрабіць яго выявы, вызначыў падаткі, прызначаныя для яго высокашануемай асобы, і каштоўна надарыўшы яго ахвярнікі. Было перароблена* (каменем), *што разбурылася ў яго шануемай сядзібе, былі пабудаваны палаты ў яго храме, пакрыты яго сьцены, адноўлена ўваходзячая брама; зноў адноўлена было тое, што прыйшло ў разбурэнне на мясцовасьці яго бацькі ў Горадзе памёршых, і ўсё, што было вынесена зноў пастаўлена ўсядзіну*»[129].

*У адзін із гэтых дзён, пад час 1-га года і 23-ага дня месяца Атыра, пры вяртанні пасьля заканчэння сяточнага падарожжа ўгару* (па Нілу), *ён* (цар) *выехаў із «Фіваў», адораны магутнасьцю і моцнасьцю Амонам і Тумам. Яны яму даравалі ўзнагароду* ***незлічонай колькасцю гадоў*** (валадарання), ***нават да заканчэння часу існавання Сонца на небе.***

[129] Бругш. стар. 479 арыг.



Мал. 208.
Рэчаісны Езус Хрыстос. Муміфікаваны труп Вялікага цара-Месіі (Рэ-Месу Міамуна), г.азн. евангельскага Хрыста, які захоўваецца зараз у Каірскім музеі ў Ягіпце. Малюнак мастака Я. г. Чахрова (з натуры).

«*Ён падняў сваю руку, у якой знаходзілася кадыльня, да сьветавога нябеснага кола Жывога бога. Падарунак яго прынашэння быў бліскучым, ён быў прыняты прыхільна ва ўсіх яго...* (далей сьцёрта).

*Каб бачыць свайго бацьку* (г.азн. Сэта), *загадаў цар стырнікам заехаць у канал Ні-Фура* (г.азн. Абідоса) *з намерам прынесьці ахвяру дабрадзейнаму богу Ун-Наферу* (г.азн. Адзінаму*), і каб ушанаваць боскасць брата яго Анх-Ура* (ягіпецкі Крыжацкі Марс), *сына Рэ, у горадзе* (імя сьцёрта), *у якім ён знаходзіцца.*



Мал. 209.
Копцкая сярэднявечная выява хрысьціянскага крыжа той жа самай ключападобнай формы, якую мы бачым у руках фігур, намаляваных на сьценах ягіпецкіх храмаў палічаных аўтарамі Эпохі Адраджэння за далёка дахрысьціянскія. Гліняная плітка № 8565 даўжынёю 46 см. (із калекцыі «Erment» pl. XXIX).

«*Там знайшоў ён грабнічныя палаты і магільні ранейшых цароў, што знаходзяцца ў Абідосе, блізкімі да разбурэння. Ад самага падмурку да даху гэтыя месцы выявіліся струхлелымі, камяні былі выдраны із зямлі, сьцены ляжалі ў разбурэнні на дарозе, ніводная цагліна не трымалася на месцы. Палата «Новага нараджэння» ляжала ў кучы парэшткаў, нічога не было выбудавана для бацькі яго сынам, якога абавязак быў захаваць усё гэта з тых часоў, як уласнік* (магільні) *паляцеў на неба. Ніводзін сын не аднавіў помнік свайго бацькі, спачываючага ў магільні.*

*Там быў храм Сэці. Калі ён увайшоў у царства неба, будаваліся разам як перэдняя, так і задняя частка пабудовы. Але не скончаны быў яго помнік, не пастаўлены былі калоны на іхныя пастаменты. Статуя яго ляжала на зямлі і не была зроблена адпаведна з законнымі памерамі залатой палаты. Прыбыткаў храму не хапала* (для жыцця жрацоў). *Служкі храма без розбору бралі, што прыносілася з палетак, межы якіх не былі пазначаны на зямлі*» (Бругш, стар. 480 арыг.).



Мал. 210.
Грэцкая сярэднявечная выява хрысьціянскіх крыжоў той жа формы, як і пад час іерагліфічнага перыяда Ягіпта, але ад імя Ануфрыя, праваслаўнага прасвітара (ОННОФРІОС ПРЕСВУТЕРОС КАФЛІК ЕКК ПАРФЭ НОС АКРАЕТЕЕVTHС МАКОРН КН ЦІС ЕЎШЫДОМНСІНА). Із калекцыі «Erment» р. I.

*Цар дае загад набліжанаму царадворцу: «скажы, каб пакліканы былі князі, улюбёнцы цара, кіраўнікі ахоўваючай варты, колькі іх ёсць, і майстры будаўнічых прац адпаведна з іхным лікам, і перадстаяцелі сядзібы кніжных скруткаў». Калі яны былі дапушчаны да цара, насы іх дакраналіся да зямлі і ногі іхныя ляжалі на зямлі ад радасьці. Яны ўпалі ніц і падымалі свае рукі да цара. Яны славілі яго, боскага дабрадзея, і ухвалялі яго міласьці ў яго прысутнасьці:*

*– Мы прыйшлі да цябе, валадар неба і зямлі, сонца, жыццё ўсяго сьвету, бог часу,* ***вымяральнік сонечнай плыні****, бог дабрабыту, ствaральнік жніва, вырабляючы і фармiруючы сьмяротных, раздаючы дыханне жыцця ўсім людзям, ажывальнік процьмы богаў, слуп неба, падстава зямлі, трымаючы шалі раўнавагі абодвух сусьветаў, бог шматлікіх дарункаў, памнажальнік зерня каля ног якога знаходзіцца Ранэн* (ягіпецкая Цэрэра), *ствaральнік вялікіх, ствaральнік малых, выказванні якога ўтрымліваюць самую цудоўную паўнату ведаў, не спячы, калі іншыя людзі спяць, магутнасць якога ахоўвае варту, перамогшы чужакоў, вярнуўшыся з перамогай, рука якога бароніць ягіпцянаў, падтрымліваючы праўдзівы суд, у якім ён жыве законамі сваімі; гасподзь Зямля, заможны гадамі, пераможны страх якога ўразіў чужакоў; ты наш гасподзь, наша Сонца, словам якога, із вуснаў тваіх выходзячым, жыве Тум. Мы ўсе зараз перад табой. Падары нам жыццё із тваіх рук, сутэн, і дыханне для нашых ноздраў. Ды жывуць усе людзі, для якіх узышоў ты* (як Сонца)[130].

[130] Бругш, 481 арыг.

*А цар ім адказаў, пасьля некаторага часу маўчання:*

*– Я загадаў вас паклікаць для прыняцця рашэння. Я бачыў сядзібы Горада Памёршых, магільні Абідоса. Пабудовы маюць патрэбу ў выпраўленні ад часу іхнай пабудовы да гэтага дня. Калі сын заступаў на месца свайго бацькі, не аднаўляў ён помніка свайго бацькі. Я ўзважыў у розуме сваім цудоўную нагоду да добрай справы на будучыя часы. Бачыць самае прыгожае, чуць лепшае – з'яўляецца прыналежнасьцю сына з удзячным сэрцам, б'ючымся павагай да свайго бацькі. Вось чаму падштурхоўвае мяне маё сэрца зрабіць дабро для Мінепты* (г.азн. Сэці). *Я прымушу вечна памятаць пра яго сына, вярнуўшага да жыцця яго імя. Узнагародзіць мяне бацька мой, Азірыс, доўгім існаваннем, падобным сыну яго Горусу. Я раблю тое, што рабіў ён* (Гор), *і ды буду я цудоўным у стаўленні да майго бацькі, як ён сам быў цудоўны, таму што я атажылак сонечнага бога Рэ. Ды напішацца на помніку маё імя разам з імем майго бацькі»*[131].

*Шануючыя цара сказалі ў адказ свайму боскаму дабрадзею:*

*– Ты сонечны бог. Тваё цела з'яўляецца яго целам, ніводзін цар не можа параўнацца з табой, ты адзін – як сын Азірыса. Не бачыла маці Ізіда такога цара з часоў Сонечнага бога, акрамя цябе і сына яе Горуса. Тое, што ты зрабіў, больш таго, што ён зрабіў, калі ён панаваў царом пасьля Азірыса. Законы краіны ідуць наперад у сваім існаванні. Ніхто не рабіў Горусавых спраў для свайго бацькі да гэтага дня, акрамя цябе, о, цар, о, шануемы! Ты выканаў больш, чым патрэбна было зрабіць. Ніякая нагода да дабра не далёкая ад цябе. Такі, як ты, ды будзе нашым кіраўніком! Ці не было тое, што здарылася, нагодай да разважання і ці не паказала табе шлях? Тваё сэрца літасьцівае да твайго бацькі, цара Сэці, бацькі Боскага, нябеснаму Мінэпце*[132]. *З часу Рэ, з той пары, як валадараць цары, няма хто б мог параўнацца з табой. Слаўны твой справядлівы розум.*

---

[131] Бругш, стар. 481-482 арыг.

[132] Бругш, стар. 484 арыг.



Мал. 211
Статуя ягіпецкай багіні. У яе левай руцэ копцкі крыж з вушкам – сімвал ажывання да вечнага жыцця (Эрмітаж).



Мал. 212.
Крыж з вушкам у руцэ багіні, пададзены асобна. Фатаграфічны здымак са статуі ў Эрмітажы.

*Ён дасягае нябесных вышынь. Твая мудрасць падабаецца сонечнаму богу Рэ. Тум поўны прыхільнасьці. Ун-Нафер радуецца пра твае справы, о цар! Ён кажа: Любы мой сын, ды будуць табе дадзены доўгія гады неба, магутнасць богаў, таямніца Бога Бездані на ўвесь час, пакуль ты будзеш знаходзіцца на Зямлі, як аблічча Сонца.*



Мал. 213.
Надмагільная пліта пад № 1092 асноўнага збору нашага Дзяржаўнага Эрмітажа. Налева памёршы на імя Бутэ-Рэ стаіць перад «царом-Горам абодвух гарызонтаў» (Рэ-Гор-Яхуці). У апошняга над галавой сонечны дыск, у левай руцэ кій-скіпетр, як у планет на ягіпецкіх гараскопах, а ў правай крыж – знак вечнага жыцця, таго ж выгляду, як і на сярэднявечных копцкіх хрысьціянскіх выявах. Зверху надпіс: «цар Гор абодвух гарызонтаў, вялікі бог, валадар неба», а далей малітва: «Хвала цару пры яго ўзыходзе над гарызонтам нябеснага Ўсходу ад Бутэ-Рэ, уладальніка махала, кіраўніка галер рода Атона» (Аданая, г.азн. госпада).

*– Закранута сэрца Мінэпты* (г.азн. Сэці), *імя яго зараз жыве зноў. Ты загадаў зрабіць яго із золата і каштоўных камянёў і паставіць яго са срэбра. Яго храм ты пабудаваў нанова на сваё імя і* (на імя) *усіх цароў, якія знаходзяцца на небе і палаты якіх патрабуюць выпраўлення. Ніводзін сын не зрабіў таго, што ты зрабіў з часу Рэ да сённяшняга дня*[133]*. Такім чынам, стварай! Аднаўляй багам помнік за помнікам. За тое загадае твой бацька Рэ, каб прагучала тваё імя па ўсіх землях, пачынаючы ад краіны Хапці-Хон-Нафер, на поўдні, а на поўначы ад берагоў мора да народаў рутэн* (латын).

[133] Брутш, стар. 485 арыг.

*Пра цябе распавядаюць селішчы чужакоў, і мястэчкі, належачыя цару, добра ахоўваемыя, і гарады, напоўненыя жыхарамі. Ты, як бог для кожнага; яны ўстаюць і прыносяць табе каджэнні. Так, згодна з воляй твайго бацькі Тума, хваляць цябе і «Чорная зямля»* (г.азн. Афрыка) *і «Чырвоная зямля»* (Яўропа?).

*Пасьля таго цар загадаў майстрам будаўнічага мастацтва пачаць працы і выправіў муляраў і апрацоўшчыкаў каменя з дапамогай разца, і малявальшчыкаў, і ўсе цэхі мастакоў для таго, каб будаваць свяцілішча свайму бацьку, каб аднавіць, што разбурылася ў Горадзе памёршых і ў храме свайго бацькі, які знаходзіцца паміж нябожчыкамі*».

Вось малітва цара Рэ-Месы (ІІ):

– «*Прачніся, паднімі твар твой да неба, зірні на Сонца, бацька мой Міне-Пта! Ты спачываеш у бездані падобна Азірысу тым часам як я валадару, як Рэ, пасярод людзей і валодаю вялікім пасадам Тума, як Гор, сын Ізіды, абарона свайго бацькі. Выдатна тое, што я табе зрабіў.*

*– Ты пачынаеш другое існаванне, і я загадаў ізваяць цябе. Я пабудаваў тваю сядзібу, якую ты шанаваў і ў якой стаіць твая выява, навечна, у мясцовасьці памёршых у Абідосе... Задаволена павінна быць тваё сэрца. Лепшае ды будзе зроблена для твайго імя. Я пастаўляю пры табе сьвятароў асьвечанай вады, забяспечаных усім, каб крапіць вадой на зямлю паплеч ядзення і піцця. Я сам, я сам прыйшоў, каб бачыць твой храм пры храме Ун-Нафера, вечнага цара. Я клапаціўся пра яго пабудову? Я апрануў сьцены, я зрабіў, што ты жадаў, і ды будзе зроблена так усяму твайму роду. Я паставіў у ёй тваё імя на вечнасць. Ды здзейсніцца гэта ў праўдзе, ды атрымаецца гэта згодна з пісаннем... Я адорваў тваю срэбную палату, яна мае шматлікія скарбы, дарагія сэрцу, і я прызначыў для цябе даніну. Я прысьвячаў табе караблі з іхных грузам на вялікім моры, якія вязуць табе цудоўныя творы Святой зямлі*[134]. *Купцы вядуць свой гандаль яе таварамі і вырабамі, золатам, срэбрам і меддзю. Я замацаваў за табой колькасць палёў для патрэб твайго храма*».



Мал. 214.

[134] Г. азн. Пунта.

Вялікі цар-Месія (Рэ-Меса Міамун) бічуе сваіх ворагаў. Аўтар Апакаліпсіса (гараскапіст) з крыжам у левай руцэ падае яму нож. У яго арліная галава (знакам яго лічыўся арол, з якім ён і малюецца на хрысьціянскіх малюнках), а на галаве Сонца, абвітае змеем, у знак таго, што ён першы ўсталяваў драканічны месяц, у апошні дзень якога бываюць сонечныя зацьменні (вузлы экліптыкі і планетных арбіт да гэтага часу пазначаюцца знакам змея ☊). Крыж у гараскапіста з вушкам для падвешвання, як у нагрудных крыжоў.

– «*Ты зайшоў у царства неба, ты суправаджаеш бога Рэ, ты злучыўся з зоркамі і Месяцам. Ты спачываеш у глыбіні, як тыя, якія знаходзяцца ў ёй, пры Ун-Наферы вечным. Рукі твае вядуць бога Тума на небе і на зямлі, як рухомыя і нерухомыя зоркі. Ты знаходзішся ў пярэдняй частцы лодкі мільёнаў* (зорак). *Ці ўзыходзіць Сонца на шацёр неба, твае вочы бачаць яго славу. Ці ідзе Тум* (вечаровае Сонца) *да зямлі, і ты ў яго сьвіце. Ты завахoдзіш у таемную сядзібу, ідзеш перад сваім гаспадаром. Нага твая ўступае ў бездань, і ты, пасьля гэтага, знаходзішся ў атачэнні богаў падземнага сьвету.*

*– Я прашу сабе дыхання пры тваім абуджэнні, ты хвалебны! Я ўсхваляю* ***твае шматлікія імёны*** *дзень за днём, таму што я шаную майго бацьку. Учыннасць твая кіруе мной. Пакуль я знаходжуся на зямлі, я буду здзяйсняць табе ахвяраванні. Рука мая панясе дарункі для памятання твайго імя ва ўсе мясцовасьці, табе прысвечаныя.*



Мал. 215.
Верхняя частка стэлы, захоўваемай у Дзяржаўным Эрмітажы (№ 31 каталога В. В. Струвэ). Направа сядзіць вартавы раю Анубіс на пасадзе, у яго левай руцэ кій-скіпетр, як у планет на ягіпецкіх Задыяках, а ў правай – крыж, знак вечнага жыцця, цалкам такіж, як у сярэднявечных ягіпецкіх коптаў-хрысьціянаў. Перад Анубісам – ахвярнік і сьвятар, здзяйсняючы ўзліванне. Іерагліфічны надпіс справа: Анубіс «кіраўнік боскай залы, валадар выдатнай краіны, вялікі сьвяты валадар Захаду» (апостал Пятро?). Тэль-Амарнская школа (Псеўда-восемнаддатая дынастыя).

– «*Такім чынам, скажы Рэ, каб ён падараваў доўгія дні жыцця мне, твайму сыну, і скажы Ун-Наферу з поўным шанавання сэрцам, каб ён памножыў мне час на час разам з трыццацігадовымі юбілейнымі сьвятамі цару Рэ-Месу. Добра будзе табе, калі я буду царом доўгі час, таму што ты будзеш ушаноўваемы мной, тваім добрым сынам, памятаючым пра бацьку. Я буду вартавым і абаронцай твайму храму дзень за днём, а ў дачыненні да патрэб твайго ўшанавання буду клапаціцца пра кожны прадмет. Калі я пачую пра нейкую шкоду, пагражаючую табе, то я загадаю зараз жа адхіліць яе рознымі захадамі. Цябе будуць шанаваць, як калі б ты быў яшчэ жывым. Як бы доўга я ні валадарыў, маё вока будзе накіравана на твой храм. Сэрца маё б'ецца для цябе, я буду абаронцай гонару твайго імя.*

– *Хаця ты і знаходзішся ў глыбіні, але самае лепшае будзе тваім, пакуль я застаюся царом, о Рэ-Месу*!»[135].

[135] Бругш, стар. 489 арыгін.



Мал. 216.

Стэла Саіскай школы з тыповай выявай сузор'я Цяляці (Апіса ягіпцянаў), паміж рагамі якога – Сонца, як яно малявалася на сярэднявечных астралагічных мапах у якасьці пазначэння таго, што пры ўступленні Сонца ў гэтае месца неба (у траўні) пачынаецца лета. Перад цялём – ахвярнік і надпіс: «належачы свайму бацьку сын, дадзены богам». А ніжэй у 4 слупках, пачынаючы справа: «шануемы Азірысам – жыццё (крыж) дзіцё Цяляці, – народжаны Валадаркай сядзібы Світанку – шануемы Азірысам. Выдатна сэрца цара Валадара Ўзыходу!». Тут копцкі крыж служыць знакам жыцця, хаця гэтая стэла дапасуецца артадаксальнымі ягіптолагамі да перыяду за шмат соцень гадоў «да нараджэння Хрыстова». (Асноўны збор стэл Дзяржаўнага Эрмітажа, № 1096).

Далей паведамляецца, што дух памёршага цара Сэці выйшаў із падземнага сьвету і адказаў на прамову Рэ-Месы, кажучы, што яму будзе доляй усякае шчасьце, слава, здароўе і радасць, і ўсё, што ён пажадае, асабліва доўгае жыццё, вымяраемае шматлікімі трыццацігадовымі юбілеямі.

Але, чытач! Калі тут ужо прыведзены і адказ Рэ-Мессе з таго сьвету, то даводзіцца зрабіць выснову, што гэты надпіс ніяк немагчыма лічыць за гістарычны дакумент часоў самога Месы. Гэта ўжо ўзор старажытнага складальніцтва, зародак гістарычных былін, напісаных, магчыма, ужо праз некалькі стагоддзяў. Тое ж самае можна сказаць і адносна ўсіх іншых падобных апавяданняў, хаця бы яны і знаходзіліся на сьценах ягіпецкіх, а не нашых, храмаў.

Рамзэс II – кажуць нам – закончыў храм у Абідосе толькі на прыканцы свайго доўгага валадарання, ужо ў старасьці, таму што на яго ўваходных варотах мы бачым выявы не менш за шэсцьдзесят яго ўласных сыноў і пяцідзесяці дзевяці дачок. Але хіба гэта доказ таго, што будаваў ён?

Цікава, што ў некаторых надпісах найменне Сэці выскрабена і заменена Рэ-Месай, як быццам абодва былі адной асобай.

Вайна – паведамляюць нам далей іерогліфы – узнікла паміж Ягіптам і зямлёй Хіта. Цар Хітаў (готаў) паклікаў сваіх хаўруснікаў, каб супрацьстаяць «Ягіпту». У ліку іх (акрамя гоцкіх князёў з'яўляюцца цары і народы: Арату (Арад), Хіліву (Халіф), Нахараін, Кацаудана, Малупа, Підаза, Лека, Дардані, Масу, Керкеш ці Кешкеш, Кір-Камош, Акерыт, Апау-Гас, Мушанат, якія названы: «народамі із аддаленых канцоў мора да зямлі Хіта».

Скульптар намаляваў на камені паглыбленым малюнкам на тых жа сьценах, на якіх напісана і апавяданне, розныя выявы: паход ваяроў, бітву пры Кадэшы, штурм умацавання, паразу ворагаў, лагернае жыццё ягіпцянаў і таму падобнае. Усе малюнкі зроблены па-майстэрску, так што гэтыя выявы паведамляюць гледачу жывей чым якое б то ні было моўнае апісанне сутнасць справы, злучаючы яе з незвычайнай разнастайнасьцю падрабязнасьцей і з багаццем зместу.

«Вось – распавядае Бругш – у стане «ягіпцянаў», наладжаным чатырохкутнікам і абнесеным сьцяной із пастаўленых шэрагам шчытоў, мы бачым лагернае жыццё ваяроў і багажных служак, якія ляжаць на адпачынку побач з цюкамі і іншымі рэчамі, патрэбнымі пры далёкім паходзе. Паміж усімі гэтымі купкамі бегаюць клуначныя аслы, і пасярод іх ходзіць ўлюбёнец цара – ручны леў, якога мы часта сустракаем і на іншых выявах. Шацёр цара размешчаны пасярэдзіне лагера, і побач з ім пераноснае свяцілішча вялікіх богаў той краіны. Над выявай надпіс: «Гэта першы легіён Амона, даючага перамогі цару Рэ-месе». Сутэн пры легіёне, які заняты пабудовай лагера.

Вось недалёка ад гэтай выявы, сутэн сядзіць на пасадзе і аддае патрэбныя загады асобам, суправаджаючым яго. «Ягіпцяне» цягнуць двух чужакоў, пра якіх надпіс узбоч паведамляе:



Мал. 217.
Вялікі цар Месія (Рэ-Месу Міамун) разам з трыма сваімі сынамі абложвае нагорнае ўмацаванне.

«Гэта вяртанне выпраўленных сутэнам выведнікаў. Яны вядуць двух шпегаў народу Хіта да султана. Іх б'юць, каб яны паведамілі сведчанні, дзе знаходзіцца цар Хіта»[136].

Далей мы бачым, як вайсковыя калясьніцы і пешыя ваяры праходзяць у стройным парадку перад царом. Паміж імі подпісы: «легіёны Амона, Пта, Фра Сутэха», адкуль даведваемся, што асобныя часткі войска Рэ-Месі часьцей усяго мелі назвы адпавядаючыя багам. Мы бачым тут і наёмныя войска сарданаў із Калхіды, тонкае палатно якіх было ў старажытнасьці вядома пад найменнем сарданіскага. Яны асабліва вылучаюцца сваімі шлемамі з рагамі і шарам, доўгімі мячамі і круглымі шчытамі на левай руцэ, тым часам як правая трымае дзіду.

На тых жа выявах мы бачым і войска народа Хіта і яго хаўруснікаў. Першае намалявана ў больш стройным парадку, чым войска хаўрысных Хіту 45 народаў. Маляр паспрабаваў выразна перадаць асаблівасьці адзення і ўзбраення кожнага племені. Ханаанскія народы рэзка адрозніваюцца ад сяброўскіх ім народаў, маючы на галовах род цюрбанаў накшталт тых, якія і ў наш час носяць персіяне. Узбраенне гэтых супернікаў Рэ-Месы складаецца із кароткіх мячоў, дзідаў і лукаў са стрэламі. «Адборнае» войска, маючае назву Тухір, знаходзіцца пры асобе цара. Да гэтых «абраных» належаць і пращнікі, знаходзячыяся ў непасрэднай блізкасьці да цара.

[136] Бругш, стар. 494 арыг.

Вельмі разнастайная падрабязнасьцямі выява, малюючая бітву калясніц перад Кадэшам. Пасярэдзіне намалявана (непрапарцыйна з іншымі) гіганцкая фігура Рэ-Месы на калясніцы пасярод непрыяцельскіх. Сын яго, адважны Прахіунаміф, вядзе на іх атаку, і яго браты таксама бяруць удзел у бітве. Калясніцы хетаў з іхнымі ваярамі перакулены ў раку; у ліку іх знаходзіцца і цар Хіліў (г.азн. вядомы ўжо і каліф) якога яго ваяры выцягнулі з вады і спрабуюць вярнуць да жыцця, нягледзячы на працягваючуся навакол бітву. З боку надпіс: «гэта цар Хіліву. Ваяры трымаюць яго галавой ўніз, пасьля таго як сутэн скінуў яго ў ваду». Сама бітва апісваецца такім чынам у маленькім бакавым надпісе:

«*Пасьля таго як цар зрабіў прыпынак, ён размясьціўся на паўночны-захад ад горада Кадэш. Ён дайшоў да непрыяцельскага войска Хіта, быдучы цалкам адзін, нікога не было каля яго. Яго атачылі тысячы і сотні парных калясніц ва ўсіх накірунках. Ён забіваў іх кучамі перад сваімі коньмі, ён забіў цароў усіх народаў, хаўрусных* (цару) *Хіта разам з яго князямі і старшынамі, і ваярамі і коньмі. Ён перакінуў іх праз галаву, аднаго за другім у ваду Аронта*»[137].

Непрыязныя хіты выказваюцца, хвалячы боскасць дабрадзея:

– *Дай нам дыханне із рук тваіх, о добры цар! Дазволь нам ляжаць каля тваіх ног! Жах перад табой адкрыў табе краіну Хіта. Мы як жарабяты, дрыжачыя ад перапалоху, пры выглядзе лютага ільва*»[138].

На сьценах шмат якіх іншых храмаў напісаны такія ж паданні пра гэтую падзею, але ў форме, яшчэ больш насычанай паэтычнымі перабольшваннямі.

Вось самае ўмеранае із іх:

«*Пад час году V, месяца Епіфіі, на 9-ы дзень пры валадаранні Ра-Месу II, знаходзіўся сутэн у зямлі Цахі, у другім сваім паходзе. Добрая царская ахова ў стане сутэна была на вышыні, на поўдзень ад горада Кадэша. Сутэн выйшаў, як толькі ўзышло Сонца, і ўсклаў на сябе вайсковы ўбор свайго бацькі Манту. Ён пайшоў уніз на поўдзень ад горада Шабатун. Яму тут сустрэліся два шазу, каб казаць так*:

– *Мы браты і належым да старшынь племені Шазу, знаходзячагася пад уладай цара Хіта. Яны загадалі нам ісьці да сутэна і сказаць яму: «мы жадаем быць служкамі рода сутэна і аддзяліцца ад цара хітаў. Але зараз цар Хіта сядзіць у зямлі Хіліву на поўнач ад Тунепа, таму што баіцца сутэна, і не адважваецца ісьці наперад*.

«*Так паведамілі два Шазу. Але словы іх былі хлуснёй. Гэта цар Хітаў выправіў іх выведаць, дзе знаходзіцца сутэн. Таму што цар Хітаў прыйшоў з царамі ўсіх народаў, з коньмі і вершнікамі, якіх ён прывёў з сабой ў вялікай колькасьці, і яны стаялі напагатове ў засадзе, ззаду дрэннага горада Кадэша. Сутэн не зразумеў сэнсу іхных слоў. Ён пайшоў далей уніз і прыйшоў у мясцовасць, на паўночны захад ад Кадэша, дзе аддаўся адпачынку на залатым* (?!) *ложку. Тады прыбылі выведнікі, належаўшыя да яго ўласных служак, і прывялі з сабой двух выведнікаў цара Хетаў.*

– *Хто вы такія?*

– *Мы належым цару хетаў, – адказалі яны, – які выправіў нас, каб выглядзець, дзе знаходзіцца сутэн.*

*Сутэн сказаў:*

– *А дзе знаходзіцца цар Хіта? Я чуў, што ён знаходзіцца ў зямлі Халіву.*

*Яны адказалі:*

– *Не, паглядзі сам. Цар хетаў стаіць тут і з ім шмат народу. Ён прывёў іх з сабой ў вялікай колькасці з усіх краін, размешчаных у межах зямлі Хіта, зямлі Нахараін* (двухрэчча) *і ўсяго Зямнога Кола. Яны забяспечаны вершнікамі і коньмі, вязучымі*

---

[137] Бругш, стар. 495 арыг.

[138] Бругш, стар. 496 арыг.

*вайсковае начыненне, і іх больш чым пяску марскога. Глядзі, яны стаяць там – у засадзе, каб біцца з табой ззаду дрэннага горада Кадэша.*

*Сутэн загадаў паклікаць сваіх князёў і сказаў атачаючым:*

– *Паглядзіце на мудрасць маіх намесьнікаў і князёў! Кожны дзень яны казалі мне: «цар Хетаў у зямлі Халіву, ён збег ад нашага сутэна, як толькі пачуў, што ён прыйдзе». А зараз паслухайце гэтых двух выведнікаў. Яны паведамляюць, што цар Хітаў прыбыў са шматлікім народам, які ў яго з коньмі і вершнікамі, шматлікімі, як пясок, і што яны стаяць там, за дрэнным горадам Кадэшам. Як здарылася, што пра гэта нічога не ведалі мае намеснікі і князі, якім перададзены землі сутэнскага рода?*

*Загаварылі князі, быўшыя перад сутэнам:*

– *Вялікай з’яўляецца правіна, якую здзейснілі мы намеснікі і князі рода сутэна, таму што не загадалі выведаць, дзе знаходзіцца цар Хітаў, і кожны дзень паведамляць сутэну.*

*Тады было даручана аднаму кіраўніку паспешна прывесьці сюды царова войска із краіны на поўдзень ад Шабатуна. А тым часам цар Хітаў са шматлікімі народамі, што былі ў яго, разам з вершнікамі і коньмі перайшоў яр на поўдзень ад горада Кадэша, і кінуўся на войска сутэна, якое рухалася, не маючы пра тое ніякіх паведамленняў. Было пабіта войска і коні сутэна на шляху ўніз ад таго месца, дзе знаходзіўся цар. Атачыла яго непрыяцельская процьма, належаўшая цару Хітаў, атачыла суправаджаючых, якія былі пры ім. Калі пабачыў гэта сутэн, ён прыйшоў у лютасць супраць іх і зрабіўся падобным на свайго бацьку Манту. Ён усклаў на сябе ваярскі ўбор, узяў сваё ўзбраенне і з'явіўся як гасподзь бог у свой час. Ён узышоў на калясніцу і паскараў свой хуткі бег. Ён быў цалкам адзін. Ён кінуўся ў сярэдзіну непрыяцельскай процьмы цара хітаў і шматлікага народу, быўшага з ім. І сутэн, падобна богу Сутэху* (сьвятому), *вялікаму славай, біў і забіваў іх.*

І ўсё заканчваецца славамі самога Рэ-Месіі, падобнага на Езуса Навіна, але так мала падобнага на створанага із яго пазьней евангельскага Хрыста:

– «*І я цар, перакідаў іх цераз галаву аднаго за другім у ваду Аронта. Я ўтаймаваў увесь гэты народ і аднак быў адзін, мяне пакінулі мае ваяры і мае змагары на калясніцах. Ніхто із іх не дапамагаў мне. Цар Хіта падняў свае рукі, каб узмаліцца перад мной. Я клянуся, што гэта такая ж праўда, як і тое, што мяне шануе сонечны бог. І ты, мой бацька, бог Тум, так жа праўдзіва блаславі мяне і ўсе здзяйсненні, якія я, цар, тут паведаміў і якія я сапраўды здзейсніў перад маімі ваярамі і маімі змагарамі на калясніцах*».

Ягіпецкі паэт Пентаўр напісаў пра гэтую падзею нават цэлую геаічную паэму, якую я перадаю далей. Той факт, што яго паэма размешчана на сьценах храма, служыць доказам, што яна была прызнана сучаснікамі паэта за выдатны твор[139].

Але нават і новы час не мажа не ўхваліць яго твор.

«Мы – выказваецца пра яго Бругш, – грунтуючыся нават на перакладзе маем магчымасць пераканацца ў тым, што мова майсеевых паданняў роднасная ўзорам і выказванням ягіпецкай гаворкі».

І ён тлумачыць гэта так:

«Жывучы побач, у адной сферы думак, прадстаўнікі жывога чалавечага духу неабходна павінны былі прыйсьці да падобных выказванняў».

А з нашага боку гледжання справа выглядае яшчэ прасьцей: гэта былі дзьве родныя часткі той жа самай дзяржавы.

Вось і яшчэ паданне пра Рэ-Месу Вялікага, налягаючага адразу і на Хвядоса Вялікага, і на «Вялікага цара» ў «Жыціях сьвятых». Але тут пра яго паведамляецца

---

[139] Яна перакладзена ў Бругша на стр. 501-513, а я яе размяшчаю далей з нагоды вялікага памеру, асобна.

нам такой мовай, якой можна выказвацца толькі хіба што пра евангельскага Хрыста.

«*Мяне выхоўваў* – выказваецца складзены ад яго імя Абідоскі надпіс – *і гадаваў сам Бог Усяго*». «*Я быў яшчэ хлопчыкам, калі ён перадаў мне зямлю. Я быў яшчэ* ***ва ўлонні маці*** **(!!)*, калі мне кланяліся паважна вялікія.*** *Я быў урачыста ўзведзены, як старэйшы сын, у сан спадкаемцы пасада на сядалішча Сева* (Саваофа), *бога зямлі. І я аддаваў загады, як кіраўнік целаахоўнікаў і каляснічных ваяроў, калі бацька мой публічна паказваўся народу, а я, як хлопчык, сядзеў на яго каленах, і ён паведамляў усім:*

*– Я буду вянчаць яго царом, таму што я жадаю бачыць яго славу, пакуль я яшчэ жывы... Ускладзіце на яго чало царскі вянок. Ды наладзіць ён парадак на зямлі, ды адновіць тое, што разбурылася. Ды будзе ён клапаціцца пра жыхароў.*

*Так выказваўся мой бацька, з добрым пачуццём, ад вялікага шанавання да мяне. Ён пакінуў мяне ў сядзібе жанчын і царскіх наложніц, як* (пакідаюць) *дзяўчынак. Ён выбраў для мяне дзяўчын, із насіўшых скураныя карсеты*»[140].

У іншым надпісе зноў згадваецца пра яго ранняе пасьвячэнне на царства. Невядомы аўтар паведамляе:

«*Ты быў Аданаем гэтай зямлі і дзейнічаў мудра, яшчэ знаходзячыся ў зародку* (!). *Пры тваім дзяцінстве рабілася тое, што ты загадваў для дабра краіны. І калі ты быў хлопчыкам з локанамі маладосьці*[141]*, ніводзін манумент не з'яўляўся на сьвет без твайго наказу. Ніякая справа не рабілася без твайго ведама. Ты быў узведзены да звання валадара гэтай зямлі, калі ты быў падлеткам і налічваў сабе толькі дзесяць поўных гадоў. Усе пабудовы ішлі ад рукі тваёй*».

«Калі Рамзэс II вянчаўся на царства, – паведамляе Бругш, – яму магло быць каля 12 гадоў: напэўна, з гэтага часу і патрэбна лічыць пазначэнні гадоў яго валадарання, якое налічвае 67 гадоў. Таму ён павінен быў памерці ва ўзросьце 80 гадоў ад нараджэння».

Цікава, што Сэці I усюды далучае да свайго імя таксама і імя Рэ-Месу.

Зала калон Карнака, наколькі яна была закончана пры Сеты I (ці ўладкавана пазьней ў гонар Сэці і Рэ-Месы ), і храм Азірыса ў Абідосе, дзе мы чытаем усё гэта на сьценах, з'яўляюцца вялікімі мастацкімі творамі, хараство якіх больш усяго складаецца ў надмерным багацці і шматлікасьці скульптур, даведзеных да дасканаласьці, нават у наразанні іерогліфаў. Дакладна так жа знакамітая магільня Сэці, у якой ён завецца Азірысам (!), належыць да самых выдатных твораў ягіпецкага мастацтва, не толькі па скульптурах, але і па малярстве па яскравасьці фарбаў, пакрываючых карціны і іерогліфы. Гэта так званая «магільня Бельцоні» на імя знайшоўшага яе вандраўніка. Яна знаходзіцца ў даліне царскіх магільняў Бабель-Мулук, на захад ад (неіснуючых) Фіваў у лівійскіх гарах.

На захад ад Нілу быў пабудаваны і той выдатны храм, які прысьвечаны памяці Рэ-Месу I. Мы маем на ўвазе так званы Мемноніум Сэці ў Курна. І тут ён называе сябе Азірысам ці Ўзіры-Сэці (г.азн. Сэці-Азірыс). Гэтае сьвяцілішча мела назву «Пышны будынак храма цара Мінэта-Сэта ў горадзе Амона, на заходнім баку».

Часта да гэтай назвы дадаюцца яшчэ і словы: «у выглядзе Апе» (г.азн. у выглядзе Карнакскага храма).

---

[140] Бругш, стар. 470 арыг.

[141] Маладыя прынцы насілі локан, спускаўшыся са скроні на шчаку. Гэта магчыма і было зародкам пазнейшых жыдоўскіх пэйсаў.

Мемноніум быў пасьвечаны акрамя Рамзэса I і багам нябожчыкаў, г.азн. Азірысу і Гатор (ад грэцкага Гетэра – сяброўка), а таксама Амону з роднаснымі яму багамі.

«*Цар Рамзэс II* (паведамляе надпіс) *давёў да канца гэтую пабудову, як помнік* ***свайму бацьку Амону-Рэ****, бацьку богаў, гаспадару неба, і закончыў сядзібу бацькі свайго Мінэпты. Таму што ён памёр, ён пайшоў у царства неба і злучыўся з сонечным богам на небе, калі яго сядзіба знаходзілася ў стане пабудовы. Вароты пры ўваходзе яшчэ не існавалі, патрэбна было пабудаваць усе сьцены агароджы із каменя і цэглы. Не закончаны быў увесь будынак і ў дачыненні да выяваў і пісьмён».*

З дапамогай такіх жа выказванняў распавядае нам ва ўжо вядомым нам храме Абідоса надпіс (ад імя Рамзэса II) пра незакончаны храм пустыні паблізу гэтага горада, прысьвечаны Азірысу і суправаджаючым яго бажышчам Ізідзе, Гору, Амону, Хормаху і Пата. Ад імя Сэці ў храме пастаўлена адменная табліца царскіх продкаў, 76 цароў, ідучых да Мена, заснавальніка царства. Гэта і ёсць знакамітая Абідоская табліца, якую мы паклалі ў падмурак нашага дасьледавання і дададзім тут асобна.

Яна вядома пад імем Nouvelle Table d'Abydos, таму што знойдзена пазьней (Марыетам) на сьцяне храма, калі падобная ж табліца Рамзэса II была ўжо вядома ў навуцы. Але абедзьве табліцы складаюць адзін дакумент[142].

Із разьбяроў часу Сэці захавалася імя Хо, а із маляроў – Амен-Іах-Су, празваны «**першым маляром**».

У той жа час пачалі правільную распрацоўку ўжо існаваўшых ў Ягіпце і Нубіі залатых рудняў, і, акрамя таго, у якасьці дапамогі гэтаму промыслу пачалі клапаціцца і пра закладку студняў у мясцовасьцях, пазбаўленых вады, дзе рабіліся горныя распрацоўкі. Да такіх належала пустэльная вобласць на ўсходнім баку Ніла, якая распасьціраецца насупраць Едфу на заходнім беразе Нілу і якая мае назву пустыня Рэдэзіе[143]. У гэтай пустыні, у скале, існуюць парэшткі старажытна-ягіпецкага храма. Ён пазначае адно із месцаў прыпынку на вялікім гандлёвым шляху, які ў старажытнасьці ішоў накасяк папярок пустыні ад Коптаса на Ніле (26° паўн. шыр.) да гавані Верэнікі на Чырвоным моры (некалькі ніжэй 24° паўн. шыр.). Надпісы гэтага храма ўсе дапасуюцца да часу Сэці: яны не толькі паведамляюць пра існаванне залатаносных пластоў у глыбіні нейкіх гор, але і паказваюць на закладку студні згодна з загадам цара. Яны паведамляюць, што ў 9-ым годзе, пад час месяца Епіфі, на 20-ы дзень, цар Сэці I пачаў падарожжа ў пустэльныя горныя мясцовасьці, жадаючы асабіста агледзець працы на залатых руднях. Падняўшыся далёка ў горы, ён спыніўся на адпачынак, каб параіцца самаму з сабой і прыйсьці да нейкага рашэння грунтуючыся на атрыманым ім паведамленні, быццам бы гэты шлях амаль немагчымы для руху праз недахоп вады, і што тут у гарачы час падарожнікі паміраюць ад смагі.

«*Ён* (г.азн. цар Сэці, бацька Рэ-Месы Вялікага) *загадаў,* – паведамляе адзін надпіс на сьцяне гэтага храма – *прасьвідраваць студню. Падобнага не рабіў ніводзін цар, акрамя яго. Добрую справу зрабіў цар Сэці, дабрадзейны раздавальнік вады, даючы жыццё свайму народу, ён бацька і маці кожнаму. Жыхары перадаюць адзін другому: Амон, даруй яму доўгае жыццё, памнож вечнае існаванне. Вы, бажышчы студні, даруйце яму працягласць вашага жыцця за тое, што ён наладзіў нам дарогу для падарожжаў і адкрыў тое, што ляжала ўтоеным перад нашым тварам. Зараз мы маем магчымасць*

[142] Бругш стар. 465 арыг.

[143] Рэдэзіе з’яўляецца найменнем і мястэчка размешчанага на ўсходнім баку Ніла служачага галоўным пунктам вандруючага племені Абада.

*ісьці* (у горы), *маем магчымасць дасягнуць мэты і застацца жывымі. Цяжкі шлях ляжыць адкрытым перад намі, і добрай стала дарога. Зараз можна везьці золата, як загадаў наш цар і гаспадар. Усе жывучыя зараз пакаленні і тыя, якія будуць жыць, будуць прасіць для яго вечную памяць. Ды святкуе ён трыццацігадовыя юбілеі, як Тум, ды квітнее ён, як Гарус Тэба* (г.азн. Апалінаполіса ці Едфу), *за тое, што заснаваў помнік боскі на зямлі, таму што ён у горах здабыў ваду*».

Ці не адсюль паходзіць і легенда пра Майсея, які здабыў у пустыні ваду са скалы ўдарам свайго кія?

Кіраўнікамі прац, карыснасць якіх так выразна ўсьведамляла насельніцтва, былі нехта Ані з тытулам «царскі сын Куш» і галоўны загадчык, імя якога Мацаі, нагадвае імя Майсей. Гэта даводзіцца надпісамі на скалах, побач з якімі сустракаюцца і малюнкі. Із іх мы згадаем толькі пра цікавую выяву чужацкай багіні Анта, ці Анайтыс старажытных: яна, як Белона, на кані і ўздымае булаву і шчыт.

Але калі на сьценах ягіпецкіх храмаў маляваліся і «рымскія» багі і багіні, то чаму б не маляваць на іх і рымскіх (г.азн. рамейскіх) герояў?

Пад імем Сэці І апісваецца ягіпецка-візантыйскі імператар накшталт Юльяна (361-363 гг.) ці Хвядос І, пра якога якраз і паведамляецца ў візантыйскіх крыніцах, што ён пабіў готаў (г.азн. тых жа іерагліфічных хітаў) на захадзе і аб'яднаў пад сваёй уладай абедзьве часткі распаўшыяся пасьля Юльяна-Цэзара імперыі.

«Павялічваючаяся пад час Рэ-Месу ІІ з кожным годам перасяленне народаў з усходу на захад, – паведамляе Бругш[144], – і прыбыццё здалёку ваяўнічых людзей чужацкага паходжання (згодна з нашай храналогіяй ужо гунаў), вымусіла і цара народа Хіта (г.азн. італаў-готаў), і ягіпецкага імператара звярнуць асаблівую ўвагу на будучыя падзеі». Верагодна гэтыя акалічнасьці і заахвоцілі цара Хітаў, – якім тады быў Хіта-сар (Цар Італаў?) – зрабіць першым прапанову ўсходняму імператару і заключыць абарончы і наступальны хаўрус. Гэтая прапанова была напісана на срэбнай дошцы. Рэ-Месу быў настолькі разумным, што не адмовіўся ад яго, і як наступства гэтага адбылася мірная дамова, што вельмі займала розумы таго часу, таму што ў лістах эпохі Рэ-Месу безперапынна сустракаюцца намёкі і ўказанні на сяброўства двух вялікіх царстваў.

Тэкст дамовы паміж Хіта-Сарам (г.азн. гоцкім правадыром) і Рэ-Мссу ІІ дайшоў да нас напісаным на каменнай скрыжалі ці табліцы, што знаходзіцца каля вонкавага боку паўднёва-заходняй сьцяны Карнакскай залы каля калон Сэці І. Ён абнародаваны перш Шампаліёнам, потым Бругшам[145] пасьля чаго Шабас[146] даў яго добры пераклад. Але хто сьцёр у ім якраз толькі тыя цікавыя радкі, дзе даюцца найменні некаторых гарадоў? Мімаволі думаецца, што гэта зроблена кімсьці, з мэтай схаваць позні час узнікнення дакумента.

Абарончы і наступальны хаўрус паміж Хіта і Кемі (італьянцамі і эліна-ягіпцянамі) быў складзены ў такіх выразах:

«*У 21-м годзе, пад час месяца Тыбі, на 21-ы дзень, пад час валадарання цара Рэ-Месу Міамуна, даючага жыццё, прыхільніка Амона-Рэ* («фіванскага»), *Хормаха* (геліяпольскага), *Пта мемфіскага, багіні Мут, спадарыні возера Ашэр* (паблізу Карнака*) і Хонзу Міралюбнага, мела месца публічнае сяданне на пасад, на сядалішча Гора, паміж жывучымі пад уладай цара, падобнага бацьку свайму Хормаху ў вечнасьці, у вечнасьці назаўжды*!

[144] Бругш, стар. 517 арыг.
[145] Monuments V. I pl. 28
[146] Voyage d'un Egyptien, pp. 332 etc.

*Стаў* (перад царом) *пасланнік імператара-сутэна, і Адон яго рода на імя.....* (выцерта) *прывёў амбасадараў вялікага цара хетаў, Хіта-сіра.*

*Вось копія зместу срэбнай дошчачкі, якую загадаў зрабіць вялікі цар Хіта-сір і якая была пададзена сутэну рукой яго пасланніка Тар-ці-Сэба і пасланніка Рэ-Месы, каб запытаць усталявання сяброўства ў цара Рэ-Месы-Міамуна, быка паміж Валадарамі, які ставіць пазнакі сваёй мяжы ва ўсіх краінах, дзе яму пажадаецца:*

*Хіта-сір, вялікі цар народа хітаў, заключае дамову з Рэ-Месу-Міамунам вялікім валадаром Хемі ад гэтага дня ў тым, каб існавалі цеснае сяброўства і верны хаўрус паміж імі назаўсёды.*

*Ды будзе ён маім хаўруснікам, ды будзе маім сябрам. Ды буду я яго хаўруснікам, ды буду яго сябрам назаўжды.*

*У часы Мантанера, вялікага цара народа хітаў, пасьля забойства яго брата, я сеў на сядалішча свайго бацькі, сеў вялікім царом я Хіта-сір, і я складаю сяброўства з Рэ-Месай-Міамунам, вялікім валадаром насельніцтва Хемі. Маё пажаданне складаецца ў тым, каб гэты хаўрус і сяброўства былі лепшымі, чым тое сяброўства і хаўрус, якія былі заключаны раней і потым скасаваны... Ды будуць сыны сыноў вялікага цара народа хітаў у сяброўстве і ў хаўрусе з сынамі сыноў Рэ-Месы-Міамуна, вялікага валадара насельніцтва Хемі.*

*Згодна з нашай дамовай, ды будуць жыхары Хемі сябрамі і хаўруснікамі народа хітаў. Такое сяброўства і хаўрус ды існуюць заўсёды.*

*Ніколі ды не пачнецца паміж намі варожасць.*

*Ніколі ды не нападзе вялікі цар Хіта на зямлю Хемі, хаця б із краіны яго што-небудзь было выкрадзена ў яе.*

*Ніколі ды не ўварвецца Рэ-Месу-Міамун, вялікі валадар народа Хемі, у краіну Хіта* (Іта), *хаця б было нешта выкрадзена ў яе із краіны Хемі.*

*Справядлівую дамову, якая існавала ў часы Сапа-Рыры* (Сапрэры) *вялікага цара хітаў, і справядлівая дамова, якая існавала ў часы Мунтанера вялікага цара хітаў, брата майго, – я буду выконваць.*

*І будзе яе выконваць Рэ-Месу Міамун, вялікі валадар Хемі. Мы пагадзіліся ў тым паміж сабой у адзін час, у сёняшні дзень, і мы яе выканаем і будзем дзейнічаць па праўдзе.*

*Калі нехта прыйдзе ворагам на зямлю Рэ-Месу-Міамуна, вялікага валадара Хемі, тады ды пашле ён апавяшчэнне да вялікага цара хітаў такога зместу:*

*«Ідзі і зрабі мяне больш моцным за яго». Тады збярэ вялікі цар хітаў сваіх ваяроў, прыйдзе і паб'е ворагаў сутэна.*

*Калі вялікі цар хітаў не пажадае выступіць сам, то ды пашле ён свае войска і свае парныя калясніцы, каб яны пабілі ворагаў сутэна. Інакш ды зведае ён гнеў Рэ-Месы-Міамуна, вялікага валадара Хемі.*

*І калі б Рэ-Месу-Міамун, вялікі валадар Хемі, выгнаў з нагоды ўчыненага злачынства каго-небудзь са сваіх падданых із краіны сваёй у краіну іншаземную, і калі б яны здзейснілі ў ёй яшчэ нейкае злачынства супраць яго, тады павінен цар хітаў прыступіць да іх забіцця. Ды дзейнічае вялікі цар хітаў у поўным пагадненні з вялікім валадаром Хемі.*

*Калі ж нехта пойдзе вайной на землі вялікага цара хітаў, тады ды выправіць ён апавяшчэнне да вялікага валадара Хемі з прашэннем, каб ён ішоў з вялікім войскам і перамог яго ворагаў; і калі ў Рэ-Месу-Міамуна вялікага валадара Хемі існуе намер прыйсьці самому, то ды пераможа ён сам ворагаў вялікага цара хітаў. Калі ж няма намеру ў вялікага валадара Хемі самому выступіць, то ды выправіць ён свае войска і свае парныя калясніцы і ды пашле адказ народа Хітаў.*



Мал. 218.
Ягіпецкая аперцэпцыя хрысьціянства. Азірыс (г.азн. Iesus rex, ажыўшы Вялікі цар Месія) судзіць нябожчыцу. Перад ім стаіць з крыжам у адной руцэ і са скруткам у другой гараскапіст, а паміж імі вартаўнічая сабака, і тыповая ягіпецкая выява крыжа з вушкам наверсе і кветкамі: у бутоне і распусьціўшыяся. Пасярэдзіне малюнка на шалях узважваюць добрыя і благія справы нябожчыцы, перад якой стаіць відаць брамніца дзьвярэй раю з кіем, як у ягіпецкіх выяваў планет, і з крыжам у руцэ, якім як ключам адмыкаюцца дзьверы раю. Знізу перад нябожчыцай як бы вісіць ў паветры ягіпецкі знак крыжа з вушкам наверсе (параўнайце яго з копцкай выявай у гэтай жа главе).

*І калі пакінуць зямлю Хіта людзі мудрыя розумам і пойдуць у зямлю Хемі, каб стаць служкамі другога, то ды не дазволіць ім Рэ-Месу-Міамун пасяліцца, але ды выдасць іх вялікаму цару хітаў.*

*Калі будзе павядомлена гэтая дамова жыхарам зямлі Хемі а зямлі Хіта, то ды не зграшаць яны супраць яе. Усё, што напісана на срэбнай дошцы па-сутнасьці словы вымаўленыя процьмай мужчынскіх божышчаў і жаночых божышчаў, пасярод божышчаў зямлі Хіта і пасярод божышчаў зямлі Хемі. Яны для мяне сведкі, што словы гэтыя імі вымаўлены сапраўды.*

*Вось багі сведкі ад зямлі Хіта:*
*Сьвяты цадэк (г.азн. пасьвечаны) горада Тунеп (Дафнэ).*
*Сьвяты зямлі Хіта.*
*Сьвяты горада Арніма.*
*Сьвяты горада Царанда.*
*Сьвяты гарада Пілка.*
*Сваты горада Хісан.*
*Сьвяты горада Сарсу.*
*Сьвяты горада Хіліву.*
*Сьвяты горада...* (сьцёрта).

*Сьвяты......* (сьцёрта).
*Сьвяты горада Сарпіна.*
*Астарта зямлі Хіта.*
*Бог зямлі Цайат-Хіры.*
*Бог зямлі Ка...*
*Бог зямлі Хер...*
*Багіня горада Ах...*
*Багіня горада... і землі А... на.*
*Багіня зямлі Цайна.*
*Бог зямлі... нат... ёр.*

Імёны, пазначаныя кропкамі, кімсьці знарок сьцёрты[147].

І тое ж самае мы назіраем амаль у кожным іерагліфічным дакуменце. Чаму камусьці не падабаліся менавіта некаторыя ўласныя імёны, адказ адзін: каб не супярэчыць храналагістам?

«*Я паклікаў гэтых мужчынскіх і жаночых багаў зямлі Хіта:* – паведамляецца далей у надпісе – *сведкамі ў маёй клятве. Тот, хто не выканае пастановы, змешчаныя на срэбнай дошцы, ды зведае помсту ўсёй процьмы багаў Хіта і помсту процьмы багаў Хемі, ён і род яго, і služкі яго. Таго ж, які выконвае пастановы, змяшчаемыя на срэбнай дошцы* (ці будзе ён із народа Хіта ці із народа Хемі), *узнагародзіць процьма багаў зямлі Хіта і процьма багаў землі Хемі і захавае жыццё яму і яго служкам, і тым, якія з ім, і яго служкамі*.

*Калі адзін, ці двое, ці трое із жыхароў зямлі Хемі збягуць да вялікага цара Хіта, то вялікі цар Хіта не дазволіць ім застацца, але выдасць і выправіць да Рэ-Месы Міамуна, вялікага валадара зямлі Хемі.*

*Але, у дачыненні да выдадзенага, ды не смярдзіць яго ўчынак і ды не будзе абрабаванай ні яго сядзіба, ні яго жонка, ні яго дзеці. Ды не будзе забіта маці яго, і ды не б'юць яго па вачах, ці па вуснах, ці па падэшвах, ды не паднімецца правіна яго супраць яго.*

*Ды будзе так жа зроблена, калі збягуць жыхары народа Хіта, няхай гэта будзе адзін ці ўдваіх, ці ўтраіх, і выправяцца да Рэ-Месы-Міамуна, вялікага валадара Хемі. Ды будуць яны выдадзены вялікаму цару Хіта. Але ў дачыненні таго, хто будзе выдадзены, ды не паднімецца супраць яго правіна яго. Ды не будзе абрабавана яго сядзіба і забраны яго жонкі і дзеці, і ды не будзе забіта яго маці, і ды не б'юць яго па вачах, ці па вуснах, ці па падэшвах, і ды не паднімецца супраць яго ніякі перасьлед.*

Тое, што знаходзіцца пасярэдзіне гэтай срэбнай табліцы, на першым яе баку, з'яўляецца выявай падобнай богу Сету аточанай надпісам такога зместу: «*гэта выява бога неба і зямлі, зробленая ў той час, калі была складзена дамова паміж Хіта-Сірам, вялікім царом зямлі Хіта*... (далей сьцёрта)»[148].

У такім выглядзе была заключана ў горадзе Рэ-Месы дамова пра мір і сяброўства паміж двума самымі магутнымі народамі тагачаснага сьвету: народам Хіта і народам Хемі.

Параўнаеце гэта з дамовамі, якія былі заключаны Макавеямі з Рымам згодна са сведчаннем грэцкай Бібліі і вы пабачыце, што гэта той жа самы стыль, толькі там карацей.

Пісьменнікі двара сутэна выяўлялі сваю радасць з нагоды заключанага міру. Іхныя лісты, на колькі захаваў іх нам шчасьлівы выпадак, напоўнены весялосьцю праз тое, што вайна закончана і народы Хемі і Хіта з гэтага часу злучаюцца ў адзін, братэрскі народ. Яны паведамляюць, што цар Рэ-Месу заняў месца боскасьці для народа Хіта і, усяго «Кола іншаземных народаў».

[147] Бругш, стар. 524, арыгінала.
[148] Бругш, стар. 524, арыгінала.

**І вось атрымліваецца, што пад імем народа Хіта ці Іта фігуруюць італы, а пад імем Хемі – візантыйцы... хаўрус лацінскага Захаду і эліна-ягіпецкага Ўсходу....**

Згодна з памятнай каменнай таблíцай, урачыста пастаўленай у храм Ібсамбула (пазначанай 34 годам Рамзэса,) ён адружыўся з дачкой цара хітаў. У выяве, суправаджаючай надпіс, цар хітаў, у сваім нацыянальным адзенні, вядзе сваю дачку да Рэ-Месы. Пасьля адружання гэтая хітаянка названа царыцай Урма-Наферу-Рэ.

Рэ-Месу-Міамун звярнуў асаблівую ўвагу на цясьніну сучаснай Вадзі-Алака (Алакі), адчыняючуяся на ўсход ад Нілу (22° п. ш.), і вусьце якой выходзіць да Кароска. У старажытнасьці яно мела назву Акіта і лічылася, – кажуць нам, – залатаноснай. У Турынскім музеі знаходзіцца нават сапраўдны старажытна-ягіпецкі план (!!), на якім пазначана месцаванне невядомых нам гор і руднявых прац, радовішча золата, студні, вуліцы і розныя пабудовы, належачыя да селішча пры руднях.

Падумаць, што гэта было за паўтары тысячы гадоў да пачатку нашай эры, больш чым дзіўна!

Надпісы на ім, збоку, паведамляюць: «Вось горы, із якіх здабываецца золата; яны пазначаны чырвонай фарбай», ці: «Вось дарога да мора, якая пакінута». Далей знаходзім надпісы: «Месца прамывання золата», «Студня», «Памятны камень цара Мінэпта І Сэці І», «Свяцілішча Амона ў сьвятой гары».

Нічога не забыта, што магло б служыць разглядаючаму папірус для стварэння сабе ўяўлення пра становішча краіны нават да асобных камянёў ці дрэваў, стаячых каля дарог. Але нічога падобнага **ў Ягіпце** няма....

Сэці І Руплівы – як нам паведамляюць – шукальнік золата, першым выдаў загад распрацоўваць гэтыя рудні, але без поспеху. Ён заклаў тую студню, пра якую паведамляе прыведзены вышэй надпіс і паставіў той памятны камень, які пазначаны на плане. Студня мела ў глыбіню больш 63 метраў (120 старажытна-ягіпецкіх локцяў ці каля 190 футаў), але вада хутка вычарпалася і рудня была пакінута. А дзе было усё гэта – невядома.

Толькі на трэцці год валадарання Рэ-Месы Міамуна атрымалася выкапаць там новую студню – з пастаяннай вадой, – як сведчыць надпіс на камені, знойдзеным у мясцовасьці Кубан, насупраць Даке, на ўсходнім беразе Нілу[149]:

«*Нічога падобнага не было пры ранейшых царах. Із разліваючайся вады ўтварыліся сажалкі, і рыбакі із выспаў паблізу балот Нато* (?) *зрабілі сабе задавальненне і пабудавалі на іх маленькія лодачкі і ўжывалі* (ветразі). *Тады пайшоў лістаносец ад царскага сына пагарджанай зямлі Куш, каб сказаць цару:*

*Выканалася ўсё, што твая сьвятасць сваімі вуснамі вымавіў. Паказалася вада на 12 локцяў. Бог міласьціва наладзіў сваё сэрца з нагоды твайго шавання яго. Ніколі нічога падобнага не здаралася. Жыхары зямлі Акта вырабілі радасную музыку на вялікіх барабанах. Тыя, якія былі хворыя на вочы, памылі іх гэтай вадой і акрыялі. Усе яны спявалі: «слава цару!», вада, знаходзячаяся ў глыбіні зямлі, паслухмяная яму! Ён знайшоў ваду на гары....Выдатнымі былі сведчанні падзякі, выказаныя жыхарамі краіны. Закладзена была дарога да другой студні Рэ-Месы-Міамуна, пераможцы*»...

Новая нагода для ўзнікнення легенды пра Майсея (г.азн. згодна з нашымі атаясамленнямі імператара Дыяклетыяна), які здабыў ваду із гары ўдарам свайго кія!

[149] Бругш, стар. 531, арыгінала.

Асабліва шмат Рэ-Месу – пераконваюць нас, – пабудаваў храмаў і нават новых гарадоў і «стварыў новы «Ягіпет»[150].

«Із будынкаў, пабудаваных – кажуць – пры ім (а на справе, напэўна, пазьней ў якасьці пазначэння яго памяці), асабліва выдаецца пячорны храм паблізу арабскага мястэчка Абу-Сімбэль, меўшага ў старажытных ягіпцянаў назву Пімас, ці Пімос, дзе зроблены знакамітыя «Коласы».

«Для гэтага храма – выказваецца Бругш[151] – мы зробім некаторае адступленне і зайдзем у яго, каб нацешыцца свежасьцю фарбаў на выявах, паказваючых то народ хітаў, то лівійцаў, то неграў, то фінікійцаў, парамагаемых мячом Рэ-Месу. Мы не ў стане даць апісанне ўсіх шматлікіх палат богаў і перадаць усе надпісы на сьценах, калонах і велічэзных маналітах гэтай пабудовы. Дастаткова сказаць, што калі пасьля доўгага падарожжа ў велічных пячорах гары, мы вяртаемся да сонечнага сьвятла, то адчуваем сябе не толькі ўражанымі тым, што пабачылі, але і прыгнечанымі невыказваемым уражаннем уласнай немачы. У гіганцкай магільні даўно мінуўшага часу мы часткова перажываем тыя ж пачуцці, якія хвалявалі старажытных, калі яны аглядалі гэты самы цудоўны із храмаў, «пячорны храм Ібсамбула».

«Хто быў архітэктар, у розуме якога выспела думка пра такі твор? Хто напісаў яго план, хто выканаў яго? Хто былі мастакі, ўпрыгожваўшыя храм гігантаў сваімі творамі? Гісторыя не адказвае на гэтыя пытанні. Але кім бы ні быў невядомы стваральнік такога будынка, ён павінен быў быць чалавекам глыбокага рэлігійнага натхнення, чалавекам, рукой якога кіравала сэрца і які, вядома, лічыў сваёй узнагародай не багацце, ствараючы сваё несьмяротнае і непараўнальнае ні з чым іншым тварэнне».

Са стратэгічнымі мэтамі Рэ-Месу жыў у горадзе, названым у іерогліфах яго імем, горадам Пі-Рэ-Месу. Яго называлі таксама Цар, г.азн. Цар-Горад. У ягіпецкіх надпісах згадваюць пра яго як пра населены «народамі пярэдняй краіны Ўсходу»[152], а грэцкія перакладчыкі пераназвалі яго ў Таніс, дарэмна лічымы за біблейскі Цоан-Сіён[153]. Згодна з нашымі атаясамленнямі – гэта Царгорад.

Папірусы згадваюць пра шмат воды і азёраў каля яго, пры гэтым, акрамя храмаў нацыянальным багам, там існаваў храм і Белу-Седэку (Госпаду-Хрысту).

А артадаксальныя гісторыкі з гэтым горадам атаясамліваюць зараз кучу парэштак, у якой самай цікавай знаходкай быў камень з указаннем на 400-ы год нейкай, яшчэ не патлумачанай эры[154]. Ён знаходзіцца зараз у Булакскім музеі ў Ягіпце. Але на ім нічога не паведамляецца пра тое, каб гэты камень і быў горадам Рэ-Месы, Цара-Месіі.

Вось выпіс із яго ў Бругша[155].

«*Загадаў яго вялікасць паставіць вялікі камень із граніту* (сіены) *у гонар высокіх імёнаў сваіх продкаў, маючы жаданне захаваць імёны сваіх бацькаў. «Ды захаваецца памяць цара Міне-Пта, Сеці I навечна і назаўжды*!».

*Пад час года **чатырохсотага**, у месяцы Месоры на 4-ы дзень, дорачы Сэт-Апехуці-Нуб, сябра бога Хор-Маху…*

---

150 Бругш, стар. 539 арыгінала.

151 514 стар. арыгінала.

152 Бругш, стар. 189 арыгінала.

153 «Хеўрон жа быў пабудаваны сямю гадамі пазьней Цоана (לצען -ЦЭУН) Міц-Рыме. (Ліч. XIII, С29).

154 Бругш, стар. 189 арыгінала.

155 Стар. 547 арыгінала.

*Прыбыў сюды спадчынны князь, ён жа галоўны кіраўнік горада, носьбіт махала праваруч ад цара, правадыр чужацкага легіёна, правадыр чужакоў, кіраўнік умацавання Хетам, у зямлі Цала* (правадыр мацаев-выведнікаў), *царскі пісьменнік, галоўны кіраўнік стайняў, вялікі жрэц бога з галавой Авена ў Мендэсе, вялікі жрэц бога Сутэха прадстаяцель малітвы да багіні Бута-Антауі і кіраўнік прарокаў усіх богаў, на імя Сеці, сын спадчыннага князя, правадыра іншаземнага легіёна, кіраўніка чужынцаў, кіраўніка Хітаў у зямлі Цал* (Цар), *царскага пісьменніка кіраўніка стайняў Пірэ-Месу, сын спадарыні і жрыцы сонечнага бога Рэ* (на імя) *Таа і выказваўся так:*

*– Слава табе, Сэт, сын багіні Нут, моцны ў сьвятым караблі... даруй мне шчаслівае існаванне, каб я служыў табе, і ды жыву я ў сядзібе тваёй назаўсёды*».

«Гэта – сведчыць Бругш – адзіны выпадак пазначэння часу ў іерогліфах грунтуючыся на эрэ, а не на існуючым цару».

Згодна з маёй думкай, гэта першае гістарычна вядомае нам датаванне грунтуючыся на нашай сучаснай эры і дапасуемае да часу Аркадзя і Ганорыя, ці ж гэта згодна з эрай Дыяклетыяна 284 г. і надпіс зроблены ўжо пад час агаранскага перыяд у 684 годзе. Але тут, паўтараю, няма ні слова пра тое, каб гэты камень пазначаў горад Рэ-Месы II.

Больш вызначаны ліст аднаго ягіпцяніна на папірусе, які прыводзіць Бругш (Папірус Анастасі № 3).

«*Такім чынам, я прыбыў у горад Рэ-Месу-Міамуна і знайшоў яго цудоўным, бо няма нічога, што магло б з ім параўнацца на «фіванскай» глебе. Тут месцазнаходжанне двара*[156].

«*Прыемна жыць у гэтым горадзе. Яго палеткі поўныя добрых твораў і ўтрыманне жыцця забяспечана тут цалкам шматлікімі прадметамі спажывання. Каналы горада маюць шмат рыбы, на азёрах шматлікія птушкі, сенажаці рунеюць рознымі травамі, чачавіца ляжыць кучамі, і дыні, па смаку падобныя на мёд, растуць на абводненых вадой палях. Крамы горада поўныя зерневага хлеба і дурры і ўзвышаюцца да нябёс. Цыбуля і кунжут растуць у агародах. Вінаградная лаза, міндаль і смакаўніца знаходзяцца ў садах, і квітнее яблыня. Соладкім з'яўляецца яго віно для жыхароў зямлі Хемі. Яго змешваюць з мёдам. Чырвоная рыба водзіцца ў канале лотасу, рыба барыён у сажалцы, шматлікія пароды рыбы боры, а таксама карпы (?) і шчупакі (?) водзяцца ў канале Пухарота. Тлустыя рыбы і рыбы хіпці-пену плаваюць у заторах паводкі, рыба Хауац ловіцца пры самай утоцы ракі паблізу «горада пераможцы». Гарадзкі канал Пшэнхор вылучае соль; пакрытая вадой мясцовасць Пахір дае натр. Караблі горада заходзяць у гавань* (гэта азначае горад прыморскі), *а ў ім поўната і рух. Цешыцца той, хто пасяліўся ў гэтым горадзе.*

*Маё паведамленне не жарт. Шляхетныя, як і не шляхетныя, казалі: «хадзем, давайце сьвяткаваць нябесныя і зямныя сьвяты!». Прыбылі жыхары Тхуфі* (чарацянога возера) *з ліліеямі і жыхары Пшэнхора з кветкамі папірусу. Яму* (Рэ-месе) *прысьвячалі плады із драўляных расаднікаў, кветкі із садоў, птушак із сажалак. Прыморскія жыхары прыходзілі з рыбамі і жыхары азёр паважалі яго* (памяць). *Маладыя людзі Горада Пераможцы былі ўвесь час у сьвяточным адзенні. Самае лепшае масла было на іхных галовах, завітых у кучэры. Яны стаялі каля дзьвярэй, рукі іх былі напоўнены галінкамі і кветкамі із Пахатора і вянкамі із Пахіра і дзень уцаравання цара Рэ-Месу-Міамуна, бога вайны Манту на зямлі. Рана раніцай пад час дня месяцовага сьвята Кіхік* (г.азн. на першы дзень месяца Хойак) *усе людзі былі сабраны, сусед да суседа, каб прыносіць свае скаргі*.

[156] Двор да ягіпецку па-хана (сядзіба-Хана). Гэтае выказванне пазначае пастаяннае месца жыхарства цара.

*Смачным было віно для жыхароў горада Пераможцы. Іхнае яблычнае віно было як..., іхныя шарбеты былі падобнымі на міндаль з мёдам. У мясцовасьці, прылягаючай да гавані, было піва із зямлі Каці, віно ў садах, лепшае масла із мясцовасьці Сагабі, размешчанай каля вады, і вянкі ў садах із яблынь. Прыемны спеў жанчын раздаваўся нападобе таго, як у «Мемфісе». Усе сядзелі там з радасным сэрцам ці бесперапынна блукалі па гораду. Цар Рэ-Месу-Міамун быў бог, якому святкавалі*»[157].

Наўрад ці быў бы здольным пісаўшы гэты ліст (нягледзячы на некаторыя незразумелыя для нас назвы рыб ці расьлін) больш зразумела перадаць тое ўражанне, якое вырабіў на яго горад Рэ-Месы, апрануты ў сьвяточнае адзенне.

Але я пытаю чытача: ці можна лічыць, што ў краіне, у якой так добра захаваліся непараўнальна больш старажытныя пабудовы, гэты горад разваліўся дашчэнту, і ад яго засталася толькі нязначная кучка сьмецця паблізу сучаснага арабскага мястэчка Сан (31° п. ш.)? Тут жа былі знойдзены ў парэштках толькі нязначныя рэчы, дзьве статуі нейкага Мермеша, што азначае вайскавод, адна із якіх знаходзіцца ў Луўры (пад № А 16) і лічыцца за выяву сутэна Смонх-Кара; камень, пакрыты імёнамі сутэна Пені із 6-ай псеўда-дынастыі Міц-Рымскіх цароў; выявы Усур-Тасена із 12-га перыяда і прыпісваемы яму ж адломак гіганцкай нагі із чорнага граніту, што знаходзіцца зараз у Берлінскім музеі, ды некалькі іншых прадметаў... Тут не было знойдзена ніякіх парэштказ вялікіх пабудоваў.

Калі нават і можна палічыць, што гэтае адгалінаванне Нілу было раней глыбокім, а зараз памялела, то ўсё ж тут няма, і не было ні каналаў, ні азёр, і нічога апісанага. Згодна з апісаннем гэта хутчэй падобна на Цар-Горад, імя якога нагадвае знакаміты фінікійскі горад перароблены грэкамі ў Цір, пра раскошу якога пад час старажытнасьці распавядаюцца дзівы. Ды і сучаснае яго найменне Канстантынопаль па грэцку азначае проста – Моцны горад, г.азн. умацаванне.

Тут сутэн згодна з Бібліяй пабудаваў арэнміскеноты, што грэцкія перакладчыкі перавялі славамі «горад для прыпасаў», але міскенот у іерогліфах азначае храм (падобна з мячэццю, арабскае мескет) і таму даводзіцца перакласьці гэтае месца, як храм.

Тут на шырокім «полі Цоан» збіраліся натоўпы ваяроў, каб практыкавацца ў ваярскіх рухах і рыхтавацца да бітваў, тут скакалі парныя вайсковыя калясьніцы, тут, на беразе шырокай ракі, прыставалі да гавані марскія караблі і выходзілі на бераг матросы.

Чужакоў выкарыстоўвалі на розныя службы, гледзячы на іхныя якасьці і здольнасьці. Навучаныя вайсковай справе паступалі ў легіёны чужакоў, кіраўнікі якіх, большай часткай міц-рымцы, мелі назву хір-піт, г.азн. «правадыр чужынцаў». Некаторыя палонныя, прызвычаіныя да марскога плавання, прызначаліся на караблі. Шмат каго прызначалі на службу ў царскую сядзібу, у храмы ці ў сядзібы шляхетных, але самая значная частка палонных выпраўлялася на працы ў каменяломнях ці ў руднях. На іх клалі таўро ў выглядзе імя цара гарачым жалезам, каб перашкаджаць збяганню і палегчыць вышук.

Лісты і памятныя надпісы той школы, якая называла лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкіх цароў рэ-месідамі перапоўнены семітычнымі славамі і выказваннямі. Для пазначэння, напрыклад, віцязя ўжываюцца семітычныя словы: мохар ці арыэль; войска мае назву цэба і г.д.

У асяроддзі так званых «сьвятых айцоў» з'явілася пры Рэ-Месах шмат незадаволеных старыной і імкнуўшыхся да ціхага, сузіральнага існавання пасярод

[157] Бругш, стар. 539 арыг.

храмавых сьцен, нягледзячы на тое, што старыя настаўнікі рознымі захадамі імкнуліся змагацца супраць выдалення навукоўцаў ад цэнтраў культурнага жыцця.

У асяроддзі маладых паэтаў і пісьменнікаў з'явілася імкненне апяваць вайсковыя вычыны віцязяў, і яно асабліва выказалася ў вядомай гераічнай паэме Пентаўра, пра якую я ўжо згадваў.

Вось некаторыя вытрымкі із яе зместу:

«*Пачатак перамог цара Рэ-Месу Вялікага – ды жыве ён вечна!.*

*Малады цар з адважнай рукой не мае сабе падобнага. Рукі яго моцныя, сэрца яго непахіснае, яго мужнасць падобна на мужнасць бога вайны Монту* (Марса) *пасярод бітвы. Ён вядзе сваіх вояроў да невядомых народаў. Ён бярэцца за зброю і стаіць як жалезная сьцяна для сваіх вояроў і шчыт для іх пад час дня бітвы. Ён бярэцца за лук, і ніхто не адважваецца супрацьстаяць яму. Ён перамог усе злучыўшыяся народы. Сотні тысяч валіліся пры паглядзе па яго. Жахлівы ён калі чуецца яго вайсковы крык, – ён больш адважны чым уся зямля! Ён жахлівы, як люты леў у даліне ланяў. Загад яго адразу выконваецца, ніхто не адважваецца яго аспрэчыць. Мудрай выяўляецца яго парада, дасканалымі выяўляюцца яго рашэнні, калі ён мае на галаве вянок Атэф і выказвае сваю волю. Ён абаронца свайго народа, сэрца яго як жалезная гара. Такім з'яўляецца цар Рэ-Месу-Міамун.*

*Пад час году V, на 9-ы дзень месяца Паінэ, адчынілася перад царом умацаванне Хэтам* (Ефам) *у зямлі Цар...*

*Ён прайшоў даліну ракі Аруната* (Аронта), *і з ім быў першы легіён Амона, «даючага перамогу цару Рэ-Месе-Міамуну». Цар набліжаўся да горада, і вось, у той жа час прыбыў пагарджаемы цар варожых хітаў* (готаў-італаў). *Ён сабраў каля сябе ўсе народы ад самых аддаленых канцоў мора да народа Хітаў. Яны пакрывалі горы і даліны, як саранча. Не пакінуў цар Хітаў ні срэбра, ні золата свайму народу, ён забраў усё дабро яго і маёмасць, каб аддаць суправаджаўшым яго на вайну.*

*І вось пагарджаемы цар варожых хітаў, разам са шматлікімі народамі, схаваўся ў засадзе, на паўночны захад ад горада Кадэта, а імператар быў адзін, нікога пры ім не было. Легіён Амона ішоў далёка. Легіён Фра ішоў уздоўж яра, у мясцовасьці, знаходзіўшайся на захад ад горада Шабатун, на далёкай адлегласьці, аддзелены ад легіёна Пта* (ішоўшага) *пасярэдзіне* (у накірунку) *да горада Аранам. А легіён Сутэха ішоў сваім асобным шляхам.*

*Але цар Рэ-Месу падняўся, падобны свайму бацьку Марсу* (Монту), *ён схапіў зброю і апрануў на сябе даспехі. Ён быў падобным на Юпітара* (Бэла) *у гэты час. Шляхетныя парныя коні, насіўшыя сутэна, імя якіх было «Перамога ў Фівах», былі із палаца цара Рэ-Месы. Ён паскорыў свой бег і кінуўся цалкам адзін у сярэдзіну варожай процьмы хітаў, нікога не было пры ім. Ён азірнуўся і пабачыў, што аточаны 2500 парамі каляcніц і шлях яму куды б там ні было перагароджаны лепшымі віцязямі цара пагарджаемых хітаў і ўсімі шматлікімі народамі, што былі з ім.*

*– І ніводзін із маіх князёў, – распавядаў ён пазьней – ніводзін із маіх кіруючых каляснiцамі, ніводзін із маіх вайскаводаў, ніводзін із маіх віцязяў не быў тут! Пакінулі мяне мае ваяры і мае калясніцы, нікога не было із іх, каб узяць удзел у бoі.*

*– Я пабудаваў табе, о, Амон,* – сказаў я, – *пілоны і дзівы мастацтва із каменя, паставіў табе мачты на вечныя часы, прывозіў для цябе абеліскі із выспы Аб! Я быў тым, які загадаў паставіць для цябе даўгавечны камень, і ыпраўляў марскія караблі, каб прывозіць табе вырабы чужацкіх народаў!.. Глядзі, о, Амон, я знаходжуся пасярод шматлікасьці невядомых народаў. Усе аб'ядналіся супраць мяне, і я цалкам адзін, нікога няма каля мяне! Пакінулі мяне мае ваяры і мае змагары на калясніцах! Я крычаў ім, і ніводзін не пачуў майго голасу! Але я ведаю, што ты, о Амон, для мяне лепш чым мільёны ваяроў, чым сотні тысяч коней, чым дзясяткі тысяч братоў і сыноў, хаця б яны былі ўсе аб'яднаны тут на адным месцы. Нікчэмнымі з'яўляюцца высілкі натоўпу людзей, калі ты*

*не за іх! А тое, што са мной зараз адбываецца, паходзіць ад наказу тваіх вуснаў. Амон, я не парушу твой запавет. Я заклікаю да цябе да самых далекіх межаў сьвету!».*



Мал. 219.
Рэ-Месія Вялікі уражвае сваіх ворагаў (мяркуемая бітва з хетамі – кельтамі?).

*І мой голас адгукнуўся ў Германтэсе, і Амоў прыйшоў на мой крык. Ён падаў мне руку і закрычаў мне ззаду:*

*– Я паспяшаўся да цябе, Рэ-Месу-Міамун! Я з табой! Я твой бацька, сонечны бог Рэ і рука мая пры табе. Так, я больш каштоўны чым сотні тысяч, сабраных на адным месцы. Я валадар перамог, сябар адвагі, я знайшоў у табе сэнс, і сэрца маё радуецца гэтаму.*

*Пачуўшы яго голас я адчуў у сабе перамену і зрабіўся падобным богу Марсу. Я кідаў стралу правай рукой і біўся левай. Я быў, як Бэл у свой час, перад іхным тварам. Я сустрэўся з 2500 парай коней, я быў пасярэдзіне іх, і яны былі пабіты дашчэнту маімі коньмі. Ніводзін не падняў сваю руку, каб змагацца, мужнасць іх упала ў іхных грудзях, часткі іхныя паслабелі, і не маглі яны кідаць стрэлы, не знайшлі ў сабе адвагі падняць дзіду! Я вымусіў іх зваліцца ў ваду, як валяцца ў яе кракадылы. Яны кідаліся на свае твары адзін за адным. Я забіваў іх па пажаданню, так што ніводзін із іх не азірнуўся, і ніхто не павярнуўся. Кожны, хто валіўся, больш не падымаўся. Кожны крычаў другому, блізкаму да сябе:*

*– Гэта не чалавек! Гора нам! Слаўны Сутэх Бэл знаходзіцца ва ўсіх яго частках! Паспяшаемся ж збегчы ад яго! Выратуем сваё жыццё, захаваем сваё дыханне*!».

*... І закрычаў цар да сваіх ваяроў і сваіх каляснічным змагароў, і князям не браўшым удзел у бітве* (працягвае першабытны аўтар, ужо забыўшыся, дзякуючы адсутнасьці звычкі пісаць на працягу дня больш чым некалькіх радкоў, што нікога не было тады каля цара-Месі).

*– Шкада вашу мужнасць, мае каляснічныя змагары! Няма карысьці мець вас у ліку сяброў! Ці быў хоць адзін із вас, які выявіўся б віцязем для маёй зямлі? Калі б я не стаяў моцна, як гаспадар і цар, то перамаглі б вас. Я павышаю вас у сан князёў кожны дзень, я раблю ў вас сына спадчыннікам яго бацькі, адхіляю розную шкоду ад зямлі, а вы пакідаеце мяне! Такія служкі – нікчэмныя. Я вас абагачаў, быў для вас аховай, і кожнаму скардзіўшамуся, просячаму мяне, даваў абарону ў кожнай справе і кожны дзень!*

*... Ваяры мае прыйшлі ўсхваляць маё імя....Прыйшлі мае князі ўшанаваць маю мужнасць, і каляснічныя змагары, каб усхваляць маю моц:*

*– Якім быў ты, добры віцязь, мужным! Ты Ратавальнік тваіх ваяроў і тваіх каляснічных змагароў. Ты, сын Амона, выйшаўшы із рук самога бога, ты знішчыў народ хітаў моцнай рукой. Ты, вялікі віцязь, гаспадар перамогі! Ніводзін цар не ваюе, як ты, за сваіх ваяроў пад час дня бітвы. О, адважны, ты першы ў бітве, увесь сьвет аб'яднаны на адным месцы не запалохае цябе. Ты найвялікшы із пераможцаў на чале твайго войска перад тварам усяго сьвету. Ты той, хто ахоўвае Хемі, і карае чужакоў. Ты зламаў шыю хітаў на вечныя часы.*

*– Мае ваяры, мае змагары на калясніцах, не браўшыя ўдзелу ў бітве! – адказваў я ім. – Не атрымліваецца чалавеку набыць славу, седзячы ў сваім горадзе, хай ён прыйдзе і пакажа сваю моц гаспадару, цару.*

*... І калі зямля зноў стала сьветлай,* – працягвае аўтар, напэўна, на наступны дзень ужо зноў выказваючыся пра Цара-Месію ад трэццяй асобы, – *загадаў ён прыгатавацца войску да бітвы і стаяў, гатовы да бою, як бык, выстарчыўшы свае рогі. Ён здаваўся ім увасабленнем бога Марса, надзеўшага даспехі* (у чаканні) *бітвы. Такімі ж былі і яго адважныя ваяры, кінуўшыяся ў бой, як кідаецца каршак на маладых коз* (і гэта пасьля таго як ворагі ўжо былі перабіты!).

*– Галава мая была ўпрыгожана вянком царскай змяі* – зноў пераходзіць аўтар да апавядання ад імя Рэ-Месу. – *Яна вырыгвала полымя ў твары маіх ворагаў. Я з'явіўся як сонечны бог пры пачатку ранняга світання. Мае прамені былі пякучым полымем для іхных частак. Яны крычалі адзін аднаму: «беражыцеся! Не зваліцеся! Моцная царская змяя суправаджае яго, ён паклаў яе на свае калені! Яна яму дапамагае! Кожны падыходзячы да яго валіцца! Полымя спальвае кожнага набліжаючагася да яго!*

*І яны стаялі, як зачараваныя ўдалечыні і кідаліся ніцма на зямлю, каб выказаць шанаванне цару перад тварам яго ваяроў. І цар меў над імі як бы магічную ўладу, ён забіваў іх і яны не маглі яго пазбегнуць. Як знявечаныя целы ляжалі яны распасьцёртымі ўсе разам перад яго коньмі ў сваёй крыві.*

*Тады выправіў Сутэн цар да непрыяцельскага народа хітаў амбасадара, молячы іх звярнуцца да вялікага імя цара:*

*– Ты Рэ-Хор-Маху, ты Сутэх шматслоўны, сын* (багіні) *Нут, Егова-Бацька ў свой час! Цябе паважаюць у зямлі хітаў, таму што ты, зламаў шыю гэтага народа назаўсёды.*

*... «Ды будуць хеміцяне» братамі народа хітаў, служкамі іхнага цара. Ды знаходзяцца хіты каля тваіх ног. Табе перадаў сонечны бог Рэ лепшых насельнікаў зямлі. Не рабі нам ніякага гвалту, шматслоўны дух, магутнасць якога вісіць над народам хітаў.*

*– Ці добра атрымалася б, калі б ты пажадаў забіць тваіх служак, якіх ты падначаліў сваёй уладзе? Твар твой жахлівы, і неміласэрдным з'яўляецца твой настрой...*

*– Не прыводзь да выканання твае задумы, магутны цар! Лепш мір, чым змаганне! Даруй нам волю.*

*Тады вярнуўся сутэн у радасным настроі, як бацька яго Марс у свой час, і загадаў сабраць усіх правадыроў войска, і калясніц, і ахоўнай варты. І калі яны сабраліся на адным месцы, дадзена было ім выслухаць змест ліста... І яны адказвалі, кажучы:*

*– Цудоўна, цудоўна гэта! Забудзься пра свой гнеў, о вялікі гаспадар, наш цар! Хто не прымае міру, таму давядзецца самому прапаноўваць мір.*

*Цар загадаў выканаць свае словы і пакінуў у супакоі рукі, каб ісьці назад на поўдзень. Ён пайшоў у міры ў сваю зямлю Хамі са сваімі князямі, са сваім войскам і з вайсковымі калясніцамі ў радасным настроі, перад тварам свайго народа. Усе землі баяліся ўлады цара, як спадара* ***абодвух сусьветаў****... Усе народы падпарадкаваліся яго імені, і іхныя цары валіліся ніцма, каб маліцца перад яго прыгожым тварам. Ён дасягнуў гарада Рэ-Месу-Міамуна, вялікага прыхільніка Рэ-Хор-Маху і супакоіўся ў сваім палацы ў радасным настроі, як Сонца на сваім пасадзе. Амон прыйшоў прывітаць яго, кажучы*:

*– Ды будзеш ты шчасьлівы, сын наш, якога мы шануем, Рэ-Месу-Міамун! Ды дадуць табе багі незлічоную колькасць трыццаці гадовых юбілеяў у вечнасьці на сядалішчы твайго бацькі Тума, і ўсе землі ды будуць пад тваімі нагамі*!».

Такой з’яўляецца знакамітая паэма Пентаура. Гэта першы пачатак сярэднявечных рыцарскіх апавяданнаў, але ён сустрэў ці кпіны, ці рэалістычныя шкадаванні з боку іншых пісьменнікаў. Вось, напрыклад, урывак із папірусу, маючага назву Анастасі №3 у Брытанскім музеі, накшталт таго, які я прыводзіў некалькі старонак назад:

«*Якім з’яўляецца лёс пяхотнага афіцэра?.. Яго прыводзяць дзіцёнкам у казарму. Яго б'юць... на паясніцы і на галаве ў яго ўтвараюцца гніючыя язвы. Ён ідзе ў Сірыю ці здзяйсняе экспедыцыю ў аддаленыя краіны. Яго хлеб і вада, на яго ж плячах, як ноша на асле, спіна яго надламана. Ён п'е тухлую ваду і вяртаецца, каб стаць на варту.*

*Ці чакае ён непрыяцеля, ён станавіцца падобным на дрыжачага гусака... Ці вяртаецца ён дахаты, ён падобны на палку з'едзеную чарвякамі. Хворы ці ён, і лёг, яго вязуць на асле, а адзенне яго выкрадаюць зладзеі, служкі яго разбягаюцца. Такім з’яўляецца пяхотнік, ды і вершніку не нашмат лепш.*

*Лепш ты працуй, каб зрабіцца пісьменнікам: ты будзеш вышэй усіх. Дай мне папярэдзіць пра цяжкія абавязкі віцязя на калясніцы. Калі бацька і маці аддадуць яго ў школу, то із пяці рабоў маючыхся ў яго, ён павінен аддаць двух. Калі ён закончыў выправу, ён ідзе выбіраць сабе збрую ў стайні, пры Яго Вялікасьці. Ён цешыцца, што выбраў добрых кабыл, і скача ў свой горад... Не ведаючы, што з ім здарыцца, ён адпісвае ўвесь свой маёнтак бацьку і маці, і вязе калясніцу, дышла якой важыць тры ўтэны, тым часам як уся калясніца важыць пяць! Калі ён пажадае пусціцца наўскач на ёй, яна валіцца і ён вымушаны сысьці і сам цягне яе. Падымаючы яе, ён валіцца на змяю і кідаецца ў кусты, але нагу яго кусае паўзун; пята яго пракушана наскрозь. Калі з'яўляюцца інспектаваць яго паламаныя рэчы, настае вяршыня яго няшчасьцяў: яго кладуць на зямлю і даюць яму сто ўдараў*»[158]...

Скажы сам, чытач, ці падобна гэтае апісанне на старыя ваяўнічыя часы, калі апяваліся Ахілы і Аяксы ці яно, як і першая мая вытрымка із папірусаў Анастасі, больш падобна на прэлюдыю да сэрвантасаўскага Дон-Кіхота?

Стыль дадзенага літаратурнага практыкавання, вядома, вельмі наіўны і выяўляе самае неспрактыкаванае пяро, але тут мае значэнне не змест, а ідэі, а гэта ідэі ўжо таго веку чалавечай культуры, калі розум і веды пачалі лічыцца за лепшае чым адвага. Нікому і ў галаву б не прыйшло напісаць нешта падобнае раней пачатку Эпохі Адраджэння.

Калі нават мы і будзем лічыць, што Рэ-Месія II ягіпецкіх надпісаў тоесны з эліна-ягіпецкім імператарам – сутэнам Юльянам (ці з Вялікім царом у першапачатковай аперцэпцыі), то і тады (каля 363 года нашай эры) наўрад ці былі магчымымі падобныя ідэі. Але Юльян памёр – пераконваюць нас – ва ўзросьце ўсяго 32 гадоў ад нараджэння, і калі браць яго час, то «Паэма Пентаура» хутчэй можа дапасавацца да яго школьнага таварыша, і верагодна, суваладара Вялікага

[158] Пераклад. Масперо 267-279. Бругш, стар. 561 арыгінала нататкі.

цара, хаця яна і дае для яго аблічча мала падобнае на евангельскае, а больш падобнае на Езуса Навіна, яго другога варыянту.

Рэ-Месу II валадарыў, згодна з Ёсіфам Флавіем – 66(= 11*6) гадоў, хаця каля паловы ў якасьці суваладара бацькі, а Васіль Вялікі жыў, згодна з «Жыціямі сьвятых», 49 гадоў, але таксама грунтуючыся на кабалістычных меркаваннях: 7*7 = 49, у квадраце сьвятой лічбы.

Трыццацігадовы «юбілей» (!) яго валадарання прывёў да шматлікіх сьвят па ўсяму царству, пра што паведамляюць шмат надпісаў. Хамус, яго сын, быўшы першасьвятаром бога Пта ў Мемфісе, наведаў для яго розныя гарады Ягіпта. Яго другое сьвята было чамусьці на 34, а трэццяе чамусьці на 37 годзе яго валадарання, хаця гэтыя гады і не з’яўляюцца юбілейнымі. Хутка пасьля трэццяй урачыстасці ён, напэўна, і памёр, таму што далейшых урачыстасьцей не было. Ён, як і старажытны Давыд, меў – паведамляюць нам – 59 сыноў і 60 дачок, із яго жонак законнымі лічыліся чатыры: кахаемая із іх Ізе-Нафер, маці Хамуса, а астатнія тры: Нафер-Ары, Міен-Мут і дачка цара хітаў. Гэта азначае аднаадружанасць у той час яшчэ не была ўсталявана, а абразанне мы пабачым толькі ў наступным пакаленні.

Але ці рэчаіснымі былі яго сыны і дочкі ці алегарычнымі? Я не магу не звярнуць увагу, што ў Сакарскім радаводзе таго ж самага Цара Рэ-Месіі Вялікага яго роду дадзена 59 пакаленняў (як і сыноў тут) адпаведна з колькасьцю дзён і начэй месяцовага месяца. Ці не азначае гэта проста, што яго сынамі былі 12-гадзіннікавых колаабарачэнняў гадзіннікавай стрэлкі (59 за месяц)? А 60 дачок, ці не таму, што і ў кожнай гадзіне 60 хвілін-дочак? Акрамя таго, перамножце 59 сыноў на 60 дачок, і вы атрымаеце 354,0, дзе 354 з’яўляецца колькасьцю дзён першапачатковага 12-месяцовага года. Перамножце таксама старажытны сінадычны месяцовы месяц роўны 29½ дзён на 12 месяцаў, вы таксама атрымаеце для 12-месяцовага старажытнага года 354,0 дні. Ці можа гэта быць выпадковым супадзеннем?

Старэйшы яго сын Хамус, першасьвятар у «Мемфісе», увесь – кажуць нам – аддаўся навукам і пазбягаў удзелу ў дзяржаўных справах. Ён усімі намаганнямі спрабаваў ажывіць культ сьвятога цяляці-Серафіма (г.азн. містычна: кіруючага планетамі сузор'я Цяляці), якое лічылася таксама і знакам бога Пта-Сакара, і Хамус атачыў гэты культ усемагчымымі ўрачыстасьцямі.

Хрысьціянскія аўтары больш позьніх часоў да непазнавальнасьці пераіначылі першапачатковае хрысьціянства, і нашы разуменні пра яго цалкам ілжывыя. Адзін із Серапеумаў[159], быў, кажуць, пабудаваны ў Александрыі паблізу магільні Апісаў і ў ім быццам бы размяшчалася Александрыйская бібліятэка. Да культу Серапіса быў схільны – кажуць – і Нярон. А калі Нярона мы атаясамляем з Валентам, то гэта была ўжо перад хрысьціянская эпоха, і таму дапасаваць да глыбокай старажытнасьці і знойдзеныя Марыетам у 1850 годзе ў Сакары пабудовы, дзе таксама захоўваліся трупы Апісаў, вельмі цяжка.

Адзначым яшчэ, што мумія Рэ-Месы II была знойдзена ў 1881 годзе і захоўваецца зараз у Каірскім музеі, і я даў у гэтай самай главе малюнак яе галавы (мал. 208, стар. 1062), выкананы з натуры мастаком Я. А. Чахровым. Ён мала падобен на тую выяву Хрыста, якую зараз малююць на абразах, і вернікі, мабыць,

---

[159] Слова Серапіс можна вырабіць і ад жыдоўскага שרעף (СРЭФ) – думка, калі прызнаць іх за ўвасабленне творчай магутнасьці боскасці. Але звычайна гэта слова выводзяць ад שרף (СРФ) – пякучы. А бажышча Серапіс грэцкія аўтары лічылі такім, якому належалі ключы пекла, і ён маляваўся з тварам Юпітара-Еговы ў доўгім адзенні і каля яго стаяла абвітая змяёю жывёла з ільвінай ці сабачай галовай.

спалохаюцца яго, але ўсё ж толькі ён адзін і можа быць прызнаны сапраўдным партрэтам, таму што ў тоеснасьці Рэ-Месы II з Езусам Навінам (г.зн. Пракрокам) біблейскага «Пяцікніжжа», з прарокам Іліяй біблейскай кнігі «Цары», з вялікім царом (Васілём Вялікім) «Святцаў» і з Езусам Хрыстом «Евангелляў» немагчыма сумнявацца пасьля ўсяго павядомленага мной ў шасьці кнігах гэтага дасьледавання, не гледзячы на адрозненні яго характарыстык у пералічаных мной першакрыніцах. Яны ж усе не рэчаісныя біяграфіі, а чароўныя казкі із жыцця выдатнага адпаведна са сваім часам чалавека, праўдзівае аблічча якога даўно згубілася ў глыбіні стагоддзяў і кожны аўтар маляваў яго на свой густ.

Я ужо не раз асабліва звяртаў увагу чытача на тое, што ўсе рымскія імператары Ромул, Нума, Тул, Анк, Тулій і абодва Тарквініі маюць не лацінскія ці грэцкія, а менавіта семітызаваныя ягіпецкія імёны:

Ром і Рэм па-жыдоўску – Насарог, Нума – Навум, Анк – Енах і г.д. Усё гэта паказвае на цесную сувязь тагачаснага Ягіпта з Яўропай. Не падобны евангельскі Хрыстос на гэтага іерагліфічнага Цара-Месію, але кожнае пакаленне тварыла яго на свой густ.

# Глава IV.

## Цары-месіянцы (рэ-месіды).
## Псеўда-дваццатая дынастыя іерагліфічных цароў.

Не раз даводзілася мне чуць, што мае пагляды на заснавальніка хрысьціянскай царквы, г.зн. яе набажэнстваў, радыкальна адрозніваюцца ад паглядаў Артура Дрэўса. Дрэўс, кажуць, прызнае гэтага заснавальніка чыста міфічным, а я, як бачыце вы самі, рэчаісным чалавекам, і нават знайшоў яго мумію ў Каірскім музеі ў Ягіпце...

Але я не думаю, каб сам Дрэўс пагадзіўся з думкай пра поўную міфічнасць, г.зн. пра **нябыт** заснавальніка хрысьціянскага набажэнства, таму што яна недарэчная. Як магла міфічная, г.зн. ніколі не існаваўшая, прыдуманая асоба напісаць цалкам не міфічную, а рэчаісна існуючую да гэтага часу праваслаўную літургію?.. Не спусьцілася ж яна непасрэдна з неба «ад духу сьвятога»?

А раз мы прызнаём, што яе склаў, хаця б і не ў сучасным, а ў першапачатковым выглядзе не сам бог-бацька, а чалавек, то для далейшых спрэчак не застаецца месца. Даводзіцца толькі вырашыць, у колькіх варыянтах дайшлі да нас праз доўгую дарогу стагоддзяў паданні пра тую асобу, наколькі гэтыя паданні трансфармаваліся на шляху і ці не падзяліліся яны ў розных народаў на такія варыяцыі, што рэчаісны вынаходнік хрысьціянскага набажэнства стаў у іх непазнавальным?

Гэта я і раблю тут не толькі для яго, але і для яго першых паслядоўнікаў.

Усё адрозненне паміж маімі высновамі і высновамі Дрэўса складаецца толькі ў тым, што ён прызнае глыбокую старажытнасьць Бібліі і разам з ёю ягіпецкай і лаціна-элінскай культуры, а я, наадварот, даводжу, што гэта старажытнасьць з'яўляецца міфам.

Вось, напрыклад, перад намі дынастыя (табл. LXXVIII), само найменне якой – цары-месіянцы – паказвае, што яна належыць ужо да хрысьціянскага перыяду рамейска-ягіпецкай гісторыі.

Я даю яе тут згодна з Бругшам, але мы не павінны забывацца, што яго злучаючыя лініі ад адной асобы да другой не першапачатковы дакумент, сумленна складзены старажытным Карамзіным грунтуючыся на радаводных кнігах нейкай даўно зніклай ягіпецкай арыстакратыі. Ніякіх дакументальных радаводных кніг для доказу старажытнасьці свайго рода і яго сваяцтва з імператарскім родам тады яшчэ не вялося. Усё, што тут мы бачым, – простыя здагадкі самога Бругша ці яго папярэднікаў, зробленыя для аднаўлення (ці, больш дакладна, для стварэння) старажытнаягіпецкай дзяржаўнай гісторыі. І калі яго папярэднікі і пісалі свае фантазіі ў самым Ягіпце; і нашмат раней яго, то гэта яшчэ не доказ таго, што яны лепш ведалі справу.

Нерэчаіснасць Бругшавага радаводу бачна ужо із яго самага;

Вось, напрыклад, у трэцяга цара-месіянца (Рэ-Месу III Хак-Она, г.азн. князя вобласьці Она) паказаны сыны: Рэ-Месу III, Рэ-Месу IV і г.д. аж да Рэ-Месу XIII... Але якому ж бацьку прыйшло б у галаву называць сваіх дзяцей, па меры іхнага нараджання, Ян трэцці, Ян чацьвёрты, Ян, пяты і гэтак далей да Яна трынаццатага і пры гэтым чамусьці прапусціўшы трох першых Янаў?

А калі гэта былі толькі іхныя тытулы, накшталт найменне Вялікі, то чаму ж аўтары далучылі нумарацыю не да іх уласных імёнаў, а да іхнага агульнага тытула, як быццам бы тут нейкія градацыі ў іхнай «велічыні», накшталт Ян трэцці-вялікі, Ян чацьвёрты-вялікі, і г.д.?.

Увесь гэты «дынастычны» запіс Бругша наіўны да сьмешнага.

Можна быць упэўненым, што нумарацыі яго цароў-месіянцаў, якой яна маецца ў выточных дакументах, паказвае не на ступень велічы некалькіх братоў, а на паслядоўнасць валадарання некалькіх валадароў, меўшых аднолькавую мянушку – цары-месіянцы. Перавядзенне іх на становішча братоў лёгка тлумачыцца тут нявызначанасьцю двух старажытных слоў: слова – «бацька», якое пазначала адначасна і кожнага продка, і слова – «сын», якое ўвесь час ужывалася і ў сэнсе нашчадка. Вось, напрыклад, пачатак радаводу Хрыста ў трэцяй частцы Евангелля Лукі:

«*Езус быў сынам Ёсіфа, Іліі, Матафія, Левія*» і гэтак далей... Лука налічвае ў шэрагу яго «бацькаў» да сямідзесяці сямі чалавек, пералічваючы ў тым ліку і самога бога, пастаўленага апошнім бацькам Езуса... Але ці можна із гэтага зрабіць выснову, што ў панны Марылі падчас яго зачацця было семдзесят сем чалавекаў, у тым ліку і сам бог-Грамабой?

А вось пачатак і іншага радаводу ў кнізе «Словы Дзённыя» (Параліпаменон I, гл. I, 24-27):

«*Сыны Сіма: Арфаксад, Каінан, Сала, Евер, Фалек, Рагаў, Серух, Нахор, Фара, Аб-Рам, ён жа Аўраам*...»

Ці вынікае із таго, што ўсё яны, у тым ліку і прабацька Аб-Рам, былі непасрэднымі сынамі Сіма, ноевага сына? Самі тэолагі сцвярджаюць, што гэта былі паслядоўныя нашчадкі, а не адначасовыя сыны.

Так мы павінны глядзець і на радавод, складзены Бругшам і паказаны на нашай табліцы LXXVIII. Увесь дзясятак Рамэ-Мес (пачынаючы ад трэцяга і да трынаццатага) патрэбна выцягнуць у адну лінію, як выцягнуты храналагістамі і дзесяць нашчадкаў Сіма да Абрама.

Тут мы ўжо выходзім із зачараванага кола сямі старажытных кабалістычных цароў, якія чаргаваліся ў нас так доўга пад рознымі найменнямі, як сем дзён тыдня на працягу года. Падмуркам храналогіі тут у мяне служаць два выбітныя моманты.

Першы з іх – атаясамленне Вялікага цара-Месіі з Васілём Вялікім, заснавальнікам хрысьціянска-месіянскай царквы сярэдневечча, а другі момант – гэта шыкоўнае апісанне вялікага перасялення народаў пры трэццім цару-Месіі, князю Она (Рэ-Месу-Хан-Он). Такім чынам Рэ-Месу III ці ў грэкаў Рампсініт, налягае на Хвядоса Вялікага, пры якім адбылася такая падзея. Але Хвядос Вялікі зацараваў у год сьмерці Васіля Вялікага, і таму тры прамежкавыя дзеячы павінны быць палічаны няйнакш як за братоў гэтага вялікага дзеяча ці за яго выбітных вучняў – Андрэя Першапаклікангага, Сымона Пятра і Яна Залатавуста, з якімі я ўмоўна іх і атаясаміў. А астатнія 9 цароў-месіянцаў – ад IV да XIII-павінны быць атаясомлены з візантыйскімі царамі ад Аркадзя да Гераклія, пры якім Ягіпет з 622 года перайшоў да агаранства. І яны, сапраўды, цалкам супадаюць (табл. LXXVIII).

ТАБЛІЦА LXXVIII.

Прыкладнае атаясамленне цароў-месіянцаў з наступнікамі Вялікага цара і з наступнымі візантыйска-ягіпецкімі імператарамі ад Хвядоса Вяліка да Гераклія (псеўда XX дынастыя)

| | |
|---|---|
| Смерць Вялікага цара 378 г. | |
| Мінэпта, служка Хіма | «Андрэй Першапаклікаы» (ці Дыяклетыян). |
| Сэці Мінэпта з жонкай Ізі Нафер. | «Пятро» (ці Арый). |
| Сэтнах Мерэр-Міамун | «Ян Багаслоў» (ці Юльян). |
| Цар-месіянец III Хак-Он | Хвядос Вялікі (378-395). |
| Цар-месіянец IV | Аркадзь (395-408). |
| Цар-месіянец V | Феадосіі II (408-450). |
| Цар-месіянец VI | Маркіян (450-457). |
| Цар-месіянец VII | Леў Ілірыец (457-474). |
| Цар-месіянец VIII | Зянон (474-491). |
| Цар-месіянец IX | Анастас (491-518). |
| Цар-месіянец X | Юстыніян і Юстыны (518-578). |
| Цар-месіянец XI | Тыберый (578-582). |
| Цар-месіянец XII | Маўрыкій (582-603). |
| Узурпатарства Факі (603-610). | |
| Цар-месіянец XIII | Гераклій (610-641). |
| Пераход Ягіпта да агаранства | |

Паглядзім на іхнае гістарычнае становішча.

Вялікаму Рэ-Месіі ўспадкоўваў – згодна са сведчаннямі некаторых першакрыніц сумнеўнай старажытнасьці – быццам бы яго сын Міне-Пта, г.азн. сябар бога Пта, які храналагічна налягае тады на час Феадосія III (378-395). Але вельмі магчыма, што тут пачынаецца зноў новы перыяд, і мы павінны дапасаваць гэтага Міне-Пта не да нашчадкаў, а да продкаў Рэ-Месіі, як мы ўжо два разы бачылі пры параўнанні Абідоскага спісу з Сакарскім, дзе цэлыя дзьве дынастыі выявіліся пералічанымі ззаду наперад. Тады ён наляжа на Дыяклетыяна.

Пра яго ў іерогліфах мала паведамленняў, за выключэннем надзвычай важнага надпісу на ўнутранай сьцяне аднаго із паўднёвых двароў вялікага храма Амона ў Апе[160], дзе паведамляецца пра адбіццё ім нападу лівійцаў і пералічваюцца ў ліку іхных хаўруснікаў наступныя «абрэзаныя» (г.азн. арыянскія) і паважаемыя за гэта народы «із прыморскіх краёў»: кайкаша (каўказцы) акай-уанса (ахейцы), шардана (сардзінцы), турша (туркі-таўры ці турыша (туліша), легу (лігійцы), вашаш ці васы (візантыйцы), шакалша (сікелійцы-сіцылійцы).

[160] У Бругша на стр. 569 арыгінала.

А самі ліву (лівійцы) названы не абрэзаным народам. Але ні пра якія «абрэзаных» пры папярэдніку Рэ-Месу II, наколькі мне вядома, яшчэ не згадваецца. Там у якасьці доказу забіцця ворага яшчэ паказвалася яго правая рука, а зараз замест рукі паказваецца яго дзетародны орган.

Да часу Мінэ-Пта Бругш дапасуе і так званы «сыход жыдоў з Міц-Рыма пад правадырствам Майсея», хаця і аспрэчвае, што сустракаемае на помніках таго часу імя народа апер з'яўляецца пераінačаным абер – габрэй, г.азн. перасяленец.

Аднак, нягледзячы на поўнае маё прызнанне вялізных фактычных ведаў Бругша ў ягіпталогіі параўнальна з маімі ведамі, я дазваляю сабе не пагадзіцца з яго цверджаннем, што слова апер не тое ж самае, што і слова ебер, г.азн. перасяленец, уцякач.

Народ апер[161] у надпісах таго часу быў без сумневаў біблейскім «евер», г.азн. юдэй. Усе непаразуменні Бругша і іншых дасьледчыкаў гэтага пытання караняцца ў іхных няправільных уяўленнях пра жыдоў, як пра расу, тым часам як у рэчаіснасьці юдэйствам была рэлігія і прытым узнікшая як паралель да хрысьціянства толькі ў IV стагоддзі нашай эры. Усё гэта мы ўжо вылічылі астранамічна раней грунтуючыся на часе з'яўлення біблейскіх прарокаў, выгнанцаў із Візантыі.

Згодна з ягіпецкімі сведчаннямі «юдэі» жылі ў той час каля «Чырвонай гары» ў «Чырвонай зямлі», і іхнай спецыялізацыяй была гадоўля коней і навучанне іх вярховай яздзе. За Чырвоную ж гару я больш схільны лічыць полымядыхаючы Вязувій, чым наогул не чырвоны Сінай.

Іерагліфічны Майсей сустракаецца спачатку, як Масуй з тытулам сына Куша[162], саноўніка Рэ-Месы II. Лічачы Арыя, духоўнага суваладара Дыяклетыяна і Кастуся, памёршага ў 336 годзе, Аронам, мы павінны дапасаваць да таго ж часу і Майсея, але ён мог быць саноўнікам Рэ-Месы II, калі мы атаясамім апошняга з Васілём Вялікім, толькі пад час яго ранняга дзяцінства. Хутчэй усяго тут атрымалася блытаніна ў нумарацыі Рэ-Месій.

ТАБЛІЦА LXXIX.

Цары-месіянцы (псеўда-XX дынастыя).

| | | |
|---|---|---|
| Родапачынальнік Вялікі Цар-Месія (Рэ-Месу-Міамун)<br>Жонкі: Ізіда-Нафер, Нафер-Ары-Мінемут і Нафер-Ура-Урма, дачка цара готаў (хетаў). | | |
| Дочкі: Бінт-Анта, Мэры-Амун, Бекен-Мут, Наферы-Неб-Тауй і шмат іншых. | Спадкаемец Мінэпта Хатэп-Хіма* Мінефтас (Абрэзаны) | Іншыя сыны: Амен-Хіу Наміф, Амун-Хі-Хапешэф, Рэ-Месу, Прахсунаміф Хамус, Неб-Енхал, Міамун і інш. |
| | Сэці-Мінэпта Цар Усер-Хепер (Гебр) з жонкай Ізідай Нафер. | |
| | Сэтнах-Мерэр-Міамун | |
| | Рэ-Месія (II) Хак Он Цар Усер-Ма Рэ-Месія Па-Нутэр (цар-месія бог), у грэкаў Рампсініт. | |
| Рэ-Месія** IV, Рэ-Месія(VI)-Міамун, Рэ-Месія(VIII) Прахі-Унаміф, Рэ-Месія(IX), Рэ-Месія(X), Ра-Месія(XI), Рэ-Месія(XII), Рэ-Месія(XIII) Он (Унус, г.азн. адзіны). | | |

[161] Інакш Аперыу і Апура.

[162] Бругш, стар. 529 арыг.

*Пры Мінэпта Хатэп-Хіма – адпавядаючага згодна з нашымі атаясамленнямі Яну Залатавусту – ужо згадваецца звычай абразання.
**Прыведзены, як сучаснікі грунтуючыся на надпісе ў храме Медынет-Абу, але гэта непаразуменне дзякуючы змешванню візантыйскіх валадароў з Хрыстом і яго 12 апосталамі, пры гэтым Рэ-Месу V выключаны із сям'і падобна евангельскаму Юдзе.

«Рэ-Месу II, – сцвярджае Бругш[163], – быў бацькай (хутчэй: сынам) той невядомай нам на імя царскай дачкі, якая знайшла ў чароце на беразе ракі дзіцёнка Машэ ці Майсея». А згодна з нашай храналогіяй, гэта магло быць толькі пры Рэ-месе I: дрозненне ўсяго на адно пакаленне. Яшчэ далей[164] Бругш паведамляе, што пад час валадарання Рэ-Месы III (Хан-Она), помнікі ягіпецкай старажытнасьці пачынаюць згадваць і пра мясцовасць Іен-Машэ, г.азн. бераг Майсея, непадалёку ад горада цара-новаверніка Хун-Атэна, таксама нагадваючага **Васіля Вялікага** ў «Жыціях сьвятых» ці яго брата Рыгора Багаслова.

Гэты ж саноўнік Масуй (Майсей) згадваецца, як жывы і пры наступніку Рэ-Месы II (Міне-Пта-Хатэфіме), а першасьвятара Арона – родапачынальніка лявітаў – мы знаходзім пры тым жа самым імператары ў асобе Арывуса (ці Арызу), аднайменнага з Арыям дадзенай эпохі (адпаведна з нашай храналогіяй) у выглядзе ўплывовага першасьвятара Луі (інакш Раі), аднайменнага з Левіем, ад якога выводзяцца лявіты. Ён кіраваў пры Мінэ-Пта над легіёнам Амона, кіраваў скарбамі яго храма і, згодна са звычаем таго часу, быў Вялікім Дойлідам імператара. Тут-жа ў Сільсіліскіх каменяломнях згадваецца і імя Піпехаса, у якім Бругш пазнае біблейскага Фінееса.

У адным надпісе, прыпісваемым часу Тутмеса III, згадваюцца рыцары сіенены (г.азн. сіёнскія вершнікі), «якія сядаюць на коней згодна з наказам цара»[165]. У іншым надпісе часоў Рэ-Месы II паведамляецца, што ў Геліяполісе існуюць «вершнікі ці рыцары, сыны цароў і шляхетных спадароў із апераў (перасяленцаў), людзі залежныя, у ліку 2083».

Тое ж мы бачым і ў часы Рэ-Месу IV, паблізу Суэцкага перасмыка (Ані).

«*Рамсесу* – паведамляе адзін надпіс – *аб'ехаў навокал усю гэтую цудоўную горную краіну, каб стварыць помнікі із граніту свайму бацьку і продкам, багам і багіням, спадарам Хемі. Ён паставіў на вяршыні тамтэйшага горнага хрыбта памятную пліту з напісаннем поўнага тытулу цара Рэ-Месу... Ён даў загад пісьменніку сьвятых навук шукаць што патрэбна для храма і ў гарах Бухан* (у накірунку да Чырвонага мора, 28°-29° п. ш.). *Гэта былі вялікія ломкі граніту для помнікаў*».

Для арганізацыі дастаўкі быў выпраўлены Вярхоўны Дойлід і першасьвятар Амона, якога суправаджалі між іншым 200 прыдворных кіраўнікаў рыбацкіх **цэхаў**, 800 апейруеў із зямлі Оні і 2000 прыдворных служак із сядзібы імператара.

Тут слова апейруі Бругш перакладае «румянаскурыя» і лічыць іх не за жыдоў (г.азн. перасяленцаў), а за эрытрэеў, але ці правільна гэта? Калі мы будзем лічыць Эрытрэяй, як гэта робяць, Самалійскую паўвыспу ці частку Абісініі, то дзе ж мы знойдзем тут хаця б аднаго чалавека не са смуглай, а з румянай скурай?

У дадзеным дакуменце яны выяўляюцца ў якасьці рыцараў у сьвіце Рэ-Месу IV, а раней у надпісе, дапасуючымся да Рэ-Месу II, паведамляецца пра тых-жа апейруяў, як яшчэ пра прымусова ўжываемых для прац па перавозцы камянёў для храмаў із каменяломняў Троі.

[163] Бругш, стар. 550 арыг.

[164] Стар. 563 арыг.

[165] Bilbical Archeology, vol. III, p. I, стар. 372. Бругш, стар. 582 арыгінал.

Мы бачым, што іхнае грамадзянскае становішча, калі верыць дакументам, моцна перамянілася да дадзенага часу...

Пасьля Міне-Пта на пасад сеў Сэці-Мінэпта III, быўшы і раней суваладаром бацькі. У яго быў супернік Амен-Месу, а сталіцай яго быў той жа Тапіс-Цоан. Потым валадарылі Сэтнах-Мерэр і Міамун II, у якога таксама быў супернік Мінэпта-Санта, чалавек царыцы Тау-Зер (ці Та-Узер), папулярны ў зніклых пазней невядома куды Фівах, але не перамогшы яго.

Пасьля Сетнах-Мерэра і Міамуна II пачынаецца дваццатая дынастыя грэцкіх ягіптолагаў. Спачатку я лічыў яе за новы перыяд ужо разгледжанай намі перыядычнай сістэмы эліна-ягіпецкіх тэакратаў, дапасаваўшы да яго і Міамуна II, г.азн. Вялікага Другога, аналага Кастуся Вялікага. А Мінэпту-Сэці, чалавека царыцы Та-Узер, я лічыў і за Ліцынія, дапасаваўшы справу да часу Нікейскага сабора, дзе запраўляў Арый (табл. LXXVIII і LXXIX).

Сапраўды, я ўжо выказваўся, што пры гэтых супернічаўшых сутэнах узвышаецца нехта Арызу ці Арыус, які часова нават завалодаў пасадам, але неўзабаве быў пазбаўлены яго, а пасьля яго на пасад сеў Рамесу III Хан-Он (князь Она). Пасадным імем апошняга было ў Ягіпце Усер-Ма-Рэ-Міамун, із якога грэкі зрабілі Рампсініта (ад яго мянушкі Рэ-Месу-Па-Нутэр, г.азн. Рамесу-Бог). Сам Бругш пазначае, што яго здзяйсненні нагадваюць Рэ-Месу Вялікага[166]. Пры ім – кажуць нам – былі заснаваны адміністрацыйныя званні і станы, пералічваемыя ў такім выглядзе:

1) *аб-ен-пірао – дарадца Высокага Парога*;

2) *вялікія князі;*

3) *тубыльныя ваяры – пешыя і конныя*;

4) *наёмныя ваяры із шардан* (сардзінцаў) *і кахакаў* (кахецінцаў) і

5) *рабы*.

Ён, як і Рэ-Месія II, абагаціў храмы раскошнымі дарункамі, падараваў ім – паведамляюць надпісы[167] – золата ў зернях.

Пры ім быў пабудаваны флот быццам бы ў Чырвоным моры, выпраўна выведваючая экспедыцыя ў горную краіну Атака (Ітака?), меўшую шмат медзі, адкуль яна вывозілася ўжо вычышчаная на мясцовых меднаплавільных заводах і грузілася на караблі ў мясцовай гавані, у выглядзе зліткаў.

Вельмі цікавым з’яўляецца паданне, укладзенае ў вусны цара, паведамляючае пра насаджэнні згодна з яго наказам дрэваў і кустоў, каб даць магчымасць жыхарам адпачываць у халаднаватым цені.

На прыканцы Рампсініт у вельмі паэтычнай форме быццам бы сам апісвае існаваўшае пры ім спакойнае і мірнае існаванне краіны:

«*Слабая жанчына магла пры мне без баязні і бяспечна хадзіць па вялікай дарозе. Народы Шардана і Кахак сядзелі спакойна ў сваіх гарадах. Куш перастаў надакучваць Ягіпту сваімі нападамі. Фінікіяне пакінулі ў спакоі свае лукі і зброю*».

У шырокім хвалебным гімне аўтар ад яго імя згадвае пра яго дабрадзействы багам і людзям, бедным і заможным і, заканчваючы свае спевы, дапасуемые да 32-га года валадарання, прапануе шчасьлівым падданым прызнаваць таксама царом і слухаць, як цара, і яго сына, Рэ-Месу, якога ён прызначае разам з тым сваім царом-суваладаром.

---

[166] Бругш, стар. 589 арыг.

[167] Бругш, стар. 591 арыг.

Зразумела, што ўся гэтая паэма была напісана ад яго імя больш пазьнім аўтарам, дакладна так жа, як і аповесць пра напад «лівійцаў», складзеная грунтуючыся на тым жа ўзоры, як і напад пры Мінэ-Птэ II.

Яна здавалася мне вельмі прыдатнай для часоў Кастуся I, але наступнае паведамленне пра перасяленне народаў прымусіла мяне потым супастаўляць Рампсініта з Хвядосам I.

«*Народы* – паведамляе адзін надпіс, знойдзены ў Рэмесеуме паблізу Медынет-Абу[168], – *прыйшлі, скачучы, са сваіх берагоў і выспаў, і раптам пашырыліся па землях. Ніводзін народ не змог выстаяць супраць іхнай рукі, пачынаючы ад народаў Хіта, Кадзі, Кархеміша, Аратуса і Алуса. Яны спустошылі ўсе мясцовасьці, разбілі стан на адным месцы ў зямлі Эм-Рэ* (народа-цара). *Яны абрабавалі жыхароў і ўсю краіну, як быццам тыя былі нішто. Яны выступілі супраць Хамі, але тут было прыгатавана полымя паядаючае перад іхнымі тварамі. Айчына іх была ў землях Пу-Расата, Сакар* (пустыня), *Шакалша, Данау і Вашуаш. Гэтыя народы ўтварылі хаўрус, яны працягнулі свае далоні на падвойную «ягіпецкую» зямлю, каб атачыць яе. Сэрца іх было поўным саманадзейнасьці, яны складалі шмат планаў, і ўсё здарылася таму, што такой была воля пана Бога. Але гэта была засада, каб завабіць іх у пастку, як птушак*».

А далей аўтар працягвае сваё апавяданне ад імя самага Рампсініта.

«*Ён* (Амон) *падараваў мне* (Рэ-месе князю Она*) магутнасць і дараваў поспех маім начынанням. Пры маім выступленні рука мая была моцнай, як жалеза.*

*Добра ахоўваемай была мая мяжа да Ца. Супраць іх стаялі ў засадзе галоўныя мае правадыры, намесьнікі, шляхетныя віцязі і вайскаводы з ваярамі. На вадзе была пастаўлена абарона, як моцная сьцяна, із вайсковых караблёў, гандлёвых суднаў, лодак і чоўнаў. Яны былі напоўнены ад пярэдняй часткі да задняй самымі адважнымі ўзброенымі ваярамі і лепшымі із ахоўнай варты. Яны былі падобнымі на рыкаючых ільвоў на горах, а віцязі належалі да самых хуткіх на спаборніцтвах і да вельмі спрытных вершнікаў. Коні іхныя дрыжалі ўсімі часткамі, гатовыя растаптаць народы пад сваімі капытамі. Я быў як бог вайны, моцны Марс. Я стаяў перад імі. Яны бачылі бітву маіх рук. Я, цар Рэ-Месу III, выступіў з усведамленнем сваёй магутнасьці з моцнай рукой, баронячы маё войска ў дзень бітвы. Тыя, якія дайшлі да мяжы маёй зямлі, ніколі ўжо больш не збіралі жніва. Душа і дух іх паляцелі на вечныя часы. Для тых жа, якія збіраліся па Вялікаму Мору, загарэлася полымя паядаючае перад тварам ракі. Стулілася каля іх жалезная сьцяна на моры. Іх захапілі, скінулі на зямлю і пасеклі на беразе вады. Утварыліся сотні курганоў із іхных трупаў. Канец іх быў пачаткам* (новай справы). *Караблі іхныя і ўся іхная маёмасць плавалі раскіданымі па паверхні вады. Так я астудзіў у народаў жаданне звяртаць іхныя думкі на Хемі. Яны славяць маё імя ў сваёй зямлі, сэрца іх палымянее пра мяне, пакуль я буду сядзець на пасадзе Гора-Маху*»[169].

Гэта была тая вялікая бітва на вадзе супраць нападаўшых народаў, пра якую шматлікія надпісы паведамляюць так шмат у паданнях больш-менш падрабязных. Вось яшчэ ўзор такога апавядання:

«*Здарылася, што жыхары паўночных краін, сядзячыя на сваіх выспах і на сваіх узбярэжжах, задрыжэлі сваім целам. Яны ўвайшлі ў азёры ўтокаў Нілу. Ноздры іх пашырэлі, яны прагнулі ўдыхаць мяккае паветра. Цар* (г.азн. Рэ-Мсссу III) *кінуўся супраць іх, як віхур, каб біцца на месцы бітвы, і таксама ж* (зрабілі) *усе яго віцязі. Зьнішчаны быў дух прыхадняў на тым месцы, дзе яны стаялі, забрана была іхная душа. Больш моцны, чым яны, падышоў да іх* (больш слабых)».

[168] Бругш, стар. 596 арыг.
[169] Бругш, стар. 598 арыг.

Існуе ўказанне ў шматлікіх надпісах і ў пераможных табліцах, – паведамляе Бругш[170], – што згаданыя вышэй паходы былі не адзінымі, займаўшымі Рэ-Месу III на працягу яго валадарання. Ён – кажуць нам – распачынаў паходы на поўдзень ад Ягіпта і перамог чорных «нахазі», тхіраүі і амараі (ці амалаі). Яшчэ даведваемся мы із тых жа надпісаў, што, акрамя пу-Расата, ворагамі былі «туйрша мора, г.азн. анаталійцы-туркі», і што амарэі (жыхары Марэі?) і халы (галы) былі жорстка пакараны.

Вельмі важнымі для навукі з'яўляюцца выявы пераможаных чужацкіх цароў і правадыроў, зробленыя ў так званай «царскай сядзібе» цара-месіі, што знаходзіцца побач з храмам Амона ў Медынет-Абу. Там намаляваны[171]:

1. «*Цар пагарджаемай зямлі Куш*» (Эфіопіі).

(радкі 2 і 3 знішчаны.)

4. *Цар Ліву* (Лівіі).

5. *Цар Турсэс* (зямлі Турцыі?).

6. *Цар Машауаша* (народа максіеў).

7. *Цар Тарауа* (зямлі неграў),

8. *Пагарджаемы цар Хіта* (хетаў), *узяты жывым у палон.*

9. *Пагарджаемы цар Аморы* (амарэяў).

10. *Правадыр варожых процьмаў Цакары*.

11. *Народ мора Шаірдана* (сэрдзіната).

12. *Правадыр варожых процьмаў шазу* (арабаў).

13. *Народ мора Туйрша* (Турцыі).

14. *Правадыр полчышчаў пу-расата.*

А потым паведамляюцца найменні заваяваных трэццім царом-міс-сіанцам народаў і гарадоў. Яны пакрываюць адзін із бакоў пілона храма ў Медынет-Абу[172], і мы перадаём іх тут у магчыма-дакладнай транскрыпцыі. Чытач, не прызнаючы маёй храналогіі, не будзе ў стане ўстрымацца ад здзіўлення, пазнаючы ў іхным спісе наступныя добра вядомыя нам назвы на Кіпры:

Саламаскі (Саламіс, на Кіпры, ці Саламін паблізу Аттыкі).

Катыян (Кітыён, на Кіпры).

Аі-Мар (Марыён, на Кіпры).

Салі (Салі, на Кіпры).

Італ (Ідаліён на Кіпры),

М'Акнас (Акамас, на Кіпры).

Усе гэтыя кіпрскія найменні існуюць і ў Страбона (XVI, 6). І калі вы нават аспрэчваеце сучаснасць дадзеных надпісаў апісваемым у іх падзей, то вы ва ўсякім разе павінны дапасаваць іх да таго часу, калі Кіпр з яго вялікімі медзянымі руднямі, ад якіх паходзіць і лацінскае слова медзь – cuprum, знаходзіўся ўжо ў высокакультурным стане.

Але самым здзіўляючым непагадненнем ў біяграфіі Рэ-Месу III, бога і князя горада Она, я лічу тое, што, нягледзячы на яго найменне «князь Она», яго рэзідэнцыяй лічацца неіснуючыя ў Ягіпце Фівы і што ніводнай яго значнай пабудовы няма ў Она, а ўсе ў іншых гарадах...

Рызыкуючы выклікаць прыкрасць чытача новым паўтарэннем ужо выказаных мной раней меркаванняў агульнага характару, я ўсё ж не спынюся перад

---

[170] Бругш, стар. 601 арыг.

[171] Бругш, стар. 602 арыг.

[172] Бругш, стар. 603 арыг

гэтым і тут, таму што патрэбна ж скасаваць ягіпецкія стабрамныя Фівы і шыкоўны Мемфіс.

Я не магу зноў не звярнуць увагу чытача на вялікія непагадненні ў нашых сведчаннях пра абодва знакамітыя ягіпецкія гарады, Фівы і Мемфіс. Лічачы, што паведамленні надпісаў дапасуюцца да недалёкіх ад іх мясцовасьцей, старыя ягіптолагі зрабілі выснову, што «стабрамныя Фівы», сталіца дзяржавы, існавалі ў Верхнім Ягіпце, на поўдзень ад Коптаса.

Але ж гэта стратэгічна цалкам немагчыма! Хай у Верхнім Ягіпце – як кажуць – існавалі 22 асобныя аўтаномныя княствы (номы) адпаведна колькасьці 22 літар жыдоўскага альфабэта, але ні пры якіх абставінах шэйх пустэльнага каля-копцкага нома не мог зрабіцца такім магутным, каб паспяхова ваяваць з кім бы там ні было. Усё, што ён мог рабіць, гэта жыць за кошт платы за сплаўляецца туды з больш паўднёвых абласьцей лес. Як сталіца вярхоўнага валадара Ягіпта, Фівы паблізу Коптаса (пад 26° паўн. шыр.) немагчымы ні ў які час і ні пры якіх гістарычных умовах без поўнай змены геаграфічнай мапы пры-Нільскай Афрыкі. Пабудовы ў «ягіпецкіх Фівах» маглі быць толькі рэлігійна-навуковага характару, як у месцы, з якім злучаны нейкія агульныя рэлігійныя ўспаміны вялікага народу, як месца яго пілігрымства накшталт сучаснага хрысьціянскага Эль-Кудса (Ерусаліма), ці Мекі магаметанаў.

Нічога «стабрамнага» тут не магло існаваць. Зірніце толькі на дастаткова падрабязную мапу Ягіпта, і вам самім будзе сьмешна, як толькі вы пазбавіцеся ад традыцыйнага гіпнозу, усыпіўшага вашу кемлівасць. Так было і з маёй уласнай галавой, пакуль астранамічныя вылічэнні часу шматлікіх помнікаў старажытнасьці, даючых магчымасць для гэтага, не знялі гіпноз з майго розуму. Толькі тады я і пацікавіўся даведацца: якія ж парэшткі засталіся ад знакамітых, але стратэгічна і палітыка-эканамічна цалкам немагчымых «стабрамавых» Фіваў у наш час?

Выявілася – як я ўжо і загадзя чакаў пасьля знікнення гіпнозу, – што ад горада **нічога не засталося**, таму што нічога рэчаіснага тут і не магло быць. На ўсходнім беразе Ніла і да гэтага часу стаяць велічныя і добра захаваўшыяся парэшткі Карнакскага і Луксорскага акадэмічных храмаў. На іншым беразе, як і раней, стаяць таксама добра захаваўшыяся парэшткі храма Курна, Рэмесеум, Медынет-Абу, але ад саміх сталічных стабрамавых Фіваў – ніякага сьледу!

Кажуць: «яны былі разбураны згодна з загадам Пталямея Сатэра II Латыруса, які жыў быццам бы за 84 гады да «нараджэння Хрыста», за трохгадовае супраціўленне яго ўладзе»... Але дзе ж іхныя камяні? Іх няма. Кажуць, яны знесены штогадовымі паводкамі[173]. Але хіба паводкі калі б то ні было і дзе б там ні было ў стане выносіць камяні, як плаваючыя бярвёны? Камяні заўсёды заставаліся на дне а вада неслася над імі. Ды і каму б прыйшла ў галаву дзікая думка будаваць сталіцу ў такім месце, дзе нават камяні штогадова выносяцца вадой?

Відавочна, што тут ніколі нічога не было, акрамя захаваўшыхся і да гэтага часу храмаў-акадэмій, ды эфемерных памяшканняў для пілігрымаў. Вось чаму па-грэцку гэтае месца і мела назву Дыёспаліс, г.азн. горад бога-бацькі (Зеўса), а па-ягіпецку яно было б На-Амон, горад Амона.

Паходжанне наймення Фівы выводзяць – як я ўжо паведамляў – ад Афе, – стабрамавы, пры гэтым – кажуць – гэтае слова разам з чальцом вымаўлялася Т'афе, адкуль і паходзіць грэцкае Тэбе, ператварыўшаяся па-руску ў Фівы.

[173] Mariette, Monuments, p. 180.

Але я скажу зноў, што такое словаўтварэнне ніколькі не выглядае пераканаўчым і што імя Афе больш усяго падобна на Афіны, дзе (хаця б ужо падчас Крыжовых паходаў) таксама будаваліся шыкоўныя пабудовы. Чаму б пра гэты сусьветны горад не апынуцца запісам і на ягіпецкіх камянях? Чаму б стабрамавым Фівам не быць ягіпецкай назвай гэтага сапраўды цікавага горада? Акрамя таго, у Грэцыі і да гэтага часу існуе горад Фівы (Thiva) у грэцкай намархіі Атыка, у якім на прыканцы XIX стагоддзя было каля 3 000 жыхароў. Але і яго я не бяру да ўвагі, нягледзячы на яго старажытную славутасць, як таксама непрыдатны для вялікай культурнай ролі адпаведна са сваім становішчам пасярэдзіне незаможнай краіны без воднага спалучэння з астатнім сьветам. Можна з упэўненасцю сказаць толькі адно: калі Афе месцаваўся не ў Афінах, а каля Коптаса ў глухмені даліны Ніла, то ў ім ніколі не магло існаваць і ніколі не будзе рэзідэнцыі валадароў якой бы то ні было магутнай дзяржавы. Тут было проста сьвятое месца ў пустыні, якое ўтварылася падобна таму, як Мека, Ерусалім, але не меўшае ўмоваў да такога моцна развіцця, як яны. Усіх ягіпецкіх цароў, якія сюды дапасуюцца, патрэбна хутчэй перацягнуць, калі і не ў Візантыю, як раблю я, то ў нейкае іншае месца зямнога шара, зручнае са стратэгічнага боку гледжання.

Калі «стабрамавыя Фівы» спісаны не з Афінаў і не з Цар-Горада, то яны маглі б быць толькі сярэднявечным Рымам.

Амаль такое ж непаразуменне ўзнікае і ў дачыненні да Мемфіса.

Вядома, са стратэгічнага боку гледжання было непазбежным натуральнае ўтварэнне сталіцы Ягіпта менавіта ў дадзеным месцы, недалёка ад разгалінаванняў Нілу, пры ўваходзе ў дэльту. Тут сапраўды і існуе ў наш час горад Каір, і калі б сцвярджалі, што ён і з'яўляецца старажытным Мемфісам, то цяжка было б нешта запярэчыць. Але старажытны Мемфіс традыцыя размяшчае не ў Каіры, а кіламетраў на 50 на поўдзень і прытым на процілеглым, па прыродзе пустэльным, берагу Ніла. Якія ж сляды засталіся ад яго там? Яны павінны б неадменна існаваць і да гэтага часу.

Нават жа і Александрыя, хаця яна пабудавана на вузкай доўгай касе, аддзяляючай ад мора возера Мареотыс, існуе да гэтага часу... Вось і Рым да гэтага часу галоўны горад Італіі. Гэта азначае, вялікія гарады, раз яны натуральна ўтварыліся ў нейкім геаграфічным месцы, не так лёгка перасяляюцца із яго куды-небудзь па-суседству. Такіх прэцэдэнтаў мы не ведаем у рэчаіснай гісторыі, акрамя хіба такіх выпадкаў, калі чума знішчала там усіх насельнікаў ці адбылася сейсмічная катастрофа. Гэта азначае, іх не існавала і ў міфічнай старажытнасьці.

Але што ж засталося зараз ад Мемфіса?

Таксама нічога дастаткова пераканаўчага.

Недалёка ад арабскай вёсачкі Мітрахені былі знойдзены парэшткі падмурка храма і некалькі іншых дробных развалін і абвешчаны знакамітым Мемфісам, але яны не адпавядаюць пышным апісанням старажытных аўтараў.

«Хто выпраўляецца ў Мемфіс – выказваецца Бругш[174] – з надзеяй пабачыць мясцовасць з развалінамі, годнымі той славы, якой карыстаўся знакаміты сусьветны горад на берагах Ніла, – той будзе жорстка расчараваны нязначнасьцю парэшткаў яго даўніны.

Толькі разумовым позіркам – працягвае ён – магчыма аднавіць із мінулага Мемфіс ва ўсёй яго пышнасьці і толькі маючы гэта на ўвазе, можна распачынаць

---

174 Стар. 46 арыгін.

паломніцкае падарожжа да магілы старажытнай царскай сталіцы, да таго месца, дзе некалі ўзвышалася знакамітае свяцілішча Пта, ягіпецкага Гефеста, і дзе зараз вы знойдзеце **толькі пальмавы лес** і пустое поле, апрацаванае фелахамі паблізу арабскага паселішча Мітрахене.

Існуюць падставы лічыць, – працягвае ён далей, – што пад час сярэдневечча парэшткі вялікага граду Мемфіса былі яшчэ так добра захаваўшыміся, што вялізныя каменныя масы пабудоў і дасканаласць працы маглі здзіўляць арабскіх падарожнікаў наведваўшых гэтую мясцовасць. Такую выснову між іншым даводзіцца зрабіць, чытаючы паэтычнае апісанне развалін у цудоўных працах пра старажытны Мемфіс ў захаваўшыхся рукапісах арабскага лекара Абдул-Латыфа (XIII стагоддзе)[175].

«Нягледзячы на значную прастору, займаемую гэтым горадам, – паведамляе арабскі лекар, – і на яго вялікую старажытнасьць; нягледзячы на перамяняўшыяся ўмовы розных валадаранняў, пад гнетам якіх кожны раз усталяваўшыяся формы павінны былі хіліцца і пераіначвацца з цягам часу; нягледзячы на тое, што разнастайныя народы прыкладалі ўсе намаганні, каб знішчыць горад дашчэнту (навошта?), сціраючы усе сьляды мінулага, знішчаючы ўсі малыя парэшткі, расцягваючы камяні і часткі пабудоваў, разбураючы будынкі і разбіваючы іх упрыгожванні; нягледзячы, нарэшце, на працу самога часу, патроху знішчаўшага горад на працягу чатырох тысяч гадоў, развалiны Мемфіса ўяўляюць вачам назіральніка спалучэнне такіх цудоўных твораў мастацтва, якія прыводзяць розум у ніякавасць і для апісання якіх самы красамоўны чалавек не знаходзіць годных слоў. Чым больш глядзіш на гэты горад, тым больш павялічваецца здзіўленне. Кожны новы погляд, кінуты на яго парэшткі, вымушае прыходзіць у захапленне. Ледзь пачынаеш думаць, што азнаёміўся з ім, як у тую-ж хвіліну адчуваеш, што ўсё, што пазнаў, далёка слабей праўды».

І вось, нягледзячы на тое, што аж да гэтага апісання Абдул-Латыфа ў XIII стагоддзі Мемфіс захаваўся ў апісаным ім велічным выглядзе цэлыя 4000 гадоў, ягіпецкая экспедыцыя пры Напалеону I, прыйшоўшая туды ўсяго толькі праз 500 гадоў пасьля Абдул-Латыфа, не знайшла там нічога. Ды і неаднаразова паўтараўшыяся ў нашы дні раскопы на меркуемым месцы старажытнага Мемфіса з надзеяй знайсьці помнікі, каштоўныя ў гістарычным дачыненні, да гэтага часу не далі ніякіх вынікаў.

«Без сумневаў, – выказваецца Бругш, спрабуючы славамі «без сумневаў» заспакоіць здзіўленага чытача, – што велічэзныя камяні, ужываемыя тут для падмуркаў храмаў і будынкаў, на працягу доўгага часу паступова вывозіліся ў Каір і былі выкарыстаны на пабудову мячэцяў, палацаў і сядзіб горада каліфаў».

Але чаму ж каліфам было неспадручна абсталявацца непасрэдна на тым-жа месцы, якое было прыдатным для сталіцы на працягу тысяч гадоў? Ды і ці не лягчэй было наламаць камянёў бліжэй?

І тут атрымліваецца неадпаведнасць: сістэматычная перавозка камянёў з аднаго берага на другі на **адлегласць роўную палову сотні вёрст** наўрад ці магла акупляць выдаткі, ды і друзу пры ламанні засталося б дастаткова на месцы. А яго няма!

[175] Бругш, стар. 48 арыг.

І вось для двух самых пышных сталіц, так часта згадваемых у ягіпецкіх помніках адна (паблізу Контаса) выяўляецца загінуўшай без вестак і стратэгічна непрымальнай, ды і ад другой (блізу Каіра) не засталося нават і друзу.

Абедзьве правалiлiся праз зямлю, калі не вынырнулі із вады ў Цар-градзе і ў Рыме.

Вернемся ж са смуткам зноў да Рэ-Месы III Хан-Она, якога мы атаясамім прыкладна (у якасьці распрацоўваемай гіпотэзы) з Феадосіем І, жыўшым не ў гэтых неіснуючых зараз месцах, а ў квітнеючым і зараз Цар-горадзе.

Выдатнай з'яўляецца выкладзеная ў адным ягіпецкім папірусе спроба з боку яго прыдворных і ўласнага гарэма замарыць яго з дапамогай магічных прыёмаў. Яна выяўляецца цалкам падобнай на тыя, якія мы сустракаем пад час сярэдневечча. Вядзьмарства сярэдневечча і загаворы «халдэяў», як паказаў яшчэ Ленарман, так цесна злучаны паміж сабой, што, мне здаецца, немагчымым дапасаваць іх да эпох, падзеленых шматлікімі стагоддзямі. А разам з імі немагчыма пераносіць за межы нашай эры і ўказанні на корань мандрагоры (знакаміты homunculus) у арамейскім спосабе вядзьмарства і спасылкі ў розных еўрапейскіх загаворах на біблейскага Лавана і яго багоў.

«*Нехта даў злачынцу Пенхі* – паведамляе аўтар аднаго запісу, прыводзімага Бругшам, – *пісанне* (намову) *із уласных кніжных скруткаў Рэ-Месу III вялікага бога, яго валадара, і на Пенхі найшло чараўніцтва, зачараванне для людзей. Ён пракраўся ў гарэм і ў іншае вялікае і глыбокае месца. Ён зрабіў чалавечыя фігуркі із воску з намерам, каб яны былі занесены рукой каморніка Адрона для спакушэння адной із прыслужніц і каб навесьці зачараванне на іншых. Аднак яго ўзялі на допыт з нагоды іхнай балбатлівасьці, і тады выкрыўся яго ўдзел у кожнай злосьці і ў намеры зрабіць розныя благія справы. І ўсё гэта выявілася праўдай, ён усё гэта зрабіў у хаўрусе з іншымі галоўнымі вінаватымі, без бога і багіні. Над ім было выканана вялікае смяротнае пакаранне, як загадвала сьвятое пісанне... Ён сам забіў сябе... а з іншымі людзьмі без бога Сонца, нашага цара, было зроблена адпаведна з тым, як выказваецца Святое пісанне*»[176].

Тут усё так дыхае сярэднявечнымі ўяўленнямі, што дапасаваць такі папірус да глыбокай старажытнасьці няма ніякай магчымасьці, а гэта азначае, што сведчанні пра жыццё Рэ-Месу III рабіліся ў Ягіпце яшчэ і пад час сярэдневечча. У Бібан-эль-Мулукэ існуе доўгая горная пячора, вядомая пад найменнем «Брусава магіла», таму што знойдзена Брусам. Яе таксама называюць і магільняй арфіста грунтуючыся на змешчанай там выяве. Яе саркафаг знаходзіцца зараз у Луўры, а яго накрыўка ў Кембрыджы, і абодва лічацца належачымі Рэ-Месу III. Але гэта хутчэй усяго пячорны храм, пабудаваны пазней у якасьці пазнакі яго памяці; ва ўсякім разе яго мумія не знойдзена да гэтага часу.

Яго наступнік Рэ-Месу IV налягае ў нас на Аркадзя (395-408).

«*Ён* – паведамляе нам табліца на скале Ханамата – *выгнаў няпраўду і вярнуў краіне спакойныя часы. Ён адкрыў дарогу да Сьвятой зямлі (берагоў Мёртвага мора), да таго часу невядомую*[177]*, таму што дарога ляжала занадта далёка для ўсіх людзей, і іхны ўласны розум не быў у стане яе знайсьці. Цар жа ўзважыў у сваім розуме, падобна свайму бацьку Гору, сыну Ізіды, як пракласьці туды шлях. Ён аб'ехаў усё ў той цудоўнай горнай краіне для таго, каб стварыць помнікі із граніту свайму бацьку і продкам, багам і багіням, валадарам Хемі*.

[176] Бругш, стар. 616 арыг.
[177] Бругш, стар. 620 арыг.

*Ён паставіў на вяршыні горнага хрыбта памятную табліцу, на якой было напісана поўнае імя цара Рэ-Месу*»[178].

Краіна гэтая, – як выяўляецца, – была настолькі аддаленай ад сталіцы цароў-месіянцаў, што на шляху ў яе із 9 268 чалавек экспедыцыі памерлі 900, г.азн. дзясятая частка

Ці дае гэта каму-небудзь права сцвярджаць, што экспедыцыя ішла із Каіра і яго наваколляў у зямлю, якая была ў Самалі, у Сярэднім Ягіпце, не больш як каля паўтары сотні вёрст на ўсход ад рэчышча Ніла? І ці можна гэтую адлегласць назваць далёкай і шлях туды доўгім? Мне здаецца, што немагчыма, нават і ў старажытным разуменні. Наступны за гэтым Рэ-Месу V Амен-Хі-Хопе-Шэф-Міамун IV пакінуў пра сябе пад гэтым імем мала ўспамінаў, акрамя выхвальнага надпісу ў Сільсілісе ў каменяломнях.

Але пасьля яго валадарыў Рэ-Месія VI, празваны Амен Хі-Хопе-Шэф Нутэр хан-Ону, Рэ-Небма-Міамун, якому прыпісваюць пышную магільню ў царскай даліне Бібан-эль-Мулукэ, дзе паказаны гадзіны ўзыходжання зорак.

Згодна з Біо, гэтыя табліцы павінны дапасавацца да мінус 1240 года, а згодна з Лепсіусам да мінус 1194 года. Лепсіус быў упэўнены, што веданне пра даўжыню юліянскага года роўную 365 дням 6 гадзінам пачалося яшчэ ад пірамідных дынастый (дапасуемых ім да чацьвёртага тысячагоддзя (!!) да пачатку нашай эры), а больш умераны Біо лічыць, што першапачатковы год роўны 360 дням быў выпраўлены на юліянскі толькі (!!) у 1780 годзе да пачатку нашай эры, а да таго быў роўным 365 дням. Сатыйская ж зорная гадзіна ўведзеная, згодна з Біо, яшчэ пазьней.

Адсюль атрымліваецца, што «Юлій Цэзар» – плагіятар, прыпісаўшы сабе напачатку нашай эры тое, што, згодна з Лепсіусам, існавала яшчэ за 4000 гадоў да яго, а згодна з больш умераным Біо – за 1780 гадоў (таксама не малы прамежак часу!) І ці не павінен знакаміты рымскі імператар парадавацца на тым сьвеце зараз таму, што я даводжу, што пірамідныя дынастыі валадарылі ўжо пасьля яго, а таму і першасць заснавання юліянскага календара ўсё ж застаецца за ім ці, ва ўсякім разе, за яго ўнукам Юльянам Філосафам? А што да знойдзеных табліц узыходжання зорак, то яны цалкам прыдатны і для сярэдневечча.

Пры цару Рэ-Месе VI «ягіпецкая» зямля была ўжо падзелена на пляцоўкі паміж прыватнымі ўладальнікамі, у ліку якіх быў і сутэн. І не дарэмна ён у нас адпавядае візантыйска-ягіпецкаму цару Маркіяну (ад лацінскага marca – мяжа).

Адзін із надпісаў у Анібе ў Нубіі, насупраць паселішча Ібрым, у магільні нейкага Пені, пералічваючы зямельныя валоданні ў выглядзе чатырохкутнікаў, маючых дакладную даўжыню ў шырыню, паведамляе:

«*Кожны, хто парушыць гэта, будзе праследуемы Амонам-царом і будзе пераходзіць ад аднаго праследу да другога. Багіня Мут будзе праследаваць яго жонку, а бог Хонзу яго дзяцей. Ён будзе галадаць, прагнуць, бедаваць і знікне*»[179].

Пазначым, што надзелы гэтага межавання былі невялікімі: адзін 3 100 локцяў, другі 4 100, трэцці 6 100, і потым яшчэ 4 200 і 2 200 локцяў.

Пра Рэ-Месу VII і Рэ-Месу VIII мы маем амаль толькі адны імёны ў надпісах. Гэта павінны быць Зянон і Анастас (457-518).

Пры Рэ-Месе IX, які меў мянушку Хамус, а таксама Нафер-Кара Сутэн-ен-Рэ, пачынаецца характэрнае панаванне сьвятарства, сапраўдны клерыкалізм. Уплыў

---

[178] Бругш, 626 стар. арыг. Таксама R. Lepsius: Chronologie. Einleitung, 109 і 114.

[179] Бругш, стар. 628 арыг.

сьвятарства на цароў стаў у той час, як і ў Візантыі і Рыме пад час сярэдневечча, неабмежаваным.

Вось, напрыклад, надпіс на ўсходняй сьцяне Карнакскага храма, пад выявай першасьвятара:

«*Спадчынны князь і першасьвятар Амона – рыцар богаў – Амен-Хатэп, пастаўлены на месцы свайго бацькі Рэ-Месу-Нахта, першасьвятар Амона-Рэ ў Афе*».

Мы бачым із гэтага, што царкоўны патрыярх быў у той час спадчынным, як і сутэн, які намаляваны ў выглядзе Рэ-Месу IX, стаячага перад ім са славамі:

– «*Дайце вялікую ўзнагароду і шмат дарункаў добрага золата і срэбра, і сотні тысяч добрых рэчаў вялікаму жрацу цара богаў Амона-Рэ, Амен-Хатэпу, дзеля шматлікіх цудоўных пабудоваў, якія ён пабудаваў у храме Амона-Рэ, на вялікае імя боскага дабрадзея цара Рэ-Месу IX*».

Перадача дарункаў – працягвае надпіс – суправаджалася, урачыстай цырымоніяй.

«*Прамовы, выказаныя яму* (першасьвятару), *мелі на ўвазе ўзнагародзіць яго за яго заслугі пад час сёняшняга дня на вялікім уваходным двары Амона-Рэ, цара богаў*».

А пра тое, менавіта што ён зрабіў для храма свайго бога, паведамляе ён сам у надпісе[180].

«*Я знайшоў гэтую сьвятую старажытную сядзібу вялікага жраца Амона-Рэ, цара богаў, пагражаючую разбурэннем. Тое, што было зроблена раней мяне для сядзібы, дапасуецца яшчэ да часу цара Усур-Тасена* (г.азн. быццам бы каля 1200 гадоў сядзіба заставалася без рамонту!). *Я загадаў разабраць увесь будынак і зноў яго пабудаваць добрай працай і ў прыгожым выглядзе. Я загадаў умацаваць яго сьцены, пачынаючы з задняга боку да пераднага. Я пабудаваў яго спаўна. Я загадаў зрабіць яму калоны, якія былі злучаны з вялікімі камянямі майстэрскай працы... Я пабудаваў высокую новую сядзібу для вярхоўнага сьвятара бога-Амона, які знаходзіцца ў гэтым храме. Я загадаў паставіць вароты із дрэва акацыі. Засоўкі ў іх былі зроблены із медзі, а розныя разьбяныя выявы із лепшага золата і срэбра. Я загадаў пабудаваць вялікі ўваходны порцік* (аванзалу), *адчыняючыся на паўднёвую храмавую сажалку і служачы для ачышчэння ў храме Амона.... Я загадаў пабудаваць памяшканне для цара. Яно размешчана ззаду крамы запасаў, патрэбных для храма Амона. Жыллё цара зроблена із каменя, а дзьверы і вароты із дрэва акацыі... Я загадаў вырабіць і паставіць статуі ў вялікім і цудоўным уваходным двары для кожнага вярхоўнага жраца Амона-Рэ, цара богаў. Я загадаў развесьці сады. Яны былі «засаджаны дрэвамі*».

Першасьвятар Амона меў тады таксама і найменне Вялікага Дойліда Амонава горада.

«Пачынаючы з вярхоўнага першасьвятара Амен-Хатэпа, вярхоўныя жрацы пачынаюць набываць тую двухсэнсоўную ролю ў Ягіпце, якая, нарэшце, узвысіла іх на царскі пасад».

Так выказваецца сам Бругш[181].

Рэ-Месу X, празваны Амен-Хі-Хапешэф і Хапер-Ма-Рэ і Сатэп-Ма-Рэ, праходзяць як цені ў запісах гэтай Фіўскай школы. Рэ-Месу XI Сеха-ен-Рэ Міамун таксама не адбіўся ў сур'ёзных надпісах.

Рэ-Месу XII, празваны Уеер-ма-Рэ Сатэп-ен-Рэ, Міамун, адпавядаючы ў нас Маўрыкію (582-603), адбіўся ў іерогліфах некалькі больш, калі толькі наступны надпіс не анахранізм.

---

[180] Бругш, стар. 633 арыг.

[181] Бругш, стар. 633 арыг.

У Верхнім Ягіпце, на поўдзень ад Коптаса, быў маленькі храм з прыгожым маладым богам-лекарам і вешчуном Хонзу, сынам Амона і багіні Нут-Ашэры, меўшым тытул Міласьцівы[182]. Вось якім быў надпіс у гэтым храме, які дапасуюць да часу Рэ-Месу XII.

«*Калі сутэн знаходзіўся ў зямлі Двухрэчча, прыйшлі цары ўсіх народаў у пакоры і сяброўстве да яго асобы. Із самых аддаленых канцоў землі прыносілі яны яму ў якасьці даніны золата, срэбра, блакітныя і зялёныя камяні. Кожнага роду духмяныя дрэвы Сьвятой Зямлі знаходзіліся на плячах іх і кожны спяшаўся прынесьці даніну раней свайго суседа.*

*Тады загадаў і цар зямлі Бахатана* (месца невядома) *прынесьці свае дарункі і на чале іх паставіў сваю старэйшую дачку, каб ушанаваць яго і запытаць пра сяброўства. І гэтая дзяўчына была мілей сутэну хараством сваім, чым усе іншыя рэчы. Тады запісана было яе царскае імя, як жонкі цара Наферу-Рэ. Калі сутэн прыбыў у Ягіпет, ёй выказана было ўсё тое, што рабілася для царыцы*»

*Пад час 15-га года, у месяц Пені, на 22-і дзень, калі сутэн знаходзіўся ў крэпкіх Фівах, цары гарадоў, каб падзякаваць бацьку свайму Амону-Рэ, спадару Фіваў, пад час яго выдатнага сьвята Афе Юга, на пасадзе сваёй асалоды ад пачатку, – прыйшлі паведаміць яму:*

*– З'явіўся пасланнік цара Бахатана* (Багдана?) *з каштоўнымі гасьцінцамі царыцы.*

*Яго прывялі перад сутэна разам з дарункамі. Ён выказаўся у гонар сутэна:*

*– Вітаешся ты, Сонца Народаў. Хай мы жывём пры табе. Я прыйшоў да цябе, Вялікага Гаспадара, дзеля дзяўчыны Бінт-Рэш, малодшай сястры царыцы Нафру-Рэ. Пакута зайшла ў яе цела. Ды выправіць Твая Вялікасць чалавека, ведаючага сродкі, каб ён паглядзеў яе*».

*Сутэн адказаў*:

*– Ды будуць прыведзены да мяне навукоўцы із памяшкання сьвятой навукі і ведаючыя ўнутраныя таямніцы.*

*Іх прывялі неадкладна да яго. Пасьля некаторага часу кажа ім сутэн:*

*– Пайдзіце і прывядзіце да мяне мужа із вашага асяроддзя мудрага розумам і майстэрскага пальцамі ў пісьме.*

*І калі прыйшоў царскі пісьменнік Тут-ем-хіб, загадаў яму сутэн выправіцца да Бахатана. Але калі навуковец дасягнуў горада, у якім знаходзілася Бінт-Рэш у становішчы апантанай духам, ён знайшоў сябе няздольным змагацца з ім*.

*Зноў выправіў той цар да сутэна, кажучы*:

*– Вялікі гаспадар і валадар! Ды загадае Твая Вялікасць, каб пасланы быў бог Хонзу, дзейнічаючы са скіпетрам багаў, да малодшай сястры царыцы.*

*Пасланнік заставаўся пры сутэне да 26-га года* (г.зн. 10 гадоў!)

*Пад час месяца Пахонэ* (таго ж года), *на Амона, знаходзіўся сутэн у Фівах, і стаяў зноў перад добрым і сяброўскім богам Хонзу, прамаўляючы*:

*– О, ты добры гасподзь! Я зноў знахожуся перад табой, дзеля дачкі цара Бахатана. Ці не даручыш ты Хонзу дзейнаму, вялікаму богу, праганяльніку рознай шкоды, каб ён выправіўся да Бахатана*?

*На гэта была дадзена згода. І сутэн выказваўся*:

*– Адпусьці з ім твой талісман. Я загадаю адвезці яго сьвятасць у Бахатану, каб пазбавіць дачку цара.*

*І на гэта была дадзена вельмі станоўчая згода Хонзу добрага і сяброўскага. Ён даў свой талісман Хонзу дзейнічаму, ужываць да чатырох разоў. І загадаў сутэн прыняць на*

---

182 Хонзу-ем-ус-Нафер-Хатэп, г.азн. Хонзу Скіпетр багаў (ус), міласьцівы, дружалюбны (Бругш, стар. 637 арыгінала).

*вялікі карабель Хонзу дзейнічаючага, фіванскага. Пяць барак і шмат вазоў і коней знаходзіліся направа і налева ад яго.*

*І дасягнуў бог да сталіцы зямлі Бахатана праз адзін год і пяць месяцаў, і пайшлі цар зямлі Бахатана і народ яго, і князі яго, насустрач яму. Цар кінуўся на свой жывот, кажучы:*

*– Прыйдзі да нас, божа, будзь да нас сяброўскім, адпаведна з жаданнем цара Міамуна-Рэ-Месу Верхняга і Ніжняга царства.*

*І пайшоў бог у месца, дзе знаходзілася Бінт-Рэш. Ён прымусіў талісман уздзейнічаць на дачку цара і яна акрыяла на месцы. І сказаў той дух, які быў у ёй, дзейнічаючаму фіванскаму Хонзу:*

*– Сардэчна запрашаем да нас, як сябара. Ты вялікі бог, праганяльнік рознай шкоды. Твой з гэтага часу горад Бахатана, яго жыхары – твае рабы, і я – твой раб. Я вярнуся туды, адкуль прыйшоў, каб задаволіць тваё сэрца. Ды загадае Твая Сьвятасць, каб адсвяткаваны быў святочны дзень у маёй прысутнасьці і ў прысутнасьці цара Бахатана.*

*І дазволіў бог свайму прароку, ухвальна кажучы:*

*– Ды наладзіць цар Бахатана вялікае ахвяраванне гэтаму духу. Калі яно здзейсніцца, тады злучыцца Хонзу дзейнічаючы, фіванскі з гэтым духам.*

*А цар Бахатана з народам сваім стаяў тут і быў у моцным жаху. Ён наладзіў вялікае ахвяраванне для Хонзу дзейнічаючага, фіванскага і для таго духа. І святкаваў цар Бахатана святочны дзень у іхны гонар.*

*Тады сышоў адтуль Вялікі Дух, куды яму пажадана было як то дазволіў Хонзу дзейнічаючы, фіванскі.*

*Празмерна радаваўся цар Бахатана разам з усімі мужамі, якія жылі ў Бахатане, і ўзважыў ён у сваім сэрцы, кажучы:*

*– Не пушчу яго ісьці ў Ягіпет.*

*І знаходзіўся той бог у Бахатане тры гады і дзевяць месяцаў.*

*Аднойчы спачываў цар Бахатана на сваім ложку, у вось бачыць у сне, як гэты бог выступіў са свайго сьвятога шкапа і як пад выглядам залатога хвастца паляцеў па небу ў накірунку да Ягіпта.*

*Калі ён прачнуўся, ён выявіўся расчуленым і сказаў прароку бога Хонзу, дзейнічаму:*

*– Бог занудзіўся ў нас, ды пойдзе ён зараз у Ягіпет.*

*І загадаў цар Бахатана везьці яго ў Ягіпет, і даў яму вельмі шмат гасьцінцаў із розных добрых рэчаў, і ён прыбыў шчасьліва ў Фівы. Тады пайшоў Хонзу дзейнічаючы ў храм Хонзу добрага і сяброўскага і паклаў перад ім гасьцінцы, якія паднёс яму цар Бахатана, нічога з іх не ўзяўшы для сваёй сядзібы. І вярнуўся Хонзу дзейнічаючы шчасліва ў сваю сядзібу пад час года 33-а, у месяцы Мехір, на 13-ы дзень* (валададарання) *цара Міамуна Рэ-Месу. Вось што здарылася з ім, даючым жыццё сёння і ў вечнасьці*».

Можна палічыць, што імем Хонзу дзейнічаўшага пазначаўся тагачасны лекар, насіўшы з сабой талісман гэтага бога, з мэтай дадаваць да ўздзеяння сваіх мікстур таксама і наданне. Але дзе ж месцавалася краіна Бахатана? Гэта цяжка сказаць. Падарожжа доўжыўшаяся сямнаццаць месяцаў, мяркуе вельмі значную адлегласць.

І вось на пасад узышоў апошні самастойны цар-месіянец, Рэ-Месу XIII, з пасаднымі тытуламі: Нутэр Хан-Он,. Мен-ма-Рэ, Сатэп-ен-Пта Хамус Міамун, адпавядаючы, згодна з нашымі атаясамленнямі, апошняму візантыйска-ягіпецкаму цару Гераклію (610-641), пры якім да агаранства адышлі Ягіпет, Сірыя і Месапатамія. А Бругш, прыводзячы адзін хвалебны надпіс у яго гонар, усклікае:

«Бедны цар! Пакуль ён рознымі надпісамі ў сваім сямейным храме спяшаўся ўшанаваць сваю памяць, ззаду яго ўжо стаяла здрада, рыхтаваўшая падзенне яму і

ўсяму яго роду ў асобе Хір-Гора, заснавальніка і першага цара наступнай дынастыі[183].»

І мы дададзім ад сябе, што гэтая новая дынастыя прысвоіла сабе тытул, нагадваючы каліфа, г.азн. намесьніка божага, і пры ёй, як «цары паланення», былі яшчэ Рэ-Месу XIV, XV і XVI, пра якія амаль нічога невядома ў іерогліфах.

Дынастычны паралелізм Ягіпта (Міц-Рыма) і вялікай Рамеі (Візантыі) поўны.



# Частка восьмая

## Заканчэнне псеўда-архейскага Ягіпта

[183] Rouge Etude sur une stele egyptienue apprteanante a la Bibliotheque de Thebes 1856 (Brugsch, 637).



Мал. 221.
Ягіпецкі пісьменнік-іерагліфіст. Статуэтка.

# Глава I.

## Агульная характарыстыка здрадніцкіх і верных валадароў гэтага перыяду. Псеўда-дваццаць першая дынастыя.

Мы бачылі зараз, як скончылася ўлада цароў-месіянцаў у Ягіпце, і атаясамілі гэта з заканчэннем візантыйска-хрысьціянскага валадарства ў даліне Нілу з таго часу, як здраднік-тэакрат Хір-Гор, г.азн., згодна з нашым атаясамленнем, каліф Амар, схіліў большасць ягіпецкага насельніцтва да агаранства і зрабіў яго там дзяржаўнай рэлігіяй пад сваім валадарствам, як намесьніка божага.

Гэта азначае, што і зараз, пачынаючы з дваццаць першай дынастыі (як раней з другой паловы восьмай), мы выслізнулі із зачараванага кола сямі кабалістычных візантыйска-сірыйска-ягіпецкіх цароў і ў другі раз наблізіліся да ягіпецкага каліфата. Толькі тут мы ўжо пойдзем глыбей у гэты каліфат і давядзём рэчаісную гісторыю Ягіпта не толькі да таго моманту, калі ён рэлігійна і дынастычна

адлучыўся ад Візантыі, але разгледзім і тое, што з ім было аж да таго моманту, калі і сама Візантыя перайшла ад свайго першапачатковага месіянства да іконазмагання і, разбіваючы статуі і маляўнічыя выявы дзяцей «бога бацькі», пабіла разам з імі скульптурныя статуі і самага Хрыста-Месіі, параўнаўшыся з агаранамі.

Іерагліфічная ж і дэматычная літаратура, як мы бачылі ў папярэднічаўшых главах, была хрысьціянска-месіянскай і яна засталася за царквой, хаця і перайшоўшай да агаранства. Адлучаныя ад Ягіпта візантыйскія нашчадкі Дыяклетыяна і Вялікага цара-месіі не маглі не лічыцца ў сяроддзі аднаверчых з імі аўтараў іерагліфічных і дэматычных запісаў сваімі законнымі тэакратычнымі царамі, і гэтыя далёкія цары маглі патрапіць у іерагліфічную літаратуру, як цары-выгнаннікі, хаця іхныя цела і перасталі перавозіцца на сьвятое Гізехское поле для пахавання і хаця яны больш не мелі магчымасьці будаваць там велічныя храмы. Усё гэта мы і знаходзім у іерагліфічнай літаратуры, хаця, зразумела, толькі ў рэдкіх выпадках. Лічачы Рэ-Месу XIII за Гераклія, мы павінны будзем атаясаміць астатніх іерагліфічных Рэ-Мес з наступнымі за Гераклiем візантыйскімі імператарамі так, як яны дадзены ў табліцы LXXX.

ТАБЛІЦА LXXX.

Цары выгнанікі (із Ягіпта)

| | |
|---|---|
| Рэ-Месу XIV | Кастусь IV (643-668) |
| Рэ-Месу XV | Кастусь Паганат (668-685) |
| Рэ-Месу XVI | Юстыніян II (685-711) |
| Рэ-Месу XVII | Піліп (711-713) |
| Рэ-Месу XVIII | Анастас (713-716) |
| Рэ-Месу XIX | Феадосій III (716-717) |
| (Пераход Візантыі да ідалазмагальніцства пры Ільве Ісаўрыйскім 777-741) | |

Із усіх гэтых цароў у егіпталагічнай літаратуры асабліва цікавым для нас з’яўляецца Рэ-Месу XVI, адружаны з дачкой вялікага цара Асірыі, маючага мянушку Палашарніс і нагадваючага біблейскага Тыглатпаласара і Текелота некаторых клінапісных запісаў. Існуе магчымасць вызначыць яго час грунтуючыся на бацьку яго жонкі Текелоце, пры якім адбылося «жахлівае» месяцовае зацьменне 25 дня месяца Месоры. Грунтуючыся на дакладным датаванні гэтага зацьмення мы ўжо ўсталявалі, што адзінымі двума прыдатнымі для Текелота зацьменнямі за ўвесь гістарычны перыяд часу былі толькі ў 658 і ў 593 гадах. У выпадку зацьмення каля 8 гадзін ягіпецкага часу 18 жніўня 658 года Рэ-Месія XV, а з ім і Текелот (умоўна названы Другі), робіцца храналагічным ізатопам Кастуся IV (642-668 гг.). А ў выпадку зацьмення пад час ягіпецкай поўначы з 17 на 18 жніўня 593 года Текелот робіцца храналагічным ізатопам імператара Маўрыкія. Але другое рашэнне больш дапасуе да гістарычнага становішча і таму Рэ-Месу XVI храналагічна налягае на Кастуся IV, як мы ўжо бачылі ў гэтай самай кнізе (стар. 762).

Ягіпецкія запісы паказваюць, як і было ў рэчаіснасьці, што цары-месіянцы доўга не пакідалі надзеі вярнуцца ў Ягіпет, дзе заўсёды існавалі іхныя рэлігійныя прыхільнікі, і заключалі для гэтага хаўрусы з месапатамскімі валадарамі. Але яны больш не здолелі ўтрымлівацца ў Ягіпце нават і на васальным становішчы.

На падставе толькі-што апісанага месяцовага зацьмення пры Текелоце і абапіраючыся на паўторы аднолькавых імёнаў у падобных адна з адной 21, 22, 23, 24, 25 і 26 псеўда-дынастыях, магчыма зрабіць выснову, што нехта спрабаваў стварыць перыядычную сістэму і з іх. Сярод рэчаісных храналагічных ізатопаў, г.зн. розных мясцовых суваладараў таго ж часу, пастаўленых на замену адзін аднаму, то тут то там сустракаюцца аднайменныя валадары, дапасуемыя аўтарамі

да розных дынастый і часоў, але паказваючыя аднатыпнасьцю свайго месцавання, што гэта тыя ж самыя асобы.

Такім чынам усе Рэ-Месіды, г.азн. цары-месіянцы ад Рэ-Месу XIV да Рэ-Месы XIX, уяўляюць сабой візантыйскіх цароў, жыўшых пасьля аддзялення Ягіпта ад Візантыі пры Гераклії і да іх пераходу пасьля Хвядоса III да іконазмагання разам з агаранамі. А здрадніцкія дынастыі ад XXI да XXVI уяўляюць сабой ягіпецкіх каліфаў.

Падставай храналогіі служыць тут, як я толькі што сказаў, перыядычнасць некаторых паўтараючыхся мянушак і Текелотава месяцовае зацьменне, ізахраніруючае Текелота II з Кастусём IV і з каліфам Алі (табл. LXXXI).

Так, цалкам неверагодна, каб у другім радку гэтай табліцы выпадкова паўтарыліся тры Текелоты, як другія цары 21, 22 і 23 дынастый; відавочна, што яны не без падстаўна пастаўлены туды. Гэтая неверагоднасць яшчэ падзесяцяраецца, калі мы ў трэццім радку сустракаем Вус-Архонаў для 22 і 23 дынастый. Яна пасатняецца, калі знаходзім Шашанкаў у пятым жа пакаленні 22 і 23 дынастый, і пераходзіць у поўную ўпэўненасць, калі ў апошнім радку бачым, як апошняе звяно, не цароў, а (рэдкі выпадак!) – прынцэс, не кажучы ўжо пра сямерычнасць усіх звенняў і пра іншыя супадзенні, пра якія я тут не згадваю. Усё гэта, як ваўчыныя вушы із пад авечай скуры, паказвае бесстароннямy дасьледчыку, хаця б трохі знаёмаму з тэорыяй верагоднасьці, што тут – ніяк не паслядоўныя дынастыі, а толькі спроба зрабіць іх із таго ж самага матэрыялу, з дадаваннем некалькіх чужых асоб і з размяшчэннем іх у большасьці выпадкаў у розныя дынастыі пад іншымі найменнямі. Але гэтую спробу стварыць новую перыядычную сістэму, частку якой я знарок выпісаў із асобнай генеалагічнай табліцы Бругша, змешчанай у яго пад назвай «Радаводы XX-XXVI дынастый» (на вялікім укладным лісце да 645 старонкі яго кнігі), сам жа яе аўтар пакідае далей, як немагчымую. У дадатку да сваёй кнігі ён даў ужо іншы радавод, якім я і буду карыстацца далей у сваім выкладанні, а гэты пакідаю, як егіпталагічны кур'ёз.

ТАБЛІЦА LXXXI.

Псеўда-дваццаць першая, псеўда-дваццаць другая і псеўда-дваццаць трэцяя дынастыі іерагліфічных цароў.

| XXI Дынастыя | | XXII Дынастыя | | XXIII дынастыя | Цары паланення | Іхныя ізахроны | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1-ы перыяд | 2-і перыяд | 1-ы перыяд | 2-і перыяд | | | У Візантыі | ў Ягіпце |
| Хір-Гор | Шашанк (II) | Тэхен-буй-Вава | Вус-Архон I | Пеф-Сі-Баст (Пет-у-Баст) | Рэ-Месія (XIII) | Гераклеон (641-642) | Амар?? (641-644) |
| Піанхі (Жывучы) | Тэкелот (II) («Жахлівае месяцовае зацьменне») | Маў Сан | Тэкелот I (Тыглат) | Тэкелот (II) (Жахлівае месяцовае зацьменне) | Рэ-Месія (XIV) | Кастусь (IV) (642-668) (Жахлівае месяцовае зацьменне 18 жніўня 658 г.) | Асман?? (644-656) |
| Пінатэм I Міамун | Шашанк (III) | Нева-Неша | Вус-Архон II | Вус-Архон (Саргон) Міамун | Рэ-Месія (XV) | Кастусь Паганат (668-685) | Алі (656-661) |
| Пісебхан Міамун | Німрод | Піт-Хут | Тэкелот (II) | Прынцэса Наста-Закут і яе чалавек Псамус | Рэ-Месія (XVI) | Юстыніян (II) (685-711) | |

<table>
<tr><td>Пінатэм (II) Міамун</td><td>Пімай</td><td>Шашанк (I)</td><td>Пет-Ізэ</td><td>Шашанк</td><td>Рэ-Месія (XVII)</td><td>Піліп (711-713)</td><td rowspan="3">Дынастыя Амеядаў ад 661 да 749 года</td></tr>
<tr><td>Шашанк (I) Міамун</td><td>Шашанк (IV)</td><td>Німрод</td><td>Пеф-Тот-Баст</td><td>Вус-Архон (сьвятар-Аброк)</td><td>Рэ-Месія (XVIII)</td><td>Анастас (713-716)</td></tr>
<tr><td>[Шашанк Міамун у Клінапісах]</td><td>Прынцэса Мініт</td><td>Шашанк (II)</td><td>Прынцэса (імя сьцёрта)</td><td>Гарус-Ізе (Езус?)</td><td>Рэ-Месія (XIX)</td><td>Хвядос (III) (716-717) (пачатак іконазмагання)</td></tr>
<tr><td colspan="8">Падставай атаясамлення тут служаць: 1) «Жахлівае месяцовае зацьменне», суправаджаўшаяся паўстаннем рабоў пры Тэкелоте (II, хаця гэтая нумарацыя ўжо больш позняя), якое было 18 жніўня 658 года нашай эры. 2) Наяўнасць аднайменных Тэкелотаў у другім радку ўсіх трох дынастый. 3) Наяўнасць аднайменных Вус-Архонаў у трэццім радку. 4) Наяўнасць аднайменных Шашанкаў у перадапошнім радку XXI дынастыі, паказваючая разам з тым, што яна складаецца із двух ізахраналагічных варыяцый, і 5) супадзенне Тэкелотаў, Вус-Архонаў і Шашанкаў XXII-XXIII дынастыях, паказвае разам з тым, што XXII дынастыя складаецца із двух ізахранічных варыяцый адной і той жа.</td></tr>
</table>

* * *

Такім чынам, псеўда-дваццаць першая дынастыя адпавядае ўжо «царам паланення», прыведзенай і ў радаводзе Езуса евангелістам Мацьвеем, а ягіпецкія каліфы правільнага шляху з'яўляюцца як бы іхнымі паланяльнікамі.

Згодна з нашай храналогіяй гэты час якраз і налягае на час узнікнення халіфата, калі ў 641 годзе халіф Амар, ён жа Хер-Гор, стаў валадаром Ягіпта.

ТАБЛІЦА LXXXII.

Псеўда-XXI дынастыя. Дынастыя цароў-першасьвятароў.

| Згодна з Бругшам | Згодна з Еван. Лукі | Згодна з Абідоскай табліцай | Згодна з Мацьвеем |
|---|---|---|---|
| 1. Хір-Гор сын Амона. | 55. Саратыіл. | 55. Нэф-Ерк-Гор. | 29. Салафііл |
| 2. Піанхі, г.азн. «Жывучы», «Жывы». | (няма) | (няма) | (няма) |
| 3. Пінатэм I Міамун | 56. Зорававель. | 56. Нефер-Ерк-Рэ | 30. Зорабабель. |
| 4.Пісебхан (бязследны) | 57. Рысай. | 57. Неб-Хру-Рэ. | (няма) |
| 5. Пінатэм II. | 58. Ян. | 58. Санхек-Рэ. | (няма) |

Поўны яго тытул, як першага із гэтых цароў – Хон-Ну тэр-Тэп-ен-Амэн, г.азн. Вярхоўны першасьвятар Юпітара-Амона (Еговы). У выявах ён стаіць часам каля цара і называе сябе ў подпісах: спадчынны князь, носьбіт апахала праваруч цара, царскі сын краіны Куш, галоўны дойлід цара, вярхоўны правадыр усяго войска ў Верхнім і Ніжнім Ягіпце, кіраўнік усімі хлебнымі крамамі (як Ёсіф у кнізе Быццё). Яго тут змешваюць, відаць, з Масуем часоў Рэ-Месу Вялікага, але гэта верагодна было проста слова месія, пераіначанае ў *Масуя*.

«У той час на ўсходзе, – кажа Бругш[184], – вялікае царства хетаў (грэка-рымлянаў) было заменена новай магутнасьцю, якая вядома ў гісторыі пад найменнем Асірыйскае царства. Ягіпецкія помнікі гэтага часу даюць пераемнікам народа хетаў кароткае і тлумачымае з дапамогай цвікападобнага пісання імя матаў (г.азн. народаў) і называюць іхнага валадара – вялікім царом народаў (матаў), вярхоўным царом-цароў.

Рэ-месіянцы згодна з уяўленнямі ягіптолагаў былі тады прагнаны. І вось, якраз, калі мы падыходзім да Піанхі, г.азн. Вечнажывога, і яго наступніка Пінатэма I, адбываецца іхнае вяртанне, падобна вяртанню жыдоў пры Зорабабеле.

---

[184] Бругш, стар. 644, ім. выд. 1877 г.

У іерогліфах пра гэта распавядаецца так: Пінатэм I, чакаўшы на чале войска нашэсьця вялікага цара «матаў» Німрота, застаўся ў Танісе, а яго сын Мен-Хепер-Рэ быў выпраўлены ў Фівы, каб патушыць паўстанне. Калі гэта ён здолеў зрабіць, ён быў прызначаны на пасаду вярхоўнага жраца Амона, замест свайго бацькі-цара, і першым яго здзяйсненнем было закліканне назад із выгнання рэ-месідаў з іхнымі прыхільнікамі. Іх вяртанню быў нададзены выгляд, быццам бы яно адбываецца адпаведна з жаданнем бога Амона, аракул якога з задавальненнем прыняў і выканаў прапанову жраца і прынца Мен-Хепер-Рэ. Вось пра гэта надпіс у «Фівах»:

«*Пад час года 25 у першы месяц года... упалі да яго ног...*

– «*О, ты! мой добры гасподзь! Людзі скардзяцца на гнеў твой супраць знаходзячыхся у зямлі, якую ты ім прызначыў... Ды адчуеш ты спагаду да служак тваіх, якіх ты прагнаў у аазіс* (?), *каб былі яны назад прыведзены ў Ягіпет... бо іх сотні тысяч*».

*І пагадзіўся з гэтым найвялікшы бог.*

*І зноў падступіўся кіраўнік войска да вялікага бога, кажучы*:

*– О, ты! Мой добры гасподзь! Дзякуючы таму што ты пагадзіўся на вяртанне, то ды будзе абвешчана, што ты сяброўскі ставішся да іх*.

*І пагадзіўся з гэтым найвялікі бог*».

Мы бачым із гэтага, што агаранства ў Ягіпце далёка не суправаджалася тымі пераследамі хрысьціянаў месіянцаў, якія нам малююць клерыкальныя гісторыкі сярэдневечча.

Пад выгнаннікамі ў «аазіс», напэўна, патрэбна разумець нікога іншага, як месіянцаў першага перыяду хрысьціянства (ад IV да VIII стагоддзя), які быў больш падобны на апісваемы ў іерогліфах, чым на той, які стварылі візантыйскія тэолагі апошняй фазы на пустой глебе адпаведна са сваім разуменнем. Астатнія цары гэтай дынастыі, нават і адпаведна з сучаснай артадаксальнай ягіпталогіяй, з'яўляюцца толькі суваладарамі цароў Шашанкаў, рэзідэнцыяй якіх лічыцца ўжо Месапатамія і Сірыя, як атрымліваецца і згодна са звычайнай гісторыі халіфата, храналагічныя вехі якой я ўжо даў у першых частках гэтай самай кнігі і таму не буду тут да іх вяртацца.

# Глава II.

## Псеўда-дваццаць другая дынастыя (цары Матаў[185]).

Хто такія былі *маты*? Мяркуючы па тым, што гэтае слова ўваходзіць у шмат якія этнаграфічныя найменні, напрыклад, сар-маты, якса-маты, саўра-маты, яно азначае проста: людзі, народ. Але ўжо адна тая акалічнасць, што Сарматыяй называлася Ўкраіна і частка Польшчы, а ніяк не старажытная Месапатамія, паказвае, што спроба шукаць народы матаў на берагах Тыгра і Еўфрата геаграфічна цалкам не абгрунтавана.

Справа выглядае цалкам інакш, калі на ягіпецкіх камянях апісваліся падзеі не адной толькі даліны Нілу, а цэлай Візантыі: тады і славянскія дынастыі маглі быць пазначаны ў іерагліфічнай і дэматычнай літаратуры, таму што і сам знакаміты Юстыніян быў сынам ілірыйскага землеўладальніка, г.зн. славянам. Гэтыя «народы» ў іерагліфічных надпісах таксама маюць найменне пераможцы лутэн

[185] З нагоды слова *мат* гл. у Шафарыка «Славянскія старажытнасьці», т. I, кн. 2, стар. 321 (пераклад. Бадзянскага, выд. 1837 г.), а таксама спасылкі: Шафарыка на Murray, Europ. Sprachenbau von Wagner, I, 44, p. 229.

(латынян), якія дзякуючы атаясамленню гукаў Л і Р называюцца і рутэнамі, але ў агульным слова лутэны служыла найменнем заходне-рамейскай імперыі. Цары «матаў-народаў» былі ў той жа час і першасьвятарамі нейкага культу, накшталт арыянскага ці мітраісцкага.

Мы ўжо бачылі, што апошнім із прызнаваемых у Ягіпце за свайго цара рэ-месіянца быў Рэ-Месу XIII, якога мы атаясамяем з Гераклієм. У яго каліф Амар з візантыйскага боку гледжання забраў «Ягіпет», а з ягіпецкага боку гледжання Амар, маючы найменне Хір-Гарам, «выгнаў» Геракліяя із Ягіпта разам з усёй яго дынастыяй. І ў адпаведнасьці з гэтым мы чытаем у ягіптолагаў:

«*Хір-Гор прагнаў Рэ-Месу XIII із Ягіпта, але род цароў-месіянцаў не спыніўся і пасьля выгнання*».

Мы бачылі ўжо, што Бругш налічыў у іерагліфічных надпісах да шаснаццаці Рэ-Мес, якіх мы атаясамілі з некалькімі із візантыйскіх імператараў ад Геракліяя да Ільва Ідалазмагальніка (але без яго асабіста).

Так адначасова з наступленнем ідалазмагальніцтва на прыканцы VII стагоддзя заканчваецца як біблейская кніга «Цары», так і іерагліфічныя запісы пра цароў-месіянцах. А з'яўленне першага із Евангелляў, Марка, які сабраў каля 700 года нашай эры ў адно суставістае апавяданне легенды, хадзіўшыя тады пра Хрыста, вырабіла ўжо новую эпоху ў развіцці хрысьціянскай тэалогіі, якая пакінула ззаду сябе іерагліфічнае хрысьціянства і месіянства. Але тагачаснае месіянства не патрэбна змешваць з сучасным рабінізмам, які аформіўся толькі на Вормскім з'ездзе жыдоўскіх тэолагаў.

Вось паслядоўныя імёны валадароў XXII дынастыі (табл. LXXXIII згодна з Бругшам): Цар «матаў» Нірамат (Німурод) – паведамляюць нам камяні – падначаліў Ягіпет, памёр у ім і быў пахаваны ў Абідосе. Новым царом Ягіпта быў прызначаны яго сын Шашанк, які заснаваў сваю рэзідэнцыю ў Бубастусе (Пі-Баст – Сядзіба Дыяны), за які зараз лічыцца паселішча Тэль-Баста, у Дэльце, на ўсходнім рукаве Ніла, дзякуючы чаму яго наступнікі і атрымалі назву бубасьцідаў. А брат першасьвятара – Мен-Хепер-Рэ – быў прызначаны ў той час васальным царом у Танісе-Сіёне і акрамя таго быў пакінуты першасьвятаром у стабрамавых Фівах. Ён парадніўся і з рэ-месідамі.

Доўгі надпіс на гранітным маналіце ў парэштках Абідоса[186] распавядае, як Шашанк наведаў магілу свайго бацькі і пакараў сьмерцю разрабаваўшых яе насельнікаў. Тэолагі лічаць, што ён быў ніхто іншы, як Сусакім Бібліі.

ТАБЛІЦА LXXXIII

Псеўда-дваццаць другая (бубастыйская) дынастыя чалавекападобных ягіпецкіх цароў (згодна з Бругшам).

| Ніра-Мат (Немурод), сын царыцы Мехет-ан-Уех, родапачынальнік XXII дынастыі ў мінус 1000-м годзе. Яго спадкаемцы: | | | |
|---|---|---|---|
| 1-я наменклатура | | 2-я наменклатура | Гады ўцаравання згодна з Бругшам |
| Шашанк I | | Хат-Хепер-Рэ Сатэп-Ен-Рэ | -966 |
| Аўтут | | няма | -933 |
| 1-ы пер ыяд | Вус-Аркон | Сахем-Хепер-Рэ Міамун (арабскае аль-Мамун) | -900 |
| | Тэкелот I | Хат-Рэ Сатэп-ен-Амон-Нутэр Хак-Вус Сі-Ізэ | -866 |
| | Вус-Аркон II | Усер-ма-Рэ. Сатэп-ен-Амон Міамун Сі Баст | -833 |
| | Шашанк II | Сэхем-Хепер-Рэ Сатэп-ен-Амон Міамун | -800 |

[186] Бругш, стар. 562 арыг.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 2-й перыяд | | (арабскае аль-Манун) | |
| | Тэкелот II | Хат-Хепер-Рэ Сатэп-ен-Рэ Міамун Сі-Ізэ | -766 |
| | Шашанк III | Усер-ма-Рэ Сатэп-ен-Рэ Міамун Сі-Баст | -733 |
| | Пімай | Усер-Ма-Рэ Сатэп-ен-Амон Міамун (арабскае аль-Мамун) | -700 |
| | Шашанк IV | А-Хепер-Рэ | -666 |
| Кожнаму міласьціва дадзена $33^1/_3$ гады валадарання. | | | |

Сапраўды, у 1-й кнізе Цароў Багазмагальніцкіх (3-яй адпаведна з грэцкім злічэннем[187]) распавядаецца, як пад час дзён Ераваама і Раваама міц-рымскі цар Сусакім (па-біблейску Шушак) прыйшоў у Ерусалім і забраў усе скарбы сядзібы боскай і сядзібы царскай, у тым ліку і залатыя шчыты, так што Ераваам загадаў зрабіць замест іх медзяныя. Але мы ўжо ведаем, што храналагічна Ераваам налягае на Ліцынія і, такім чынам, апісаная падзея, калі яна не легенда, павінна дапасавацца да прамежку паміж 300 і 324 гадамі нашай эры. А ў гэты час над Ягіптам валадарыў Канстанцый Хлор, тоесны адпаведна з нашымі супастаўленнямі з Юліем Цэзарам. У такім разе легенда пра Німурода з’яўляецца таксама легендай пра Юлія Цэзара, а апавяданне пра замясціўшага яго сына Шашонка было б апавяданнам пра Кастуся I.

Аднак жа ў Бібліі існуе і іншы Шашанк (апісваемы як Шшк) у прароцтве «Ерамія», складзеным, як мы вылічылі, пасьля з'яўлення каметы 451 года:

«*Вазьмі чарку з віном боскага гневу і напаі із яе ўсе народы* – выказваецца аўтар ад імя будучага бога, пераймаючы Апакаліпсіс і заключае іхнае пералічэнне славамі: «*а цар Шэшак* (Шшк) *будзе піць пасьля ўсіх*» (Іер., 14, 25).

З такога боку гледжання справа пераносіцца да 451 года. А пад час гэтага года над Візантыяй і Ягіптам валадарыў Маркіян (450-457 гг.), наступнік Хвядоса II. Але і гэта ненадзейнае ўказанне.

У надпісе на 2-м пілоне на поўдні Карнакскага храма паведамляецца пра аднаўленне спадчынных правоў будучай жонкі Шашонка, прынцэсы Карамат, якіх яна была пазбаўлена ягіпецкім сьвятарствам.

Вось гэты надпіс, дзе Хонзу (Хазэ) з‘яўляецца варыянтам Ёсіі.

«*Так выказваецца Амон-Рэ, цар богаў, вялікі бог – пачатак кожнага існавання – і багіня Мут* (Mater) *і сын іх Хонзу,* (заўважце: ужо поўная тройца!) *і вялікія багі. У дачыненні да кожнага прадмета якога б роду ён ні быў, прынесенага з сабой Карамат, дачкой цара верхняй краіны, Міамуна Пісебхана*[188]*, з перайшоўшай да яе спадчыннай маёмасьці паўднёвай краіны, і ў дачыненні да якога б там ні было прадмета, які ёй падарылі людзі той краіны і забралі ў дзяўчыны, мы вяртаем ёй назад. Амон-Рэ, цар богаў, вялікі бог, пачатак кожнага існавання, багіня Мут, Хонзу і вялікія багі кажуць: «Кожны цар, кожны вярхоўны сьвятар Амона, кожны галоўнакамандуючыя, кожны вайскавод, і людзі кожнага стану, мужчынскай стаці ці жаночай стаці, якія мелі вялікія намеры, і тыя, якія пазьней выканалі свае намеры, ды вернуць маёмасць кожнага роду, якую з сабой прынесла Карамат, дачка цара верхняй Краіны Міамуна Пісебхана, як перайшоўшае да яе спадчыннае дабро паўднёвай акругі зямлі, з маёмасьцю кожнага роду, дадзенай ёй жыхарамі краіны і, што яны, жыхары, узялі ад дзяўчыны, аддадзена павінна быць у яе рукі. Мы аддаём гэта назад у рукі яе сына і яе ўнука, і яе дачкі і яе ўнучкі, дзецям дзяцей яе дачкі. Ды будзе яно захавана да пазьнейшых часоў». І яшчэ* (кажа Амон-Рэ, цар) *богаў, вялікі бог, пачатак кожнага быцця, і багіня Мут, і Хонзу, і вялікія багі: «павінны быць пакараны сьмерцю ўсе людзі кожнага стану ўсёй краіны, мужчыны, ці*

[187] Першая кніга цароў (XI, 40 і XIV, 25).

[188] Згодна са спісам, апошні цар XXI жрэцкай дынастыі ў Фівах.

*жанчыны, якія будуць заяўляць дамаганні на нейкія рэчы, якога б там ні было роду, якія з сабой прынесла Карамат, дачка цара і спадара, зямлі Міамуна Пісебхана, як перададзенае ёй спадчыннае дабро паўднёвай краіны, так і кожную рэч, якога б там ні было роду, якая падорана ёй жыхарамі зямлі, і тое, што яны ўзялі ў дзяўчыны із маёмасьці. Тым, якія схаваюць нешта із гэтага ад раніцы да раніцы, тыя адчуюць на сабе цяжар нашых вялікіх духаў, і не будзем мы ім памагатымі. Яны будуць падпадаць пад перасled з боку Вялікага бога, багіні Мут Хонзу і вялікіх богаў». Так сказаў Амон-Рэ, цар богаў, вялікі, бог, пачатак кожнага быцця, і Мут, і Хонзу, і вялікія багі: «Мы заб'ём кожнага жыхара кожнага стану па ўсёй зямлі, мужчыну ці жанчыну, які заявіць дамаганне на нейкую рэч, якога б там ні было роду, якую прынесла за сабой Карамат, дачка цара Верхняй краіны і спадара зямлі Міамуна Пісебхана, як перайшоўшае да яе спадчыннае дабро паўднёвай краіны, і кожную рэч якога б там ні было роду, якую ёй падарылі жыхары краіны і што яны ўзялі ў дзяўчыны із маёмасьці. Тыя, якія схаваюць нейкую рэч із гэтых ад раніцы да раніцы, тым вялікія духі нашы дадуць адчуць свой цяжар. Не будзем мы ім дапамогай, насы іхныя мы апусьцім да зямлі...»*

Тут надпіс сапсаваны, ды і уводзіны да яго таксама. Аднак ён характарыстычны. Такая юрыдычная грамата не саступае па свайму зместу і складу нават тым, якія пісаліся нашымі натарыусамі ў XIX стагоддзі, і, ва ўсякім разе, наўрад ці раней таго, як Хвядос II (401-450) выдаў у 438 годзе першы ў гісторыі чалавецтва збор законаў, вядомы пад імем Codex Theodosianus, хутчэй нават – пасьля Юстыніяна Заканадаўцы.

Ды і тытул Міамун нагадвае тут знакамітага багдадзкага каліфа Мамуна, адкуль і выказванне: «ці богу ці мамону».

Мы ўжо мелі выпадак паведамляць, што Шашанк абраў сваёю рэзідэнцыяй нейкі Бубастус. Відаць, ён толькі зрэдку наведваў Ягіпет. З рэ-месіянцамі ён жыў у найлепшых дачыненнях, ідучы ў гэтым за паданнямі сваёй сям'і, якая і раней заключала шлюбныя хаўрусы з імі, бяручы за жонак іхных дочак ці аддаючы за іх сваіх дочак.

Лічачы Шашонка I за Маркіяна (450-457 г.г.), мы можам сабе патлумачыць і адзін надпіс у храме Амона ў Апе, дзе на паўднёвым вонкавым боку сьцяны, ззаду пераможных выяваў Рэ-Месіі, на ўсход ад так званай залы бубасцідаў, кідаецца гледачу ў вочы гіганцкая фігура гэтага цара, забіваючая булавой палонных богаслаўцаў (юдэяў) падчас свайго паходу на іх. Найменні гарадоў і мясцовасьцей, захопленых ім, аточаны асобнымі зубчатымі рамкамі, пры гэтым яны выяўляюцца такімі ж згодна з найменнямі, як і ў Бібліі: Ра-бі-та – біблейскі Рабіт, ці Равін; Т-ан-каў – Танаах, ці Фанаах.

Уся выява зроблена ў такім жа стылі, як і астатнія ягіпецкія храмавыя выявы, да гэтага часу прыпісваемыя глыбокай старажытнасьці, ды і гэтую дапасуюць да перыяду за 960 гадоў да пачатку нашай эры (!).

А вось дакумент, паказваючы на набожнасць Шашонка.

У каменяломнях Сільсіліса захаваўся вельмі цікавы памятны надпіс пра пачатак будаўніцтва храма Амону-Цару і пра яго будаўніка Гор-ем-Сафе, вельмі нагадваючага біблейскага Зорабабеля пры цару Кіру, які дазволіў богаслаўцам вярнуцца на радзіму і будаваць храм свайму богу-Грамабою. Гэты дакумент паведамляе наступнае:

«*Пад час 21-а года, у месяцы Паіні, Яго Вялікасць знаходзілася ў пасадным горадзе, у горадзе пасада вялікай асобы бога Хор-Маху. І загадаў Яго Вялікасць Гору-ем-Сафу, сьвятару бога Амона-Рэ, таемнаму дарадцу Хор-Махава горада, дойліду помнікаў Валадара краіны* (яго веды былі вялікія ў кожнай справе), *ламаць лепшы камень Сільсіліса, каб будаваць шматлікія і вялікія мануманты для храма хвалебнага бацькі*

*нашага Амона-Рэ, спадара Фіваў. Яго Вялікасць аддаў загад будаваць вялікую храмавую браму із абчосаных камянёў, каб пышна ўпрыгожыць горад, паставіць вароты на шмат локцяў у вышыню і наладзіць сьвяточную залу для свайго бацькі Амона-Рэ, бацькі богаў, і атачыць храм тоўстай сьцяной.*

*Шчасьліва здзейсніўшы вандраванне назад у горад Паторыса, у мясцовасць, дзе знаходзіўся Яго Вялікасць, Гор-ем-Соф, першасьвятар Амона-Рэ, цара богаў, таемны дарадца горада бога Хор-Маху, дойлід пры сядзібе цара Шашонка І у Фівах, павага якога была вялікай да свайго валадара, спадара магутнасьці, спадара зямлі, сказаў цару:*

«*Усе словы твае будуць выкананы, о ты, мой добры гаспадар! Не буду я спаць ноччу, не буду я драмаць днём. Ды працягваецца пабудова безперапынна, без спакою і адпачынку*».

*І ён быў прыняты міласьціва царом. Цар падараваў яму каштоўныя гасьцінцы, срэбрам і золатам*».

Акрамя вышэйзгаданага надпісу, дойлід Гор-ем-Соф ушанаваў у каменяломнях Сільсіліса памяць пра Шашонка І і іншай выдатнай выявай. На вялікай табліцы, на скале, бачыцца цар у суправаджэнні свайго сына Аупута. Багіня Мут, ягіпецкая Істар, урачыста паказвае цара (ці цара з сынам) тром галоўным божышчам Ягіпта: Амону фіванскаму, Хормаху-Туму геліяпольскаму і Пта мемфіскаму. У надпісе, пад выявай, пазначаны тытулы цара, у якіх, між іншым, ён названы «вялікім пераможцам народаў». Да гэтага дададзена:

«*Гэта боскі дабрадзей: Сонечны бог-Рэ мае яго выгляд. Ён з'яўляецца выявай Хор-Маха. Амон паставіў яго на свой пасад, каб уладкаваць тое, што ён пачаў пры ўступленні ва ўладу над Ягіптам у другі раз. Гэта цар Шашанк. Ён загадаў заснаваць новую каменяломню, каб пачаць новую пабудову. Такой была добрая справа, якую ён зрабіў для бацькі свайго, фіванскага Амона-Рэ, і ды даруе яму Амон-Рэ трыццацігадовыя юбілеі бога-цара і гады бога Тума. Ды жыве ён вечна*».

Тут-жа прыведзена і прамова цара, адрасаваная богу Амону:

– «*Мой добры гасподзь! Падаруй мне, каб пераджылі мае словы сотні тысяч гадоў. Цудоўна працаваць дзеля Амона. Падаруй мне за тое, што я зрабіў, доўгае цараванне. Я для яго загадаў заснаваць новую каменяломню, для пачатку справы. А выканаў гэта, я вярхоўны жрэц Амона, цара богаў, і галоўны правадыр абраных самых выдатных ваяроў, і Аупут, першы із усіх ваяроў Паторыса, сын цара Шашонка І, для свайго спадара Амона-Рэ, цара багаў. Падаруй мне шчасьце, здароўе, доўгае жыццё, моц, дужасць і глыбокую старасьць пры бадзёрасьці. Мой добры бог! Падаруй мне, каб пераджылі мае словы сотні тысяч гадоў. Выдатна працаваць для Амона. Падаруй мне моц за тое, што я зрабіў*».

Старэйшы сын Шашонка І, Аупут, памёр – кажуць нам – амаль адначасова з ім. Ён быў першасьвятаром Амона ў Фівах, і пасьля яго на ягіпецкі пасад уступіў другі сын Шашонка Вус-Аркон (Саргон) І.

Ягіпецкія камяні – выказваецца Бругш[189] – не ўтрымліваюць пра асобу Вус-Аркона (Саргона) І ніякіх вызначаных паведамленняў і называюць наступным царом яго сына Тэкелота І (Тыглата), першасьвятара Амона і галоўнакамандуючага войскам усяго Ягіпта. Тады ж узнікла спрэчка пра ўспадкаванне пасада.

Пасьля сьмерці Тэкелота І на пасад уступіў яго сын Усаркон (Саргон) ІІ, у якога старэйшым сынам быў таксама Шашанк, першасьвятар мемфіскага Пта, а малодшым Нірамат (Німрод), кіраўнік пракокаў і галоўнакамандуючы войскам у Гераклеапалісе Вялікім (які лічыцца зараз за Ахнас на захад ад Нілу, на поўдзень ад Фаюма, 29°10 п. ш.), а потым ён быў прызначаны, першасьвятаром Амона ў

[189] Бругш, стар. 667 арыг.

Фівах, і ўсе яго нашчадкі аж да апошняга, Пі-Сон-Гора, былі спадчыннымі сьвятарамі, бога Хнума-Авена ў Гераклеаполісе Вялікім.

Дакладна так жа і ўсе нашчадкі яго старэйшага брата Шашонка (III) успадкоўвалі высокую пасаду свайго бацькі, як сьвятара-служкі мемфіскага Пта і сьвятых быкоў, у выглядзе якіх бог-бацька з'яўляўся людзям, не могучых пабачыць, не памёршы, яго сапраўднага выгляду, пра што нам паведамляе і легенда пра ператварэнні Юпітара ў быка.

Такім чынам, усе нашчадкі першасьвятара Шашонка па гэтай лініі ідуць у царкоўную дзейнасць. «Пасьля сьмерці Ўсаркона II на пасад узышоў другі ўнук Шашонка пад найменнем Шашанк II, пра якога помнікі таксама маўчаць, а потым сядае Тэкелот II, чалавек дачкі Німрода, першасьвятара Амона. Старэйшы сын гэтага Тэкелота II, Усаркан (васальны цар), быў кіраўніком усяго вайска краіны і вярхоўным жрацом Амона». Так добра было вядома ўсё іхнае сваяцтва, хаця, акрамя яго, больш нічога!

Да часу яго падарожжа ў Фівы, каб заняць гэтую пасаду, дапасуецца надзвычай цікавы для нас надпіс у зале бубасьцідаў Карнакскага акадэмічнага храма.

«*Калі наступіў 25 дзень месяца Месоры, пад час 15-а года валадарання яго бацькі* (Тэкелота II), *хвалебнага Гора, боскага князя Фіваў, неба зрабілася непазнаваемым і месяц стаў жахлівага выгляду ў якасьці папярэджвання пра надыход падзей у гэтай краіне, як то і здарылася, таму што дзеці паўстання прайшлі вайной па яе паўднёвых і паўночных мясцовасьцях*»[190].

У адпаведным месцы гэтага тома (стар. 753) я ўжо паказаў з дапамогай астранамічных вылічэнняў, што гэтае апісанне магчыма дапасаваць толькі: 1) да звыш поўнага месяцовага зацьмення 17 жніўня 593 года, каля ягіпецкай поўначы, ці 2) да звыш поўнага зацьмення месяца 18 жніўня 658 гады, якія маглі быць і крывавымі, г.азн. жахлівага выгляду. Але тут выявіліся два рашэнні:

**I рашэнне**. Грунтуючыся на зацьменні 658 года гэтая дынастыя ў нас храналагічна наклалася б на візантыйска-ягіпецкую так:

| | |
|---|---|
| Шашанк | Юстыны (Юстыніян Вялікі і два Юстыны яго суваладары, 518-578 г.г.). |
| Аўтут | Тыберый (578-582). |
| Вус-Аркон | Маўрыкій (582-603). |
| Тэкелот I | Фака (603-610). |
| Вус-Аркон II | Гераклій (610-641). |
| (Пераход Ягіпта да агаранства) | |
| Шашанк II | Кастусь III (641). |
| Тэкелот II | Канстанс (641-668) **і пры ім месяцовае зацьменне 658 года.** |
| Шашанк III | Кастусь Паганат (668-685). |
| (Пераход Сірыі да агаранства). | |
| Пімай | Юстыніян II (685-711)? |
| Шашанк IV | Піліп Вардын (711-713)? |

**II рашэнне.** Калі лічыць грунтуючыся на зацьменні 593 года выявіцца:

| | |
|---|---|
| Німрот | Хвядос II (408-450), першы пасьля Апакаліпсіса. |
| Шашанк I | Маркіян (450-457). |
| Аўтут | Леў I (457-474). |
| Вус-Аркон I | Зянон (474-491). |
| Тэкелот I | Анастас (491-518). |

[190] Бругш, стар. 668 арыг.

| | |
|---|---|
| Вус-Аркон II | Юстыніяны (аб’яднаны ўсе тры, як і ў Біблії, 518-578). |
| Шашанк II | Тыберый (578-582). |
| Тэкелот II | Маўрыкій (582-603) **і пры ім месяцовае зацьменне 593 года.** |
| Шашанк III | Фака (603-610). |
| Пімай (адсутнічае, але ў Біблію занесены ў выглядзе Іякіма II, які валадарыў 3 месяца). | |
| Шашанк IV | Гераклій (610-641). |
| (Пераход Ягіпта ў агаранства) | |

І тут усё атрымліваецца задавальняюча. Уся дынастыя цалкам налягае на цалкам сфармаваны перыяд візантыйска-ягіпецкай тэакратыі ад Хвядоса II, першага хто пасьля сьмерці Яна Залатавуста пашыраўшага апакаліптычнае хрысьціянства, і да Гераклія, пасьля якога Ягіпет перайшоў да агаранства. Ды і паведамленні пра хваляванні пасьля зацьмення апраўдваюцца: Фака паўстаў і забіў Маўрыкія.

А калі мы дададзім да гэтага, што цар «**ШШК**» згадваецца як яшчэ жывы ў прароцтве Ерамія (Іер., 14,25), напісаным у 451 годзе, то вельмі шмат шанцаў за тое, што адно із гэтых двух нашых атаясамленняў слушнае. Хутчэй усяго першае...

Апошнія ягіпецкія нашчадкі Шашонка – згодна з Бругшам – апусьціліся да прыступкі царкоў ужо распаўшагася царства.

Іхнае гістарычнае значэнне губляецца сярод змаганняў удзельных тэакратаў гэтага перыяду, супадаючага, з нашага боку гледжання, з распаданнем першапачатковага арыянства на шмат сектаў, і яны «адноўлены» толькі грунтуючыся на надпісах на магільнях Апісаў, адкапаных паміж сучаснімі вёскамі Абу-Сір і Сакара, сьмерць якіх пазначана гадамі іх валадарання. Гэтае месца мае назву Серапеум ад наймення Сер-Апіс – цяля-Серафім.

Святы бык Хапі, ці Афі, лічыўся сынам бога Пта (грэцкае Фотас – сьвятло, і лацінскае pater – бацька) ці нават яго ўласным увасабленнем, адпаведна з вядомай метамарфозай Юпітара, маляваўшай яго алегарычна з бычынай галавой. І я лічу, што гэта мае сувязь з сузор'ем Цяляці. Апіс (ці Афіс) меў свой храм у «Мемфісе», а пасьля сьмерці яго муміі хаваліся з ушанаваннямі.

Хаця ягіптолагі XIX стагоддзя і дапасавалі культ апісаў у Ягіпце да вялікай старажытнасьці, але Плутарх у сваёй кнізе «Пра Азірыса і Ізіду» паведамляе, што статуя Сер-Апіса была ўпершыню вывезена ў Ягіпет із Сінопа дзякуючы прарочаму сну Пталямея I Сатэра. Гэта ж самае сцвярджае і Тацыт (IV, 83, 84), якога я лічу, дарэчы, цалкам падробленым.

Цікавай з’яўляецца гісторыя адкрыцця Серапеума Марыётам. У Страбона напісана:

«*Існуе там і храм Серапіса на вельмі пясчаным месцы, так што ад ветру ўтвараюцца пяшчаныя ўзгоркі; мы бачылі сфінксаў, часткова засыпаных пяском да галавы, часткова да палавіны, із чаго можна зрабіць выснову, якую небяспеку можа мець той, які, ідучы да храма, будзе заспеты віхурам*»[191].

У 1850 годзе Марыет пасьля моцнай буры выпадкова заўважыў галаву аднаго са сфінксаў і, згадаўшы словы Страбона, пачаў працы на гэтым месцы. Раскопы перадусім знайшлі алею сфінксаў, якая ішла, з аднаго боку, да катакомбаў, а з другога – да меркаваных іх парэштак Серапеума, хаця храм Серапеума, уласна кажучы, не знайшоўся, а знайшліся толькі падземныя склепы, у якіх хаваліся быкі. Яны падзяляюцца на тры раздзела.

[191] Страбон, XVII, I, § 32; Mariette: Monuments of Upper Egypt, p. 88-91.

Самы старажытны із усіх раздзелаў, у якім знойдзены магільні апісаў (быццам бы ад XVIII да XX дынастыі), засыпаны пяском. У той частцы, якую была магчымасць агледзець, кожны бык меў сваю грабнічную камеру; яны высякаліся, відаць, не згодна з нейкім вызначаным планам, а ў розных месцах скалы.

У другім раздзеле знаходзяцца магільні апісаў ад Шашапка I да Тахарака (XXV-я дынастыя). Тут цалкам іншая сістэма пахавання. Тут высечана доўгая падземная галерэя, па абодва бакі ад якой уладкаваны камеры для пахавання апісаў, калі яны паміралі ў Мемфісе.

Трэцці, самы позні, раздзел пачынаецца пахавальнымі надпісамі часоў Псаметыха I і надпісамі, дапасуючыміся да часоў «Пталямеяў». Ён таксама ўяўляе некалькі галерэй з камерамі па баках. Асаблівасцю гэтага раздзела з'яўляецца тое, што ў ім знойдзены гранітныя саркафагі, перад камерамі якіх ставілі надпісы, напісаныя на плітах. Акрамя іх, знойдзены і іншыя памятныя пліты, якія ставіліся старажытнымі наведвальнікамі і таксама ўтрымліваючыя важныя ўказанні. Гэтых апошніх пліт сабрана да 500 і вялікая частка іх захоўваецца ў музеі Булака насупраць Каіра.

Такімі з'яўляюцца асноўныя помнікі, у якіх згадваюцца імёны дапасуючыяся да часу дынастый Шашонка I і Шашонка II; але іхныя нашчадкі, пералічаныя далей на магільнях апісаў, відаць не належаць да вярхоўных цароў эліна-ягіпецкай імперыі, а ўяўляюць сабой васальных царкоў-тэакратаў.

Мімаволі ў галаву прыходзіць думка: параўнаць «ягіпецкія катакомбы» з італійскімі. Гэта ж відавочна помнікі таго ж самага культу парэшткаў. Дык чаму ж мы адлучаем адны ад другіх прамежкам часу роўнаму паўтары тысячам гадоў і прыпісваем іх цалкам розным рэлігійным сьветапоглядам?

# Глава III.

## Малыя цэментуючыя псеўда-дынастыі, ад дваццаць трэццяй да дваццаць пятай.

Такой з'яўляецца XXII-я дынастыя ўсходніх эліна-сірыйска-ягіпецкіх цароў з боку гледжання бубасьційскай школы і згодна з яе тэрміналогіяй. Паглядзім зараз і на іншыя дынастыі з боку гледжання іхнай школы. Пазначу перадусім вялікую блытаніну ў кампазіцыі гэтых дынастый у розных аўтараў, навочна паказваючую, што, выбіўшыся са свайго зачараванага кола сямі цароў, яны не ведалі, як перайсьці ад іх да рэчаіснай гісторыі Ягіпта, пачынаючайся толькі з часоў Дыяклетыяна, ці ў крайнім выпадку ад Аўрэліяна.

Так, усе гэтыя дынастыі Бругш у дадатку да сваёй кнігі зводзіць да пяці чалавек (табл. LXXXIV), із якіх першым дзвум дае роўна па $33^1/_3$ гады валадарання, як і ўсім сваім 96-ці ранейшым ягіпецкім царам пачынаючы ад Менэса, і не заўважаючы, што, калі кожны з іх у сярэднім валадарыў $33^1/_3$ гады, то першынец кожнага павінен быў нараджацца ў сярэднім на $33^1/_3$ годзе яго жыцця, што даволі пазнавата нават і для нашага часу, а не толькі да пачатку хрысьціянскай эры, калі паганцы адружваліся, як толькі дасягалі стацевай сталасьці, г.азн. ужо на 16-18 годзе, асабліва ў паўднёвых краінах.

ТАБЛІЦА LXXXIV

Дынастыі псеўда-XXIII, XXIV і XXV згодна з агульным спісам Бругша.

| | | | |
|---|---|---|---|
| XXIII дынастыя (Таніс-Фівы) | Вус-Аркон (і больш нікога) | | -766 год |
| XXIV дынастыя (Саіс-Мемфіс) | Бакен-рэ-Нэў (і больш нікога) | | -733 год |
| XXV дынастыя (цары эфіёпы!!!) | Шабак | } суваладары | -700 год |
| | Шабатах | | |
| | Тахарака | | -696 год |

Ужо адна тая акалічнасць, што гэтыя дынастыі такія малыя, паказвае, што ранейшая Лепсівусава і Бругшава казка пра ягіпецкага белага бычка ў нас зараз абарвалася канчаткова і ягіпецкія цары пачынаюць набірацца, як патрапіць. Дасьледчыку тут застаецца, таму, вялікі абшар для іхнага атаясамлення з тымі ці іншымі валадарамі Ягіпта пад час сярэдневечча, і гэты абшар з'яўляецца вялікай нязручнасьцю, таму што заданне атрымлівае ў кожнай дынастыі па некалькі рашэнняў, ніводнаму із якіх немагчыма аддаць перавагу.

Вось, напрыклад, **XXIII псеўда-дынастыя**.

Згодна з Бругшавай агульнай генеалогіяй, дадзенай у дадатку да яго кнігі, тут – адзін Вус-Аркон (Вус-Архонт), а згодна з яго ж прыватнай генеалагічнай табліцай (перанесенай тут мной на агульную параўнальную табл. LXXXI на стр. 1135) тут былі:

Петубаст, Тэкелот, Вус-Аркон, Псамус, Вус-Аркон, Шашанк, Гарэн-Ізе. Якімі з’яўляюцца іх характарыстыкі?

Згодна з Манефонскай царскай кнігай, тут былі толькі тры цары:

Петубастэс, валадарыў 40 гадоў, а ў іерогліфах згодна з Бругшам ён мае назву Сехер-Аб-Рэ Петсібаст.

Саргон (Асархон ці Вус-Аркон), валадарыўшы 9 гадоў; у іерогліфах ён мае назву А-Хепер-Рэ Сатэп-ен-Амон Міамун Усаркон.

Псамус, валадарыўшы 10 гадоў і названы ў іерогліфах Вус-эр-Ра Сатэп-Ен-Пта Псімут.

Пра апошняга із гэтых трох цароў існуюць паведамленні і ў асірыйскіх клінапісах: пра перамогі Асур-ах-Іддына (Сарданапала), які называе сябе царом Ягіпта і Куша і распавядае пра свае перамогі над царом Тыхарку (Тыргакам). Яна была знойдзена ва ўтоцы ракі паблізу Бейпута[192]. У ёй Псімут мае найменне Іспімату, сар (цар) горада Таіні. На падставе таго, што Тыграк згадваецца ў Бібліі, як сучаснік цара Езекіі[193], якога мы лічым тоесным з візантыйскім імператарам Анастасам (491-578), давялося б і Ісамуса дапасаваць да таго ж часу, тым больш, што пра яго ж згадваецца і ў прароцтве Ісаія (37, 9).

Дакладна так жа і Саргон.

Як сучаснік біблейскага Осіі, ён дапасуецца да часу падзення Заходняй Рымскай імперыі (475 год). Гэта азначае, што ўся гэтая дынастыя павінна быць дапасавана да часоў ад Хвядоса II (408-450) да Анастаса (491-518) у Візантыі. Паглядзім і далей.

## XXIV псеўда-дынастыя.

У ёй грэцкія аўтары, спасылаючыяся на міфічнага жраца Манефо[194], пазначаюць толькі буйнага Бахо-Рыса, г.азн. цара Бахо Наймудрага, які жыў быццам бы ў Сайдзе і быў спалены жывым захапіўшым яго ў палон эфіёпскім царом Сабаконам. Марыет прачытаў гэта імя ў выглядзе Уах-Кары Бак-ен-Рэ-Нева на саркафагу Апіса, памёршага на 6-м годзе яго валадарання і пакладзенага ў той

192 Oppert: Mémoires, p. 39.

193 Mariette: Apergude l'histoire d'Egypte, p. 178-179.

194 Manetho, выд. Unger'a, p. 246. Бругш, стар. 716 арыг. і стар. 676 і 677.

жа палаце Серапеума, у якой ляжаў і Апіс, які памёр на 37 годзе цара Шашанка IV. Гэты ж Бок-ен-Рэ-Нэў існуе, відаць, і ў вышэйпрыведзеным асірыйскім спісе, дзе дадзены імёны ягіпецкіх васалаў Букур-Нініп, Асур-ах-Ідына (Есархадона, ён-жа Сарданапал)[195]. Там ён мае назву Букур-Нініп, сар (цар) краіны Пахнуці (паганатаў?). Усё гэта паказвае толькі на тое, што час яго сапраўды дапасуецца ўжо да агаранскага перыяда Ягіпта.

## XXV псеўда-дынастыя.

Яна мае назву эфіёпскай, г.азн. абісінскай, і да яе ў Манефонскім спісе дапасуюцца толькі:

Шабак (Сабакон, г.азн. Кот)...................... 12 гадоў
Шабатах (Себіхос, г.азн. сын Ката).......... 12 гадоў
Тахарака (Таракос) ці Нафер-Тум-Хура.. 26 гадоў

А ягіптолагі далучылі да гэтага згуртавання яшчэ два цары: Піанхі (г.азн. Жывучы) і Міамун-Мут, так што яе можна намаляваць у такім выглядзе:

Шабак; Шабатах (Піанхі), (Міамун-Мут), Тахарака.

А іхныя паслядоўнікі дадалі да іх яшчэ некалькі, і ў канчатковым выглядзе атрымалася так:

Піанхі, Міамун-Нут і Кашда, Шабак і Піанхі, Шабаток, Аа-Мес Сініт, Псамецік II, прынцэса Тасет-ан-Ізе.

Але гэта тыя ж самыя візантыйска-ягіпецкія цары, толькі з верхне-ягіпецкімі найменнямі, таму што заканчэнне імёнаў на «*к*» і зараз характэрна для дыялектаў вярхоўяў Нілу і Нубіі.

Шабак азначае – кот, і гэтае імя тое ж самае, што і жыдоўскае шаб (кот). Аднак у жыдоўскай Бібліі (2 Цароў, 17, 4) тут значыцца Сігор, як і ў лацінскай Вульгаце, а па-руску ён названы Сігор (4 Ц. 17, 4) і ўсё дапасавана да часу Ахаза (Зянона 474-491 гг.), г.азн. з нашага боку гледжання да падзення Заходняй імперыі.

На падставе аднаго таго, што ўсе гэтыя Шабакі, Шабатакі і Тахаракі – найменні верхне-ягіпецкія, Бругш, а за ім і наступныя ягіптолагі, паспешна зрабілі выснову, што існаваў перыяд, калі Ягіптам кіравалі цары негрыцянскага паходжання

Эфіёпы, выглядам чорныя
І як вугельчыкі іхныя вочы...

Але гэта зноў крайняя наіўнасць з боку гледжання культуры і эканомікі верхніх і ніжніх абласьцей даліны Нілу. Калі ж Езус па ангельску мае найменне Джи́зёс, то, прачытаўшы яго жыццяапісанне па-ангельску, не робім жа мы выснову, што раней «рускага Езуса» існаваў яшчэ нейкі «Джи́зёс ангельскага паходжання», навучаўшы ў Палестыне таму ж самаму. Так і тут. Усё гэта – разнамоўныя найменні тых жа самых візантыйска-ягіпецкіх валадароў пярэдадня і пачатку сярэдневечча, і, як дадатак да табліцы LXXXI (натр. 1134), гадаючы, мы можам атаясамляць іх, як дадзена ў табліцы LXXXV.

ТАБЛІЦА LXXXV.

Верагоднае параўнанне падставаў 23, 24 і 25 псеўда-дынастый з візантыйска-ягіпецкімі валадарамі.

| Ягіпецкія найменні | Біблейскія найменні | Візантыйскія найменні |
|---|---|---|
| Псеўда-23 дынастыя: | | |
| Вус-Аркон | Амазія-Озія | Феадосій II (408-450) 41 г. |
| Псеўда-24 дынастыя: | | |

[195] Асур-бані-Хабал – Сарданапал.

| | | |
|---|---|---|
| Бахорыс-Бокен-Рэ-Нэў | Озія-Амасія | Маркіян (450-457) 7 г. |
| Псеўда-25 дынастыя: | | |
| Шабак..........15 г. | Іатам 16 г. | Леў I (457-474) 17 г. |
| Шабатак.......15 г. | Ахаз 16 г. | Зянон (474-491) 17 г. |
| Тахарака......27 г. | Езекія 29 г. | Анастас (491-518) 27 г. |
| (Піанхі) (Міамун-Нут) | (Пераскок да Хрыста?) | (Пераскок да Хрыста?) |

Пра Шабака і Шабатака мы маем у іерагліфічных надпісах толькі згадванне. Не лепшым чынам выглядае справа з Піанхі і з Міамунам-Мутам.

Адносна першага з іх ужо даўно быў знойдзены каля гары Баркала гранітны маналіт, увесь спісаны іерогліфамі ў якасьці пазначэння пра заваёву ўсяго Ягіпта гэтым Піанхі (імя якога азначае «Жывучы»). Вось гэтае месца:

«*Пад час года 21-а, у месяцы Тот, падчас валадарання цара верхняга і ніжняга царства Вялікага Несьмяротнага* (Міамуна Піанхі), *– ды жыве ён вечна! – выдаў яго царская вялікасць такі загад:*

*Ды ведаюць, што я зрабіў больш, чым усе мае папярэднікі. Я цар, частка боскасьці, я жывое ўвасабленне Тума. Пры выходжванні із улоння маці я быў абраны ў якасьці валадара, перад якім дрыжаць вялікія, ведаючы, хто я такі.*

*Маці яго выразна адчувала яшчэ ва ўлонні, што ён прызначаны для ўлады, ён – боскі дабрадзей, сябар багаў, сын бога-цара* (Рэ), *які зрабіў яго сваімі ўласнымі рукамі, – Вялікі Несьмяротны Міамун Пі-анхі.*

*Прыйшлі паведаміць цару: гаспадар захаду, Тафнахт, вялікі князь у Сьвятым горадзе, авалодаў усёю краінай захаду ад заазёрнай зямлі да горада, размешчанага на падзяляючай мяжы. Ён едзе ўгару па рацэ са шматлікімі ваярамі. Жыхары абодвух частак царства сабраны пры ім, князі і валадары гарадоў ляжаць, як сабакі, каля яго ног. Не зачынены для яго ўмацаванні акруг паўднёвай зямлі. Гарады Мітум, Пі-Сэхем-Хепер-Рэ, Пімаі, Текенаш і ўсе гарады захаду адкрылі яму брамы са страху перад ім. Ён едзе на акругі ўсходняй краіны, і яны здаюць яму гарады. Ён рыхтуецца аблажыць Гераклеаполіс Вялікі і ачапіў яго, як колам. Тот, які мае жаданне выйсьці із яго, не мае магчымасьці выйсьці, і хто мае жаданне зайсьці, не мае магчымасьці зайсьці праз неперарываючыяся бітвы... Усіх князёў, якія прызнаюць яго ўладу, ён пакідае сядзець у сваёй акрузе і ў гарадах. І яны падначальваюцца яму, як асобе найвышэйшай па свайму мудраму разуменню. Сэрца яго радаснае.*

*І гаспадары, і князі, і вайскаводы, кожны адпаведна свайму становішчу, пасылалі яго вялікасьці Вялікаму Несьмяротнаму бесперапынна лісты такога зместу, кажучы:*

*– Хіба ты нямы, што не жадаеш нічога ведаць пра зямлю поўдня і пра акругі сярэдняй краіны? Тафнахт забірае яе сабе і не знаходзіць нікога, хто б яму супрацівіўся. Німрод, князь Ха-Уера, разбурыў умацаванне Нафрус і знішчыў свой горад уласнай рукой праз баязнь, каб ён яго не забраў, каб не замкнуў яго згодна з прыкладам іншых гарадоў. Зараз ён выправіўся, каб быць каля яго ног, і адмовіўся ад літасьці тваёй вялікасьці. Ён з ім злучыўся разам. Валадар Аксірынхіцкай акругі даў яму дарункі адпаведна жаданню яго сэрца, розныя рэчы, якія знайшліся ў яго.*

*І накіраваў яго вялікасць ліст князям і вайскаводам, якія былі пастаўлены над яго зямлёй: кіраўніку Пі-уа-Рома і кіраўніку Ламіс-кені і да ўсіх кіраўнікаў яго вялікасьці, якія былі прызначаны над яго зямлёй, каб яны паспяшаліся аблажыць* (горад Гермаполіс), *злавіць яго жыхароў, яго быдла і яго караблі на рацэ, не дазваляць ніякаму земляробу выходзіць на палеткі і аратаму араць, замкнуць тое, што знаходзіцца ў Гермаполісе, і ваяваць супраць яго безперапынна. І выправіў яго вялікасць сваё ваярства, строга-строга загадаўшы ім:*

*Гледзіце, не баўце ночы ў задавальненнях гульні. Будзьце гатовы да бітвы, стоячы перад тварам ворагаў, і трымайце зброю напагатове нават удалечыні. Калі нехта із тых князёў прывёў для сваёй абароны ваяроў із Мармарыкі ці ваяроў надзейных, то будзьце*

*гатовы да бою супраць іх. Так выказваўся старажытны герой: няма карысьці збіраць войска і шматлікія калясьніцы з лепшымі коньмі са стойла, але трэба, ідучы ў бітву, усведамляць, што боскі Амон* (бог бацька) *нас выпраўляе. Калі вы станеце ў Фівах перад храмам Апе, зайдзіце ў ваду, ачысьціцеся ў рацэ, распраніцеся пры галоўным канале, апусьціце цяцівы на луку, адкладзіце ўбок зброю перад царом богаў, як перад усемагутным. Не будзе ніякай моцы ў чалавека, які занядбае ім. Ён робіць слабога моцным і калі непрыяцеляў шмат, то яны павернуць спіну перад нязначным атрадам і адзін зможа змагацца з тысячай. Папырскайцеся вадой яго сьвятых ахвярнікаў, павярніцеся да яго тварам сваім і кажыце яму так: Даруй нам шлях бітвы нашай у цені тваёй магутнай рукі! Пакаленні, якія ідуць за цябе, адціснуць непрыяцеля і нанясуць яму шмат параз.*

*Яны кінуліся на свае жываты перад яго вялікасьцю, кажучы:*

*– Хіба не тваё імя робіць руку нашу моцнай? Хіба не твая мудрасць дае могутнасць твайму ваярству? Хлеб твой у нашым целе, і мёд твой усюды задавальняе нашу смагу. Ці не твая цьвёрдасць дае нам моц і мужнасць пры думцы пра цябе? Нікчэмным з’яўляецца тое ваярства, кіраўнік якога маладушны, але хто табе падобны? Ты цар, рукі якога наладжваюць перамогу, ты майстар у працы бітвы*.

*Яны пайшлі ўніз па рацэ, дасягнулі горада Фіваў і выканалі ўсё, што яго вялікасць загадаў ім. Яны знайшлі там шмат караблёў, якія ехалі ўгару з ваярамі, карабельнікамі і кіраўнікамі із лепшых вояроў ніжняй краіны, узброенымі ўсімі даспехамі для бітвы супраць вяароў яго вялікасьці, і нанесьлі ім вялікую паразу.*

*Ніхто не ведае колькасьці загінуўшых. Тыя, якія засталіся ў жывых, збеглі ў ніжнюю краіну, таму што іхная параза была больш жудаснай, чым калі-небудзь*. *Выправілі ганца, каб паведаміць яго вялікасьці Вялікаму Несьмяротнаму* (Міамуну-Піанхі), *жыццё аддаючаму, пра гэтую вялікую паразу. Але раз'юшыўся яго вялікасць супраць іх, як пантэра, і сказаў: «Такім чынам, мае ваяры пакінулі ў жывых частку войска ніжняй краіны і дазволілі, каб ад іх збег, хто меў жаданне, каб паведаміць свайму цару, як іх пазбавіць ад бяды! Клянуся шанаваннем бога Рэ, і ды дабраславіць мяне бог Амон, я выпраўлюся сам уніз па рацэ*!

*Тады ваявалі* (яго ваяры) *супраць горада Ха-Бэну, адчынілі яго, і войска яго вялікасьці зайшло ў яго. Яны паслалі аведамленне яго вялікасьці. Але сэрца яго не было задаволена і гэтым.*

*Пад час месяца Тот, на 9-ы дзень пасьля таго, як яго вялікасць высадзіўся ў Фівах, святкаваў ён сьвята Амона ў фіўскім месяцы Паофі. Пасьля таго яго вялікасць, плывучы ўніз па рацэ, выправіўся да горада Гермаполіса Вялікага. Выйшаў ён із карабельнага пакоя, загадаў запрэгчы коней і ўвайшоў на калясніцу, запрэжаную парай коней, імёны якіх былі: «Баязнь яго вялікасьці атачае азіятаў» і «Ўсе сэрцы яго баяцца». Яго вялікасць выправіўся наперад, кінуўся на ненавіснікаў яго ваярства, як пантэра, поўны гневу супраць іх, і кажучы:*

*– Хіба яны не тут стаяць?! Ваюйце! Не запавольвайце маю справу! Прыйшоў час, каб, нарэшце, раз і назаўсёды надаць зямлі ніжняй краіны павагу да мяне!.*

*Жахлівая параза была ім нанесена ворагам яго, жудасным быў удар, які ён нанёс ім.*

*Пастаўлены быў для яго шацёр на паўднёвы захад ад Вялікага Гермаполіса. Зачыненым заставаўся горад увесь гэты час. Накіданы быў (*земляны*) вал, каб замкнуць сьцяну ўмацавання. Калі драўляная пабудова насупраць сьцяны дасягнула дастатковай вышыні, узбеглі на яе стральцы із лука, кідальныя машыны кідалі ўсярэдзіну камяні, каб бесперапынна забіваць там людзей. Тры дні гэта працягвалася. І зрабіліся знаходзіўшыяся ў Гермаполісе сьмярдзючымі і была ў іх папатрэба ў духмяным паветры.*

*Здаўся Гермаполіс, пачаў маліць цара ніжняга Царства. Амбасадары выйшлі із горада і прыступілі да яго з разнастайнымі рэчамі, добрымі з выгляду: з золатам, каштоўнымі камянямі, адзеннямі із бавоўны. Яго вялікасць усклаў на сябе вянок са змеямі,*

*каб выклікаць да сябе павагу. Але прайшло шмат дзён, перш чым амбасадары былі дапушчаны маліць яго урэус. Тады дазволілі выйсьці* (із горада) *царыцы, жонцы Німрода, дачцы аднаго цара – Нес-Тэнт-Нес, – каб маліць царыц яго вялікасьці і царскіх наложніц, і царскіх дачок і сясьцёр. Яна кінулася на свой жывот у сядзібе жанчын перад царыцамі, кажучы:*

*– Дапамажыце мне царыцы, царскія дочкі і царскія сёстры! Наладзьце міласьціва Гора, валадара палаца! Высокай з'яўляецца яго асоба, вeлікі з'яўляецца яго трыумф. Ды сцішыцца яго гнеў перад маімі маленнямі, інакш ён пойдзе забіць цара, майго чалавека, але той жа ўжо зрабіўся нікчэмным.*

*І кінуўся сам цар Німрод на свой жывот перад яго вялікасьцю, кажучы:*

*– Ты – Гор, валадар палаца. Хіба ты не жадаеш дазволіць, каб я быў адным са служак цара і плаціў бы даніну ад маіх вырабаў у скарбніцу? Я буду табе даваць больш, чым іншыя.*

*Ён паднёс срэбра, золата, блакітныя і сінія камяні, жалеза і шмат якія іншыя каштоўнасьці. І напоўнілася скарбніца гэтымі гасьцінцамі. Ён правай рукой вёў каня. Музычны сіструм, быў у яго левай руцэ, і яго звінячыя часткі былі із золата і блакітных камянёў.*

*І выйшаў цар са свайго палаца і накіраваўся ў храм Тута, гаспадара горада Ах. Ён закалоў быкоў, цялят і птушак бацьку свайму Туту, гаспадару горада Ах, і божышчам Аха ў яго храме. І народ гермапалітанскай акругі выконваў песьню, і ўсё сьпявалі:*

«*Выдатны Гор, знаходзячыся ў сваім горадзе, сын сонца, Несмяротны, ты робіш нам сьвяты, стаўшы гаспадаром і ахавальнікам Гермапалітанскай акругі*».

*Цар выправіўся ў сядзібу цара Німрода, наведаў усе палаты цара, і скарбніцу яго, і свірны для прапасаў. Ён быў задаволены. Прыйшлі да яго жонкі і дочкі цара і славілі яго вялікасць, дпаведна жаночаму звычаю, але не кінуў яго вялікасць свой позірк на іх. А калі пайшоў у конскую стайню і на конскі завод, дзе сілкаваліся жарабяты, там заўважыў ён, што іх вымушаюць галадаць. Ён сказаў цару:*

«*Клянуся, як праўдзівым з'яўляецца тое, што паважае мяне сонечны бог Рэ, малодшы, як праўдзіва тое, што я дыхаю ў жыцці, так агідней усяго для майго сэрца вымушаць галадаць коней. Гэта больш агідна, чым усе іншыя правіны, якія ты зрабіў. Гэтым ты адчыніў мне галізну свайго сэрца і даў доказ тваім звычкам. Хіба ты забыўся, што цень бога спачывае на мне? Доказ гэтага не замарудзіць з'явіцца з майго боку яму*». *І ён загадаў перадаць яго ўласнасць у сваю скарбніцу, а яго хлебную краму далучыць да маёмасьці бога Амона ў Апі.*

Потым пасьля доўгага і манатоннага апісання розных захопленых гарадоў апавяданне заканчваецца так:

«*Калі пад час ранняй раніцы сьветлай зрабілася зямля, прыйшлі два цары паўднёвай зямлі і два цары паўночнай зямлі са сваімі царска-змеяпадобнымі дыядэмамі, каб маліцца перад асобай яго вялікасьці. Разам з імі былі таксама цары верхняга Ягіпта і цары ніжняга Ягіпта, прыйшоўшыя паглядзець на літасьці яго вялікасьці. Ногі іхныя дрыжэлі, як ногі жанчын. Не зайшлі яны ў сядзібу цара, таму што былі нячыстымі і прытым елі рыбу, а гэта агідна перад царом-цароў* (напэўна, таму што выява рыбы на працягу ўсяго сярэднявечча была знакам Хрыста). *Але цар Німрод зайшоў у сядзібу цара, таму што быў чысты і не еў рыбы. А тыя стаялі там кожны на нагах сваіх, пры ўваходзе ў царскую сядзібу*.

*І былі нагружаны караблі срэбрам, золатам, меддзю, тканінамі і ўсімі добрымі рэчамі ніжняга Ягіпта, і ўсімі вырабамі Фінікіі, і ўсімі дрэвамі Сьвятой зямлі. Калі паехаў яго вялікасць угару па рацэ, сэрца яго было радасным. Па берагах з усіх бакоў чулася музыка. Жыхары захаду і ўсходу ўзялі ў рукі ручныя літаўры, каб біць у іх пры набліжэнні яго вялікасьці. Пры гуках музыкі яны спявалі*:

«*О цар-пераможац! Несмяротны! О цар-пераможац*!

*Ты прыйшоў і перамог ніжні Ягіпет. Ты із мужчын зрабіў жанчын. Ды цешыцца сэрца маці, нарадзіўшай такога сына, таму што той, які зачаў цябе, знаходзіцца ў даліне памёршых. Ды жыве яна, карова, нарадзіўшая быка! Ты будзеш жыць у больш позняя часы. Перамога твая даўгавечная, о цар і сябар Фіваў*!»

З кім можна атаясаміць гэтага вечна жывучага заваёўніка Ягіпта? Вядома, тут не гісторыя, а першапачатковая паэма. Із чыяго ж жыцця яна ўзята? Старажытныя ж пісьменнікі не малявалі, як нашы сучасныя, сьвядома фіктыўных асоб. Ці не із жыцця Юлія Цэзара, але напісаная на шмат стагоддзяў пазьней з пераменай часу і месца? Ці із жыцця візантыйскага імператара Анастаса, імя якога азначае: Ажыўшы? Тады атрымаецца атаясамленне, блізкае да дадзенага ў табл. LXXXV (стар. 1153). Ва ўсякім разе гэта ўжо сярэднявечны твор.

Пад канец гэтага перыяду «замежных валадароў у Ягіпце» у ім набірае моц новая рэлігія, і сьвятары культу Амона бягуць на поўдзень у Эфіёпію і засноўваюць там новае царства Куш з галоўным горадам Напата (горад Святой Гары). Аднак усе надпісы дапасуемыя да дадзенага часу **злосна сапсаваны кімсьці**: із рамак, дзе стаялі ўласныя імёны, яны **ўсе выскрабены**. З цягам часу прыхільнікі культу Амона (аманіты), якіх мы павінны зараз атаясаміць з арыянамі, евангельскімі фарысеямі, зноў пачалі насядаць на Сярэдні Ягіпет. Хутка Патарыс, г.азн. «Фіваіда» з яго галоўным горадам Ні-а, ці Ну-а, нагадваючым Ніную (Нінэвію Бібліі), зноў падпаў пад іхны ўплыў.

Уяўляе цікавасць адна выява, падзяляючаяся тут на дзьве часткі: направа цар Міамун-Нут, спадкаемца вышэйапісанага цара Піанхі, дапасуемага да псеўда-XXXV (эфіёпскай) дынастыі, ушаноўвае Амона-Рэ. Да імя цара дададзены картуш змяшчаючы царскія тытулы, і ў гэтым картушы Міамун-Нут названы Бі-ка-рэ. Ззаду яго паказаны «сёстры і чалавекі цара і царыцы Кемі»[196].

На карціне з левага боку той-жа цар Міамун-Нут падае грудное ўпрыгожванне на ланцужку «Амону Сьвятой Гары», намаляванаму, пазначым, з галавой Авена. Яго суправаджае: «сястра цара, царыца Та-хон-та» (г.азн. Нубіі), у вобразе якой мы маем, перад уласнымі вачамі, адзін із прыкладаў высокага грамадзкага становішча, якое займалі жанчыны двара. Сястра цара, як мы бачым, мела тытул «царыца Нубіі», а другая сястра, якая была і жонкай цара Міамуна-Нуту, тытулавалася «царыц Ягіпта». Надпіс пачынаецца ганаровымі назвамі самага ліслівага характару, у якіх яскрава выступаюць напышлівыя выказванні сучаснай усходняй гаворкі.

Вось яна:

«*У той дзень, пад час якога цар з'явіўся на сьвет, зрабіўся ён богам для людзей. Ён – валадар абодвух рагоў, князь усіх жывучых, вялікі цар, прыняўшы ўладу над ўсёй зямлёй. Ён валодае перамагаючай рукой у дзень бітвы, пранізваючым позіркам у дзень змагання, ён ураждвальнік і валадар магутнасьці, як бог Марс* (Манту); *ён уладальнік самай вялікай моцы як раз'юшаны леў, ён мудры як бог Хінсера* (Тут), *ён выдатны, калі едзе па рацэ, пераследуючы і дасягаючы сваю мэту, вязучы з сабой тое, чаго ён дасягнуў. Ён забраў у валоданне гэтую зямлю без бою, ніхто не быў здольным супраціўляцца яму*.

*Пад час 1-а года, які быў і годам яго вянчання на царства, пабачыў Яго Вялікасць ноччу сон. Дзьве змяі былі побач з ім: адна з правага, другая з левага боку. Калі яго вялікасць прачнуўся, ён іх не знайшоў. І запытаў ён у соннікаў*:

*– Чаму здарылася са мной усё гэта?*

*Яны патлумачылі яму:*

[196] Бругш, стар. 708 немец, арыг.

*– Зараз ты валодаеш зямлёй Верхняга царства, але ты забярэш і зямлю Ніжняга царства. Падвойны вянок упрыгожыць тваю галаву. Гэта азначае, што табе аддадзена ўся зямля як у даўжыню так і ў шырыню, і Амон, – няма бога, акрамя яго! – будзе з табой*»[197].

Ці звярнулі вы ўвагу на выказванне «няма бога, акрамя Амона»? Гэта ж ужо адзінабожжа не толькі ў хрысьціянскім, але і ў іканаборчым сэнсе.

А далей у тым жа надпісе прыводзіцца і іншая прамова Міамун-Нута, ужо цалкам згодна з біблейскім духам:

«*Мой валадар,* – сказаў цар. – *вялікі бог Амон каля Сьвятой Гары. Ён міласьцівы да таго, хто паважае яго імя, ён абараняе шанаючага яго, дае моц таму, хто стварае яго волю і не парушае яго загады. Той, хто дзейнічае адпаведна з запаветамі яго, не спатыкнецца, таму што ён вядзе і накіроўвае яго. Гэта ён паведамляе мне пад час ночы пра тое, што я пабачу падчас дня*»[198].

Вось якое заканчэнне мае, пад замежным валадараннем, так званае «Нова-Архейскае Царства Ягіпта» ў ягіптолагаў XIX стагоддзя! Мы бачым, што грунтуючыся на ўзроўні сваёй культуры яно вельмі падобна на становішча Ягіпта перад халіфатам і пры ім.

Мяркуемага пераемніка Шабатака Сутэна Тахараку лічаць тоесным з Тыгракам Бібліі[199], які такім чынам атрымліваецца сучаснікам Езекіі-Анастаса (491-518) і пры гэтым валадарыўшым, як і апошні, 27 гадоў (калі пагадзіцца з тым, што яго лічаць зацараваўшым у -693 г. і памёршым у 666). А ў Бібліі пра яго паведамляецца толькі тое, што ён выйшаў змагацца з асірыйскім царом разам з Езекіей-Анастасам.

Яго поўнае імя ў іерогліфах Нафер-Тум-Ху-Рэ Тахарака, і шматлікія надпісы ў «Ні» згадваюць пра наведванне ім гэтай вобласьці і называюць яго гаспадаром Кемі (Ягіпта), гаспадаром Чырвонай Зямлі і Кепкена[200].

Пра яго войны супраць сірыйцаў паведамляюць і цвікападобныя надпісы, упершыню распрацаваныя Опертам[201], дзе ён мае назву Таркуу:

«*Таркуу, цар Ягіпта і Куша* – выказваецца Асурбан-Хабале, г.азн. у перакладзе Бочачка, сын Скрыжалі[202], – *пагарджаў богамі. Ён бачыў сваю магутнасць у захопе валоданняў Муцура, а наказы вялікага бога Асура, майго гаспадара, пагарджаў. Ён спадзяваўся на сваю ўласную магутнасць і не выконваў дамовы, заключаныя маім бацькам, зачаўшым мяне. Із Куша ён прыйшоў і зайшоў у Мемпі* (Мемфіс), *і забраў гэты горад у сваю ўласнасць. Супраць мужоў Асура, якія былі служкамі ў Ягіпце і якіх Асархадон, мой бацька, зачаўшы мяне, паставіў над царствам у той зямлі, ён загадаў свайму войску ісьці з забойствам, вязніцай і рабаваннямі. Ад такіх ліхадзействаў было засмучана маё сэрца, у прыйшла ў раздражненне мая пячонка. Цяжка перанёс я гэта і аддаў загад майму галоўнаму кіраўніку і сатрапам, разам з людзьмі знаходзячыміся пад іхнай рукой, выступіць у паход са значным гарнізонам. Паклікаўшы сабе на дапамогу бога Асура, бога Сіна* (бога-Месяца), *і іншых вялікіх богаў, маіх гаспадароў, пусьціў я сваё баявое войска ў напад. У гарачым змаганні кінуліся яны бегчы. Іх напаткаў перапалох і жах, і ён* (Туркуа) *павярнуўся назад. Із Мемфіса, горада яго царства, месца яго веры, бег*

---

[197] Бругш, стар. 709 арыг.

[198] Бругш, стар. 713 арыг.

[199] תרהקה (ТРЕКЕ) у апошняй кнізе Цароў, 99 і Ісая, 37,9.

[200] Бругш, стар. 716 арыг.

[201] Oppert: Memoires sur les rapports de l'Egypte et de l'Assirie. 1869.

[202] Бругш, стар. 717 арыг., заўв. 2-е.

*ён на караблях, каб выратаваць сваю душу. Ён пакінуў уякасьці здабычы свой шацёр, збег адзін, прыбыў у Ні і даў загад сваім мужам, каб ішлі, колькі іх там было, на карабель*»[203].

А потым у другім урыўку:

«*Я зноў забраў пад сваю ўладу Муцур і Куш, якія скарыў мой бацька, зачаўшы мяне, – я ўзмацніў гарнізоны больш чым раней і абнёс лагеры равамі. Я вярнуўся шчасліва назад у Нінэвію з вялікай здабычай і вялікімі скарбамі. Пасьля таго зграшылі супраць мяне цары, якіх я падначаліў сабе, і пераступілі запаветы вялікіх богаў. Яны адпалі ад мяне, і сэрцы іхныя разлютаваліся ў непрыстойнасьці. Яны задумалі падступства паўстання, кажучы:*

«*Таркуу не адступіўся ад сваіх дамаганняў на Ягіпет. Яго баяцца, і таму вы ўсе клапаціцеся пра сваю ўласную небяспеку*».

*Яны выправілі пасланнікаў да Таркуу, сына Куша, кажучы:*

«*Ды будзе мір у нашым звязе, і ды будзем мы адзін да аднаго прыхільныя! Ды ніколі ў нашым звязе не адбудзецца адпадзення ў іншы бок, о гаспадар*!».

*Падставу майго панавання, усё асірыйскае войска, яны пажадалі заахвоціць у свой звяз, рыхтуючы тое, чаго прагнула іхная помста.*

*Але мае суддзі атрымалі паведвмленні пра іхнае жаданне. Яны перахапілі іхных пасланнікаў і іхныя лісты і даведаліся пра іхную здраду. Яны схапілі і звязалі іх па руках і па нагах жалезнымі абручамі і жалезнымі ланцугамі. І здзейсніўся над імі прысуд Асура, цара богаў, за тое, што яны зграшылі супраць іхных загадаў. На сваіх целах выпрабавалі яны тое, што мая воля магла зрабіць над імі. Горад Мемпі, горад Сай, горад Біндыды, гарад Ца-ну (г.азн. Мемфіс), Саіс, Мэндэс, Таніс, і ўсе іншыя гарады, колькі яны іх да сябе ні прыцягнулі, вялікіх і малых я падначаліў сабе магутнасьцю зброі*[204].

Такім быў паход на Ягіпет прыпісваемы Асархадону, атаясамляемаму тут з «Бочачкай, сынам Скрыжалі» (Асур-бані-Хабалам), ад імя якога напісана апавяданне.

Такое заканчэнне мае XXV псеўда-эфіёпская дынастыя. Мне здаецца, што гэтага Тахараку (табл. LXXXVI), немагчыма атаясамляць з Тыргакам Бібліі, які пішацца па-біблейску ТРЕКЕ (תרהקה).

# Глава IV.

## Псеўда-дваццаць шостая дынастыя згодна з вучэннем саідзкай школы: дынастыя Псаметыкаў.

Гэтая дынастыя (табл. LXXXVI) ставіцца сьледам за папярэднічаўшай, і не дарэмна. Тут мы бачым новы апендыкс перыядычнай сістэмы ягіпецкіх цароў, але аўтар пачынае яго толькі з Юстыніяна ці нават ад каліфаў, як і бачна на асобна дададзеных табліцах LXXXVII і LXXXVIII.

ТАБЛІЦА LXXXVI.

Параўнанне «Навейшага Архейска-Ягіпецкага царства ад псеўда-23 да псеўда-26 дынастыі з царствам Богаславячым (юдэйскім) і з царствам Візантыйскім.

| Ягіпецкія | Богаславячыя | Праваслаўныя (візантыйскія) |
|---|---|---|
| 23 гняздо: | | |
| Усаркон (3).........? | Амазія-Озія.. 50? | Хвядос II (408-450) 41 г. |

[203] Бругш, стар. 718 арыг.

[204] Бругш, стар. 723 арыг.

| 24 гняздо: | | |
|---|---|---|
| Бахорыс-Бокенранеф? | Озія-Амасія .........9 г. | Маркіян (450-457). 7 г. |
| 25 гняздо: | | |
| Шабак (Сабакон) каля.. 15 г. | Ітатам....... 16 г. | Леў І (457-474).... 17 г. |
| Шабатах (Себікос) каля 15 г. | Ахаз......... 16 г. | Зянон (474-491).... 17 г. |
| Тахарака (Таракос).. 27 г. | Езекія....... 29 г. | Анастас (401-518) 27 г. |
| 26 гняздо (Саіскае) | | |
| Псаметык І..... 54 г. | Манасія..... 55 г. | Юстыніян (518-565) 47 г. |
| Неку (Нехао).... 16 г. | | Юстын II (565-578). 14 г. |
| Псаметык II..... 5 г. | Амон.......... 2 г. | Тыверый (578-582)... 4 г. |
| Бах-Аб-Рэ....... 20 г. | (прапушчаны) | Маўрыкій (581-603) 21 г. |
| Аа-Мес......... 44 г. | Ёсія........ 31 г. | Гераклій і Фака (603-641) 38 г. |
| Псаметык III.... 1 г. | Ізааха........ 3 м. | Канстанс........... 1 г. |
| Амру прыводзіць Ягіпет да агаранства ў 641 г. | Пазбаўлены пасаду царом Ягіпта Нехао | Амру прыводзіць Ягіпет да агаранства ў 641 г. |

Але тут два рашэнні:

1. Калі верыць біблейскай кнізе Цары (II Цароў, 23, 29), дзе паведамляецца, што цар Нека (Нехао) забіў у бітве богаслявячага цара Ёсію, які атаясамляецца ў нас[205] з Гераклієм, то каліф Амар і падзеі дапасуюцца да 638 года нашай эры. Дакладна так жа і далей: калі Бах-Аб-Рэ з’яўляецца тым жа Вафрієм грэцкай Бібліі, пра якога згадваецца ў прароцтве Ераміі (44,30), што ён «будзе аддадзены ў рукі яго ворагаў», то (лічачы даказаным астранамічна[206]), што тая кніга напісана значна пазьней з'яўлення каметы 451 года нашай эры і што богаслявячы цар Седэкія адпавядае ў ёй Кастусю Паганату (668-679 г.), мы прыходзім да высновы, што Бах-Аб-Рэ з’яўляецца каліфам Алі і падзеі дапасуюцца да 661 года, калі ён быў забіты.

Дадаваемая тут таблічка (табл. LXXXVII) дае агульную схему гэтага першага рашэння.

ТАБЛІЦА LXXXVII.

Першае рашэнне псеўда-дваццаць-шостай дынастыі чалавекападобных ягіпецкіх цароў. Параўнанне з каліфамі.

| | |
|---|---|
| Псаметык І | Абу-Бекр (573-634) |
| Неку (Нехао) | Каліф Амар (634-644) |
| Псаметыкк II | Каліф Асман (644-656) |
| Бах-Аб-Рэ (Вафрый) | Каліф Алі (656-661) |
| Аа-Мес | Каліф Маавія (661-680) |
| Псаметык III | Каліф Іезід (680-683) |

2. Другое рашэнне дае наш метад супастаўлення гадоў валадарання, выяўлячы, што паслядоўныя часы валадаранняў «Псаметыкаў» з’яўляюцца блізкімі да паслядоўных часоў валадаранняў нашчадкаў Юстыніяна, як дадзена на табліцы LXXXVIII.

Якое выбраць із гэтых двух рашэнняў? Я больш схільны давяраць параўнальнаму метаду, тым больш, што адрозненне ў часе таго і другога вызначэння не перавышае сотні гадоў, і біблейскія паданні не даюць асаблівай дакладнасьці ў датаваннях.

Таму выкажу сваю думку, кіруючыся толькі апошнім меркаваннем.

Большасць цароў фігуруюць тут пад імёнамі Псаметыкаў, г.азн. «Сыноў Сонца». Першы із іх (Псаметык І), знішчыў у сваім царстве «дванаццаціўладдзе» і

[205] Хрыстос, кн, I, табл. XX.

[206] Хрыстос. кн. I.

адружыўся на царэўне-красуні Аменіт-Рыс, цудоўная алебастравая статуя якой зараз упрыгожвае залы ягіпецкай Булакскай калекцыі, выдатны помнік таго часу.

«Чароўная ўсмешка, – як бы нясучая сьвет Ягіпту, – выказваецца Бругш[207], – зіхаціць на чароўных яе рысах і нават кветка ў руцэ паказвае на яе высокае пакліканне быць прымірыцельніцай пасьля доўгага часу міжусобіц і бедстваў.

ТАБЛІЦА LXXXVIII.

Другое рашэнне псеўда-дваццаць-шостай-дынастыі ягіпецкіх цароў. Параўнанне з царамі царства Багаславячага (юдэйскага) і царства Візантыйска-Ягіпецкага VI і VII стагоддзяў.

| Ягіпецкія цары | Багаславячыя цары | Праваслаўныя (візантыйскія) |
|---|---|---|
| 26 дынастыя (Саідзкая школа) | | |
| Псаметык І. 54 г. | Манасія...55 г. | Юстыніян (518-565)... 47 г. |
| Неку (Нехао) 16 г. | (прапушчаны) | Юстын II (565-578)... 14 г. |
| Псаметык II 5 г. | Амон....... 2 г. | Тыверый (578-582)..... 4 г. |
| Вахабра.... 20 г. | (прапушчаны) | Маўрыкій (582-603)... 21 г. |
| Аа-Мес..... 44 г. | Ёсія..... 31 г. | Гераклій Фака (603-641) 38 г. |
| Псаметык III 1 г. | Іаахаз..... 3 м. | Канстанс (641)........... 1 г. |
| «Камбез заваяваў Ягіпет, пазбавіўшы пасада Псаметыка III». | «Іаахаз пазбаўлены пасады новым царом Ягіпта Нехао» | «Амру забраў Ягіпет у Гераклія і Канстанса ў 641 годзе» |

Мы бачым, што із Візантыйскіх цароў тут чамусьці прапушчаны Фака, напэўна, ніколі не наведваўшы «Зямлю дзіваў», ці таму, што пры ім лічыўся валадаром Ягіпта ўжо Гераклій.

«Каля яе ног надпіс, прысьвечаны ёй скульптарам:

«Ды будзе падаравана ўсё добрае, усё сумленнае, усё боскае, усё, што дае неба і стварае зямля, найчароўнейшай і міласьцівейшай княгіні, набожнейшай і самай шануемай із царыц Верхняга і Ніжняга царства, Аменітрыс, сястры вечна жывучага цара (імя некім выскрабена), дачцэ памёршага цара (імя таксама выскрабена), жонцы Боскага. Ды жыве яна!».

І мы пазначым, што жонкай Юстыніяна, пад моцным уплывам якой ён знаходзіўся, сапраўды была прыгажуня «Боскі Дарунак» (Тэадора), былая вершніца ў цырку, заступаўшаяся за «монафізітаў».

Ды і надпіс, размешчаны на заднім баку выявы, чыста хрысьціянскі, і паведамляе ад яе асобы:

«*Я была жонкай Боскага, дабрадзейкай горада, шчодрай раздавальніцай для жыхароў краіны. Я давала ежу галоднаму, пітво прагнучаму, адзенне голаму*».

Псаметык, згодна з нашай храналогіяй, адпавядае Юстынам у Візантыі (518-578). Ён валадарыў 54 гады, як і адпавядаючы ім біблейскі цар багаславячых, Манасія.

Вось надпіс на могілках сьвятых цяльцоў-серафімаў у Серапеуме, паказваючы, як Псаметык клапаціўся пра гэтых «хваліцеляў бога-Бацькі», паказаным яго народу ў выяве Цяляці яшчэ супрацоўнікам Майсея Аронам-Арыем.

Для разумення ролі цяльцоў у гісторыі развіцця рэлігійных поглядаў хрысьціян, я павінен пазначыць, што Серапеум азначае сядзіба Серафімаў і што само слова серафім паходзіць ад сераліса, г.азн. крылатага сузор'я Цяляці. Такімі серапісы малююцца таксама і на месапатамскіх статуях, і толькі мастакі эпохі

[207] Стар. 730 арыгінала.

Адраджэння пачалі маляваць іх у выглядзе прыгожанькіх шасьцікрылых дзіцячых галовак.

У вышэйзгаданым надпісе спачатку пералічваюцца поўныя тытулы цара Сына-Сонца, а потым паведамляецца:

«*Пад час 52 года Боскага прыйшлі павядоміць Яго Вялікасьці*:

*Храм бацькі твайго Азірыса-Апіса і ўсё, што ў ім маецца, знаходзіцца ў незадавальняючым стане. Паглядзі на сьвятыя мошчы Цяльцоў, у якім яны стане! Разбурэнне авалодала месцам, дзе знаходзяцца іхныя магільні*».

*І загадаў Яго Вялікасць зрабіць абнаўленне храма, і зрабілася гэтае месца больш прыгожым, чым было раней.*

*Яго Вялікасць загадаў здзейсніць усё звычайнае і належнае для памёршага тады Цяляці, як бога, пад час дня яго пахавання. Усе саноўнікі стаялі на варце над тым, што патрэбна было вартаваць. Сьвятое цела было нацёрта вострымі прыправамі, а бінты, якімі яно было перавязана, былі із вісону – із тканіны, якая прызначана для богаў. Камера яго магільні была зроблена із дрэва кет, із сікамора, акацыі і із іншых лепшых драўняных парод. Разьбяныя вырабы на ёй былі падобныя выявам людзей у парадным палаце. Прыдворны цара, які быў прыстаўлены да працы, прызначыў для гэтай справы дадатковы падатак на Сярэдні і Ніжні Ягіпет*».

Такім чынам Псаметык быў не толькі будаўніком звычайных храмаў, але і заснавальнікам новай галерэі і новых камер для памёршых серафімаў у падземным горадзе магіл.

Некаторыя дакументы паведамляюць, што апісы ў Ягіпце хаваліся за кошт цароў нават і пазьней пры «пярсідзкім валадарстве», якое мы павінны зараз дапасаваць да часу каліфаў.

Ніякіх іншых падрабязнасьцей пра дзейнасць Псаметыка I няма ў іерагліфічных надпісах Саідзкай школы.

Што ж да скульптур на пабудовах, дапасуемых да таго часу, то ўсе барэльефы жывых істот зроблены на іх цалкам адпаведна з такімі ж узорамі, якія ўжываліся і майстрамі так званага «старажытнага ягіпецкага царства», г. азн. пірамінднай эпохі. Але замест таго, каб на падставе гэтага перанесьці пірамідную эпоху на некалькі тысячагоддзяў наперад і прывесьці яе ў сувязь з «навейшым ягіпецкім царствам», ягіптолагі XIX стагоддзя аддалі перавагу назваць такую дзіўную з'яву «ягіпецкай эпохай адраджэння», падобна таму як гэта было зроблена для класічнай старажытнасьці Рыма і Грэцыі, калі заўважылі яе незвычайнае падабенства з аналагічнымі творамі XII-XV стагоддзяў. На рахунак таго ж «ягіпецкага адраджэння» пры Псаметыках аднесена і кідаючаяся кожнаму ў вочы тоеснасць назваў іхных пасад і розных тытулаў з іхнымі назвамі пад час «старажытнага царства».

Акрамя таго, тут атрымалася і яшчэ большае непаразуменне.

«Калі, з аднаго боку, – выказваецца Бругш[208] – мастацтва перыяду Псаметыкаў (г.азн. наступнікаў Юстыніяна адпаведна нашаму атаясамленню), чэрпаючы ўзоры са старажытна-ягіпецкага міфа, стварыла сабе ў Ягіпце асобны накірунак, маючы назву ягіпецкая«эпоха адраджэння» (renaissance), то з другога боку, таксама было занесена ў старажытна-ягіпецкае рэлігійнае вучэнне і цалкам новы, азіяцка-грэцкі элемент, які не мірыўся са старажытнай храмавай мудрасьцю Ягіпта. Каля вялікіх богаў старажытна-ягіпецкага культу на помніках з'яўляюцца дзіўныя спараджэнні палкага ўяўлення ў выглядзе геніяў і дэманаў, насяляючых і

[208] Бругш, стар. 739 арыгінала.

неба, і зямлю, і глыбіні вады, і пра якія старажытны ягіпецкі сьвет з яго больш чыстым вучэннем наўрад ці меў нейкае ўяўленне.

Ад гэтага часу загаворы розных дэманаў, якім надаюцца разнастайныя бачнасьці, – пачынаючы ад аблічча драпежных звяроў, з раздзіраючымі зубамі, і да аблічча скарпіёнаў з атрутным джалам, – складаюць асобнае вучэнне, прызначанае замяніць старажытную, спадчынную мудрасць. Пад час гэтага цікавага, пераходнага прыяду, на выдатна адпаліраваных і тонка выразаных гладкіх паверхнях памятных камянёў мы чытаем, напрыклад, песню пра памаладзеўшага старца, пра старога, ператварыўшагася ў юнака, і знаходзім загаворы Тота і вядзьмарскіх магутнасьцей, жывучых у хаўрусе з ім».

Падобныя творы, як асабліва шануемыя, сустракаюцца паўсюдна. Вось, напрыклад, распавядаецца, як сьвятар Анх-Псаметык знаходзіць старажытны рукапіс у храме быка-Мневіса ў Геліяполісе, падчас валадарання цара Нахт-Гор-Хіба (дапасуемага, дарэчы, ужо да XXX дынастыі), і гэты рукапіс неадкладна пераносіцца на камень, пакрыты невыказваема тонкімі іерогліфамі і вытанчанымі ўпрыгожваннямі, – сапраўднае дзіва мастацтва ў сваім родзе, (ён складае адно із лепшых упрыгожванняў калекцыі Метэрніха ў Кенігсварце ў Багеміі). Сутэн Нахт-Гор-Хіб, які як быццам бы ўжо дапасуецца да халіфаў із дынастыі Мерванідаў (683-750), відаць асабліва цікавіўся гэтым новым сьветам, поўным звышнатуральных стварэнняў уяўлення.

Усе сьцены ў свяцільні храма Амона, заснаванага, быццам бы Дарыем I, у аазісе Эль-Карге (Хібіс старажытных), пакрыты падобнымі дэманскімі выявамі, вельмі мала тлумачымымі ў надпісах, якія ім спадарожнічаюць. Гэтыя выявы, згодна з Бругшам, патрэбна дапасаваць да часоў таго ж Нахт-Гор-Хіба, ды і апошні ягіпецкі цар Нахт-Неб-Еф той жа трыццатай дынастыі карыстаўся рэпутацыяй чарадзея. «Ён, – паведамляе Дыядор Сіцылійскі (XVI, 51,) – быў вялікім і дальнабачным чаркаўнікам, які, забраўшы скарбы Ягіпта, збег із яго ў Эфіёпію, каб ніколі больш не вяртацца».

Але тут і я забег ужо некалькі наперад. Пра псеўда-трыццатую дынастыю ў мяне будзе яшчэ гаворка, а таму я вяртаюся да псеўда-дваццаць-шостай.

Усё ў ёй, – як бачыць сам чытач, – ужо тыповае сярэдневечча, і грунтуючыся на адным гэтым мы павінны былі б зрабіць выснову, што эпоха Псаметыкаў у Ягіпце з’яўляцца родным дзіцём пасьля-апакаліптычнага перыяду. І я звяртаю асаблівую ўвагу чытача на падабенства часоў валадарання прадстаўнікоў дынастыі Псаметыка з часам валадарання эліна-ягіпецкіх цароў, пачынаючы з Юстыніяна і яго аднайменных суваладароў (518-565 гг.) і заканчваючы Канстансам (641 г.). Гэта добра бачна на табліцы LXXXVII. Тут мы зноў падышлі да часоў каліфата ў Ягіпце, калі ўжо не зайшлі ў яго.

А што ж кажуць гісторыкі? Якраз тое самае, што і выходзіць адпаведна з нашых атаясамленнямі.

«З гэтага часу, – піша Бругш, – не вечны камень, не помнікі паведамляюць нам пра вартую жалю долю краіны, а дапытлівы грэк, вандруючые па ёй пад абаронай пярсідзкіх ці аднапляменных з імі цароў і збіраючы сведчанні з дапамогай невуцкіх перакладчыкаў».

Вялікая частка мастацкіх твораў апошняй эпохі была здабыта із раскопаў Саіса і знаходзіцца зараз у італійскіх музеях.

«Яны вызначаюцца сваёю мілавіднасьцю, – выказваецца той жа Бругш[209], – якая не дазваляе сумнявацца ў грэцкім уплыве. Адметнай іхнай рысай з'яўляецца незвычайна чыстая апрацоўка, падобная ў абрысах і агульных лініях узорам лепшых эпох ягіпецкага мастацтва, як у разьбярстве, так і ў выразанні іерогліфаў, і пры гэтым да такой ступені тонкага, што часта нагадвае сабой працу разьбяра пячатак. На творах мастацтва, выкананых з аднолькавай дасканаласьцю як із каменя, так і шляхам адліўкі із металу, ляжыць незвычайная мяккасць; яны робяць уражанне амаль жаноцасьці, якая надае выявам жывых істот няўяўляемую пяшчоту як адпаведна задуме, так і адпаведна выкананню. Як узоры тонкай працы мы пакажам на маленькія, трымаючыя наас статуі саіскага саноўніка Пі-Тебху; на помнік Уца-гор-ен-пірыса, – знаходзячыяся ў Ватыкане ў Рыме; на каменную трунную скрыню саіскага ўрадоўца Ауф-Ао з мянушкай Нафер-абра-Мініт, галоўнага наглядчыка **іянійскіх** народаў; на знакамітую карову боскай Атор (ад грэцкага гетэра), і на статуі Азірыса і Ізіды, якія былі знойдзены ў магільні нейкага Псаметыка на могілках Мемфіса. Гэтыя рэчы, выразаныя із серпентына і прыводзячыя ў захапленне ведаючых, знаходзяцца зараз у той жа знакамітай калекцыі Булакскага музея ў Каіры. Яшчэ згадаем пра цудоўную пару ільвоў цара Нах-Неб-Ефа, прысьвечаную ягіпецкаму Гермесу ў малым Гермаполісе (зараз гэтыя ільвы знаходзяцца ў Ватыкане), і нагадаем пра незлічоныя выявы із бронзы саіцкай багіні Нэйт, пададзенай у стаячым выглядзе. Ды і сотні іншых, родных ім скульптур паказваюць нам на павучальныя прыклады тонкасьці і пяшчоты помнікаў, выходзіўшых у той час із рук мастакоў»[210].

І ўсё гэта прыпісваецца «старажытнай эпосе адраджэння» яшчэ больш глыбкай старажытнасьці!

Нехаця ўзнікае жаданне сказаць усім гісторыкам: пакіньце назаўсёды вашы «эпохі адраджэння» – яны прыдатны толькі для чароўных казак, а не для сур'ёзнай гістарычнай навукі! Жыццё кожнага народа ідзе ўсё наперад і наперад, ніколі не вяртаючыся да ўжо пяражытага, таму што адна тая акалічнасць, што дадзеная форма нейкай эвалюцыі пяражыта, паказвае на тое, што яна выявілася не прыдатнай для далейшага жыцця свайго народа, а, такім чынам, і **адрадзіцца ніколі не ў стане** на той жа тэрыторыі. А на іншыя тэрыторыі ўсё новае, набытое нейкім перадавым народам, пераходзіць заўсёды хутка, яшчэ пры сваім жыцці на радзіме, а не пасьля таго, як яно памёрла і было даўно забыта ў сваёй роднай краіне.

Так, напрыклад, было і з найноўшымі формамі вытанчанай літаратурнай творчасьці, з раманам і з рыфмаванай паэзіяй.

Уяўляючы сабой на прыканцы XVI стагоддзя ў Гішпаніі толькі больш-менш складную апрацоўку апавяданнаў пра вандруючых рыцараў, раман спачатку набыў авантурыстычную і гумарыстычную афарбоўку для пацехі чытаючых, а потым, калі схільнасць да чытання дастаткова пашырылася дзякуючы практыкаванням, гэты род літаратуры паступова перапрацаваўся ў сентыментальны, норава-апісальны і псіхалагічны раман у ангельскіх і французкіх пісьменнікаў. І кожная прыступка падобнай творчасьці, ледзь яна ўзнікала ў нейкім буйным і найболей высокім адпаведна свайму ўзроўню лінгвістычным басейне зямнога шара, пераплівалася із яго праз драбнюткія лінгвістычныя прамывіны ва ўсе астатнія этнічныя басейны, здольныя да яе ўспрымання. Із Англіі і Францыі норава-

[209] Бругш, стар. 738 арыгінала.
[210] Бругш, стар. 739 арыгінала.

апісальны раман адразу ж пашырыўся ў Няметчыне, Італіі, Гішпаніі, Расіі і нават у такіх параўнальна малых басейнах, як славянскія мовы. Не пашырыўся ён толькі на ўсходнія басейны: турэцкі, пярсідзкі, кітайскі, японскі і г.д., таму што формы ўзаемных дачыненняў паміж мужчынай і жанчынай, абумаўліваючыя еўрапейскую псіхіку і таму складаючы асноўную канву кожнага еўрапейскага рамана, былі чужымі для жыццёвых умоваў гэтых шматжонкавых народаў і не маглі спарадзіць пераймальнняў. А для самадзейнай, арыгінальнай творчасьці там не выпрацавалася дастатковай глыбіні душы, і таму ў азіяцкіх лінгвістычных басейнах маглі плаваць толькі чоўны літаратуры ў форме дробных асобных апавяданнаў, а не вялікія караблі еўрапейскай творчасьці.

І мы, пагэтаму, можам прама сказаць, што калі сучасны еўрапейскі псіхалагічны раман і перакінецца некалі ў басейны ўсходніх моваў, то гэта будзе не **адраджэнне** яго на кітайскай і пярсідзкай глебе, а працягам яго там.

Таксама хутка перакінулася ва ўсе даступныя для яе лінгвістычныя басейны і рыфмаваная метрычная паэзія. Узнікшы із выпадковых, удала складзеных двухрадковых выказванняў, да якіх прыдатны ўсе мовы, рыфма пачала сістэматычна распрацоўвацца і ўжывацца ўпершыню не раней VIII ці IX стагоддзя нашай эры ў царкоўных гімнах і хутка пералілася ва ўсе мовы, здольныя да метрычнага складання, захапіўшы і свецкую літаратуру, толькі пазьней.

Вось чаму немагчыма нават і падумаць, што запар рыфмаваны лацінскі верш «Jnstructiones» Камадыяна быў напісана ў III стагоддзі нашай эры, за пяць стагоддзяў да массавага ўзнікнення рыфмаванай паэзіі, адразу пашырыўшайся ва ўсе бакі. Самы ранні перыяд для яго – гэта трэццяе стагоддзе не пасьля нашага сучаснага, апакрыфікаванага, а пасьля сапраўднага ўзнікнення хрысьціянства на прыканцы IV стагоддзя нашай эры, г.азн. не раней, як VIII стагоддзе нашай эры, што можна сказаць і пра астатніх паэтаў і пісьменнікаў класічнай старажытнасьці.

«Праходзіць усё і не існуе да яго вяртання» – гаворыцца ў вядомым рамансе. – Не адраджаюцца ніколі ніякія аднойчы пражытыя адценні літаратуры пасьля іхнага забывання, і гэтае ж можна сказаць як пра навуковую ідэалогію, так і пра формы кіравання і сацыяльнага ўладкавання: аднойчы пражытае і памёршае натуральнай сьмерцю не вяртаецца ніколі. Ужо грунтуючыся на адным гэтым старажытныя, сярэднія і новыя царствы ў месапатамскай, ягіпецкай і рымскай гісторыях, дзе кожны перыяд у агульных рысах капіруе іншыя, павінны быць не чым іншым, як храналагічнымі непаразуменнямі. Гэта – розныя апавяданні пра адно і тое ж, псеўда-навуковыя перайманні песьні пра дзякаву сабаку.

Адпаведна з тэорыяй пераемнай безперапыннасьці агульначалавечай культуры, да якой мяне спачатку прывялі мае астранамічныя вылічэнні помнікаў старажытнасьці розных народаў, я і спрабую тут не толькі выявіць спосабы такой творчасьці, але і паказаць чытачу спробу натуральнай класіфікацыі ягіпецкіх помнікаў адпаведна з іх месцам і часам.

Я цалкам разумею, што значная частка маіх атаясамленняў знаходзіцца яшчэ на ўзроўні гіпоты, але ж гіпотэза з’яўляецца парогам тэорыі. Яна выводзіць думку із аслупянення перад незразумелым.

Так! Усё ідзе наперад, і да мінулага няма вяртання!

«Ад гэтага часу – выказваецца Бругш[211] – камяні маўчаць, толькі асобныя сумныя надпісы – пераможных ужо няма – утрымліваюць у сабе жаласлівыя

[211] Бругш, стар. 738 арыгінала.

песьні, у якіх патрэбна чытаць паміж радкоў. Гэта лебядзіныя песьні заняпаду вялікага, магутнага царства берагоў Ніла».

Так, камяні пачынаючы ад гэтага часу маўчаць... Але ці дзякуючы таму, што ўсё разумовае жыццё ў краіне спынілася, ці таму, што ў гэты час вырабніцтва папіруснай паперы і пергаменту, а таксама і хуткапісанне скарочанымі знакамі дасягнулі ўжо значнага развіцця, і пісаць свае творы карыстаючыся дзіцячым спосабам – на камянях, рознымі складанымі малюнкамі, над кожным із якіх патрэбна было стаяць па некалькі хвілін са сваім разцом, пачало здавацца стамляючым для аўтараў.

Ці гэта адбылося таму, што узнікла новая рэлігія, фанатычна разбурыўшая ранейшы культ?

Мне здаецца, што ў праўдзівасьці апошняй высновы можна сумнявацца. Культура ў Ягіпце не загінула пры так званых «асірыйскіх Шашанках» ці «пярсідзкіх Охах і Дарыях». Біблія, як паказвае і сама яе назва, узнікла ў ягіпецкім горадзе Бібласе, на вялікім караванным шляху ў Сірыю, Палестыну і Малую Азію, а матэрыялам, на якім яна пісалася, быў таксама біблас (пі-байлас іерогліфаў і шляхам пераходу “Б” у “П” і “Л” у “Р” папірус грэкаў). Камяні сталі больш не патрэбнымі, а старажытныя храмы, напэўна, былі прыстасаваны да абноўленай рэлігіі, якая больш ужо не пісала на сьценах будынкаў свае гімны і свае ўспаміны. Агаранства спыніла валадарства візантыйска-рымскіх цароў, якія зацвердзіліся ў Ягіпце з часоў бітвы пры Акцыуме, калі Актавіян-Аўгуст, ён жа Кастусь I, перамог Ліцынія-Антопія ў 324 годзе нашай эры.

Нам застаецца толькі паглядзець, што паведамляюць пра гэта парэшткі іерагліфічных надпісаў. Хрысьціянскія гісторыкі малююць нам каліфаў варварамі, пашырыўшымі ў Ягіпце агаранства полымем а мячом, але цалкам іншае паведамляюць пра іх ягіпецкія камяні. І іхныя сведчанні выглядаюць больш праўдзівымі, таму што каліфы былі хутчэй пашыральнікамі культуры ў падначаленых ім краінах, чым яе разбуральнікамі. Згадаем толькі знакамітага Гарун-аль-Рашыда (786-809), апекуна навук, літаратуры і малярства, а таксама і тое, што тут я выказваўся пра позні час пераходу агаранаў да магаметанства, якое сапраўды знішчыла малярства і скульптуру ў далучыўшыхся да яго краінах.

# Глава V.

## Апошнія псеўда-дынастыі псеўда-Архейскага царства ў Ягіпце (XXVII-XXXI дынастыі).

На прыкладзенай табліцы LXXXIX чытач бачыць спіс паслядоўнага шэрагу валадароў, прыняўшых ягіпецкі тытул сутэнаў (султанаў). Гэты шэраг ягіптолагі называюць «Пярсідзкія дынастыі» (27-31 школа). Пры першым жа позірку на табліцу, дзе параўнаны працягласьці іхнага валадарання, чытач бачыць, што 29 і 30 згуртаванні спісаны з першых трох дынастый ягіпецкіх каліфаў за прамежак часу ад 632 да 68 гг. нашай эры. За выключэннем дадавання Дарыя I з яго 5 нашчадкамі паміж Камбезам і Охам, яго наступнікам, выяўляецца поўны паралелізм, а дублікат Дарыя-Аха прыдуманы, каб дадаць туды ж Ксерксаў, відаць, нашмат больш пазніх дзеячоў.

ТАБЛІЦА LXXXIX

Ад псеўда-XXVII па псеўда-XXXI дынастыі старажытна-ягіпецкіх цароў.

| Пярсідзкія дынастыі ў Ягіпце згодна з грэцкімі сярэднявечнымі апокрыфамі. | Дынастыя ягіпецкіх каліфаў згодна з арабскімі крыніцамі. Рэзідэнцыя ў Медыне. |
|---|---|
| Псеўда-27 дынастыя: | |
| Камбіз (Кан-бу-ца)..... 6 г. ці 4 г. | |
| Дарый I (Птха-Рыуш, сын Гістапса, наступнік Камбіза).............. 35 г. | |
| Ксеркс I (Шарш)............. 21 г. | |
| Артаксеркс................. 40 г. | |
| Ксеркс (Шарш) II некалькі месяцаў | |
| Сагдыян......... некалькі месяцаў. | |
| Дарый II.................... 19 г. | |
| Псеўда-28 дынастыя: | |
| (Аміртэас)................... 6 г. | Абу-Бекр (632-634)........... 3 г. |
| 29 гняздо (у Мэндэсу-Медынет): | |
| Ней-Фаурот I................ 6 г. | Амар у Ягіпце з 641 па 644..... 4 г. |
| Хагар....................... 13 г. | Асман 644-656 г. (ваяваў з персамі)............. 12 г. |
| Псамут...................... 1 г. | Алі «першы мусульманін» (656-661)..... 5 г. |
| Нейф-Аўрот II............... 1 г. | |
| Псеўда-XXX дынастыя (у Себенітусе): | Амейяды. |
| Нахт-Гор-Хіб................ 18 г. | Маавій каліф (661-680)..... 18 г. |
| Ціха (Тэас)................... 2 г. | Іезід I (680-683)............. 3 г. |
| Нахт-Небеф (Нектанебус, збег у пустыню) 18 г. | Маавій II (да ўцёкаў).......... 1 г. |
| Псеўда-XXXI дынастыя (персы) | |
| Ох........................... 2 г. | |
| Арсіс........................ 2 г. | |
| Дарый III..................... 4 г. | |
| Перанясенне ягіпецкага цэнтра культуры ў Александрыю. | |

Грунтуючыся на гэтым параўнанні можна зрабіць выснову, што грэцкія аўтары Сярэдневечча ці эпохі Адраджэння перанеслі каліфаў на 1116 гадоў назад для пагаднення з каталіцкім вучэннем пра тое, што з'яўленне евангельскага Хрыста было абвешчана прарокамі яшчэ за тысячу з лішкам гадоў да яго нараджэння. Пры такім доўгім і цяжкім прымусовым палёце ў глыбіню стагоддзяў знакаміты каліф Амар падзяліўся на  некалькі частак, а пра міфічнасць іншых няма сэнсу і спрачацца.

Дарый – паведамляюць нам – даходзіў, падобна Аляксандру Македонскаму, нават да берагоў Інда і, нарэшце, быў пераможаны Мільтыядам пры Марафоне (атаясамляемым зараз гісторыкамі з вёсачкай Вроны ў Грэцыі) быццам бы яшчэ за 490 гадоў да пачатку нашай эры.

Ксеркс (пярсідзкі Цайару ці Цару[212], верагодна пераінačанае – цар) валадарыў ад 485 да 465 гада да пачатку нашай эры і нарабіў яшчэ больш цудаў. Жывучы ў Персіі, ён нейкім чынам, без якой бы-то ні было інтэндантцкай службы, пераправіў па пустэльных мясцовасьцях за тысячы кіламетраў мільён ваяроў і нават флот (ці ўжо не паветраны?) із 1200 караблёў. Але, правёўшы яго пасьпяхова па сушы, ён не здагадаўся, што на ім жа можна пераехаць і праз вузкія Дарданэлы, і пабудаваў праз іх, відавочна з дапамогай таго ж флота, гіганцкі мост. Потым ён з усёй гэтай аравай без правіянту пайшоў на маленькую Грэцыю, і замест таго, каб абыйсьці гару Эту з захаду па пласкагор'ю, палез з усім сваім флотам роўным 1200

[212] Я лічу тут знак “Кт” за “Ц”.

караблям у вузкі праход паміж ёю і берагам мора і быў тут моцна пабіты спартанскім царом Леанідам з яго 300 ваярамі. Хаця гэты выпадак і вельмі падобны на апавяданні з часоў Крыжовых паходаў, але Ксеркса атаясамляваюць з біблейскім Агасферам (ужо ці не ён жа і так называемы «Вечны Жыд»?).

Здзіўляе і Кір (Каруш, таксама – цар), заснавальнік «старажытна-пярсідзкага царства» Ахеменідаў, сын «Камбіза», заваяваўшы «Вавілон» быццам бы ў 538 годзе да пачатку нашай эры і дазволіўшы богаславячым (юдэям) пабудову храма ў палестынскім горадзе сьвятога Іліі (Эль-Кудсе), называемым зараз хрысьціянамі і жыдамі Ерусалімам.

Мы бачым, што ўсе гэтыя старажытныя гіганцкія валадары былі спісаны ў асноўным як быццам бы з вельмі і вельмі больш позьніх дзеячоў сярэднявечча, але і пра іх я буду разважаць толькі пры разборы клінапісаў. А зараз лепш прамаўчу згодна з гішпанскім прымаўкай: parlar e plata, teser e oro, і вярнуся да каліфаў.

Копіяй каліфаў Амара, Асмана і Алі з'яўляецца ўсё 29-е гняздо ягіпецкіх валадароў нашай табліцы. Гэта як бы рэшткавы перыяд новай перыядычнай сістэмы ягіпецкіх валадароў.

Пачатак 30 дынастыі ўяўляе сабой дынастыю Амейядаў, пачынаючы з Маавія-каліфа, а 31-я дынастыя з'яўляецца пачаткам дынастыі Мервана-каліфа і магчыма проста дададзена для цэменту, каб прыстасаваць храналогію да Аляксандра Македонскага, апакрыфічна дапасаванага да 356-323 гадам да пачатку нашай эры і быццам бы пабудаваўшага Александрыю, што было яму ніяк немагчыма зрабіць.

З нашага, эвалюцыйна-гістарычнага боку гледжання, бліскучы перыяд Александрыі мог існаваць толькі пры каліфах, а не раней.

Цяжка было Аляксандру пры тагачасных умовах засноўваць гарад у Ягіпце, не будучы яго прыроджаным жыхаром!

Зірніце на мапу Ягіпта і вы пабачыце, што Александрыя нават наогул не ягіпецкі, а лівійскі горад. Немагчыма сабе ўявіць, каб тут некалі мог утварыцца галоўны **ягіпецкі порт**, калі для марскога імпарту і экспарту непараўнальна больш зручна і бліжэй знаходзіцца Разета-Рашыд у варонцы галоўнага рэчышча Нілу. Але Рашыд, як паказвае і яго імя, быў заснаваны толькі пры каліфах, пры якіх Александрыя – пераконваюць нам – «заняпала для таго, каб зноў змагла ажывіцца толькі пры Магамету-Алі (1841 г.)».

Падстава яе заняпаду – пераконваюць нас артадаксальныя гісторыкі – караніцца не ў тым, што дзякуючы схільнасьці ўсіх рэк падмываць, ад вярчэння зямнога шару, свае правыя берагі ў паўночным паўшар'і, замываючы левыя, памялела і высахла тагачаснае левае рэчышча дэльты Нілу, на якім быццам бы размяшчалася Александрыя. Гэта ж здарылася не на працягу аднаго года, і горад перапаўзаў бы на ўсход разам з рэчышчам ракі. Хутчэй усяго справа адбывалася цалкам інакш: Александрыя была пабудавана пазьней, як нешта асобнае, міжнароднае і абараняўшае сябе нават ад нападу жыхароў самога Ягіпта. Толькі для гэтага і можна было будаваць яе на вузкай касе за залівам. Гэта быў не стратэгічны, а гандлёвы і навуковы горад, тут было заўсёды грэка-лівійскае, а не ягіпецкае царства. На карысць гэтага сведчыць і наступнае меркаванне.

Мы выводзім слова Ягіпет ад размешчанага ў ім каралеўства Е-Копці (Е-гіпці) з яго богам Хем (старажытнае імя Ягіпта) і галоўным горадам Коптас, зараз Куфт. У яго наваколлі, на поўдзень, размяшчаліся Карнах і Луксор, а на захад праходзіў караванны шлях ў даліну Хамата і ў гавань Касейр на беразе Чырвонага

мора для марскіх стасункаў з Аравіяй, Персіяй, Абісініяй і Індыяй, праз Баб-эль-Мандэбскі праліў – гэта «Брама бога пекла» для не маючых компасу ветразевых плаваючых сродкаў старажытнасьці.

Мы бачым, што першапачатковы Ягіпет – Е-Копці, – краіна коптаў – існаваў пад час старажытнасьці тут і калі коранем гэтага слова з'яўляецца біблейскае спалучэнне гукаў КПТ[213], то сэнсам яго было: прысьвяціўшы сябе богу, г.азн. чыста рэлігійны. Такое найменне лёгка магло пашырацца на ўсю краіну, але яно адно, як просты гук, не магло зрабіць гарад Коптас цэнтрам палітычнай магутнасьці дзяржавы: гэта не дазваляла аддаленасць яго месцавання ад самых культурных месцаў – Дэльты Нілу. Што ж мы бачым?

**Ні Коптас, ні Александрыя ніколі не маглі быць сталіцамі даліны Нілу, уяўляючай із сябе дзякуючы яго суднаходнаму рэчышчу адно непадзельнае цэлае**. Цэнтрам рэчаіснай улады тут заўсёды мог быць, як і зараз, толькі Каір, у месцы разгалінавання вялікай ракі на шматлікія рукавы.

Да Каіра ў Ягіпце не існавала сталічнага горада і не магло існаваць. І заняпала Александрыя не з нагоды каліфата, а таму, што разам з удасканаленнем мараплаўства адкрыўся для стасункаў па Чырвонаму моры больш зручны шлях праз Порт-Саід на марской касе возера Мендале, месцы вялікага рыбнага лову. Але вось і гэтае рэчышча, некалі глыбокае і суднаходнае, паступова занеслася нільскімі пяскамі, і гандлёвы горад, месцаваўшыся тут і быўшы раней найбольш зручным для стасункаў паміж еўрапейскім Ўсходам з цудоўнымі краінамі Індыі і Аравіі, быў вымушаны сысьці з гістарычных падмосткаў. Так перамяняючыяся ўмовы фізічнай прыроды павольна, але неперэадольна падымаюць і паніжаюць краіны.

Высновa ўсіх гэтых развалсанняў такая. Край Паўночнага Нілу не складаў пад час старажытнасьці аднастайную этнаграфічную адзінку, а падзяляўся на тры галоўныя часткі: 1) краіна коптаў у даліне Нілу, ад Коптаса (26° п. ш.) на поўдзень да вялікіх вадаспадаў каля Водзі-Хальфа (22° п. ш.), 2) Верхні Ягіпет (Е-Копці), краіна храмаў-акадэмій, і 3) Паўднёвы Ягіпет на поўнач ад краіны коптаў да разгалінавання Нілу – Патарыс (верагодна ад грэка-рымскага patria, г.азн. бацькаўшчына), краіна пірамід, адкуль прыйшла ў Яўропу акультная навука, як гэта і павінна было здарыцца адпаведна з этна-псіхалагічнымі і геаграфічнымі асаблівасьцям Міжземнаморскага этнічнага басейна.

Дэльта ж Нілу павінна была ўяўляць дзьве вобласьці: 1) біблейскую Фінікію з гандлёвым Саідам-Сідонам, пакуль быў глыбокім самы ўсходні рукаў Нілу, і 2) грэцкую Александрыю, калі самая глыбокая пратока перамясьцілася на Лівійскі захад. А потым ужо пад канец сярэднявечча хутка перамяняючыяся ўмовы прыроды гэтай краіны высунулі на першы план Даміецкую пратоку на ўсходзе.

Але перш, чым мы пяройдзем да александрыйцаў, завяршаючы новы перыяд казкі пра ягіпецкага белага бычка, закончым разгляданне таго, што нам паведамляюць камяні пра перыяд валадарства каліфаў.

Вось як характарызуе эпоху «пярсідзкіх дынастый у Ягіпце» Бругш[214], лічачы яе, вядома, за папярэднічаўшую Александрыйскаму перыяду, а не за час каліфата, як мы тут.

«Відаць ягіпецкія князі, якія жылі паблізу двара сутэна, у Сайсе (Сайдзе), не вызначаліся асаблівай адданасьцю і прыхільнасьцю да сваіх старажытных

[213] ה־כ תפ – Е-Кыпат – даўшы абмен

[214] Бругш, стар. 448 арыгінала.

манархаў. Як толькі «персы» сталі цьвёрдай нагой у Ягіпце і ўшанавалі Саіс сваім наведваннем, так адразу знайшлося не мала нашчадкаў старых царскіх родаў, якія не палічылі зневажаючым для сябе і свайго сану выказаць сваю спагаду да вялікага цара персаў (г.азн. каліфа) і паступіць да яго на службу.

Із гэтых асоб асабліва выдаецца адзін із «царскіх унукаў», на імя Уца-гор-ен-пі-рыс, сын вярхоўнага жраца багіні Нэйт. Калі Камбіз завалодаў Ягіптам, Уца-Гор-ен-Пірыс неадкладна паступіў на яго службу. На знакамітай, знаходзячайся ў Ватыкане статуі гэтага шляхетнага спадара, вядомай пад імем «Наас нясучы статуі», ён сам цалкам нязмушана распавядае гісторыю свайго жыцця.

«*Калі вялікі цар усіх народаў Камбатэт прыйшоў у Ягіпет, з ім былі народы ўсіх краін, ён зрабіўся валадаром гэтай зямлі і валадарыў над ёю на ўсім яе працягу. Яго народы пасяліліся ў ёй, ён быў вялікім царом Ягіпта і вярхоўным валадаром усіх зямель.*

*Ён перадаў мне пасаду кіраўніка ўсіх лекараў і загадаў знаходзіцца пры ім у якасьці сябра і кіраўніка храмаў. Імя яго адпаведна з санам было «цар Масту-э». Я даў яму разуменне пра веліч горада Саіса* (на рашыдзкім рукаве Ніла), *як мясцовасьці багіні Нэйт* (г.азн. Нут), *вялікай маці, нарадзіўшай сонечнага бога. Ён быў першанароджаным, не было істоты народжанай, акрамя яго, і я даў цару разуменне пра высокае значэнне палат багіні Нэйт, якія па-сутнасьці з’яўляюцца месцазнаходжаннем ўсіх багаў. Я даў яму разуменне і пра высокае значэнне Ха-Хеба* (??), *у якім знаходзіцца вялікі цар, валадар неба, пра высокае значэнне Паўднёвай сядзібы неба* (сузор'і Стралка ці Казярога), *Паўночнай сядзібы* (сузор'і Двайнят ці Рака), *сядзібы ранішняга сонца Рэ і сядзібы вечаровага сонца Тум. Гэта – таямнічыя месцазнаходжанні ўсіх багаў*».

*І я паскардзіўся цару Камбатэт на прыхадняў, пасяліўшыхся ў сядзібе Нэйт, і прасіў, каб яны былі прагнаны і каб храм Нэйт з'явіўся ва ўсім сваім бляску, як то было раней. І даў цар загад прагнаць усіх чужых, пасяляўшыхся ў сядзібе багіні Нэйт, зламаць усе іхны халупы і ўсе іхыя прылады ў храме, і яны павінны былі самі выбрацца за агароджу боскай сядзібы. Цар аддаў загад ачысьціць храм Нэйт і вярнуць яму ўсіх яго жыхароў і прызначыць служак храма. Ён аддаў наказ аднавіць сьвятую маёмасць багіні Нэйт, вялікай маці і ўсіх багаў Саіса, як было раней. Ён аддаў наказ аднавіць парадак усіх іхных сьвятаў і ўсіх іхных працэсій, як бывала раней.*

*Ён сам выправіўся ў храм багіні Нэйт. Ён здзейсніў набажэнства вялікай, узнёслай, сьвятой багіні згодна з усімі добрымі звычаямі. Ён загадаў здзяйсняць узліванні Вечнаму ў храме Нэйт, як то рабілі ўсе цары ранейшых часоў, таму што я даў яму веды пра ўсё дабрае, якое павінна было быць зроблена для гэтай боскай сядзібы.*

*Я аднавіў маёмасць Нэйт, вялікай «боскай маці», як загадаў цар, на ўсе часы. Я загадаў зноў паставіць помнік багіні Нэйт, апякунцы Саіса, і аднавіць усё ў лепшым выглядзе, як павінен зрабіць майстэрскі служка свайго гаспадара. Я быў добрым чалавекам перад яго тварам. Я бараніў людзей пры цяжкім няшчасьці, якое здарылася ў той час па ўсёй зямлі і якога не бывала ніколі на зямлі* (метэарытная Катастрофа ў Чырвоным моры?). *Я засланяў сабой слабога супраць магутнага, я абараняў таго, хто паважаў мяне.*

*Я перадаў ім пасаду прарокаў, я перадаў ім лепшае ворнае поле на ўсе часы, як загадаў тое цар. Я дараваў добрае пахавальнае месца таму, хто быў без магільні. Я карміў усіх іхных дзяцей, я пабудаваў нанова ўсе іхныя сядзібы і рабіў ім living рознае дабро, як бацька свайму сыну, у той час, калі цяжкае няшчасьце здарылася па ўсёй краіне.*

*І даў мне загад новы цар Нтхарнут* (Дарый), *– ды жыве ён вечна! – каб я ішоў у Ягіпет. У той час ён знаходзіўся ў краіне Елам.*

*Ён быў вялікім валадаром усіх зямель і вялікім царом Ягіпта і сказаў мне, каб я зноў прызначыў патрэбную колькасць сьвятых храмавых пісараў і аднавіў да жыцця тое, што прыйшло ў занапад. Мяне выпраўлялі чужакі із краіны ў краіну і шчасна даставілі мяне ў Ягіпет адпаведна з загадам валадара зямлі. Я зрабіў так, як ён загадаў. Я ўзяў вучняў із*

*усіх радоў, із ліку мясцовых сыноў, да вялікага засмучэння бяздзетных, і перадаў іх мудраму настаўніку кожных ведаў. Цар загадаў даваць ім усё добрае за стараннасць, з якой яны выконвалі ўсе свае працы. Я забяспечыў тых, якія вызначыліся, усім, што патрэбна для пісання, адпаведна іхным поспехам. Цар ведаў, што такая справа была лепшым сродкам абудзіць да новага жыцця тое, што насіла ў сабе зародкі заняпаду, і ён меў жаданне захаваць імёны ўсіх богаў і іхных храмаў, усе іхныя прыбыткі і ўвесь парадак сьвятаў навекі.*

*Я быў ушанаваны кожным із маіх гаспадароў, пакуль* ***знаходзіўся*** *на зямлі* (адкуль зразумела, што ён зрабіў гэты надпіс ужо пасьля сваёй сьмерці!). *І давалі яны мне залатыя адзнакі адрознення і рознае дабро*».

*О, вы багі Саіса! Згадайце ўсё дабро, якое зрабіў вам кіраўнік усіх лекараў Уца-Гор-ен-Пірыс! Стварыце яму вялікае імя ў гэтай краіне на ўсе гады.*

*О, Азірыс! Ты – вечны! Кіраўнік лекараў,– Уца-гор-ен-Пірыс – сваёй рукой абдымае цябе, каб ахоўваць тваю выяву. Зрабі яму рознае дабро, як рабіў табе такое я, ахоўнік твайго храма навекі*»[215].

* * *

Я ўжо выказваўся, што каліф Амар пры яго гвалтоўным перакіданні ў глыбіню стагоддзяў падзяліўся на некалькі аскепкаў, у тым ліку і на Кіра, «дазволіўшага юдэям вярнуцца на радзіму і аднавіць храм свайму адзінаму богу»... І хіба не нагадвае вам толькі-што прыведзенае паведамленне біблейскае апавяданне Ніяміі «пра аднаўленне храма ў Ерусаліме»? Уся фабула адна і тая ж. Ніямія непасрэдна спісаны адсюль і, такім чынам, яго час таксама быў часам каліфа Амара (641-650 г.г.), пасадным найменнем якога ў іерогліфах і будзе з гэтага боку гледжання Міамун-Рэ і Сэту-Рэ (Сезастрыс, якога дарэмна лічаць за другога Дарыя).

А вось і яшчэ цікавы надпіс, у якім нават існуе слова мячэць. Ён знаходзіцца ў храме вялікага аазіса Эль-Каргэ, знойдзенага Бругшам у 1875 годзе, каля вёскі Хібе.

«*Ён, Дарый, пабудаваў гэты храм у якасьці адзнакі памяці свайго бацькі, вялікага бога Амона-Ра, дужарукага, гаспадара вёскі Хібе, і памяці спадарожнічаюх яму багаў. Ён пабудаваў гэтую новую сядзібу із добрага белага каменя ў форме мескета* (мячэці). *Яе дзверы былі зроблены із лівійскай акацыі, якую называюць пір-шэну, і абіты азіяцкай меддзю добрай даўгавечнай працы. Ды даруюць багі яму* (цару) *сотні тысяч сьвят, трыццацігадовых юбілеяў на пасадзе* (Гора) *паміж жывучымі людзьмі зараз і на ўсе гады*»[216].

Гэты храм мае на сваёй сьцяне таксама надпіс Нахт-Гор-Хіба, якога мы атаясамляем з Маавіяй-каліфам.

Падобна таму, як у Неяміі пералічаны ўсе дойліды для пабудовы яго «ерусалімскага» храма, так і ў іерогліфах даліны Хамамета знойдзены цэлы спіс дойлідаў, які мы чытаем не без цікавасьці, бачачы, якімі ўшанаваннямі карысталася дойліды пад час старажытнасьці (табл. XC).

ТАБЛІЦА XC

Спіс ягіпецкіх дойлідаў.

---

[215] Бругш, стар. 751 арыг.

[216] Бругш, стар. 753 арыгінала. Мескот і мескенет азначае: храм, свяцілішча. А тым часам у Бібліі выказванне ірэі мескенот перакладаецца як «гарады для прыпасаў», замест мечэтныя пабудовы. Гэтае месца чытач можа знайсьці ў лягендзе пра «Фараона, не ведаўшага Ёсіфа», якога Бругш атаясамляе з Рамесу II (стар. 550 арыгінала).

| | |
|---|---|
| Дойлід ніжняга і верхняга царстваў | Канафер. |
| Дойлід паўднёвага і паўночнага царства, кіраўнік горада, галоўны саноўнік цара Цэсара (жыў у часы трэццяй псеўда-дынастыі) | Імхатэп |
| Прарок Амона-Рэ, цара богаў, таемнабачучы Геліяполіса, дойлід верхняга і ніжняга Ягіпта, галоўны кіраўнік горада | Рэ-Хатэп. |
| 1) Галоўны кіраўнік горада | Бок-ен-Хунзу. |
| 2) Дойлід, галоўны кіраўнік горада | Уца-Ханзу. |
| 3) Дойлід, галоўны кіраўнік горада | Нафер-Ману Мі (ці Аі). |
| 4) Дойлід, галоўны кіраўнік горада | Сі-ўер-ненэнхіб. |
| 5) Дойлід | Пэпі. |
| 6) Дойлід, галоўны кіраўнік горада | Амон-хірпі-меша |
| 7) Прарок і вярхоўны жрэц Амона, цара богаў, галоўны кіраўнік горада | Гор-ем-саф. |
| 8) Дойлід, галоўны кіраўнік горада | Мермер |
| 9) Дойлід, вайскавод | Гор-ем-соф (II). |
| 10) Дойлід, вайскавод | Ца-хіб (I). |
| 11) Дойлід, вайскавод | Нас-шуну (I). |
| 12) Дойлід, вайскавод | Ца-хіб (II). |
| 13) Дойлід, вайскавод | Нас-шуну (II). |
| 14) Дойлід, вайскавод | Ца-хіб (III). |
| 15) Дойлід, вайскавод | Нас-шуну (III). |
| 16) Дойлід, вайскавод | Ца-н-хібу. |
| 17) Дойлід верхняга і ніжняга Ягіпта, галоўны кіраўнік горада | Нас-шуну (IV) |
| 18) Дойлід | Уах-аб-Рэ Рануер |
| 19) Дойлід | Анх-Псаметык |
| 20) Дойлід верхняга і ніжняга Ягіпта | Аамес-Сініт. |
| 21) Дойлід верхняга і ніжняга Ягіпта (яго жонка, спадарыня Сіта-Нафер-Туу) | Сіт-нафер-Тум |
| 22) Галоўны дарадца па пабудовах усёй зямлі, дойлід верхняга і ніжняга Ягіпта | Хнум-Аб-рэ. |
| (27-30-ы год Дарыя I). | |

Існуе надпіс, што апошні із усіх гэтых дойлідаў займаў сваю пасаду ад 27 па 30 год эры Дарыя. Бяручы да ўвагі, што ў той час ужо існавала агаранская эра, пачынаючаяся ад 622 года, мы маглі б лічыць, што ён тут жыў ад 649 да 652 гады.

На поўнач ад Суэца, паблізу парэшткаў старажытнага канала, спрабаваўшага злучыць Чырвонае мора з Міжземным, знойдзены камяні, пакрытыя іерагліфічнымі і клінапіснымі надпісамі, із якіх я прывяду толькі адзін[217]:

«*Вялікі бог Аўра-Мазда, які стварыў неба, які стварыў зямлю, які стварыў чалавека, які дараваў чалавеку волю, які перадаў Дарыю гэтае вялікае, гэтае цудоўнае царства. Я Дарый, цар цароў, цар шматмоўных краін, цар усёй вялікай зямлі, далёкай і блізкай, сын Гістаспа, Ахеменід. Дзякуючы Персіі я заваяваў Мудрайа (Ягіпет). Я загадаў капаць гэты канал ад ракі маючай назву Пірафа* (Ніл) *і бягучай у Мудрайе да мора, якое ідзе ад Персіі. Калі канал быў выкапаны, я сказаў: «Ідзіце і разбурыце палову канала. Такой была мая воля*».

Згодна са сведчаннямі Страбона (як паказвае на тое Аперт ў сваіх тлумачэннях), Дарый загадаў спыніць працу на канале, таму што яго пераканалі, быццам бы Ягіпет размешчаны ніжэй узроўня Чырвонага мора і краіне пагражае небяспека быць затопленай.

[217] Бругш, стар. 755 арыгінала.

На заключэнне я прывяду яшчэ надпіс мемфіскага Серапеума[218].

«*Пражыў ён 36 гадоў валадарання боскага дабрадзея і гаспадара зямлі, сына Сонца, і валадара вянка Нтхарыуша – ды жыве ён ад веку і да веку! – і 13 гадоў валадарання сына яго, гаспадара зямлі, сына сонца і валадара вянка Хшыарша* (Ксеркса) *– ды жыве ён ад веку і да веку! – Вось колькі гадоў пражыў Атхіухі, валах з Персіі, губернатар горада Коптаса*».

У гэтым надпісе для Дарыя прызначана, відаць, 36 гадоў валадарання, а адпаведна з халіфскай традыцыяй Дарый валадарыў 12 гадоў, а адпаведна з грэцкімі помнікамі яшчэ на год менш. Ці павінны мы із гэтага зрабіць выснову, што Дарый валадарыў у Ягіпце сапраўды 36 гадоў?

Вядома, гэта было б абавязкова, хаця надпіс зроблены ў мемфіскім Серапеуме, а валах быў губернатарам Коптаса. Але непаразуменне складаецца ў тым, што падобныя надпісы выяўляюцца пазнакамі, зробленымі пры найменні цара Тахарака, памёршага і згодна са звычайнай храналогіяй у 693 г., за 56 гадоў да таго часу. Гэта ж ужо атрымліваецца нешта накшталт прароцтва!

Акрамя таго, падобнае падвойнае датаванне звычайна дае не паслядоўнасць гадоў, а тую ж самую дату грунтуючыся на двух эрах. Палічыўшы, што 36 год «Дарыя» быў 36 годам магаметанскай геджры, прыйдзем да высновы, што справа адбывалася ў 658 годзе, якраз праз 12 гадоў ад уцаравання Асмана. Гэта азначае, патрэбна чытаць: у 36 годзе геджры і ў 13 годзе Асмана.

Гэта не толькі не аспрэчвае, але падмацоўвае нашы высновы.

А вось і іншы надпіс тут жа, утрымліваючы з выгляду ўжо віджавочную недарэчнасць[219].

«*4 гады цара верхняга і ніжняга Ягіпта, гаспадара зямлі Арта-хсшесеш* (Артаксеркс), *і 16 гадоў боскага дабрадзея і гаспадара зямлі Арта-хсшесеш* (Артаксеркса) *пражыў валах із Персіі Аліуарта, сын Артамоса, дзіцё спадарыні сядзібы Канцу* (Qanzu), *знаходзячыся перад тварам бога Хіма Копцкага*».

Якім чынам адзін і той жа валах мог пражыць адразу і 4 і 16 гадоў ад уцаравання Артаксеркса?

Відавочна, першым Артаксерксам тут названы Алі, а другім Асман і, такім чынам, справа адбывалася ў 660 годзе нашай эры ці ж слова Арта-ксеркс азначае проста архі-цар?

Такое заканчэнне мае гоман ягіпецкіх камянёў і пачынаюцца папірусныя і пергаментныя паведамленні на агаранскай і грэцкай мовах, а ягіпецкія храмы прыходзяць у заняпад, пакінутыя сваімі першасьвятарамі.

– «Няма бога акрамя бога-Бацькі!» – чуецца і ў Ягіпце новы лозунг – ды і у Візантыі ад 726 года пад уплывам агаранства і аддзяліўшыхся ад іх хрысьціян і жыдоў пачынаецца змаганне з выявамі богаў – іконазмаганне і ідалазмаганне. Пад напорам новых рэлігійных ідэй пусьцеюць ягіпецкія храмы, і мясцовыя жыхары бягуць ад іх, як ад прытонаў вядзьмарства. «Не наліваюць новае віно ў старыя мяхі», – выказваецца евангеліст ад імя Ратавальніка сьвету, і сьвятары не перайшоўшыя ў новую веру, губляюць крыніцы свайго існавання і выміраюць. Але ў еўрапейскіх краінах неўзабаве наступіла рэакцыя супраць абсалютнага абстракнага адзінабожжа, і ягіпецкія сьвятыя быкі-серапісы ажылі пад найменнем серафімаў. Значная частка старажытных богаў ператварылася ў сьвятых, ды і сам адзіны бог падзяліўся на цэлую тройцу, а муміі ператварыліся ў мошчы.

[218] Бругш, стар. 757 арыгінала.
[219] Бругш, стар. 758 арыгінала.

Тое ж часткова адбылося і ў Ягіпце, дзе мясцовыя хрысьціяне не перавяліся і да нашага часу.

Так! Не ад фанатызму знешніх прыхадняў памёр культ Азірыса і Ізіды (г.азн. Езуса Хрыста і Мадонны) у яго старажытнаягіпецкім варыянце і становішчы, а таму, што ён здзейсніў сваю эвалюцыйную ролю і атрафаваўся, пакінуўшы ад сябе ў Ягіпце толькі адны велічныя парэшткі!

* * *

Але чаму ж візантыйска-рымска-ягіпецкае валадары рабілі свае ўхвальныя надпісы на камянях не ў Візантыі, а далёка, у пустэльных месцах, на пры-Нільскіх і нават на Еўфрацкіх скалах? Адказ просты: на Басфоры не існавала голых скал. А адносна падставаў пабудовы храмаў менавіта ў «Сьвятой зямлі», дзе трупы не з'ядаюцца нячыстымі духамі, і пабудовы там велічных будынкаў адпаведнага набажэнскага характару я ўжо дастаткова выказваўся. Візантыйска-рымска-ягіпецкія тэакратычныя імператары, як аўгусьцейшыя, найсьвяцейшыя асобы, вялі сваё паходжанне адтуль, а таму і павінны былі пасьля сваёй сьмерці вярнуцца ў сьвятую зямлю сваіх бацькаў, каб не зведаць у Царгорадзе гніення разам з астатнімі сьмяротнымі. Што да пабудовы храмаў у пустэльных месцах, накшталт, напрыклад, храма паміж Дамаскам і ракой Еўфрат (мал. у IV кнізе, 772 стар.), дзе яны не маглі мець шмат наведвальнікаў і таму прыходзілі ў заняпад следам за сваёй пабудовай (таму што не былі ў стане ўтрымліваць нават сваіх служак), можна сказаць з упэўненасьцю, што нагодай іхнага ўзнікнення менавіта тут магла быць толькі нейкая нябесная з'ява. Хутчэй усяго гэта магло быць нешта паданне метэарыта, пра якую паведамілі імператару ці імператрыцы, і яны пасьпяшаліся выканаць волю боскую, нягледзячы ні на якія цяжкасьці і выдаткі. А потым усе жыхары пазбягалі адтуль праз голад.

Пра паданні і надпісы, выдрапаныя іерогліфамі і клінапісам на маладасягаемых скалах у пустэльных месцах, каля нільскіх і еўфрацкіх берагоў, можна прама сказаць, што яны паведамляюць не пра мясцовыя справы, а пра нешта аддаленае, адносна чаго дазволена ўяўленне, ці ж яны зроблены ў якасьці ўшанавання нейкіх заехаўшых сюды далёкіх валадароў. Хіба ж не загадаў – як паведамляюць – Алег павесіць свой шчыт на браме Цар-Горада, хаця ён адразу ж назаўсёды пайшоў адтуль далёка ў Кіеў? Хіба не драпаюць і зараз турысты свае прозвішчы і заўвагі на вяршынях мала даступных гор?

Для чаго яны ўсё гэта робяць там, а не на сьценах сваёй уласнай сядзібы? Для таго, вядома, каб «уславіць сваё імя на канцах зямлі», як выказваецца класічная цытата.

Не раз даводзіцца чытаць, як рускія імператрыцы і імператары, прыязджаючы ў госьці да сваіх субратоў за мяжой, загадвалі сваім спадарожнікам раскідаць у натоўп сапрабраўшыхся разяваў жмені прывезеных з сабой цэлымі мяхамі грошай. Чаму яны рабілі гэта не ў сябе на радзіме, а на «канцах зямлі», дзе толькі мімалётна аднойчы пабывалі і куды больш ніколі не вернуцца? Зразумела ж, што там да іх нікому не будзе справы пасьля іхнага сыходу, і ў наступным жа пакаленні там ніхто не будзе ведаць нават і таго, адкуль яны прыходзілі і як іх клікалі?

Таму, – адкажу я, – што старажытнае ўяўленне не было яшчэ дастаткова развіта, каб выразна маляваць сабе падзеі не ў іхнай непасрэднасьці, а ў іхнай гістарычнай і прасторавай перспектыве.

Дзіцячае ўяўленне і да гэтага часу малюе сабе аддаленыя не выразна ўяўляемыя месцы, як месца знаходжання дзіваў. Таму ж і намаляваць там паданне пра свае здзяйсненні здавалася для старажытнага і сярэднявечнага славалюбца асабліва прывабным. Гэтай адсутнасьцю перспектыўнасьці ў псіхіцы звычайнага чалавека і карысталіся заўсёды служкі культу.

Атрымаўшы паведамленне пра хуткі і, магчыма, адзіны ў жыцці прыезд свайго імператара-тэакрата, пра якога, таксама дзякуючы яго аддаленасьці, складаліся тут легенды, яны, натуральна, спяшаліся, адпаведна з прыкладам сваіх бацькаў, намаляваць на скалах паданне ў якасьці яго ўшанавання, ці, калі ён быў яшчэ малады і нічога не здзейсніў, то ў гонар яго продкаў, называючы іх валадарамі **сваёй** зямлі. А калі ён, нарэшце, прыязджаў і выпраўляўся агледзець мясцовыя дзівы, яго вялі асобна да маладасягаемых скал, кажучы:

«Вось дзе намалявана тваё імя і твае здзяйсненні! Вось дзе пашыраны паданні пра тваіх знакамітых продкаў! Іх чытаюць вятры і пяскі пустыні, іх чытае сам бог з вышыні неба»!

І ліслівасць заўсёды дасягала мэты: новы візантыйскі імператар выпраўляў матэрыяльныя сродкі і рабоў для пабудовы новага храма ці на аднаўленне старых грамадзкіх будынкаў і на стварэнне ў іх новых надпісаў. А ў надпісах, якія заўсёды складаліся з суб'ектыўнага боку гледжання, яго называлі, вядома, перадусім валадаром той краіны, у якой жыў аўтар, а чужыя краіны, у тым ліку і аддаленае месцазнаходжанне валадара, не згадваліся цалкам, як непатрэбныя, ці дадаваліся толькі, як дапаўненне.

Вось чаму, чытаючы ў іерогліфах ці ў клінапісах – Рэ-Месу **цар Ягіпта**, ці нешта падобнае, мы можам зрабіць толькі тую выснову, што аўтар паведамлення жыў у Ягіпце і суб'ектыўна лічыў Рэ-Месу ці яго продка **сваім** царом і царом **сваёй** краіны, а ніяк не тое, што той меў рэзідэнцыю на беразе Нілу, тым больш, што ніякіх сьлядоў Мемфіса ці Фіваў, як я ўжо паведамляў, у даліне Нілу няма і іх патрэбна шукаць недзе ў іншым месцах Візантыйска-Рымска-Ягіпецкай імперыі.

У Ягіпет гэтыя цары прыязджалі, напэўна, толькі раз на працягу свайго жыцця, пры сваім уцараванні, дзеля ўшанавання продкаў і для ўласнага ачышчэння, ды вывозіліся туды ж набальзамаванымі і ў трунах еўрапейскага паходжання пасьля сьмерці і змяшчаліся ў загадзя прыгатаваныя там на іхныя ж сродкі пасьмяротныя магільні, над якімі пазней, у выпадку абвяшчэння іх вялікімі сьвятымі, маглі паступова стварацца на сродкі вернікаў вялікія курганы-піраміды.

Гэтым-жа тлумачыцца і тое, што магільняў і маўзалеяў рымскіх і візантыйскіх імператараў нідзе ў Яўропе не існуе. І на Захадзе яны пачынаюцца толькі з часу яго аддзялення ад Усходу, ад Тэадорыха Вялікага. А ў Візантыі, яшчэ доўга не губляўшай сувязі з Ягіптам, магільні сваіх цароў з'явіліся толькі нашмат пазьней, калі Ягіпет ужо сам аддзяліўся ад яе.



Мал. 222
Адпачынак кракадыла пасьля яды.

# Глава VI.

## Эпілог замест пралога. Эпоха Пталямеяў першы магчымы пачатак рэчаіснай гісторыі Ягіпта.




Мал. 223.
Медаль «Акцылія Маркела Сьвятара Антыноя». (Падробленая?)

Калі я першым разам патрапіў у адзінкавае заняволенне, я меў магчымасць бачыць у фортачку майго вакна праз краты невялікую пляцоўку вязнічнага двара і больш нічога. Але вось мне атрымалася набыць маленькае люстэрка, і, высунуўшы яго за краты, я набыў магчымасць азнаёміцца і з тым, чаго мне не было бачна непасрэдна. Але толькі ў якім выглядзе! Заўсёды былі бачнымі маленькія пляцоўкі, якія цяжка было аб’яднаць паміж сабой, таму што кожны раз, калі люстэрка паказвала мне нейкую дэталь двара, знікала ўсё астатняе, ды і тое, што я мог разгледзець, бачылася то бокам, то коса, то амаль дагары нагамі, адпаведна таму, як я паварочваў люстэрка.

Такім жа з’яўляецца становішча кожнага гісторыка. У той час, калі прыродазнавец вывучае прыроду непасрэдна, гісторык, які вывучае толькі адны

дакументы, мае справу не з фактамі, а толькі з іх адлюстраваннямі ў галовах тых, якія пакінулі яму гэтая сведчанні, а гэтыя адлюстраванні большай часткай бываюць нашмат горш за тыя, якія я бачыў праз сваю турэмную рашотку. Маё ж люстэрка, было правільна адшліфавана, а старажытныя першакрыніцы – заўсёды вельмі крывыя люстэркі, у якіх выявы былой рэчаіснасьці не толькі аднабаковыя, але часта пераіначаны да непазнавальнасьці, і гэтую акалічнасць заўсёды патрэбна мець на ўвазе сур'ёзнаму гісторыку і не здзіўляцца, калі тое, што здавалася яму розным у розных люстэрках, выявіцца толькі некалькімі адрознымі адна ад адной аперцэпціямі аднаго і таго ж факта.

Папярэднічаўшыя высновы разам з атаясамленнем дынастыі Дыяклетыяна і Кастуся Сьвятога з дынастыяй Пампея Вялікага і Актавіяна-Аўгуста пакідаюць пустэчу ў нашых ведах не толькі адносна гісторыі Лацінскай імперыі, але разам з ёю і Ягіпецкай за межамі эры Дыяклетыяна (за 284 годам).

З боку гледжання новай храналогіі мы не ведаем нічога пра гістарычнае жыццё Яўропы да эры Дыяклетыяна. Праўда, што ў псеўда 222 годзе нашай эры са змроку часоў раптоўна з'яўляецца міфічны Аляксандр Сявер, сірыйскі нараджэнец, які зрабіўся быццам бы валадаром ужо на 14 (ці на 17) годзе свайго жыцця і загінуў ў 235 годзе падчас жаўнерскага мецяжу ў Германіі, каля 30 гадоў ад нараджэння. Нягледзячы на сваю маладосць, ён, – пераконваюць нас, – на працягу свайго «12-ці гадовага валадарання» паспеў уславіцца вычынамі не толькі ў Яўропе, але і ў Азіі, дзе пераможна ваяваў з пярсідзкім царом Ардашырам. Ён вельмі падобны на міфічнага ж Аляксандра Македонскага, валадарыўшага, быццам бы, таксама 12 гадоў і памёршага таксама пасьля бунту жаўнераў, каля 30-гадовага ўзросту, але ужо не пад Майнцам на Рэйне, а ў «Вавілоне», шмат сэнсавае значэнне якога мы зараз занадта добра ведаем.

Калі б гэтае наша атаясамленне было правільным, то з таго ж моманту пачалася б і ягіпецкая гісторыя. У Паўднёвай Яўропе пасьля Аляксандра Сявера былі б кароткатэрміновыя імператары, паслядоўнасць якіх прыведзена ў таблічцы XCI.

ТАБЛІЦА XCI.

Легендарныя «лацінскія імператары», пачынаючы з Аляксандра Сявера да эры Дыяклетыяна Богапаклініканага.

| | |
|---|---|
| Аляксандр Сявер (222-235) | 12 г. |
| Максімін (235-238) | 3 г. |
| Гардыян (238) | 1 месяц |
| Піліп (238-248) | 10 г. |
| Дэкій (248-252) | 4 г. |
| Гал (252-257) | 3 г. |
| Валяр'ян (257-259) | 2 г. |
| Галіен (259-268) | 9 г. |
| Трыццаць тыранаў (268-271) | |
| Аўрэліян (271-275) | 4 г. |
| ? | 9 г. |
| Дыяклетыян (284-305) | 21 г. |

У Ягіпце ж у гэты час павінна была б валадарыць дынастыя Пталямеяў. Яна закончылася, як вядома, Клеапатрай, жонкай Антонія; атаясамляемага ў нас з Ліцыніем, і загінуўшай следам за ім каля 324 года, а пачалася б яна – як кажуць нам – адразу пасьля сьмерці Аляксандра Вялікага, калі Пталямей, сын Зайца (Лага), абвясьціў сябе ягіпецкім царом, і цэнтрам культурнага жыцця стала Іскандэрыя ці Александрыя. Пры атаясамленні Аляксандра Вялікага з Аляксандрам Сяверам

працягласць існавання гэтай дынастыі была б толькі 49 гадоў, ад 235 да 284 года, а тым часам старажытныя аўтары даюць ёй 257 гадоў валадарання, і атрымліваецца, што Пталямеі (што па-жыдоўску азначае «спаборнічаючыя з богам») валадарылі ў Ягіпце з 9 года нашай эры да заканчэння валадарання Ліцынія ў 324 годзе.

Час уцаравання Аляксандра Македонскага з такога боку гледжання дапасаваўся б у нас да 3 года да пачатку нашай эры, і такім чынам пры дапушчэнні памылкі гады на тры, што вельмі магчыма, наша эра «ад Нараджэнння Хрыста» ператварылася б у эру ад уцаравання Аляксандра Вялікага, і ён бы ўжо не можа быць атаясомленым з Аляксандрам Сяверам.

Вось чаму і ўзнікае вельмі вялікая патрэба ў знаходжанні нейкага астранамічнага спосабу для праверкі гэтага задання.

Але, на жаль, для астранамічнай праверкі дадзенага перыяду гісторыі ў мяне няма матэрыялаў, і таму даводзіцца задаволіцца славутымі «сведчаннямі старажытных».

Спісы ўсёведаючага ягіпецкага жраца Манефо, існуючыя толькі ў спасылках нашмат больш позьніх грэцкіх аўтараў, заканчваюцца 31 дынастыяй «ягіпецкіх» цароў, і пасьля іх гісторыкі ўжо самавольна, без жрацоў, пачынаюць царства Аляксандра Македонскага і яго наступнікаў – Пталямееў.

Пакінуўшы пакуль у баку гэтага легендарнага героя старажытнасьці, пачнём непасрэдна з Пталямееў, першым із якіх быў Пталямей I, сын Лага (г.азн. Зайца), меўшы мянушку Сатэр, г.азн. Ратавальнік.

А калі прымем да ўвагі, што Пталямей па-біблейску азначае спаборнічаючы з богам (ПТЛ-ЭМ-IE), то яго мянушка таксама будзе вельмі паказальнай – Спаборнічаючы з Богам Заяц-Ратавальнік.

Ён – паведамляюць нам – яшчэ не лічыў сябе незалежным валадаром і прызнаваў сваімі вярхоўнымі патронамі спачатку Піліпа Арыдэя, г.азн. Вандруючага рыцара, зводнага брата Аляксандра Вялікага, а потым яго сына ад Раксаны – Аляксандра Эга, г.азн. Адважніка-Казла.

Адносна Піліпа Арыдэя існуюць і іерагліфічныя надпісы ў Карнаку, у маленькім пакоі із чырвонага граніту пасярэдзіне свяцілішча, перад якім ад яго ж імя стаяць два непрывабныя невялікія абеліскі з лотасамі. У свяцільні намаляваны і ён сам прыносячым ахвяру, але частка выяваў так і пакінута неафарбаванай, як быццам бы нешта перашкодзіла працы. А ў Канаку і ў Луксоры існуе і імя Аляксандра Вялікага. Але дзе ж яго магільня? «Заяц-Ратавальнік» захапіў і схаваў некуды – паведамляюць нам – набальзамаванае цела Аляксандра Вялікага, якое некуды вязлі праз Сірыю, так што яго магільня невядома. Ён, г.азн. «Ратавальнік», валадарыў 22 гады (ад мінус 306 да мінус 284 года) і пры ім Александрыя робіцца сусьветным горадам». Ад мінус 285 года да мінус 247 – кажуць нам – валадарыў 38 гадоў Пталямей II Філадэльф (Богазмагальнік Браталюб), быўшы раней суваладаром бацькі.

Пры ім, быццам бы, ужо існаваў значны флот і ў Чырвоным моры існавала гавань Верэнікі (зараз Бенас пад 24° п. ш.). Із яе – пераконваюць нас – былі здзейснены падарожжы ў Індыю, ён спрабаваў злучыць каналам бліжэйшую пратоку Ніла з Чырвоным морам і пашырыў, ужо існаваўшую быццам бы і да яго, александрыйскую бібліятэку, а таксама пабудаваў шмат храмаў. Вядома, не ён, а пры ім, калі б гэта ўсё было праўдай... Пасьля яго – кажуць нам – валадарыў 25 гадоў Пталямей III Эвергет, г.азн. Богазмагальнік Дабрадзей (247-222), ваяваўшы ў Сірыі з Селеўкам II і вярнуўшы Ягіпту вывезеныя із яго скарбы. Ён –

паведамляюць нам апакрыфісты Эпохі Адраджэння – апекаваў «жыдоў», якіх, згодна з нашымі атаясамленнямі, тады яшчэ не было, і – згодна з апакрыфічным Ёсіфам Флавіем – «надарыў» «Ерусалімскі храм» (Флавій Ёсіф, Супраць Аніёна, II, гл. 2).

Пляткары дадаюць, што ён ва ўсім слухаўся сваю жонку Вераніку (Караблепераможную), у памяць якой Канон Александрыйскі назваў Валасамі Веранікі згуртаванне зорак над галавой сузор'я Панны. Гэта быў – пераконваюць нас – апошні із культурных манархаў, і «пасьля яго ідзе шэраг нявдольных».

Пталямей IV Філапатр (г.азн. Богазмагальнік Бацькалюб) валадарыць 17 гадоў (ад мінус 222 да мінус 205 г.). Ён быццам бы быў буяным, забіў маці і брата, а потым жонку і ваяваў з Сірыяй.

Потым пачынаецца 9-гадовая апека над яго малалетнім Пталямеем V Епіфанам (Богазмагальнікам Выявіцелем[220]), які прызнаецца ў 14-ці гадовым узросьце паўналетнім і быццам бы сам кіруе на працягу 15 гадоў, адружыўшыся з Клеапатрай, дачкой Антыёха Вялікага Сірыйскага, але раптам – уявіце сабе! – гэты сірыец выяўляецца із Македонскай дынастыі! Атрымліваецца, што яшчэ пры Пталямеях Сірыя і Македонія былі аб’яднаны дынастычна!

Пасьля яго гісторыя Ягіпта – кажуць нам – пачынаецца зноў з зародка. Усё гэта выглядае такім бязладным з боку гледжання тэорыі безперапыннай пераемнай эвалюцыі чалавечай культуры, што ў нас узнікае патрэба нанова разабраць асаблівасьці толькі-што акрэсленых першых «вялікіх цароў-богазмагальнікаў, перш чым перайсьці да разгляду ягіпецкага «дэкадэнцтва».

Праз адсутнасць тут астранамічных кропак апірышча, выкарыстаем статыстычныя дадзеныя, якія таксама, як ваўчыныя вушы тырчачыя із-пад авечай скуры, часта выдаюць нам праўдзівую фігуру тых валадароў, з якімі мы маем справу. Што нам тут паведамляюць лічбы? Паглядзім на дыяграму (мал. 224).




Мал. 224.

Паралелізм у гадах валадарання паслядоўных «Пталямеяў» з гадамі валадарання візантыйска-ягіпецкіх цароў IV стагоддзя.

Перадусім Аляксандр Вялікі згодна са сваёй дзейнасьцю моцна нагадвае Юлія Цэзара пры яго атаясамленні з Канстанцыям Хлорам. Ён валадарыў 12 гадоў, а Канстанцый –13, і Юлій Цэзар быў консулам 15 гадоў. Гэтыя недакладнасьці ўсе

[220] Ад φαίνω – паказваю і ἐπί– над.

знаходзяцца ў межах памылкі, калі дробавыя рэшткі гадоў выкінуць ці дадаць да цэлых лікаў гадоў.

Першы Богазмагальнік-Ратавальнік – сын Казла (Пталямей-Сатэр, сын Лага), – як мы бачылі, – спачатку схаваў труну Аляксандра Македонскага так спрактыкавана, што, нягледзячы на ўсе намаганні археолагаў, якія дорага б заплацілі за такую знаходку, яе і да гэтай пары не могуць знайсьці, як і труну цэзара Канстанцыя Хлора і самога цара Давыда разам з Саламонам. Ён цараваў – паведамляюць нам – як і Дыяклетыян ва ўмах троеўладдзя, ад мінус 305/306 да мінус 284 года.

Але ж гэта гады валадарання Дыяклетыяна ад +284 да +305 года нашай эры, толькі плюсы заменены на мінусы! Згадаем, што ад 284 года пачынаецца эра Дыяклетыяна, грунтуючыся на якой вялі злічэнне і ў самым Ягіпце аж да новага часу! Выпадковае супадзенне падвойных трохзнакавых лічбаў цалкам немагчыма згодна з матэматычнай тэорыі верагоднасьці! Гэта ўсё тыя ж самыя даты, перавернутыя наўзніч!

Але давайце пойдзем далей...

У гэтага ж першага Богазмагальніка-Ратавальніка, сына Казла, пад час першых гадоў існавалі, – як мы толькі-што павядомілі, – суваладары Піліп Арыдэй, сын Аляксандра Македонскага ад яго жонкі, пярсідзкай царэўны Раксаны, але Ратавальнік – кажуць нам – забіў абодвух: Піліпа ў мінус 315 годзе, а юнага Аляксандра II Эга праз 10 гадоў у мінус 305 годзе, і з тых часоў валадарыў адзін. У навейшай жа гісторыі гэтыя забойствы прыпісваюцца ўжо яго суваладару Кастусю Сьвятому, а сыну Аляксандра Вялікага адпавядае тут Максімін (г.азн. сын Вялікага, а Галерэй фігуруе ў выглядзе Вандруючага рыцара (Піліпа Арыдэя па грэцку).

«Пры ім – кажуць нам – ствараецца значны флот галер, Александрыя робіцца горадам сусьветным і ў ёй пачынае засяроджвацца вучонасць усяго сьвету», як было і пры Дыяклетыяне, і пры Юлію Цэзару. Другі-Богазмагальнік Браталюб (Пталямей II Філадэльф), наступнік Богазмагальніка-Ратавальніка, быў, як і Кастусь Вялікі, спачатку суваладаром, а потым і адзінаўладцам. Пры ім александрыйскі флот павялічыўся і, акрамя таго, як мы толькі-што бачылі, была заснавана гавань Веранікі, г.азн. Караблепераможная для марскіх стасункаў з Аравіяй і далей па Індыйскаму акіяну, аж да Індыі. Александрыйская бібліятэка загрымела па ўсяму чытаючаму сьвету (які, дарэчы, наўрад ці налічваў больш некалькіх соцень чалавек). Ён спрабуе – кажуць нам – правесьці нават канал праз Суэцкі перасмык і будуе шмат храмаў, у чым бярэ ўдзел і яго жонка Арсіноя (г.азн. Мужная). Час валадарання яму надаюць, праўда, некалькі больш працяглы, чым яго адлюстраванню ў IV стагоддзі нашай эры, Кастусю – 38 гадоў замест 31 (лічачы і сываладарства), – але такія недакладнасьці цалкам у межах варыяцый у розных аўтараў. Яго наступнік, трэцці Богазмагальнік-Дабрадзей (Пталямей III Эвергет), валадарыць, як і наступнік Кастуся Вялікага, Канстанцый II, каля 25 гадоў, і абодва вядуць зацятыя войны з персамі, пры гэтым цар-Дабрадзей вывозіць із Азіі ў Ягіпет «незлічоныя багацці» і вялікую колькасць скарбаў. І ён схіляецца – да каго б вы думалі? – да юдэяў, г.азн. па-нашаму арыянаў! І ў гонар яго жонкі было названа Канонам Александрыйскім, гэтым сазігенам Юлія Цэзара, сузор'е Валасы Веранікі. А дзякуючы таму што імя Варэніка азначае Караблепераможная гавань, то атрымліваецца, што простая гавань да таго часу не толькі ператварылася ў жанчыну, але і выгадавала сабе раскошныя валасы. А што да цароў, то пры

перавядзенні гадоў іхнага валадарання на дыяграму, мы зноў атрымліваем супадзенне з візантыйскімі царамі, мала падобнае на выпадковае згодна з тэорыяй верагоднасьці (мал. 224).

Калі мы і далей будзем кіравацца гэтым жа статыстычным метадам, то адзінства дынастыі Ратавальнікаў Богазмагальнікаў-Мовазнаўцаў (г.азн. наступнікаў Пталямея Сатэра Логаса, а не Лага-Казла) з першымі царамі дынастыі Дыяклетыяна выяўляецца вельмі навочна, а з ёю і тое, што Аляксандр Македонскі, г.азн. Адважны із Македоніі, спісаны, як і Юлій Цэзар, із Канстанцыя Хлора, «вярхоўнага імператара Рымскай імперыі». Із яго ж, як быццам, спісаны і Аляксандр Сявер, ваяваўшы і з Ардашырам у Азіі і з германцамі на Рэйне і, як кажуць нам, нават меўшы схільнасць да хрысьціянства, хаця яно і больш сучаснае Юльяну, шматлікія асаблівасьці якога прыпісаны Юлію Цэзару. Магчыма таксама палічыць, што і забіты пяты Богазмагальнік (Пталямей V) спісаны непасрэдна з Васіля Вялікага, які ўжо ператвараецца ў евангельскага Хрыста. Але само сабой зразумела, што гэтае атаясамленне нікім не зроблена, і нам зноў кажуць, што Ягіпет пасьля такой магутнасьці і бляску зноў самаадвольна ператвараецца ў нікчэмнасць, і пачынаецца апошні куплет казкі пра ягіпецкага белага бычка:

Збіраецца белы бычок  
Перайсьці праз масток у лясок...  
Перайшоў, ды ляжаць там мачала...  
Спалохаўся мачалы бычок,  
Адступіў ён зноў за масток. –  
Пачынаецца казка спачатку.

Пасьля атручвання Богазмагальніка-Выяўляльніка – кажуць нам – на пасад сядае яго сын Пталямей VI Еўпатар (Богазмагальнік Добры бацька), але памірае ў тым жа годзе (мінус 181 г.).

Наступае перыяд апекі яго жонкі над яго малалетнім сынам Пталямеем VII Філаметарам (Богазмагальнікам Любімчыкам маці) і, у гэтай апецы бярэ ўдзел дасланы Рымам Марк Эмілій Ляпід, адпаведна з жаданнем яго «Добрага бацькі» аддаўшага сваіх дзяцей пад абарону Рыма.

Але ён потым патрапіў у палон да Антыёха IV Сірыйскага, і яго сын Богазмагальнік VIII, абвешчаны ў Александрыі царом, загінуў ад рукі свайго дзядзькі Богазмагальніка Дабрадзея, празванага Пузачом. Але ў гэты самы час Антыёх IV вызваліў Богазмагальніка VII; ён вярнуўся і стаў валадарыць разам з братам, так што атрымалася адначасовае валадаранне Богазмагальнікаў VII і IX да мінус 164 г., калі Любімчык маці выправіў Пузача валадарыць у Кірэну, а сам застаўся ў Ягіпце да сваёй сьмерці, якая здарылася ў -146 годзе, праваладарыўшы такім чынам, спачатку пад апекай, а потым у два тэрміны 35 гадоў.

Пасьля яго сьмерці ў -146 годзе Пузач вярнуўся ў Ягіпет на царства, адружыўся адразу на двух Клеапатрах (II і III), – адна маці, а другая яе дачка, – і потым з нагоды паўстання збег у -132 годзе на выспу Кіпр, пакінуўшы сваё царства першай жонцы Клеапатры, але праз два гады вярнуўся і кіраваў да -117 года. Праваладарыў ён на працягу двух тэрмінаў 29 гадоў.

Пталямей X Сатэр (Богазмагальнік-Ратавальнік), празваны Служкам, валадарыў – кажуць нам – разам са сваёй маці Клеапатрай-Пілюляй (Кокай) да –107 года, але ў гэты час вярнуўся яго малодшы брат Аляксандр, валадарыўшы на Кіпры, накіраваў яго самога валадарыць на Кіпр, а сам пасяліўся ў Ягіпце пад імем Пталямея XI Аляксандра (Богазмагальніка Адважніка) да -89 года. Ён быў прагнаны нейкімі ахоўнікамі нораваў із Александрыі за забойства сваёй маці, яго

брат Пталямей Х зноў заваладарыў на 9 гадоў (ад -89 да -81 г.) і памёр адначасова з братам, паспеўшы аднак, быццам бы, разбурыць Фівы за паўстанне (а хутчэй усяго для таго, каб адсутнасьць якіх бы то ні было сьлядоў гэтага стабрамавага пышнага старажытнага горада ў даліне Нілу не заклапочвала гісторыкаў).

Удава Богазмагальніка-Адважніка (Пталямея XI) Вераніка, г.азн. Караблеперparоможная, адружылася са сваім пасынкам Пталямеем XII Аляксандрам, але ён яе хутка забіў і сам загінуў у -62 году ад рук уласнай варты, праваладарыўшы 19 гадоў.

Богазмагальнік XIII, «Новы Дыёніс» з мянушкай Хвалько, сеў на пасад – кажуць нам – у -63 годзе, але на працягу трох гадоў не быў прызнаны Рымам (да -59 года). Напэўна, з нагоды гэтага ён і не знайшоў нічога лепшага, як збегчы ў не прызнаўшы яго Рым ад сваіх уласных суайчыннікаў, паўстаўшых александрыйцаў, а яго жонка Клеапатра Трыхіна (г.азн. Валасатая Слава Бацькаўшчыны) абвясьціла сябе царыцай.

Але яна неўзабаве памёрла, перадаўшы пасад сваёй дачцэ Вераніцы, якая адразу адружылася з Селеўкам, сынам сірыйскага цара Антыёха, задушыла яго (відавочна ўласнымі рукамі) і адружылася з пантыйскім царом Архелаем. Але і на гэты раз яна не змагла доўга пацараваць, таму што ў 55 годзе яе першы чалавек Богазмагальнік XIII, «Новы Дыёніс», вярнуўся з месца свайго сховішча на ягіпецкі пасад з дапамогай рымскага войска і, на шчасьце для сябе, праз тры гады (55 г.) памёр.

Яго дзеці, Богазмагальнік XIV і знакамітая Клеапатра VII ад іншай маці, адружваюцца і валадараць разам пад наглядам Пампея (адпаведна з нашым супастаўленнем Дыяклетыяна). Але вось пачалася вайна паміж Пампеем Вялікім і Юліем Цэзарам (адпаведна з нашым супастаўленнем – з Канстанцыям Хлорам). Пампея, быццам бы, забілі ў Ягіпце 28 верасня мінус 48 года дзякуючы намаганням Пталямея XIV, але і сам гэты «Богазмагальнік» ўтапіўся ў Ніле падчас уцёкаў ад Юлія Цэзара.

Клеапатра адружылася з Цэзарам і з'ехала з ім у Рым, пакінуўшы валадаранне Богазмагальніку XV, брату патануўшага. Пасьля сьмерці Юлія Цэзара (-44 г.) яна вярнулася ў Александрыю і, атруціўшы свайго брата Пталямея XV, сама пачала валадарыць. Потым – кажуць нам – у мінус 42 годзе, прыбыўшы ў Тарс, яна завабіла ў Кілікіі Антонія (Ліцынія), які паехаў жыць з ёю ў Александрыю. Свайго сына ад «Юлія Цэзара» – Цэзарыёна – яна абвясьціла пачынаючы ад -35 гада сваім суваладаром. Але ў -31 годзе Актавіян-Аўгуст (Кастусь I) здабыў марскую перамогу над Ліцыніем пры Акцыуме каля берагоў Эпіра, і ягіпецкае войска адмовілася падпарадкоўвацца пераможанаму правадыру. Антоній сам сябе забіў пасьля 7 гадоў жыцця з Клеапатрай, Клеапатра, атруцілася, а Цезарён быў быццам бы забіты адпаведна з загадам Актавіяна (Кастуся I).



Мал. 325.
Абеліск-маналіт із Луксора, маювы назву «Іголка Клеапатры».

Такой з’яўляецца афіцыйная дынастычная гісторыя Ягіпта пры Пталямеях, якім прыпісваецца ўладкаванне Александрыйскага музея і Александрыйскай

бібліятэкі, і чытач сам бачыць, што яна надзвычай падобна на старажытныя крымінальныя раманы, дзе на кожнай старонцы па некалькі забойстваў і ніхто із забітых не выклікае пачуцця жалю.

**І я не магу тут не пазначыць, што гэтая дынастыя шаснаццаці цароў «богазмагальнікаў» вельмі нагадвае ўжо разгледжаную намі раней дынастыю шаснаццаці «цароў-месіянцаў» (рэ-месідаў),** якая лічыцца існаваўшай амаль роўна за тысячу гадоў перад гэтай і мае назву дваццатая дынастыя чалавекападобных ягіпецкіх цароў... І там апошнія тры цара ўжо лічацца «царамі паланення», і там адпаведна першаму цару гэтых «пталемаідаў-богазмагальнікаў», маючага назву «Ратавальнік», мы знаходзім Вялікага цара-Месію, якога мы ўжо атаясамілі з евангельскім Езусам, імя якога па-жыдоўску таксама азначае Ратавальнік, цалкам як у казцы пра белага бычка!

І яшчэ горш атрымалася б, калі б, замест таго каб ужываць хаця б калі нікалі незразумелыя для чытача замежныя найменні, я стаў бы і тут, як у ранейшых тамах, перакладаць на сваю мову заўсёды толькі іхныя асэнсаваныя значэнні. Тады было б зразумела, што ўсё гэта прыдумана ужо праз сотні гадоў дзякуючы ўласным меркаваннях самаўпэўненых аўтараў і кампілятараў пад час Эпохі Адраджэння.

А чаму ж, запытае мяне чытач, я збольшага пакінуў тут маю ранейшую манеру раскрываць значэнне замежных слоў, у выніку чаго часам так яскрава вымалёўваецца міфічнасць усяго апавядання? Чаму я і раней Пталямеяў не пераклаў амаль ніводнае імя тых асоб, якія згадваюцца ў Каране, і ў арабістаў, і ў іерагліфічнай літаратуры? Няўжо я не разумею, што безсэнсоўнае паўтарэнне сотняў незразумелых гукаў чалавечай гаворкі прыводзіць чалавека ў гіпнатычны стан, і ён мімаволі пачынае лічыць, быццам бы гэта не асэнсаваныя найменні, а імёны накшталт нашых сучасных? Хіба незразумелыя асабістыя імёны не засмечваюць праводзячыя шляхі нашага галаўнога мозгу, дзякуючы чаму асацыяцыя ідэй – гэтая асноўная прылада кожнай навукі – робіцца немагчымай?

Так! Я гэта вельмі добра разумею, але зрабіць інакш я тут не мог, каб цалкам не страціць якую б то ні было сувязь з тым старажытна-гістарычным жаргонам, на якім размаўляюць усе сучасныя гісторыкі.

Акрамя таго, скажу прама: у мяне не хапіла моцы гэта зрабіць. Пасьля таго, як я пабачыў засмучэнне памёршага прафесара Тураева, калі ён даў мне вылічыць Атрыбскія гараскопы, і я вылічыў яму не тую эпоху, якую ён чакаў, у мяне апусьціліся рукі. Я зразумеў, што для таго, хто ўсё сваё жыццё прысьвяціў вывучэнню старажытнай гісторыі з боку гледжання глыбокай старажытнасьці чалавечай культуры з тым жа шчырым жаданнем знайсьці праўду, з якім узяўся за гэтую працу і я, мае вынікі могуць быць раўназначнымі скасаванню працы цэлага жыцця. Як жа мне было адважыцца прасіць саміх жа крытыкуемых мной дапамагчы мне гэта зрабіць? І вось я аддаў перавагу таму каб пакінуць высвятленне сэнсу ўсіх незразумелых мянушак, якімі перапоўнены табліцы маёй кнігі, тым із арабістаў і ягіптолагаў, якія, як я спадзяюся, рана ці позна пагадзяцца з маім меркаваннем.

«Спаборнічаўшыя з богам» (г.азн. Пталямеі) – кажуць нам – аднавілі «старажытныя» храмы, з захаваннем на іх старажытных надпісаў, як рабілі пасьля іх і «рымляне». Усё гэта сцвярджаецца, вядома, у якасьці тлумачэння таго факту, што сьцены храмаў, на якіх існуюць невялікія іерагліфічныя ўказанні на пабудову іх пры Пталямеях, усе спісаны не іхнумі ўласнымі прыгодамі, а ўсхваленнямі галоўным чынам цароў чужых ім дынастый «за 3000 гадоў да іх». Але такое

тлумачэнне можа задаволіць толькі па-дзіцячаму наіўнага чалавека. Усё, што мы ведаем із сусьветнай гісторыі пра паводзіны служак зямных цароў (таму што яны, а не самі цары, размалёўвалі сьцены), стаіць з такой высновай у поўнай супярэчнасьці. Служкі заўсёды лісьлівілі жывым царам, ад якіх на іх сыпаліся літасьці і ўзнагароды, а не даўно-памёршым, за выключэннем тых, якіх яны лічылі знаходзячыміся на небе ў сьвіце бога-бацькі і яго сына і таму здольнымі не менш чым жывы цар зрабіць ім заступніцтва за грахі.

Тлумачэнне тут можа быць толькі адно: не служкі «спаборнічаўшых з богам» аднаўлялі з вельмі вялікай дакладнасьцю хвалебныя надпісы старажытным царам, забываўшыся пра сваіх уласных цароў, на размалёўваемых імі будынках, калонах і сьценах, а адбывалася нешта цалкам іншае. Чым больш пышным з'яўляецца надпіс і чым больш пышным з'яўляецца ўжываемае ў ім найменне (на справе для тай жа самай асобы, хутка ператвараючайся ў міфічную пры адсутнасьці пашырэння пісьмовасьці), тым больш позна яна зроблена ці дададзена да ранейшых, больш сьціплых. Не героі надпісаў былі рознachасовымі, а рознаchасовымі з'яўляюцца самі надпісы. І гэта застаецца правільным нават у тым выпадку, калі чытач не пажадае атаясамляць Пампея з Дыяклетыянам.

Нязначныя пабудовы з надпісамі пра Богазмагальнікаў (Пталямеяў) раскіданы па ўсёй краіне ад мора да Нубіі. Картушы з іхнымі імёнамі знаходзяцца на сьценах храмаў у Дацы, Калабшы, Дэбуце і Дандуры, ды і на выспе Філе знаходзіцца прыгожанькі храм, «дапасуемы да іхнага часу». Парэшткі храмаў з іхнымі імёнамі сустракаюцца таксама ў Омбасе, Есне, Ерменце, Эль-Кабе, Бах-Бітэ, і каля Мемфіса.

Нам кажуць, што большасць з іх носіць на сабе пячатку заняпаду нацыянальнага ягіпецкага мастацтва, і прыпісваюць гэта ўплыву грэкаў. З нашага ж боку гледжання атрымліваецца наадварот: ягіпецкае мастацтва тады яшчэ не выпрацавала сваёй нацыянальна-ягіпецкай велічнай формы, якая магла выпрацавацца толькі ў цеснай сувязі з Візантыяй, пазьней IV стагоддзя нашай эры... Ці ж гэта храмы нейкай асобнай секты.

Разглядаючы «дынастыю» Пталямеяў, мы не можам не пазначыць у ёй наступных асаблівасьцей. Ад мінус 306 г., калі на пасад сеў Пталямей I Казёл да мінус 44, калі памёр Юлій Цэзар, прайшло 262 гады. Адымаючы гэтую колькасць ад 305 года, калі памёрлі Дыяклетыян і Канстанцый Хлор, атрымліваем 43 гады, г.зн. для жыцця Аляксандра Вялікага застаюцца першыя 43 гады нашай эры. Магчыма, што невялікая колькасць гісторыкаў сярэдневечча яго і лічылі памёршым у гэтым узросьце.

Але Александрыя па-грэцку азначае проста «Горад Адважных Мужоў», якімі і павінны былі быць мараплаўцы таго часу. Ці не дастаткова аднаго гэтага тлумачэння яе наймення? Яе мясцовая арабская назва Іскандэрыя лічыцца за арабізаванае найменне Александрыя. Аляксандр жа Вялікі атаясамляецца арабскімі тлумачальнікамі з Зуль-Карнейнам, г.зн. «Двухрогім царом» Карана, хаця ў самым Каране і не змяшчаецца дастатковых паведамленняў для атаясамлення Зуль-Карнейна з македонскім заваёўнікам. Ці не паходзіць імя Іскандэрыя непасрэдна ад біблейскага Ійш-Ка-Нер, падобна таму як эпітэт Іскарыёт у дачыненні да Юды вырабляецца цалкам не ад выспы Іскарыя, дзе ён ніколі і не бываў, а ад Ійш-К-Арые – муж, як леў, чалавек-арыянін? Пры пошуках найменняў заснавальнікаў гарадоў і царстваў першабытная фантазія не хадзіла па далёкіх шляхах, і на пытанне: «хто заснаваў Рым?» – адказвала: «Рэм» вядома, а на дадатковае пытанне:

«чаму ж жыхары Рыма называюць свой горад Рома?» – быў таксама гатовы адказ: «таму што ў Рэма быў брат Ромул, які таксама браў удзел у заснаванні». Так магло быць і з заснавальнікам Іскандэрыі-Александрыі. Пра гэта я ўжо выказваўся раней.

Усё, што можна вывесьці із гэтага, гэта тое, што наша эра, маючая назву хрысьціянская, магла быць спачатку і эрай александрыйскай, злічаемай ад меркаванага Іскандэра-Аляксандра, як заснавальніка гэтага горада.

Не менш цікавай выглядае справа і з Пталямеем III, калі мы яго дапасуем, згодна з нашай храналогіяй, да прамежку каля 102-127 гадамі нашай эры. Тады ён надзіва супадае са знакамітым вялікім астраномам Клаўдыем Пталямеем, які лічыцца за аўтара вялізнай астранамічнай працы «Альмагест», за аўтара «Геаграфіі» ў 8 кнігах, «Оптыкі» ў 5 кнігах, «Навукі пра гармонію» ў 3 кнігах і тэарэмы пра дыяганалі чатырохкутніка. Але я ўжо паказаў у IV томе, што і астраном Пталямей міфічны.

Зразумела, што напісаць такія кнігі было, як я ўжо выказваўся раней, цалкам немагчыма старажытнаму аўтару, ды і іхны склад цалкам аднолькавы з тым, якім пісалі аўтары Эпохі Адраджэння. Пталямею другога стагоддзя нашай эры маглі належаць толькі зародкі гэтых кніг, не перавышаючыя некалькіх дзясяткаў старонак, ды і іх дастаткова, каб прызнаць іх аўтара вялікім геніем.

Магчыма, што Пталямею як астраному не II, а IV стагоддзя нашай эры, належыць толькі ўсталяванне назваў галоўных зорак ці іхных спалучэнняў, вызначэнне сінадычнага месяцовага месяца роўнага 29½ дням замест 30, якім месяц мог лічыцца да яго, і ўсталяванне даўжыні зорнага абарачэння Месяца ад Рэгула да Рэгула – роўнага 27 дням. Тэорыя энцыклікаў для вонкавых планет наўрад ці была створана ім. Мы бачым яго сістэму на малюнках усіх старажытных кніг яшчэ без гэтага прыдатка да іхных арбіт. У Альмагесьце ж яму прыпісваецца назіранне і рэгістраванне чатырох месяцовых зацьменняў, якія вельмі падобныя на наступныя:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Год 125 | – | IV | – | 5 |
| Год 133 | – | V | – | 6 |
| Год 134 | – | X | – | 20 |
| Год 135 | – | III | – | 6 |

Але апошнія тры ўжо выходзяць за прызначаемы Пталямею III час сьмерці ў 127 годзе, а сонечныя зацьменні праспаны.

Час яго астранамічнай дзейнасьці дапасуецца гісторыкамі да II стагоддзя нашай эры, а на малюнках мы бачым астранома Пталямея з царскім вянком на галаве.

А адпаведна са звычайнай храналогіяй апошні із александрыйскіх цароў-Пталямеяў пакінуў наш сьвет за паўтараста гадоў да пазначанага часу. Ніводнага із гэтых цароў ніяк немагчыма было атаясаміць з вялікім астраномам. Толькі згодна з нашымі атаясамленнямі Пталямей-астраном амаль налягае на Пталямея III, празванага Дабрадзеем (Эвергетам), і біяграфія гэтага «Дабрадзея» надзіва падыходзіць для астранома. Сузор'е Валасы Веранікі, як нам паведамляюць, дадзена ў гонар яго жонкі Веранікі і сам ён выстаўляецца, як апякун навук і асабліва гебраў (іберыйцаў). Згодна з нашай храналогіі ён пераносіцца ў IV стагоддзе.

Дакладна так жа даволі добра выглядае справа з боку гледжання міфічнасьці Пталямеяў і адносна суадносін іхных першакрыніц з рымскімі (г.азн. рамейскімі, балканскімі) імператарамі.

Збяганне ў «Рым» Пталямея псеўда-XIV, прыпадаючае ў нас на час каля 297 года нашай эры, і вяртанне назад на ягіпецкі пасад з дапамогай рамейскіх легіёнаў прыпадае на час суваладарання Дыяклетыяна (284-305) і Канстанцыя Хлора (293-306) і таму вельмі праўдападобна. У гэты самы час і здзейснілася сапраўднае аб'яднанне Італіі, Ягіпта, Сірыі і Балканскай паўвыспы (Рамеі) у адну вялікую тэтрархію. Толькі гэты Пталямей наўрад ці быў XIV, а не першым.

Тут зноў падмацоўваецца наша храналогія, і пры ёй Антоній атаясамліваецца з Ліцыніем, і Актавіян з Кастусём I. А тое, што было раней, толькі апошні із ранейшых паўтораў казкі пра ягіпецкага белага бычка.

Паглядзім жа і на паведамленні грэцкіх гісторыкаў пра Ягіпет наступнага перыяду, калі мы атаясамім наступнікаў Актавіяна з наступнікамі Кастуся I.

Пры Актавіяну, г.азн. Кастусю I (каля 306 г. адпаведна з нашымі атаясамленнямі), «Страбон наведаў Ягіпет і прэфектам яго заспеў Элія Гала», г.азн. француза Элі.

«Пры Тыверыю, г.азн. Канстанцыю II (337-361) згодна з нашым атаясамленнем, Германік, згодна з Аналамі Тацыта (II, 60), падарожнічае па Ягіпту і пазначае, што там будуюць храмы».

Атрымліваецца, што французы і германцы мелі вялікую ролю ў Ягіпце нават пры Пталямеях!!!

«Пры Калігуле, г.азн. Юльяне (361-363), у Александрыі пачынаецца паўстанне, жорстка пакаранае рымскімі (рамейскімі) легіёнамі, і праз два гады (363) едзе ў Рамею дэпутацыя ад александрыйскіх богаслоўцаў-юдэяў.

Гэта таксама адпавядае рэлігійным хваляванням у час навукова-рэлігійнай дзейнасьці Васіля Вялікага (евангельскага Хрыста, у 378 годзе). Да таго ж часу чамусьці высахла – кажуць нам – Мерыдава возера, і Сярэдні Ягіпет пачаў бяднець.

У 378 годзе нашага злічэння Ціт Веспасіян (па нашаму Грацыян) пасьля сьмерці Гальбы абвяшчаецца александрыйскім насельніцтвам імператарам тэтрархіі і абапіраецца галоўным чынам на Ягіпет.

Пры Траяну (адпаведна з нашым атаясамленнем пры Аркадзю, 395-408) пачынаецца паўстанне богаслявячых (юдэяў) у Александрыі. І якраз у гэты час з'явіўся Апакаліпсіс згодна з нашымі астранамічнымі вылічэннямі.

Адрыян (згодна з нашым атаясамленнем Ганорый, 395-423) наведвае з Сабінай Ягіпет і будуе ў гонар Антыноя помнік са сфінксам і абеліскамі, адзін із якіх зараз знаходзіцца ў Рыме.

Усе гэтыя імёны трапляюцца, згодна з Марыетам, напісанымі іерагліфічным пісьмом у рамках (картушах) на будынках у Калабшы, Дандуры, Дацы, Філе, Едфу, Есне, Каменце, Дэндэры і інш[221].

Акрамя іх, яшчэ знаходзяцца толькі імёны Сэптымія Сявера і Каракалы, прытым Марк Аўрэлій Каракала, напэўна, пераблытаны сярэднявечнымі гісторыкамі з Маркам Аўрэліем Пробам (276-282), абвешчаным сірыйскімі легіёнамі і забітым паўстаўшымі жаўнерамі праз 6 гадоў, ці ж замест ***Каракала*** патрэбна чытаць у іерогліфах ***Калігула***.

Але мы ўжо атаясамілі ўвесь гэты шэраг імператараў з Аўрэліянам, Дыяклетыянам, Кастусём I, Юльянам і г.д. Чаму ж на ягіпецкіх помніках іх няма і ў гэтай апошняй варыяцыі?

Я лічу, таму, што апошняй варыяцыі і не існавала пад час старажытнасьці аж да Сакрата-Схаластыка, які ўпершыню ўсталяваў за імі гэтыя больш позьнія

[221] Mariette: Apercu etc., p 193. Уласаў: Дадатак да «Гісторыі Фараонаў» Бругша.*

найменні. Сакрат-Схаластык лічыцца жыўшым на прыканцы V стагоддзя і пачынае сваю Царкоўную гісторыю з таго ж самага Актавіяна, назваўшы яго Кастусём I і пераназваўшы яго наступнікаў таксама на свой царкоўны лад аналагічна таму, як зрабіў па-свойму і Эратасфен (гл. яго табліцы ў розных ягіпецкіх дынастыях гэтага тома). Што ж дзіўнага, калі мы нідзе і не знаходзім праўдзівых помнікаў IV і V стагоддзяў ні з яго, ні з эратосфенавымі імёнамі? Мы бачым іх толькі ў царкоўных першакрыніцах хрысьціянскай эпохі, ды яшчэ ў выявах на манетах невядомага паходжання. А мы ніколі не павінны забывацца, што падробка манет заўсёды была самай лёгкай, шануемай і выгаднай із усіх чалавечых падробак, і гэта лёгка патлумачыць: кожны гравёр без цяжкасьцей у стане выразаць якую заўгодна старажытную, г.азн. не машынную манету, на якую існуе попыт, так што яе нічым не адрозніш ад сапраўдных. Але пакажыце мне: дзе знаходзяцца зараз магільні гэтых Актавіанаў, Клаўдыяў, Няронаў, Веспасіанаў і г.д.? Патлумачце мне: куды і калі яны зніклі?

* * *

Мне няма патрэбы пераглядаць далейшы перыяд гісторыі Ягіпта, у праўдзівасьці якога ў мяне няма падставаў сумнявацца, і таму, каб завяршыць сваё выкладанне, я дам тут толькі яго храналагічныя вехі.

Пры Аўрэліяне (ён жа Мена ягіпецкіх іерогліфаў, Сула Яўсевія Памфіла, Савул кніг Самуіла і Адам кнігі Быцця) у Ягіпет быццам бы ўварвалася пальмірская царыца Зенонія, але была ўзята Аўрэліянам у палон. Гэта вельмі падобна на гісторыю з Веранікай II, жонкай пантыйскага цара Архелая, якая быццам бы захапіла каля гэтага ж часу ягіпецкі пасад, але была пазбаўлена пасаду з дапамогай «рымскага» войска, як мы ўжо згадвалі вышэй.

У 278 годзе Марк Аўрэлій Проб (276-282) праганяе прыйшоўшых у Ягіпет эфіёпаў-блеміеў, імя якіх – бельма – фігуруе і ў іерагліфічных надпісах пры пералічэнні палонных Тутмеса III.

У 294 годзе Дыяклетыян восем месяцаў аблöжвае паўстаўшую Александрыю і ў 295 годзе, узяўшы горад, быццам бы аддае яго полымю і мячу (але без вынікаў: горад ацалеў). У 296 годзе ён здзяйсняе паход у Эфіёпію і быццам бы пачынае пераследванне хрысьціянаў (якіх тады яшчэ не было, а толькі пачыналі з'яўляцца монатэісты не прызнаваўшыя ніякіх богаў, акрамя Грамабоя).

Як жа не згадаць і пра гэты ў іерогліфах?

Пачынаючы з 323 года Александрыя робіцца цэнтрам рэлігійных спрэчак. Там з'яўляюцца Арый, ён жа Арон Бібліі, Апанас г.азн. Несьмяротны, і інш.

У 381 годзе выходзіць – кажуць нам – указ Феадосія Вялікага пра прызнанне хрысьціянства адзінай рэлігіяй Ягіпта. Адбываецца быццам бы замыканне пірамідных храмаў і знішчэнне ахвяраванняў, знішчэнне могільнікаў цяльцоў-серапісаў, а згодна з нашымі атаясамленнямі усё гэта была прыналежнасьцю менавіта тагачаснага хрысьціянства, якое тэолагі адкінулі толькі пад канец сярэдневечча і, каб не было спакусы, перанеслі ў глыбіню архейскага Ягіпта.

Большасць такіх паведамленняў – анахранізмы, але яны вельмі тыповыя.

Усюды ў іх засталася самая цесная сувязь візантыйскай культуры з ягіпецкай аж да VII стагоддзя нашай эры. Дык чаму ж здзіўляцца, калі ўсе сьцены ягіпецкіх храмаў поўняцца надпісамі пра здзяйсненні іхных агульных валадароў?

І гэтая, высвятляючаяся толькі з нашага боку гледжання цесная сувязь і адначасовасць ягіпецкай культуры з візантыйскай, вельмі павучальная. Лакальныя адрозненні ў традыцыйных тыпах пабудоваў у абодвух краінах лёгка тлумачацца

адрозненнямі іхнай глебы і прыроды і тым, што ў Ягіпце нам кідаюцца ў вочы галоўным чынам шыкоўныя пахавальныя пабудовы, якія цалкам адсутнічаюць на тагачаснай Балканскай паўвыспе і ў Малой Азіі; а іх няма на Балканах таму, што целы магутных нябожчыкаў везліся адтуль у «Сьвятую Зямлю», дзе яны не гніюць і дзе для іх ужо прыгатаваны тры ўсходы на неба, мяркуючы па таму, пад заступніцтва якога із трох вялікіх сьвятых-даведнікаў яны сябе аддалі.

Як толькі мы засвоілі гэтую ідэю, так ягіпецкія іерагліфічныя запісы набываюць для нас не мясцовую, а сусьветную цікавасць. Яны паказваюць нам, што і ў візантыйскай царкве, як і ў рымскай (пра якую я дастаткова выказваўся ў V томе «Хрыста»), не ўсё было адпачатку на нішчымным масле, як нам надавалі багасловы часу стварэння Чэцці-Мінеяў, г.азн. не раней XII стагоддзя нашай эры. І візантыйская царква не выйшла «із рук Хрыста» ў тым выглядзе, якой мы яе зараз маем. І яна на доўгім шляху свайго эвалюцыйнага развіцця перажыла не менш метамарфоз, як і рымская, і гэта мы пабачым яшчэ не раз у сёмай кнізе «Хрыста».

У 618 годзе Хозрой II Парвіз урываецца ў Ягіпет пры Іраклію, але сын яго вяртае яму Ягіпет.

У 638 годзе агаране пад правадырствам Амру пераводзяць у сваю веру Ягіпет і ў 645 годзе ён быццам бы заснаваў каля Мемфіса сваю сталіцу, маючую зараз назву Стары Каір.

Пачынаючы ад гэтага часу намеснікі Ягіпта аж да 973 года маюць назву эміраў і прызнаюць тэакратычнае вяршынства наступных радоў:

Ад 661 да 749 г. легендарны род Маавіі-каліфа – Амеяды.

Ад 749 да 870 легендарны род Абасідаў, самы выбітны із якіх, Гарун-аль-Рашыд, сядае на пасад у 786 годзе.

У той час, відаць, яшчэ не было Карана, таму што паэты публічна апяваюць забароненае ім віно.

Ад 870 да 905 у Ягіпце ўжо узнікла самастойная тэакратычная дынастыя Тулунідаў, якія ў 883 годзе далучаюць да яго і Сірыю.

У 905 годзе багдадзкі каліф зноў робіцца духоўным кіраўнікам Ягіпта, і з 910 года гэтая краіна робіцца абасідзкай.

У 972 годзе фацімід Маср, поўнае імя якога Маср-Эль-Кагіра, г.азн. Маср Пераможны, чамусьці быццам бы засноўвае сучасны нам Каір, «побач са старым, які зваўся Фостатам» і, відаць, міфічным.

Ад 973 года валадары Ягіпта самі завуцца каліфамі.

У 996 годзе фацімід Хакам засноўвае секту ізмаэлітаў, прызнаючую правадыра Фацімідаў за свайго духоўнага валадара. Пры ім жа астраном Ібн-Юніс складае «Хакемавы табліцы зорак»» калі яны не апокрыф.

У 1064 годзе Мастансерам знішчаецца Александрыйская бібліятэка, калі яна не міф. Вайна, голад і чума.

15 ліпеня 1094 года Готфрыд і Яўстафій Бульёнскі, на чале крыжакоў, забіраюць у Ягіпта Эль-Кудс (Ерусалім).

Ад 1169 года Юсуф Салах-Эддзін, званы Саладынам (1171-1193), кіруе Ягіптам і засноўвае дынастыю Эйюбідаў. Панаваўшая тут да таго часу шыіцкая рэлігія замяняецца суніцкай. З нашага боку гледжання гэта і ёсць пераход ад агаранства да магаметанства, надзеўшага чадру на жанчын і скасаваўшага малярства і скульптуру. Саладын завалодвае Дамаскам, Сірыяй і забірае Палестыну ў крыжакоў.

На працягу 1171-1250 панаванне Эйюбідаў, пры гэтым у 1201-1202 гадах у Ягіпце былі чума і голад, а пачынаючы ад 1240 года засноўваецца варта мамелюкаў (г.азн. рабоў).

У 1250 г. султаніха Шагарэдар, удава Салеха-Эйюба, кіруе Ягіптам з дапамогай рады мамелюкаў, што вельмі супярэчыць нашым уяўленням пра магаметанскіх жанчын у чадры і ў гарэме. Пачынаецца панаванне мамелюкаў.

Пачынаючы ад 1515 года Ягіптам завалодваюць туркі, і ён кіруецца пашамі, прызначаемымі із Канстантынопаля.

У 1798 годзе Напалеон высаджваецца ў Александрыі, перамагае мамелюкаў, але ў 1801 годзе сыходзіць із Ягіпта, і Ягіпет зноў пераходзіць да Турцыі.

У 1811 годзе 1 сакавіка Магамет Алі-паша, прызначаны ягіпецкім намесьнікам, знішчае мамелюкаў і ўсталёўвае еўрапейскія парадкі: школы, друкарні, газету.

У 1882 годзе нацыяналіст і дэмагог Арабі-паша паднімае паўстанне супраць еўрапейскага ўплыву ў Ягіпце, якое перарадзілася ў выбух мусульманскага фанатызму пад правадырствам прарока Махдзі, захапіўшага Паўднёвы Ягіпет. Але ў 1889 г. англа-ягіпецкія войска пад правадырствам Кітчэнера ачысьціла Судан ад махдзістаў, і з таго часу ён увайшоў у склад Брытанскай імперыі.

Такой выяўляецца агульная схема ягіпецкай гісторыі ад пачатку нашай эры да сучаснасьці, і мы сапраўды бачым, што ў Ягіпце існавала дастаткова рэчаісных дынастый, каб абудзіць у аўтараў Эпохі Адраджэння жаданне прадоўжыць такім жа чынам яго гісторыю і ў аддаленую глыбіню часоў.

Але ад жадання да выканання жаданага яшчэ вельмі далёка, і вось мы бачым, што першая рэчаісная дынастычная, а з ёю і дзяржаўная гісторыя народаў Міжземнаморскага этнічнага басейна пачалася толькі ад «эры Дыяклетыяна», г.азн. ад 284 года нашага сучаснага, чыста ўмоўнага летазлічэння ад фантастычнага Нараджэнння Хрыста, вылічанага ўпершыню адным украінцам, прыняўшым пры пастрыжэнні ў манахі ў Рыме імя Дыянісія Малога. Але манах вылічыў яго цалкам няправільна грунтуючыся на мяркуемым ім спалучэнні ў гэтым годзе ўсіх планет у сузор'і Рыб – знаку Хрыста.

А калі ж жыў сам гэты мудры ўкраінец? Нам кажуць: ён памёр у 556 годзе... Але адпаведна з якой жа эрай? Згодна з прыдуманай ім самім, якую ён вызначыў містычнымі спосабамі за 556 гадоў да сваёй сьмерці? Ці адпаведна з існаваўшай тады ўжо даўно эрай Дыяклетыяна (яна ж эра рэчаіснага, а не тэалагічнага Майсея)? Калі лічыць грунтуючыся на ёй, то ён памёр толькі ў 852 годзе нашага летазлічэння, калі сапраўды ўжо існавала евангельскае хрысьціянства і знакам Хрыста стала сузор'е Рыб. Гэта азначае, што гэтая эра сама па сабе непасрэдна прыдатная толькі для падзей не раней IX стагоддзя, а падзеі больш ранніх стагоддзяў былі перакладзены на яе грунтуючыся на існаваўшай да таго часу эры Дыяклетыяна. Ды і эра юдэяў «ад стварэння сьвету», і эра класікаў ад пабудовы нейкага «горада» (ab Urbe condita), ні на што не прыдатныя, бо першая – ад стварэння сьвету – відавочна прыдумана, а адносна апошняй мы не маем магчымасьці сказаць нават, які гэта быў горад: Цар-горад ці Александрыя, таму што італійскі Рым, як мы бачылі ў пятым томе нашага дасьледавання, узнік і пашырыўся із нікчэмнага ўмацавання толькі пад час хрысьціянскага перыяду, як горад св. Пятра (г.азн. сьвятога метэарытнага каменя), якую назву ён мае і да гэтага часу.

Ні на што непрыдатнай, як пабачым далей, выяўляецца і «эра Селеўкідаў» на Ўсходзе ад уцаравання міфічнага кіраўніка вершнікаў пры міфічным Аляксандру Македонскім і ўсе іншыя падобныя фантастычныя старажытныя эры... І вось мы зноў, як у казцы пра Белага бычка, вяртаемся да той жа эры Дыяклетыяна, як да першапачатковага пункту розных іншых эр.

І мы бачым, што да таго часу не магло існаваць ніякага апірышча для сур'ёзнай храналогіі, а таму няма магчымасьці і пабудовы гісторыі народаў у звычайным сэнсе гэтага слова, як апавядання пра паслядоўнасць падзей, у якіх галоўную ролю маюць стасункі выбітных асоб з астатняй, не маючай імя масай і паміж імі самімі. Мы ж ужо бачылі тут, у нашых параўнальных табліцах псеўда-ягіпецкай гісторыі, як да непазнавальнасьці разыходзяцца Эратасфен, Ёсіф Руды, Яўсевій Усялюб, Турынскі папірус і ўсе іншыя нашы першакрыніцы ў вызначэнні часу валадарання тых жа самых паслядоўных валадароў і як пераблытана сама іхная пасьлядоўнасць. А пры параўнанні двух самых асноўных із нашых дакументаў – Сакарскай і Абідоскай насьценных табліц – мы адзначылі, не без здзіўлення, што ў сёмай дынастыі першай табліцы тыя ж самыя цары пастаўлены нават задам наперад, як быццам адпаведна з евангельскім выслоўем «і будуць апошнія першымі, і першыя апошнімі». Што можна выкраіць сур'ёзнага із такога фантастычнага матэрыялу, калі нават і не прызнаваць разам са мной, што ўсе ягіпецкія дынастыі – толькі незлічоныя варыяцыі адной і той жа дынастыі Дыяклетыяна?

Я, вядома, не сцвярджаю безумоўна, што культура да-Дыяклетыянавага перыяду была незвычайна нізкай у параўнанні з культурай яго часу, і што тут быў нейкі гіганцкі згодна са сваім часам скок, хаця развіццё скокамі і з'яўляецца цалкам натуральным нават і ў біялогіі згодна з тэорыяй мутацый, як істотнае дапаўненне да дарвінізму і мендэлізму. Магчыма, што ў вобласьці чыста матэрыяльнай культуры пры Дыяклетыяне і не адбылося вельмі рэзкай перамены. У глухіх правінцыях без сумневаў яшчэ існавалі і ў V стагоддзі каменныя сякеры, у той час, як у сталіцах і буйных гарадах былі ўжо ў III стагоддзі металічныя прылады вытворчасьці разам з металічнай жа зброяй, і ўздоўж берагоў Міжземнага мора ўжо хадзілі вяслярныя і ветразевыя караблі. Патрабаванні гандлёвага абмену надавалі, вядома, і раней Дыяклетыяна папатрэбу запісаў спачатку элементарных, якія і я бачыў у дзяцінстве на бярвёнах сялянскіх свірнаў у Яраслаўскай губерні, дзе колькасць збожжа рэфлектыўна пазначалася з дапамогай «рымскага спосабу»: кожная адзінка палачкай (III) і кожны дзясятак крыжыкам (XX), адкуль быў недалёкім пераход і да паловукрыжыка (Y), як рымскай выяве пяцёркі. А прырода зернятка пазначалася малюнкам яго расьліны.

Цалкам натуральна, што із такіх рэчавых надпісаў дагістарычная дапытлівасць выпрацавала і сілабічны альфабэт, без якога немагчымы ніякі дакладны гістарычны дакумент. Але гэты альфабэт спачатку быў накіраваны на чыста ўтылітарныя патрэбы, што мы і бачым у сапраўды старажытных дакументах, змяшчаючых рэцэпты для вытворчасьці таго ці іншага карыснага рэчыва, ці гандлёвыя лісты, асабліва ў клінапісах, а потым у запісах пра далёкія краіны, у якіх фантазія заўсёды пераважае над рэчаіснасьцю, – і гэта было зародкам белетрыстыкі. Для запісу мясцовых, усім і без таго вядомых падзей, хаця б і важных, нават катастрафічных для ўсёй краіны, пісьмовасць яшчэ не выкарыстоўвалася. Пра гэтыя ж падзеі і без таго ўсе ведалі і памяталі іх, а паклапаціцца пра тое, каб яны не згубіліся ў сьвядомасьці аддаленых нашчадкаў,

нікому із тагачасных пісьменнікаў не прыходзіла нават і ў галаву, хаця б эпічная, фантастычная і нават прароцкая літаратура і была ўжо вельмі распрацавана ў атачаючым іх асяроддзі. Летапіс, як адмысловы сродак для азнаямлення яшчэ не існуючых у прыродзе новых пакаленняў з мінулымі ці адбываючыміся справамі, мог з'явіцца ўжо пасьля ўсяго астатняга ў літаратуры, як яе адмысловы раздзел. А да яго маглі пісацца на сьценах храмаў і грамадзкіх будынкаў толькі лісьлівыя панегірыкі таму ці іншаму жывому валадару з асабістай утылітарнай мэтай аўтара і без гістарычнай праўдзівасьці, ці ўсхваленні з той жа ўтылітарнай мэтай ужо памёршых валадароў, як вялікіх заступнікаў перад грозным богам-Грамабоем і яго сям'ёй.

І так павінна было працягвацца аж да таго часу, калі нейкі выбітны славалюбны валадар завёў пры сваім двары штат пісараў для запісвання ў перабольшаным выглядзе сваіх уласных здзяйсненняў (замоўчваючы пра няшчасьці) у якасьці павучэння для нашчадкаў, а таксама для запісвання і таго, што яшчэ памяталася із вычынаў яго вялікага бацькі (далей якога ўжо нехапала памяці, як і ў майго чытача), калі ўсе яго продкі не былі апісаны ў свой час.

І вось, на заканчэнні гэтага апавядання, мы прама павінны сказаць: **за межамі трэццяга стагоддзя нашай эры можна знайсьці толькі матэрыялы для міфалогіі і археалогіі, г.азн. абезасобленай і прыблізна храналагіраванай гісторыі**. Яны даюць нам магчымасць рабіць высновы пра стан культуры самых блізкіх папярэднічаўшых стагоддзяў, але, пакуль мы не знойдзем сродкаў вызначэння часу вырабу таго ці іншага прадмета грунтуючыся на змене структуры ці хімічнага складу яго матэрыялу, як функцыі часу яго існавання ў дадзеным выглядзе, датуль у нас не будзе ніякай магчымасьці даведацца не толькі пра год, але нават і пра стагоддзе, да якога дадзены прадмет дапасуецца. **Гэта – дагістарычная вобласць**, і рабіць спробы напісаць яе дынастычную гісторыю, як задумалі яе як Лепсівус так і Бругш для Ягіпта, азначае толькі дарэмна марнаваць свой час.

Lasciate
Ogni speranze voi ch'entrate!

Пакіньце якую б то ні было надзею жадаючыя працягнуць палітычную гісторыю дзяржаваў у глыбіню стагоддзяў за межы эры Дыяклетыяна!

Так сумна даводзіцца нам закончыць шосты том нашага доўгага гісторыялагічнага дасьледавання!

